Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

......................................................................................



Ілюстрацыі на вокладцы:
на 1-й стар. і на 4-й стар.: маляваныя дываны Алены Кіш.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 22.04.2016 г. Падпісана да друку 30.05.2016 г.
Фармат 70х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб’ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Цімiразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.

№3 (82)
/травень-чэрвень/ 2016

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Уладзімір Някляеў



...Можа быць, мары няспраўджанай нацыі.
Можа быць, шнары пасля трансплантацыі...

# Крапівеньскае поле

***З кнігі «Толькі вершы»***

## *КАЛЫХАНКА*

*Памяці Генадзя Бураўкіна*

Па маёй ці тваёй,
не па нечай – па нашай віне
Беларусь, як чужая, у крэўнай сваёй старане.
І калі памірае праз роспач і скруху паэт,
Ён не той пакідае, у якім нарадзіўся, сусвет.

Той сусвет быў Айчынай. Калыскай ягонаю быў.
Ён паэта люляў, малаком белай мовы паіў,
Баіў байкі яму –
Там у кожным паэтавым сне
Бай хадзіў па сцяне
У чырвонам сваім каптане...

Баю-бай, баю-бай. Спяць, раскінуўшы рукі, сыны.
Сняцца некаму рускія, некаму польскія сны.

А каму беларускія – той прачынаецца ў снах
І крычыць! І не чуе! Не бачыць! Бо прывід! Бо жах!

Спіце, воі. Мужчыны. Далёка яшчэ да відна.
Вы праспалі Айчыну! І ў снах беларускіх яна
Не Пагоняй ляціць, а ваўчыцай на бруху паўзе
І сама сабе лапу, каб вырвацца з пасткі, грызе.

Баю-бай, баю-бай. Спіце, дзеткі, бяспамятным сном.
Маладыя ваўкі! Піце матчыну кроў з малаком!..
Даганяйце па следзе, што ў кожным паэтавым сне
Чырванее на лёсе,
на лёне,
на белым, як смерць, палатне...

*7.06.2014*

## ПАДМАНЫ ПРАЗРЫСТАЙ ВАДЫ

*Рыгору Барадуліну*

Ты ўспомні: прыйшлі мы сюды,
Глядзелі ў глыбіні і высі
Дасяжныя. Так пачаліся
Падманы празрыстай вады.

На ёй мы шукалі сляды
Анёлаў, абутых і босых.
Так доўжыліся ў нашых лёсах
Падманы празрыстай вады.

Сляды прывялі ў нікуды.
Самкнуліся, ціха сышліся,
Як вейкі, глыбіні і высі,
Падманы празрыстай вады.

*4.03.2014, Вушачы*

## ГРЫША

*Пакуль жывеш, развітвайся з жыццём.*
Рыгор Барадулін

### 1

Недзе Барадулін Грыша
Вершы піша, піша, піша,
Я нічога не пішу,
Я сяджу ў турэмнай цішы
І, сумуючы без Грышы,
Шлю яму сваю душу...

*30.12.2010*

*2*

Дзень народзінаў у Грышы.
Грыша мышы сыру крыша,
Бо яна ў яго ў гасцях.
Кот разлёгся на афішы,
Дзе ў абдымку я і Грыша,
Які крыша сыру
мышы
У каціных кіпцюрах.

*24.02.2014*

*3*

Грыша мой набраўся спрыту
І ў замглёны бок нябыту
Адляцеў, нібыта птах,
І ніколі болей Грыша
Мне нічога не напіша
Ні на кнігах, ні ў лістах...

*12.03.2014*

## *НА МОСЦЕ*

Рака – нібы ва ўскрытай вене
Зямная кроў.

І бляск плывучага імгнення
Між берагоў,
І чалавечыя маленні,
І рык звяроў,
Усё – як з берага камені
У скрут віроў,
Дзе круцяцца ў шалёнай пене
Млыны гадоў!..

Старэйшых за мяне ўсё меней
Маіх сяброў.

*21.07.2015*

## *СТРАТА*

Над адным маім плячом
Зорка,
Над другім маім плячом
Месяц,
І вяроўкай Млечны шлях

Над пагоркам,
На які мяне ўзвялі,
Каб павесіць.

На пагорку я стаю
На колодзе,
А наўкол мяне народ,
Што мне любы...
“Мой ты любы беларускі народзе,
Ты ўратуй мяне ад страты, ад згубы!

Я ж узнёс на неба месяцам
Праўду,
Запаліў на небе зоркай
Свабоду!..”
А народ свабодзе з праўдай
Не рады,
Не да месяца і зоркі
Народу.

Ён гадае:
Калі спраўдзіцца страта,
І калі мяне засыплюць зямлёю,
Хто і што тады займее ад ката:
Хто калоду? Хто вяроўку з пятлёю?..

*Каляды 2010 (унутраная турма КДБ),*
*Вялікдзень 2015 (Крэва)*

* * *

Ноч тут – краты жалезныя,
дзень – бетонная клець...

Калі ў вас ёсць магчымасць глядзець
На Гайд-парк
ці на Гранд-опера́,
Ці з фасаду глядзець, ці з двара,
Ці на долы глядзець, ці на горы,
Знізу ўверх –
дык на неба,
зверху ўніз –
дык на мора
І на выспу ў тым моры глядзець заадно,
Дык у вас ёсць усё...

А ў мяне ёсць акно.

Хоць яно і пустое,
Не вакно нават – проста дзіра,
Але ў ім
Нешта тое,
Што не ўбачыць
У Гранд-оперá.

*3.03.2011*

## *СЦЭНАР*

*Сяргею Шапрану*

Яго вялі, каб вешаць.
Сцэну гэту
Як напісаць?..
Была зіма?.. Ці лета?..

Па той бок вуліцы
з-за парапета
глядзела маці. Як яе назваць?
Дапусцім, Антаніна.
Ён – Максім.
Чаму Максім? А не Базыль, не Янка?

І клалася пад ногі брукаванка,
І дзве сарокі, сочачы за ім,
Скакалі ад таполі да таполі.

Вас вешалі?
Мяне яшчэ ніколі.
І ў тым праблема. І яшчэ ў сароках.
Чаму іх дзве? А не адна.

Шырока
Бруілася вясновая вада.

Была вясна? Няхай. Каля суда
Стаялі ў шэраг шэрыя жаўнеры.
Далей – паненкі ў парку. Кавалеры.

А маці дзе?.. “Не, лепш, каб не было”, –
Падумаў ён.
І лепш не Антаніна.
А хто тады?..

Адкрытая машына
З бартамі звешанымі –
І пятля над ёй.
Сінеча ў небе. Хмара над пятлёй.

Хто за стырном? Ягоны брат? Ці сын?
Не, сын – занадта. Брат.
А з-за гардзін,
З акна палаца, што каля суда,
Глядзіць яна. Марыся? Хай Марыся.

Сарокі зноў. Жаўнеры. Парк. Вада.
Зноў тая ж хмара, зноў сінеча ў высі –
І позіркі з натоўпу. “Гэта ён...
Не ты... Не я... І дзякуй Богу...”
Звон.
Пачуе ён яго? Ці не пачуе?

А за Марысяй – той, хто з ёй начуе.
Блішчыць пагон. І профіль. І рука,
Што абняла за талію.
Рака
Дугой за паркам. З крыгамі яшчэ...

Жыццё бруіць. Блішчыць. Звініць. Цячэ.

І ўрэшце – за выняткам усяго:
“Яго вялі, каб вешаць”.
Аднаго.

*21.12.2014*

## *БОГ*

Званы.
Нарадзіўся!..
Зіма –
І Бог на Каляды, мой госць,
Што кажа мне: смерці няма.

А што тады ёсць?..

*7.01.2016*

* * *

Аднойчы ў неба глянуў ты...
І што ты ўбачыў? Пустаты
Жыцця
Жахлівае бяздонне?
Ці несмяроцця зыркі след,
У зорным дыме
Вечны свет,
Што с Боскага з’явіўся ўлоння?..

Калі другое, ты паэт,
Магчыма.
А ў выпадку першым,
Магчыма, проста пішаш вершы,

Або спрабуеш нешта ў прозе
("Нацыянальная стратэгія ўстойлівага
сацыяльна-эканамічнага развіцця
Рэспублікі Беларусь")
Сказаць сучаснікам:
Жывым
І тым, хто ўжо спачаў у Бозе,
Пра гэты свет, пра гэты дым...

*10.01.2015*

* * *

...І памінальная куцця,
І страты боль, дасюль нязнаны –
Адзіны сэнс, што захаваны
У бессэнсоўнасці жыцця...

*12.05.2016*

* * *

Ён жывапіс любіў.
Развешваў на сцяне
Карціны. Так, каб роўна. А не крыва.
Яшчэ любіў, калі габрэйка Рыва
Прыходзіла... Яна крычала ў сне –
Ён прачынаўся. Бачыў на сцяне
Карціны.
Рыва плакала: "Ты мне
Не кажаш, што кахаеш".
Ён казаў,
Хоць не кахаў.
Любіў, калі яна
Прыходзіла на ноч, але не болей...

Рыдала Рыва: "Я з табой адна!" –
Ён суцяшаў...

За ім была сцяна
З карцінамі на ёй да самай столі.

*8.04.2015*

* * *

Не цяпер. Не цяпер. Не цяпер.
А калі? Невядома нікому.
І як звер, і як звер, і як звер,
Зарываешся ў часу салому,
У ашмецце газет і шпалер.

А чаму не цяпер? Бо не час.
Бо сляпыя. Глухія. Нямыя.
На шпалерах – узоры не тыя,
У газетах – даносы на нас.

І ў сляпой, у глухой, у нямой
Старане. У адчаі і стоме
Ты трываеш. Бо шлях за спіной.
Лёс. І молішся ў збітай саломе:
«Божа мой, Божа мой, Божа мой!..»

*16.09.2015, Радашковічы*

* * *

Каму сказаць пра тое, што вайна?
Не хочуць чуць. Кайфуюць. «Не палохай!»
Эпоха курваў. Голая яна –
І ўсе савакупляюцца з эпохай.

Яна любому вырадку дае,
Калі свайго ў ім пазнае па твары.
І хто на свет з'яўляецца. Пачвары!..

І раптам з жахам бачыш, што твае.

*16.09.2015, Маладэчна*

## СНЫ

І сны аб небыцці, і сны аб вечнай славе –
Пяньковая пятля на шыя тых, хто спіць.
Паэт не можа спаць. Калі ён спіць – ён сніць.
І жахі гэтых сноў збываюцца на яве.

*17.09.2015, Краёва, Румынія*

## ЛІСТ У ЛІСТАПАД

*Наталлі*

Нашто табе паэзія, скажы,
У свеце, дзе званы – з маны літыя,

Дзе крамы – поўныя, а храмы – скрозь пустыя,
Дзе грэшнікі жывуць, нібы святыя,
А праведнік
канае на крыжы?

Нашто табе спляценні ўзнёслых слоў,
Саснёныя паэтавы хімеры,
Калі служанкай у вертэпе
Вера,
Наложніцай – сястра яе
Любоў?

Нашто табе метафар гарадзея,
Калі, як дым, цярэбіцца, радзее
Душа – і чалавек
глухі,
нямы,
Калі ўжо безнадзейная надзея
На ўсё, на што надзею мелі мы?..

Калі ў нас сэрцы сталі, як са сталі,
Калі мы ўсе, як нежывыя, сталі
Без веры, без надзеі, без любві,
Калі адна нянавісць у крыві,
Нашто табе паэзія, Наталля?..

Не плач, не плач... не рві душу, не рві...

*6.11.2013*

* * *

Без дай прычыны плакаў усю ноч.
І выплакаўшыся, шукаў адхлання.
Глядзеў, як вокны напаўняе ранне.
І не прыдумаў лепшага, апроч
Таго, што ўжо было: гульні ў каханне.

Набраў той нумар, што не набіраў
Даўно на сцёртым дыску тэлефонным, –
І хтось азваўся голасам бяссонным,
І голас, што пачуў, ён не пазнаў,
І той, што адказаў, быў не ягоным.

“Алё...” – сказалі. Ён сказаў: “Алё...”
І як зламалі ў сэрцы вастрыё
Стралы,
што прыляцела і працяла!..

Ён не пазнаў.
Яна не пазнавала.

Стаіліся абодва, як звяры.
Маўчалі – і сваё маўчанне чулі...

Падумаў: "Позна. Прамінулі гулі".
Зірнуў у двор. Снег падаў у двары.
І трубку ён паклаў на два штыры,
Што ў нетрах тэлефона патанулі.

*11.11.2015*

* * *

Каханая! Я для цябе збяру
У дзень упошні, у пчаліным гудзе
Усе суквецці свету – цуды ў цудзе!..
Мне горка не праз тое, што памру,
Праз тое горка, што цябе не будзе.

*19.02.2012*

* * *

"Скажы, што ў душы. Не маўчы..."
І прорва прамовіла томна:
"Сляпому не цёмна ўначы,
Відушчаму – цёмна.

Не лезь у суцемкі душы,
Задушлівых шэптаў не слухай.
Глухому не глуха ў цішы,
А чуйнаму – глуха.

Сусвет з цемнаты, з глухаты
Сатканы. Яго не зыначыш.
Ты кажаш, а чуеш – не ты,
Бо чуеш не тое, што бачыш.

Бог мог нематой пакараць,
Але гаваркому
Пра гэта няма што сказаць,
І ёсць што – нямому".

*4.10.2014*

## *СМАРГОНЬ*

*Івану Някляеву*

Сярод ночы ў плацкартным вагоне
Я прачнуўся, да вокнаў прынік.
“Колькі станцый яшчэ да Смаргоні?”
“Маладзечна”, – сказаў праваднік.

Значыць, дзве засталіся... Залессе
І паўстанак без назвы... А там...
“Што трасешся?.. На, выпі. Сагрэйся...
Памагчы табе?..”
“Дзякуй. Я сам”.

Сам я, сам... Вось скажу: “Дарагая!
Я вярнуўся!..” І што яна?.. Як?..
На паўстанку касцёр дагарае.
“Колькі вам за гарбату?..”
“Пятак”.

“Варта большага”.
“Дай, калі варта”.
У паўмзроку плацкартны вагон.
А з агульнага, што за плацкартным,
Надрываецца акардыён:
«Граждане, купите папиросы!
Подходи, пехота и матросы!
Подходите, пожалейте,
Сироту меня согрейте,
Посмотрите, ноги мои босы...»

Вось і станцыя. Скрыгат жалезны.
Цеплавоза пранізлівы ўскрык.
“Свой у кожнага шлях непазбежны”, –
Дзверы ляснулі. Знік праваднік.
Што ён ведае?..
Вуліца тая...
“Дарагі!..” А над домам – агонь!
Поезд ломіцца ў ноч, падмінае
Маладзечна. Залессе. Смаргонь.
Колькі ў гоне шаленства, азарту,
Пад адхон – за вагонам вагон,
А з агульнага, што за плацкартным,
Надрываецца акардыён!..

*12.07.2014, Смаргонь*

* * *

Ты помніш той вечар
У Вільні?..
Быў вецер,
І пыльнай,
Няўтульнаю Вільня была
На вуліцы побач
з вакзалам,
дзе дымная поўня
плыла...
“Пажар недзе?..”
“Поўнач. Пара мне...”
«Праводзіць?..»
Мы выйшлі – перон быў пусты.
«Не едзе ніхто і нікуды».
«Забудзеш мяне?..»
«Не забуду...» – прамовіла ты
У дым той,
У пыл той,
У Вільню,
Дзе ўночы гарэлі масты.

*16.09.2015, Вільня*

## ЗАЛАТАЯ ЛАЎРА

*Марыі Сёдэрберг*

У верасні,трынаццатага дня,
У Кіеве, дзе залатая лаўра,
Засланая кляновым лісцем лава
Стаяла на Падоле – і адна
Жанчына каля лавы той стаяла...

“Яна чакае некага?.. ці не?..” –
Я загадаў... Яна ж не загадала
Ні на таго, каго яна чакала,
Ні на мяне...

*13.09.2010, Кіеў*

## ВЕЖА ГЕДЫМІНА

*Язэпу Янушкевічу*

Апоўначы згубіцца ў Вільні,
Забыцца, што й каму ты вінны,
І скрозь стагоддзяў скразнякі
Спусціцца з вежы Гедыміна,

З вяршыні ўніз, і ўздоўж ракі
Брысці, шукаючы сляды
Ягайлы, Вітаўта, Міндоўга,
І не знайсці, і доўга-доўга
Глядзець на роўны рух вады...

*1.07.2011, Вільня*

* * *

Мая маці – Вада.
“Хто мой бацька?” –
гукаў я да Бога.
А каго б ты хацеў?” –
Ён пытаў.
“Ці Цябе – ці нікога!”

Час ракою цячэ
Да вытоку і вусця адразу...
Я чакаю. Яшчэ
Не было мне адказу.

*1971 (Масква) – 19.01.2016 (Смалявічы)*

* * *

Сярод парваных хмар адна
Скрозь вецер ластаўка ляцела,
Гуляла з ветрам, як хацела,
Яна.

І раптам падалося мне,
Што ўсё, што на душы цямнела,
Што ў лёсе навальнічна спела, –
Міне.

Але пакуль яно міне,
Пакуль парванае зрасцецца -
Аб вецер ластаўка заб’ецца...

Ці не?

*18.09.2015, Краёва, Румынія*

## ВЕЧНЫ РЫМ

Выйсці з дому. Проста ў краму,
Ці на вуліцу, дзе дождж.

Не пабачыць панараму
Рыма Вечнага...
Ды што ж,
Калі там, па тым правулку,
Тут, па мосціку старым,
Хутка, хутка,
Гулка, гулка
Лёс прабег праз Вечны Рым.

*14.12.2014*

## *НЕПАЗБЕЖНАЕ*

Рэчка ў пясок. Лісце ў траву.
Рыба ўсплыве. Нерат парве.
Некага я перажыву.
Нехта мяне перажыве.

*25.12.2013*

* * *

Цесная камера,
змрок –
і за кратамі крыкі...

Можна ўявіць,
які светлы ўвесь свет і вялікі...

*8.04.2010*

## *КРАПІВЕНЬСКАЕ ПОЛЕ*

*Барысу Пятровічу*

На Крапівеньскім полі вятры.
Палыны. На далоні патры –
Загарчыць. Торгне сутаргай, болем.
Тут вякі праплылі, як віры па Дняпры,
За палкамі палкі
тут прайшлі ваяры,
Змагары, што накрытыя полем.
На Крапівеньскім полі трава. Крапіва.
Тут крыві напілася Масква,
Татарва з крыжакамі ў хаўрусе...
Тут над імі
усімі

паўстала Літва –
І абрынулася ў Беларусі!

Дзе ж мы дзелі
літоўскую долю?
Веліч продкаў? Іх вольную волю,
Што яны аплацілі крывёй?

Як гарчыць палыном на Крапівеньскім полі –
І пячэ крапівой!..

*5.08.2014*

* * *

З неверагодных Гасподніх шчадрот
Скроены наш беларускі народ.

Мова – нямога.
Вочы – сляпога.
Вушы – глухога.
Сэрца – чужога.

Зрэшты, і большыя
Ведалі беды мы.
Што ў нас пабольвае –
Бог яго ведае.

Можа быць, мары няспраўджанай нацыі.
Можа быць, шнары пасля трансплантацыі.

*17.11.2014, Смрдакі, Славаччына*

### *ВЫСПА*

Якая пустэльня! Вада ды аблокі!
І там, дзе аблокі, анёл сінявокі.

Нічога чужога. Прастора і час.
У Божай задуме – зямля пасля нас.

*10.08.2015*

---

"Дзеяслоўцы" сардэчна віншуюць шаноўнага
**Уладзіміра Пракопавіча НЯКЛЯЕВА** з юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя, святла і радасцяў,
а таксама – заставацца і надалей маладым у сваіх памкненнях,
дзеях і словах – на карысць роднай Беларусі!

Ігар Бабкоў



...не прастора, а час
ёсць нашым сапраўдным домам...

# Францішак: словы за вакном

***Аповесць***

## 1.

Як дзіўна, што ў тэатры свету так многа актораў, – падумаў Францішак прачнуўшыся.

Напэўна, было б дастаткова аднаго-адзінага, з вар'яцкім маналогам пра нелагічнасць і незразумеласць усяго, што ёсць. Чалавека, які б паміраў і зноў нараджаўся на сцэне, выходзіў у чарговай дзеі, не памятаючы пра мінулае. У новай вопратцы, з новым тварам і нават у новай эпосе.

Публіка складалася б выключна з Багоў і Герояў.

Багі, адказныя за ўсё, старыя і неўміручыя, стомленыя, прысуджаныя *Кімсьці* глядзець штодня гэты бясконцы і бессэнсоўны спектакль, уваходзяць у залу і займаюць цэнтральныя мейсцы.

Горды Тод, злобны і помслівы Яхвэ, аброслы тванню, з балотным пахам Велес. Кецалькоатль, з налітымі крывёю вачыма. Хітры і абачлівы Гермес. Рэшта.

Героям дастаецца галёрка: Гільгамеш, Хрыстос, Крыве-Крывейтэ, прынц Гаўтама.

Актор выходзіць на сцэну, аглядаецца. Напачатку ў радасным здзіўленні, потым у разгубленасці.

Спрабуе ўцякчы назад, але дзверы зачыненыя.

Толькі сцэна, асветленая, пустая. Бязлітасна пустая.

Трэба граць у спектаклі, сэнс якога ад цябе схаваны. Назва, праўда, аддрукавана на праграмцы вялікімі літарамі, і дублёраў, як гразі.

Багі сядзяць важна і маўкліва.

Іншая рэч – героі.

Яны махаюць рукамі, падказваюць, амаль крычаць. Кожны штосьці ведае. Пра жыццё. Пра абсалют. Пра свядомасць. Пра ўваходы і выхады. Пра любоў, да блізкага і далёкага. Пра эйдасы.

І кожны хоча пакінуць гэта як падарунак, *для ўсіх*.

Шкада, што актор заўсёды глухаваты, запісаў Францішак звычайным сінім колерам.

Хаця ягоная глухата яго і ратуе.

Цяжка сабе ўявіць, што было б, калі б мы сапраўды *ўсё гэта пачулі*.

***

З такімі думкамі пачынаць дзень у Вільні было небяспечна. Можна канчаткова адарвацца ад рэчаіснасці.

З іншага боку, Францішак і любіў Вільню за магчымасць адарвацца. За адлегласці.

Тут сніліся *іншыя сны*. Яны існавалі самі па сабе, так, нібыта іх сніў хтосьці іншы. Альбо яны самі сябе снілі, а ён толькі прысутнічаў побач, як сведка. З другога жыцця.

І яшчэ адно.

Ён адчуваў у снах штосьці важнае, зусім блізка.

Як быццам там была таямніца. Якую ён мусіў прыняць. У якую мусіў паверыць.

І ўсё, што адбываецца, толькі перадгісторыя. Выпрабаванне. Як у чарадзейнай казцы, калі галоўны герой адпраўляецца ў падарожжа, дзе павінна знайсціся тое, што надасць сэнс яго гісторыі.

Там, у снах, ён быў блізка, здавалася, яшчэ крыху, і пазл складзецца. Яшчэ адзін крок, яшчэ адзін паварот лёсу.

З жалем – звычайна з жалем – напрыканцы ён пакідаў гэтыя намаганні і прачынаўся.

Пасля абуджэння заставалася пачуццё незавершанасці і жаданне паспрабаваць яшчэ раз. Пакуль душ канчаткова не вяртаў яго ў *гэтую* рэальнасць.

***

Далей мусіў быць звыклы рытуал, адшліфаваны гадамі. Кава, ранішняя медытацыя. Чытанне, праца з тэкстамі, дзённік.

Трэба было дапісаць эсэ ў зборнік *Пра меланхолію канца свету:* ён паабяцаў Ляшу ў іх апошнюю сустрэчу. Да дэдлайну заставалася некалькі тыдняў, а ў яго была толькі жменька фрагментаў, кожны з якіх ішоў у свaім кірунку.

Канечне, можна было ўзяць штосьці са старога: усе тэксты нядаўняга

часу так альбо інакш пасавалі, былі *меланхалічнымі*. Але ён прадчуваў новыя павароты і новую эмоцыю. Якая магла сабраць усё ў адно.

Да таго ж з’явілася назва: *Словы на вакне* – і ўжо не адпускала. Ейтс напісаў п’есу з такой назвай: пра смерць Свіфта, вяртанне духаў і каханне Стэлы. Там былі словы верша, выдрапаныя на ваконнай шыбе. Верш пра барвовы плашч, у які можна захінуцца, каб схавацца ад скраю.

Адсюль можна пачынаць і ісці далей сваім рытмам. Сваёй музыкай. Ён крыху хваляваўся, каб не сурочыць, не нашаманіць чагосьці *нятога*. Усім вядома: як запісана, так і адбудзецца, трэба вельмі асцярожна выбіраць словы і метафары.

Зрэшты, гэта словы і метафары яго выбіралі. І тут ужо нічога не зробіш. Можна было толькі ўслухоўвацца і даваць дарогу. Ён перагледзеў апошнія абзацы, што занатаваліся ўчора ў сутонні, непадалёк ад базыліянаў.

Пра пустату нябёсаў, бытнае вакол нас. Пра сэрца, якое вядзе наперад, праз лабірынты і аблокі.

Словы былі занадта высокія. І безадказныя. Яны мелі сэнс толькі там, у сутонні, сярод маўклівых старых камянёў.

А ягоны канец свету мусіў быць просты і пяшчотны, як перагорнутая бачына кнігі. Як быццам недзе тут, зусім блізка, ёсць дзверы. І за гэтымі дзвярыма пачынаецца зусім іншае. Не пракокі і не настаўнікі, а сам свет сведчыць і падыходзіць да свайго скраю. Туды, дзе ўжо не свет, але ўсё яшчэ святло. Гаючае святло – і музыка.

***

Скрухі было зашмат апошнім часам. Перасыхалі крыніцы. Наваколле станавілася ўсё больш плыткім, больш бессэнсоўным. Час павялічваў тэмп, пераўтвараўся ў віхуру. Засмоктваў, бязлітасна і незваротна.

А яшчэ благія весткі з Усходу: яны там пажыралі апошнія крыхі кармы. Яны відавочна рыхтаваліся да вайны, *подлай вайны*. Няясна было толькі, адкуль усё пачнецца. І чым скончыцца.

Трэба было спяшацца. Быць пільным. І ўважлівым.

Углядацца, унутр і навонкі. Паляваць на сэнсы. Верыць, што скрай – не толькі страх і трывога, але і спадзеў.

Зрэшты, усё складалася як трэба. Ужо прадчувалася разуменне. Намацвала свае сцежкі вера. І Вільня была ўласцівым мейсцам, каб усё ўбачыць.

Заставалася зусім няшмат. Дачакацца, калі раптоўна, на празрыстым шкле (свядомасці?! свету?!) пачнуць праяўляцца словы.

Ён ужо не быў такім наіўным, каб лічыць, што гэта ён іх прыдумаў.

***

Ён ніколі не пісаў па плане: не было анічога больш чужога і далёкага, чым распрацоўка тэмы, пошук ідэяў і метафараў, рытарычных фігураў і лагічных паваротаў.

Усё пачыналася з незразумелай трывогі, непакою. Які паўставаў у глыбіні ягонай істоты. І пачынаў шукаць дарогу навонкі.

Потым прыходзілі словы. Самі, як быццам зніадкуль. Часам з няўцямным рытмам. Трэба было ўважліва слухаць, каб зразумець, што і куды непакоіцца. Адпусціць свой розум, сцішыцца, даць мейсца.

І далей проста сачыць за тым, як яны складаюцца і што гавораць.

Спыняцца, заціхаць разам з імі, на тыдні і месяцы. Пакуль не пачнуць складацца ўзоры.

Тады, на самым пачатку, ён пастанавіў для сябе не спяшацца. Некаторыя ўрыўкі чакалі свайго часу гадамі. Нават дзясяцігоддзямі.

Фрагменты думак, пачаткі эсэ, радочкі вершаў. І, дзіўная рэч, іх незавершанасць не лякала і не раздражняла. Яна была важнай.

Не толькі таму, што вяла наперад, патрабавала будучыні. Яна трымала адкрытай і мінуўшчыну. Як засечкі на дрэвах, па якіх можна было прыгадаць маршрут, вярнуцца ў пражытую эпоху.

Не прастора, а час ёсць нашым сапраўдным домам, – запісаў ён калісьці даўно, за стойкай аднаго менскага бістро. Час, у якім мы былі і адбыліся. Мілы прытулак, пяшчотны і эфемерны.

Тады, праўда, усё было наперадзе.

***

Словы на ваконнай шыбе: яны паўставалі напрыканцы п'есы пра напаўзвар'яцелага Свіфта. Самотнага і разбітага, без суразмоўцы ў сваёй эпосе. З дзвюма закаханымі ў яго кабетамі. Ванэсай і Стэлай.

Гэта Ванэсе ён чытае Плутарха, каб выбудаваць Рым у яе галаве. І блукаць па ягоных вулках. Штодня, восем год. Ванэса ўцякла першая. Разам з Рымам.

Стэла паабяцала быць да канца. І пакрыць яго прыгожым пурпуровым плашчом героя. Яна стрымала слова. Была да канца. Да сваёй смерці, – яна сышла першая, і плашч героя застаўся вісець у шафе.

Ейтс расказвае гэтую гісторыю голасам самога Свіфта.

Шэсць удзельнікаў на спірытычным сеансе, у старой ірландскай сядзібе. Медыюм. Неспакойны дух, які ўсіх перапыняе, каб дагаварыць, сказаць самае важнае.

І верш, выдрапаны на сэрцы.

***

Што за духі бяруць слова за нас, нашымі галасамі? – запісаў ён у нататніку. Хто гаварыў голасам Ейтса? Рыльке? Іншых шаманаў.

І хто мы насамрэч: словы, што застаюцца на ваконнай шыбе, ці празрыстае шкло, праз якое хтосьці глядзіць на зменлівы калейдаскоп свету?

Суперажывае, часам падказвае. Цешыцца, як дзіця, калі мы патрапляем. Калі мы верныя плану, як напісала сястра Эмілі.

Калі паўстае Рым у нашых галовах.

Рым. Альбо Вільня. Альбо Новы Свержань.

## 2.

Ён памятаў, з чаго ўсё пачалося.

Гэта было вельмі даўно. Ён выправіўся на вучобу. У старую сталіцу. Былой імперыі. Змрочную, занядбаную, але ўсё яшчэ прывабную. Выйшаў з цягніка проста ў дождж, у халодны і шэры горад, раптоўна зразумеў, што няма куды прыйсці, што ніхто нікога не чакае, і адразу пералякаўся, пабег званіць дадому, проста каб пачуць знаёмыя галасы.

Але далей усё наладзілася. Далі інтэрнат, зусім недалёка ад цэнтру. Бацькі на ўсялякі выпадак дамовіліся пра пакойчык, у добрых знаёмых.

Пачаліся лекцыі, з'явіліся новыя сябры. Урэшце ён запісаўся ў бібліятэку. Гэта было тое, пра што ён марыў, што прадчуваў. Залы са старымі кнігамі, у прыгожых шурпатых вокладках. Мудрасць мусіла быць недзе тут, на гэтых старонках. Мудрасць, і сэнс, і ідэі.

Здавалася, гэта цалкам магчыма. Столькі людзей пражылі свае жыцці і пакінулі сляды. Сведчанні, апісанні маршрутаў. Для тых, хто прыйдзе пасля, і здзівіцца, і будзе шукаць.

Ён паабяцаў сабе, што вернецца дадому толькі калі штосьці знойдзе. Быў адзін з лепшых: і ў школе, і на курсе. Залаты медаль, першыя сесіі на «выдатна». Дадатковыя заняткі па каліграфіі, гадзіны і гадзіны ў лінгафонным.

А яшчэ філасофія, якую ён для сябе адкрыў, і літаратура.

Усё тады давалася лёгка, без напругі. Як быццам ён ведаў гэта раней і цяпер толькі прыгадваў. Яго першая курсавая выклікала фурор, па чутках, сам прафесар Лісовіч ім зацікавіўся.

Узорны пачатак.

А потым усё змянілася. І ён вярнуўся. У маленькую хатку пад Менскам, што засталася ад бабулі. Непадалёк ад чыгункі, сярод рэдкага сасонніка. І далей адно ўрастаў у гэты сасоннік, пускаў карані, не дазваляючы сабе адыходзіць надта далёка ў часе і прасторы.

Тады яму здавалася, што ён вярнуўся да сябе.

Але цяпер, праз амаль дваццаць гадоў, ён ужо не быў такі ўпэўнены.

***

Усё тады складалася занадта хутка. І правільна. І ён спужаўся. Што свет праглыне яго. Знойдзе яму мейсца, пакарыстаецца. І далей проста пакіне, як адпрацаваны матэрыял, на сметніцы часу.

Ён адчуў раптоўную стому, і расчараванне. Яму здавалася, што ён ужо *амаль усё разумее*. І самога сябе, і тое, што навокал. І галоўнае, будучыню, якая адкрылася і яго чакала.

А тут ён нібыта прачнуўся. Убачыў усё *з таго боку*.

***

Было, канечне, і *іншае*: першае каханне, што здарылася *раптоўна,* перад сесіяй.

Яны пазнаёміліся ў бібліятэцы, у рэдкай кнізе. Яна папрасіла Ніцшэ, дарэвалюцыйнае выданне. Ёй адмовілі, сказалі, што патрэбны ліст з факультэта.

А ён толькі-толькі атрымаў ад сяброў зачытаны ксеракс *Заратустры.*

Яго папярэдзілі, і пра *антысавецкую прапаганду*, і пра незнаёмых. Але ж светлыя кудзеркі, пастава, а яшчэ акуляры, якія яна надзявала, калі хацела здавацца сур'ёзнай, яны ёй страшна пасавалі і выклікалі давер, і жаданне быць побач.

І ён рашыўся. Падышоў і проста сказаў, што з радасцю дапаможа. І каб яна не думала, што ён да яе *клеіцца*.

Клейся на здароўе, дурненькі, сказала яна. Працягнуўшы руку для знаёмства.

***

Л. была дачкой *аднаго з важных*, якую даслалі вучыцца ў старую сталіцу, далей ад спакусаў.

Дарэмна. Яна сама была спакушальніцай, і пра гэта ведала. Яна была ў яго першай. І гэта яна яго выбрала.

Л. жыла ў самым цэнтры, у сваякоў, ездзіла па горадзе на старэнькай *Пабедзе*. Пафарбаванай у жоўты колер, з ружовымі сардэчкамі.

Здымала з сяброўкай двухпакаёўку, *для заняткаў*, як яна сказала, калі яны толькі пазнаёміліся. Што за занняткі, не ўдакладнялася, але бутэлькі з-пад шампанскага, што стаялі на кухні, гаварылі самі за сябе.

Калі ён упершыню зазірнуў да яе *на гарбатку*, яму здалося, што ён патрапіў у іншы свет. Кружэлкі, якіх не было ў крамах, кнігі, пра якія ён толькі чуў. Часопісы з фотаздымкамі, вопратка, як у замежных фільмах.

Але не гэта было галоўным.

У яе пакоі быў ложак. А сяброўка насамрэч прыходзіла раз на тыдзень, па суботах.

Першы раз вяла рэй яна, атрымоўваючы асалоду ад яго радасці і здзіўлення, але ўжо з трэцяга ён узяў ініцыятыву ў свае рукі.

Ён тады амаль на месяц выпаў з рэальнасці, сядзеў на парах не слухаючы і не канспектуючы, увесь у салодкіх мроях пра яе цела.

Яна відавочна з ім гулялася, і ён раўнаваў, упершыню ў жыцці. Пра яе хадзілі розныя чуткі, знаёмыя аказваліся былымі каханкамі, але яна прасіла быць цярплівым і нікому не верыць. Да таго ж сказала, што зусім не збіраецца быць ягонай жонкай, гэтага няма ў праграме.

Сказала таксама, што ён занадта складаны для *героя нашага часу*.

***

Яшчэ яго пачалі вербаваць, і гэта было зусім прыкра. Выклікалі ў першы аддзел, пачалі з кампліментаў. Сказалі пра здольнасці, пра перспектывы. Намякнулі, што ўсё ведаюць пра ягоны раман з Л., пра ксераксы, і што, калі ён будзе сябе паводзіць правільна, перад ім адкрыецца вялікая і светлая будучыня.

Магчыма, пасля абароны дыплома яму прапануюць працягнуць навучанне на іх курсах. Ім патрэбныя такія спецыялісты. Але пакуль трэба пачынаць з больш сціплых формаў работы.

Ён быў тады ў разгубленасці і паскардзіўся Л. Сказаў, што не чакаў, што рэчаіснасць будзе ацэньваць яго так нізка. І што зусім не збіраецца быць стукачом. Якія б выгоды ў будучыні гэта ні абяцала.

Але тая толькі пасмяялася. Дурань, сказала яна, стукачы працуюць на велазаводзе, а табе прапануюць стаць часткай эліты. Якой можна ўсё. Нават парушаць правілы.

Усе так пачынаюць. Гэта проста гульня. Пагаджайся.

***

Тады ён упершыню пачуў гэты голас. Недзе зусім блізка. Поруч. Ён назваў гэта для сябе шэптам даймона.

Ён паехаў дадому, здаваць у бібліятэку Блэйка, амаль хворы.

Штосьці балела ўнутры, у цягніку яму сніліся кашмары, ён плакаў і крычаў ува сне.

Ён ведаў, што ўжо не вернецца. Гэта быў не ягоны лёс. Не ягонае жыццё.

А яшчэ Блэйк.

Чамусьці менавіта развітанне са старой кнігай было для яго найбольш

балючым. Ён знайшоў яе ў абласной бібліятэцы, яшчэ ў школе. Вучыў па ёй ангельскую мову.

Ён лічыў, што пра яе забылі, і калі прыгадаюць, можна будзе сказаць, што яна згубілася, і прапанаваць замену.

Але бібліятэка заўпарцілася, пагражала судом, і гэта яго дабіла канчаткова. Была спакуса кінуць усё і паехаць туды, дзе цябе ніхто не ведае. І распачаць там іншае жыццё.

Ісці супроць было самагубствам. І ўсё ж ён вырашыў не здавацца.

***

Псіхатэрапеўт з дыспансера даў яму даведку пра *переутомление от учёбы.* Доктар быў добрым знаёмым бацькоў і сам прыдумаў легенду. Так, каб было бяспечна і дазваляла цягнуць час.

Назад ён ужо не вярнуўся.

Дакладней, вярнуўся праз год, каб забраць дакументы.

Па факультэце хадзілі чуткі. Пра нешчаслівае каханне, пра дыспансер. Усё спісалі на Л., дзяўчына давяла хлопца да вар'яцтва, вось вам навука, дурні, будзьце абачлівыя.

Яго шкадавалі і абяцалі дапамогу.

Зрэшты, гэта не было хлуснёй. Ён сапраўды адчуваў страшэнную стому. Але не ад вучобы. І не ад разбітага кахання.

Гэта была стома ад рэальнасці.

***

На паўгода ён завіс у няпэўнасці. Жыў у сяброў, спрабаваў знайсці сабе працу. Потым паехаў да бацькоў, у жахлівай дэпрэсіі, якая ўзмацнялася з кожным тыднем.

Свяціла два гады войска, з якім яму было *не па дарозе.* Зноў звярнуліся да старога знаёмага. Гэта было значна больш сур'ёзна. Разглядалі розныя варыянты. Урэшце ён лёг *на абследаванне.* Ужо не ў дыспансер, а ў бальніцу. У *дурку*. Выйшаў праз два месяцы з даведкай. І ў яшчэ большай разгубленасці.

Маці плакала і гаварыла, што ён хавае сябе пры жыцці. Сваякі шукалі магчымасці, каб выправіць сітуацыю.

Тады, нечакана для ўсіх, ён з'ехаў яшчэ раз. У вясковую хатку пад Менскам, што засталася ад бабулі, і паціху занепадала.

Першыя месяцы пасля пераезду было адчуванне неверагоднага шчасця. Як у дзяцінстве. Калі ты схаваўся, занурыўшыся ў далёкі-далёкі куточак, і ўсе пра цябе *нібыта забылі.* І толькі ты разумееш: я ёсць, я тут, знайдзіце мяне, калі ласка!

Яму было патрэбна крыху дзіцячага шчасця, пасля ўсіх дэпрэсіяў і развітанняў. Ён тады адляжаўся, адхэкаўся. І пайшоў далей, іншай сцежкай.

Уладкаваўся на палову стаўкі ў краязнаўчы музей, у суседнім мястэчку. Даздаў некаторыя прадметы, перавёўся на трэці курс філасофіі, завочнае аддзяленне.

***

Пад канец года сітуацыя сапраўды выправілася. Толькі не так, як усе чакалі.

Ён зразумеў, што адбылося, значна пазней.

Тады ж ён стаміўся ўсім усё тлумачыць і ад усіх адбівацца. Зрэшты, стаміўся ад сябе самога. І вырашыў *павесяліцца*.

Запрасіў сяброў *на ўлазіны*. Склаў спіс, пераразваніў, адправіў паштоўкі. Набыў скрыню *агдама*. Усё памыў, пачысціў. Зрабіў лаўкі, паставіў вялікі стол, проста сярод сасонніка.

Падрыхтаваўся, адным словам.

І з першым жа келіхам абвясціў, што гэта зусім *не ўлазіны*. А яго *ўласнае пахаванне*, якое мусіць прайсці максімальна весела. І што палохацца зусім не варта, бо ў гэтай краіне менавіта *мёртвыя жывей за ўсіх жывых*.

Усе напружыліся. Большасць ужо ведала пра бальніцу. А тост пра *мёртвых* цягнуў яшчэ і на антысавецкую агітацыю. Калі так будзе працягвацца, канец мусіў быць у *навінках*, альбо ў міліцэйскім пастарунку.

Але Францішак не працягнуў тэму. Ён быў вясёлы і *пазітыўны*. Да таго ж агдам хутка зрабіў сваю справу, і праз паўгадзіны ў салодкім хмелі ўсе расслабіліся. Смяяліся, жартавалі, думалі, *каго будзем хаваць наступным*.

***

Ён тады сапраўды пахаваў сябе. І нарадзіўся зноў. Другі раз.

Той, хто быў раней, быў толькі адбіткам. Залежным ад усяго. Без уласнай сутнасці.

Ад самага дзяцінства той рабіў так, як трэба. І яму нават падабалася. Зрэшты, гэта было не складана, свет не патрабаваў надта многа, быў ясным і зразумелым.

А тут усё ўскладнілася. Свет ашчэрыўся жахлівай пачварынкай. І закрыў сабой будучыню. Яго будучыню.

Ісці па плыні, разам з усімі, было немагчыма. Можна было пайсці насуперак. Насустрач плыні. Альбо ўвогуле спыніцца. Адысці ўбок.

Урэшце ён адважыўся. Спыніцца. Паставіць крыж. Памерці і нарадзіцца зноў, на ўскраіне вёскі. У паўзгнілай хатцы сярод рэдкага сасонніка. Гэта было не проста.

Першыя месяцы ён быў заняты выжываннем. І знаёмствам.

Печка, гародчык, драўляныя сцены, цішыня, унутры і навонкі, – ўсё гэта было новым і нечаканым.

Але час ішоў, ён пачаў абрастаць гэтым мейсцам, а таксама ідэямі, улюбёнымі эмоцыямі, суразмоўцамі. Усё стала цёплым і блізкім, як быццам ён тут нарадзіўся, альбо жыў, у адным з мінулых жыццяў.

Час тут увогуле ішоў па-іншаму. Ён плыў, як рака, павольна, няспешна, неадчувальна.

Першы год ён чытаў самотніцу Эмілі, думаў пра яе *боскую большасць*. І брата Восіпа, канечне.

Потым натрапіў на Сэлінджэра, позняга, амаль невядомага. Ён тады выехаў у Менск, прайсціся па букіністах. І ў адным з іх пабачыў дзве танюткія зачытаныя кніжыцы. Шэра-фіялетавую пра Фрэні і Зуі. І аранжавую, пра Сімора.

***

А потым ён адкрыў для сябе Усход, *яшчэ раз*. Як лекі, і як практычную задачу.

Вырашыў давучыць кітайскую, паехаў да Лісовіча. Расказаў усё. Пра каханне, пра першы аддзел, пра стому ад рэальнасці.

Той зусім не здзівіўся. Усе ягоныя аспіранты, сказаў ён, даюць падпіску. І потым пішуць справаздачы, штомесяц. Лепшыя адразу прызнаюцца. І нават раяцца, пра што адпісаць гэтым разам.

Ён быў першым, хто *ім* адмовіў. І пакуль адзіным. Таму шанцаў узнавіцца ў яго вельмі мала. Хіба ён усё ж такі пагодзіцца.

Лісовіч склаў праграму. Даў кніг. Параіў вучыць вэньян, *дадаткова,* бо гэта ключ да традыцыі.

Урэшце расказаў пра сябе.

Ягоны бацька быў вядомым беларускім мовазнаўцам, які ў трыццатыя перабраўся на ўсход. За некалькі дзён да меркаванага арышту. У сям'і было шмат беларускіх кніг. І сапраўдны культ радзімы, куды абавязкова трэба вярнуцца. Вершы Дубоўкі, расповеды Улашчыка – усё гэта было поруч з дзяцінства.

Сказаў, што калі штосьці зменіцца, альбо проста забудуць, ён будзе рады бачыць яго ў сябе на кафедры, суіскальнікам.

Францішак тады прыехаў натхнёны і крыху прысаромлены. Імёны, якія прамаўляў Лісовіч, яму нічога не казалі. І ён пачынаў разумець, што адкрываць для сябе ён мусіць не толькі ўсход.

Таксама разумеў, што яму больш непатрэбныя кафедры і суіскальніцтвы.

Ён быў самадастатковы.

***

Прайшло шмат часу пасля яго пахавання.

Ён вырашыў паглядзець, што адбываецца навонкі. Даведацца, што там за стагоддзе. І ці ёсць шанцы на змену кальпы. Альбо хаця б эона.

Адвесіў фіранкі. Адчыніў ваканіцы. Высунуў галаву.

Вакол была непраглядная цемра.

Было адно радыё і тры газеты. Па вуліцах хадзілі піянеры, на ўсходзе штодня ўставала сонца і бадзёра рапартавала: московскоевремя шестьчасов двемінуты.

Усё разам гэта называлася эпохай. І з яе не было выйсця.

Напоўніцу можна адкрыцца толькі ў будучыню, альбо ў мінулае, – вырашыў тады ён. Там жывуць чытачы і суразмоўцы.

Тут, у гэтай рэальнасці, застаецца няшмат. Закладаць схроны. Размаўляць з памерлымі.

Памерлыя не здрадзяць, яны заўсёды на варце, пільнуюць. З імі можна было гаварыць, як з жывымі. Нават яшчэ лепш, бо застаецца толькі сутнаснае. Не толькі праз кнігі, у якіх усё яшчэ гучаць іх галасы. Здараецца і больш рэдкае. Можна гаварыць з духамі. Вядома, калі тыя пагодзяцца. І калі мы здольныя прайсці праз мяжу.

*Камусьці трэба не спаць*, паўтараў ён словы аднаго з улюбёных самотнікаў, спачатку ў дзіцячым садочку, куды ён перайшоў са свайго музея, у вартаўнікі. Потым у ЖРЭА Маскоўскага раёна.

Калі яму прапанавалі новае мейсца, ён насцярожыўся. Вялікі будынак на ўскраіне. Дзіўная назва, сам будынак адпавядаў ёй напоўніцу. Левіяфан, які прагнуў праглынуць чарговую ахвяру. Праўда, усярэдзіне было цёпла і ўтульна. Там быў пакойчык з пісьмовым сталом, на якім важна ляжаў сшытак уліку. І друкарка, у суседнім кабінеце.

Ён завіс там на гады, час ішоў незаўважна, ён зусім заціх, як быццам

на парозе адсутнасці. У паўсне. Яшчэ крыху, і можна будзе зусім забыцца. У самотнай начной нірване.

Але сэрца! Неразумнае сэрца. Яно не слухалася.

Яно патрабавала *музыкі*.

Штосьці нашэптвала, папярэджвала, падавала сігналы...

***

Ён усё яшчэ быў у падарожжы. Праўда, цяпер мэта аддалілася.

З усмешкай прыгадваў пачатак шляху. Дзіцячую наіўнасць першага года, калі ён вырашыў штурмаваць вышыні. Ісці да канца. Асягнуць прасвятлення.

Так, прасвятлення! Не больш, але і не менш. Самадхі. А можа, нават і саторы. Толькі гэтая мэта штосьці значыла. Гадзіны і тыдні медытацый. У прыцемненым пакоі. Сам-насам з уласнай свядомасцю.

Ён тады прачытаў гісторыю пра прыручэнне буйвала. Гэта была будыйская алегорыя, пра ўнутраны шлях, пра дасканаленне.

Так, гэта было тое, што ён шукаў.

Медытацыя, аскеза, вера.

Але буйвал быў наравісты, упарціўся. І ён зрываўся.

Прыходзіла стома. І адчай.

Ратавала фраза, якую ён знайшоў у аднаго са сваіх улюбёных кітайцаў: у пустэчы сэрца збіраюцца людзі і духі.

***

Ён стаміўся сябе трымаць. Штосьці было не так у гэтых спробах гарантавана прарвацца ў вечнае.

Ды й сэрца было супраць. Вяло зусім у іншым кірунку.

Тады з ім і здарылася паэзія.

Першы верш быў пра звычайны шэры дзень, які прамінае занадта хутка. Згарае на вогнішчы часу невядомым жаўнерам. І які мусіць быць ушанаваны і адзначаны.

Нічога асаблівага. Але за ім пацягнуліся іншыя. Як быццам прарвала плаціну і ўсё паплыло.

З’явілася лёгкасць і нязмушанасць. Ягоная хатка перастала быць кляштарам, а засталася проста мілым прытулкам. Ён расслабіўся. Адпусціў волю. Забыў пра сябе. Перастаў сябе скіроўваць. Ішоў праз формы весела і ўжо не думаў пра мэту альбо пра свядомасць.

Вышыні і прадонні, прасвятленні і непраглядная цемра, усё здаралася і прамінала, каб адкрыць новыя павароты.

Цяпер ён ведаў, што толькі калі *не шукаеш*, яно *знаходзіцца*. І цябе знаходзіць.

Трэба проста быць чуйным. Калі мудрасць недзе ёсць, яна сама знойдзе яго, адкрыецца.

Будучыня яго чакала і свяціла магчымасцямі.

Наперадзе былі важныя рэчы.

Ён будзе жыць у розных гарадах і розных краінах. Навучыцца разумець мовы. І не толькі чалавечыя – камянёў і дрэваў таксама. Прачытае важныя кнігі. Зрэшты, напоўніцца. Прасторай, часам, будучыняй.

Гэта было даўно, больш за дваццаць год таму.

Шмат з таго, што тады чакала наперадзе, ужо адбылося.

***

Эпохі праплывалі як сон. Звінелі званочкамі, ладзілі відовішчы. Кружлялі вакол, як матылі. Абяцалі зашмат, знікалі без развітання. Але і дарылі сябе, таксама.

У адной з іх ён стаў паэтам.

Пра яго вершы пачалі гаварыць у пэўных колах. У яго былі чытачы. І прыхільнікі. Ён прыгадваў тыя часы, як самы важны сакрэт.

Ён знайшоў для сябе мейсца, невялікую кавярню, на самым ўзбоччы. Прыходзіў рэгулярна. Замаўляў кубачак кавы, сядаў у далёкі кут. Услухоўваўся, углядаўся.

Трэба было знайсці тон і настроіць сэрца. Разгайдаць рэчаіснасць. Выпасці з яе. Патрапіць. У цёмныя калідоры сэнсу, што вялі на скрай бытнага.

І тады быццам бы адкрываліся старыя раны, усё знікала, раптоўна, балюча і незваротна, а потым вярталася, прыходзіла як цуд і як музыка. Словы прачыналіся і вялі за сабой. Патрабавалі веры. І вернасці.

Менавіта тады ён адчуў, што мова *жывая*.

Словы, метафары, ідэі – з імі можна было сябраваць, як з жывымі істотамі. Знаёміць адно з адным, спалучаць.

Ён пачаў вучыць старагрэцкую, проста каб адчуць сцежкі. Зразумець, з чаго ўсё пачалося.

Мова, падумаў тады ён, – усяго толькі сутнасныя адхіленні, вібрацыі сэнсаў. Дзеянне адхіляецца ў часе, імя – у прасторы. Разам яны звязваюць усё з усім. Мова ёсць гэтым звязам, спляценнем. Мова сплятае свет у адно. Мова і ёсць светам.

Мова была мейсцам. Прытулкам. Домам быцця.

Ён быў вартаўніком гэтага прытулку. Словы слухаліся яго, а ён іх. Але гэта было толькі тут, у прыцемках. У катакомбах.

***

Там, звонку, словы падманвалі. Танчылі хіжыя танцы. Гублялі прытомнасць. Штосьці адбывалася з імі, страшнае, незразумелае.

Там было ўсё тое ж, але змёрзлае і халоднае, пакалечанае, голас адразу губляў тэмбр, думка – яснасць.

І ўсё ж адтуль тачылася спакуса. Выйсці. Запаліць эмоцыю, як ліхтар. Сагрэць і павесці тых, хто адгукнецца.

Але каго тых? І ці будуць яны гатовыя ісці?

І ці самі сэнсы адкрыюцца ім у сваёй поўніцы?

Каб зразумець гэта, трэба было памяняць маскі. Адважыцца. Паспрабаваць. Згуляць другую гульню.

***

Пакуль ён разважаў і вагаўся, усё развалілася. Спектакль адмянілі, публіцы вярнулі квіткі і адправілі дадому.

Тое, што здавалася амаль вечным, аказалася бурбалкай, ілюзіяй. Імперыя знікла, расплылася ў тумане.

Напачатку, канечне, палёгка і выдых, але і крыху шкадавання.

Тут, унутры, усё было па-іншаму.

Патананне ў ноч было балючым, але сутнасным і паэтычным. Шэпты і крыкі закатаваных. Галасы шаманаў. Словы ў катакомбах, што захоўваліся

тысячагоддзямі. Яны чакалі Бадхідхарму, які ішоў з Захаду, і – святая ўпэўненасць – даўно быў бы тут, каб не патрулі на дарогах.

Ён перачытваў *тыя словы* зноў і зноў: лепшае было ў інтанацыі, у трапяткім і далікатным прадчуванні магчымага.

Потым час разамкнуўся і ўсе выйшлі на паверхню.

Усё стала занадта блізка. Цяпер не было алібі, не было спадзеву. Трэба было абуджацца на мейсцы, знаходзіць скарбы тут і цяпер.

І, самае галоўнае, больш не было ніякіх далячыняў, адкуль маглі б свяціць далёкія зоркі.

***

У яго выйшла кніга паэзіі, было многа рэцэнзіяў, яго запрашалі на сустрэчы. З'явіліся новыя сябры, знаёмых стала зашмат. І ён захваляваўся. Свет зноў яго лавіў, прапаноўваў мейсца.

Паэзія, праўда, сцішылася і адышла кудысьці ўбок.

Яна больш не нагадвала пра сябе непакоем. Сляпым болем зранку, у мейсцы крыху вышэй за сэрца, як ён напісаў у адным з вершаў. Гэта яго хвалявала, але і цешыла таксама. У прамінулую эпоху болю было замнога, год ішоў за пяць, а то і за дзесяць. Ён, безумоўна, заслужыў гэты перапынак.

І яшчэ. Калі ўсё разляцелася, канцэнтрацыя стала амаль немагчымай. Раней ён патрапляў у сябе амаль адразу. Нягледзячы на знешняе. Альбо наадварот: дзякуючы яму. Яго літаральна выштурхоўвала да сябе самога.

А тут праходзілі дні і месяцы ў прыемным сузіранні вонкавага. Яго размазала па паверхні эпохі. Тонкім слоем.

Мітуслівыя часы.

Зрэшты, там было многа радасці: дурнаватай, п'янкой. У якой забываеш пра ўсё, пра эга і пра когіта.

***

Трэба было шукаць сябе і абуджацца менавіта там, сярод радасці. Гэта было значна складаней, чым чакаць у катакомбах.

Ён паспрабаваў тады быць звычайным, разам з усімі. Заснаваў часопіс, штосьці перакладаў, выдаваў кнігі.

Але і гэта здарылася, прайшло, скончылася.

І ён нечакана і раптоўна вярнуўся. У самоту. Да сябе. Поўны, як яйка, прасторай і часам.

Эпохі звісалі з яго лахманамі. Ён шмат пра што ведаў і многа бачыў. Свету ён ужо не баяўся. Навучыўся ісці праз формы наскрозь, не супадаючы да канца, без крыўды.

Усе гэтыя скокі, гэты спектакль. Наіўныя спробы зачапіць, пасадзіць на ланцуг. Ён мог бы быць кімсьці ў гэтым спектаклі, у яго былі здольнасці, ён умеў.

Але маскі не супадалі, адслойваліся, ролі былі не ягоныя.

Сябры і знаёмыя дасылалі паштоўкі – з Бостана, Мілана, Берліна. Некаторыя, з кім ён пачынаў, ужо загадвалі кафедрамі. Іншыя былі вядомымі альбо займалі *пасады*.

А ён так і не выбраў для сябе анічога.

Не стаў кімсьці. Тут, на гэтым баку.

Не знайшоў сваю маску, якая б сабрала ўсё ў адно.

Ці па-іншаму: ягоная маска ўсё яшчэ яго шукала.

***

Тады ён і вырашыў пайсці яшчэ далей. Падысці да самага скраю. Слухаць галасы і шэпты. Адтуль.

Гэта было зусім блізка. У суседнім пакоі. Сны, ідэі, прамінулыя эпохі. Багі і настаўнікі. Там, за сцяной, Крышна ўсё яшчэ гаварыў з Арджунам. Лао Цзы з Канфуцыем. Ешуа са Сваім Богам.

Калі падысці да скраю, чуваць іх галасы. Не адразу. І зусім не проста. Трэба было настройваць слых, каб адчуваць і адрозніваць. Была патрэбная *магія*.

Раней яму было дастаткова слядоў. Таго, што засталося ў кнігах. Ён сабраў вялікую бібліятэку. Са сведчаннямі.

Але рэальнасьць была таксама кнігай. Адной з кнігаў.

І яна таксама поўнілася знакамі і слядамі.

***

Ён быў паляўнічым. Словы вярнуліся і зноў слухаліся яго, але па-іншаму. Свет быў цяпер галоўнай кнігай, магічнай, адкрытай для кожнага. Ён поўніўся знакамі, для тых, хто ўмее быць пільным. Чакаць і бачыць.

Тое, што застаецца, усталёўваюць паэты. Ён памятаў гэтыя словы, са старога нямецкага верша.

Але што застаецца? І дзе? І хіба гэта не занадта нахабна – хацець застацца? Чаму не прамінуць, разам з усім? І з усімі.

Прайсці свет наскрозь, як браму. Выйсці з таго боку.

“Кушада бад ба давлат хаміша ін даргах” – напісаў ён на ўваходзе словы аднаго персідскага чараўніка.

Гэта было пра адчыненую браму да шчасця. У якую не так проста ўвайсці. Бо трэба ведаць мову птушак.

Там, з таго боку, яго чакала *залатая маска*. У якой разумееш цэлае. І якую не трэба шукаць, бо гэта яна нас знаходзіць.

***

Гэтым разам ён запісаў чырвонай асадкай.

Кітай. Тры школы, якія былі побач, якія перапляліся, сталі адным у трох.

Будызм хоча, каб чалавек стаў духам, выйшаў за межы наяўнага свету, за межы чалавечага як такога. Выйшаў і больш сюды не вяртаўся. Годна і арыстакратычна.

Даосы імкнуцца патрапіць назад, у дачалавечае. У свет, яшчэ не сапсаваны свядомасцю, да птушак, драконаў і чарапахаў. Яны прагнуць несмяротнасці. Дай Бог ім здароўя.

Абедзве сцежкі маюць на мэце пэўную нязгоду з рэальнасцю, ідэю, што нам трэба выбірацца адсюль як мага хутчэй. Пытанне толькі – куды, у які бок бегчы.

І толькі Канфуцы прапануе *застацца* і напоўніцу зведаць тутэйшую долю. Пражыць сваё жыццё. Самому.

Самая загадкавая школа.

Ён не стварае тэорыю, а расказвае пра досвед. Пра тое, што з ім адбывалася. У пятнаццаць, у трыццаць, у семдзесят год.

Ён называе гэта *вучэннем*. Вялікім вучэннем.

Чалавеку трэба вучыцца быць чалавекам.

***

Ён падумаў крыху і дапісаў зялёным колерам:

Хрысціянства – мінімалізм. Яно гаворыць – пашкадуйце нас, дурняў, мы не ў стане самастойна ані вырвацца з формы, ані супасці з ёй напоўніцу. Так, каб прайсці яе наскрозь і выйсці з другога боку. Адзінае, што нам застаецца – тут і цяпер – пакорліва любіць нашую ўласную недасканаласць.

І спадзявацца, што *там* за яе нам прабачаць.

***

Там. Там-тарам.

## 3.

Крывіцкая Мека сустрэла яго шэрай восеньскай імжой, аўтамабільнымі коркамі і рэкламай *Švyturys 1784*, якая чамусьці сустракаліся найчасцей. Прастора адразу разламалася на дзве часткі, на Горад і Зарэчча, у якім можна было хавацца, калі Горад станавіўся занадта матэрыяльны, патрабаваў да сябе шмат увагі.

Былі іншыя прадмесці: Антокаль і Звярынец, і дзве рэчкі – Вялля і Вялейка. І, вядома, Кальварыйская, вуліца, што пачыналася амаль адразу за зялёным мастом і цягнулася далёка-далёка, да самых азёраў

А яшчэ пагоркі, славутыя віленскія пагоркі. Зарослыя лесам, аблепленыя крывымі хаткамі, а часам зусім самотныя, пустыя, яны былі паўсюль і ўзвышаліся над усім, і былі сведкамі.

Недзе за чыгункай, на поўдзень, хаваліся могілкі, старыя і славутыя, але да іх чамусьці не знаходзілася часу дабрацца.

***

Некалькі год таму яму прапанавалі выкладанне, і ён спакусіўся.

Курс называўся антрапалогія цывілізацый. Індыя. Кітай. Егіпет. Ацтэкі і Мая. Можна было гаварыць пра ўсё самае важнае. Канечне, мусіла быць і праграма, і план заняткаў, але ж планы патрэбныя дзеля таго, каб з асалодай іх парушаць.

Ён памятаў першы дзень ва ўсіх падрабязнасцях.

Прыехаў зранку, забраў ключы ад кватэры, занёс рэчы. Заняткі пачыналіся праз пару дзён, і ў яго быў час уладкавацца, агледзецца. Прайсціся старымі маршрутамі.

Ён вярнуўся на вакзал, адтуль пайшоў да Базыліянскіх муроў, пахадзіў па дворыку, пасядзеў на камянёх.

Усё як і раней. Нічога не змянілася.

У гэтым дворыку жыла цішыня, апошнія пару стагоддзяў.

Напэўна, недзе тут, у сутарэннях, захоўвалася й *салодкіх тайн пітво*, пра якое напісаў Жылка.

***

Калісьці ўсё гэта было ўпершыню. Ранішні цягнік Менск – Вільня, дызель, паход ад вакзала, праз Вострую Браму ўніз, да Святой Ганны.

Гарачыя сасіскі ў кулінарыі на вуліцы Горкага. І кава, славутая віленская кава, яна была надзіва добрая ва ўсіх мейсцах, ад апошніх забягалавак да

кавярні Нерынга на праспекце Гедыміна. А яшчэ трасянка прадавачак, у якой адбіліся тутэйшыя гаворкі.

Памятаў лес за чыгункай, куды яны прабіраліся з усёй магчымай канспірацыяй. Нахілёную хатку, дзядзька Лявон вяртаецца ў гасцёўню: так, яна прачнулася, можаце ўваходзіць.

Яны заходзілі ціха й асцярожна. Старая ляжала на ложку. Яна ўжо нічога не гаварыла. Але памятала ўсё. Яны адчувалі гэта без словаў, унутраным пачуццём.

Дзядзька Лявон прадстаўляў іх па чарзе.

І далей яны проста ціха стаялі, гледзячы на сухі старэчы твар, услухоўваючыся ў яе ўспаміны.

Яны амаль бачылі тое ж, што і яна.

Менскую конку. Вагончык, які спускаўся з гары. Б., з хворымі вачыма, перад ад'ездам у Ялту. Вестку пра ягоную смерць там.

Потым Вільня. Гімназія. Універсітэт. Вайна. Хатка, амаль у лесе, дзе так зручна было хавацца ад усіх, чакаць.

Ён хацеў бы пабачыць яе вачыма шмат што. Яе Вільню.

Сумную сталіцу, якая заўсёды абяцае так многа.

***

Тады Вільня была забытай магчымасцю. Цёплай, але і зусім чужой, далёкай. Прыгожай дэкарацыяй з незразумелымі надпісамі непрыгаданага часу.

Ад яе, зрэшты, засталося няшмат.

Паўсюль былі новыя крамкі, чыстыя і бязлюдныя. Яны абляпілі старыя вулкі, паўтараліся, перацякалі з завулка на завулак, падбіраліся да самой Вострай Брамы. Mexx, Mango, Hugo Boss – усё гэта нагадвала незразумелую, утульную і прыгожую пошасць, хваробу, якая бярэ Горад у свае абоймы. Пяшчотнае задушэнне, ад якога нікуды не падзецца.

Зрэшты, калі халодна, добра схавацца ў якую галерэю альбо кавярню. Ці нават проста ў краму па дарозе.

На шкляных тэрасах каля гатэляў сядзелі важныя людзі. Яны гарталі меню, размаўлялі і, здаецца, нікуды не спяшаліся.

Магчыма, гэта зусім і не людзі. Так сказаў аднойчы Далюс, калі яны прагульваліся пасля семінара. А яму можна было верыць, ён жыў тут ужо сямнаццаць год.

Але калі не людзі, дык хто? Духі? Эльфы? Іншапланетная цывілізацыя?

***

Напачатку была эйфарыя. Але праз пару месяцаў Францішак зразумеў, што не так проста ўвайсці ў віленскія лабірынты.

Спачатку ён думаў, што праблема ў мове й падвучыў літоўскую, але праз гэта ўбачыў, што гаспадары горада няёмка ў ім пачуваюцца. І з радасцю ўцякаюць на суботу-нядзелю куды-небудзь у Марыямпаль альбо ў Друскенікі. Альбо нават проста на азёры за горад.

Ён жыў ужо не першы месяц, але адзіным месцам, што прымала яго як свайго, заставалася невялічкае бістро на аўтавакзале. Аднойчы ён занадта доўга выбіраў мову, на якой звярнуцца да касіркі і раптам запытаўся на тутэйшай трасянцы *прашам ёду кава з цукрэм калі ласка* і атрымаў у адказ

*прошэ бардзо дзякуй* і далей касірка ўжо шчабятала, не выбіраючы словы, і ставілася да яго як да свайго.

Часам ён заходзіў туды проста пасядзець. Побач ад'язджалі аўтобусы на Менск, і Францішак зразумеў, што гэта яго хвалюе.

Менск з кожным днём станавіўся ўсё менш рэальным.

***

Вакзал і ўсё, што вакол, было асобнай цывілізацыяй.

Некалькі вулак, што ішлі ўніз, спляталіся і расплятаціся, на крыжаваннях стаялі хасіды, трымаючы ў руках кнігі. Яны чыталі й мерна пагойдваліся, у такт адно ім чутнай музыцы.

А можа й не хасіды, а наадварот, артадоксы, ён пакуль не разабраўся. Гэта было іх месца, іх частка горада, намоленая стагоддзямі.

Часам ён спыняўся і заводзіў гаворку з адным з іх, хударлявым, гадоў шасцідзесяці. Больш падобным да прадаўца печыва. І кожны раз у яго было дзіўнае адчуванне, што ён размаўляе з ценем альбо прывідам.

Апошнія дні той відавочна быў заклапочаны, як быццам штосьці мусіла здарыцца. Штосьці важнае, страшнае і прыгожае адначасова. Такое, што мы мусім сустрэць сярод сваіх, у бяспечным прытулку.

*Сярод сваіх. Бяспечны прытулак.* Словы былі цёплыя і духмяныя, як кашэрныя булачкі, і абяцалі многа.

Але цёплыя і духмяныя булачкі – ці яны дапамогуць?

***

Лекцыі яму падабаліся, хаця й забіралі шмат сілаў. Асабліва напачатку, калі ён рыхтаваў курс і знаёміўся з групай.

Потым стала лягчэй. Ён уцягнуўся і захапіўся, і тое, што напачатку выглядала як абавязак, пераўтварылася ў прыгоду і падарожжа.

Ён прыходзіў у аўдыторыю за некалькі хвілінаў, раскладаў тэчкі і паперы, канцэнтраваўся.

Усё было ў яго галаве: эпохі і цывілізацыі, формы жыцця і культуры, ідэі, эмоцыі, тып асобы. З Індыяй і Кітаем было проста, ён аднекуль пра гэта ведаў, і словы знаходзіліся амаль адразу. З астатнімі горш: прыходзілася ісці ў бібліятэку, гартаць кнігі, карыстацца чужым досведам.

Зрэшты, чужым досвед заставаўся ненадоўга.

***

Вечары ў Вільні былі асаблівыя.

Сутонне адкрывала шлюзы, і горад напаўняўся галасамі і шэптамі.

Ён амаль фізічна адчуваў, як усё звінела і зіхацела, там, за сценамі. Ён гатаваў гарбату, сядаў з пледам на канапу, сцішваўся, спусташаўся. Так праміналі гадзіны.

Часам ён пераломваў сябе і выбіраўся ў горад. Альбо званіў Далюсу, і яны ішлі на барбакан *глядзець на ўсё зверху*.

Ці проста блукалі па начной Вільні ў пошуках прыгодаў.

А прыгоды з імі здараліся рэгулярна. Асабліва калі далучалася Ірэна, якая ведала месцы.

Напрыклад, уначы, на далёкіх пагорках, з бутэлькай *трох дзявятак*, дзе яны пілі і размаўлялі з *ужо адсутнымі*.

Альбо ў прывакзальных вулках, дзе яны вывучалі віленскае дно,

распытваючы пра начное жыццё горада таксістаў, прастытутак і прадстаўнікоў мясцовай гапаты.

***

Торба і парасон былі ягонымі спадарожнікамі.

Парасон быў вялікі і масіўны, больш падобны на кій альбо крывуліну. Ён браў яго з сабой, нават калі надвор'е не абяцала аніякай вільгаці.

У торбе ляжалі магічныя прылады.

Сшытак, у якім ён запісваў словы, што прыходзілі да яго звонку. Асадкі розных колераў, якія дазвалялі адрозніваць адценні эмоцыяў, пазначаць тоны й інтэрвалы. Укладаць усё ў музыку.

Да сшытка былі пэўныя патрабаванні. Ён мусіў быць у цвёрдай вокладцы, у лінейку і заўсёды пад рукой.

Гэта быў адзіны спосаб не прапусціць ілюмінацыі. Калі штосьці з'яўлялася ў яго свядомасці, успыхвала і знікала. На момант.

***

Яны блукалі па Росах, з Далюсам, у лістападзе. З дрэваў ападалі апошнія лісты. Далюс расказваў пра свае вандроўкі па Мінску. Ён быў захоплены шырокімі праспектамі, маштабам і амбіцыямі.

Што ён тут робіць, у Вільні? І чаму ён прыехаў менавіта цяпер, а не раней, калі пачуцці былі свежымі, а ўтопіі вабілі і абяцалі? І што там цікавага ў Мінску?

Вырашыў пагаварыць з духамі, сказаў Францішак. У Мінску духаў амаль няма. Гэта новы горад, заўсёды новы.

Горад-карабель. Які смела плыве ў будучыню. Хоча заўсёды быць першым. Першы вадаправод. Першая электрастанцыя. Першая конка.

Горад-які-ніколі-не-азіраецца-ў-мінулае.

Далюс ведаў усё пра архівы і бібліятэкі. Яны пазнаёміліся ва Універсітэцкай. Францішак зайшоў папрацаваць, сеў за столік і адключыўся, забыўшы замовіць кнігі. Думаў пра штосьці сваё. І ў пэўны момант адчуў уважлівы позірк. Потым яны разам выйшлі.

Калі ён першы раз зайшоў да Далюса ў кватэрку, яго ахапіла пачуццё абсурднай радасці.

Усё было амаль некранута. З тых часоў.

Няясна, праўда, якіх, але пэўна далёкіх, дзевятнаццатае стагоддзе ці крыху раней, ляпніна на сценах і на столі ледзь трымалася, расколіны былі самыя сапраўдныя, іх ніхто не замазваў вельмі-вельмі доўга.

Ванна стаяла на кухні, гарачая вада была з калонкі. Не было ацяплення – замест яго ў кожным пакоі стаялі грубкі са старой кафляй.

Гаўбец быў пляцоўкай, высунутай у іншы свет.

Хаця ён і выглядаў так, нібы збіраецца вось-вось абваліцца на галовы мінакоў, насамрэч ён завіс у паветры, і ніякая сіла прыцягнення не змагла б прымусіць яго ўпасці.

Гэта быў горды капітанскі масток, на якім, праўда, не было ніякага капітана.

Але і без капітана жагляр ішоў у патрэбным кірунку.

***

Далюс пазнаёміў яго з Ірэнай і з Відасам.

Відас быў вандроўным філосафам. Падпрацоўваў назіральнікам на выбарах, па кантракце. Калі здаралася штосьці далёкае і небяспечнае, яго выклікалі. Афрыка, Паўднёвая Амерыка. Усход.

Ён вяртаўся з чарговага падарожжа, і пачыналася феерыя. На пару месяцаў. Далей ён упадаў у спячку, абуджаўся, шукаў новае падарожжа, і кола замыкалася.

Ірэна не працавала нідзе.

Яна тлумачыла знакі. Карты Таро. Гаданне па руцэ і кававай гушчы. Гараскопы. І Цзын. Зорнае неба.

Надзіва, гэта добра аплочвалася. І што важна, рэгулярна, у адрозненне ад Відаса.

Яны сядзелі на кухні: яна, Далюс, Францішак. Відас быў на далёкіх выспах, мусіў неўзабаве вярнуцца з падарункамі. Ён заўсёды прывозіў сувеніры. Засечкі на памяць. Ягоная французская была дасканалай.

Я раскажу вам адну гісторыю, сказала Ірэна. Пра маіх знаёмых. Вялікая сям'я: муж, жонка, бацькі, дзеці. Пасля вайны атрымалі кватэрку, на першым паверсе старога дома, два пакоі. І ніякіх перспектываў на пашырэнне.

Муж вырашае пашырыцца ўніз. Разбірае падлогу на кухні. Капае вялікую яму, абкладае яе старымі камянямі, як сапраўднае сутарэнне. Робіць усё павольна, але грунтоўна. На стагоддзі.

Пакуль ён гэтым займаецца, змяняецца некалькі эпохаў. І праект запавольваецца. А потым спыняецца. На кухні застаецца лаз, прыкрыты драўляным вечкам. А далей адбываецца дзіўная рэч: у гэты лаз пачынаюць падаць іхнія госці. Адзін за адным. Ломяць рукі і ногі. Потым расказваюць, што іх літаральна зацягвала ўніз. І што цягнула нечалавечая сіла.

Важна дадаць – падалі заўсёды цвярозыя.

Мараль гэтай гісторыі надзвычай важная і карысная, асабліва для гасцей нашага горада. З глыбінёй у Вільні трэба асцярожна. Гэта ў Менску можна рабіць з яе культ. Бясконца заглыбляцца.

А тут у нас проста многа дзірак. У якія правальваешся і назад не выходзіш.

***

Расколіны ішлі праз столь і сыходзіліся на правай сцяне. Яны ўтваралі складаны малюнак, сузіранне якога, пэўна, мусіла адкрыць некаторыя тайны, калі б гэтаму сузіранню аддавацца дастаткова рэгулярна, хаця б раз на тыдзень.

Драўляныя паліцы і шафы былі паўсюль, кнігі стаялі шчыльна і нерэгулярна. У перадпакоі акрамя дзвярэй на кухню і прыбіральню былі яшчэ адны. Масіўныя, падобныя да дзвярэй у кватэру.

Гэта суседзі, – сказаў Далюс. Ніхто не разумее, як гэта атрымалася, але мая кватэра прахадная. Суседзям, каб увайсці да сябе, трэба спачатку ўвайсці да мяне, у гэты калідорчык.

І прыбіральня ў нас агульная. Праўда, я ніколі не бачыў, каб яны ёй карысталіся. Праўду кажучы, я іх саміх не бачыў ужо год пяць. Толькі гукі. Уначы альбо позна ўвечары. Прабіраюцца ў сваю кватэру ціха і незаўважна, каб не патрывожыць.

Іх не трэба баяцца, яны добрыя, дадаў Далюс. Хутчэй за ўсё беларусы.

***

А яшчэ два разы на год нам грукаюць у сценку на кухні, сказаў Далюс. Там, дзе цяпер стаіць ванна. Калісьці там таксама былі дзверы. Выхад у дворык. Яны даўно закладзеныя. Сам выхад таксама закладзены. І таксама даўно. Але разы два на год у дзверы хтосьці грукае. Доўга і страшна.

Часам лаецца. Па-польску. На тутэйшай крэсовай.

Гэта адбываецца позна ўвечары ці нават уначы.

Здаецца, хтосьці важны заблукаў у часе, госць, які абавязкова мусіць сюды патрапіць.

Страшна. І хочацца адчыніць.

У цябе было калі-небудзь такое адчуванне, запытаўся Далюс. Калі *адтуль* грукаюць і трэба адчыняць, а ты не ведаеш, дзе дзверы. Альбо нават ведаеш дзе і гатовы адчыніць, але яны закладзеныя?

Я ўсё жыццё жыву з такім адчуваннем, сказаў Францішак.

***

Канец свету – але якога менавіта свету? – запісаў Францішак сінім колерам.

Свету Геракліта, з вечна жывым агнём-логасам, што распальваецца і затухае, ці свету Чжуан-цзы, – які ёсць толькі няпэўным – і няпоўным – адбіткам Сну пра Сон у зрэнках Вялікага Матыля?

Канец эона. Канец Калі-Югі.

Ці канец свету, што прыдумаў адмыслова для нас Томас Стэрнз Эліят: *not with a bang but a whisper*.

## 4.

Двойка была амаль пустая. Гэтым разам ён вырашыў ехаць праз Антокаль. Лекцыя пачыналася а 15.20, часу заставалася акурат столькі, каб нікуды не спяшацца.

Ён сеў у крэсла ў самым канцы салона. Можна адпусціць свядомасць, забыць, хто і куды едзе. І навошта. Паўгадзіны расцягваліся ў амаль вечнасць.

Менавіта ў гэтай часовай тралейбуснай вечнасці ён бачыў формы ясна і дасканала.

Ідэі. Эпохі. Свае і чужыя жыцці. Зусім не так, як бачыцца адсюль, знізу. З іншай перспектывы. Як кон. Як прызначэнне. Як тое, што было пра яго аднойчы задумана. І не толькі пра яго.

Кім задумана? Гэта было неістотна.

Галоўнае, што ён гэта бачыў. І разумеў.

Ён дастаў сшытак і асадку, на ўсялякі выпадак. Калі штосьці праявіцца, яны будуць пад рукой. Прытуліўся да шкла. І адразу праваліўся. У светлыя глыбіні часу. У тое, што калісьці было і засталося.

***

Мусіў быць фотаздымак. Стары, яшчэ чорна-белы.

Ён не быў упэўнены, што той захаваўся. Па праўдзе, ён не быў упэўнены, што той ўвогуле існаваў. Так, нейкая цьмяная прыгадка,

У свядомасці было штосьці такое: старая картка, чорна-белы здымак, кепскай якасці.

Але хто мог іх фатаграфаваць тады? Хто быў разам з імі?

Яны стаялі ў кавярні, у чарзе. Утрох. Багдан быў тут упершыню, трымаўся крыху насцярожана. А Эва Дамініка не, яна адразу адчула сябе дома.

Ён іх запрасіў, нечакана для сябе самога. Ён бярог гэтае мейсца для работы, гэта была яго майстэрня. Лабараторыя.

Звычайна прыходзіў яшчэ да адкрыцця, каб заняць мейсца. Сядаў у самы кут, каля вакна. Замаўляў падвойную. Раскрываў сшытак. Альбо кнігу. Сцішваўся. Засяроджваўся.

І тады з ім гэта здаралася. Прыходзілі словы і пачыналі сведчыць. Складацца апрычонымі ўзорамі. Ён ледзьве паспяваў занатоўваць.

А тут ён проста стаяў з сябрамі і размаўляў. Жартаваў, гаварыў розныя глупствы. Расказваў пра Леа, пра майстэрню Мамонічаў. Пра пераклад Лаоцзы на старабеларускую, ён збіраўся яго зрабіць, каб потым надрукаваць, як помнік эпохі.

***

Перад гэтым была летняя ноч, з мадэрай і салодкімі вуснамі. Якімі ён трызніў яшчэ доўга.

Ён ішоў па інтэрнаце, п’яны, распачынаўся апошні год вучобы. У паветры ўжо адчувалася штосьці новае. Другая будучыня, якая шукала сабе дарогу.

Ён вярнуўся з Феадосіі, прапалены сонцам і прыгодамі.

Гэта быў яго першы раз, пасля дзіцячых паездак з бацькамі. Халодны і дажджысты чэрвень, ліпень таксама амаль без сонца. Адпачынак рызыкаваў пераўтварыцца ў сядзенне на тэрасе з кнігай, разбаўленае меланхалічным корпаннем у гародчыку. І ён раптоўна сарваўся, набыў квіток у адзін бок і праз суткі выйшаў у цёплы світанак старой Кафы.

Ён ужо забыў, якім пяшчотным можа быць мора. І якім блізкім – неба. І калі вярнуўся, перад самай восеньскай сесіяй, усё было не так, як раней. Раптоўна па-іншаму адчулася само жыццё, якое пульсуе маленькай жылкай на скроні. Хвалюецца, перапаўняе, б’е і лашчыць.

***

Грала італьянская музыка, кружэлка аніяк не магла скончыцца. Спынялася, заціхала на хвіліну, а потым пачынала зноў, – як быццам штосьці не дагаварыла, штосьці важнае, што нельга пакінуць на потым.

Эва Дамініка была зусім блізка, ён адчуваў яе цела як сваё, кожную клетачку, кожны лапік. Дурман валасоў, узлёт веяў, крыху пульхныя вусны, дзёрзкія выгіны і пагоркі.

Яны пазнаёміліся некалькі гадзінаў таму. Ён ішоў па калідоры інтэрнату, вясёлы і самотны, гатовы, як Шыва, разбіць свет на кавалкі.

Яму хацелася падзяліцца нечаканай радасцю, сонцам унутры, якое ён прывёз з сабой з Кафы. Таму, калі пабачыў дзявочую постаць у канцы калідора, не вагаўся. Побач, у куце, стаяў хлопец, але яны не былі парай, гэта было зразумела па адлегласці і па тым, як яны размаўлялі.

І вось цяпер, праз некалькі гадзінаў, ён ведаў пра Эву Дамініку амаль усё. Яны цалаваліся і былі гатовыя да большага.

Нягледзячы на адсутнасць ложка, амаль восеньскую прахалоду ў пакоі і партрэт Леаніда Ільіча Брэжнева на ўсю сцяну.

Быў, праўда, дыванок на падлозе. Але на ім спаў Багдан, са спакойным, шчаслівым выразам на твары.

І яшчэ хтосьці рэгулярна біў у дзверы і пагражаў прывесці вахцёра.

***

Калі б яму сказалі, што ён будзе разам з іншымі, і будзе верным, ён бы моцна здзівіўся. І не паверыў.

Але так адбылося. Ён адчуў пакаленне. Тых, хто разам з табой ідуць праз эпоху.

Яны збіраліся, як у ашрам, кожны паасобку і кожны варты цэлага войска. Праявіліся ў часе, сыдуць у часе.

С., тонкая і нечаканая, ён пабачыў яе на літаратурным семінары і адразу ўсё зразумеў, падышоў знаёміцца. Яна і сышла нечакана – на заснежанай начной дарозе, па якой яна вярталася. У сваю Вільню. Ён плакаў на пахаванні.

Д., засяроджаная і ўзнёслая, у мярэжы словаў. Згубленая і знойдзеная. Заўсёды там, сярод музыкі.

А. і Г., якія вечна сварыліся, былі заўсёды ў нязгодзе, але, якраз праз гэта трымалі свой сусвет жывым і няскончаным.

Яны тады былі супраць усіх. У пераможным паходзе. Тысячарукі Шыва, які ідзе па лабірынце свету. Узрывае ўсё на сваёй дарозе. Анікому няма літасці, і не спадзявайцеся.

Толькі сэнс, які тады тачыўся адусюль. І пяшчота.

***

А потым усё замёрла. Як быццам не засталося больш ніякіх мэтаў. Ніякіх задачаў. І ніякіх сур'ёзных пытанняў.

Буйных выжыла няшмат, і яны сядзелі па далёкіх кутах, пад наглядам.

Побач з Мінскам жыць стала немагчыма. Паўсюль будоўлі, вялікія важныя катэджы займалі пакрысе ўсё наваколле. І платы. Якія адцінралі ўсё больш і больш.

Ён прадаў хатку, ад'ехаў далей, у мястэчка С. на бераг Нёмана. Чытаў Басё. Запаўняў старонкі дзённіка амаль выпадковымі словамі.

Раз-пораз прыязджаў у сталіцу, да бацькоў. Пахадзіць па вулках, прынюхацца. Пасядзець у бібліятэцы.

Колькі так прамінула? Пяць, дзесяць год?

Вялізны архіў запісаў, амаль штодзённых. Пераклады. Пачатак рамана. Незразумела, каму ўсё гэта было прызначана.

Ён хацеў забыцца на гэтых паплавох і пагорках, супасці з краявідам.

Былі, праўда, лісты ад Эвы Дамінікі. Яна іх пісала з розных гарадоў, і нават краінаў.

Яны ляжалі ў асобнай тэчцы, на пісьмовым стале, заўсёды пад рукой.

***

Быць аднаму. Быць звар'яцелым для свету. Быць гатовым ісці за словам. Разам з ім. Ратаваць паэтычнае.

Ён тады пачаў прымерваць гэты кон. Прыглядацца, спачатку асцярожна, амаль пужліва.

Гэта спакушала, вяло ў асобнасць, і адасобленасць.

Часам ён заходзіў так далёка, што ўжо не думаў пра вяртанне.

Застацца на самым скраі. Там, дзе ўжо не свет, але...

Але прыгожа гэта выглядала ў вершах, сярод словаў, у рэальнасці ж трэба было плаціць за ўсё. Быць гатовым, як Г., прасядзець рэшту жыцця ў клетцы сваёй свядомасці.

Да таго ж, свет вакол яго радасна захлынаўся сурагатамі, заўсёды знаходзіліся тыя, хто вырабляў удалыя песенькі і танчыў на сцэне. Хуткапрыгатаваныя, як суп з пакеціка.

Яны білі сябе ў грудзі і зычнымі, добра пастаўленымі акторскімі галасамі крычалі, што гэта яны паэты.

Часам ён сапраўды быў гатовым. Да клеткі. Да невядомасці. Гатовы застацца там назаўсёды. Іншым разам пужаўся пустаты ўнутры, і вяртаўся на паплавы і пагоркі.

***

Гэта здаралася пад вечар.

Як быццам недзе высока адбылася аварыя і ў свеце адключылі электрычнасць. І ён са здзіўленнем прачынаўся на сярэдзіне дарогі, у шэрым мроіве рэальнага. Без Арыядны, без Мінатаўра, без якога-колечы суразмоўцы. Адзін.

Затухала святло, ён ляжаў і курчыўся ад наплываў пустой бессэнсоўнасці. Яна была цёмная і сляпая, ішла хвалямі, аднекуль звонку.

І зусім не дрыжала дзіўным дрыжаннем, як у Рылькавых элегіях, а ціха і падступна высмоктвала.

Напэўна, гэта быў тамас, пра які гаварыў Вознік Арджуну.

Цёмная матэрыя свету. Цяжкая чорная вадкасць, цёплая, крыху салодкая.

Не было анічога больш важнага ў гэты момант, як супраціўляцца, шаманіць. Вяртаць усяму сэнс.

Зрэшты, дзеля гэтага ён і вёў дзённік. Можна было зазірнуць, падгледзець, прыгадаць вышыні. Убачыць сябе як у люстэрку, апазнаць па гэтых выпадковых словах, запісаных у розныя часы, у розных сшытках.

Але гэта здаралася крыху часцей, чым мусіла б. Ён не паспяваў адхэкацца. Адагрэцца.

Да таго ж з кожным разам хвалі былі больш цяжкія. Накрывалі з галавой, білі ў сэрца. Аднойчы можна было не прачнуцца.

Немагчыма было ўвесь час перамагаць у вайне з пустэчай. І з клешамі.

Трэба пагадзіцца, што раз-пораз *яно* прарываецца.

Але як і адкуль? І чаму менавіта цяпер?

Ён крыху баяўся. Скончыць, як бедны Фрэдэрык. Выпасці з сябе назаўсёды. Глядзець на паліцу і пытацца: ці сапраўды гэта я запісаў усе гэтыя прыўкрасныя словы?

***

Калі было зусім невыносна, ён даставаў са схронаў бутэльку *каньяку* і пачынаў весяліцца на самоце. Ён называў гэта запальваць ліхтары ўнутры. Надзіва, каньяк дапамагаў найлепей.

Ён наліваў першы келіх і далей цярпліва чакаў, пакуль запаляцца ліхтары – усярэдзіне, на самым ускрайку свядомасці. Уяўляў, як ён запальваецца разам з імі і далей гарыць чыстым ясным святлом у цёмнай начы света. Заціхаў, узвышаўся, прысутнічаў пры тым, што адбывалася.

Гэтая медытацыя на ліхтарах яму падабалася, але спрацоўвала не заўсёды. Да таго ж на наступны дзень прыходзілася плаціць.

Але гэта было не так істотна. Ён паспяваў прыгадаць самае важнае.

***

Калі ў гэтым была алхімія, дык іншага кшталту.

Ён быў элементамі, замесам Творцы.

А мог стаць золатам.

Каб стаць золатам, трэба было пачаць з першапачаткаў, вярнуцца ў магчымасць.

Выскачыць з лузаў, у якія цябе заганяе свет.

Захлынуцца, патрапіць у няўцямнае.

Дайсці да самага скраю.

***

Так, было дзве магчымасці. І два жаданні.

Усё ж такі дайсці да канца. Зазірнуць за скрай. Адчуць, што там. Супакоіцца, абудзіцца. Можа, нават сустрэць мінатаўра. Альбо сфінкса.

Апошні бой. Велічны і трагічны. Загінуць. Альбо вярнуцца з ключом, з разуменнем. І нарэшце перастаць залежаць ад выпадковага.

Ці іншае. Выбрацца з катакомбаў. Удыхнуць паветра. Выйсці навонкі і напоўніцу пражыць тутэйшую долю. Здарыцца як выпадковае, але істотнае. Вычарпаць сваю карму.

Прыняць свет як дарунак. Як просты лабірынт з няпростай лініяй лёсу. Як залатую маску.

***

А, можа быць, ёсць яшчэ нешта трэцяе?

Трэцяя, іншая сцежка, у якой ягоная няпэўнасць, негатоўнасць стаць кімсьці ўсё ж такі мае сэнс. Выглядае не як затрымка, а як форма формаў.

Салодкія вусны, яны тады паабяцалі штосьці большае, чым проста асалоду, уцелясненне.

І не падманулі, хаця адкрылася зусім іншае.

Давер да жыцця, што б'е і ратуе.

Ён тады не паверыў да канца. У тое, што гэта можа быць шляхам, а не адхіленнем.

І што там можна застацца.

***

Штукар і алкаголік, паўзвар'яцелы актор, які граў ролю прарока з жарсцю, але зусім без стылю – прарокі не атрымліваюць службовыя кватэры ад СП, – памірае сярод крыві і ванітаў, захлынуўшыся адзінотай на сваёй вышыні, – запісаў Францішак чырвонай асадкай.

І што? Культура раскідае сеткі, спрабуючы пераўтварыць антычную трагедыю ў салодкі і сентыментальны комікс, – ён памёр, таму што так любіў радзіму, альбо таму што так пакутаваў за вас, засранцы, альбо хацеў адляцець у вырай, разам з белаю лебеддзю.

Хто-колечы паспрабаваў зразумець, што адбылося?

Пра гэта можна было б пісаць эпас:

Малады хлопец з вёскі, актор, шукае сваю форму, пачынае пісаць вершы, рвецца наверх, да вядомасці, да таго, што здаецца яму вяршыняй, гэта не так проста, на вяршыні ёсць агляд усяго...

*Кіта стоцяле – рэфармату*, сказаў голас з дынаміка, дзверы зачыніліся.

***

Што ён убачыў там, на вяршыні?

Сябе самога, бяспечную, мёртвую, забальзамаваную чарапаху ў Храме? Што з гэтага было праўдай? Што з гэтага магло б быць праўдай?

Ён думаў, што заклікaны да сінтэза, да прароцтваў, а ягоная доля была ў іншым – усё губляць, заставацца ні з чым. І разумець, што гэтае “нішчым” і ёсць яго паэзія. А не Бацькаўшчына, як ён думаў, і не тэатр аднаго актора...

*Кіта стоцяле – сапегос*, сказаў мілы жаночы голас з дынаміка.

***

Мы цяпер жыхары Восені, запісаў Францішак зялёнай асадкай.

Усё істотнае сышло ў глыбіні. На паверхні засталася пара-тройка штукароў, камедыянтаў, без якіх нам было б вельмі складана перажыць гэтую Ноч Свету.

Яны цёплыя, душэўныя і выкшталцоныя. Яны ўвесь час перад публікай: дастаюць зайцаў і драконаў, запальваюць феерверкі, расказваюць гісторыі.

Усё гэта дазваляе нам маўчаць у нашых глыбінях.

Кіта стоцяле – Нямянчынес плянтас, сказаў голас з дынаміка. На выхад.

## 5.

Трэба было прайсці ў аўдыторыю, не сутыкнуўшыся з адміністрацыяй.

У яго было адчуванне, што за ім сачылі. І пільнавалі. Нічога канкрэтнага, але кожны раз заставалася пачуццё няёмкасці.

Як быццам пра яго штосьці ведалі. І штосьці мусіла адбыцца. Альбо нават ужо адбылося, а ён пра гэта не здагадваецца.

Увесь час паўставалі нейкія пытанні. Раптоўна высвятлялася, што ў планах нешта не так, справаздачы здадзеныя не ў тэрмін, трэба запаўняць чарговую анкету. Францішак усміхаўся і ветліва хітаў галавой, пагаджаўся. І забываў пра ўсё практычна адразу.

І чым больш балаў выстаўлялі яму студэнты, тым больш непрыхільна глядзелі на яго ў дэканаце.

***

Гэта пачалося пасля яго выступлення на семінары. Ён збіраўся адсядзецца, паслухаць іншых. І ясна, не хацеў нікога пакрыўдзіць.

Спрачаліся пра мысленне. Пра тое, што з намі адбываецца, калі мы спрабуем думаць. І ці можна гэтаму навучыць. Адзін за адным выходзілі выступоўцы. Расказвалі, што пра гэта напісаў А., як гэтаму вучыў Г. Потым запыталі яго, папрасілі выказаць меркаванне.

Акадэмічная філасофія не думае, – сказаў ён тады. І не толькі таму, што не ўмее. Альбо не хоча. У яе іншыя задачы.

Яна працуе з мёртвымі ідэямі. Халодныя, вычарпаныя дарэшты, бяспечныя, яны ціха ляжаць на палічках канона.

З імі лёгка. Ходзіш паміж. Перастаўляеш, з месца на месца. Здзьмухваеш пыл. Расказваеш наведвальнікам, што дзе знаходзіцца і чаму. Дзесяць год здзьмухвання, і ты ўжо прафесар. Ведаеш, што ляжыць на верхняй паліцы, а што тут, унізе і крыху ўбаку. Што падаюць на сняданак, а што вартае святочнай вячэры, пад сухое чырвонае, у кампаніі сяброў-гурманаў.

Жывыя ідэі зусім іншая рэч. Хіжыя і падступныя. Угрызаюцца і не адпускаюць. Гэта яны цябе выбіраюць. І гэта яны думаюць – з тваёй дапамогай.

Ён не хацеў нікога пакрыўдзіць. Ён проста расказаў пра сябе, пра свой досвед.

***

У аўдыторыі сядзела дванаццаць чалавек. Амаль уся група.

Францішак паклаў торбу, падышоў да вакна. Да пачатку заставалася восем хвілінаў, можна яшчэ памроіць. Дрэвы пачыналі восеньскі карагод, вецер разгойдваў шыбы, яны дзынькалі і ледзь чутна звінелі.

У Вільні распачалася восень, ужо даўно. Так, як гэтага хацеў Аляшкевіч. Дзе ягоная кніга? Ці была яна дапісаная? Магчыма, тут, ляжыць у адным з фондаў. Надзейна пахаваная пад тысячамі папераў: лістоў, дзённікаў, рахункаў.

Ён спрабаваў яе шукаць. Амаль месяц сярод рукапісаў, архіўных справаў. Увесь вольны час, з ранку да вечара. І нават былі зачэпкі. Але потым усё абрывалася на поўдарозе, і ўрэшце, седзячы ва ўтульнай зале, ён пачынаў разумець.

Вось яна, *Кніга восені.* За вокнамі, гартае старонкі дзён.

***

Мінулым разам мы з вамі падышлі да важнай тэмы, без якой шмат што ў жыцці – і ў старых цывілізацыях – застаецца незразумелым, сказаў Францішак. Сёння мы паспрабуем асцярожна ў яе ўвайсці.

Мы будзем гаварыць пра *другое нараджэнне.*

З першым усё больш-менш зразумела.

Мы не выбіраем момант свайго з'яўлення на свет. Мы нават не здагадваемся, куды патрапляем.

Але ўсё ж такі нараджаемся. Выпраўляемся ў падарожжа. У той, усё яшчэ хрысціянскай, культуры гэта называлі пілігрымкай.

Чалавечае жыццё сплывае ў часе, яго немагчыма затрымаць. Немагчыма ў ім затрымацца. Мы пачынаем гэта разумець у пэўны момант, на пераломе. І тады некаторыя нараджаюцца другі раз: сярод адчаю і жаху, спрабуючы зачапіцца за штосьці трывалае, надзейнае.

Тыя, хто двойчы нарадзіўся, маюць дзве хады: адна ў гэтай рэальнасці, другая ў іншай, нябачнай. І ў той, іншай рэальнасці, яны патрапляюць у мейсцы нечаканыя і немагчымыя. Але расказаць, што там здараецца, можна толькі намёкамі.

***

Францішак паглядзеў на аўдыторыю. Усе сядзелі ціха.

Хлопец на апошнім шэрагу даставаў з торбы сшыткі.

Ён папрасіў не карыстацца ноўтамі і дыктафонамі: тое, што вам патрэбна, гэта невялікі экранчык унутры вас, сказаў ён на першай сустрэчы.

Калі настройкі не збітыя, на ім адаб'ецца ўсё, і ўсё застанецца.

Надзіва, гэта спрацавала, і большасць запісвала ад рукі.

***

Яшчэ раз. Пачнем ад самага пачатку.

Чалавечыя істоты выходзяць на святло і зноў хаваюцца ў цемру. Гэты працэс не мае яснага пачатку і не прадугледжвае натуральнага сканчэння.

Падчас свайго часовага перабывання яны праходзяць праз свет у здзіўленні і роспачы, радасці і страху. Пакорлівай пераляканасці і адчайным бунце.

Шмат хто сыходзіць дачасна: самыя нецярплівыя выбіраюць самагубства, іншыя – супадзенне з маскай. Некаторыя паміраюць пры жыцці, частка так і не нараджаецца.

Частка выбірае тутэйшую долю.

Вырашае застацца тут, сярод бытнага.

Угрызаецца ў рэальнасць, як быццам яна дадзена аднойчы і назаўсёды.

Потым прыходзіць разуменне, што гэта ўжо было.

Надыходзіць стома, і адчай, і безвыходнасць.

Разуменне таго, што жыццё ўрэшце ідзе ў камель, што пакаленні адкладаюцца, як гадавыя колцы ў дрэве.

І што свет дадзены, каб кожны раз усё пачынаць нанова.

Бо толькі ў часе *штосьці* можа праявіцца.

Час – тое, што ўсё *высвятляе*.

***

Некаторым удаецца вырвацца з пасткі.

Расплюшчыць вочы, закрычаць, – ад здзіўлення, пераляканай нязгоды. Не супасці ні з чым. Усвядоміць усё.

Паспрабаваць разгадаць загадку нашага з'яўлення. Ці хаця б проста ў яе патрапіць.

Зразумець штосьці важнае, тут і цяпер, сярод выпадковых дэкарацый эпохі.

Знайсці сябе на мяжы бытнага і нябыту.

У прадчуванні таго, што адкрыецца (непазбежна адкрыецца, мусіць адкрыцца) на тым баку, пасля ўсяго.

***

Там, на тым баку, мы патрапляем у пэўныя мейсцы. Можна было б сказаць, мы самі і ёсць пэўнымі мейсцамі.

Там, у іншай рэальнасці, можна быць Садам. У якім будуць жыць птушкі, кветкі, драконы.

Альбо пустэчай з пустэльнікамі. Уявіце сабе, мы патрапляем унутр і разумеем, што там анічога няма. Нягледзячы на тое, што навонкі ўсё віруе і танчыць.

Можна амаль вечнасць прасядзець у лабірынце, думаючы пра небяспеку, пра тое, як адсюль выбірацца. А напрыканцы гэтай *амаль вечнасці* зразумець, што мінатаўр – гэта ты.

***

Яго несла, метафары складаліся адна за адной. Як быццам нехта невядомы прачнуўся ўнутры яго і захацеў узяць удзел у размове. З таго боку. Хтосьці гаварыў праз яго, ягоным голасам.

Не, гаварыў ён, ён гэта ведаў, і адчуваў, але як толькі словы адрываліся, хтосьці далучаўся. Вёў і падказваў, папраўляў, рабіў заўвагі.

Ён відавочна адхіліўся ад асноўнай тэмы.

Трэба было разарваць расповед, пераключыцца на іншае.

Не факт, што ўвогуле яны разумеюць, пра што ён гаворыць. Тэма была складаная, можа быць, самая складаная з усіх. І шмат таямніц каля брамы.

***

Кацярына, што вы пра гэта думаеце?

Дзяўчына ў другім шэрагу падняла вочы. І адразу апусціла.

Кацярына была выдатніцай, заўсёды акуратна запісвала, адказвала на ўсе пытанні. Яна яму падабалася.

Нагадвала яго самога, у далёкія часы. Калі хацелася ведаць усё. Прачытаць усе кнігі, разгадаць усе загадкі.

А Бог – таксама месца, у якое мы патрапляем? – голас быў зусім незнаёмы і прагучаў аднекуль здалёк, з апошняга шэрагу.

***

Ён прыгадаў сон, што прысніў аднойчы.

Ён блукаў па калідорах кватэры, ногі былі ватныя, галава цяжкая. І ўвогуле нешта ішло не так. Ён адчуваў, пачынаў адчуваць гэта на ўзроўні страўніка.

Як быццам бы рэчаіснасць выпала з яго і недзе згубілася.

І нарэшце здагадка: ён памёр і блукае недзе на памежжах рэальнага.

Стала адразу лягчэй, ён нібы патрапіў у сваю форму, ужо як дух. І адразу ў глыбіні пакою адкрылася вакно.

Ён падышоў і пабачыў: чыстая светлая прастора наперадзе, а ўнізе бязмежны акіян, таксама светлы і неверагодна цёплы.

Вышыня была нерэальная і від адкрываўся эпічны, і тут ён раскінуў рукі, як птушка, і скочыў, – паляцеў туды, у бок акіяна, не было нават пытання, ці ён разаб'ецца.

Ён ведаў, чамусьці ведаў, ці нават памятаў, як усё будзе, і тады, адразу, неверагоднае шчасце працінае навылёт, вось яно, тое, што там, у той рэальнасці называлі Богам і ад чаго там застаюца толькі цьмяныя ашмёткі веры, падумаў ён, але тут сэрца скаланулася ад іншай эмоцыі, ён пакінуў за спінай штосьці важнае, дарагое, ён пакінуў там каханых, і гэта адгукнулася цьмяным болем тут, сярод вечнага.

Напэўна *Хтосьці* таксама адчуў гэты боль у ім, бо раптоўна, па-за сваёй воляй, ён памяняў кірунак, вочы расплюшчваюцца, і ён бачыць людзей вакол, што схіліліся над ім, ён вярнуўся, гавораць яны і нясуць яго на насілках кудысьці – знаёмыя? лекары? – і тут ён прачынаецца.

Ён адзін у кватэры, гатуе гарбату і думае пра дзіўны сон, у якім ён памёр і абудзіўся, пра дзве эмоцыі, шчасце з'яднання з Адзіным, каханне і боль асобнасці, фантастычна важныя, якія ў ім засталіся і сядзяць, як стрэмка. І пра тое, што гэта не можа быць выпадковым.

І тут ён прачынаецца яшчэ раз.

***

Шэсцьдзесят адзін цэнт, сказала прадавачка.

У студэнтаў пачалася наступная пара, ён сядзеў амаль адзін у кавярні. Трэба было б узяць пару сасісак і якую салату: калі яны сустрэнуцца з Далюсам, будзе ўжо не да закусак. Далюс прынясе тры дзявяткі.

Я занадта выпакутаваў, высніў сваё жыццё, каб так проста пагадзіцца

з новымі правіламі, так тупа быць умантаваным у новую сістэму – і пры гэтым быць удзячным... – запісаў Францішак сіняй асадкай.

Самае страшнае, што яны патрабуюць удзячнасці. І неяк скурай адчуваюць, калі ты *не да канца з імі*.

***

Так, чалавечае жыццё – усяго толькі падарожжа, – запісаў Францішак уяўным алоўкам недзе на палёх свядомасці. – У пошуках *мілага прытулку*. Мейсца, дзе можна было б *застацца*. А можа, нават *быць вечна*.

Некаторыя называюць гэтае месца Богам. Некаторыя Адсутнасцю. А некаторыя, як Леа, проста стаяць за стойкай і гатуюць каву.

***

На плато доўга свеціць сонца, але нават там яно вымушана заходзіць, – запісаў Францішак зялёнай асадкай.

Чалавечае жыццё раз-пораз падыходзіць да скраю. Напэўна, проста дзеля цікавасці, каб было ясна, што ўтульная паверхня свету – не назаўсёды.

Магчыма, гэта адбудзецца нават сёння.

Чаму не? Духі будуць удзячныя за ахвяру.

## 6.

Далюс мусіў чакаць яго каля свайго інстытута, і Францішак пацягнуўся на дзевятнаццаты. Звычайна ён вяртаўся на дзясятцы, праз Кальварыю. Даязджаў да прыпынку Шатрыя, і далей ішоў пешкі, пакуль не стамляўся.

Шатрыя гучала загадкава, як імя забытага бога, штосьці са старых індусаў. Але вакол віраваў тыпова віленскі раёнчык, з рынкам і тутэйшай трасянкай.

Сёння яны планавалі зайсці ў рэдкую кнігу і паглядзець магістарскую Рамулевіча. 1617 год, ex universa philosophia. Магчыма, гэта ягоны далёкі сваяк. А магчыма, і ён сам, толькі з іншай маскай, у другіх абставінах.

Потым няспешны віленскі шпацыр. Надвячорак, што незаўважна пераходзіць у сутонне.

І далей змрок, ліхтары, чаканне новай эпохі.

***

Далюс быў вясёлы й крыху п'яны, як гэта звычайна бывала пасля семінару.

Планы мяняюцца, сказаў ён замест прывітання.

Званіў Жыльвінас. Па ўсіх ягоных раскладах сёння Дзень Вялікага Літоўскага Змея. Мусіць адбыцца паміж восьмай і дванаццатай. Пачнецца на Зарэччы, у Доме ВКЛ, і далей распаўсюдзіцца на рэшту свету.

Жыльвінас у нас там накшталт шамана. Альбо жраца. Адказвае за святы і рытуалы. Сочыць за наваколлем. Калі знакі складаюцца, выпускае вужоў і ладзіць феерверкі.

Галоўнае, каб гэта не пачалося зарана. Вужы прыпаўзаюць з усяго раёна, пачынаецца паніка. Прыязджаюць паліцыянты і ўсё псуюць.

На маёй памяці гэта адбывалася два разы. І абодва разы фальстарт.

Так што забіраем Ірэну і Відаса. Ідзем на Зарэчча. Там сёння будзе весела. На разагрэве сучаснае мастацтва: *партрэт Мілаша з фуршэтам*.

***

Яны далі нырца ў завулак з Дамініканскай, адтуль патрапілі ў нейкія калідоры.

Ірэна сядзела на ўслончыку ва ўнутраным дворыку.

Будзьце ўважлівымі, сказала яна. Некаторыя дзверы зачыняюцца самі сабой, можна застацца ў якім-небудзь катушку вельмі і вельмі надоўга.

Тут многа неспакойных духаў. А яшчэ васіліск. Я часам прыходжу сюды, і ён выпаўзае. Напачатку палохаўся, цяпер прызвычаіўся, ужо не баіцца.

Усе расповеды пра яго – дзіцячыя страшылкі. Забудзьце пра люстэркі. Васіліск – маленькі цмок, пераляканы і сумны. Каралёк, калі па-нашаму.

Дарэчы, сёння ён быў асабліва чуйны. Але тры дзявяткі яму спадабаліся.

Пра васіліска пазней, сказаў Далюс. Цяпер Відас. Ён зноў у Трэцім камісарыяце. Чацверты раз за апошні месяц. Вызваліць яго можа толькі цуд. І мы гэты цуд добра ведаем.

***

Кабінет быў апошнім па калідоры.

Камісар сядзеў за сталом. Перад ім ляжаў вялікі нож, падобны да мачэтэ.

Гэта зусім не тое, пра што вы падумалі, сказала Ірэна замест прывітання. Рытуальны пуштунскі нож, падораны на памяць, як талісман, за добрую работу. Ад афганскіх дэхканаў.

Знаёмая штучка, сказаў камісар.

Я бачыў такія. Пад Кандагарам, у 1984. Я патрапіў туды пасля вучэбкі. Стаяў у каравуле, вартаваў склеп з прадуктамі. Старэйшыя далі пакурыць. Не ведаю, што там было. Каноплі, мясцовыя траўкі, хімія. Я нават не спрабаваў потым высвятляць.

Забрала практычна адразу. Напачатку радасць, дзікая, амаль жывёльная. Адчуванне магуты. І неўміручасці. А пасля трэцяй зацяжкі з'явіліся яны. Яны ішлі моўчкі, і ў кожнага быў такі нож.

Я дзейнічаў дакладна па статуце, першыя стрэлы ў паветра, потым на паражэнне, але яны адбівалі кулі, як гумовыя мячыкі. Гэта было страшна.

Вярнуўся ў прытомнасць толькі ў вайсковым шпіталі.

Там мне расказалі, што я гераічна ўварваўся ў склеп і расстраляў тры скрыні бляшанак з тушанінай. Усе пахаваліся. Мне яшчэ пашэнціла. Тушанінай аб'ядаліся два тыдні. Калі б хто пацярпеў, усё павярнулася б у іншы бок.

Мне далі медаль, за вайсковую адвагу. Каб замяць справу. Паводле рапарту, я праявіў пільнасць на пасту, своечасова "абнаружыў" напад душманаў.

З медалём мяне прынялі на юрфак без іспытаў. Герой вайны, усё такое. Запрашалі на вечарыны ў школы, прасілі расказаць пра подзвігі. І пасля кожнага выступу прыходзілі яны. Пагражалі нажамі, штосьці гаварылі. Рэзкія, гартанныя гукі. Я не вытрымаў, сышоў на чацвертым. Перавёўся на фарсі, у інстытут вайсковых перакладчыкаў.

Раз-пораз яны і цяпер з'яўляюцца. У снах. Але ўжо без нажоў. І галоўнае, я ўсё разумею, што яны гавораць.

Нажы ім цяпер не патрэбныя, сказала Ірэна. У іх дэмакратыя. Выбары. Відас быў назіральнікам, дапамагаў ім зрабіць усё правільна.

У іх ёсць Румі і Хафіз, сказаў камісар. Не кажучы пра прарока Мухамада. Навошта ім яшчэ дэмакратыя?

***

У мінулы раз быў бумеранг, – сказаў камісар. Падарунак ад абарыгенаў Аўстраліі. Таксама за добрую работу. Які ляцеў проста ў паліцэйскі патруль. Яны склалі рапарт.

Не зусім так, сказала Ірэна.

У мінулы раз яго папрасілі дзеці. Яны ніколі не бачылі бумерангаў. Дзеці – кветкі жыцця, як можна ім адмовіць. А патруль з'явіўся нечакана. Выйшаў з-за рога вуліцы. Усяго толькі падбітае вока і пералом мезенца правай рукі. Паліцыянт быў проста шчаслівы: атрымаў грашовую кампенсацыю і пазачарговы адпачынак.

А перад гэтым быў афрыканскі кій, з якім вы напалі на мірных грамадзянаў.

Камісар вагаўся.

Тады патруль у рапарце асабліва падкрэсліў, што вы былі п'яныя і ўяўлялі рэальную небяспеку для гасцей нашага горада.

Мы былі звычайныя, такія як заўсёды, сказаў Далюс.

Гэта госці былі небяспекай для нас, сказала Ірэна. Яны прыехалі з Усходу, ішлі з сабакамі і спявалі *кацюшу*.

Мы ім зрабілі заўвагу. Ветліва папрасілі. У адказ яны пачалі брудна лаяцца. Тады мы былі вымушаныя паклікаць на дапамогу афрыканскіх духаў. Паверце, гэта было надзвычай эфектыўна.

Камісар усё яшчэ вагаўся.

Мусілі быць дадатковыя аргументы.

Дарэчы, сказаў Францішак, пра бумерангі. Сабакі – гэта найгоршае, што можа цябе напаткаць на Усходзе. Каты там – амаль бадхісатвы, а сабакі – не, адны з найніжэйшых.

У нас усё па іншаму. Сабака – лепшы сябра, мы ведаем са школы. І гэта праблема.

Альбо там сабака ацэнены несправядліва, і на Захадзе разгледзелі штосьці важнае. Альбо Усход правы, і Захад зрабіў кармічную памылку, якая яму добра яшчэ адгукнецца.

Проста людзі ў нас тут бліжэй да сабакаў, сказаў камісар. У раёне трэцяга камісарыята. Прынамсі значна ніжэй за котак.

Забірайце вашага сябра.

***

Каля Святой Ганны стаяў Міцкевіч, узнёслы і задуменны.

Ягоныя вочы былі мяккія і вільготныя, як быццам бы ён ведаў штосьці важнае пра сутнасць часу.

Пра што тады яму спявалі сірэны, запытаўся Францішак. Ціха, амаль нячутна. І дзе цяпер тыя галасы? Эмануэль Ляхніцкі. Граф Грабянка. Прыўкрасны Аляшкевіч.

Як ім патрапіла тады паверыць? І чаму цяпер мы не можам быць як яны? Ідзем праз пустэчу бытнага, нязграбна і бессэнсоўна.

***

Мілы балаган, сцэна, спектакль доўжыцца ўжо не адно тысячагоддзе, – запісаў Францішак зялёным колерам.

Штукары, у стракатых вопратках, з эфектнымі фокусамі.

Усе пляскаюць у ладкі, усе задаволеныя.

Час патасных фэйкаў. Эмацыйнага шантажу. Саладжавага порна духу.

І дэмакратычнага кансэнсусу, як любіць дадаваць гандляр квіточкамі на ўваходзе.

Праблема толькі адна.

На трэцім шэрагу, справа, сядзіць чараўнік. І ў ягоных кішэнях сапраўды поўна галубоў і драконаў.

## 7.

Будынак вылучаўся з усяго навокал. Ён быў падобны на калядную цацку альбо касмічны карабель з іншапланетнікамі, што зазірнуў на хвілінку, ды так і застаўся сярод тубыльцаў. Старая фарба аблезла, але яшчэ можна было прачытаць словы на фасадзе.

LDK Namai – ДОМ ВКЛ.

Тут было два ўваходы і тры паверхі, калідоры, у якіх можна было заблукаць, і шмат пакояў. Разеткі, надзіва, дзейнічалі, хаця без лічыльніка: незразумела, хто плаціў за электрычнасць. Ваду, праўда, прыходзілася насіць з вуліцы, з калонкі. Была таксама прыбіральня, адна на ўвесь будынак.

***

Пасля перамогі было многа пустой прасторы, сказаў Далюс. У жыцці і ў галовах. Калі мы захапілі будынак, ідэя з'явілася сама. Мы нават не абмяркоўвалі іншыя варыянты.

*Дом ВКЛ*, напісалі мы на сцяне вялікімі літарамі.

Адсюль, сказалі мы сабе, адродзіцца слава старой Літвы. Не будзем паўтараць памылку дваццатых. Маленькая рэспубліка з малочнымі рэкамі ды смятаннымі берагамі. І амаль зусім без мастацтва.

Спачатку ніхто не звяртаў на нас увагі.

Мясцовыя раз пораз прыходзілі. Звычайна ў сутонні. Сядалі ў дворыку і глядзелі.

Потым з'явіліся паліцыянты. Толькі Гедымінас меў здольнасць з імі дамаўляцца. Ён і абвясціў сябе Вялікім князем. Хаця была апазіцыя, гэта праўда. Не ўсе былі згодныя на тэхнічную інтэлігенцыю.

Жыльвінас таксама прэтэндаваў на ўладу. Ён тады быў зусім іншы. Больш вясёлы і піў меней.

Распачаўся карнавал. Гэта быў самы шчаслівы час. Свята было штодня.

Думалі, што ўсё скончыцца разам з намі. Але ўвесь час прыходзяць новыя людзі. Не ведаю, хто яны і чаго тут шукаюць.

Гэта ўжо трэцяе пакаленне. Старых засталася зусім жменька.

***

Жыльвінас, вялікі літоўскі шаман. Жыве на паддашку. Нарадзіўся ў Сібіры, у сям'і выгнанцаў. Бацькі памёрлі рана, ён выхоўваўся сярод мясцовых. Па-літоўску ўсё разумее, але амаль не гаворыць.

Раз на год абвяшчае дзень Вялікага Літоўскага змея. Не заўсёды яму вераць. Часам ён застаецца зусім адзін. Але вужы збіраюцца з усёй акругі, гэта праўда. Не ведаю, чым ён іх бярэ. Гавораць, што ў яго свірысцёлачка і што яны самі яго шукаюць.

***

Гедымінас. Ён лічыцца вялікім князем, хаця бывае тут вельмі рэдка.

Па чутках, у яго кампутарная фірма ў Коўне. І вялікі маёнтак.

Ён дае хабар электрыкам і трымае дамову з паліцыянтамі.

Дарэчы, тут ёсць і беларускі пакой.

Хто там толькі не кантаваўся. Нават месцілася рэдакцыя газеты. *Ваша доля*, здаецца. Ці *Наша воля*. Не памятаю дакладна.

Цяпер там жывуць Ася і Кася, актывісткі з Магілёва. Мілыя дзяўчаты.

Заклеілі Звярынец плакатамі *Дзе Ганчар*.

Шкада, што лесбіянкі.

***

Напрыканцы калідора і налева – дзверы. Пані Зося. Яна мясцовая, з-пад Дэвянішак. Гаворыць на трасянцы. Але падчас спірытычных сеансаў па-французску, на лаціне і па-арамейску.

Часам просіць называць яе пані Агатка. Але неяк няўпэўнена, як быццам не пра сябе.

Пасля сеансаў не памятае, што гаварыла. Здаецца, не памятае і як яе завуць.

Навонкі, зрэшты, яе бачаць вельмі рэдка. Такое ўражанне, што яна нікуды не выходзіць. Са свайго пакоя.

Некаторыя лічаць, што яна тыпа прывід. Выпадковая матэрылізацыя, не ў сваім часе. Ну, ты разумееш.

***

Ёсць яшчэ Тэдзі. Свае карціны ён падпісвае *пан Тадэвуш*.

Ён адзіны з тутэйшых, нарадзіўся на Зарэччы.

У дзяцінстве марыў стаць віленскім *аль капоне*. Але пайшоў у мастацкую школу і цяпер амаль славутасць. Карціны ў прыватных калекцыях па ўсім свеце. Выставы ў Нью-Ёрку, Стакгольме, Рызе, Капенгагене.

Хаця ў душы так і застаўся маленькім бандзітам.

Ягоная майстэрня – наверх і направа па калідоры. Мы, уласна кажучы, туды й ідзем.

***

Тэдзі сядзеў у цэнтры пакоя, у вялікім фатэлі.

Справа ад яго стаяў мальберт, прыкрыты тканінай.

Злева і крыху ўглыбіні, прытуліўшыся да сценкі, стаяў дырэктар Французскага інстытута, з сакратаркай. Падобны да палкоўніка ў адстаўцы. Гэта была яго першая імпрэза на новым месцы працы.

Справа, адразу за мальбертам, сціпла хаваліся два сталы, з адкаркаванымі бутэлькамі бардо. І канапкамі.

Прысутнічаў таксама журналіст з *Летувос рытас*.

З незалежнай публікі яны былі першыя. Падобна, што і апошнія. Да пачатку прэс-канферэнцыі заставалася дзесяць хвілінаў.

Тэдзі паліў самакрутку і размаўляў сам з сабой.

***

Быў час, калі я іх абагаўляў. Быў час, калі ненавідзеў.

Цяпер я іх проста разумею.

Усё жыццё на задворках вялікай традыцыі. Вартаўнікі сэнсу, даглядальнікі канону. Ім непатрэбнае мастацтва прыгожае, і нават мастацтва істотнае. Такім у іх завалены ўсе музеі.

Ім патрэбна імгненнае прасвятленне.

Як удар палкай чаньскага майстра. Яны чакаюць гэтага ўдару, што нарэшце перавядзе стрэлкі на нуль, і пачнецца новая эра.

Толькі гэта можа выратаваць самотны Захад, а разам з ім і рэшту спакушанага ім свету. Якая глядзіць на яго, як трус на ўдава.

***

Тэдзі, гэта Францішак, сказаў Далюс.

Францішак, гэта Тэдзі, сказаў Тэдзі.

***

На мінулым тыдні, сказаў Далюс, Тэдзі ўкусіў крытыка Л. На выставе. І гэтым справакаваў новую дыскусію пра мэты і задачы мастацтва ў сучасную эпоху.

Цяпер усе спрачаюцца, ці гэта быў мастацкі ўкус, і ён хацеў сказаць гэтым штосьці важнае, альбо чысты акт хуліганства.

І ці быў тут элемент плагіяту. Бо, як падлічыў адзін эксперт, крытыкаў кусалі ў мінулым стагоддзі каля сарака разоў. І гэта толькі вядомыя, дакументальна пацверджаныя выпадкі.

Тэдзі ўсміхнуўся, радасна і прыязна. Было бачна, што яму прыемна пра гэта думаць.

Гэта быў не мастацкі ўкус. А ўкус мастацтва!

І ў той жа час акт вялікай постхрысціянскай міласэрнасці для Л. Бо няма нічога больш пустога і бессэнсоўнага для традыцыі, чым вучоны крытык, які ведае, што *ўсё ўжо было*.

І які на кожнае тваё слова здатны прыгадаць тры чужыя, *такія самыя*.

Я проста хацеў вярнуць яму яго самога.

Сказаць, што мастацтва – гэта заўсёды тое, што здараецца з табой асабіста. Усё, што было да таго моманту, неістотна.

Бо калі гэта здараецца, яно менавіта цябе кусае.

***

Зазвінеў стары будзільнік у правым куце. Гук быў пранізлівы і рэзкі. Усе ажывіліся.

Прэс-канферэнцыя можа лічыцца закрытай, сказаў Тэдзі.

Яна была прысвечана важнай постаці, і зусім не выпадкова, што ўсё адбылося ў Вільні, горадзе Вітаўта і Альгерда, паўночным Ерусаліме нашых душаў, прытулку сноў і мрояў, сёння сталіцы незалежнай Літоўскай Рэспублікі. Дзякуй Французскаму інстытуту за шчодрую дапамогу. Калі больш няма пытанняў, можам пераходзіць да віна і канапак.

***

*Адкрытай*, папраўліла сакратарка з прыязнай усмешкай. Прэс-канферэнцыя можа лічыцца адкрытай.

Француз галантна і ледзьве заўважна нахіліў галаву. Ён пакуль яшчэ не разумеў па-мясцоваму, і таму хітаў галавой раз на некалькі хвілінаў, на ўсялякі выпадак.

Тэдзі ўсміхнуўся ў адказ і працягнуў прамову.

Адкрытай ці закрытай, гэта пытанне перспектывы. З якога боку рэальнасці мы глядзім. Больш важна – на ёй я збіраўся прадставіць – урбі эт орбі – партрэт Фердынанда Мілаша. Напісаны ў традыцыйнай манеры, алейнымі фарбамі на палатне памерам...

*Оскара* Мілаша, паправіла сакратарка. Яна ўсё яшчэ ўсміхалася, але ўжо крыху трывожна. Па яе скуры пачыналі поўзаць мурашкі, і гэта відавочна было благім знакам.

Тэдзі паглядзеў на яе яшчэ раз, пяшчотна і бязлітасна.

Так, усе іх блытаюць, сказаў ён. Пра Фердынанда мала хто ведае. Фердынанд мой улюбёны.

Каб вы лепш зразумелі, я раскажу вам казку.

Пра трох братоў: Оскара, Чэслава і Фердынанда. Оскар выбірае Літву, нарадзіўшыся ў сэрцы Крыўі. Чэслаў выбірае Польшчу, нарадзіўшыся ў сэрцы Літвы.

Звыклая логіка дзеі патрабуе, каб трэці закальцаваў цыкл: выбраў Крыўю, нарадзіўшыся ў сэрцы Польшчы. Але ўсё больш складана. Фердынанд не выбірае ўвогуле. Ён застаецца сярод магчымасцяў. І проста цярпліва чакае.

Углядаецца ў прастору. Адгукаецца на тое, што яго магло б выбраць. Ніхто не ведае, дзе і калі ён нарадзіўся, дзе і калі памёр. І ці памёр увогуле.

***

Тэдзі тэатральным гэстам скінуў покрыва з мальберта.

На вялікім палатне, 160 на 230, была намаляваная сцяна драўлянага дома, асветленая веснавым сонейкам.

Перад ёй сядзеў важны шэры кот. Ён быў намаляваны ў рэалістычнай манеры. Толькі вусы былі крыху задоўгія, і гэта насцярожвала.

Унізе было падпісана: Фердынанд Мілаш, эсквайр.

Партрэт выкананы ў манеры метафізічнага рэалізму, сказаў Тэдзі.

Гэта ягонае мінулае ўвасабленне. Перад тым, як стаць Фердынандам Мілашам, ён быў катом. Ён сам прыгадваў пра гэта ў ненадрукаваным дзённіку.

Калі мне пашанцуе і я патраплю ў адпаведныя Архівы, я напішу пра яго кнігу, сказаў Тэдзі.

Ужо ёсць дамоўленасць з Польскім інстытутам у Рыме.

***

Я думаю, што ў Архіве Марэлі абавязкова знойдзецца пра яго вялізная тэчка, сказаў Францішак. Там любяць такіх герояў.

Назва кнігі мусіць быць запамінальная, сказала Ірэна.

Напрыклад: Біяграфія Фердынанда М., напісаная сціпла, без выкрунтасаў.

Гэта вельмі цяжкая задача для Тэдзі, сказаў Далюс. Напісаць яе без выкрунтасаў. Кароткімі простымі сказамі. Не ўжываючы прыметнікаў.

Так, сказаў Францішак, гэта будзе няпроста. І пачынацца яна мусіць з фразы: Фердынанд М. так і не паспеў нарадзіцца ў сваім часе.

***

*Мэрд*, падумаў дырэктар Французскага інстытута. Гэта была яго

першая думка за гэты вечар. Ён усё яшчэ не разумеў, што адбываецца. Але пазл у яго галаве пачаў складацца ў цэлае, і гэтае цэлае яму не падабалася.

Сакратарка стаяла збялелая. Гэта яна параіла дырэктару цудоўны праект з адным з найбольш цікавых прадстаўнікоў сучаснага мастацтва.

Затое ў карэспандэнта відавочна было акмэ. Ён ліхаманкава рыхтаваў фотаапарат і чакаў наступных падзеяў.

Досвед падказваў яму, што кульмінацыя ўжо блізка.

***

Удар злева быў элегантны і нечаканы.

Удалося адхіліцца направа, але гэта не выратавала. Блок быў прабіты, і кулак праехаўся каля вока, спыніўшыся ў міліметры ад носа.

Усё ж такі прафесіянал, паспеў падумаць Тэдзі. Справа і крыху знізу ішло дадаткам, сківіца прыняла ўдар, зубы гучна шчоўкнулі і занылі.

Пад левым вокам ужо пякло, там рыхтавалася выйсці на свет фіялетавая гематома, па-простаму – фінгал.

Дырэктар Французскага інстытута быў задаволены і гатовы да новых праектаў.

***

Удар у адказ быў падступны і не менш прафесійны.

Дырэктар нават не заварушыўся. Было ўражанне, што *там* у яго каменныя. Некалькі секундаў. Але потым стала ясна, што ўражанне памылковае. Ён сагнуўся і пачаў апускацца на падлогу, раз-пораз выдаючы цяжкія стогны.

Сакратарка анямела ад жаху і сораму.

Яе працоўны дзень падыходзіў да канца і меў усе шанцы стацца апошнім.

***

З левага кута пстрыкаў фотаапарат, у неверагодным тэмпе.

Гэта было нават лепш, чым мастацкі ўкус. Сапраўднае ўпрыгожанне заўтрашняга нумару. А з фотаздымкамі патрапіць і ў нядзельны дадатак пра культуру.

Засталося прыдумаць загаловак.

*Дырэктар Французскага інстытута быў збіты на адкрыцці выставы.*

Занадта суха. Няясна, хто біў і навошта. І якой выставы. Да таго ж дырэктар пачаў першы, гэта таксама трэба было ўзгадаць, дзеля журналісцкай аб’ектыўнасці.

*Удар па яйцах на мастацкай выставе Фердынанда Мілаша.*

Жорсткі трэш. Незразумела, чые былі яйцы. Да таго ж, можна падумаць, што Мілаш – гэта аўтар выставы.

*Фердынанд Мілаш наносіць удар у адказ.*

Ужо штосьці. Намёк на класіку поп-культуры. Дадатковыя сэнсы, якія незаўважна кампенсуюць адсутнасць асноўных. І не так крыўдна для пацярпелых, гэта таксама важна.

Трэба было бегчы здаваць матэрыял.

На стале ціха стаялі адкаркаваныя бутэлькі бардо.

На пах пачыналі падцягвацца жыхары Дома.

***

Тэдзі шчасліва ўсміхаўся.

Добры чалавек, сказаў ён. Адразу ўсё зразумеў. Павёў сябе адэкватна. І ўдары прафесійныя. Бачная школа. Хутчэй за ўсё, спецназ. У скрайнім выпадку – Замежны легіён.

Яны менавіта такіх сюды дасылаюць. Падымаць культуру.

***

Пра ўдары я ведаю амаль усё. Без гэтага на Зарэччы выжыць было б немагчыма.

Каму, як, чым і з якой сілай ударыць, – у гэтым была мудрасць, і гіерархія, і цэлая філасофія. Цябе б'юць у сківіцу, напрыклад, але ты разумееш, што гэта ад радасці, проста форма вітання. Альбо пстрыкаюць па носе, а ты халадзееш ад жаху, бо ведаеш, што далей можа быць фінка альбо заточка.

А з падсрачнікамі цэлы космас. Не было большай асалоды, чым з лёту, нечакана і пяшчотна, адправіць калегу ў аўт.

І ніхто не крыўдаваў ніколі. Усе ўсё разумелі.

Як той казаў, *страшны жэчы на Зажэчы.*

***

Міцкевіч таксама пра гэта ведаў, сказала Ірэна.

Кажуць, напрыканцы жыцця напісаў двухрадкоўе. Па-беларуску.

> На страшным судзе
> Усім у сраку будзе.

***

Сёння людзі ўжо не тыя, – сказаў Тэдзі. Практычна паўсюль. Таму, калі мы чытаем Вялікія Заходнія Кнігі, мы плачам.

Гільгамешы і Майсеі. Ахілы і Дон Кіхоты. Гамлеты і Вертэры. Вялі заблытанае чалавецтва наперад, адкрывалі будучыню, стваралі новыя сэнсы.

І ў нас бывалі гераічныя эпохі. Пётр Скарга, Леў Сапега, Мацей Бурачок.

А які раней быў Усход! Такія шыкоўныя істэрыкі. Спакушэнні хлябамі, інквізітары. Студэнты з сякерамі. Бабулькі-працэнтшчыцы. Я ведаў адну такую тут, на Зарэччы. Але яе так проста не возьмеш. Крэпенькая бабулька. І пільная.

На Усходзе тады былі галюцынацыі, сказаў Францішак. Інтаксікацыя мёртвым багам.

Ёсць яшчэ тры дзявяткі, сказала Ірэна. Нераспачатыя.

***

Каб зразумець, што адбылося, мы мусім трымаць у галаве асноўнае запытанне, сказаў Відас.

Хто ён, чалавек? Дзірка сярод бытнага, якую штырыць ад перадазіроўкі рэальнага, ці ўсё ж такі правы мае, на сваю радавую сутнасць, адчужаную ад яго бязлітаснай хадой гісторыі.

Пра першы варыянт сведчыць тысячагадовая традыцыя філасофскага мыслення, якое правальваецца ў гэтую дзірку, бясконца прадукуючы ўсё новыя і новыя карціны свету.

Другі больш аптымістычны і менш старажытны. Налічвае ўсяго некалькі стагоддзяў. Падчас якіх спакушанае чалавецтва села на хвост прыродзе, як яе гаспадар і карыстальнік. І пакуль зусім не збіраецца з яго саскокваць.

***

Чалавек сёння – гэта вяроўка між малпай і макдональдсам, сказаў Далюс. І дзіркі даўно ўжо няма. Там цяпер кантэйнер для смецця. Вываз кожную пятніцу, з 16.30 да 18.00. Фірма Спайдэрз энд санз.

Хутчэй першы, чым другі, – сказала Ірэна. Хаця правы ён, безумоўна, мае. Заваяваў, зайка, у працэсе натуральнага адбору.

Нічога, мы яшчэ пашаманім, сказаў Францішак.

***

Жыльвінас стаяў на калідоры і паліў цыгарэту.

Сёння важны дзень, сказаў ён кудысьці ў паветра, замест прывітання. Дзень Вялікага Літоўскага Змея. У гэты дзень уся Літва крыху бліжэй да неба.

Гэта вельмі старая гісторыя. З часоў, калі цмокі былі, як людзі. Жылі на горных вышынях, далёкіх і непадступных. Усё разумелі. Апекаваліся нашым светам.

Потым яны зніклі. Але адзін застаўся. У марскім палацы. Ён паабяцаў, калі раптам здарыцца канец нашага свету, ён прыляціць і забярэ з сабой усіх літоўцаў.

Ёсць адмысловыя куфры. Вялікія, цяжкія. У іх складаюць усё самае патрэбнае. У звычайныя дні іх не падняць і чатыром. Але калі надыходзіць Дзень Змея, яны самі ўздымаюцца ў паветра, як касмічныя чоўны.

Кожны літовец можа ўзяць з сабой яшчэ аднаго чалавека.

Выратаваць. Так што не бойся. Мы цябе не пакінем.

Там, за нябёсным шклом – тысяча іншых светаў. У гэты дзень мы можам дакрануцца да іх рукой. Адчуць, як пульсуюць, тахкаюць іх сэрцы...

***

Ён да чагосьці рыхтаваўся, унутры сябе.

Калісьці мы думалі, што яны вернуцца. Але яны не вярнуліся.

Можа, мы недастаткова верылі. А можа, у іх не засталося веры. У тое, што мы чагосьці вартыя.

Цяпер нашая цывілізацыя – як прытулак для хворых.

***

Хто яны, ціха запытаўся Францішак. Пра каго ён гаворыць?

Пра Цмокаў, сказала Ірэна. Ці Багоў. Ці пра ўсіх разам. Большую частку жыцця ён праводзіць там, з імі. Калі вяртаецца, крыху расказвае. Але цяпер ужо значна менш, і не ўсім.

***

Яны смяюцца, сказаў Жыльвінас. Я адчуваю гэта.

З нас. З нашай пыхі. З нашай дурасці. Глядзяць на нас і смяюцца. Смех усё ўзмацняецца, я гэта чую. І сёння яны лопнуць ад смеху. Гледзячы на наш свет.

Гэта ў яго ломка, – сказала Ірэна, ён адчувае недастачу, але насамрэч ідзе перабор.

***

Потым яны зноў нараджаюцца. Да канца памерці яны не ў стане. Гэта не ў іх уладзе.

Але, калі там яны паміраюць, тут у нас становіцца асабліва халодна. І сіратліва.

Хтосьці ўсё гэта задумаў менавіта так.

***

Вялікі Літоўскі Змей – гэта кароль вужоў, сказала Ірэна.

Пра яго распавядаюць у старэйшых групах дзіцячага садочка.

Ён жыве ў моры, пад хвалямі. І ясна, чакае, пакуль прыгожая дзяўчына не пачне купацца. Тады ён хапае дзяўчыну і цягне яе ў свой палац. Палац марскі, але самы сапраўдны. І дзяўчына – самая прыгожая.

Усе застаюцца ў плюсе.

Літоўцы вельмі любяць гэтую гісторыю.

***

Ціхо вшэндзе, глухо вшэндзе, – сказала пані Зося трагічным шэптам.

У далёкім куце хтосьці засмяяўся.

Яны зайшлі ў пакойчык, калі ўжо ўсё пачалося, фіранкі на вокнах былі шчыльна задзёртыя. Падлога была засланая кілімам, мэбля старая, хутчэй за ўсё, даваенная.

Пасярэдзіне стаяў вялікі стол, *з прыладамі*. Усе сядзелі вакол яго ў паўцемры, узяўшыся за рукі.

Было тры вольныя месцы, як быццам пра іх ведалі. І чакалі.

Францішак не адразу паверыў, што гэта рэальна.

***

Пані Зося глядзела кудысьці ўбок, у самы кут пакойчыка, уважліва і пільна. Нейкім іншым, адсутным позіркам.

Першая фраза была ідэальная.

Няясна было толькі, ці гэта яна сама прыдумала, ці хтосьці з духаў весяліцца.

Так, гэта маглі быць духі, якіх забаўлялі нашыя спробы наладзіць з імі кантакт. Але мог быць і пан Адам. Чаму не?

Улюбёны горад, зусім побач кватэрка, у якой ён правёў столькі часу. Да таго ж, уласны помнік каля святой Ганны, гэта таксама прыцягвае.

Сапраўды, а як паведаміць адтуль, што гэта менавіта ты? Не скажаш жа наўпрост. З іншага боку, і занадта ўскосныя намёкі маглі не спрацаваць.

***

Ён разгубіўся, бо так і не выбраў суразмоўцу.

Можа быць, Аляшкевіч? Запытацца пра рукапіс. Ці бедны Эміліё? Ці Адам М., мілы і сумны вешч? Альбо нават Андрэй Т.

Мусіў быць хтосьці з мясцовых, тых, хто яшчэ памятае гэтыя вулкі. Ён ніяк не мог настроіцца, патрапіць у тон.

А запытацца можна было б шмат пра што.

Пра спектакль. Пра актораў. Чаму ёсць свет, а не Нішто. І што адкрылася, раптоўна, гэтаму когіта. Тады, у сямнаццатым стагоддзі. Калі выбралі практычную магію замест метафізікі.

***

Ужо хвілінаў пяць ён сядзеў моўчкі.

У галаве круціліся розныя бязглуздыя фразы.

Што там, пасля смерці?

На якой мове вы там гаворыце?

Ці бачылі вы там багоў, альбо іх сапраўды прыстрэліў Борхес у адным са сваіх сноў, пры спробе вяртання?

Усё гэта гучала недарэчна. Нейкая вар'яцкая каша.

Раптам ён адчуў прысутнасць. Побач. Як быццам лёгкі ветрык, каля самых скроняў.

Хто тут? – падумаў Францішак. І далей, не чакаючы адказу:

Гэта Вы, Майстра?

***

Чыйсьці голас у яго галаве выразна прамовіў:

Тут я зусім не майстра. Тут няма чаго майстраваць. Усё ўжо даўно змайстравана.

І далей, праз некалькі секундаў, ціха, амаль інтымна.

Вакно адчынена. У куточках вуснаў: сунічны страх, жоўтае шчасце.

***

Голас быў знаёмы, ён ужо гучаў сёння ў яго свядомасці. Альбо ў рэальнасці, ён пакуль не разабраўся.

Тры дзявяткі часам давалі такі эфект. Відас аднойчы гадзіну размаўляў сам з сабой пра Сакрата. Прымяраючы розныя маскі.

Але тут была асаблівая сітуацыя. Голас прамаўляў аднекуль знутры, з яго галавы.

І яшчэ. Голас быў выразна жаночы.

***

Вакно адчынена. Гэта відавочна не пра гэты пакойчык.

Вокны тут былі захінутыя фіранкамі, так, што не заставалася аніякіх шчылінаў.

Ён агледзеўся. Пані Зося заціхла і глядзела кудысьці далёка, унутр сябе. Такое ўражанне, што яна проста заснула.

Далюс і Ірэна сядзелі моўчкі і засяроджана. Вочы шырока расплюшчаныя, на тварах – маска. Не было сумневу: у іх галаве таксама быў голас. Няясна праўда, ці той самы.

Смех у куце не спыніўся, наадварот, ён пачаў нарастаць, станавіўся ўсё больш выразным і больш страшным.

Вочы адаптаваліся да паўцемры, і цяпер ён ясна бачыў, што там нікога няма.

***

За вокнамі раздаўся характэрны гук разрыву, усё асвятлілася рознакаляровымі пырскамі.

Гэта Жыльвінас запусціў феерверкі.

Бралася на дванаццатую. Вужы, напэўна, ужо дапаўзаюць. Неўзабаве мусяць прыехаць паліцыянты. Пачаўся Дзень Вялікага Літоўскага Змея, што б гэта ні значыла.

Час шукаць сабе іншы прытулак.

## 8.

У клубе было суха і цёпла. Ён павітаўся з ахоўнікам, здаў торбу і пачаў прабірацца па калідорчыках наперад. Трэба зрабіць пару правільных паваротаў, каб патрапіць у залу. Было штосьці прыцягальнае ў гэтых сутарэннях. І знаёмае. Як быццам ілюстрацыя, з нейкага даўно забытага кіно ці альбома.

Магчыма, ён бываў тут раней, у іншых жыццях, падумаў ён, выбіраючы, куды сесці. Ягоны ўлюбёны фатэль, справа ад сцэны, быў заняты, і ён скіраваўся ў далёкі кут. Адсюль бачна горш, але больш утульна і бяспечна.

***

Далюс завёў яго сюды калісьці даўно. Яны былі п’яныя, гаварылі пра Гесэ, і той раптам сказаў, што тут, у Вільні, ёсць мейсца, дзе здараюцца цуды. Амаль магічны тэатр, і толькі для вар’ятаў.

Яны доўга блукалі старымі вулачкамі. Потым спусціліся ў сутарэнні, селі. Грала загадкавая музыка, голас ціха гаварыў па-літоўску. Далюс паказаў на дзверы ў далёкім куце і сказаў, што адтуль мусіць выйсці галоўны маг і тады ўсё пачнецца.

Францішак амаль паверыў. Чакаў, што адбудзецца нешта неверагоднае. Але музыка скончылася, з калідора высыпала гурба дзяўчат у стракатым адзенні, якія пачалі разлятацца па зале.

Магічны тэатр аказаўся начным клубам. Яны пасмяяліся, ён ніколі не бачыў такога ўжывую. Яму спадабалася.

Зайшоў яшчэ раз, без Далюса. Потым яшчэ.

Урэшце ён стаў тут амаль сваім. Яго пазнавалі танцоркі, з некаторымі ён сябраваў. Там, на паверхні.

Ведаў на памяць сцэнар. Ціхая музыка. Голас. Танцы. Хтосьці з дзяўчатаў падсядае, знаёміцца. Прыходзіць афіцыянтка, прапануе замовіць. Лёгкі кактэйль за сто дваццаць літаў. Альбо крыху віскі за дзвесце.

Напачатку ён бянтэжыўся і не ведаў, што адказаць. Тут усе насілі маскі, і адказваць сур’ёзна было б кепскім тонам. Але й проста прыдумляць было няёмка.

Да таго ж, чым далей, тым болей ён разумеў, што ёсць нейкі сакрэт у гэтым мейсцы. І што, магчыма, Далюс зусім не жартаваў, калі казаў пра цуды.

***

Пасля дванаццаці распачыналася экзотыка. Звычайна Ірыс з сяброўкай гуляла ў лесбійскія гульні. Альбо запрашалася пара, якая ладзіла рамантычнае спатканне, проста на сцэне. Раз-пораз прыдумляліся і больш радыкальныя рэчы...

Ён тады пазнаёміўся з Дыянай, танчыла яна рэдка, але з радасцю расказвала гісторыі. Яна хацела стаць антрapолагам, працавала ў музеі. Тут у яе была, як яна сказала, этнаграфічная практыка.

Поруч сядзелі трое маладых брытанцаў. Дзень нараджэння як-мага-далей-ад-дома. І хтосьці з іх замовіў шоў. Сада-маза.

Яны думалі, што гэта жартачкі, гульня, але патрапілі ў палон дзвюх раз’ятраных літоўскіх бландынак з-пад Друскенікаў. І гамон, лягай у акопы. Дзве гадзіны ў кайданках, з кляпамі ў роце, ціха стагналі, прыкутыя да шаста, пакуль іх не вызвалі адміністратар.

Некалькі год бландынкі працавалі ў Брытаніі, сказала Дыяна. Прыбіральшчыцамі. І цяпер адключыліся напоўніцу. Салодкая і падступная помста гаспадарам свету.

Ангельцы ўсё ж такі надта даверлівыя, сказала яна. Перакананыя, што свет вакол іх мае сэнс і парадак. Прыдуманы і апісаны ў Оксфардзе на кафедры батанікі.

***

Немцы сапраўды такія, як усе пра іх думаюць, нават дзіўна.

Шведы многа п’юць і радуюцца чамусьці свайму, вельмі паўночнаму.

Французаў не бачылі тут тысячагоддзямі.

Для літоўцаў гэта экспартны прадукт, яны часам заходзяць, каб праверыць якасць.

Апошнім часам патрапляюць менчукі, снобы, якія строяць з сябе такіх сталічных штучак у прыгарадзе, ха-ха-ха.

***

Гэтым разам ён замовіў кавы, хаця й разумеў, што выбіваецца са звыклага рытуалу.

Звычайна замаўлялася піва альбо брэндзі, і далей можна было сядзець гадзінамі, сузіраючы прыгожых матылькоў, што пералятаюць з месца на месца, нідзе не спыняючыся больш за некалькі хвілінаў.

Калі, вядома, не знайсці словы, якія іх затрымаюць.

Словаў было ўсё менш. Зрэшты, ён заходзіў сюды ўсё радзей. Лепшыя танцоркі з’язджалі: у Партугалію, на Кіпр, у Грэцыю. Заставаліся мілыя дзяўчаты, якія хадзілі па сцэне, распраналіся, не патрапляючы ў музыку. Ён не запамінаў іх імёны...

Напэўна, усё ж такі ён чакаў цуду. Падсвядома. Хаця ў гэтым і не прызнаваўся. Нават сабе самому.

Але цуд не адбыўся. З дзвярэй, на якія яму паказаў Далюс, так ніхто і не выйшаў. Было падобна, што сённяшні візіт стане апошнім.

***

Я – Марго, сказала дзяўчына.

А ты адкуль? Як цябе завуць?

Пытанні былі звычайныя як для танцоркі. Але голас, інтанацыя былі іншымі. Больш вясёлымі і даверлівымі. Як быццам яны стаялі на прыпынку і чакалі аўтобус. Ці стаялі на калідоры ўніверсітэта, пасля лекцыі.

А мяне Артур, сказаў Францішак. Так звалі героя адной недапісанай п’есы. Будзе час і жаданне – раскажу больш падрабязна. Там цікавы сюжэт. Ці ягоная адсутнасць, можна і так сказаць.

***

Што ты тут робіш?

Чакаю весткі. Адзін добры знаёмы папярэдзіў, што гэта можа здарыцца сёння.

Сёння асаблівы дзень. Дзень Вялікага Літоўскага Змея.

Так што мусім быць гатовыя.

***

Гатовыя да чаго?

Гэта залежыць ад розных рэчаў. Простых і не вельмі.

Ад таго, пра што будзе вестка. Якія словы праявяцца раптоўна, на ваконнай шыбе. З таго боку.

І ці паспеем мы захінуцца ў барвовы плашч, пра які пісала Стэла ў сваім апошнім вершы да Свіфта. Калі нам нарэшце стане зусім невыносна, у халоднай пустой бессэнсоўнасці.

Ведаеш, старыя кітайцы лічылі, што наш свет месціцца ўсярэдзіне вялікага гарбуза. Няправільнай формы. Знізу прастакутнік, зверху сфера. Часам мне здаецца, што яны зусім не жартавалі.

***

Не думай так многа пра холад.

І пра бессэнсоўнасць.

Тут цёпла, – дзяўчына прытулілася да яго, ненавязліва, амаль цнатліва. Ад яе сыходзілі цёплыя хвалі, як ад маленькай грубкі.

Гэта дзівіла Францішка найбольш – дзяўчаты тут ніколі не мёрзлі, хаця хадзілі амаль без вопраткі. І ў голасе была непадробная цікавасць, хаця й крыху тэатральная. Як быццам голас ужо прадчуваў, альбо нават ведаў адказы. *Яго* адказы.

Пагавары са мной. Мой выхад яшчэ далёка.

Раскажы што-небудзь. Пра сябе. Пра сваіх сяброў. Ці проста знаёмых.

***

Калісьці тут жыў чалавек, які ведаў.

Ён быў тутэйшы. Нарадзіўся непадалёк. Вучыўся ў гэтым горадзе. Надрукаваў тут першае апавяданне. А потым атрымаў прасвятленне, нечакана. У адным з мясцовых касцёлаў.

Яго называлі Майстар з Літвы. Майстар у сэнсе настаўнік, як у сярэднявечным цэху. Ён вучыў, як адкрыць і настроіць сваё сэрца. Як патрапляць у тон.

Ён казаў, што сэрца – гэта інструмент, на якім мы можам граць самыя розныя мелодыі. Для некаторых рэчаў дастаткова простай вясковай скрыпачкі, а іншыя патрабуюць добра тэмпераванага клавіра.

Як музыка: калі мы знаходзім гармонію – усё ў нас адгукаецца. І тады мы верым, і ідзем наперад.

Разумееш, іншыя чыталі пра гэта ў кнігах, а ён проста ведаў. Проста жыў. Праходзіў праз формы, без прыкрасці і шкадавання.

І ніхто не мог зразумець, адкуль гэтая веда. І ён сам не разумеў да канца.

Сёння так ужо не ўмеюць.

***

А хто ён па гараскопе?

Канец года, як і Міцкевіч. Хутчэй за ўсё, казярожка, хаця не ўпэўнены...

Казярожкі такія. Яны могуць.

***

І што ты яму сказаў бы, калі б вы раптам сустрэліся?

Нічога асаблівага. Сказаў бы, што ўсё, што ён рабіў, было не дарма. Калі хаця б аднаму чалавеку гэта патрэбна, значыць, усё было не дарма.

Калісьці, у бібліятэцы, я натрапіў на тры тамы ягоных твораў. Яны былі выдадзеныя пасля смерці, ягонымі сябрамі і прыхільнікамі. У адным італьянскім горадзе.

Там было сабранае ўсё. Тэксты, размовы, сны. Выпадковыя нататкі. Як стрэл у будучыню.

І самае страшнае: ува ўсіх трох тамах старонкі былі неразрэзаныя.

***

Мне проста цікава, ці засталіся настаўнікі ў гэтым свеце. Тыя, каму можна верыць. Хто мог бы падказаць дарогу, калі зусім цёмна.

Ці яны ёсць, але нам не дадзена гэтага ведаць, і таму мы пражываем жыцці, як быццам іх няма.

Альбо, наадварот, іх няма, даўно няма, але мы трымаемся з усяе моцы, жывем так, як быццам мы разам з імі. Чакаем, спадзяемся.

Канечне, можна ісці самому. Біцца галавой аб сцену. Але якое трасцы тады яны пакідалі сляды, тарылі сцежкі. Абяцалі.

***

Я адзін з тых, хто раптоўна прачнуўся пасярод сну, і больш не можа жыць, пакуль не зразумее, што ўсё гэта значыць.

Ведаеш, як гэта бывае. Часам ходзіш кавалкам дрэва, прыдуманай кімсьці лялькай, а потым абуджаешся і патрапляеш у самога сябе.

І ўсё становіцца няпроста.

І выбар насамрэч невялікі. Альбо паспрабаваць яшчэ раз заснуць, альбо пачаць думаць пра выратаванне. Вызваленне. Пра пераход на той бераг.

***

Ад чаго ж ты хочаш уратавацца? Ад смерці?

Хутчэй ад жыцця. Як можна аддзяліць жыццё ад смерці? Хіба мы не паміраем штохвіліны?

***

Чым жа жыццё так цябе расчаравала?

Наадварот, чым далей, тым больш яно чаруе. Незразумела, што гэта такое. І што з усім гэтым рабіць. Каму падзячыць. Альбо наадварот, каму падаць скаргу.

***

Ён слухаў самога сябе і не верыў: ён гаворыць усё гэта танцорцы ў начным клубе. Такога ніколі не здаралася, сёння сапраўды дзень быў асаблівы.

Марго падсунулася бліжэй, быццам хацела расказаць нешта сакрэтнае. Стала цёпла і ўтульна, амаль па-хатняму.

***

Усё гэта вельмі дзіўна – сказаў Францішак. Мы з табой нагадваем персанажаў адной п’есы, якія выпадкова заблукалі не ў сваю прастору. Я казаў ужо пра яе. На пачатку.

А пра што п’еса? – запыталася Марго.

Пра рыбак.

Пра рыбак? – перапытала Марго крыху недаверліва

Так, ёсць адна вельмі вядомая п’еса пра рыбак, з яе пачаўся беларускі метафізычны тэатр. Там усяго два персанажы – Артур і Марго. Дзве рыбкі. Яны плаваюць у акварыуме і размаўляюць.

Звычайна рыбкі маўчаць, нават у постмадэрновых п’есах. А тут яны абмяркоўваюць важныя рэчы.

Ніколі не чула, сказала Марго.

***

Я бачу, у цябе праблемы, сказала Марго.

З людзьмі і з рыбкамі.

Расслабся. Зараз выйдзе Санта, яна рыхтуе сюрпрыз. Штосьці адмысловае.

Санта з’ехала, сказаў Францішак. На Кіпр. Тры месяцы таму.

Не для ўсіх, сказала Марго. І ўсміхнулася.

***

Санта была легендай клуба. Калісьці ён наважыўся з ёй пазнаёміцца. Запрасіў на каву. Там, наверсе. Яны сустрэліся на Гедыміна і прагаварылі некалькі гадзінаў.

Але гэта было даўно. Вельмі даўно.

Марго выйшла на хвіліну і вярнулася.

Зараз будзе яе танец, сказала яна амаль шэптам.

Санта цябе памятае. Яна была ўражаная вашай сустрэчай. І шкадуе, што ты не пазваніў другі раз. Хаця разумее.

А ты? Калі будзе твой танец?

Не спяшайся.

***

Загучала мелодыя, тонкая і, відавочна, больш складаная, чым маглі сабе дазволіць тут, у начным клубе.

Усе глядзелі ў далёкі кут, на дзверы.

Тыя, пра якія калісьці казаў Далюс.

Дзверы адчыніліся самі, без нічыёй дапамогі, ціха і бязгучна, нібы ў сне. З іх пачалі з’яўляцца танцоркі, адна за адной.

А вось і Санта. Яна выйшла, цырымонна пакланілася, прайшла пад музыку да асобнага століка, каля самага ўваходу.

Танцоркі разляцеліся па зале, потым сабраліся на сцэне. Яны былі ў касцюмах і масках з розных эпохаў. Дзяўчына ў кітайскай масцы яму кагосьці нагадвала. Твар за маскай не праглядаўся, але пастава, рухі, усё гэта было знаёмае аж занадта.

Музыка прыцішылася, і Санта выйшла на подыум.

Усе заціхлі ў чаканні.

***

Гэта надзвычай важны вечар для ўсіх нас, сказала яна. І зусім невыпадковыя госці. Сабраліся тыя, хто верыў і чакаў, што цуды ўрэшце

адбудуцца. Што за тонкім покрывам бачнага свету хаваецца іншы, і раней ці пазней ён праявіць сваю ўладу.

Сёння ў нашым маленькім магічным тэатрыку незвычайнае відовішча. У ім бяруць удзел лепшыя артысты, якія сабраліся дзеля гэтага з розных частак кантыненту.

Музыка і пастаноўка адмыслова запрошанай дарагой госці, якая пакуль застаецца інкогніта, за маскай танцоркі Гунсунь.

Санта дала знак, і гукі сталі грамчэй, мелодыя пачала разліваецца навокал, запаўняць, лёгка і незаўважна, усю прастору. Танцоркі зноў разляцеліся па зале і пачалі танец.

***

Ён агледзеўся. Усё было так, як і раней, подыум, сцэна ў глыбіні залы. І ўсё ж штосьці няўлоўна змянілася.

Было адчуванне, што ён ужо ў іншым мейсцы. А можа, нават і ў іншым часе. Як быццам патрапіў у мінулае. У даўнюю кавярню, якую сёння прыгадваў. У якой ён напісаў першыя вершы.

Насупроць дзіўная кампанія размаўляла па-нямецку.

Ён ужо бачыў некаторых з іх, зусім нядаўна. На сеансе ў пані Зосі.

***

За суседнім столікам сядзеў Далюс з маладой дзяўчынай.

Дзяўчына была падобная да прынцэсы са старой скандынаўскай казкі.

Далюс расказваў мне пра Вас, сказала яна.

Ён сказаў, што вы пішаце раман і што ўсе будуць персанажамі. Вазьміце і мяне таксама. Я буду добра сябе паводзіць.

Ён пажартаваў, сказаў Францішак. Ці перабльітаў.

Гэта раман нас усіх піша.

Далюс усміхнуўся і сказаў: знаёмся, гэта Аста.

***

У самым куце сцэны, за пультам, сядзеў Леа. Гэта не мог быць Леа, – прайшло ўжо столькі год, а чалавек у куце быў падобны да таго Леа, з даўна прамінулай эпохі.

Францішак яшчэ раз агледзеўся.

Усё яшчэ грала музыка, тая самая.

Але цяпер да яе далучыўся яшчэ і голас. Голас Эвы Дамінікі. Гэта яна была кітайскай танцоркай.

Гэта была яе музыка. І яе танец.

***

Далюс не дарма яго тады папярэдзіў. Пра магічны тэатр і пра вар’ятаў. Усё ж такі ён патрапіў сюды, на самы скрай. У месца, дзе ўсё магчыма. Усё невыпадковае. І ўсё застаецца.

Яны былі на паветраным шары, цяпер ён у гэтым не сумняваўся. Падняліся вышэй за аблокі, і цяпер уздымаліся яшчэ вышэй, туды, дзе зоркі. Калісьці ён паабяцаў, што гэта адбудзецца.

Эва Дамініка спявала па-гішпанску. Ці па-італьянску. Ён сёння прыгадваў тую ноч, у інтэрнаце, калі яны цалаваліся ў ленінскім пакоі, пад італьянскую музыку.

На вышынях мусіць быць халодна, падумаў ён і пашкадаваў, што не ўзяў з сабой плед альбо коўдру.

***

Аднекуль нараджалася ціхая радасць і пяшчота. І неверагоднае, амаль казачнае адчуванне шчасця.

Побач ляжала, згарнуўшыся ў абаранак, маленькае вужанятка. Разпораз яно варушылася і ціха сіпела, тыкаючыся пысачкай яму ў сцягно.

Гэта Жыльвінас даваў знак, што ўсё атрымалася.

Ён паклікаў афіцыянтку і папрасіў прынесці сподак малака. Тая не адразу зразумела, а потым войкнула і пабегла на кухню, збіраючы па дарозе каляжанак.

Мусяць быць яшчэ цуды, падумаў ён. Абавязкова.

***

А цяпер мой танец, сказала Марго.

Ён зусім не просты. Падрыхтуйся, калі ласка.

Ён для тых, хто *хацеў бы прачнуцца*.

***

І ўбачыць. І ўсё зразумець.

Леанід Галубовіч



...Зямля забірае мёртвых.
А неба збірае жывых...

# З вечнасцю ў падсвядомасці

* * *

Цэлы год не быў
на бацькаўшчыне.
І вось – завітаў
позняй восенню.

Плот ашчэрыўся,
як на чужынца.
Крумкач кружляе,
нібы над злодзеем.
Гнілымі п*а*данкамі
частуе яблыня...

А куст асоту,
як злы сабака,
паўстаў ля ганку:
не падпускае
да роднай хаты...

*16 жніўня 2015*

* * *

У вёску прыеду – і ціша нямая:
ні брэху сабак, ані груку ў падворках...
Душа тут мая ўжо нічога не мае,
нібыта прайшла па былым *прадразвёрстка*...

Дзед выпне да студні з вядром “камунмаша”,
пра нешта сваё пабубніць з калаўротам...
*– Якое жыццё тут цяперака наша,*
*ад могілак ледзь адгароджаных плотам...*

І пойдзе паціху да весніцаў скрыплых,
мне кінуўшы позірк з двара спавядальны...
І ўсіх нас – знямелых, знямоганых, гіблых –
ахутае холадам слоў развітальных...

*1 лютага 2013*

## АЎКЦЫЁН СУМЛЕННЯ

На аўкцыёне ў Нюрнбергу
(а дзе ж яшчэ?!)
выстаўленыя на продаж
акварэлі Гітлера
пайшлі з малатка
за 450 000 даляраў...

Цяжка сказаць,
якую каштоўнасць у тых карцінах
бачаць іх цяперашнія ўладальнікі.

Я бачыў толькі
фотарэпрадукцыі тых карцін,
але, спрабуючы
віртуальна
абярнуцца да іх тварам,
у падсвядомасці сваёй
застываю саляным слупам,
і рассыпаюся грудай костак
на халодным попеле памяці...

Малюнак замка Нойшванштайн
аказаўся самым дарагім;
цікава, ці не ўяўляліся ўжо тады
Адольфу Шыкльгруберу

вежы гэтай будовы
правобразамі каміноў
канцлагерных печаў?..

Даўно на гэтае пытанне
няма ў каго дазнацца адказу...

*22 чэрвеня 2015*

## ДЗВЮХМОЎЕ

І мова, і *молва* –
як мора і *волна*.
Глыбінны корань іх –
адзіны на дваіх.

З адной яднае кроў
ад продкаў да нашчадкаў,
другая – межны роў
палону і нападкаў.

Ды вал *молвы* такі,
што тут і воя змусіш
пакінуць на вякі
*безмолвие* і вусціш...

І калі стане так,
то помні, люд двурушны,
што ты зямны камяк
бязбожны і бяздушны,

што Бог недастварыў
цябе, не ўдзьмуўшы духу,
каб ты не гаварыў,
а меў праз Слова скруху.

*4 сакавіка 2013*

* * *

Паэткі пашанотнага веку
любяць прыкладваць фоткі
з архіваў колішняга юнацтва
да сваіх цяперашніх публікацый...
Такія гожыя дзеўкі!

І як жа яны *ўмацярэлі*,
пакуль я пісаў рэцэнзіі
на іх фрывольныя вершы...

*3 кастрычніка 2015*

* * *

Людзі фатаграфуюцца
паўсюль і ўсяляк
для сябе і для іншых,
запаўняючы сваімі выявамі
смартфоны і кампутары,
па часе іх адтуль выдаляючы,
каб запоўніць новымі...

Мне ж ад бацькі
застаўся адзін фотаздымак,
зроблены ім на пашпарт...

Адна выява,
а колькі вобразаў! –
займае ўсю памяць,
збірае ўвесь радавод...

*3 кастрычніка 2015*

* * *

*Ахвярую*
*А. Бембелю (інаку Мікалаю)*

Жыццё, што згубіла святло,
туляецца ў цемры,
а ўсё, што ў нябыт адышло,
спускаецца ў церні...

І ты, адзінокі манах,
ад зману зямнога,
ўзляцеў у нябёсы, як птах,
з гнязда радавога,

бы свой усявышні пасыл
адчуў падсвядома...
І чый ты цяперака сын
табе невядома...

*1 чэрвеня 2014*

## *ПАМЯЦІ ТАЦЦЯНЫ ЗІНЕНКА*

*Вох, як цяжка траве...*
Т. Зіненка

Не будзіце мяне,
не тапчыце траву,
я пад ёй, нібы ў сне,
ў сваіх вершах жыву.

А ці добра жыву
я
  ці кепска жыву? –
вы спытайце траву,
як складзе галаву

ці пад вашай нагой,
ці пад вострай касой
з незямною тугой,
са слязою-расой...

Вам прашэпча трава
верш са свету таго,
бо не зможа трываць
болей болю майго...

*24 студзеня 2014*

* * *

Дзень выбараў
у прыцемках датлеў
датэрмінова

*11 кастрычніка 2015*

* * *

Скрушна стаю
перад грудам магільным
блізкага мне чалавека...
Цяпер я – *помнік* ягоны...

*5 кастрычніка 2015*

## *НАСТУПСТВЫ*

Нават паміраючы
чалавек думае

пра свой заўтрашні дзень:
якім ён у яго будзе –
няважна –
*тут*
ці
***там***?
Вечнасць
у падсвядомасці...

*16 кастрычніка 2015*

* * *

Зямля забірае мёртвых.
А неба збірае жывых...

*2 ліпеня 2013*

Генрых Далідовіч



*...Ёсць такія дрэвы, пні якіх не засыхаюць, а праз нейкі час дружна выпырскваюць процьму атожылкаў. Некаторыя з іх стануць новым дрэвам, і яно зноў зашуміць, загудзе...*

# Юда для Каліноўскага

***Дыптых****

У 1864 годзе, на самым пачатку яго, мінскія вышэйшыя губернскія і гарадскія чыноўнікі, асабліва жандарскія, з неспакоем, а больш з трывогай і тайнай нянавісцю, чакалі даволі высокага па пасадзе, небяспечнага госця.

Той пад выглядам віленскага абывателя ехаў сюды на кароткі час, але з самымі вялікімі (пасля Мураўёва) паўнамоцтвамі – значыць, мог рабіць тут усё, што пажадае. У Мінску, каму трэба, загадзя мелі на руках дэпешу: палкоўніку Зайцаву – поўная воля, усе і ўсё да ягоных паслуг.

Сані, на якіх ехаў Зайцаў з фурманам і ахоўнікам-даручэнцам уночы, набліжаліся, як здавалася, да спакойнага, добранадзейнага, але цяпер узварушлівага, вераломнага

* У дыптыху ўжытыя архіўна-дакументальныя даследаванні Г. Кісялёва, апублікаваныя ў часопісе "Полымя" №9 за 1988 г., а таксама пазнейшыя яго вусныя каментары.

Мінска без ніякай агалоскі, ціха і непрыкметна. Тым не менш абачліва і пашаноўна сустракалі незвычайнага наведніка яшчэ ў Ратамцы. Сярод тых, хто ўжо некалькі гадзінаў тырчэў, мёрз тут, быў і сам мінскі начальнік жандармерыі, палкоўнік Труноў, хоць па званні роўны з віленскім госцем. Труноў і ягоная абслуга былі ў цывільнай форме, а іншыя, уформленыя жандары былі тайна схаваныя ад Ратамкі да Мінска, ахоўваючы для віленца самы небяспечны шлях.

Зайцаў, таксама ў цывільным, добра ведаў Трунова, заўсёды ветлічаў, як і з іншымі, нават меншымі па пасадзе і малодшымі па званні, але ў душы не паважаў таго, ганарлівага і тупога. Цяпер толькі прыпадняў руку ў пальчатцы, прыклаў вялікі палец да губ – ніякіх размоў, нават вітанняў, хутчэй-хутчэй у Мінск, там і пагаворым. Нават і цяпер, віхурна-мяцелістай цямнотай, мы – выпадковыя спадарожныя. Уголас прынікламу да дзверцаў Трунову ціха прамовіў толькі тое, пра што не пісалі і ў тайнай дэпешы:

– У Верхні горад, у кляштарныя муры. Але пра гэта не павінны ведаць нават нашыя падначаленыя.

– Ёсць! – не ўтрымаўся, казырнуў перапужаны гэтым наведваннем Труноў.

У цёмным, з рэдкім скупым святлом горадзе, у кляштарных мурах Зайцаў толькі дзеля прыліку, з уяўнай ветлівасці спытаў у Трунова пра здароўе, пра сям'ю, пра настрой у горадзе і ў губерні, адмовіўся і ад чаю, і ад кілішка гарэлкі, хоць не быў зусім непітушчы (моцна выпіваў звычайна адзін дома, каб пры староннiх лішне не распусціць язык). Трунову толькі прамовіў – мякка, спакойна, але з загаднымі ноткамі:

– Я змёрз, стаміўся за дарогу. Хачу сагрэцца і адпачыць, таму выбачайце, пан палкоўнік (наўмысна не назваў па імені і па-бацьку) заўтра сустракаюся па заданні яго правасхадзіцельства Мураўёва з вашым губернатарам. Паслязаўтра – з вашай службай, з вышэйшымі чынамі. Там і аб'яўлю задачу.

Канечне, самалюбны Труноў засмуціўся, што візіцёр ветла-халодны (усе чыны вельмі тонка мігам улоўліваюць гэткі тон, за якім не чакай дабра), але нідзе не дзенешся, трэба слухацца гэтага вужлівага лысмана, абласканага самім Мураўёвым, а той мае нічым, ні законамі, ні сумленнем і прыстойнасцю, неабмежаваную ўладу над усім бунтоўным Паўночна-Заходнім краем аж да таго, што па адным кіўку ягонага пальца маглі, каб выкурыць інсургентаў альбо пакараць насельнікаў, бабахнуць з гармат па зламыснай, на яго думку, вёсцы ці на месцы зловаў без суда і следства расстраляць мяцежніка. Ён, Мураўёў, бач, не верыць у здольнасць іх, мінскіх жандараў, самім тут далавіць бунтаўшчыкоў, прыслаў сюды свайго даверанага, які рады будзе выслужыцца, асароміць іх.

– І яшчэ, – тым жа тонам прадоўжыў Зайцаў, – падбярыце мне “dossier” – справы, ну, на дзясятак вашых саслужбоўцаў. Мне зусім непатрэбныя вельмі верныя, але тупагаловыя. Выдзеліце самых разумных, хітрых, не вельмі, а то і зусім незасвечаных сярод мінчукоў. Падбярыце дасье і на тузін вашых тайных агентаў, таксама кемных і ўвішных, незасвечаных, хто найбольш ведае памешчыцкія маёнткі, мясцовую інтэлігенцыю, гімназістаў, тайныя гурткі. Я сам адбяру з іх сабе памочнікаў.

– Ёсць, – мусіў праглынуць і гэта Труноў, выказаў поўную паслужлівасць, – усё споўню па вышэйшай мерцы. Не сумнявайцеся, ваша высокаблагароддзе.

– Я не сумняваюся, – міжволі ўсміхнуўся Зайцаў, але Труноў ягонай гэтай першай сённяшняй усмешкі не зразумеў. Ды і сам Зайцаў не мог разабрацца, чаму раптам выплыла гэтая ўсмешка.

Паслязаўтра за вокнамі, на двары, суцэльна-цьмяна шарэў дзень, было нібы ў тумане неба, нават снег на дахах дамоў не зусім бялеў, пагойдваліся высокія чарнаствольныя дрэвы з рэшткамі старога, апечанага марозам і пачарнелага ад восеньскай сырасці лісця, падалі зверху ўніз галубы, лёталі вароны (чамусьці з крыкам), па вуліцы раз-пораз трусілі коні, цягнучы сані са скрынямі ці поўнымі мяхамі, праносіліся балаголы, праходзілі рэдкія мінакі (сярод іх, канечне ж, і жандарскія ахоўнікі ды шпікі, бо ў Мінску з учарашняга дня ўвялі яшчэ больш строгі рэжым), – карацей, горад быў горадам, а тут, у залі, невялікай, з падлогай-паркетам, з радамі абабітых шэрым цікам драўляных крэслаў абапал праходу з шэрым ходнікам, з круглай люстрай пасярод і насценнымі падсвечнікамі, з вялікім партрэтам “Вызваліцеля” – Аляксандра II – над сцэнкай, Зайцаў сустрэўся з вышэйшымі жандарскімі чынамі губерні.

Калі Труноў пазнаёміў іх з ім, ён падняўся, крышку схіліў галаву ў знак вітання, абапёрся сагнутымі пальцамі на стол, пільна ўгледзеўся ў залу, на пажылых, што вылоўлівалі тут мяцежнікаў яшчэ ў 1830-31 гады, сярэдняга ўзросту, маладых, лысых, палыселых, сівых, кучаравістых, з прылізанымі прычоскамі, спітых і са светлымі тварамі жандараў, а тыя (асабліва хто яго не ведаў) таксама па-свойму, адмыслова па-жандарску, учэпіста ўзіраліся ў яго – пасланца-рэвізора на іхнюю галаву, які, пэўна ж, сурова заявіць: зарана вы, панове, адрапартавалі, што ва ўсім тут ужо разабраліся, мяцеж задушаны, усе вінаватыя знішчаныя ці злоўленыя і адпраўленыя ў Вільню.

Цяпер ён, Зайцаў, – невысокі, худы, што хрушч, лысы, нібыта зусім нікчэмны чалавечак у паношаным чорным гарнітуры, быў страшны, як ніхто тут. Вось і затаілі ўсе дыханне, чакаючы ягонага першага слова. А ён не спяшаўся гаварыць, вычэкваў, нават не сярдзітым выглядам наганяючы пуду. Не адну расійскую і замежную кнігу прачытаў пра тое, як паводзіць сябе з людзьмі, – са звычайнымі, незнаёмымі, са службоўцамі, з арыштаванымі, дый сам быў не ёлуп-доўбень – наадварот, у яго, сына звычайнага гарадавога, не было ніякіх высокіх апекуноў, але яго агледзелі яшчэ студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта, што ён разумны і хітры, дый тады ўжо завабілі працаваць на ахранку. І не звычайным даносчыкам, а няштатным (але платным) супрацоўнікам. Якраз за гэта пазней, калі папрацаваў крыху штатна, яго прыслалі сюды, у Паўночна-Заходні край, і ён тут – зноў жа без помачы важных дзядзькоў і цётак – дарос за сваё “старание” да палкоўніка і выславіўся тым, што ў яго “изощренный ум”, які спрыяе яму лёгка прыціснуць пазногцем злачынцу (уга, лёгка! Колькі турбот, намаганняў, нават двудушнасці!).

Невыпадкова за ўсё гэта і іншае за вочы чаго толькі на яго ні казалі. Нават і свае, сямейнікі: па звычцы ўжо ён і з імі “изощрялся” – быў не шчыры, а, нібы нацягваючы на сябе маску, хітраваў-гуляў. Вытанчанасць вытанчанасцю, але ў ёй ёсць і свае нюансы, цяжкасці, бо часта трапляюцца вельмі здольныя хітруны, махляры-ашуканцы, нават прайдзісветы-махінатары, і спасцігнуць іх бывае вельмі цяжка, бо да іх патрэбен зусім новы, яшчэ неспажываны ключык, а ён, таксама, бывае, не заўсёды хутка падыходзіць.

Махляры – люд надта налоўчаны. Часамі здольны махляр лёгка разгадае таленавітага, а таленавіты – геніяльнага. Ды і не кожны чалавечы замок адамкнеш. Здаралася, што і яго, не толькі бывалага, але і, можа, ужо вучонага па чалавечай псіхалогіі, абводзілі вакол пальца, за што ён вельмі перажываў. Калі нават вызвалялі арыштаванага, лічачы, што той невінаваты, ён не пакідаў справы, вяртаўся і вяртаўся да яе яшчэ па сваёй ахвоце, каб пераможцу ў разумовай вытанчанасці калі не засадзіць, не паставіць на калені, то хоць бы паказаць, што той выкрыты. Ведаючы гэта, здаралася, начальства не дапускала яго да тых арыштаваных, хто адкупляўся ці за каго прасілі вялікія людзі. Пачуўшы пра гэта, генерал-губернатар краю Мураўёў з усіх жандараў наблізіў да сябе менавіта яго, дазволіў не толькі ўдзень і ўночы заходзіць, але і найперш раіцца з ім па тым, што яго турбуе. Канечне, толькі сам-насам. Каб з яго вуснаў пачуць звестку, параду і каб усё гэта захаваць у глыбокай тайне: Зайцаў, як ніхто, умее трымаць язык за зубамі. Таму і сюды, у Мінск, Мураўёў паслаў яго (не загадаў паехаць, а папрасіў).

– Панове, – Зайцаў падаў голас спакойна і ціха, ведаючы, што будуць лавіць нават кожны тон. – Мы тут, як кажуць, свае людзі і сабраліся вельмі па важнай справе. Яго правасхадзіцельства генерал-губернатар нашага Паўночна-Заходняга краю Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч асабіста вельмі ўважліва вывучыў усе вашыя запіскі: і тыя, што вы падрыхтавалі для вашага, мінскага губернатара, а той іх даслаў нам, у Вільню, і тыя, што вы прыслалі адразу нам. Ён даручыў мне сказаць вам адкрыта, нават рэзка: незадаволены вамі. Зарана, зусім зарана вы палічылі, што выканалі сваё і што ўжо можаце спачываць на лаўрах. Не! Не і не! Яшчэ многія не толькі памочнікі, але і самі мяцежнікі на волі. Гэта небяспечна: гэта – пагроза на будучыню. Дрэва зрэзанае, так. Але застаўся пень. Вы лічыце, што гэтым можна і абмежавацца? Не! Не і не! Ёсць такія дрэвы, пні якіх не засыхаюць, а праз нейкі час дружна выпырскваюць процьму атожылкаў. Некаторыя з іх стануць новым дрэвам, і яно зноў зашуміць, загудзе. Дык што трэба рабіць, панове?

Усміхнуўся сваёй унутранай усмешкаю, але ўслед за ім ніхто не пасміхнуўся, усе сядзелі, узіраліся з напружаннем.

– Так, – нібы падтакнуў іхнім думкам, што, можа, у каго і з'явіліся. – Трэба вырваць і пень. Гэта значыць, лепш схапіць, зняволіць дзевяць невінаватых, абы не пакінуць аднаго зламыснага! Адпаведна, ніякіх цырымоній! Ніякай абачлівасці і боязі! Вам даюцца самыя вялікія паўнамоцтвы, для вас ніякай адказнасці, як і па законах ваеннага часу! Наадварот, будуць пакараныя тыя з вас, хто праявіць лішнюю мяккасць. Ужо сёння, вярнуўшыся адсюль, пачынайце складаць свае спісы падазроных, без розных далікатнасцяў арыштоўвайце, дапытвайце іх, без лішняй юрыдыстыкі складайце абвінаваўчыя пратаколы і дастаўляйце галубкоў сюды, у мае рукі. Хто больш, лепш абгрунтуе арышт, таму нават я тут уручу прэмію ці прадстаўлю да вышэйшага звання, да большай пасады. Заадно капайце-капайце, вышуквайце-вынюхвайце, дзе і як рыхтаваліся, пачыналіся зародкі мецяжу. Хто натхняльнікі, завадатары? Дзе былі цэнтры? І, галоўнае, вы так і не далі яснай карціны, хто тут, у вас, быў іхні верхавод? Можа, ён зусім не той, каго вы назвалі. Не назвалі і самага галоўнага завадатара. Якія яго псеўданімы? Якое сапраўднае прозвішча? І вы, і мы доўгі час лічылі, што за псеўданімамі Макарэвіч, Хлоп, Хам, Хамуціус і іншымі хаваецца

менавіта ён, важак. А важаком лічылі ў розны час розных: Звяждоўскага, Здановіча, Дарманоўскага, Аскерку, Гейштара, Малахоўскага, Яленскага, Далеўскага... А Яська-гаспадар з-пад Вільні? Хто такі? Хтосьці з іх? Ці хто-небудзь іншы? Яны абвялі вакол пальца нас, ахранку! Яны нас бачаць, а мы іх не! Вось і прыйшлося нашай арміі страляць з гармат па вёсках! Са злосці расстрэльваць захопленых у палон мяцежнікаў!

Тут ён, як кажуць, наўмысна перабіраў і нагнятаў: паўстанцкага падполля, як і іншага, не маглі ўведаць і яны ў Вільні. Але лічылі: яны ўсё выведалі, выграблі, а вось тут, у Мінску, не зусім ведаюць, бачаць, што і як робіцца ў іх пад бокам. Тут, недзе непадалёку тут – ацалелыя рэшткі паўстанцаў і, можа, іхні верхавод. З тых запалоненых, каму пакуль што захавалі жыццё, колькі ні трэслі, ні білі, ніхто не назваў сапраўднага прозвішча завадара, месца, дзе ён хаваецца. Хоць некаторыя хутка пачнуць паводзіць сябе іначай, каб застацца жыць. Сярод тых, схопленых, ёсць моцныя арэшкі, але таго, хто трымаў і яшчэ трымае ніці паўстання, на думку яго, Зайцава, няма.

– Ясна, панове? – Зайцаў паўтарыў сваю загадкавую ўсмешку.

– Ясна, ваша высокаблагароддзе, – за ўсіх падаў голас Труноў, седзячы побач на крэсле і, як некаторыя іншыя, насоўкай выціраючы потны лоб. – Усё споўнім. Па вышэйшай мерцы. Згодны, мы паспяшаліся ўпэўніцца, што, як вы мудра сказалі, вырвалі і пень. Яшчэ, сапраўды, не выкарчавалі. Але вырвем з усімі карэннямі і карэньчыкамі!

– Рады чуць самакрытыку, рашучы намер, пан палкоўнік, – пахваліў Зайцаў, намагаючыся, каб затаіць ухмылку з такога паспешнага прызнання сваёй віны Труновым. – Якія ёсць да мяне пытанні, паны афіцэры?

Ніхто не пажадаў вытыркацца, апраўдвацца, тым больш абурацца, сцвярджаць, што яны зрабілі ўсё, што было па сіле. Дзе і не былі вінаватыя, моўчкі ўзялі віну на сябе. Каму запярэчыш? Самому Мураўёву? Хоць не адзін адчуваў трывогу: калі з дзесяці схопленых ажно дзевяць будуць без ніякага нават маленечкага граху, то гэта – няпростая, не бяскрыўдная рэч. Можа быць і помета ад смельчакоў, ад радні нявінна пацярпелых. Канечне, цяпер у многіх перасцярога, страх, але не ва ўсіх жа.

– Няма пытанняў? – Зайцаў унутрана ўхмыльнуўся і з усіх жандараў, сярод якіх не знайшлося ніводнага смелага, а значыць, па-сапраўднаму і сумленнага, у каго асцярога, турбота за пасаду і сытны кавалак пераважае годнасць, матухну-праўду. – Значыць, вам усім добра зразумела, што і як рабіць тут далей. Калі так, то дазвольце, панове, пагаварыць з вамі і яшчэ пра адну важную рэч, якую даручыў мне яго правасхадзіцельства Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч. Мяцеж, што прынёс шмат клопатаў не толькі нам, але і сталіцы імперыі, ужо ўціхаміраны. А калі гаварыць сапраўднай мовай, задушаны. І жорстка. Часам нават вельмі. Прыезд сюды Мураўёва і яго рашучасць паскорылі перамогу. Але, як чулі, задавальняцца зарана. Трэба для сябе, імперыі, для свету, асабліва для Еўропы, дзе многія абурыліся нашай жорсткасцю, узмацняць нашае тлумачэнне мецяжу. Як нашу ўнутраную справу, як строгае пакаранне раскольнікаў, што замахнуліся на цэласнасць і моц нашай свяшчэннай імперыі. А без яе цэласнасці, моцы не будзе спакою, ладу ва ўсёй Еўропе. Значыць, мы думаем, дбаем не толькі пра сябе, але і пра ўсе еўрапейскія народы. Мяцежнікі вельмі спадзяваліся, што абураная Еўропа, асабліва Францыя, Аўстрыя, ім дапаможа. Не толькі падыме крык у абарону, але і дасць грошы, зброю, а то

і прышле свае войскі. Наіўна і смешна. Што тыя палячышкі, беларусцы, жмудзіны? Тыя Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітая, кім пажывіліся не толькі мы, але і Аўстрыя ды Прусія? Абы паказаць выгляд абароны "заняволеных і прыгнечаных"! Іншае – нашая імперыя, што злая на тую ж Францыю за Крымскую вайну.

Зайцаў па-ранейшаму гаварыў не павышаючы і не паніжаючы голас, а яго, як і дагэтуль, уважліва слухалі.

– Прычыны, што падштурхнулі да мецяжу ў Вісленскім краі (у Польшчы) і тут, тое, як ён адбываўся і ўціхамірваўся, вывучаліся, вывучаюцца і яшчэ доўга будуць вывучацца створанай дзеля гэтага камісіяй. Але і сёння можна ўжо нямала чаго ўявіць. Зразумела, падштурхнула Крымская вайна, калі мы вырашылі памагчы нашым братам-праваслаўным на поўдні, у Палесціне, Малдавіі і Валахіі, калі за гэта на нас акрысіліся Турцыя, Англія і Францыя, маючы свае хцівыя інтарэсы на Балканах, у Крыме, на Каўказе – карацей, за панаванне на Усходзе.

Зайцаў міжволі, але цяпер ужо шчыра ўздыхнуў: пры абароне Севастопаля загінуў ягоны адзіны сын. Ён не меў асаблівай блізкасці з ім, той, хоць афіцэр, сын афіцэра ахранкі, быў усё ж вальнадумец, прыхільнік "безумного Виссариона" – Бялінскага, ворага існуючага ладу (а тое, што той быў менавіта непрыяцель, выкрыла ахранка, здабыўшы копію з яго патайнога ліста да Гогаля. Ён, Зайцаў, меў неасцярожнасць паказаць гэтае пасланне сыну, а той захапіўся: а хіба не праўда, хіба не загніло самадзяржаўе? Было такое, што хацелася схапіць за каршэнь, арыштаваць і аддаць у рукі следчых сваё ж дзіця. Лічыў: на вайне, супраць ворагаў Расіі, падумае іначай, амацуе рускую душу, веру ў цара, ажно ўсё па-свойму вырашыў снарадны асколак. Ён, бацька, вытрымлівае гора, ведаючы, што вайна ёсць вайна, не можа быць без смерці, а вось хваравітыя на галаву жонка і дачка, можна сказаць, ад гора страцілі розум).

Не прамінуўшы ўвагаю ягоны ўздых, мабыць, усе зразумелі яго па-свойму: перажывае вельмі іхні калега, што ў мінулай вайне Расіі наўскідалі па карку. Але не столькі сілай, мужнасцю, уменнем, колькі новай тэхнікай.

– Падштурхнула да мецяжу і рэформа 1861 года. Хоць наш шаноўны Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч смела, мудра перасцерагаў: не варта загульваць не толькі з Еўропаю, але і са сваімі лібераламі. Гэтая "перабудова зверху" да дабра не давядзе. Толькі скрані ўстоі – адразу ж пачнуцца спекуляцыі, узрушэнні, а за імі можа ўспыхнуць бунт. А хто-хто, а мы з вамі ведалі, перасцерагалі (і таго ж Міхаіла Мікалаевіча), хто да гэтага можа падбухторваць. Тыя ж падпольныя шайкі "Зямля і воля", Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы. Хіба выйшла не па-нашаму, калегі?

Зала нарэшце выйшла са здранцвення, ажывілася. Труноў ляпнуў у далоні, услед за гэтым пайшлі воплескі ў зале.

– Ды сялянскай рэформе далі ход, – прадоўжыў сваё Зайцаў. – Менавіта нашая служба параіла: калі ўжо так на ёй настойвае імператар, калі гэта так трэба для ўзвышэння імя Расіі-матухны ў свеце, то варта прачытаць Маніфест у царкве на свята, на масленіцу, каб гэта ўспрымалася як спаўненне царом волі самога Госпада. І што ж? Як і чакалася, Маніфест не задаволіў ні ліберралаў нашых, ні чэрнь. Па ўсёй імперыі пайшоў шум. І зноў жа, як трэба было чакаць, адны з першых знайшлі зручны выпадак спажыць сваё пыхлівыя палякі, падбіваць на зламыснае беларусцаў і жмудзінаў, шукаць сваіх сцежак-дарожак да такіх нібыта рускіх, як люты

вораг Расіі Герцэн, да Францыі, Англіі, лічачы, што тыя яшчэ па гарачых слядах вайны з намі памогуць ім. Ляхі, панове, былі, ёсць і будуць у вялікай варожасці да нас, з імі трэба вуха трымаць вельмі востра: ледзь якая зачэпачка, яны выступяць супраць нас, за сваю “вельку Польску”, за падпарадкаванне сабе вялікай долі Маларосіі, зямель беларусцаў і жмудзінаў. Так што, панове, не спакушаймася, што “польский вопрос закрыт”. Не, не і не! “Пукі Вісла плыве, Польска не загіне!” Гэта – не проста хвалебныя словы, гэта – дух, мара, надзея! Вось чаму, паўтару, калі тут хто не толькі пікнуў пра Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітую, але мог, можа пра гэта падумаць, усіх – у Сібір! Няхай там астудзіць сваю гарачыню і пахавае ў тайзе, у снезе свае дух, мару, надзею, памкненні і бунтарствы!

Ужо не чакаючы, што зробіць Труноў першы, у зале дружна, гучней і больш заўзята, чым раней, запляскалі.

Зайцаў сціпла махнуў рукою: не трэба авацый. Я не для гэтага сюды прыехаў. Астудзіў і прысутных:

– Камісія, што цяпер расследуе мяцеж, задасць, панове, і нам шмат непрыемных пытанняў.

Выйшла. Зноў усе наструніліся.

– Праспалі, прахаўкалі мы шмат. І мы з вамі тут, і ў Варшаве. Уплывовая польская шляхта, якая дзень і ноч жадае свайго “паньства”, тым не менш пасля Маніфеста асцярожнічала. Даволі нечакана на варшаўскія вуліцы хлынуў просты люд: “зямлі і волі!”. Абываталі, што там сабраліся 27 лютага 1861 года, былі ўсяго толькі натоўпам, жадалі толькі падаць гасудару сваю петыцыю. Даволі сціплую. Пра мясцовае заканадаўства і іншае дробнае. Цяпер па-новаму будзе даследавацца і такое: а ці варта было ахоўнаму пяхотнаму батальёну намесніка праз агароджу ўсчыняць стральбу па натоўпе?

Зайцаў тут усяго не дагаварыў наўмысна. Дасюль была такая версія: тады не дапусціў дэлегацыю да намесніка і загадаў казакам, чаркесам, уланам страляць па людзях, праліў кроў і раззлаваў ганаркі польскі люд, змусіў таго хапаць у рукі камяні, калы, прэнты, білы ад ложкаў генерал Забалоцкі, які цяпер мінскі губернатар. Канечне, гэта быў свой ход, Забалоцкі быў у гульні – пазней намеснік выдаліць і обер-паліцмайстра Трэпава (дарэчы, немца Трэпгофа), які ненавідзеў палякаў і згадзіўся ўзяць тую петыцыю, перадаць яе цару, і ў Варшаве пацішэла. Цяпер пачалі дбаць пра сябе багатыя і ўплывовыя варшавяне, тушыць антырасійскія свечкі дома і там, у Пецярбурзе. Дзеля апошняга нават перасталі загаворваць пра свае “ўсходнія крэсы”, згаджаючыся бачыць мяжу свайго каралеўства па Бугу – праўда, бачачы яго, каралеўства, са сваімі сенатам, сеймам, арміяй. Нібыта сціпла, але з далёкім прыцэлам. Яго, гэтага не так ужо і схаванага прыцэлу, асцерагаліся і некаторыя з саміх просьбітаў, таму падалі больш сціплы праект. Намесніку ён спадабаўся. Як і цару. 26 сакавіка ён падпіша рэскрыпт пра польскія рэформы (нязначныя зусім). І тут намеснік перабраў: каб загадзя запалохаць тых варшавянаў, хто будзе нязгодны з адчэпкаю, загадаў салдатам біць у барабаны. А, як вядома, барабаняць перад боем альбо перад пакараннем смерцю. Варшавяне ж палічылі іншае: іх клічуць, каб аб’явіць царскую волю, і рушылі да палаца намесніка. А той, асцерагаючыся, што ў натоўпе можа ўзнікнуць гнеў, напужаўся. Ад яго палаца батальёны адкрылі агонь. Забітыя, сотні параненых, крыкі, енкі, ручаіны крыві...

– Ды выбуху ўсё ж не адбылося, – пасля паўзы прадоўжыў Зайцаў. – І нашая служба ў Варшаве лічыла: усё там – стыхія. Завадатараў, якія могуць падбіць на паўстанне, узначаліць рух, няма. А час паказаў: яны былі, толькі чакалі свайго. Як цяпер мы ведаем, яны ўсё ацэньвалі пасвойму, спрачаліся наконт праграмы, падзяліліся на "белых" і "чырвоных", і апошнія асабліва заўзята пачалі збіраць сілу, зброю. Цяпер мы больш ведаем пра тыя партыі: "белыя" і правыя "чырвоныя" праглі аднавіць Рэч Паспалітую да яе падзелаў, а левыя "чырвоныя" з беларусцаў і жмудзінаў дабіваліся для сябе самавызначэння. Там, у Варшаве, і тут нашая служба ў гэты падрыхтоўчы час спрацавала кепска: не толькі акружна, праз замежныя краіны, але і па нашым краі шнуравалі эмісары паміж Варшавай і Вільняй, былі сустрэчы, вяліся перамовы, а мы з вамі не ўсачылі, не мелі належных тайных агентаў, ставілі стаўку на вернаппаданых, але тупых, а не на разумных. Не мне вам гаварыць: бывае, злоўлены наш непрыяцель, калі яго як след прыціснуць, выдасць тое, пра што верны нам олух нават і не чуў. А гаварылі, гаварылі ж завадатары-канспіратары, што рэформа – гэта падман, бачыце, сялянам даецца воля, але не даецца зямлі, што яна зусім не ўлічвае жаданняў паняволеных народаў. Мы з вамі праваронілі, скажам, тое, што тут, у нас пад носам, мясцовыя "чырвоныя" ўвосень 1861-га ўтварылі гурток "Камітэт руху", што яны таксама раз'язджалі, сустракаліся, вялі дыскусіі і што летам 1862-га варшавяне ўсё ж прыгнулі віленцаў і іхні Камітэт пераўтварылі ў свой аддзел – Літоўскі правінцыйны камітэт, хоць некаторыя не здаваліся. Усё гэта мы ўведалі летась, увосень, калі пачалі біць мяцежнікаў, усё больш і больш перахопліваць іхнюю пошту, перапіску, мець на руках іхнія інструкцыі, загады. Тады і ўведалі, што варшавяне не ўзгаднілі з віленцамі, калі пачынаць мяцеж. Калі ён пачаўся, віленцы спачатку ад нечаканасці, ад таго, што іх паставілі перад фактам, разгубіліся, завагаліся. І зразумела ад чаго. Трэба было і ім падымаць зброю супраць нас! Братоў! Імперыі! Зайцы – супраць мядзведзя!

Зайцаў, каб яшчэ больш засяродзіцца, па сваёй даўняй звычцы пацёр свой высокі лоб, апушчаныя павекі, адчуваючы, што баляць і яны, і вочы. Мабыць, ад натугі – ад спісаных папер, якіх прыходзіцца не толькі прагледжваць, але і чытаць процьму, ды ад штучнга святла, паколькі допыты вёў і ўночы, і за заштoранымі вокнамі.

– Віленцы рашыліся далучыцца, узняць супраць Расіі зброю, – павёў далей. – Літоўскі правінцыйны камітэт пераўтварылі ў Часовы правінцыйны ўрад Беларусі і Літвы. Зусім не просьба, а загад Мураўёва: засекчы гэта сабе на носе! Нам з гэтым вызначэннем віленцаў прыйдзецца яшчэ нямала павалтузіцца, сфальшывіць – так-так, пакрывадушнічаць! – падаць усё па-свойму, каб знішчыць нават самі паняцці "Беларусь", "Літва". Але пра гэта крыху пазней. Цяпер мы ведаем: "белыя" адхілілі віленскага верхаводу і саслалі яго (каго? куды?), скасавалі Часовы ўрад, верхаводзіць тут паставілі свайго, Гейштара (мы давалі вам пра яго звесткі). Мяцежнікі захапілі Горкі, папоўнілі свае шэрагі тамтэйшымі студэнтамі і выкладчыкамі (мы будзем раіць Пецярбургу закрыць заразны Горы-Горацкі земляробчы інстытут, каб нават знішчыць памяць пра яго. Вучобу такога профілю трэба наладзіць у іншым месцы, без пасланцоў з Прусіі і Францыі, якія не маюць любові да Расіі). Удала выступілі мяцежнікі ў Слонімскім павеце: нашыя пяць рот з гарматамі не маглі разбіць, узяць іхні лагер. Сёння мы маем падлікі: тут, на нашых землях, нам прыйшло-

ся ўступіць амаль у 50 баёў і сутычак. Нам вельмі добра паспрыялі самі “белыя”, яны сваімі прапольскімі праграмамі і пышліва-панскімі замашкамі адахвоцілі, адлучылі ад мецяжу многіх сялянаў. Мы з вамі (сёння ўжо добра відаць) зусім не чакалі, што іх, мужыкоў, можа столькі шмат пайсці з мяцежнікамі! Мы лічылі іх болын лаяльнымі і асцярожнымі, як і ўсіх сялян. Ажно і ў іх, апроч сваіх інтарэсаў, жыве даўні гонар, непакорлівы дух. Зразумела, паспрялі і царскія ўказы ад 1 сакавіка і 2 лістапада леташняга года наконт сялян. Хоць подлыя мяцежнікі называлі і называюць гэтыя ўказы “свядомым падманам”, “ілюзіямі”, але яны стрымалі многіх з чэрні. Не ўсе з яе, канечне, але многія паверылі ў царскую міласць. Цяпер мы маем даволі пэўныя звесткі: у шэрагах мяцежнікаў з сялянаў было найболей казённых, пераважная болынасць – дробная шляхта (і з гэтым шляхецтвам трэба пакончыць, занадта і сёння яго шмат. Трэба рабіць усё, каб чым найменш тутэйшай шляхты было ў дваранстве. Трэба зрабіць край краем працавітых, малапісьменных, паслухмяных мужыкоў, дзе вяршкамі грамадства будуць нашыя чыноўнікі, інтэлігенцыя, духавенства, адданыя веры, цару і Айчыне. Побач з казённымі найбольш было студэнтаў, разначынцаў. А з імі яшчэ былі і...

Перавёў дыханне, кінуў у залу дапытлівы позірк:

– Хто яшчэ?

Ніхто не абазваўся: усе ўжо нямала ведалі з таго, што гаварыў ён, Зайцаў, але не ўсе, асабліва тыя, хто быў воддаль ад Мінска, чуў такія адкрытыя развагі, якія не патрапяць на паперу, а калі з’явяцца на ёй, то гэтыя паперы залягуць у глыбокія сталічныя сховішчы. Ды і гэтая місія Зайцава не натхняла вытыркацца.

– Дык вось, калегі, – Зайцаў скрушліва пахітаў галавою, – сярод мяцежнікаў было нямала перабеглых рускіх салдат. Ці лепш сказаць, вояў з нашай арміі. Пра гэта не варта шмат казаць, але задумацца трэба: гэтак жа многія рускія салдаты, ніжэйшыя армейскія чыны – выхадцы з вёсак – могуць паступіць у мяцежных сітуацыях у цэнтральных губерніях: перакінуцца да мужыкоў-бунтаўшчыкоў... Ды і сярод некаторых афіцэраў-дваран ёсць тыя, хто патрапіў пад ідэі, ідэйкі розных герцэнаў, якія лямантуюць пра “равноправие народов”, “освобождение от деспотизма”, клічуць Русь “к топору”. А рускі бунт, панове, “беспощадный”! Так што і яшчэ сакрэтны загад Мураўёва: таемна сачыць і за нашымі ваеннымі: яны тут нямала чаго наслухаліся і пабачылі, дык не ўсе могуць здолець застацца тым, кім павінен быць рускі салдат, афіцэр. Найперш – слугой цару і Айчыне. Сёння, як ніколі, нам неабходна аб’яднаць нашыя намаганні з лепшымі людзьмі – патрыётамі з усіх дзяржаўных устаноў, са школ, друку, з царквой. І ў нялёгкі час, калі нас ва ўсіх грахах абвінавачвалі і абвінавачваюць многія ў Еўропе, не баяцца стаць “реакционерами”, а кляйміць і кляйміць “отщепенцев”. Каб, панове, не толькі “обуздать” непакорных ляхаў, беларусцаў і жмудзінаў, але і не дапусціць усерасійскага мецяжу. Не толькі ўтрымаць, але і ўмацаваць аснову імперыі. Адсюль цяпер менавіта мы, калегі, павінны ўзяць на сябе асаблівую місію, праявіць непахісныя рашучасць і жорсткасць. І таксама паўтару: не бойцеся ніякай сваёй асабістай віны! Яе на сябе мужна бярэ адзін чалавек, але які: генерал-губернатар Мураўёў!

Зайцаў дастаў з нагруднай кішэні цывільнага пінжака паперчыну.

– Вось як загадваў і загадвае ён: “Виновники мятежа и вообще лица, содействующие ниспровержению правительственной власти в крае, дол-

жны быть, для примера другим, судимы и наказаны немедленно по всей строгости полевого уложения; собирание излишних фактов...”

Зайцаў, не адрываючы вочы ад напісанага, падняў угору палец, паўтарыў апошнія словы:

– “Собирание излишних фактов лишь усложняет и замедляет делопроизводство”.

Склаў паперчыну, схаваў яе.

– Ясна?

– Ясна, ваша высокаблагароддзе, – зноў за ўсіх адказаў успацелы Труноў. – Выканаем па поўнай меры.

– Гэты загад, панове, датычыць усіх, у тым ліку і нашых салдат, хто здрадзіў.

Зайцаў з іншай кішэні пінжака дастаў яшчэ адзін аркушык.

– А цяпер, панове, канкрэтна пра тое, чаго я сюды ўласна і прысланы, – сцішыў голас. – Вось сакрэтнае прадпісанне да вас, жандармерыі Мінска і губерні, ад Мураўёва. Чытаю: “Из показаний политических преступников, содержащихся под арестом в городе Вильно, а также секретных сведений, полученных мною частным образом, оказывается, что в некоторых городах Минской губернии, а также и в городе Минске, существует тайная революционная организация, которая до сих пор продолжает свои действия к поддержанию в крае духа мятежа...”

Зайцаў яшчэ не падымаў галавы, але ўжо загадзя ведаў: гэтая мураўёўская аплявуха балюча хлестанула ўсіх. Вытрымаў невялікую паўзу, а затым прадоўжыў:

– “Вы имеете немедленно взять под стражу всех подозрительных людей, не стесняясь в этом случае ни званием, ни состоянием этих личностей”.

Паўза, мінская жандармерыя, нават не зважаючы на апошні неабмежаваны дазвол, у здранцвенні: у іх пад бокам яшчэ дзеяць злачынцы... Які ім зубатыц, сорам! Якая ганьба! Вось гэты віленскі недарослік, гнюсненькі чалавечак прыехаў сюды адзін зрабіць тое, што яны, мясцовыя, не могуць зрабіць гуртам! Лічылі, што справіліся з мяцежнікамі, чакалі падзякі, узнагарод, ажно...

Зайцаў і гэтую паперыну не аддаў Трунову; той толькі распішацца, што з ёю знаёмы, паперына разам з Зайцавым вернецца ў Вільню. Каб ніякай самай маленечкай звестачкі для староннііх людзей пра цяперашнія і будучыя тайныя намеры і хады.

– А цяпер, панове, яшчэ пра адно вельмі важнае, чым мы павінны палепшыць пра сябе думку, – загаварыў зноў Зайцаў. – Так-так, пра галоўнага кіраўніка мецяжу ў нашым краі. Паўтару, і вы, і мы думалі, што яго вылічылі, злавілі. Спіс прозвішчаў я ўжо называў. Ажно не. Арыштаваныя, зразумела, заблытваюць нас, але і з іхніх выкрунтасаў можна зразумець, што сапраўды цэнтр мецяжу быў у глыбокай, я сказаў бы нават у “искусной” канспірацыі, цяпер ён, цэнтр, разгромлены, але галоўны, альбо, як называюць арыштаваныя, “дыктатар” усё яшчэ на волі, тузае за нейкія калі не ляйчыны, то шнурочкі. Вось чаму ў нас склалася думка, што ён цяпер не ў Вільні, а недзе тут, у вас. На гэта наводзіць тое, што тут адчуваецца калі не рух, то пэўная мітусня, што разыходзіцца па краі: ёсць яўкі, адбываюцца тайныя сустрэчы і даюцца тайныя інструкцыі – ацалелыя паўстанцы абралі іншую тактыку. Трэба аддаць належнае: гэты верхавод – вельмі разумны, хітры і да ўсяго выдатны канспіратар. Нават некаторыя

ягоныя блізкія памагатыя не ведаюць ні яго ў твар, ні яго сапраўднага імені. Мы шмат чаго спалучылі і лічым: названыя Макарэвіч, Чарняўскі, Хлоп, Хамут, Хамуціус, Яська з-пад Вільні – хутчэй за ўсё адна асоба і таксама хутчэй за ўсё яна менавіта і ёсць гэтым дыктатарам. Але пытанне з пытанняў: хто? Адкуль ён? Які яго ўзрост? Якая прафесія? Тое, што ён не з відных вайсковых, сумненняў няма: усе яны, відныя, у нас на ўліку. Хутчэй за ўсё нейкі фанатык – малады, адукаваны, хітры і самаахвярны. Паважлівы сярод некалькіх завадатараў, якія яго ведаюць. Здолеў стварыць тайную арганізацыю, увесці ў ёй жалезную дысцыпліну. Вось так, калегі.

Усе адчувалі сябе гнятліва.

– Ну, а на заканчэнне дадам тое, што залежыць не толькі ад нас з вамі, але і ад цывільных улад, – сказаў Зайцаў. – Літаральна на днях, першага студзеня, генерал-губернатар Мураўёў выдаў цыркуляр. Па ім навечна забараняюцца беларуская і літоўская мовы, іхні друк. Не дапускаецца ў дзяржаўнай перапісцы, у публічных выступленнях і польская мова. Хопіць. Няхай край больш настойліва прывучваецца да таго, хто тут гаспадар і што яго мова – усіхняя мова. Мы, падкрэслівае Мураўёў, не для таго сюды прыйшлі, патрацілі шмат сілаў, каб даваць патолю мясцовым звычаям і норавам, так званай самабытнасці, самалюбству, гонару, амбіцыям. Не мы першыя, не мы апошнія: так паводзілі сябе, збіралі сваю моц усе вялікія краіны свету: Англія, Францыя (яна, помсцячы нам за сваё паражэнне ў 1812-м, выступае гэткай мамай-заступніцай малых прыгнечаных народаў, хоць у свой час не вельмі спяшалася іх тут ашчасліваць), Іспанія... Не трэба саромецца, ужо заўтра па цэнтры Мінска трэба паставіць шчыты з аб'явамі пра забарону названых моваў (такія шчыты былі, але мінчукі іх перакульвалі, апаганьвалі. Напрыклад, да слова "запрещается" дапісвалі "не", дык выходзіла "не запрещается употреблять польский, белорусский языки". Жарты жартамі, а некаторых злоўленых за такія свавольствы жорстка асудзілі ажно на высылку ў Сібір, і губернскі Мінск напужаўся, затаіўся і паволі пачаў перавучвацца. "У Слуцку ўсё па-людску, а ў Мінску ўсё па-свінску").

Зайцаў даўно ўжо, яшчэ ў маладыя гады, спазнаў: тайныя асведамляльнікі – адмысловы люд. Ужо нават таму, што для кожнага з іх, употай нагледжанага, адабранага, ахранка па-свойму расстаўляе сетку. З улікам таго, хто на што прыдатны, патрэбен, і як яго залатвіць.

Некаторыя спачатку разгубліваюцца, што на іх паклалі вока жандары. Ім прыходзіцца цярпліва, далікатна тлумачыць, што да іх няма ніякіх прычэпак, Айчыне патрэбныя іхнія веды і шчырыя пачуцці. З іх, тых, каму яны дапамаглі па службе, у навуцы, у культуры, звычайна выходзяць падвойныя агенты: адны жывуць, хлеб жуюць, лічачы сябе патрыётамі і сумленнымі людзьмі, а іншыя, дабіўшыся свайго, пачынаюць грэбаваць і цурацца "сяброўства". Асобна – тыя, хто сам прыйшоў даносіць ці шукаць выгодаў, а таксама тыя, каго яны падлавілі на нечым непрыстойным: сярод іх, хітруноў, кар'ерыстаў, помснікаў, хціўцаў, а то проста гнюснікаў, можна чакаць самых розных нечаканасцяў. Хоць, бывае, самыя распусныя і мярзотныя з іх, як жанчыны, так і мужчыны, могуць быць найболей карыснымі. Грэбуеш імі, хочацца цурацца іх, але нідзе не дзенешся, важдаешся і з брудам.

Са стосу дасье на мінскіх даносчыкаў Зайцаў адабраў з дзясятак тых,

хто, як палічыў, мог быць найбліжэй да ненадзейных і мяцежнікаў, хто мог сказаць яму штосьці талковае. Спачатку пагаварыў з супрацоўнікам “Минских губернских ведомостей” Венікавым (па мянушцы “Стервец“). Яму ў свой час паспрыялі перабрацца з правінцыі ў Мінск і ўплішчыцца ў названую газету) – невысокім, каржакаватым, з тоўстай шыяй, з высунутымі наперад зубамі маладым яшчэ чалавекам, якому дазволілі пісаць, друкаваць тое, што не дазвалялася іншым, праўда, стрымліваючы яго прагу да пасад у рэдакцыі, а то і стаць на яе чале, дзеля чаго сярод супрацоўнікаў ён учыняў розныя звады. Пасля сустрэўся з Грыбной (па мянушцы “Бестия”) – сярэдніх росту і гадоў, паўнаватай, некалі прыгожай жанчынай, якая была актрысай мінскага гарадскога тэатра ці, лепш сказаць, стала ёю за сваё падатнае цела. Якраз яе скарыстоўвала мінская ахранка, калі хацела больш уведаць пра якога-небудзь чыноўніка, што мог разгаварыцца менавіта ў пасцелі з каханкай. У апошняе дзесяцігоддзе, асабліва пасля 1852 года, калі ў тэатры мінскай публіцы паказалі “Сялянку”, яна пачала сачыць не толькі за артыстамі, але і за Дуніным-Марцінкевічам, Манюшкам і Кжыжаноўскім, робячы гэта лёгка і спрытна, прыкідваючыся прыхільніцай гэтых талентаў і не шкадуючы захапляльных двудушных слоў ім: жаночыя абаяльнасць, хітрасць, уменне прыкінуцца кім хочаш ды яшчэ ў актрысы – гэта вялікая сіла, і, зразумела, ахранка гэта ўлічвала і будзе ўлічваць. Настаўніца жаночай гімназіі, якая ведае некалькі замежных моў, але, як кажуць, сама сябе есць з-за зайдрасці, нянавісці да маладых, найперш прыгожых як настаўніц, так і гімназістак, Столяр (па мянушчы “Змяя”) – рослая, худая, з мужчынскім абліччам, незамужняя дзявуля – не толькі расказала яму пра сваю гімназію і шмат чаго вакол яе, але і смела выклала яму, што патрэбен новы статут усіх гімназій, а ў ім трэба не толькі падбаць пра пэўныя змены, але найперш зрабіць больш строгімі, нават жорсткімі правілы.

Венікаў, Грыбная, Столяр амаль нічога не дадалі яму да таго, што пісалі ў сваіх данясеннях ці гаварылі тым, хто іх “вёў”, але Зайцаў усіх прымаў ветліва, усім падзякаваў, пажадаў усяго самага лепшага, хоць адразу ж пераканаўся: карысьці з іх няшмат, але пакуль што няхай будуць нават са сваімі самалюбствам, хцівасцю: патрэбныя як паслугачы. Іншых такіх, як яны, шараговых агентаў, больш не клікаў, выбраў толькі яшчэ два дасье тых агентаў, хто па іхнім рангу-падзеле, а значыць і па аплаце быў вышэй.

Гэтыя два агенты лічыліся тут ледзь не ваўкадавамі: яны былі старэйшыя за названых агентаў, вучыліся яшчэ ў Віленскім універсітэце – праўда, пасля выкрытых філаматаў і філарэтаў, незадоўга перад мецяжом 1830-1831 гадоў (выдалі нямала студэнтаў, якія меліся брацць удзел у мецяжы, пасля яго задушэння ад імя студэнтаў-“патрыётаў” пісалі гнеўныя лісты на сваіх калег (у мецяжы ўдзельнічала трэць студэнтаў), а таксама з просьбай зачыніць універсітэт, што быў з 1570 года і куды яшчэ нядаўна яны мелі за шчасце патрапіць. Ваўкадавы ці не, але працягласць іхняга іншага, патаемнага жыцця, жыцця для ахранкі, ужо немалы. Тры з паловаю дзесяцігоддзі. На іх ён і найбольш патраціў часу.

Вось – “Серж”. Сапраўднае прозвішча незвычайнае – Костачка. За пяцьдзясят, але яшчэ маладжавы, сярэдняга росту, шчуплаваты, з сіваватым хібам, як у дзіка, з бойкім позіркам вачэй няпэўнага колеру, азызлаваты – значыць, п’е і, мабыць, найчасцей адзін, бо нават па паводзінах відаць, што тоіць сваю грэшную схільнасць. У свой час, яшчэ студэнтам Вілен-

скага ўніверсітэта, яго падлавілі на двух ганебных учынках: краў кнігі з бібліятэкі, кнігарні, а таксама “растлевал” дзяўчатак з багатых дамоў, якім даваў прыватныя ўрокі, каб зарабіць сабе на пражытак і апратку. З бедных, “барзо зол” на заможных і ўдачлівых. Калі зачынілі Віленскі ўніверсітэт, памаглі яму патрапіць у Пецярбургскі, дзе ён сачыў за выхадцамі з польскіх і беларуска-літоўскіх зямель, а пасля ўладкоўвалі на працу ў розныя гімназіі, каб вельмі нідзе “не засвечваўся”; калі ў 1848-м годзе ў Горках адчыніўся земляробчы інстытут, упіхнулі яго туды – адсочваць выкладчыкаў, сваіх і замежных студэнтаў, а таксама мець пад назіркам “Записки Горы-Горецкого земледельческого института” і ўсе іншыя публікацыі – лепш сказаць, тое, што з рукапісаў магло трапіць на старонкі выдання. Абнюхваў ён і інстытуцкую бібліятэку. Заўзяты славянафіл (можа, і не зусім шчыры, але мае добры нюх на тое, дзе пахне смачным маслам); па просьбе сталічнай ахранкі яго як “сторонника из провинции” славянафілаў “падключылі” весці перапіску са сталічнымі ідэолагамі, каб тых на штосьці справакаваць (з “заходнікамі” вялі перапалку іншыя падабраныя). Костачка спакваля ўвайшоў у сваю ролю, ястрабам сачыў не толькі за інстытуцкімі, але і за тутэйшай ўладаю, пісаў свае заўвагі, парады губернатару, прасіўся да яго на прыём, так уталкоўваў свае “прапазіцыі”, што той урэшце не вытрываў, зверам накінуўся на сваіх памочнікаў: “За версту не допускать до меня этого глупого барана!” Вось пасля гэтага і памянялі яму псеўданім-мянушку, і ён стаў “Сержам“.

– Сяргей Паўлавіч? – павітаўшыся і пасадзіўшы госця, ветла ўсміхнуўся Зайцаў.

– Я, – насцярожана адказаў той – канечне ж, папярэджаны супрацоўнікамі Трунова.

На нейкі час Зайцаў запыніў на ім позірк, вывучаў – не, не як тайнага агента, гэта ўсё добра відаць з даносаў: адкрыты, часамі, як кажуць, лабавы; гэта – не вялікая сіла агента, лепей, мацней іншае – мала гаварыць, а калі падаваць голас, то каб хітра натхніць альбо падбіць субяседніка на шчырую ці адкрытую размову. Але гэты Костачка не ў стане: не той інтэлект.

– Вам, шаноўны, сказалі, хто я і якія мае тут паўнамоцтвы?

– Сказалі, – той адказаў і яшчэ ў знак пацвярджэння хітнуў галавою.

– Добра. Таму, Сяргей Паўлавіч, мы павінны пагаварыць толькі шчыра і даверліва, – Зайцаў пахітаў паднятым уверх указальным пальцам. – Таму ніякіх утойванняў.

– Я заўсёды толькі шчыры! – пакляўся той.

– Верым (не “веру”, а менавіта “верым”, каб зазначыць, што ён, Зайцаў, гаворыць не толькі ад сябе). – Мы, шаноўны Сяргей Паўлавіч, ці для нас “Серж” (ён не ведаў ніякіх замежных моў, такую мянушку яму далі наўмысна, з насмешкай), высока цэнім, як вы тлумачыце нашую гісторыю. Да слова тое, як вы ў свядомасці маладога пакалення ўсталёўваеце паняцце “Кіеўская Русь”, а за яе пераемніцу падаеце Маскоўскую, як сціраеце з памяці Полацкую і Тураўскую вольніцы і асабліва такое пацяцце, як “Вялікае Княства Літоўскае”. Яно было, ёсць і будзе...

Зайцаў наўмысна недагаварыў – нахібіўся.

– ... яно было, ёсць і будзе косткаю ў горле.

Пасміхнуўся ад такога вось свайго паліцэйска-жандарскага каламбуру-жарту і дадаў:

– А вы, шаноўны, найперш будзьце косткаю для іх...

Той насур'ёзіўся.

– Што рабіць, шаноўны? Самае простае, сваё. Як гісторык-філосаф, скажам, паўсюль самі падавайце, змушайце падаваць іншых паняцце "Літва" з гэтых зямель, дзе яна, летапісная, сапраўды была недзе паміж Мінскам, Навагрудкам, Слонімам і Маладзечна, у зусім аддаленым месцы, пераносьце яго, гэтае паняцце, далей, на прыбалтыйскія землі, дзе былі летапісныя Аўкштайція і Жмудзь. А ўсе разам узятыя гэтыя вобласці, правільна, тлумачце, больш – убівайце ў галовы, што яны "исконно русские". Паўтару, гэтым вы будзеце працаваць і на сёння, і на будучыню. Абсякалі і далей абсякайце на гэты конт адрозныя публікацыі, размовы. Думаю, вам ніякі не сакрэт, мы, спаўняючы вышэйшую волю, грамілі і будзем граміць "заходнікаў" кшталту Герцана, а з вас, славянафілаў, падтрымлівалі і будзем падтрымліваць не ўсіх. Не такіх, як, скажам, Кірэеўскі. Ён і яго аднадумцы захопленыя славянскім, дык ён сабраў тут, у Мінскай губерні, тысячы народных песень і, дурань, усцешыўся: якое багацце! Золата! Уклаў гэты фальклор у свой "Беларускі архіў" і хацеў, яшчэ большы дурань, выдаць яго. Але мы своечасова ўведалі гэта і не дазволілі. Цяпер беларускім фальклорам зацікавіўся іншы славянафіл, Бяссонаў, ён хутка прыедзе на працу ў Вільню, дык вось нам там, а вам тут трэба таксама пазамінаць яму. А калі ён здолее зрабіць сваё, то прасачыць, каб мова сабранага ім фальклору была пададзеная як "диалект", "наречие". Дробязь? Не, зусім не! Мы падтрымлівалі і будзем падтрымліваць тых, хто прапаведуе панславізм, вядучую ролю нашай імперыі ва ўсім славянстве. Але я, – Зайцаў прыклаў худую руку да ўпалай грудзіны, – як ваш шчыры і гарачы прыхільнік, папрашу: будзьце, шаноўны, асцеражнейшым, нават перад сябрамі (іх у Костачкі не было) не ўжывайце слова "панславізм". Спажывайце тэрмін "агульнаславянскасць", ён не мяняе сутнасць, але нібыта зусім бяскрыўдны, не выяўляе сапраўдных, агрэсіўных, захопніцкіх намераў па падпарадкаванні ўсіх славянаў пад скіпетрам нашага цара. Зразумелі, шаноўны Сяргей Паўлавіч?

– Зразумеў, – запэўніў той. – Усё добра зразумеў.

– Ну і ладненька. А за тымі вашымі былымі аднадумцамі-славянавіламі, якія насцярожаныя да панславізму, – яшчэ раз прыклаў руку да грудзіны, – выбачайце, да агульнаславян, узмацніце назірк. Асабліва за тымі, хто пагаворвае пра "наше кошмарное прошлое"...

– "Почвенники", – падказаў Костачка.

Зайцаву, канечне, не спадабалася, што агент перапыняе яго, палкоўніка, ды яшчэ з асобымі місіяй і паўнамоцтвамі. Мала гэтага – дык яшчэ дапаўняе, лічачы, што ён ведае больш.

"Пачакай! – у душы пазласлівіў Зайцаў. – Зараз я тузану цябе за ногі і гопну з печы на дол!" Але праявіў сваю славутую вытрымку, уголас нічога не прамовіў, са згодаю хітнуў галавою:

– Так-так, шаноўны, "почвенники". Нам імпануе, што яны супраць матэрыялізму, рэвалюцый, што ўслаўляюць гарманічны рознакласавы геній Пушкіна, усяцэласць, усёпрымірымасць, агульначалавечнасць, але яны небязгрэшныя: у іх – небяспечныя мікробы "демократии" і "оппозиции".

– У нас тут, ваша высокаблагароддзе, – зноў заспяшаўся выскачыць наперад Костачка, – таксама ёсць "почвенники", але ўсе – драбната. Самыя вядомыя – у Пецярбурзе. Грыгор'еў, Страхаў, а цяпер вось і Дастаеўскі, які колькі гадоў таму вярнуўся са ссылкі. Да Грыгор'ева і Страхава я па

заданні некалькі разоў ездзіў, падбіваў іх на розныя размовы (пытанні і парады складала ахранка), але яны ўхіляюцца ад сустрэч. Дастаеўскаму я пісаў як "шчыры прыхільнік ягоных "Бедных людей". Ён спачатку адказаў мне пару словамі пра вельмі агульныя рэчы, а пасля параіў чытаць часопіс "Время", ягоную палеміку з "Современником". Цяпер, калі "Время" зачыненае, будзе выходзіць новы часопіс...

Зайцаў зноў не ўпадабаў, мала сказаць, нецярплівага агента, але і зноў не падаў выгляду.

– Новы часопіс будзе называцца "Эпоха", – сказаў, маючы пра гэта звесткі па сваёй службе з самога Пецярбурга. – Ды ладна, шаноўны. Пра сталічнае няхай разбіраюцца ў сталіцы. Нас з вамі павінна болыл турбаваць іншае.

Падняў галаву, уперыў позірк у няяснага колеру вочы агента, паставіў правы локаць на стол і верхнімі пальцамі пачасаў падбародак:

– Я нядаўна сказаў, што мы, шаноўны, вамі задаволеныя. Трэба агаварыцца: вы былі ў нас на добрым уліку раней. Апошні год вы рабілі для нас работу дрэнна.

Костачка ўстрапянуўся, наставіў хіб, але цяпер зразумеў: ні апраўдвацца, ні пра што-небудзь запытваць не варта. Трэба слухаць гэтага ўладнага недарослага лысмана. Ад нечаканасці, мабыць, хлынула кроў у скроні: пацёр іх пальцамі.

Зайцаў дапусціў зацяжную паўзу – няхай папамучыцца крыху, будзе шаўкавейшы. І той збянтэжыўся: за што папрок?

– А папрок, шаноўны Сяргей Паўлавіч, – угадаў яго думкі Зайцаў, – за тое, што вы ў свой час не перасцераглі нас у небяспецы ад вашага інстытута. Гэта ж столькі выкладчыкаў, студэнтаў пайшло з паўстанцамі! Вы, яны асаромелі нас, усю імперыю: у захопленых Горках на нейкі час была свая рэспубліка!

– Паверце! – разгублена падхапіўся запрошаны, прыклаў руку да грудзіны. – Я і падумаць не мог, што ёсць столькі ненадзейных!

Зайцаў махнуў рукою: сядзь. Той паслухмяна апусціўся ў крэсла насупраць.

– Вось і дрэнна, вельмі дрэнна, што вы як след не падумалі. Добра, што вы вялі размовы, правакавалі, спрачаліся. Але было б значна лепш, каб менш гаварылі, а больш пранікалі ў думкі не толькі субяседнікаў, але і тых, хто асцерагаўся, маўчаў, тайна дзейнічаў і чакаў свайго часу. Цяпер (але не ад вас, шаноўны Сяргей Паўлавіч) нам стала вядома: выкладчыкі і студэнты сустракалі віленскіх агітатараў, мелі тайныя сходкі, абгаворвалі, змаўляліся, што, як і калі рабіць. У вас пад носам!

Агент апусціў галаву: што праўда, то праўда, што шмат іхніх інстытутцаў хлынула да паўстанцаў, памагло захапіць Горкі ў іхнія рукі. Ён гэтага не прадбачыў, своечасова не перасцярог. Значыць, правароніў. Яго могуць адхіліць ад агентуры. Канечне, бяда не ў гэтым, а ў іншым. У "ганарары". За яго віжаванне яму добра плацяць, за гэтую і інстытуцкую плату ён можа для сябе, жонкі, сына і двух унукаў мець ладны дом, дачу, пакаёўкуняньку, кухарку, конюха і тройку коней, можа памагаць дзвюм дочкам, што выйшлі замуж і жывуць асобна. А што цяпер, калі адхіляць і забяруць большы за яго службовую плату "ганарар?" Выбівацца з гразі ў князі, жыць уежна і ўлежна, і апынуцца ля разбітага карыта?

– І, дарэчы, маглі б, шаноўны Сяргей Паўлавіч, гэтак не казыраць

сваёй заможнасцю, – заўважыў Зайцаў, чым зусім уеў таго. – Вашыя калегі па інстытуце не могуць сабе дазволіць тое, што дазваляеце вы. Як вядома, людзі зайздросныя. Вось і не адзін з іх падумаў, запытаў у іншых: адкуль у вас столькі грошай, калі вы з галяцкага роду? Канечне, за нашыя "ганарары". І пасля гэтага хочаце, каб яны вам давяралі? Зажыравалі вы, шаноўны! Атлусцелі, абляніліся, ужо зусім не гончы пёс: страцілі нюх на звярыны след. А гаўкаць, аббрэхваць – гэта зусім не для гончага пса. На гэта ёсць дварнякі.

Твар Костачкі наліўся чырванню, стаў як у печанага рака.

– Хто такія, па-вашаму, Макарэвіч, Чарняўскі, Хлоп, Хамут, Хамуціус? Хоць чулі пра іх?

– Чуў, пра гэта пытаўся ў мяне мой куратар, – панікла адказаў той. – Але я не ведаю, хто гэта такія.

– А Яська з-пад Вільні?

– Гэта рэдактар "Мужыцкай праўды". Яе тут часта і шмат раскідвалі.

– Я гэта, шаноўны, і без вас ведаю. Скажу больш: газета пісалася проста, нават вельмі проста, але ясна, даходліва. Да яе прыкладалі рукі разумныя галовы. І з беларускім мысленнем. Дык вось і трэба шукаць гэтых яськаў сярод беларускамоўных, свядомых, хто за адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага, а то ўжо і асобнай Беларусі. Не выпадкова ж у многіх паўстанцаў пароль "Жыве Беларусь!"

Костачка апусціў галаву, палымнеў чырванню: не мог нічым апраўдацца, выслужыцца. А для гэтага цяпер і маці родную не пашкадаваў бы, прадаў.

– Цэнячы вашыя былыя заслугі перад намі, даю вам шанец выправіцца, даказаць сваю вернасць і карысць Айчыне, – нацешыўшыся пакутамі агента, зміласцівіўся Зайцаў. – Заданне і лёгкае, і заадно цяжкае. Яно – як кажуць, з ліку "бруднай работы". Але вы яе ўжо рабілі, а цяпер зробіце яшчэ лепш.

– Я ўсё зраблю, што загадаеце! – усцешаны надзеяй, падхапіўся Костачка. – Усё!

"Зробіць", – паверыў Зайцаў, але цяпер не паказаў садзіцца. Няхай стоячы выслухае загад.

– Успомніце сваё заданне больш чым трыццацігадовай даўніны, – пацешыўся Зайцаў. – Успомнілі? Асноўнае сваё заданне, якое выконвалі па-маладому спрэчліва, перажываючы, але выканалі, за што вам адкрылася дарога ў жыццё!

Агент не ўцямліваў гэтага.

– Трэба пакараць вашыя Горкі ды і ўсю гэтую Беларусь, што хоча паўстаць на падмурку Вялікага Княства Літоўскага. У ліку карных мер мы раім пазбавіць іх адзінай вышэйшай навучальнай установы, забраць земляробчы інстытут з Горак. У іншым месцы і выкладчыкі, і студэнты будуць іншыя. І іншыя будуць вучоба, выхаванне. А для тутэйшага люду адчыняюцца ўжо і далей будуць адчыняцца па нашых праграмах пачатковыя школы. Хопіць з іх і такой навукі, такіх ведаў. Як кажа Мураўёў, што не дарабілі мы са штыкам, то няхай дарабляюць далей поп, настаўнік, чыноўнік, каб праз пакаленне-другое зусім зніклі не толькі назвы, але і паняцці "Вялікае Княства Літоўскае", "Беларусь", "беларускі"! Усю літаратуру адсачыць, крамольную для нас калі не знішчыць, то запраторыць у глыбокія норы! І доступ туды – толькі лічаным (нашым) людзям!

Костачка не ўзрадаваўся, няўцямна, нават з адчаем лыпаў павекамі:

як зачыніць інстытут, дзе ён ужо шаснаццаць гадоў? Адразу падумаў не столькі пра вучэльню, колькі пра сябе.

– Пра сябе не хвалюйцеся, – усміхнуўся, супакоіў Зайцаў. – Бядней жыць не будзеце. Знойдзем вам і працу, і “ганарарамі” не пакрыўдзім. Канечне, калі будзеце старацца. А нашага з вамі старання, працы яшчэ будзе патрэбна шмат. Як у бліжэйшыя гады, так і ў будучыя дзесяцігоддзі. Жывучыя расліны не хутка і не за адзін раз выполваюцца. Вось вы, шаноўны, і будзеце палоць-палоць-палоць!

– Што мне рабіць? – аддана запытаў той.

– Вы павінны сабраць шмат лістоў ад розных слаёў грамадзян з просьбай, парадаю, каб строга пакараць бунтоўных выкладчыкаў і студэнтаў, а земляробчы інстытут перавесці з Горак, з гэтага краю. Дзеля ж яго спакою, ладу.

– Я ўсё зраблю, як вы і сказалі, ваша высокаблагароддзе! Я...

– Вось і ладненька, шаноўны Сяргей Паўлавіч, – паверыў Зайцаў, што “Серж” будзе дзеля апраўдання і тлустага кавалка рупіцца – гэта значыць, праяўляць усё сваё “усердие”. – Зразумела, усе свае акцыі, шаноўны Сяргей Паўлавіч, не афішуйце, абгортвайце ў прыгожыя паперачкі. Нідзе ні слова, скажам, пра русіфікацыю краю і паглынанне яго ў расійскі страўнік. Ёсць іншыя тэрміны, паняцці. Пра “наши одни исторические корни”, “братство”, “единую и неделимую священную империю”... Значыць, трэба завастрыць увагу на... “способах сближения”, каб нават самаму задрыпанцу хацелася на пузе паўзці да нас, без каго ён не ўяўляе сабе жыцця! Ясна?

– Ясна, ваша высокаблагароддзе! – выструніўся Костачка. – Усіх ненадзейных нават у думках скруцім у бараноў рог! Ніякай Беларусі тут ніхто не пабачыць нават у сне! Нагамі затопчам! Рукамі задушым! Зубамі загрызём! – І як апошняе, самае страшнае: – Заплюем!

– Блаславўляю, – пасміхуўся Зайцаў. – Веру, што вы цалкам апраўдаеце наш давер. – Дастаў з верхняй шуфляды стала пакоўны канверт і падаў агенту. – Гэта вам асабіста ад генерал-губернатара за вернападданіцкую службу.

“Графоман”... “Ну і псеўданімы-мянушкі даюць мінскія жандары сваім агентам!” – пахітаў галавою Зайцаў.

“Графоман” – Эдгард Кубыльцаў, з чыноўнага люду, супрацоўнік губернскай управы. За пяцьдзесят гадоў, сярэдняга росту, худы, рэдкія і кароткія сівыя валасы, вялікія залысіны, выцягнуты твар з тонкімі рысамі, невялікія вузенькія акуляры, а з-пад іх глядзяць ні то стомленыя ад седатні і пісаніны, ні то са знакам душэўнай нездаровасці, ліхаманкавыя вочы. Адукаваны, нават кніжнік, ведае некалькі моў, у тым ліку і старажытнагрэчаскую, не п’е і не курыць, хоць для сям’і, можа, няхай бы лепш грашыў, чым меў такую паважлівую “добродетель”: хворы. І гэтая хвароба, як у народзе кажуць, “на галаву” – гэта значыць псіхічная, з кожным годам, асабліва на маладзіку, набірае моц. Тайна і за немалую плату лечыцца ва ўрачоў і вясковых бабулек. Яго ўласна і падчапілі на гэты кручок зусім проста, хоць і неміласэрна: сыгралі на ягонай маніі сваей геніяльнасці.

“Вы – выключная асоба, вышэй тут за ўсіх чыноўнікаў і творцаў, дык памажыце нам, гэта значыць Айчыне, вызначыць, хто і чым дыхае з супрацоўнікаў губернскай, гарадской управы і з мінскіх польскіх, польска-беларускіх паэтаў і кампазітараў, мастакоў”. Згадзіўся. І служыць ахранцы

аддана, хоць часамі, заўважаюць у сваіх прыпісках куратары, у яго шмат “бреда”. Дарэчы, адзін з яго ранейшых псеўданімаў – “Бредовый“.

– Эдгард, – калі адмысловы госць сеў, зазірнуў у ягоныя вочы Зайцаў, каб пранікнуць таму ў душу. – Рэдкае ў вас, міл-чалавек, імя. Нават, па–мойму, не зусім польскае. – “Сержа” ён называў “шаноўны”, а вось для больш інтэлігентнага “Графомана” тут жа, у першую хвіліну сустрэчы, выбраў іншы зваротак.

– Мы – мінчане, гускія, тут з часоў Кацягыны Дгугой, – запэўніў Кубыльцаў. – У вайну з Напалеонам майго бацьку-афіцэга выгатаваў салдат-латыш, Эдгагд. Вось бацька і назваў у аддзяку таму яго іменем мяне, сына.

– Але дзіўны ў вас, міл-чалавек, гук “р”... – наўмысна вось так зазначыў Зайцаў.

– Не, я не з пегахгышчаных, – пасяшаўся апраўдацца і запэўніць у славянскасці той. – Мы – пгаўда, гускія. У мяне “г-р” – “дефект г-речи” (далей мы не будзем падкрэсліваць гэтую моўную хібу).

– Я гэта між іншым, каб мы з вамі размаўлялі шчыра і даверліва, – супакоіў Зайцаў. – Мы вам верым, высока цэнім вас за вашыя паслугі, за тое, як вы свядома прыніжаеце тут польскую літаратуру і знішчаеце парасткі сучаснай беларускай. Вашы аналітычныя нататкі памагаюць лепш зразумець тутэйшы літаратурна-мастацкі працэс, яшчэ з таго часу, калі вы своечасова забілі трывогу за празмерную ўвагу пецярбургскага часопіса “Маяк” да беларускай гісторыі, мовы і літаратуры. Мы, дзе і каму трэба, узмацнілі вашую трывогу і памаглі “Маяку” спачыць на векі вечныя – зразумела, не толькі за яго беларускія сімпатыі. Задаволеныя мы вашай ацэнкаю “Энеіды навыварат” і “Тараса на Парнасе”, творчасці Равінскага, Баршчэўскага, Чачота, Дуніна-Марцінкевіча, Каратынскага, Ельскага і іншых, менавіта па вашых рапартах мы своечасова многае ўведалі і зрабілі нямала чаго, каб штосьці забараніць, не дапусціць да друку. Праўда, і вы, прафесіянал, мушу зазначыць, не заўсёды былі на вышыні. Вось, скажам, не разгадалі, хто напісаў падбухторніцкую “Гутарку старога дзеда”.

– Я ўважліва вывучыў метафары, манеру, стыль усіх віднейшых паэтаў нашага краю, але да пэўнай думкі прыйсці цяжка, – горача пачаў тлумачыць Кубыльцаў. – Мабыць, паэму напісалі ўтрох. Дунін-Марцінкевіч, Каратынскі, Сыракомля.

– “Мабыць”, міл-чалавек, ёсць мабыць.

– Але ж ёсць некалькі варыянтаў твора. Прапольскі і прабеларускі. Прапольскі дух надалі, канечне, выдаўцы. Значыць, прабеларускі варыянт мог напісаць Дунін-Марцінкевіч. Я пра гэта казаў.

– Тады такіх вашых тлумачэнняў не хапіла, каб зняволіць яго.

– А мог прабеларускі варыянт напісаць і хтосьці з маладзейшых, хто запісваў свае творы ў “Альбом” Вярыгі-Дарэўскага, – пачаў заглыбляцца ў паэтычныя сакрэты Кубыльцаў. – Бо васьміскладовік “Гутаркі” не толькі з польскамоўнага вершаскладання, беларускага народнага, але і з рускай паэзіі, якую вывучаюць тут у гімназіях пасля 1838 года, калі пачалося шырокае выкладанне рускай славеснасці. Вось ужо новая паэма “Крыўда і праўда” мае яўныя русізмы, што...

– Ладна, Эдгард Міхайлавіч, – перапыніў пазнанні і захопленасць Кубыльцава Зайцаў. – Мне няма часу слухаць лекцыі па паэзіі і яе тонкасцях.

Гэтым ужо займайцеся вы, а нам давайце тое, што хочам мы. – Вось, да слова, што і як робіць цяпер “ліцьвінскі” класік Дунін-Марцінкевіч?

– Цяпер ён жыве вельмі скрытна, мала каго да сябе дапускае. Я, як мне і было даручана, ездзіў да яго, спрабаваў разгаварыць, але ён ні на якія размовы не паддаўся. Ён – немалады, хворы, хутчэй за ўсё быў убаку ад мецяжу, а вось яго дочкі маглі браць у ім удзел.

– Як паэта яго песенька ўжо спета. На беларускай мове ён не пабачыць ні аднаго свайго вершыка!

– Але ж я пісаў: ягоныя прыхільнікі шукаюць шляхі, каб выдаць яго творы за мяжою!

– Не дапусцім, – упэўніў Зайцаў. – А цяпер іншае да вас пытанне: хто сапраўдны (я) аўтар (ы), выдавец (аўцы) “Мужыцкай праўды?“

– Гэта нехта з глыбокага падполля, з мяцежнікаў, – пацiснуў плячыма агент-літаратар-службовец.

– Гэта мы і без вас, міл-чалавек, ведаем, – махнуў рукою Зайцаў. – I вось яшчэ што: па нашых звестках недзе тут цяпер хаваюцца галоўныя завадатары паўстання. Калі вы здолееце хоць бы неяк, хоць крышачку памагчы натрапіць на след, мы вас за гэта азалацім.

Вочкі ў Кубыльцава загарэліся, ліхаманкава бліснулі, але зусім не весела, а нават панікліва:

– Мне ў маім жыцці патрэбна толькі адно. Але не столькі грошы, колькі іншае...

– А што? – зацікавіўся Зайцаў.

– Пасрыяць надрукавацца. Я напісаў 49 раманаў, 57 паэм і 2118 вершаў. Каб выдаць гэта, то была б унікальная ў Расіі бібліятэка аднаго аўтара! А яшчэ ў мяне, – паказаў рукою высока над сталом, – во такая гара перакладаў.

– I што ж? – пасміхнуўся Зайцаў. – Чаму мы гэтага, міл-чалавек, не бачым выдадзенымі кніжкамі? – Ведаў чаму, але наўмысна так запытаў, сыграўшы на самалюбстве.

– Не выдаюць. Ні ў Вільні, ні ў Пецярбурзе.

– Чаму, скажам, у Пецярбурзе? – не проста пацікавіўся, але зноў жа, пра ўсё маючы звесткі, у душы паздзекаваўся Зайцаў з графаманіі Кубыльцава.

– Я няўгодны дзярмократам з “Современника” на чале з Някрасавым. Мяне там поедам елі цяпер нябожчык Дабралюбаў, Чарнышэўскі.

– А цікава вы сказалі: “дзярмократы”! – захапіўся Зайцаў. – Трэба запомніць гэтае вашае азначэнне. Думаю, спатрэбіцца. Скажам, калі ўзмоцнім назірк за Някрасавым, будзем судзіць Чарнышэўскага.

Кубыльцаў, як убачылася па позірку, усцешыўся.

– Будзем. Хутка, праз месяц-другі. I для Чарнышэўскага ганебна. Цяпер, пасля мецяжу тут, будзем больш жорстка брацца за яго натхняльнікаў і ў Расіі. – Захітаў галавою. – “Дзярмократы!” Добра! Нават выдатна сказана! А калі не сакрэт, то пра што вашы творы, міл-чалавек?

– Пра гісторыю антычнасці, імперыі нашай. Усе яны напісаныя, каб выклікаць у чытача, найперш маладога, любоў да нашай Айчыны, патрыятызм, пачуццё ўсеславянскасці на чале з нашым гасударом.

– Вы – панславіст?

– Так.

– I таму вашыя творы не падабаюцца?

– Таму.

– Ай-яй-яй! – зноў пахітаў галавою, “паспачуваў” Зайцаў. – І яны, нягоднікі, бракуюць іх за вашыя святыя ідэі!

– Яны прыдзіраюцца за іншае. Маўляў, маім творам бракуе мастацкасці. Маўляў, яны прымітыўныя.

– Яны спрытныя на прыдзіркі і адгаворкі, хоць асабіста я не сказаў бы, што многія з іх пішуць моцна па-мастацку. Ёсць сярод іх хоць адзін, хто можа наблізіцца да мастацкіх твораў Льва Талстога?

– З іхняй “натуральнай школы”, якую яны пачалі прапаведаваць яшчэ ў 40-я гады, найбольш выдзяляюцца Ганчароў, Тургенеў, Салтыкоў-Шчадрын, Грыгаровіч. А цяпер модны стаў Дастаеўскі, які нядаўна вярнуўся са ссылкі і актыўна падключыўся да літаратуры, развівае ідэі “почвенничества”. І я пішу не горш за іх. У асобных творах нават лепш.

– І вы, міл-чалавек, ухваляеце, скажам, Дастаеўскага з яго “Запіскамі з Мёртвага дома”? Не бачыце ў гэтай “праўдзе” пагрозы нашаму ладу? Не лічыце, што ён пад “Мёртвым домам”, пад «заганамі» мае на ўвазе ўсю нашу Расію-матухну? Не настройвае супраць яе тую ж нашу моладзь, якую вось вы хочаце выхоўваць у любові, святасці, патрыятызме? Ён жа яе выхоўвае не на асілках, героях, іхніх вялікіх справах, а на “ўвазе да “маленькага чалавека”, які, выходзіць, зусім не бязгрэшны, а ў душы нягоднік. Вас не бянтэжыць гэтае корпанне ў псіхалогіі і ў тым, што з ёю? А гнюсныя ўчынкі? Не бярыце, міл-чалавек, і з яго прыклад, пішыце так, як пісалі дасюль. І верце ў сваю шчаслівую планіду. Бывае, прызнанне да некаторых прыходзіць нават пасля смерці. – “Толькі не да словаблуддзя”, – мог так дадаць, але не сказаў, а ўголас пра сваё: – Узмацніце-ўзмацніце, міл-чалавек, назірк за польскай і польска-беларускай інтэлігенцыяй. Цяпер для вас галоўнае – не вашы ненадрукаваныя творы, а іменна гэта. Пра ваша прыгожае пісьменства падбаем пазней.

– Учора я зусім выпадкова сустрэўся з адным маладым чалавекам, – сказаў Кубыльцаў. – Ён, як тут кажуць, “шчыры ліцьвін”, паэт, артыст, любімец Дуніна-Марцінкевіча і Манюшкі, іхняя надзея на ліцвінскую будучыню. Апошнія часы ў Мінску я яго рэдка бачыў: ён некуды падоўгу знікаў.

Каб іншы следчы, то мог бы тут жа выгукнуць: “Яго прозвішча, імя?”, але Зайцаў не мог сабе гэтага дазволіць, чакаў для сваёй карысці нейкай інтрыгі.

– І ён быў пераапрануты пад служачага, у акулярах і не пад сваімі валасамі. Я яго пазнаў па голасе. Аклікнуў – ён ажно ўздрыгнуў, кінуў мне, што я памыліўся, і хуценька шмыгнуў прэч.

– Вы не прасачылі за ім?

– Прасачыў. Ён падаўся ў Бабруйск.

– Ягоныя імя, прозвішча, падрабязныя прыкметы, – Зайцаў падаў Кубыльцаву чысты аркушык паперы, ручку са стальным пяром, чарнільніцу.

– Я перадаў летась сюды, у ахранку, фотаздымак, дзе ён, Яўген Новік, з прыхільнікамі разам з Дуніным-Марцінкевічам.

Зайцаў нагнуўся ўправа, адцягнуў верхнюю шуфляду стала, дастаў з яе папку і, каб Кубыльцаў не пабачыў яе, не ведаў, што і на яго тут ёсць дасье, пагартаў, знайшоў старонку з буйным надпісам “1863 год”, а пасля – тое фота. Прыкрыў усё, апроч здымка, белымі аркушыкамі, узяў тоўстую папку і, павярнуўшы, паказаў Кубыльцаву: – Гэты?

– Гэты. Вось ён, кучаравы, у світцы. Чацвёрты справа.

– Хлапчук яшчэ зусім. Гадоў пад дзевятнаццаць. Разумны, здольны і, паўтару, заўзяты ліцвін з беларускім ухілам.

– Ужываў калі кліч “Жыве Беларусь”?

– Пры мне – не. Толькі чуў разы два, што іншыя называлі яго дзецюком. А менавіта так звярталася “Мужыцкая праўда” да сваіх чытачоў, прыхільнікаў: “Дзецюкі!”

“Тут штосьці ёсць, тут можна пацягнуць за нейкую нітачку, – сабачым нюхам учуў зайцаў след Зайцаў (сам сабе ўсміхнуўся ён ад такога апошняга выразу). – Канечне, гэты Новік не можа быць верхаводам ці нават паблізу яго, але, можа, і тое-сёе ведае пра тых іншых, хто тут хаваецца і затаіўся“.

Яшчэ да паражэння паўстання некаторыя польскія, тутэйшыя “белыя” і “правыя чырвоныя” пачалі каяцца, прадаваць сяброў, пісаць на імя цара просьбы пра памілаванне, а вось тутэйшыя ” левыя чырвоныя” не здаюцца, разбегліся, пазалазілі ў норы ці на гарышчы, хоць зусім не значыць, што адышлі ад свайго. Канечне ж, яшчэ маюць свае паролі і яўкі, сувязных.

– Вось што яшчэ, Эдгар Міхайлавіч. Паколькі вы працуеце ў губернскім упраўленні, многіх ведаеце, то складзіце спіс мясцовых здольных, але ненадзейных чыноўнікаў. Мы прыбяром іх адсюль, а замест іх прышлём сваіх, з цэнтральных губерній, – прамовіў Зайцаў і ўручыў Кубыльцаву канверт. Ад імя Мураўёва.

Агент, хоць і казаў, што грошы не галоўнае, канверт усё ж узяў з ахвотаю, прыгнуўся:

– Дзякую, шчыра дзякую яго правасхадзіцельству. Перадайце яму: быў, ёсць і буду “гускі патгыёт!”

Зайцаў хацеў ужо “цёпла” развітацца з ім, ведаючы, што нічога перадаваць Мураўёву не будзе: таму не да іх, псоў-агентаў. Але нечакана найбольш інтэлігентны з усіх агентаў Кубыльцаў не проста здзівіў, а ўразіў: лічы, кінуўся, схапіў яго руку і зацмокаў у яе. Зайцаў ажно адхіснуўся; тутэйшы мужчына, нават просты селянін да адмены прыгону так не рабіў, мог зняць перад панам шапку ці, калі вінаваты, бухнуцца на калені, але каб так? Гэта што – аддзяка за тое, што яго могуць прапіхнуць яны ў сойм вялікіх рускіх пісьменнікаў?

Зайцаў вырваў руку, махнуў ёю: ідзіце; Кубыльцаў, кланяючыся, пачаў адступаць ад стала спіною да дзвярэй. Знік за імі.

“Невысокага палёту птушкі мінскія і пазамінскія агенты, – зняважліва падумаў Зайцаў. – Усе з нейкімі хібамі, без вялікага розуму, хітрасці, спрыту, тонкасці. Драбяза. Але кожны па-свойму драпежнік. Ды нідзе не дзенешся. Няма іншых, талкавейшых, дык няхай будзе хоць такая погань. Няхай тое, што трэба, топчуць, душаць, грызуць, абплёўваюць. Без гэтага не абыходзілася і не абыйдзецца. На яго не шкадавалі і не будуць шкадаваць нават вялікіх грошай”.

Праз некалькі дзён да Зайцава пад канвоем прывялі юнака – высокага, танклявага, русавалосага, пабялелага, з даволі прыгожым, але чымсьці непрыемным, нейкім лісіным тварам, з застылым у вялікіх упалых вачах страхам. У мундзіры чыноўніка ніжэйшага класа. Ён адразу ж пазнаў яго па здымку: Новік, любімец Дуніна-Марцінкевіча і Манюшкі. Той, што цяпер, са слоў “Графомана”, мітусіцца-бегае. Пакуль яго падводзілі, Зайцаў гадаў: а як паводзіць сябе і ў Вільні, і тут, у Мінску, ён намагаўся кожнага па-свойму заманіць у сваю павуціну.

Канваірам махнуў рукою на дзверы: пакіньце нас удвух. Тыя не маглі не паслухаць.

“Напалоханы і вельмі. Нават у перапудзе, у паніцы ад арышту, – вылічваў-думаў. – Дык што – яшчэ настрашыць? Загнаць у кут? Бадай, не. Можа ўперціся, зацяцца. Тым больш, што падумаў ужо, як выкручвацца. Але паколькі самавалоданне слабое, вельмі хоча жыць, то трэба падабраць іншы ключык. Да таго, што яму дарага”.

– Прашу, сядайце, – як амаль заўсёды, “ветліва” запрасіў ён. – Мне будзе вельмі прыемна пагаварыць з вамі, маладым чалавекам ці, як у вас кажуць, хлопцам, хлапчынам, – пасля паўзы, – ... дзецюком.

Той сеў. Нерваваўся, пакусваў ніжнюю губу; кулакі на каленях, і яны падрыгвалі.

– Вам, юнача, сказалі, што я палкоўнік ахранкі?

Той адмоўна пакруціў галавою.

– Так, я ёсць палкоўнік. Прыехаў сюды з Вільні расследаваць, хто і як браў тут удзел у мецяжы. Адпаведна, служба мая вымагае быць мне строгім, нават неміласэрным. Зразумела, не да шчырых, сумленных людзей, а да дзяржаўных злачынцаў. Іначай я не выканаю свайго абавязку, буду пакараны. Як і кожны на маім месцы.

Новік апусціў галаву, слухаў; яго білі дрыжыкі.

– Але я не машына нейкая, а чалавек, – павёў сваю лінію Зайцаў. – Як і вы, юнача, маю душу, свае ідэі і ідэалы. Вось да мяне прывялі вас. Я не хачу спяшацца запытаць, за што арыштавалі, патрабаваць адказаць, як вы паводзілі сябе ў час мецяжу. Я найперш хачу пагаварыць з вамі як старэйшы чалавек з маладзейшым, як бацька з сынам. Сын... – Заміргаў павейкамі, а потым і (сам здзівіўся) заплакаў. – І ў мяне быў сын. Старэйшы за вас, афіцэр. Прыгожы, разумны, у яго магла быць бліскучая ваенная кар’ера, але, бядача, паў смерцю храбрых на нядаўняй Крымскай вайне. За цара нашага і за Айчыну мілую.

Дастаў з ніжняй кішэні пінжака хустачку, выцер слёзы, бачачы, што ягоныя слёзы ўразілі Новіка.

– Вы, юнача, мабыць, падумалі: а які ўсё ж слабак жандарскі палкоўнік з Вільні, які мог бы быць цяпер тут “извергам” – ліхадзеем, нягоднікам, вылюдкам, катам над лепшымі людзьмі краю. Кажу ж, і я чалавек, дык не вытрымлівае вялікай страты, гора, бацькоўскае сэрца, – і нечакана перавёў гутарку на іншае, на тое, што трэба гэтаму Новіку: – У вас, юнача, ёсць бацькі?

Той хітнуў галавою ў знак згоды.

– Думаеце, іхняе бацькоўскае сэрца не будзе балець нават ужо за тое, што вас арыштавалі, могуць прыпісаць розныя грахі і саслаць у Сібір на марненне і гібенне?

Новіка гэтыя словы расчулілі.

– Сібір, – наступаў Зайцаў, – вялікая, прыгожая, багатая, але яна ўлетку гарачая, узімку страшна халодная, даволі пустынная, ціхая... Некаторыя ссыльныя вар’яцеюць ад яе вялікасці, глушыні, дзікіх нораваў тубыльцаў. А калі яны адтуль вяртаюцца, то гэта ўжо зусім іншыя людзі. У чымсьці ўжо скалечаныя. А да ўсяго застаюцца пад назіркам паліцыі.

Зайцаў адвярнуў убок галаву, нейкі час пазіраў у акно, за якім шалела мяцеліца – белая, хоць і халодная, але прыгожая. Ды любаванне зімовым пейзажам было між іншым: ён хацеў, каб ягоныя словы запалі ў Новікаву душу, глыбока і трывала аселі там, узварушылі тое, што трэба яму.

Пасля зноў перавёў позірк на, здаецца, ужо іначай, з ваганнямі, разгубленага Новіка і запытаў свядома:

– Вы, юнача, ведаеце, што ў свой час генерал-губернатар Мураўёў, якога мяцежнікі тут празвалі “вешацелем”, “душагубам”, “глухой сцяной царызму”, у маладосці хіліўся да дзекабрыстаў?

Агаломшыў: Новік вырачыў свае блакітныя вочы.

– Так-так, – пасміхнуўся Зайцаў. – Юнацтва! Маладосць! Хто з нас тады не быў перапоўнены летуценнямі, вольнадумствам, прагаю зменаў і пераменаў, “вызвалення народа ад ярма”?! Асабіста я зусім не асуджаю вас, юнача, калі і вы бралі ўдзел у мецяжы, жадалі адраджэння сваёй мовы і культуры, Бацькаўшчыны! Зусім не! Святыя пачуцці, што кожную асобу робяць сапраўдным сынам сваіх бацькоў, свайго народа! Тым больш, што з вамі, ліцвінамі, беларусамі, абыйшліся і абыходзяцца вельмі жорстка. Адкрыта я не магу асуджаць нашую імперскую палітыку, але я ў душы спачуваў і спачуваю мяцежнікам, на допытах хачу ўсё пра ўсіх уведаць. Каб не столькі далажыць вышэйшым за мяне па пасадзе, пакараць, колькі намагаюся памагчы выратаваць светлыя галовы і шчырыя душы.

Перапыніў сваю казань, нібы між іншым, а на самай справе пільна назіраў: а гэта як успрымае юны нацыяналіст?

– Вось цяпер, ведаю, тут не столькі цэнтр, колькі той-сёй з паўстанцаў перабег сюды, хоча прадоўжыць мяцеж. Мне, юнача, не трэба нічога ў вас ні пытаць і нічога вам не тлумачыць: мяцеж задушаны. Зноў жа, часамі вельмі нелітасціва, агнём і мячом. Такая ўжо логіка вайны. Логіка барацьбы за цэласнасць імперыі. І яны, імперыі, паверце мне, чалавеку дасведчанаму, усе і ўсюды так робяць. Не толькі вам, але і мне гэтага не змяніць. Бо інакш і мяне аб’явяць здраднікам, самае малое пашлюць пазнаёміцца з Сібірру.

Зайцаў яшчэ пільней зазірнуў Новіку ў вочы, яшчэ раз агаломшыў, але ўжо іншым:

– Скажыце, што цяпер для ацалелых мяцежнікаў лепш: працягваць сваю барацьбу, гінуць самім і цягнуць на эшафот іншых? Самім усё сваё падрэзаць пад корань? Альбо здацца, але заслужыць высокія міласць і дараванне, жыць, вучыцца, працаваць, ствараць сем’і і паволі для сваёй святой справы збіраць новыя сілы, каб у новы, зручны час падаць голас пра свой заняволены народ, пра сваю загубленую краіну? – Патрос рукой далоняй уверх. – Што, юнача, дружа мілы, лепш?

Новік ад пачутага ажно разявіў рот: зусім не чакаў такога ад палкоўніка-жандара, каго ўжо загадзя ненавідзеў толькі за тое, што ён з ахранкі.

– Скажыце, як назваць сёння завадатара мецяжу, які па-ранейшаму падбівае свой люд на змаганне? – уцешліва наступаў Зайцаў, прадчуваючы сваю ўдачу. – Каму ён цяпер вораг? Ужо не яму, свайму люду? Не яго найсвятлейшым марам?

Новік быў анямелы, а значыць і маласвядомы, паддатны. Ужо ў павуціне.

– Мы ўсё пра яго ведаем, – Зайцаў ціхенька, каб не скінулася здранцвенне ахвяры, “падцягваў” яе да сябе. – А вы што-небудзь чулі пра яго?

– Чуў, – нібы ў гіпнозе адказаў Новік.

– Яго прозвішча? – паўшэптам запытаў Зайцаў.

– Каліноўскі.

– Імя?

– Кастусь.

– Сапраўдныя?
– Сапраўдныя.
– І дзе ён, па-вашаму, цяпер?
– У Вільні.
“Як? – ледзь не ўсклікнуў Зайцаў. – Не тут, а ў нас, пад носам?” Але паасцярогся, каб не вывесці ахвяру амаль са сну.
– І псеўданімы-клічкі яго ведаеце? – пытаў усё тым жа, адным, без маленечкай змены тонам. – Нават самыя новыя? Яго паролі? Яўкі?
– Ведаю.
– Якія былыя яго псеўданімы?
– Хамуціус.
– А хто, па-вашаму, “Яська-гаспадар з-пад Вільні?”
– Гэта ён.
– А які яго апошні ці адзін з апошніх пароляў?
– “Жыве Беларусь!” Адказ: “Жыве!”
– А які цяпер яго псеўданім?
– Вітажэнец.
– І дзе ён хаваецца ў Вільні?
– У Святаянскіх мурах.
– Дзе-дзе?
– У Святаянскіх мурах.
– З якога часу вы знаёмыя з ім асабіста?
– З верасня мінулага года.
– А калі бачыліся самы апошні раз?
– Зусім нядаўна. Перад новым годам.
– Сам-насам?
– Сам-насам.
– Але ж ён вельмі асцярожны, да сябе дапускае блізка толькі лічаных людзей.
– Мне ён верыць.
– Значыць, за вас хтосьці паручыўся. І не проста абы-хто, а той, хто добра ведае Каліноўскага і каго той даўно знае. Хто гэты паручэнец?
– Аскерка.
– Міхаіл Андрэевіч?
– Ён.
“Гэтага Аскерку, што гуртаваў паўстанцаў у Магілёўскай і Мінскай губернях, схапілі летась на пачатку лістапада. Упарты, не толькі пра сябе, але і пра нікога іншага нічога не хоча гаварыць. Не толькі пра “дыктатара”, але нават і пра самага радавога. Цяпер, калі сутыкнем яго лоб у лоб з Новікам, расколем, як арэх”.
– Вы сувязны Каліноўскага?
– Сувязны.
– А дзе вы і як першы раз сустрэліся з ім у Вільні?
– На кватэры нашых агульных знаёмых. Ямантаў. Марыся Ямант – Кастусёва нарачоная. Тады Аскерка назваў маё прозвішча, але Каліноўскі не назваўся. Распытваў мяне пра мае два-тры апошнія гады, а пасля сказаў, што верыць Аскерку – значыць, верыць і мне. Накіруе мяне сваім эмісарам у Магілёў. Расказаў, што і як там рабіць. Але спачатку, каб, можа, і праверыць, паслаў у Пецярбург замовіць там пашпарты для яго мінскіх давераных Ляскоўскага і Свентатаржэцкага. Праз тыдзень я вярнуўся

і зайшоў да Ямантаў. Там зноў быў Каліноўскі, а з ім і дочкі Ямантa, Мілевіч, Далеўскі. Каліноўскі выслухаў мяне, пахваліў, моцна пацiснуў руку, даў 150 рублёў.

– Гэта грошы на новае заданне?

– Ехаць у Магілёўскую губерню і абуджаць прыхільнікаў.

– І даў вам свае паролі, яўкі?

– Даў.

– Дык цяпер вы ехалі туды па яго заданні і ў Бабруйску вас перахапіла ахранка?

– Так.

– А хто, па-вашаму, мог выдаць вас, як бачна па ўсім, спрактыкаванага канспіратара? Можа, тыя, хто быў тады на кватэры ў Ямантаў?

– Не ведаю.

“Ох, Яманты! Ох, дзеванькі! Ох, Марыська – нарачоная верхаводы-дыктатара! Вы і думаць не думаеце, што вас хутка чакае!”

Зайцаў адкінуўся на спінку. І хоць ад пастаяннай доўгай у Вільні і тут седатні ў час допытаў балелі палавінкі клубоў, усё ж задаволена скрыжаваў рукі на грудзях, усміхаўся-цешыўся. Калі ўсё яно так, то гэта – велізарны яго поспех. Пахвала, слава яму. Ды гэта – не галоўнае. Важнейшае іншае – генеральскае званне, найменне “ваша правасхадзіцельства”, забяспечаная старасць.

Не чуючы яго голасу, Новік ачнуўся і зноў закусаў губу, вырачыў па яблыку вочы. Але па-іншаму ўжо: што і чаму я нагаварыў? Здранцвенне, анямеласць змяніліся адчаем, жудасцю. Зайцаў цяпер мог пахмыльнуцца з яго, малапатрэбнага цяпер яму, але не дапусціў гэтага, падняўся, падышоў, ашчаперыў галаву далоньмі, разоў пяць пацалаваў у халодны лоб, шчокі:

– Сынок! Які ты малайчынка! Ты выратаваў не толькі сябе, але і, канечне ж, любімага Кастуся Каліноўскага! Свой люд! Сваю будучыню!

– Каліноўскага не расстраляюць? – абмякла запытаў абцалаваны.

– Не. Але яго будуць судзіць. Калі ён пакаецца, то прысуд можа быць мяккі, – “супакоіў” Зайцаў. – А цяпер, даражэнькі, я загадаю смачна пакарміць вас, даць вам паспаць, адпачыць, супакоіцца. А пасля мы працягнем нашую сяброўскую размову, і вы падрабязненька раскажаце мне ўсё, што ведаеце і пра Каліноўскага, і пра іншых мяцежнікаў. Лады?

Новіка трэсла. Як пры страшнай нервовай хваробе.

– Вазьміце сябе ў рукі, – “прасіў” Зайцаў, гладзячы таго па худой спіне і зноў гаворачы паўшэптам з тым жа тонам. – Не асуджайце сябе. Вы не здрадзілі Каліноўскаму, вашай святой справе. Кажу ж, вы споўнілі вялікую місію паратунку. Разумныя людзі вас зразумеюць, не асудзяць. А бацькам будзе радасць, што вы будзеце жывы і здаровы.

– А мяне не асудзяць? – Новік зноў стаў паддатны.

– Што вы! Я, юнача, буду стаяць за вас гарой! Калі і асудзяць, то толькі сімвалічна. Для ўроку іншым. Вы ж дваранін?

– Са шляхты. Але з небагатай. У нас нават пакаёўкі няма. Усё сама робіць мама. Тата – мінскі паштовы служачы.

– Але ведаюць пра слаўныя шляхецкія часы Вялікага Княства Літоўскага?

– Помняць.

– Яны ведалі, што вы з мяцежнікамі?

– Здагадваліся.

– Натхнялі?

– Не. Адгаворвалі.

– Разумныя ў вас мама і тата.

Цяпер слова "юнача" не называў: яно, звернутае да яго, магло вывесці яго з такога пакорлівага стану.

– І я з небагатых дваран. А ў нас, дваран, быў і будзе свой кодэкс гонару. Таму не хвалюйцеся, мы паспрыяем вам. Па пратэкцыі, падмозе далёкіх матчыных родзічаў вы закончылі Мінскую гімназію, паступілі ў Пецярбургскі ўніверсітэт, дзе прыхінуліся да сваіх землякоў, "свядомых ліцвінаў", а пасля пакінулі вучобу і прыехалі сюды, каб далучыцца да паўстанцаў (слова "мяцежнікаў" паасцерагаўся назваць). Павальнадумнічалі, хопіць. Цяпер, любы ты мой, самы час сур'ёзна падумаць пра жыццё, свой лёс. Трэба працягнуць вучобу, набыць адукацыю, прафесію і працаваць-працаваць на карысць справы, сабе на дастатак і радасць. А цяпер чэп-чэп да стала, у ложак, набірацца сіл і духу. Наперадзе ў нас з вамі яшчэ нямала работы.

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Новіку, сапраўды, падрыхтавалі багаты стол, дазволілі па-панску паесці, паспаць, хоць яму, знерваванаму, нічога не лезла ў рот, а пасля не ўдалося нават заплюшчыць вочы.

Пакуль ён яшчэ звешваў галаву над талеркамі з ежай, Зайцаў ужо даў тэлеграму ў Вільню са звесткамі пра Каліноўскага. У гэты ж дзень квартал, дзе той жыў, ачапілі дзве роты салдат, паліцыя, высокія чыноўнікі. На ўмоўлены стук у дзверы Каліноўскі адчыніў іх, трымаючы ў руцэ запаленую свечку. "Вы хто?" – "Ігнат Вітажэнец" – "Вы якраз нам і трэба". Каліноўскага арыштавалі.

Пазней будзе пазначана: "Несмотря на все усилия членов комиссии, им не удалось отторгнуть от Калиновского подробного показания о личностях, составляющих революционную организацию края", цяпер, калі чытаць тыя дакументы, відаць: ён, калі і называў чые імёны, дык толькі тых, хто загінуў у баях ці каго ўжо расстралялі альбо павесілі. Ратаваў жывых на жывое. Цярпеў вялікія знявагі, абразы, ведаў, што чакае немінучая расправа, але, здаецца, найбольш думаў пра Бацькаўшчыну, родных і Марыську, з якімі бачыў сваё шчасце. Калі меў няшмат, але страшных бяссоных начэй, вылічыў таго, хто выдаў і не толькі яго. Ды на допыце сказаў усё ж безыменна: "Одному только лицу (канечне, малазнаёмаму) открыл я настоящее имя свое – и попался". Мужны, высакародны, ён не дазволіў сабе перад смерцю адпомсціць нават прадаўцу-юду, не назваў і яго імя. Каліноўскі не прыйшоў помсціць; ён прыйшоў паспрыяць родны люд падняць да народа, край – да краіны, дзеля чаго зусім не пашкадаваў свайго маладога жыцця.

Новіка "за строгим караулом" (па тэлеграме самога генерал-губернатара) адправілі ў Вільню, там яго смачна не кармілі і не давалі разлежвацца, трэслі, як грушу, і ён выдаў усё, што хоць адзіны раз пабачыў і пачуў – ды з выключнай памяццю пра паролі, яўкі, імёны. Выкрываў усё і ўсіх на вочных стаўках – праўда, на волю прасачылася звестка, што і як ён учыніў. Прасіў міласці і даравання, кляўся адрачыся ад каталіцтва, прысягнуць на вернасць цару і імперыі, плакаў, біўся ў ліхаманцы, але ніякага Пецярбург-

скага ўніверсітэта ўсё роўна не пабачыў, па волі Мураўёва яго адправілі ў Томскую губерню, дзе ён змяніў веру, з Новіка стаў Новікавым, пісаў і пісаў пакаянныя, слёзныя лісты, каб яго вярнулі ў цэнтральную Расію. Выехаць з Сібіры яму дазволілі толькі ў 1879 годзе; у Вільні, Мінску, Магілёве яго не бачылі; можа, увогуле на Бацькаўшчыне, якой ён выракся і якую прадаў, пракляў, не асмеліўся паказацца, туляўся-тунькаўся недзе ў іншых мясцінах (яго сапраўднае прозвішча, як і ягонага "дабрадзея" Зайцава, тых мінскіх тайных агентаў-асочнікаў беларускасці зусім іншыя, але не хочацца іх называць, лепш сцерці з памяці).

Зайцаў застаўся ў Мінску і 17 сакавіка даслаў у Вільню вялікую справаздачу "Аб адкрыцці рэвалюцыйнай арганізацыі ў Мінскай губерні". Па яго вялікіх паўнамоцтвах, пры яго "ветлівасці", "слёзах", "шчырых спачуваннях і пацалунках" арыштуюць 89 чалавек, секвеструюць (лічы, адбяруць) 28 маёнткаў у ненадзейных заможных гаспадароў, да ўсяго ён прыкладзе важкія доказы – скажам, паўстанцкія пячаткі начальніка Мінскага ваяводства, ваяводскага камісара, начальніка горада Мінска, начальніка Мінскага павета, бюро Мінскага ваяводства.

Мінскія жандары доўга будуць помніць, успамінаць яго паміж сабою як "езуита", "кровопийцу": нямала крыві папсаваў ён і ім, бо многім перашчыкнуў рух па службе, да вышэйшых пасад і тлусцейшага кавалка.

*(Заканчэнне будзе)*

---

"Дзеяслоўцы" сардэчна віншуюць шаноўнага
**Генрыха Вацлававіча ДАЛІДОВІЧА** са слаўным юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя, душэўнае трываласці,
аптымізму, бадзёрасці і, вядома ж, –
натхнення для новых яскравых твораў!

Юрка Голуб



...на памылках
мучацца...

# Вандроўка ў колішняе лета

### ІЛЮЗІЯ

Ад сябе – не дзіва – адчаліць.
Дарагому шапнуць: бывай...
Ці не рана слупкі адчаю
На адхоне сабой збіваць?

Ды пракрустава ложа лёсу
Не заменіш на лепшы спрат.
І балюча: не давялося
Лёсу ўласнаму паспрыяць.

Як слану аднае шраціны
Не стае, каб азначыць боль,
Так і мы сябе ў рог скруцілі:
Пагадзіліся ўраз на збой?

З недарэкам шальмец пры стрэчы
Не рукаецца: ён – магнат!
Поціск, бачыце, недарэчны
Адхіляецца як мага.

Ды рамесніку долю жывяць
Справа,
вытрымка,
далячынь.
Каб не сталі радкі чужымі,
Ёсць спадзевы на іхні чын.

## ***ПАМЫЛКІ***

Засяродзім позірк на памылках.
Маладыя бавяцца на іх.
Дзе памылкі – сыплюцца апілкі,
Лыпае напоўніцу наіў.

Сеецца пясок. Брыдзе гадзіннік.
Каб наперад бегма пёрся час,
Шлях яму назад загарадзілі
І загад,
І певень,
І лампас.

Запацела шыбіна дарогі.
Хуткасць павялічыла адхон.
Засталося ў цемры за парогам
Тое, што адрэзаў рубікон.

Загуменне расцягнуў гармонік
Бубен патуляўся па тылах.
Дый такое з’едліва прыпомнім:
Палявалі кодлай на стыляг.

Вінаватых сёння не шукайма.
Марны лёс. Разбэшчаны фінал.
З рэвальверам спаў Паўлюк Шукайла,
Ад свінца, казалі, і сканаў.

Дзе падзячна ловяць аплявуху
І збірае тару чорны дзень,
Пашкрабі, балесны, па-за вухам,
Пашукай мякіну ў барадзе.

На чужых памылках навучайся,
А свае ў заначку запакуй.
Прывітанне, мой шаноўны часе!
На памылках мучацца.
Пакуль!

### ЛЮБАСЦЬ

Наблізіцца роздуму вечар,
Дзе спёкі знямогся палын.
А сонца чырвонае вечка
Зачыніць рабрыстую плынь.

Загаснуць ізноў далягляды.
Трывожыцца сцежка і зрок.
Вандроўнік на шлях да Калядаў
Трымае нярушны зарок.

Бянтэжыцца змроку лістота.
У схованку мосціцца брэх.
Ды хаце зусім не істотна,
Ці звольніўся дождж ля дзвярэй.

Збыліся праклёны заганна!
Ды не! Іх не цяжка парваць.
Згадае салоўка за гаем:
Пра любасць падумаць пара.

І ночы зыходзіць трацiна.
Дзяўчына. Зацішна. Юнак.
Ліхое, крый Божа, часіны
Чакаць не даводзіцца. Так!

### НАНАЧ

Зыначыў вечар кроны дрэў,
І крэкчуць дрэвы па-над ставам.
А значыць тое: справа дрэнь,
Калі заклініла суставы.

І Млечны Шлях наперавес
Трымае раўнавагу Шаляў.
А маладзік на комін злез,
Каб дым закручваць, нібы шалік.

Вятры з пячораў за бугром
Запрэгла цемра ў калясніцу.
І гром упрочкі – ды бягом –
Хаця і ломіць паясніцу.

Пад дахам птушчына гняздо
Палётаў атуліла мроя.
Завецца зорка не *звяздой* –
Нявестай неба – не героя.

Уперамешку зверху ноч
Раптоўна знічкі працінаюць.
І дрэмле драч. Палае корч.
Ды вар'яцее дзесь цунамі.

## КАЛЫСКІ

У калысцы жытняй – васілёк.
Маладзік для зоркі – за калыску.
Назіраю неба... аддалёк.
Жытам абнадзейваюся... Зблізку.

Хмараў рэштку выскублі вятры.
Промні залагодзілі калоссе.
Зорка разбіваецца. Экстрым.
Васілёк падаўся на калёсы.

## КАЛЕЙДАСКОП САКАВІКА

Вунь крыг раструшчаны абоз
Занесла нанач у затоку.
Ён быў разгублены нябось
Крутым урокам, як зарокам.

На перамычцы двух азёр
Трыснёг прылёг на рыхлым лёдзе.
А сакавік, як рэвізор,
Шукаў разору ў агародзе.

Знікаў на досвітку туман:
Напэўна, мае недзе спраты,
Дзе на расхрыстаных тамах
Заснуў анапеста аматар.

У лесапарку хроп гатэль.
Цвікі гваздаў у дошку дзяцел:
Старэча выкінуў фартэль –
У прымакі вясне падацца.

Пралесак сват і дырыжор,
Рыхтуе іх канцэрт, алешнік.
А тыя лезуць на ражон –
Сусвет сінечаю палепшыць.

Зляцела сонца з-пад дугі.
Вазак абнашчыўся бакштанкай.
Расперла рэчка берагі,
А вір закручвае ў бляшанку.

### ***ВАНДРОЎКА Ў КОЛІШНЯЕ ЛЕТА***

Рака пад срэбрам стракацела.
Стракозаў безліч. Сховы рыб.
Стракоз трымала ў чорным целе –
Раса на ранні – рып ды рып.

Затока песціла лілеі.
Асверы нагадаў чарот.
Яны і ўзімку тут калелі,
Цяпер і ў спёкі свой чарод.

З балота сокі піў альшыннік.
На восях дзёгаць закіпаў.
Здабычу кіпцямі за шыю
Хапала сквапная скапа.

Нахабны гром за даляглядам
Замах на вуды рыхтаваў.
На санцапёку спалі гады,
А бусел дзетак гадаваў.

У засень мкнулася спякота:
Драмала там з касцом каса.
А вербалозу рэчкі Котры
Рукаў тубылец закасаў.

...Замкнуўся конік. Дзед на печы.
Стаміўся стог на паплавах.

А самалёцік – голас пеўчы –
То адплываў... То падплываў...

## ПАВОДКА

Наперад! Напралом –
Ільдзіна пхала скарбы.
І крута крыгалом
Крамсаў аб бераг скабы.

Паводка на плячах
Драпежна бёрны несла.
Ёй варта распачаць –
Звядзе, як трэскі, крэслы.

Здалёку не відаць
Марское хвалі грэбень.
Шалёная вада
Зімы валтузіць грэблю.

Дрымотны вір са сну
Варушыць калаўроты.
І мацаюць сасну
Вятры, бо абармоты.
Дзе рэчку ў час уцех
Дугою выгібае,
Заліжуць промні снег
Шурпатымі губамі.

На руку скор разбор.
Для выдры выдма бляшыць.
Паводка – не разбой –
Яе вачыма лашчаць.

Уладзімір Сцяпан



...заўтра
мы будзем дома...

# Пра любоў

*Тры навэлы*

## Трава, якая рэжа рукі

Мне дванаццаць з паловай, і я сяджу на мулкім крэсле з жалезнымі ножкамі ў вузкай бальнічнай палаце на адно вакно. Белы халат, які загадалі накінуць на плечы, – доўгі, адзін рукаў падраны, а на другім россып зялёных і рудых плямак. Пахне той халат чамусьці пудрай і рудым гаспадарчым мылам. А ў светлай і доўгай палаце пахне лекамі, падгарэлым малаком і мокрым лісцем, як у выстылай лазні...

На жалезным ложку, бліжэй да адчыненага вакна, ляжыць настаўнік малявання. Яго галава і худыя плечы правалiліся ў дзве бальнічныя падушкі. Настаўнік глядзіць на мяне і спрабуе ўсміхацца. Атрымліваецца. Але ад той змушанай і пакутлівай усмешкі мурашкі бягуць па спіне.

А за вакном кіпіць жнівень – цёплы, цёмна-зялёны, і там вільготны вецер хістае кусты і дрэвы, прымушае рухацца іхнія цені на шэрай сцяне. У свае дванаццаць з паловай я разумею, што мой настаўнік памірае, але пра тое, калі гэта адбудзецца я не думаю, і не таму што баюся. Вядома, хачу каб гэта здарылася як мага пазней. Там, на вуліцы, у кустах, і дрэвах, ціўкаюць пташкі, і цені іх разам з галасамі на светлай сцяне. Каб не глядзець на свайго хворага знядужанага настаўніка, разглядаю то падлогу, то свае падрапаныя рукі, то зноў сцяну, на якой спрабую адшукаць, і знаходжу ў блытаніне лісця, цені вераб'ёў, якія то з'яўляюцца, то знікаюць.

Настаўнік нечакана, з доўгім уздыхам, пытае: «Слухай, ты любіш збіраць грыбы? Вядома ж, любіш».

Сам спытаў, сам і адказаў. Я торгаю плячыма пад сваім белым халатам, потым хітаю, потым кідаю позірк на сцяну за настаўнікам, на плямку на шэрай фарбе.

Настаўнік уздыхае і падцягвае колкую суконную коўдру да чыста паголенага падбароддзя, так, каб яна схавала худую белую шыю, такую белую, што яна здаецца святлейшай за пакамечаную казённую падушку.

Яшчэ ніхто з маіх родных не паміраў, а таму смерць для мяне не надта зразумелая падзея, і пакуль не балючая. Настаўнік раптам загаварыў, хоць і ціха, хоць і цяжка, але загаварыў. Але тое, што нябачная смерць побач, адчуваецца, быццам яна знаходзіцца не толькі тут, у вузкай і светлай палаце, але і за адчыненым вакном, у цёплым бальнічным двары, у трымценні ценяў, агучаных ціўканнем вераб'ёў. Усё гэта мне моцна не падабаецца, напружвае, палохае, але і выклікае цікаўнасць. Настаўнік хоць і гавора, але мне ён уяўляецца мерцвяком. Праз сполах чую голас яго і напружваю слых, калі разумею што прапусціў пачатак.

«Ведаеш, пра што я апошнім часам усё думаю і думаю, і не магу зразумець?» – кажа хворы настойліва і здымае акуляры, рука з імі падае на коўдру.

Хачу сказаць што настаўнік думае-думае пра карціны, якія не паспеў напісаць, пра жанчын, пра сваіх дзяцей, пра тое што хутка памрэ, пра пацалункі, пра жаночыя ногі і грудзі, пра сваю другую жонку... Адкуль я ведаю пра што ты думаеш? Я думаю пра свой ровар, які пакінуў побач з ганкам бальніцы, у цяньку акацыі, і яго могуць скрасці. Ровар добры, з новым пярэднім колам... І яшчэ я думаю, што заўтра мяне выправяць у вёску, і яшчэ пра тое, каму дастануцца ўсе твае скрынкі з фарбамі, пэндзлі, алоўкі і папера, і кардон і кніжкі...

«Я ўсе апошнія дні думаю толькі пра грыбы... Пра баравікі.. Яны вельмі прыгожыя, яны такія... Зачыні, калі ласка вакно – холадам з вуліцы цягне... Зноў будзе дождж», – просіць настаўнік малявання і заплюшчвае вочы.

Ахвотна і нават радасна падхопліваюся з мулкага крэсла, мне даўно надакучыла сядзець. Зачыняю вакно. Займаю сваё месца. Насмельваюся, зыркаю на твар настаўніка, бо адчуваю, што ён мяне не бачыць, што нашыя позіркі не сустрэнуцца. Твар, без такіх звыклых і неабходных акуляраў, выглядае голым. Рот бэзавы, вушы вялікія і амаль празрыстыя, а лоб і лысіна, як мукой прыцярушаныя. Валасы тонкія і сівыя, як дым. Адным словам ён зусім не падобны да сябе, да таго звыклага і ўпэўненага пяцідзесяцігадовага мужчыны. А яшчэ нейкая ўсмешка крывіць яго рот, ад яе мне робіцца ніякавата і млосна. Пачынае не ставаць паветра, і я абліваюся потам, а праз імгненне мне робіцца горача.

«Ты іх зразаеш вострым ножыкам, а яны рыпяць, як жывыя... Лічы ўскрыкваюць. Яны, як скульптуркі... Шмат разоў хацеў напісаць, намаляваць, але так і не наважыўся. Увогуле, не ведаю хто змог намаляваць грыбы? Многія спрабавалі, але не памятаю, каб хоць у каго атрымалася... А яшчэ яны пахнуць. Так смачна пахнуць, неверагодна... Ні што так не пахне...» – Настаўнік гаворыць салодкім шэптам, а я гляжу на яго нерухомы твар, пазбаўлены жывых колераў, такі як пакамечаная абгортачная папера ў краме. Паварочваюся да сцяны, разблытваю позіркам цень кустоў і дрэваў.

«У мяне ёсць два сакрэтныя месцы. Чуеш? Я іх памятаю да драбніц. Адно было далёка ад дома, а другое, яно зусім побач, можа паўкіламетра, не больш, у нізкім і шчыльным ельніку... Яшчэ грыбоў няма, не пайшлі, а там яны растуць. Яшчэ ні дзеці, ні дарослыя не знаходзілі, а я прыносіў першыя баравікі... – апошнія словы прагучалі ціха, амаль шэптам, але ўпэўнена, і як мне падалося, то, нават, весела. Вар'яцкім шэптам. – Слухай, давай табе пакажу тое месца. Хочаш?»

«Як пакажаце, калі?»

Настаўнік худой левай рукой з тонкімі вузлаватымі пальцамі асцярожна працёр вочы. Правая, з чорнымі акулярамі, узнялася і вярнулася на сваё месца, у ямачку, выціснутую ў коўдры.

«У пяцьдзясят чацвертым я вярнуўся, (тут ён змоўк, а потым дадаў) з войска, прыехаў дамоў... Пасядзелі з бацькамі за сталом, выпілі, леглі спаць, але я не мог заснуць... Ляжаў, спрабаваў заснуць і не атрымлівалася. Падняўся, яшчэ цёмна было, яшчэ ўсе спалі, апрануўся і пайшоў. Вады папіў у сенцах і папіросы ўзяў. Вёска яшчэ спала. Я праз агарод падаўся, па ўзмежку, па бульбоўніку, потым праз поле. Іду, на цёмны ельнік за полем гляджу, а праваруч дарога. Дайшоў да яго і спыніўся, стаю, па баках азіраюся. Я пра гэты ельнік шмат думаў... Упэўніўся, што мяне ніхто не бачыць, прысеў, на калені стаў, а потым папоўз на карачках. Ельнік той нізкі і такі густы, такі непралазны, як сцяна, а я паўзу, кошык перад сабой штурхаю, а ён за галлё і сухія лапкі, з травой пераблытаныя, чапляецца. У ельніку цёмна, мокра, халодна, а я ўсё паўзу. Пралез! Там, у сярэдзіне, прагаліна вузкая, вось як ад мяне да сцяны, крокі тры-чатыры. І трава там густая, высокая. Такая, якую пацягнеш, паспрабуеш выдраць – абавязкова рукі парэжаш. Вострая тая трава. І зялёная, і сухая рукі рэжа. Калі поўз, то чуў, як усё там грыбным духам пахне, нясцерпна, востра. Расхінуў тую траву звялую, высокую, а там баравік... Невялікі, з арэхавай шапкай, тоўсценькі, крэпкі. З той травы на мяне глядзіць, а побач меншы сядзіць, а далей яшчэ два – большыя, рудыя з белымі ножкамі... Я выпрастаўся. Пастаяў, аддыхаўся, а потым сеў на тую траву, папяросы дастаў, рукі калоцяцца... Куру і на іх гляджу, а яны на мяне. І здаецца мне, што яны радуюцца, што я побач, што прыйшоў да іх нарэшце. Доўга, можа з паўгадзіны так і сядзеў на адным месцы, маўчаў і плакаў ад радасці. Потым дастаў з-за халявы фінку і не магу першы зрэзаць. Рука не падымаецца. А чаму мне іх шкада, не ведаю... Гэта недалёка адсюль. Гадзіну цягніком, а потым прайсці давядзецца... Мне лепш. І паснедаў сёння, і палуднаваць буду. Паедзем?» – Настаўнік глядзіць запытальна і вінавата пасміхаецца.

Спачатку я падумаў, што ён жартуе, а потым, што ён звар'яцеў: ад лекаў, болю, жаху і ўзросту. Казалі, што яму жывот разразалі, паглядзелі і хутка зашылі, бо там усё рак з'еў.

Праз тыдзень хворы мастак з сёмай палаты знік. Яго шукалі, хваляваліся. І дактары шукалі, і другая жонка, і дарослыя дзеці. Ніхто не ведаў куды ён падзеўся, а ў мяне ніхто не пытаў. Праз дзень ён вярнуўся ў бальніцу. А праз два тыдні памер.

Цяпер я ведаю, што настаўнік тады, у 1954-м вярнуўся з турмы, а не з войска. Што пасадзілі яго на восем гадоў за тое што маляваў у газеце, якая выходзіла пад немцамі. Але цяпер гэтыя веды страцілі і важкасць сваю і нават сэнс.

Часцей думаю пра траву, якая рэжа рукі.

*Кастрычнік-снежань 2015*

## Троіца

Глыбокай восенню, калі цярушыць бясконцы дождж, задушлівым летнім вечарам, калі пішчаць камары, сцюдзёнай зімой, калі суха храбусціць пад нагамі снег, – толькі што паколатыя дровы пахнуць вясной. Заўсёды, але можа гэта толькі мне?

Вось не магу згадаць, на чым мы з бацькам даехалі да патрэбнага прыпынку, да пачатку нашай лясной дарогі. Можа, на аўтобусе, бітма набітым цёткамі, дзядзькамі і дзецьмі, якія то плачуць, то смяюцца, то крычаць... Хаця чаму дзеці – плачуць, і ці былі тады дзеці? А можа нас падвёз легкавік, які ехаў на Доўск, Жлобін, Чачэрск... Карацей, у гэтым месцы, колькі ні спрабую, не праступаюць ні дробныя, ні вялікія дэталі-падказкі. Але мы даехалі, а потым ішлі звычныя пяць кіламетраў дарогай праз лес і поле, да вёскі, да дзедавай хаты. Праз сасоннік, потым праз бярэзнік. Я як маладзейшы нёс напакаваны цяжкаваты заплечнік, а бацька кошык з ежай. Гэта дакладна, тут памылкі быць не можа, бо ёсць фотаздымак. Каламутны, але і кошык можна разгледзець, і бацьку. Я зрабіў той здымак, але нешта не так выставіў, памыліўся, не так пакруціў, а таму і картачка тая атрымалася змазанай, мутнай.

Памятаю, што там, пад вялікімі дубамі, дзе я яго сфатаграфаваў, бацька знайшоў парачку маладых баравічкоў. Узрадаваўся, як дзіцё. Сам, у сваім кошыку, беражліва і панёс іх далей, дамоў. А яшчэ памятаю, што ён вельмі хацеў выпіць, а таму некалькі разоў прапаноўваў спыніцца, адпачыць і перакусіць. Бутэлька гарэлкі, прывезеная мной з Масквы, ляжала ў заплечніку, загорнутая ў рушнік. А я прыехаў з войска, у адпачынак, на дванаццаць дзён. Тут без памылкі, гэта было летам восемдзясят чацвёртага. Цёплага, з дажджамі. На лясной дарозе, па лашчынах, дзе-нідзе стаялі і цьмяна паблісквалі лужыны, а над імі порхалі лясныя мятлікі і камары. Унізе ціха, а ўверсе шумелі сосны, хісталі вершалінамі, а над імі лёталі і крычалі вароны.

Потым ён перастаў прапаноўваць адпачыць-перакусіць, ішоў моўчкі і курыў. Калі-нікалі збочваў з лясной дарогі, але добрыя грыбы больш не трапляліся, і ён злаваўся. Мяне ж тады грыбы амаль не цікавілі, тым больш у чужым лесе...

Прыйшлі дамоў. Паадмыкалі ўсе замкі, паздымалі з вокнаў жалезныя самаробныя шчыты, пасастаўлялі ў двары, пад страхой... Зайшлі ў хату і пачалі пераапранацца. Дом падаўся мне маленькім, і я трохі разгубіўся. Бацька прыспешваў... Чаго-чаго, а вось адзежы самай markdown рознай у дзедавай

хаце хапала, усё туды звозілі і з Гомеля, і з Касцюкоўкі. Я надзеў знаёмыя сінія штаны на вузкім рамні, старую бацькаву кашулю, сваю кепку, якую некалі пакінуў у вёсцы, і дзедавы дабітыя сандалі. Падабаліся мне тыя лёгкія сандалі.

Пакуль бацька раскладаў па палічках шкапіка ежу, я заняўся вадой. Выліў з вядра ў сенцах старую, яшчэ з мінулага ягонага прыезду, і накатаў з калонкі свежай. Хоць і рудой, але халоднай і смачнай. У войску вада была брыдкая, смярдзючая. Потым мы хутка выпілі па чарцы гарэлкі, перакусілі тым, што прывезлі, але цыбулі і кропу бацька прынёс з агароду. Не паленаваўся, схадзіў і адшчыкнуў на градзе.

Ён узяўся вайстрыць пілу, а я абышоў дом, агледзеў двор, сад, пакаштаваў яблык, яшчэ кіслы і няспелы, зазірнуў у паветку, поўную дроў, і цёмную, як у дзяцінстве, камору са скрынямі, дзежкамі, мяхамі, косамі і сярпамі...

У двары, на зялёнай траве, ляжалі белыя бярозавыя ды шэрыя альховыя бярвёны з яркімі чырвонымі тарцамі. Вось дзеля іх мы і прыехалі. Пачалі пілаваць. Цягалі пілу і гаманілі пра войска, пра тое, як і чым цяпер кормяць і пра ўсялякае рознае. Дзеда згадвалі не аднойчы. Цякло светлае пілавінне, сыпалася, як штучны снег. Гадзіны праз тры на сталюгу легла апошняе бервяно. Цяпер, на пакамечанай і непрывабнай зялёнай траве, ляжалі адно чурбакі. Бацька памыў рукі, накатаў вады ў бляшаныя начоўкі, каб грэлася на сонцы, расказаў, як у гэтых начоўках мылі мяне малога, брата.

Выпілі яшчэ па чарцы гарэлкі, закусілі, і я пайшоў на двор калоць дровы. А бацька надзеў пінжак і сказаў што збегае ў свой лес, там паглядзіць грыбоў. “Пакуль ты тут з дровамі, я па берагу лесу прайдуся... Ты толькі гэта, асцярожна, па назе сабе не секані...” – сказаў і пайшоў са сваім нажом і кошыкам з двара праз квортку, агародам, побач з плотам, па баразне, потым па шляшку і праз выган. Да нашага лесу зусім недалёка, можна з двара дубы разгледзець.

А я ўзяў у сенцах знаёмую з дзяцінства большую сякеру. Пакруціў яе ў руках, перасек альховы дубчык, пасмяяўся сваім думкам і пачаў калоць дровы. Прыемны занятак, хоць і цяжкаваты. Калоў і думаў, каб жа толькі па назе не сакануць, а калі б не пачуў папярэджвання, так і не думаў бы. Хутка на тыя словы забыўся і калоў апантана, злосна, так што ўскрыкваў, калі біў з-за пляча важкі чурбак аб вечную калоду.

Калі бацька вярнуўся, то я сядзеў на ганку, спінай да сцяны, і курыў. Палова двара была закіданая дровамі. Рукі і ногі калаціліся, гулі ад стомы і балелі.

Грыбоў у сваім лесе ён трохі сабраў, паставіў кошык на ганку, а сам зайшоў у сенцы, бразнуў аб вядро кружкай і доўга піў. З сенцаў прапанаваў пайсці заўтра раніцай у лес. Я сказаў, што там і пабачым, а пакуль і загадваць не хачу.

Ён паглядзеў на дровы, потым на хмарнае летняе неба і бяззлобна заўважыў, як бы сабе самому, што было б добра іх сёння і скласці, але не ў паветку, – там поўна, а ў сенцы, каб потым восенню бліжэй браць. А ён сам, пакуль я дровы складаць буду, дасць рады грыбам і зварыць суп. Я сядзеў, курыў і дзівіўся на дровы, а потым сказаў, што мне паколатыя дровы пахнуць вясной. Ён паглядзеў на дровы, на мяне, уздыхнуў: “Можа быць і вясной... Я столькі дроў перабіў-перакалоў, а ніколі пра гэта не думаў. Чаму?”

Майго адказу ён не дачакаўся і пайшоў раскладаць вогнішча ў шляшку,

пад яблыняй, дзе і заўсёды. Там, побач з лавай, чарнела пляма зямлі з шэрым прысакам ад мінулых вогнішчаў.

Я насіў дровы, а ён перабіраў побач з калонкай грыбы, доўга мыў іх, а потым высыпаў у чыгунок і панёс да вогнішча. Гукнуў мяне і папрасіў паднесці з паветкі жалезную трыногу.

Запахла дымам: востра, прыемна, смачна.

Бацька сядзеў, курыў, глядзеў на агонь, на суп, варушыў кійком трэскі, каб не надта кіпелі нашы з ім грыбы. Схадзіў выкапаў колькі маладых бульбін, абшкроб, памыў і пакрышыў у місачку. А я ўсё насіў і насіў дровы, складаў і складаў пад сцяной у паўцёмных сенцах... Нарэшце скончыў, пазграбаў жалезнымі граблямі, сабраў з травы трэскі, кару і ў тым кошыку, з якім ён хадзіў у лес, занёс яму да вогнішча.

Не памятаю, у які момант я сфатаграфаў бацьку. Можа, калі ён ішоў ад вогнішча ў хату, каб узяць солі, а можа, калі яшчэ не пайшоў у грыбы. Тады хмары разбегліся, засвяціла сонца і тыя здымкі атрымаліся надзіва добра. А потым стужка ў фотаапараце скончылася. Яна скончылася якраз тады, калі ён папрасіў сфатаграфаваць дзедаў дом. Прычым так, каб і дах бляшаны было відаць, і комін, і агарод з высокім бульбоўнікам, і ўсе яблыні побач з домам і, нават, кветкі пад сцяной... Але стужка скончылася, вось такі я фатограф крывярукі...

Пакуль грыбы варыліся і водар іх быў чуцён нават у хаце, я вырашыў памыцца. Узяў з паліцы алюмініевую конаўку, распрануўся дагала, стаў побач з начоўкамі і абліўся, хутка намыліўся, а потым зноў пачаў абліваццa. Вада ў глыбокіх начоўках нагрэцца не паспела, спачатку падалася вельмі халоднай, але гэта мне падабалася. Спахапіўся, што не ўзяў з хаты рушнік. Яго прынёс бацька, перакінуў праз ручку калонкі і пайшоў да вогнішча. Я выцерся, апрануўся ва ўсё чыстае, павесіў рушнік сушыцца.

Сядзелі пры вогнішчы, курылі, я цыгарэты з фільтрам, а ён маскоўскі “Беламор”, і гаварылі, як тут добра і ціха, і што восенню, калі выкапаюць бульбу, будзе шмат яблыкаў, з якіх давядзецца ціснуць сок. Я пакаштаваў лыжку супу, і ён пакаштаваў. Зняў чыгунок і пачаў на маленькай патэльні смажыць шкваркі з цыбуляй. Прапанаваў яшчэ зварыць маладой бульбы, але мы перадумалі, вырашылі, што і так будзе нам добра...

Цямнела. Сонца, як за высокай сцяной, схавалася за лесам. Суп зварыўся, і ён панёс чыгунок у хату, а я следам патэльню. Вярнуўся і заліў вогнішча, прыбраў у сенцы трыногу. Нёс яе асцярожна, на трэсачцы, бо гарачая. У сенцах п’яна пахла колатымі дровамі.

Селі за стол і заўважылі, што ў хаце цемнавата, што на дварэ позні вечар. Я паспрабаваў запаліць святло. Пстрыкнуў выключальнікам, а лямпачка не загарэлася. На стале вячэра, бутэлька, а бацька пачаў разбірацца з электрычнасцю. І з лічыльнікам поркаўся, і на двор хутка выходзіў, каб драты паглядзець, якія ад слупа ў хату цягнуліся. Рады не даў, але і да суседзяў не пайшоў, бо любіў есці суп гарачым. А суп стаяў, наліты ў талеркі, і лыжкі ляжалі. Ён зняў з паліцы пры парозе газнічку, запаліў, наставіў шкло, навёў кнот. Цяпер яна месцілася побач з хлебам і пачатай бутэлькай і чаркамі. Святло зрабіла ўсё цёплым, прывабным, а тое, што за вакном – сінім. Пілі, елі, суп быў смачны і густы ад грыбоў і маладой бульбы...

Выйшлі ў двор і пакурылі на ганку, паглядзелі на неба. Потым я прылёг на дзедаў ложак, побач з печчу, а ён сеў да стала на драўляную самаробную канапу. Сядзеў і разважаў пра электрычнасць, якая прапала, глядзеў

у вакно на суседнія дамы, дзе гарэлі вокны, і курыў. Ён мог курыць адну папяросу цэлую гадзіну. Пацягне пару разоў і сядзіць, думае, маўчыць.

Памятаю, як ён сходзіў на тую, на чыстую палову хаты, але спачатку прыбраў на стале. Потым вярнуўся, спытаў ці пайду я раніцай у лес. Я сказаў, што там будзе відаць. Ён задзьмуў газнічку, прыбраў яе са стала і вырашыў яшчэ пакурыць.

Я глядзеў на яго, а ён сядзеў пры стале. Калі запальваў папяросу, то яркае святло запалкі зрабіла яго твар залатым. Потым ён узмахваў рукой, і ў густой цемры ззяла адно чырвоная кропка папяросы, і запахла тытунёвым дымам. За вакном нерухомая і шчыльная чорна-сіняя вясковая цемра. Была толькі адна кропачка папяросы. Тую чырвоную жарынку памятаю, з ёй я і заснуў.

Калі адкрыў вочы, то зноў убачыў кроплю святла. Але яна была не залатая, не чырвоная, не жоўтая. Кропля тая ззяла блакітным святлом. І была яна нерухомая. Першае, пра што падумаў адразу, – бацька заснуў з папяросай у роце. І тады я нягучна сказаў: “Ты што, спіш? Эй?”

Бацька не азваўся, нават дыханне яго не было чуваць. Кропля сіняга святла міргнула. Я падняўся з ложку і рушыў да стала. Рукі, з растапыранымі пальцамі, трымаў перад сабой. Ад ложка да стала, можа, якіх пяць крокаў, можа, нават чатыры.

Мая рука дакранулася да сіняй кроплі святла. Далонь уперлася ў ваконнае шкло. За вакном, у шчыльнай цемры, гарэла сіняя зорка.

Я намацаў у кішэні запалкі, чыркнуў – зорка згасла. Зайшоў на другую палову хаты. Бацька ляжаў на ложку, на спіне, не распрануты, адно чаравікі стаялі на дыванку, побач. Ён уздыхнуў, падняў руку і скінуў са шчакі камара. Запалка апякла мне пальцы і згасла.

Ведаю, што калі прыехаць летам на тое месца, дзе стаяла дзедава хата, дачакацца цемры, то я зноў убачу сінюю кроплю святла. Маленькую, як агеньчык папяросы. Але малаверагодна, што я патраплю туды. Ды і навошта?

*2009-2016 студзень*

## Залатая шчыліна святла

Хлопчык спаў у дзедавым пакоі, на вялікай канапе з высокай спінкай. Па столі час ад часу, калі па вуліцы праязджала машына, прабягалі палосы святла, і тады ззяла, як вока, пукатае шкло барометра над канапай. У кніжных шафах, за тоўстым шклом, стаялі фотаздымкі ў рамках. З тых картачак глядзеў і пасміхаўся хлопчык, той самы, які спаў на канапе. На пісьмовым стале месціўся кампутар, ляжалі паперы з дробна раздрукаваным тэкстам і лупа, праз якую цікава разглядаць пазногці, драпіны, ніткі... Хлопчыку снілася вуліца, на якой бегаюць дзеці. І яшчэ сніліся дарослыя дзеці, якія кураць за школай. Потым хлопчык апынуўся ў школьным калідоры – шырокім, з высокай столлю і бязлюдным. Зазвінеў званок, і хлопчык незадаволена перавярнуўся на бок, а коўдра мякка з’ехала на падлогу. У сне ён не змог адрозніць школьны званок ад тэлефоннага ў суседнім пакоі. Званок той гучаў нядоўга, зусім... І таму ён не ведаў, што яго дзед, гадзіну таму як – памёр. Усё было добра – сардэчны рытм аднавілі, з рэанімацыі перавялі ў палату тэрапіі. Памёр ён у сне.

Бліскучая ручка ў дзвярах спачывальні апусцілася, зрабілася падобнай да коскі ў доўгім сказе, бо дзверы нейкі час не рухаліся. Потым у залу выйшла жанчына, асцярожна зачыніла дзверы. Так, быццам баялася пабудзіць. Але святло ў спачывальні гарэла ярка, так, што паміж падлогай і дзвярамі ззяла залатая шчыліна, быццам падкрэслівала нешта важнае.

Жанчына трымала ў левай руцэ тэлефон і вузкі нататнік, а ў правай акуляры. У вялікім пакоі панавала цемра, а з-пад дзвярэй спачывальні цягнула холадам. Гаспадыня кватэры пастаяла трохі пры дзвярах, агледзелася і асцярожна прайшла залай да кухні. Па дарозе прыпынілася і паглядзела на хлопчыка, але коўдру папраўляць не стала, адно толькі нячутна прычыніла дзверы. Яна ведала мужаў пакой да драбніц. Усе фотаздымкі, гадзіннік, пукаты барометр, паперы, старое крэсла з падушачкай і авечай скурай на спінцы.

На кухні пахла кавуном. Яго палова ляжала на вялікай белай талерцы, пасярэдзіне стала. За вакном цёмна-сіні гарадскі двор, суседнія дзевяціпавярховікі, легкавікі, лес, неба з белымі, як дым, начнымі хмарамі... Яна запаліла над сталом святло. Палова кавуна зрабілася чырвонай. Прысела да стала і разгарнула нататнік. Паперка з доўгім тэлефонным нумарам ляжала адразу пад вокладкай.

Гадзіннік на буфеце паказваў чатыры пятнаццаць. Уздзела акуляры і правяла языком па зубах, пахітала галавой. Акуляры яшчэ больш дадалі твару разгубленнасці. Яна паднесла тэлефон блізка, потым адставіла і пачала набіраць лічбы. Збілася. Выключыла. Заўважыла на стале карычневую пляскатую семку, якая паспела прысохнуць, адкалупнула яе. Давялося падняцца, кінуць у вядро са смеццем. Але семка не патрапіла, і жанчына таропка нахілілася і падняла. Села да стала і зноў пачала набіраць. Калі набрала сем лічбаў з дванаццаці, то дзверы ў кухню адчыніліся. За імі стаяў босы васьмігадовы Вадзім і мружыў ад яркага святла вочы.

– Што такое, дзетка, жывот? – Марыя выключыла, асцярожна паклала тэлефон на стол і падхапілася.

– Не, баба, у прыбіральню, – сказаў унук.

– Казала ж табе не есці столькі кавуна, а ты не паслухаў.

– А мне дазволіў дзед... Мы з ім па тэлефоне гаварылі, ён сказаў, што калі кавун салодкі, то яго трэба есці шмат. А ты з ім потым гаварыла, калі з крамы вярнулася. Не памятаеш? А можна я ў школу сёння не пайду?

– У школу, сёння? Можна... Паглядзім. А чаму босы?

– Не знайшоў, – хлопчык паглядзеў на свае ногі, развярнуўся, каб не пачуць чарговае пытанне, запаліў святло ў прыбіральні.

Марыя ўзяла талерку з кавуном і схавала ў лядоўню, там было месца, на другой паліцы. Вярнулася да стала, але давялося ізноў падняцца, каб выключыць за ўнукам святло ў прыбіральні, а потым прычыніць дзверы ў яго пакой.

Села і засяроджана пачала набіраць доўгі нумар. Набрала, прыціснула слухаўку да вуха і паглядзела на гадзіннік. Тарахцела, пілікала, потым пайшлі доўгія і аднастайныя гудкі. Марыя задыхала часцей, а потым і перастала дыхаць. Гудок ішоў за гудком.

– Алё-алё-алё... Слухаю!

Марыя нават разгубілася, калі пачула голас дачкі. Здавалася, што яна ў суседнім пакоі.

– Святлана, гэта я... Як вы там!

– Усё нармальна, мама. Што, Вадзік захварэў? Што ты маўчыш, што з ім! – дачка гаварыла крыху нервова і ўсхвалявана.

– Не, з Вадзікам усё добра, спіць...

– Ён не ў школе? Ах, яшчэ ж рана ў вас там. Усё пераблыталася ў галаве, я табе такі падарунак вязу, такая прыгажосць, ты і не ўяўляеш... Я хацела шаўковы і чырвоны, а Ігар кажа, што табе лепш будзе вішнёвы... Я тут складаюся, ты доўга не размаўляй, а то шмат нагаворыш...

– А дзе Ігар?

– На беразе ходзіць, развітваецца з морам-акіянам. Я рукой яму памахала, але ён не бача, не глядзіць на гатэль. Ён нейкі дзіўны, кажа што не хоча адсюль з'язджаць. Уяўляеш, зусім не хоча.

– Святлана, ну а ён табе сказаў, вы хоць вырашылі, як далей жыць будзеце? Ці як і раней, кожны ў сваёй кватэры...

– Зноў ты са сваімі пытаннямі, якая розніца дзе мы будзем жыць? Ён сказаў што ўсё вырашыў і сёння скажа... Пойдем у рэстаран і там пагаворым... Усё будзе добра, не хвалюйся.

Марыя слухала голас дачкі і думала пра сваё, а яшчэ спрабавала ўявіць, як высокі Ігар няспешна ідзе па пяску, як грузнуць яго ногі ў тым вільготным пяску, як набягае за хваляй хваля. Вада ёй бачылася блакітна-зялёнай і яркай, хвалі з карункамі, пясок белым, а неба не магла і прыдумаць, якое яно там.

– На крабаў больш і глядзець не магу...

– А якое ў вас там неба?

– Неба? Звычайнае... Я сабе капялюш купіла зялёны з вострым верхам, саламяны, а дзеду жоўтую кашулю.

– Кашулю?

– Не тое каб зусім жоўтая, а такая залацістая, як цыбуля, і бліскучая... Мама, ты нагаварыла на мільён, а можа і больш. Заўтра мы будзем дома. У шэсць наш самалёт. Як у вас надвор'е, халодна? У нас горача задушліва. Дождж толькі адзін раз быў, але такая залева, што на ўвесь дзень і ўсю ноч. Ліло як з вядра. Канец свету нейкі.

– У нас цёпла... Слухай, а што ён усё цягне?

– Мама, мы самі разбяромся... Вунь ён да гатэля ідзе, з белай кветкай... Не хвалюйся, усё будзе добра.

– Святлана, ты скажы яму, што жыць будзеце ў нашай кватэры. Што ты маўчыш, у нашай кажу.

– А вы?

– У тваёй.

– Што вы прыдумалі. А дзе Вадзім будзе ў школу хадзіць, яго ж вазіць давядзецца праз увесь горад? Мама, ты Сяргею нагадай, каб заўтра сустрэў, я яму дашлю эсэмэску з Масквы, калі будзе перасадка. Усё, заўтра ўбачымся, табе вішнёвы колер падабаецца, праўда, я так і скажу Ігару. Цалую-абдымаю, да сустрэчы.

У трубцы пстрыкнула, і пайшлі аднастайныя кароткія гудкі.

Марыя з тэлефонам і нататнікам вярнулася ў спачывальню, паправіла на прыбраным ложку мужа падушку, схавала ў шуфлядку танометар. На гадзінніку было без чвэрці пяць. Вырашыла, што патэлефануе сыну ў сем, калі ён прачнецца. Дастала з шафы альбом, села на свой ложак і пачала пераглядаць фотаздымкі, яна ведала, які падабаўся мужу, ёй, сыну, і дачцэ,

і нават васьмігадоваму Вадзіку. У спачывальні было вусцішна, і Марыя глядзела на фотаздымак маладога мужчыны і ўсміхалася.

Вадзіку сніліся бліскучыя каштаны і мужчына доктар у бурачковай адзежы. Металічны чамадан з лекамі і тое, як доктар паглядзеў на барометр над канапай і пастукаў па шкле пазногцем... Гэта было заўчора, калі яны з дзедам вярнуліся з парка, дзе хацелі назбіраць каштанаў, але не паспелі. Дзед сказаў, што яго сэрца калоціцца, і яны вярнуліся з паўдарогі дамоў.

Пад дзвярыма жаўцела доўгая шчыліна святла, якая магла б нагадваць працяжнік, каб не была такой доўгай.

*Студзень-люты 2016*

Ганна Галавіна



...Проста з табой, слабая,
Прагну – і ўваскрасаю
Я...

# Паветра – мы самі

* * *

Чуеш? Канечне, ты гэта чуеш.
Белага пылу халодны дым.
З кім наша лета цяпер начуе
І прачынаецца побач з кім?
Студзень і горад сляпыя суддзі.
Слухаюць выдумкі пра мяне.
Хто нас разбудзіць і хто забудзе,
І захавае, і разаб'е?
Мерна пульсуе людское мора.
Хто-небудзь іншы, калі не ты.
Недзе над крыўдаю і дакорам—
Уседаравальнага неба масты.

* * *

Мяне пра любоў гаварыць не вучылі.
Не трэба смяяцца з маўчання майго.
Куточкамі вуснаў, сваімі плячыма
Ты – водбліск апошніх ружовых снягоў.
Не варта здзіўляцца — усё выпадкова.
Як цяжкка мне быць бездакорнай цяпер —
Пра гэта маўчаць рыфмаваныя словы
І белае лісце халодных папер.
Дыханне — крыло патрывожаных птахаў.
Не трэба баяцца пяшчоты нямой.
Тым больш, што і я паміраю ад жаху.
Ад лёгкага ценю ўвагі тваёй.

* * *

Калі праходзіць боль — усё праходзіць
І нават палуночны лістапад
Усмешкамі нязведаных мелодый
Назад.
Калі праходзіць дождж, і не заўважыць,
Імгненнямі прабіўшы цішыню.
Па кроплях, па шкляных начах адважна
Люблю.
Калі праходзіш – назаўжды, да заўтра.
Час падступае – гарадскі прыбой.
Агідна голая смяецца праўда
З мяне, са мной.

* * *

Начны кірмаш — і болей, болей
Жаўцее ў рэчцы медзякоў.
Шпакоўні абжывае воля,
Званчэйшая за ўсіх шпакоў.
Ізноў прыходжу для размену,
Ў вачах — бясхмарных летаў гладзь,
Усе з кішэняў, дзён і венаў
На невядомае мяняць.
Як дворнік, словы любяць смецце,
У вечнай мары залатой
Аб тым, як некалі і недзе,
Заўжды і, можа быць, са мной...

А я? Уверх і... у бяздонне,
Дзе пахне сонцам і зямлёй,
У хуткім восеньскім палоне
Ӯ бяспамятны адвечны рой.

* * *

Ёсць мільярды цёплых-цёплых слоў,
Ёсць тоны неразбаўленай пяшчоты.
Але я знаю: вымяраць улоў
Не любяць рыбаловы ад самоты.
У самым-самым сэрцы цішыні,
Дзе ўсіх мінулых страчаныя хвілі,
Разлік ідзе на лічаныя дні,
Разбег ідзе на нулявыя мілі.
Гуляючы ў вядомую гульню,
Я торгаю адны і тыя ж лёскі.
Лаўлю, лаўлю...
І пападаюся ў шматкроп'і, сны і коскі.

* * *

І люты закіпае ад гармонаў
Пад крыкі ашалелых вераб'ёў.
Абеларушаным, марожаным шпіёнам —
Мая іспанская малінавая кроў.
Я думала, што знаю ўсе адценні
Мелодыі адвечнай на зямлі,
Апошні ціхі практык летуценняў
І першы тэарэтык цеплыні.
Ды пражываю зноў прэлюдый такты,
Сп'янелая ад блізкасці з вясной,
Купляючы папсовыя кампакты
У прадаўца салодкага, як боль.

* * *

Аблічча нічога не значыць,
І мне ўсё адно,
Як усміхаешся ці плачаш.

Не важна мне больш, хто ты.
Сляпая гульня, пяшчота
Я...

Буду гасіць імгненні,
Цярпі, ты, маё натхненне,
Жывая вада.

Кахання нязвыклыя кшталты.
Прымаю ўсё, чаго варта
Я...

Можаш быць кім захочаш.
Цела, цяпло, вочы...
Праўда не ў іх.

Проста з табой, слабая,
Прагну – і ўваскрасаю
Я.

Сяргей Дубавец



...усё неба запаланілі

лятучыя грузіны...

# Жэнеўеў

***Апавяданне***

– Раптам спыніцца сэрца, надыдзе смерць, пахаванне, а галава, прынамсі, гатовая для ўсяго гэтага, не трэба стрыгчы, учэсваць, няма лішняга клопату людзям, – думаў сабе Жэнеўеў, гледзячы ў люстэрка цырульні.

Побач з люстэркам у вялізным акне снег густа падаў на сосны Батанічнага саду.

Думкі пра гатовасць да смерці прыходзілі Жэнеўеву кожнага разу, калі лягаў спаць, мыўся ў душы ці падстрыгаў пазногці або пісаў пра тое ў сваім фэйсбуку. Засну – і адразу гатовы, надзеў урачысты строй – і хоць ты кладзі пад цюль. Паголены, у начышчаных да бляску чаравіках...

Жэнеўевам яго назвалі бацькі, тата і мама. Яны любілі французскае кіно і чакалі дзяўчынку. У астатнім ён быў такі самы, як усе. Між беларусаў шмат людзей, пра якіх нічога асаблівага не скажаш, нават таго, што яны беларусы.

З фэйсбуку пра Жэнеўева і даведаліся Какашыдзэ і Гагаладзэ. Ягоная гатовасць да ўласнае смерці прыцягнула іхнюю ўвагу.

Увогуле такая гатовасць была ўласцівая ўсім беларусам. Жэнеўеў вылучаўся тым, што казаў пра гэта ўголас і пры кожнай нагодзе. За святочным сталом ці ў оперным тэатры, за кампутарам на працы ці ў прыбіральні – ён уяўляў, што будзе, калі раптам спыніцца сэрца. І нязменна радаваўся, што не наробіць клопату іншым.

Кажучы зусім дакладна, гаворка не йшла пра смерць, а толькі пра рытуал пахавання. Бо смерць – хто яе ведае, што яна такое, а вось уся гэтая мітусня вакол памерлага – гэта кожны ведае, асабліва на пятым дзясятку, як Жэнеўеў.

Какашыдзэ і Гагаладзэ былі агентамі Сораса, а Сорас – багаты мецэнат – скіроўваў сваю дабрачыннасць на развіццё і адукацыю народаў, каб ім расхочвалася паміраць. Якраз з беларусамі гэта зрабіць было найцяжэй. Бо паміраць яны быццам бы й не хацелі, але ўвесь час думалі пра гэта. Адсюль атрымаўся канфлікт інтарэсаў, і тутэйшыя ўлады, якія таксама думалі пра паміранне, выгналі Сораса з краіны. Цяпер ён раз-пораз інкогніта пасылаў у Беларусь Какашыдзэ і Гагаладзэ.

Чаму ён выбраў менавіта іх? Двух лысаватых і паўнаватых мужчынаў, з выгляду рыхтык італьянскіх мафіёзі. Можа быць, адчуваў, што беларускія праваахоўнікі не паверань, што класічныя шпіёны могуць быць шпіёнамі насамрэч? Ці таму, што ўсё ў Беларусі было з падвойным дном? Паміраць рыхтуюцца, але не збіраюцца. Кажуць, што родная мова ў іх беларуская, а гавораць па-расейску. Нездарма ж найвялікшы літаратурны твор у іх называецца «Дзве душы» – нібы сапраўдная іхняя канстытуцыя пры тым, што і звыклая Канстытуцыя ў іх, нібыта, ёсць.

Грузіны і Сорас неяк не разумелі гэтай заклапочанасці развітальным рытуалам і прымалі яе за клопат пра ўласную смерць. А Жэнеўеў не разумеў, чаму ягонае жаданне пазбавіць іншых ад клопату пра сябе ў часе пахавальнага рытуалу нехта трактуе як клопат пра смерць.

– Мы ведаем пра тваю заклапочанасць уласнай смерцю, але як зрабіць, каб цябе болей клапаціла ўласнае жыццё? – пыталіся ў Жэнеўева Какашыдзэ і Гагаладзэ.

– Як гэта? – здзівіўся Жэнеўеў.

Яны сустрэліся ў гарадскім парку і шпацыравалі да рачное дугі пад лёгкім сняжком. Змерзлыя галубы куксіліся на бетонных рачных парапетах.

– Дык ты ж думаеш пра сваю смерць ужо шмат гадоў, але не паміраеш, праўда?

– Ну, не паміраю, – згадзіўся Жэнеўеў. – А можа я таму й не паміраю, што ўвесь час думаю пра смерць. Я...ць-калаціць!

Шпацыруючы, яны прамінулі нейкі важны помнік, спусціліся ў лагчыну, і грузіны сказалі:

– А калі б ты ўвесь час думаў пра жыццё? І ўся твая нацыя думала б пра жыццё. Яна б жыла, а не памірала, так? Глядзі, – разгарнулі яны свежы нумар «Нашае Нівы», – тут вельмі горасна пішуць, што беларуская нацыя памірае, што ад яе амаль нічога ўжо не засталося.

– Гэта чыстай вады развод, – сказаў Жэнеўеў. – Мы проста засцерагаемся, а так бы не засцерагаліся. Думаць пра смерць у нас не адымеш, таму трэба сыходзіць з гэтага. Мы й жывем толькі таму, што думаем, як памром.

Вялікі дыск сонца адлюстроўваўся ў Свіслачы, і цень каменнай альтанкі

расцягнуўся па заснежаным лёдзе аж да супрацьлеглага берага ракі. Вечарэла. Нашы героі стаялі каля парапету і пазіралі кожны перад сабой. А над імі навісала высокая зорка Дома пад шпілем і аграмаднністым целам грувасціўся гмах Генштаба.

– Харашо, – чамусьці па-расейску сказалі Какашыдзэ і Гагаладзэ. – Вы засцерагаецеся ад жыцця, так ты сказаў? І гэта ваш сродак кантрацэпцыі. Беларусы пражываюць жыццё ў прэзерватыве, так прынята, так закладзена. Яны – засцерагаюцца. У гэтым прычына, што яны ніяк не могуць нарадзіцца. Але калісьці ж гэта пачалося, гэтае думанне пра смерць? Нехта ж надзеў на вас гэты чапок. Ну, не сёння, не ўчора, а калісьці.

Доўгая паўза павісла паміж домам Освальда – забойцы Кенэдзі і домікам першага з'езда КПСС.

– Ну і што, – сказаў Жэнеўеў. – Мы ж не хіпі, каб не засцерагацца.

– Твая радзіма тут? – спыталіся Какашыдзэ і Гагаладзэ.

– Тут, – адказаў Жэнеўеў. – Хоць папраўдзе карэнных жыхароў у Менску няма, максімум чатыры пакаленні...

– Чатыры пакаленні – гэта нішто, – сказалі Какашыдзэ і Гагаладзэ, – бо ўсе жывыя. Калі ўсе жывыя ці тэарэтычна жывыя – гэта, лічы, адно пакаленне – ты, мама, дзед, прадзед. І тут усё пачынаецца.

– Тут усе, калі разабрацца, аднекуль прыехалі. Я нарадзіўся на поўдні, у Мазыры.

Грузіны задумаліся, пасля зазірнулі ў свае гаджэты.

Мазыр – брутальны горад. Страшны. Шмат забойстваў на бытавой глебе. Адарваныя людзі, урвісты, бандыты. Крымінал не спыняецца... Горад на гарах... Усе помнікі архітэктуры зруйнаваныя. Разам з гарамі. Сярод першых згадак – пасаджэнне на кол... Гэта ж трэба было патрапіць калом у заднюю дзюрку! Каб чалавек расслабляўся і адначасова ўваходзіў у гэты боль глыбей, глыбей, глыбей...

– Трэба ехаць на тваю радзіму, – сказалі Какашыдзэ і Гагаладзэ. – У твой страшны горад Мазыр. Усё пачынаецца адтуль, і думкі пра паміранне таксама.

– Чаму б не. Але я так думаў заўсёды, колькі сябе помню, – сказаў Жэнеўеў.

– А жыццё – такое прыўкраснае, – уздыхнулі Какашыдзэ і Гагаладзэ.

У грузінаў была машына, акурат каля Доміка з'езда, і неўзабаве яны выправіліся ў дарогу.

– Ну да, у вас там горы, мора, мандарыны... – падкалоў грузінаў Жэнеўеў, калі яны селі ў машыну,

– Ты пра гэта шкадуеш? – з недаверам спыталі грузіны. – Скажы, чаго б табе было шкада ў гэтым жыцці, з чым не хацелася б развітацца?

Жэнеўеў задумаўся, і ўсмешка заблукала на ягоным твары. Пасля стаў казаць нешта, быццам завучанае яшчэ ў дзіцячым садку.

– Шкада... што не спазнаў усяго на свеце... Не быў нідзе толкам. Што не з'еў усяго... Што...

Ён запнуўся і пачаў распавядаць сваю гісторыю:

– Вось я вам раскажу гісторыю пра Капцілу. Калі ў Капцілы прапаў інтарэс да жыцця, я акурат набыў сабе сабачку. Масціна. Капціла капціў, а я быў шчаслівы ад свайго барбоса, проста парадніўся з ім. У паўгода ён ужо важыў 40 кілаграмаў і быў неверагодна прыгожы. Сапраўдны рымлянін. Іх вывелі для гладыятарскіх баёў, і яны хадзілі біцца разам са

львамі і спартакамі. Я ганарыўся такім сябрам. А ён быў спакойны і як бы самы блізкі мне чалавек. Толькі бяда была ў тым, што жыць майму сябру было ўсяго дзесяць гадоў. А Капцілу невядома колькі. Гэта мяне мучыла найболей. Капцілу падыходзілі крылатыя словы Камю «Мы так доўга жывем», а барбосу – крылатыя словы Пятровіча «Людзі доўга не жывуць», хоць ён і не быў людзем. Ну вось. Шчасце, я гэта разумеў ад пачатку, скончыцца даволі хутка, а пакута проста не мела канца. Так і адбылося. Дзесяць гадоў праляцелі як дзень. Урэшце барбоса я пахаваў на Уручскіх могілках, ёсць у нас такія, для котак і сабак. І для марскіх свінак. Масціна памёр, а Капціла капціць і сёння, усімі незадаволены, без зроку і памяці, з дакорам, што ўсе толькі й чакаюць ягонай смерці, нікому не карысны й не патрэбны. Страчваеш таго, хто табе дарагі, а застаешся з тым, хто вымотвае душу. Такое ў нас жыццё.

– Ты набыў шчанюка і пры гэтым думаў пра тое, што жыць яму ўсяго 10 гадоў? – грузіны былі ўражаныя. – Табе гэта не здаецца ненармальным?

– Дык гэта ж праўда. Дзіўным мне здаецца тое, што мы вось так проста едзем у Мазыр. Але хай сабе. Я акурат падстрыгся...

Яны выехалі на кальцавую і маўчалі да Асіповіч. Жэнеўеў заглыбіўся ў сябе. Гагаладзэ круціў баранку, а Какашыдзэ ўглядаўся ў гаджэт.

– Нічога добрага нам не свеціць, – абвясціў ён і пачаў чытаць: Асіповічы славяцца найбуйнейшай за ўсю вайну дыверсіяй на чыгунцы. Помнік арганізатару дыверсіі Крыловічу. Палегла людзей. Сам Хведар Крыловіч нарадзіўся ў 1916-м, памёр у 1959-м. Малавата пажыў. Яго ўнучка змагаецца з падаткавымі праверкамі – у яе свая пахавальная кантора ў Асіповічах. Таня завуць. Так пішуць у газетах.

– Я ў 1959-м нарадзіўся, – сказаў Жэнеўеў. – Герой вайны закончыў свой шлях на 43-м годзе. У прынцыпе, не так і мала, калі б не такі важны герой з помнікам. Такія сыходзяць у 80-90. Калі ніхто ім з нейкіх прычын не дапаможа...

Дарога то круціла кругамі, то спускалася ў лагчыну. Праехалі недзе збоку Бабруйск, ізноў недзе збоку паказвала на Парычы, у гэтым месцы наўздзіў не было снегу.

– Тут заўсёды цяплей, – сказаў Жэнеўеў. – Я даўно гэта заўважыў. Калі я быў малы, мяне часцяком вазілі да бабулі ў Мазыр. На лета, а бывала і на зіму. Узімку мы з братам хадзілі на Прыпяць з вудамі і пешняю. Падлёдны лоў называецца. Ідзеш на рыбу, а сам думаеш, а што калі ўжо не вернешся, бо сам трапіш пад гэты лёд.

– Можа быць, уся прычына ў падлёдным лове?

– А што там можа быць за прычына? Круціш лунку і сядзіш над ёй з вудаю. Для многіх у нас за шчасце нацягаць джгіроў. Проста азарэнне нейкае. Людзі гатовыя сядзець цэлы дзень, нават калі не чапае.

– Страшна, – сказалі італьянскія мафіёзі.

Праехалі Азарычы. Какашыдзэ каментаваў з гаджэта. Лагер смерці, дзе хлеб у натоўп вязняў кідалі проста з грузавіка (але ж кідалі!), часам каменны бохан трапляў каму-небудзь у галаву і той падаў замертва...

«Смерць, толькі смерць, – думалі Какашыдзэ і Гагаладзэ пра гэты край. – І нічога пра жыццё, пра харошы грузінскі хор».

Калінкавічы... На старым мосце праз Прыпяць гарою вырастаў Мазыр. Жэнеўеў працягваў успамінаць.

– Я малы не мог вымавіць «р» і казаў на раку «Піпец». І мяне драж-

нілі, але не дзеці. У нас была суседка Ганна Лагапедаўна Міцура. Яна мяне за гэта называла «Піпец». А, прывет, Піпец. Як справы, Піпец? Ты ўжо хадзіў на ыбалку, Піпец? Толькі пазней я даведаўся, што піпец – гэта значыць, гамон.

Грузіны засмяяліся і потым, як гэта заўсёды бывае ў грузін, ці праз смех, ці праз слёзы, пачалі спяваць. Машына ўзнёсла ляцела па старым мосце, а іхняе «Дэлі-дэлі-дэласа» неяк упляталася ў вуркатанне рухавіка.

Жэнеўеў стаў падпяваць, але іншае, тое, што ведаў. А неўзабаве і грузіны падхапілі Жэнеўевавы словы.

Доўга я хадзіў паміж скал,
Я магілку мілай шукаў,
Але нялёгка яе знайсці,
Ой, нялёгка,
Мілая галубка мая.

Прыпяць была замерзлая ці не да дна. Яны пакінулі машыну на беразе, сышлі на раку і адчулі магутны вецер. Была ўжо ноч. Гарысты горад навісаў над імі чорнай сцяной.

– Эй, знаеш, – сказалі Какашыдзэ і Гагаладзэ. – Мы тут не ўтрымаемся на паверхні.

– Нармальна, – крыкнуў Жэнеўеў. – Мы так жывем. Якраз гэта я і запомніў з дзяцінства. Зіма, мароз, снег, вецер, цёмна, бо яшчэ толькі восем раніцы. І мы з Воўкам, братам, ідзем на рыбалку. Мы надзелі цёплыя кажушкі, узялі ў рукі пешні, вуды і сумкі. Мы жывем у бабулі, недалёка, за старым драўляным рынкам, дзе часта здымаюць фільмы пра вайну. Цяпер рынак зачынены, бо панядзелак. Пераходзім Савецкую вуліцу, абмінаем драўляную двухпавярховую школу (я думаю – як бы хацеў тут вучыцца) і выходзім у парк. Гэта прыбярэжны парк, дзе ўлетку апаляюцца купальнікі, а на эстрадзе чытаюць лекцыі пра палавое выхаванне...

Прыпяць – аграмадная ледзяная гладзь, цёмная і крыху пагрозлівая, быццам адлюстроўвала такое самае неба з неабсяжнымі хмарамі, што ляцелі на ўсёй хуткасці, нібы паравозы. І ноч.

Калі яны дайшлі да сярэдзіны ракі, вецер падзьмуў з усяе моцы. Грузіны куталіся ў свае чорныя палітоны, а Жэнеўеў у пухавіку адчуваў задаволенасць сваёй перавагай над імі. Ён быў тутэйшы.

– Экстрэмальныя ўмовы, – крычалі Какашыдзэ і Гагаладзэ.

– Калі мы з Воўкам выходзілі на сярэдзіну ракі, – працягваў крыкам свае ўспаміны Жэнеўеў, – вецер быў такі моцны, што збіваў нас з ног і гнаў па лядовай паверхні, нібы апалае лісце. Мы рагаталі і з усяе моцы спрабавалі ўзняцца на руках: калі пашанцуе, вятрыска падхопліваў цябе і можна было крыху праляцець над ракой, пакуль не бразнешся аб лёд і віхура прыб'е цябе да намеценай гурбы снегу.

Гэтым разам снегападу даўно не было і гурбы ператварыліся ў высокія, да калена й вышэй, наледзі.

Паверхня ракі была настолькі гладкая, а вецер настолькі парывісты, што ён нібы паслухаўся словаў Жэнеўева і падхапіў нашых герояў у паветра. Яны проста ляцелі. Грузіны заспявалі: "Дэлі-дэлі, дэласа..." Грузіны заўсёды спяваюць, калі незразумелая бяда. А Жэнеўеў проста радаваўся жыццю і ляцеў у сваім пухавіку кудысьці ў невядомасць...

Калі ён апускаўся ніжэй, дык бачыў у небе лятучых грузінаў, падобных

на чорныя дэльтапланы ці на кажаноў, і здавалася, што іх не два, а болей, дзясяткі і сотні, усё неба запаланілі лятучыя грузіны.

*Барбастэла барбастэла* – круцілася ў галаве ў Жэнеўева, і гэта былі апошнія словы перад тым, як парыў ветру рэзка спыніўся і ледзяная купіна – тая, што ўзвышалася на беразе ракі – рэзка паляцела яму насустрач.

Ад удару Жэнеўеў страціў прытомнасць.

Рыбы леглі на дно. На Прыпяці йшла віхура. І яны, ляшчы, шчупакі, плоткі, акуні, краснапёркі і таўсцілы адчувалі еднасць перад вялікай бядой. Яны не варушыліся, іх плаўнікі і шчэлепы замёрлі ці то ад страху, ці то скаваныя лёдам у прамерзлай да дна рацэ.

«Барбастэла барбастэла...» – пачуў Жэнеўеў і зразумеў, што ачынаецца. Ён ляжаў пасярод аграмаднай ракі, а над ім гуляла стыхія і чорнай сцяной навісаў страшны горад ягонага дзяцінства. На чорных гарадскіх узгорках узвышаліся ці то будынкі, ці то калы з пасаджанымі на іх казакамі, Міхненкам ці нават самім Налівайкам.

Праблісковыя маячкі міліцэйскай машыны, што пранеслася па беразе, канчаткова вярнулі Жэнеўеву прытомнасць.

Грузіны ляжалі побач. Крыху прыціхлы вецер варушыў іхнія целы з вырачанымі, як у рыб, вачыма і напхатымі снегам ратамі.

Жэнеўеў зразумеў, што не ўстане, занадта моцны быў удар. Думка пра смерць хутка змянілася думкай пра паміранне. Ён уявіў сабе сваё бруднае, скамечанае, скрываўленае аблічча і адчуў неверагодную палёгку. Быццам прасвятлела ўсярэдзіне. Рэч у тым, што цяпер гэта яго зусім не турбавала! Ні думкі пра паміранне, ні думкі пра свой выгляд, ні думкі пра лішні клопат для кагосьці, хто мусіць складаць яго ў труну.

Значыць, недарэмна загінулі грузіны, – вось адзіная думка, якая прыемна склалася ў галаве. Усё астатняе выклікала ў Жэнеўева абыякавасць. І ў гэтым было сапраўднае вызваленне.

Калі вецер зусім сціх, здавалася, цэлае сонца ўстала над горадам дзяцінства, не такім ужо і страшным ды брутальным.

У нашых краях не бываюць брутальнымі сонечныя гарады.

паэзія

Сяржук Сыс



...Я ў зоне мутацыі!
Скотчам абмотваю ўраз галаву...

# Хроніка халоднага мола

## *АДЗІН*

Аднаму ні добра, ні пагана,
Проста аніяк, і цішыню
Не адчуць, як не адчуць нірваны
Па начах без стомы і агню.
І штодня сярод людское плыні,
У вірах чужых размоў і слоў
Позіркі страляюць халастымі,
Як у “малако”, паўзверх галоў.
Церуха жыцця сляды хавае,
І няважна зараз – з кім і дзе
Ты грабешся, нават не па хвалях, –
Па халоднай, нежывой вадзе.
Страчаныя позіркі і словы,
Узамен жа – бессані нажы.
Ты – адзін, і вырак – канчатковы.
Цешся, як да гэтага дажыў.

### *Я СКРАЎ ВЯСНУ*

Я скраў вясну. Схаваў пад грудзі.
Я звёз вясну цішком да мора.
Цяпер карайце мяне, людзі,
Вядзіце хоць да пракурора.
Памежнік рэчы трос, халера,
І нават вынюхаў валізку...
Глядзеў сувора, без даверу,
Ды не знайшоў вясну ні блізка.
Вясна са мной ідзе ў абдымку
Усцяж Балтыйскага ўзбярэжжа,
Дзе спяць баркасы ў шызай дымцы,
І крыкі чаек сэрца рэжуць.

### *SVEIKI*

Sveiki*, Вентспілс! Ну няўжо
Я з тваім Остгалсам –
Не з мячом і не з ружжом –
Закружыўся вальсам?
Чаек часты перакліч
Для мяне сягоння
Нібы прывітальны спіч –
Лепшая з сімфоній.
Валуны твае абняць
Хочацца на шчасце,
Каля Венты хоць паўдня
Шчасце сваё пасвіць.
Вермут Балтыкі сівой
Ап'яніць імгненна:
Прытулюся галавой
Да лівонскіх сценаў.
У пазногціках лускі,
Быццам бы ў алмазах,
Каля берага ракі
Нудзяцца баркасы.
Sveiki, Вентспілс! Цёплы дым
Нашае сустрэчы
Застанецца назаўжды,
Бо яшчэ не вечар...

*Вентспілс, 3 сакавіка 2016.*

---

* Sveiki (*латв.*) – прывітанне.

## *ПАСТУХ*

Мой будзільнік новы – ранніх чаек енкі,
Цемра ледзь адхлыне – налятуць яны
І рагочуць п’яна за вакном маленькім:
“Падымайся, дзядзька, надзявай штаны!”

Сонная Віндава дружна паліць печы –
Аж казыча ноздры дым альховых дроў.
Закідаю звыкла торбу я за плечы,
Ды – да рэчкі пасвіць гарадскіх кароў.

Ратушнаю плошчай, пляцам кірмашовым
Грукаюць абцасы, брукаванку гнуць...
Раніцы пагоднай вам, мае каровы,
Так карціць мне з вамі мурагу скубнуць!

Не стагніце чайкі, не шыпіце гусі:
Як завершу цалкам службу пастухом –
Тутака ж вярнуся я да Беларусі,
Дзе мае каровы, дзе мой родны дом.

## *ЧА-ЧА-ЧА...*

*Славаміру Адамовічу*

Я не ведаю,
як стракоча кулямёт Томпсана ў закрытай prасторы...
што ж рабіць, ці ў Чыкага морам
падацца,
ды там і застацца,
на скатабойні
з прастрэленым вухам і брухам,
з пустою абоймай?
Жах!
Я таксама не ведаю,
колькі спатрэбіцца спірту “Раялю”,
каб плюхнула хваля
з Эмпайер Стэйт білдынг вышынёй.
Што рабіць, Божа мой!
Далучыцца веткай метро да завода “Крышталь”,
і зліваць спірт у ліфт?
Дык памрэ пан сахі і касы...
Гэта жах і шкандаль!

І яшчэ невядома мне, колькі гадоў
прусаку-вусачу церабіць Беларусь,
зневажаць свой бяскрыдлы народ...
Што рабіць? Можа ўлезці ў Нацбанк,
каб на сціплы запас залаты
ў Камеруне прыдбаць касмалёт,
і адправіць на Марс вусача?
Гэта клас, гэта ўлёт!
Ча-ча-ча....

## *ПЯТАЯ ЦЕМРА*

пятая цемра з даху ільдзінай рыне на цела
што, як вужака, клубком, накруціла прасцінаў
цела маё барыкады са сну збудаваць не паспела
вось і ляжыць яно зараз у поце халодным і слінах

што, дагулялася ўрэшце, цяпер во табе не прысніцца
бор над Дняпром, а ў бары – асцярожныя рысі
крадуцца гэтыя кошкі нібыта сапёры па хрусткай ігліцы
гэтыя кошкі нібыта царыцы, а ты проста коўдрай укрыйся

вось і ляжы, разважай пра смяротнасць, жыцця недапалак,
межы якой вывучаеш ты з хуткасцю незразумелай
а за вакном енк сірэны і бляск міліцэйскіх мігалак
фініш: я цэлюся трапна ў сваё неслухмянае цела

## *ЯК ПАМІРАЕ МЕНСК*

Пульхныя белыя пальцы “паркерам” машуць,
Цэляцца ўніз А-чацвертай, з пячаткай, паперы.
Подпіс узнік, і зайшла сакратарка Наташа,
Разам з аўтографам выйшла, і войкнулі дзверы...

Гэта пачатак працэсу, які назавуць ушчыльненнем
Некалі ўтульнага цёплага мікрараёна.
Гнюсны гатэль праектуе праплачаны “геній”
Проста ля Свіслачы ў парку, нядаўна зялёным.

Гэта забойства фінал, бо ад Менску душа адляцела
Крыху раней, ну а зараз чарговы чынуша
Стэрылізуе парэшткі, каб горада цела
Анатаміраваць цалкам, адрэзаўшы пальцы і вушы.

## АДЛЮСТРАВАННЕ

Нібыта ў сне рыбацкім, бачу я адлюстраванне
Душы няўрымслівай, што ўсё яшчэ ляціць да зор:
На дне – пясок і водарасцяў п’янае хістанне,
і цень вялікай рыбіны ўздымае з дна віхор.
Вада падманвае, выявы рэчаў размывае,
Здаецца, там, на глыбіні, таемны дзіўны сад...
А там – каменьчыкі блішчаць і перліна старая,
Усё, што звалася душою шмат гадоў назад.

## ЗОНА МУТАЦЫІ

Аўтобус спыняе памежнік з зоркамі на плячах і рацыяй:
*Attention!* Памежны кантроль! Падрыхтуйце свае пашпарты.
Чаму і навошта вяртаюся я ў Беларусь, зноўку ў зону мутацыі,
Няспыннай кастрацыі мозгу ўжо дваццаць і хутка яшчэ два гады.

А што гэта ў Вас?
– Супрацьгаз.
– Не паложана!
– Як жа быць з вірусам?
Мне кажуць, “хвароба” тут нейкая
“косіць” нават здаровых людзей.
– Падкопы Абамы, лухта, прапаганда, ды ты ж беларус і сам,
Павінен жа ведаць, што ў нас тут стабільнасць, і жыць весялей.

Праехалі ў зону, за вокнамі – вечная бітва аграрыяў:
На снезе – ячмень і надрыўна ў балоце равуць трактары.
Смакуюць “вінцо” пад кавярняй дарожнай мясцовыя пары,
Ленін бязвокі кепкай махае кудысьці ў бок “светлай зары”.

На “Опелі” гома савецікус руліць, на шкле – профіль Сталіна,
Сталіца наперадзе – горад, дзе я нейкім чынам жыву,
Дзе столькі маіх спадзяванняў на шчасце
раструшчана, спалена...
Я ў зоне мутацыі! Скотчам абмотваю ўраз галаву.

## ЦЕНЬ

*А каб ты свайго ценю не бачыў!*
Праклён беларусаў

Учора я згубіў свой цень і не заўважыў,
Ці то як берагам ішоў, ці то на пляжы.

Спачатку весела было – вось гэта страта:
Згубіць свой цень! Хоць і раней губляў багата –
Ключы, гадзіннікі, сяброў і грошай жмені...
А потым потам паплыло – а як без ценю?
Бо ён жывы, ён, як душа, са мной да скону,
А можа, нехта яго скраў? А мо ў палоне?
Ці можа, цень мой захварэў, упаў дзесь мёртвы?
Я чуў, што можна цень прадаць самому чорту?
Нервова шнырыў па дварах, шукаў употай,
Ляпіў абвесткі, абяцаў за цень банкноты...
Што ні рабіў, дзе ні шукаў – ды толькі марна.
Цяпер выходжу па начах ці калі хмарна.
Як той пугач, па цемры я лячу маркотны...
Якая ганьба цень згубіць беспаваротна!

## ІЗНОЎ ТУТ ТУМАН

Ізноў тут туман і хмарна...
З мора імжа наляцела
Цьмянае сонца зеўрае
Манетаю ў палову еўра
Пругкім жыватом цяжарнай
Памаранчам яшчэ няспелым

Вежаў лівонскіх галовы
Храмаў спічастыя дахі
Колкім туманам імглістым
З'едзены сёння дачыста
Рэхам – гук словаў новых
Карыцай і кменам пахкіх

Неба казычуць на ўскрайку
Дрэвы без вершалінаў
Шпілі ў форме эрэкцыі
Я – бо няма дзе падзецца
Вострымі кіпцямі чайкі
Коміны даўкім дымам

Бровы брунатных даховак
Вочы дамоў прымружаны
Гэтакай негасціннасці
Нават туману не вынесці
Вянуць пакорліва словы
Нерасквітнелымі ружамі

### РЭКАНСТРУКЦЫЯ

Пэўна, пачну рэканструкцыю памяці з дроў,
З маці, якая іх ранкам прыносіць у хату.
Вось ужо, чуеш: у печцы шалёна зароў
Вогненны звер і мацней пахне сушанай мятай.

Круцяцца побач заўсёды рудыя каты.
Я дамалёўваю з бульбай прараслаю кошык,
Водбліскі полымя, што гоняць цемру ў куты,
Потым дадам цішыні, гэткай простай раскошы.

Глянеш, нібыта ў якім запаволеным сне,
Як павучок апускаецца ціха са столі.
Дрэмлюць спакойна выявы святых на сцяне:
Мне падаецца, іх стала на некалькі болей.

Кнігі маленства, і вось яшчэ – бацькаў партрэт,
Ён – як жывы, найвышэйшага хлопец гатунку...
Мусіць, усё, аднавіў неіснуючы свет,
Ды не знайшоў больш сябе я на гэтым малюнку.

### ТРЫ КАМЕНЬЧЫКІ

Сёння з морам развітаўся,
Тройчы з ім пацалаваўся,
Хвалі тры абняў рукой,
Твар абмыў вадой марской,
Тры каменьчыкі падняў,
Тры жаданні загадаў.
Першы – белы, як ільдзіна:
Каб дабрацца да радзімы,
А другі – зусім стракаты,
Каб пабачыць сваю хату.
Трэці – за вагонь ярчэй,
Каб сустрэць вясну хутчэй!

### ПРЫХОДЗІЦЬ ЧОРНЫ КОТ

*Рудзісу*

Пасля апоўначы з двара сыходзяць дрэвы,
Прыходзіць чорны кот з брыльянтамі ў вачах,
Ён не фанат юрлівых сакавіцкіх спеваў –
Тутэйшы гэта спавядальнік і манах.
Гербарый леташняй травы ледзь-ледзь дурманіць,
Траскуча шамацяць над брамаю плюшчы...
Сядзім з катом удвух, вярэдзім ціха памяць,
І хораша, аж млосна, нам робіцца ўначы.

Кот плёў гісторыі, мурлыкаў мне пра здані,
Якіх багата тут, у сховішчах муроў...
Вось дрэвы да двара вярнуліся пад ранне,
Мой чорны кот-манах, пакуль!
І будзь здароў!

### ДАРОЖНЫЯ МРОІ

Вярнуся і я дадому
Калісьці з вандроўкі дальняй,
Халацік, такі знаёмы,
Сустрэне мяне ў вітальні.
Каленкі мільгнуць ласкава, –
Не будзе больш рэвалюцый!
Сагрэюцца вусны кавай,
А рукі вузлом сплятуцца.
З табой на падушцы – крута!
Кручуся ўюном, юлою...
Мне сёння нават цыкута –
Будзе вадой святою.
І наша цікаўная котка
Не стоміцца з нас дзівіцца:
Праводзіла ў шлях малодка,
А сустракае царыца...
Вярнуся і я дадому
Калісьці з вандроўкі дальняй,
Халацік, такі знаёмы,
Сустрэне мяне ў вітальні.

### POST SCRIPTUM

Іду зжаўцелай паперай пяску да мора,
Капытамі б'е ў галаву мне сонечны конь –
Баюся, што ўспыхнуць магу, згарэць, бы порах,
Тады не ўратуе і ўзнятая ўвысь далонь.

У пральнай машыне мора круцяцца мары,
Змывае вада сумненні і плямы праблем...
А з шумай марской сыходзяць думак пачвары,
Пакінуўшы мора, як самы галоўны мем.

Зацішша ў душы, на Балтыцы аж пяць балаў,
Баранчыкі хваляў зблыталі з пашаю пляж...
Напэўна, морам-хірургам, хутка і ўдала,
Завершаны будзе мозгу майго дэмантаж.

*Вентспілс – Рыга, 1 – 16 сакавіка 2016*

Макс Шчур



...дзеці за той год

не пасталелі, а пастарэлі...

# Уратаванне

***Два аповеды***

## Бабуля

Бабуля нахіляецца над жалезным рукамыйнікам, кульбай высоўвае з-пад яго ацынкаванае вядро, бліжэй да сябе, так, каб яно апынулася ў яе каля самых мыскоў. Усім целам абапіраецца на рукамыйнік. Я адварочваюся да вакна і толькі чую знаёмы гук, падобны да бруення вады, калі напускаць яе ў нашую гарадскую ванну з крана. Цяпер я ўжо ведаю, што робіць над вядром бабуля – як быў малы, не здагадваўся. Ёй заўжды было больш няёмка папрасіць мяне выйсці з кухні, вымавіць пэўныя словы ўголас, чым зрабіць выгляд, што яна ў кухні адна, на момант забыць пра маю кароткачасовую – у параўнанні з яе гадамі – прысутнасць. А можа, яна проста мяне з часам ужо не саромелася, між блізкімі людзьмі гэта лішняе. Я і сам пра гэта ўжо не думаю, проста пазіраю ў вакно і

чакаю, калі ўжо можна будзе вынесці памыі, выкінуць смецце ды прынесці ў вядры з-пад яго торфу для печкі.

Ад сваіх шасцідзесяці гадоў бабуля амаль не хадзіла. Яна хварэла на так званае “адкладанне соляў” у нагах, ейныя калені не згіналіся, ног яна амаль не чула. Хваробу варта было пачынаць лячыць яшчэ ў сорак– пяцьдзясят, але тады бабуля адмахвалася – ёй было не да таго: праца, дзеці. Потым было ўжо позна. Ад сядзення ў хаце бабуля памажнела, і ёй надзвычай цяжка стала насіць на хворых нагах сваё груваскае цела, усю вагу якога яна старалася пераносіць на кульбу, пазней – на мыліцы. Без кульбы я бабулі, уласна кажучы, ніколі не бачыў, толькі на фотаздымках. Аднак, нягледзячы на хваробу, бабуля пры добрым надвор’і да апошняга старалася выходзіць на двор пасядзець на зэдліку гадзіны дзве– тры каля плота разам з суседкамі. Дарога з кватэры на двор займала ў яе каля паўгадзіны, але была вартая таго. Седзячы на сонейку, бабуля здароўкалася з мінакамі, разгаворвалася з жанчынамі, жартавала з дзецьмі. Час ад часу да яе далучаліся пасядзець суседкі, асабліва дзве – баба Вера Снітчыха з восьмай кватэры і баба Маруся Дуровічыха з першай. Астатніх бабуля неяк недалюблівала. Я дык сябраваў з усім домам: Чайчыхай, Жыгаліхай, Матлашучкай, Малахоўскай, з іхнімі мужамі і ўнукамі. Затое бабуля сябравала ці не з цэлымі Карэлічамі, ведала ўсіх і кожнага. Часам да ейнага зэдліку наўмысна прыходзілі пагаварыць знаёмыя жанчыны з вакольных вуліц. Цікава было сядзець каля яе і слухаць размовы старэйшых.

Светам па-за Карэлічамі бабуля кіруе з дапамогаю чырвонага тэлефона. Бабулін свет вялікі, значна большы за двор перад домам: яго край губляецца недзе за морам у Аргенціне, дзе бабуля правяла палову жыцця. Для мяне ж тэлефон увасабляе перадусім матчын голас: я ўжо год жыву ў бабулі з дзедам і за ўвесь гэты час бачыў маці толькі на фотаздымку за шклом кухоннага серванта. Але недахопу любові я не адчуваю: бабуля носіць мяне на руках, гушкае, лечыць, гатуе мне самыя смачныя ў свеце стравы. Я для яе – ейнае малое “шчураня”. Калі я пачынаю размаўляць, то гавару па-бабулінаму. Урэшце маці з бацькам па мяне прыязджаюць, але я іх нават не пазнаю, для мяне “мама” – гэта голас у чырвоным тэлефоне і фотаздымак за шклом. А вось “баба” – самае галоўнае ў свеце слова. Мая бедная маладая маці заходзіцца ад слёз.

Бабуля і да хваробы амаль не выязджала з Карэліч, найдалей – на вяселле маіх бацькоў у Берасце. Расейская частка маіх продкаў сустрэла бабулю з дзедам (“амерыканцаў”!) гэтак жа, як і маю маці – варожа, як дзікуноў, што нават не ўмеюць па-расейску. Ды яшчэ й не п’юць! (Дзед не піў зусім, бабуля часам любіла пасмакаваць хатнюю наліўку, вішнёвую.) Маўляў, дзярэўня захацела ў горад (Берасце – горад?), узняцца па сацыялістычнай сацыяльнай лесвіцы – вось і захамуталі майго наіўнага інтэлігентнага бацьку. Нават свайго першага ўнука– немаўля “бабушка” абяцала пазней нападпітку “выкінуць з балкона”, калі не перастане якатаць – немаўлём быў я. З таго “вяселля” бабуля з дзедам вярнуліся заўчасна. Дзед, былы баксёр, мог пры жаданні (якога не меў) начысціць берасцейскім пысы, але са сватам, маім другім дзедам Хведарам, яны нечакана паразумеліся – беларусы. А вось бабуля настаяла на ад’ездзе. Гонар ёсць гонар. Што для яе значыла з’ехаць з нейкага Берасця! – праз свой гонар яна ўжо аднойчы з’ехала з Буэнас-Айрэса.

Апошні раз бабуля выязджала без чужой дапамогі аўтобусам у Бара-

навічы, каб зноў забраць мяне ў Карэлічы. Не памятаю, колькі мне тады было, два ці тры гады, але дзіўным чынам памятаю тую дарогу: за вакном была зіма, у ноч пад фарамі аўтобуса разбягаліся белыя сцежкі, і бабуля паказала мне зайчыка, якога я так і не ўбачыў – але да сёння ўяўляю, як ён бег снежным полем.

Раней бабуля хадзіла ў лазню, цяпер ужо колькі гадоў не ходзіць – мы ходзім з дзедам самі. Мыцца ёй даводзіцца дома ля бляшаных начовак, з дапамогаю дзеда. Дзеля гэтай урачыстасці зачыняецца кухня, што паступова напаўняецца гарачай парай, якая лепіцца да шыбаў і на ўсякі выпадак захіляе сцэну ад вокнаў насупраць. Ніжнюю частку цела бабуля мые, стоячы ў тазе. Зноў прысеўшы на табурэт, цярэ нагу аб нагу. Пасля мыцця дзед расчэсвае бабулю й абразае ёй пазногці на нагах, нахіліцца яна не можа. Я заўжды здзіўлены тым, якія насамрэч доўгія ў бабулі валасы – як у індзейца! – звычайна яна носіць іх сашпіленымі ў клубок на галаве. Пасля смерці дзеда бабулі дапамагала мыцца мая стрыечніца Алеся, а абразаць пазногці на нагах даваралі мне. З незразумелай прычыны гэтая працэдура мне надзвычай падабалася.

Сумна глядзець, як бабуля, вандроўніца, што ў свой час двойчы абплыла палову зямной кулі, з доўгімі перапынкамі на адпачынак агорвае сваіх штодзённых пяцьдзясят метраў, памалу спускаецца па драўлянай лесвіцы на двор, каб заспець яшчэ крыху восеньскага сонца. Яна пажыццёва асуджаная хваробай на чатыры сцяны сваёй кватэры, пацішэлай пасля ад'езду й сыходу даўно дарослых дзяцей, на кароткую прагулянку па двары, ад дзвярэй дома да зэдліка. Я не здагадваюся, што мой уласны лад жыцця будзе аднойчы нагадваць бабулін. Але я да яго, дзякуючы бабулі, добра падрыхтаваны, ён нават не здаецца мне нейкім адмыслова ненатуральным: самота, удваіх ці паасобку, ёсць маім улюбёным станам. На самоту бабуля ніколі не скардзілася: ад той яе, як і мяне, заўжды ратавалі ўспаміны.

Пра жыццё бабулі да яе сямнаццаці гадоў у роднай Лахве я не ведаю нічога. Адзіны эпізод, які яна мне апавядала – гэта пра аднаго тамтэйшага камуніста, які агітаваў за Саветы, потым уцёк за ўсходнюю мяжу і болей ніхто пра яго не чуў – ні жонка, ні дзеці. Калі пачала насоўвацца вайна, бабуліны бацькі, прабаба Вера й прадзед Васіль Самусевічы, сталі збірацца прэч з Польшчы. У іх было восем дзяцей: пяцёра старэйшых сыноў і трое яшчэ непаўналетніх дачок. Было ясна, што сыноў неўзабаве забяруць у Войска Польскае. Я заўжды думаў, што сыны не хацелі паміраць за Польшчу, ад якой нічога добрага не бачылі, баронячы яе ад фашыстаў з камуністамі – цяпер я разумею, што ўсё было нашмат больш празаічна: яны проста не хацелі паміраць, ні за каго ані супраць нікога. Як і ўсе ўцекачы ўва ўсе часы ва ўсім свеце. Аднак здарылася нечаканае: прадзед Васіль за паўгода да планаванага ад'езду памёр. Затаіўшы гора, прабаба Вера прадала хату, набыла за грошы квіткі на параплаў і выехала з дзецьмі ў Данцыг. Паводле сямейнай легенды, гэта быў апошні заакіянскі карабель, які паспеў выйсці з Польшчы ў жніўні 39-га. Калі легенда не хлусіць, то менавіта на гэтым караблі мусіў выехаць у Аргенціну і Вітальд Гамбровіч.

Мяркуючы паводле найстарэйшых захаваных аргенцінскіх фотаздымкаў, у росквіце жаночых гадоў бабуля не была надта вялікай прыгажуняй. Аднак людзей упрыгожвае маладосць, гэтак жа пазней яшчэ раз упрыгожвае старасць. А таксама – каханне. Юная бабуля закахалася ў земляка– беларуса, Андрэя Гладышчука, доўга не думаючы выйшла за яго замуж, адразу ж

нарадзіла першую дачку – маю цётку Марыю (“Марыкіту”), праз нейкі час другую – цётку Олю. У свеце палала вайна, а бабуля была шчаслівай. Сядзела з дзецьмі, дома падпрацоўвала швачкай (да сёння памятаю сваю ўлюбёную швейную машынку “Зінгер” з кітайскімі іерогліфамі, што стаяла ў бабулінай хаце на пачэсным месцы), ездзіла адпачываць на курорт у Мар-дэль-Плата. Усе браты і сёстры таксама ўжо пазаводзілі сем’і – у першым пакаленні шлюбы бралі звычайна між землякамі. Час ад часу ўся сям’я збіралася на Новы год, падымалі тосты за перамогу над немцамі й нават спявалі “Вып’ем за родзіну, вып’ем за Сталіна”, бо іншых патрыятычных песень не ведалі, дый наконт “родзіны” былі не да канца ўпэўненыя. Аднак бабуліна шчасце цягнулася ўсяго гадоў дзесяць – да таго як яна даведалася, што ў мужа з’явілася іншая жанчына. Здрада каханага бабулю страшэнна раз’юшыла, і яна сышла ад яго разам з дочкамі, парваўшы з ім раз і назаўжды. Не даравала, нягледзячы на ягоныя палкія просьбы й пакаянні. Дзеля гонару пагадзілася цярпець галечу і няўхвальныя позіркі сваякоў і астатніх. Што такое ў жарснай Аргенціне нейкая там здрада, падумаеш! – лічылі ўсе, апрача бабулі. Цяпер ёй давялося не толькі шыць дома, але і хадзіць працаваць пакаёўкай у гатэль. У гатэлі было казіно: бабуля апавядала, як аднойчы з яго выйшаў добра апрануты чалавек, сеў на зэдлік, дастаў з кішэні рэвальвер і застрэліўся. “Дурань”, уподсмех пракаментавала той выпадак бабуля, без усякага шкадавання да былога багацея. У яе самой нават у найгоршыя часы ніколі не ўзнікала думкі сысці з жыцця й пакінуць дзяцей адных.

Пры нейкай нагодзе бабуля пазнаёмілася з яшчэ адным земляком, на гады за яе старэйшым – каталіком, які ўважаў сябе палякам, Міхалам Музякам з Канвілішак. У новай краіне Міхал за гады паспеў выбіцца ў людзі – быў не проста забяспечаным, але нават багатым чалавекам. Ён быў шчасліва жанаты, але бяда была ў тым, што ягоная жонка не магла зацяжарыць. Будучы на той час ужо смяротна хворы, Міхал не хацеў паміраць без дзяцей – і шчыра прызнаўся ў гэтым бабулі. Ён абяцаў ёй залатыя горы пры ўмове, што яна пагодзіцца нарадзіць і выгадаваць ягонае дзіця. Бабулі было трыццаць, яна была маладзіцай у самым росквіце – нядзіва, што Міхал выбраў менавіта яе. Невядома, што мела найбольшы ўплыў на бабуліна рашэнне – ці то нястача й цяжкая праца, ці то ейная самота, ці то жаданне адпомсціць здрадніку-мужу – але бабуля пагадзілася, хаця Міхала яна не кахала. Так у яе нарадзілася трэцяя дачка, Ганна–Марыя – мая маці, за якую бабуля заўжды крышку сябе нібы дакарала. Да самай сваёй заўчаснай смерці бацька прыходзіў да дачкі тайком, насіў падарункі. Няшчасная раўнівая жонка ці то высачыла яго, ці то нехта ёй “падказаў”: у кожным разе, даведаўшыся, што Міхал мае з бабуляй дзіця, жанчына пастанавіла адпомсціць усім траім – бабулі, мужу й дзіцяці. Неяк бацька прынёс дачцэ нейкія прысмакі, пасля чаго ёй раптоўна зрабілася блага: пачаліся ваніты, дзіця пасінела, бабуля схапіла яго на рукі й паляцела ў шпіталь. Дактары паспелі выпампаваць малой страўнік і сказалі, што ў ежы была атрута. Бабуля ледзь не самлела. Давялося тэрмінова змяніць адрас, пераехаць на другі канец Буэнас-Айрэса. Больш ані дачка з бацькам, ані бабуля з каханкам не бачыліся. Але сваё слова Міхал стрымаў: паводле запавету палова ягонай маёмасці ўлучна з домам пакідалася адзінай дачцэ. Пасля ягонай смерці бабуліна трывога толькі ўзмацнілася: цяпер у яе й дзяцей зноў не было ў цэлым свеце ніякага абаронцы, хай сабе нават патаемнага. Балазе, былі прынамсі грошы.

Яшчэ пяць гадоў бабуля спрабавала змагацца за жыццё ў Аргенціне. Нацыяналістычна-папулісцкага Перона тым часам скінулі, але ніякай палёгкі імігрантам гэта не прынесла: казачная эпоха эканамічнага дабрабыту, найбольш абавязаная Вялікай Дэпрэсіі й няўдзелу ва ўсясветнай вайне, скончылася. Пад гэтую песню не спалі ў шапку савецкія агітатары, так званыя “завяртанцы” – у Савецкім Саюзе жанчыне з трыма дзецьмі яны абяцалі рай. Бабуля хоць і пагарджала казіно, але тут пастанавіла рызыкнуць: паставіць усё на вяртанне на радзіму. Марна адгаворвалі яе ад гэтага браты й сёстры: бабуля была сабе наўме. Ёй было ўсяго трыццаць пяць, сілы яшчэ былі – яна адчула, што гэта ейны апошні шанец з’ехаць і пачаць зноўку. Зрэшты, такая яна была не адна: шмат беларусаў пасля смерці Сталіна вярнулася, хаця нашмат болей іх усё-ткі засталося. Найбольш упарціліся й не хацелі ад’язджаць дочкі, старэйшая сямнаццацігадовая Марыкіта і малодшая Ганна-Марыя: першая ўжо свядома, другая неяк інстынктыўна, бо любіла Марыкіту, аргенцінскія цацкі, слодычы й вопратку. Толькі разумніца Вольга стаяла пры маці да канца. Урэшце, Марыкіту давялося пакінуць у Буэнас-Айрэсе – маці з дачкой развіталіся са скандалам, ані ёй бабуля не даравала здрады. Прадаўшы ўспадкаваны ад Міхала дом, бабуля набыла квіткі на параплаў да Адэсы й ганарліва павярнулася спінай да сваякоў і ўласнай аргенцінскай мінуўшчыны. Калі карабель зайшоў у Мантэвідэа, пяцігадовая Ганна-Марыя з яго ўцякла – давялося лавіць яе з паліцыяй і вяртаць на борт. Гэты выпадак прыцягнуў да жанчыны з дзецьмі ўвагу аднаго з якога тузіну пасажыраў-беларусаў, саракасямігадовага Івана Данька: яму было відавочна, што кабета – як выявілася, яшчэ й непісьменная, – крыху не ў сабе, раз наважылася ехаць з малымі адна, прычым фактычна невядома куды й да каго: уся ейная сям’я засталася ў Аргенціне. Сам Іван сям’і не меў, толькі малодшага брата ў Францыі й яшчэ маладзейшую сястру на Карэліччыне, у Качычах, дзе бабуля ў жыцці не была. Уласнай сям’і Іван за трыццаць гадоў у Аргенціне так і не завёў. Наадварот: усё – улучна з пальцам-ківуном на правай руцэ, які яму адрэзала станкам – і перадусім тое, што зарабіў за жыццё, страціў пасля таго, як патрапіў на год у турму за актыўнае змаганне з капіталістамі. Потым бадзяўся ад працы да працы і ўрэшце здолеў сяк-так назбіраць сабе ўжо толькі на квіток дадому, куды яго з гадамі цягнула ўсё болей. Слова за слова ён разгаварыўся з бабуляй, а неўзабаве з характэрнай для сябе заходняй практычнасцю прапанаваў ёй, што стане маім дзедам. Бабуля ўзрадавалася й пагадзілася: цяпер яна зноў мела абаронцу, да таго ж старэйшага й больш вопытнага. За ім яна не прападзе. Карабель уваходзіў у адэскі порт.

Я прытуляюся да шырокай бабулінай спіны і засынаю. Мяне ўсыпляе ейнае цяпло і ейны адмысловы, кіславаты пах – пах паркалёвага халата, які бабуля носіць замест начнушкі, тыя для мажной бабулі ўсе замалыя. Да сёння, калі мне трэба ўявіць сабе шчасце, я ўяўляю яго менавіта гэтак: як засынанне каля бабулі з думкай пра раніцу, калі яна пакліча мяне з прапахлай блінамі кухні снедаць.

Дзед з бабуляю на караблі не здагадваліся, што раем у Савецкім Саюзе хрушчоўскіх часоў называецца Казахстан. Адразу пасля прыезду вярнуцца ў Беларусь ім не дазволілі – падманулі: замест гэтага паслалі на “праверку добранадзейнасці” збіраць бавоўну ў Сярэднюю Азію. Там нарадзілася бабуліна наймалодшае дзіця, мой будучы дзядзька Віця. Горшага жыцця за

Казахстан ніхто з тых заходнебеларускіх рэпатрыянтаў не спазнаў – і гэта яны яшчэ маглі радавацца, бо на пару гадоў раней, за Сталінам, іх маглі адправіць “на праверку” значна далей. Памятаю два фотаздымкі аднаго года: на першым мая маці з цёткай Оляй перад ад’ездам з Аргенціны, у сукенках, боціках, зграбна прычасаныя, з завушніцамі й срэбнымі кулончыкамі на шыях, абедзве ўсміхаюцца. На другім – яны ж у Казахстане: у валёнках, чорных паліто, з хусткамі на галовах, на схуднелых тварыках ззяюць запалоханыя, шырока раскрытыя вочы. Адчуванне, што дзеці за той год не пасталелі, а пастарэлі.

Выпрабавальны тэрмін скончыўся, і дзед адразу загадаў сям’і збіраць рэчы ў Беларусь. Як кваліфікаванаму рабочаму яму прапаноўвалі паехаць у Менск, абяцалі працу й кватэру, раілі ўступіць у партыю – дзед ад усяго, у адрозненне ад многіх іншых “аргенцінцаў”, што пазней парабілі ў Менску кар’еры, адмовіўся. Пасля Казахстана ніякага даверу да Саветаў ён ужо не меў. І галоўнае – дужа хацеў у родныя Качычы ці прынамсі ў найбліжэйшыя да іх Карэлічы. Менск для яго, у адрозненне ад Буэнас-Айрэса, быў чужым горадам. Бабулі было ўсё адно: яна падпарадкавалася.

Вярнуўшыся ўрэшце на радзіму, бабуля пайшла ў царкву. Ці не ўпершыню ў жыцці зайшла памаліцца за пакінутых у Аргенціне родных, паставіць свечку за маці-нябожчыцу ды за ўсіх тутэйшых сваякоў, што за той час памерлі ці загінулі, застаўшыся ў Лахве. У Аргенціне бабулі было не да цэркваў, хаця дзяцей яна ўсё-ткі пахрысціла ў каталіцтва. Памаліўшыся, бабуля перажагналася. Да яе падляцеў поп: што гэта вы, жэншчына, за ўсё жыццё як след хрысціцца не навучыліся? У нас трэба справа налева, а не наадварот! Болей бабуля ў царкву не хадзіла.

Савецкая дзяржава міласэрна ўладкавала непісьменную бабулю прыбіральшчыцай у карэліцкай школе, тады яшчэ беларускамоўнай. Дваццаць гадоў бабуля гнула спіну са швабрай і цягала вёдры з вадой. Дзеці прыбіральшчыцы крыху саромеліся яе перад аднакласнікамі. А вось асобныя настаўнікі, дактары й іншая месцячковая інтэлігенцыя паважалі “амерыканчыху”, як і ейнага мужа, звычайнага рабочага сельгастэхнікі, што часам дапамагаў чытаць рысункі дыпламаваным маладым інжынерам. Да аргенцінскіх рэпатрыянтаў ставіліся не раўнаючы як да нейкай шляхты – збольшага з пашанай і ледзь не бояззю, але часам і з зайздрасцю ды непаразуменнем. Яны былі іншыя, не толькі з іншай краіны, але і з іншай эпохі.

Калі прыязджае ўлюбёная бабуліна дачка, мая цётка Оля, яны часам пачынаюць сакрэтнічаць па-гішпанску. Гэтак жа як часам сварацца па-гішпанску з дзедам. Я нічога з іхных размоваў не разумею, хаця па-гішпанску мяне ўжо вучаць у школе, і праз гэта злую. Сам спрабую гаварыць з бабуляй па-гішпанску, але бабуля гаворыць “няправільна” – так, як у Аргенціне, – па-школьнаму не ўмее. Для яе гэта дзве розныя мовы. Гадамі пазней я зразумею, што бабуля гаворыць так, як гаварыў Борхес. Час ад часу бабуля напявае мне аргенцінскія песні сваёй маладосці – танга “Мі Буэнос-Айрэс кэрыдо” і “Кон эхта сэнёрыта мэ к’еро касар”. Спяваць бабуля, мушу сказаць, не ўмее: за мяжою ці то не навучылася, ці то забылася. Але песні паслухаць любіць. Ведаючы гэта, я даслаў ёй потым, ужо з-за мяжы, падарунак – колькі сваіх і Данчыкавых песень пад гітару, а таксама свой улюбёны альбом Мерседэс Сосы. Мне падабаецца думаць, што мой голас гучаў у бабулінай хаце яшчэ нейкі час пасля майго ад’езду.

Бабуля згадвае Эвіту Перон. Згадвае, як з вакна цягніка тая раскідвала людзям цукеркі й іншую драбязу. Людзі таўкліся, крычалі, сварыліся, а бабуля з іх смяялася, назіраючы зводдаль за чалавечай камедыяй. “Вось і ўсё дабро, якое я бачыла ад гэтай Эвіты”. Па Аргенціне бабуля не плакала, у адрозненне ад дзеда. Яна наагул мала калі плакала, а як плакала – то ўжо цішком, так, каб ніхто не чуў і не бачыў. І суцешыць яе было вельмі лёгка, варта было спытацца, чаго яна плача. А вось смяяцца бабуля ўмела як ніхто. Смяялася яна таксама ціха й да слёз, затое доўга і ўсім целам, ажно ложак трослся – тады як плакала толькі вачыма. Асабліва яе цешыла, як смяюся я – з ейных казак і анекдотаў з вясковага жыцця. Мы заражалі адзін аднаго гэтым смехам і паўночы маглі праляжаць побач, рагочучы з бабуліных аповедаў і прыказак. Мая ўлюбёная казка была пра Йванькудурня і хцівага папа. Без бабулі я пачаў спаць толькі гадоў з васьмі-дзевяці, калі дзядзька Віця прынёс мне невялічкі, жалезны, зялёны ложак. Думаю, той і сёння іржавее на гарышчы ў карэліцкім доме.

Бачачы з маленства, як бабуля штодня змагаецца з жыццём, я навучыўся раз і назаўжды пагарджаць афіцыйнымі савецкімі героямі, асабліва ваеннымі – гэтак жа як размаўляючы з дзедам навучыўся пагарджаць псеўдагероямі сацыялістычнай працы. Бабуля з дзедам, пражыўшы рэшту жыцця ў Савецкім Саюзе, ніколі так і не саветызаваліся. Напэўна, мяняць радзіму двойчы за жыццё – гэта ўсё-ткі зашмат. У кагосьці была Ларыса Геніюш, у мяне замест Геніюш была бабуля.

Двор каля дома бабуля пакідала яшчэ некалькі разоў, калі дзядзька Віця вазіў яе на машыне да дактароў у Горадню, каб бабулі прызначылі пенсію па інваліднасці (не прызначылі), да цёткі Олі ў Баранавічы, а таксама на могілкі ў дзень дзедавага пахавання. Седзячы каля свежай магілы пад хвоямі ў атачэнні мноства людзей, бабуля ўпершыню на маёй памяці несуцешна плакала, а калі раптам перастала, то пачала дурнавата паўтараць, што вось тут у пясочку закапаюць і яе. Мне было і без таго блага, а тут яшчэ бабуля пачала нібы наўмысна палохаць мяне сваёй смерцю й самім сваім дзіўным, раптоўна дурслівым тонам – я злаваў на яе, мне здавалася, што яна пазбаўляе развітанне з дзедам належнай урачыстасці, нібы сама не разумее ўсёй невымернасці страты чалавека, якога не здолела як след ацаніць і без якога была б цяпер невядома дзе. Але насамрэч прычына была не ў гэтым, а проста ў тым, што па-сапраўднаму гараваць бабуля, у адрозненне ад мяне й маёй маці, за ўсё жыццё не навучылася – залішне яна гэтае жыццё, нягледзячы ні на што, любіла.

Дакуль жыў дзед, мы з ім рэдка сядзелі ў хаце, пакідаючы бабулю адну – хадзілі карміць курэй, у краму, на гарод, у лес па грыбы, у лазню, проста па Карэлічах. Толькі ўвечары мы ўсе ўтраіх гулялі ў даміно і карты, прычым выйгравала заўжды хітрая і ўдачлівая бабуля, а дзед крышку злаваў. Пасля дзедавай смерці мы з бабуляй у карты ўжо не гулялі, толькі часам у даміно, а так – любілі проста пасядзець пры кухонным стале. Пілі гарбату з дарагіх мне з маленства размаляваных кубкаў, закусвалі “шахматным” печывам. Яна ў асноўным выпытвала пра мяне, брата з сястрой, пра бацькоў і школу, пазней – пра інстытут. Пра сябе апавядала чым далей, тым больш неахвотна. Дзякуй богу, што я паспеў яшчэ пры дзедавым жыцці занатаваць некаторыя іхныя аргенцінскія гісторыі й беларускія прымаўкі. Цікава, што бабуля, якая сыпала выслоўямі й досціпамі ў размове, не магла, а мо проста ленавалася прыпомніць іх наўмысна для

мяне, калі я прасіў, то бок па-за канкрэтнай сітуацыяй. Таму вялікага фалькларыста з мяне так і не выйшла. З бабуліных прымавак я памятаю пераважна непрыстойныя, якія смяшылі мяне найболей.

У 92-м годзе, калі бабулі спаўнялася семдзесят, мы з маці пастанавілі павіншаваць яе па радыё. Бабуля доўгімі гадзінамі сядзела ля прымача (да тэлевізіі яна так ніколі й не прызвычаілася) і слухала менскае радыё, улюбёнай ейнай перадачай былі нядзельныя “песні па заяўках”, “Жадаю Вам”. Мы напісалі ў Менск ліст з віншаваннем у вершах, якое прыдумаў я (дагэтуль мая беларуская паэзія ўжо мела ў сям’і вялікі поспех на Вялікдзень 90-га, калі святкавалі дзедава васмідзесяцігоддзе) і замовілі для бабулі народную песню – не памятаю ўжо, каторую з тых пяці-дзесяці, якія нязменна паўтараліся ў перадачы штотыдзень. Гэтак дзякуючы бабулі адбыўся мой паэтычны дэбют на беларускім радыё.

За ўвесь час за мяжой я гаварыў з бабуляй па тэлефоне разы тры, аднойчы, памятаю, званіў ёй ажно са Швецыі. Да майго ад’езду мы бачыліся штогод як мінімум двойчы. Апошняя размова была найгоршай, найбольш балючай. Бабуля была ўжо на іншым тэлефонным нумары, у цётчынай кватэры ў Баранавічах. Гэта была ўжо як быццам зусім не яна. Яе голас па-старэчы трымцеў ад расчуленасці, чаго ніколі раней не было – яна ўпершыню старалася гаварыць па-расейску і ўпершыню за ўвесь час скардзілася, што вельмі хварэе. Здаецца, я не да канца быў здольны паверыць сваім вушам, як не магла сама бабуля паверыць у дзедаву смерць: каб жыццярадасная бабуля скардзілася? Магчыма, яна хацела паскардзіцца на нешта зусім іншае. У кожным разе, хацела даць зразумець, што доўга не пражыве. Апошні год яна ўжо не ўставала з ложка. Бабуля вельмі прасіла мяне тады прыехаць, каб яшчэ раз са мною пабачыцца. Я не прыехаў. Зрабіў тое самае, што яна ў свой час: ганарліва павярнуўся спінай да мінуўшчыны і знік на доўгія гады, пакінуўшы ўсіх сваіх блізкіх. І мяне аддзяліў ад іх акіян, не сапраўдны, але не менш глыбокі за яго акіян чалавечай нізкасці й подласці. Толькі калі думаю пра бабулю, я пра гэта шкадую – і ўсё яшчэ, хай з кожным годам радзей, клянуся ніколі не даравац свайго вымушанага ад’езду, нашага вымушанага расстання.

Калі я даведаўся пра смерць бабулі (ад бацькі: “Твоей бабушкі больше нет”), я праплакаў цэлы дзень, зачыніўшыся ў ваннай. Нягледзячы на тое, што ўнутрана да гэтага доўга рыхтаваўся – уласна, з самага моманту ад’езду. Мы з бабуляю так і не развіталіся. Уласна, мы ніколі не развітваліся надоўга.

## Уратаванне

*Кацярыне М.*

*Ніхто не дасць нам вызвалення...*
Інтэрнацыянал

Самае смешнае, што я насамрэч была побач з месцам здарэння ў тую гадзіну, калі ў шэрагу іншых ахвяраў невядомага піратэхніка атрымала ганаровае права быць пахаванай у маўзалеі сваёй улюбёнай падземнай станцыі, бадай, найпрыгажэйшай у горадзе – акурат кіравалася з рэпетытарства дамоў, і тут такое. Не, у метро я не спускалася, але бачыла прыкрытыя

белымі прасцінамі целы на ходніках, адным з якіх мусіла быць я сама, але не надта прыглядалася, у мяне няма цягі да крывавых падрабязнасцяў, іначай я б усё-ткі паводле мары нябожчыкаў бацькоў паступала на медыцыну. Давялося дабірацца на ўскраек горада тралейбусам. Вечна мне не шанцуе, ці можа наадварот – гэтак жа і дванаццаць гадоў таму, калі я яшчэ вучылася, то ледзьве была не трапіла ў той пераход на Нямізе, чыста выпадкова, бо на канцэрты я звычайна не хадзіла – ішла тады на спатканне, але праз увесь той гармідар урэшце спазнілася й перадумала, не да таго было. Такое адчуванне, што хтосьці ўвесь час прыстрэльваецца да мяне, але пацэліць ніяк не можа. Не, трэцяга ліпеня мяне там не было, выбачайце, я ж кажу, што не хаджу на канцэрты. Вы што, хочаце на мяне яшчэ й адказнасць павесіць? Знайшлі мне тэрарыстку... Такім як я нельга давяраць нават сама-забойства, не тое што... Ведаю, спрабавала, дайце ўжо веры. Я ж кажу, што я жывучая, для нябожчыцы дык ажно занадта. Усе духоўна блізкія знаёмыя й геаграфічна далёкія сваякі неяк прызвычаіліся да таго, што са мною нічога не можа здарыцца, таму я не здзівілася, што ніхто мне не патэлефанаваў адразу пасля таго, як ад выбуху па ўсёй краіне скаланула ўключаныя тэлевізары – зрэшты, рэзананс залежыць і ад таго, што разумець пад краінай, бо калі глядзець на яе шырэй, як на так званую саюзную дзяржаву, то нічога асабліва надзвычайнага й не здарылася, у старэйшых братоў на Усходзе такое ледзь не штодня.

Узрушаныя размовы ў тралейбусе з нагоды інцыдэнту ніяк мяне асабліва не зацікавілі: божкаць і бухцець тут заўжды ўмелі надзвычай добра, дай толькі падставу – звычайна, на гэтым усё й заканчваецца. Сапраўды, павінна ж людзей яднаць штосьці, апрача штодзённага змагання за месца ў тралейбусе, чарзе, на працы, пад сонцам, на канапе й г.д. Галасы народныя падзяліліся прыблізна пароўну: палова вінавваціла апазіцыю, палова ўладу; у мяне не было падстаў нікога з іх падтрымліваць, версія тэракту здавалася мне абсурднай – хутчэй за ўсё проста нейкая аварыя, зноў нешта недапільнавалі, вось і выбухнула.

Пра тое, што я трагічна загінула, я даведалася ўжо дома, увечары таго ж дня, калі ад няма чаго рабіць уключыла кампутар і трапіла на адзін з інфармацыйных парталаў, дзе з'явіўся спіс загінулых. Вось яна, рызыка распаўсюджаных прозвішчаў і традыцыйных імёнаў: пазбаўленыя фантазіі бацькі самі рыхтуюць сабе і вам шэраг падобных сюрпрызаў у будучыні. Убачыўшы ў спісе сябе, я схамянулася, як быццам хтосьці мяне кудысьці выклікаў на афіцыйную позву – ці то ў дэканат, ці то ў райвана, ці то на допыт, хоць насамрэч выклікалі яшчэ вышэй, да мітычнага Абрама на піва, – але адчуванне было, што трэба ўскочыць, падарвацца (які каламбур) і кудысьці бегчы. Я пабегла, як жа інакш, да тэлевізара – я ж такая ж законапаслухмяная й наіўная, як і вы. Сапраўды, у ім усё тое, што я бачыла на ўласныя вочы мімаходзь і на маніторы, пацвярджалася, з тым удакладненнем, што гэта ўсё-ткі быў учынены ворагамі тэрарыстычны акт, і што ворагаў ужо шукаюць. Значыць, мне не прымроілася: калі ворагі, то гэта заўжды сур'ёзна. Ахвяраў і пацярпелых не называлі, толькі агульную лічбу й адрасы сайтаў, наведваць якія карысна незалежна ад абставінаў – такіх, як МУС, КДБ, Менгарвыканкаму... Адсутнасць маіх ініцыялаў у простым эфіры крыху мяне супакоіла: можа, усё-ткі памылка. Аднак памылку зрабіла я: варта было глядзець, а не слухаць, гэта ж не радыё. Бо спіс пры канцы рэпартажу ўсё-ткі паказалі, як і належыць – пад загадзя й не без густу падабраную трагічную музычку.

Толькі тады ўрэшце азвалася мабіла. Не надта каб настойліва – вядома, званіў мой былы кавалер, хто ж іншы. Мабыць жа, валяўся ў ложку з сваёй новаю пасіяй пры ўключаным тэлевізары, збачэнец, такія рэчы яго заўжды ўзбуджалі, і раптам убачыў маё прозвішча – відаць, гэта пазбавіла яго эрэкцыі, і ён пастанавіў пазваніць мне, каб запэўніцца, што я насамрэч мёртвая. Не дачакаешся – я не адказала, палічыла, што звоніць ад няма чаго рабіць і няма каго паймець. І пазней не перазвоньвала: хай сабе думае што заўгодна, можа, якія згрызоты сумлення з'явяцца... Хай пракручвае сабе ў мазгох да бясконцасці кранальную сцэну нашага расстання, калі ён, як сапраўдны рыцар, спрытна й спрактыкавана ўхіліўся ад шпурнутае ў яго патэльні.

Да ўсяго гэтага я й не ведала, што ў мяне ў горадзе ёсць, то бок была (хаця хутчэй за ўсё нас такіх сотні, калі не тысячы) падвойная цёзка – але цяпер, пост фактум, між намі ўзнікла нейкая больш глыбокая сувязь, я адчула, што нібы страціла сястру-двайняшку, найлепшую сяброўку (ні той, ні другой я ніколі не мела), як быццам тая невядомая жанчына, я-2 (гучыць як мадэль самалёта), насамрэч ласкава загінула замест мяне, уратаваўшы маё існаванне ад чарговага замаху лёсу, за што я, хоць пра гэта яе й не прасіла, мусіла ёй неяк падзякаваць... Як іначай, як не ўдарнай працай? Выпіўшы гарбаты, я села правяраць хатнія заданні вучняў па самай блізкай і дарагой нам замежнай мове, што яшчэ пятнаццаць гадоў таму была ў гэтай краіне адзінаю дзяржаўнай – але праз хвіліну адклала сшыткі ўбок і зноў палезла ў інтэрнэт. Неяк не працавалася. Не ведаю, ці цікавілася б я гэтым здарэннем настолькі заўзята, калі б не знайшла сваё імя ў тым спісе – але тут ужо вялося пра асабістае.

Такім чынам, я спраўдзіла, што паступіла ў шпіталь у цяжкім стане і памёрла ад апёкаў. Таксама з'явілася інфармацыя пра выпадак, падобны да майго: нейкая дзяўчына знайшла сябе ў спісе пацярпелых і пачала тэлефанаваць у міліцыю, каб зняпраўдзіць гэтыя звесткі ў стылі выказвання Марка Твэна: маўляў, са мною ўсё ў парадку, мяне там і блізка не было, гэта памылка, загінула не я... Хацела падзяліцца сваёй радасцю з усёй краінай. Можа, і мне варта? Вось толькі радасці я нешта асаблівай не адчувала... Гэта ж трэба, я ў жыцці не тэлефанавала ў міліцыю і наогул ніколі не мела з ёю дачынення... Зрэшты, дзяўчыну, у адрозненне ад мяне, пачалі шукаць сваякі. У мяне пакуль было глуха, як у танку, калі не лічыць ужо згаданага адзіночнага стрэлу з боку былога партнёра, што на той момант ужо, мабыць, адкаркоўваў другую пляшку шампанскага за супакаенне маёй душы. Кінь, каму да цябе які клопат. Хіба што маці з таго свету азавецца з якім-небудзь новым папрокам, гэтым разам – за няспраўджаную сустрэчу, так бы мовіць, марную трывогу. А вось калегі са школы маглі б і пацікавіцца... Сапраўды, як яшчэ я магла б прыцягнуць іхную ўвагу? Што ні кажы, сумна, калі вас і праз столькі гадоў не цэняць у калектыве. Але ў нас, як і паўсюль, незамяняльных няма.

Смерць смерцю, а жыццё ідзе далей. Да заўтра трэба было праверыць сшыткі. Сачыненне на зададзеную й заўжды актуальную тэму: "Мая краіна". Чытаючы лірычныя шчыраванні сваіх вучняў наконт любові да радзімы, я чырванела яшчэ болей, чым падчас сядзення ў камісіі на школьным выбарчым участку ці забеспячэння яўкі на ўсялякія там пераможныя парады – быццам іхныя прызнанні былі адрасаваныя мне самой. У святле сённяшняга здарэння лейтматыў вучнёўскіх працаў, напісаных нібыта

пад дыктоўку, гучаў не па-дзіцячы іранічна: *стобільнасць, мір, дабрябыт...* Няўжо гэта я навучыла іх здзеквацца з самага дарагога? Але не бяды: праз пару тыдняў, ці можа нават дзён, вінаватых знойдуць, і ўсё зноў стане на свае месцы. Ну як можна не любіць такую казачную краіну?

У школу на наступны дзень я ішла, як на свята (што са мною здараецца рэдка), уяўляючы ў фае (ці можа ў настаўніцкай? ды што там, мо нават у актавай зале?!) сваё фота з чорнаю стужкай (цікава толькі, дзе яны яго возьмуць – я ўжо гадоў дзесяць не фатаграфуюся, я не мазахістка). Я амаль увачавідкі бачыла, як мае так званыя калегі, што ніколі не ставіліся да мяне з асаблівою цеплынёй, таўкуцца ў чарзе да кнігі скаргаў і спачуванняў, каб не прапусціць свой шанец паказаць, як яны палюбілі мяне пасмяротна. Дзеці, наадварот, будуць употайкі толькі радавацца, што пазбавіліся ад такой зануды, разам з яе беларускаю мовай. А вось і абламіцеся! Я жывая, і нічога са мною не здарылася...

Аднак да школы я ў той дзень не даехала. Сама не ведаю, як так выйшла, але доўгая язда ў ранішнім тралейбусе ў накірунку цэнтра зусім мяне вычарпала: пасля яе ўва мне без усякіх выбухаў не засталося ні кроплі жыцця. Нейкі мужык наступіў мне на нагу, але не папрасіў прабачэння, нават не аблаяў – стаяў сабе далей. Вечная штурханіна з боку прадстаўнікоў іншых галінаў дзяржаўнай і ценевай эканомікі, нашмат больш прадуктыўных і працаёмістых за маю, толькі падкрэслівала адчуванне, што для большыні з іх я насамрэч з'яўляюся, што называецца, пустым месцам, калі не дармаедкай. Здаецца, я неабачліва дазволіла сабе зрабіць мужыку заўвагу па-беларуску (пракручвала ў думках пачатак уроку), і ў наступны ж момант апынулася пад перакрыжаваным агнём позіркаў, у якіх водбліскам учарашніх тэленавінаў палаў святы й справядлівы гнеў. Цяпер на мне буйнымі літарамі было напісана “апазіцыянерка”, не хапала толькі зоркі – ці то жоўтае на вопратцы, ці то чырвонае між вачэй. На момант я й сапраўды адчула сябе злачынніцай, і ў мяне з'явіўся нейкі падсвядомы страх зноў апынуцца на месцы ўчарашняга здарэння, якое, паводле супольнага меркавання, не магло не быць справаю маіх рук – вяртанне туды было б у іхніх вачах толькі доказам супраць мяне... Карацей, я выйшла на два прыпынкі раней, каля сваёй былой альма-матэр.

Свежае перадвакацыйнае паветра мяне супакоіла. Знаёмыя мясціны перанеслі мяне на дзесяць гадоў назад. Цяпер я зноў прагульвала заняткі, гэтым разам у якасці настаўніцы, а не студэнткі. З тою розніцай, што тады я адчувала сябе тутэйшай, карэннаю гараджанкай, тым часам як цяпер я амаль не пазнаю гэтага места, якое ўсё яшчэ паводле інерцыі й пашпарту называю родным. Магчыма, прычына ў тым, што шмат чаго наўкол, насуперак майму нежаданню гэта прызнаваць, незваротна змянілася, тады як я безнадзейна адстала ад часу, бо ўпарта спрабавала жыць па-ранейшаму. Я згадала адну сваю былую аднагрупніцу – не, не сяброўку, але досыць цікавую дзяўчыну, зблізіцца з якою мне бракавала адвагі, бо пляткарылі, што яна была аматаркай нейкіх там псіхатропных рэчываў. Аднойчы яна кудысьці знікла – напярэдадні чулі, што яна зноў пагражала скончыць жыццё самагубствам, – а калі пачалі шукаць, то выявілася, што яна скіравалася з інтэрната на вакзал, дзе як наўмысна ў той дзень кінулася пад цягнік нейкая маладзіца – ці трэба казаць, што мы былі ўпэўненыя, што ніхто іншы, апроч яе, гэта быць не мог. Тым большым было нашае здзіўленне, калі яна праз тры дні з'явілася ва ўніверы з урачыстым па-

ведамленнем, што была ўвесь гэты час у цёткі, пра якую мы дагэтуль ніколі не чулі, адсыпалася-ад‘ядалася пасля чарговага душэўнага крызісу, звязанага з запоем, тым часам як мы ўжо ўсёй групай планавалі ейныя хаўтуры. Цяпер я пашкадавала, што не маю з ёю кантакту, зрэшты, як і з астатнімі былымі сунавучэнцамі, бо не наведваю сацыяльных сетак – з гэтым выразам у мяне, на жаль, асацыюецца толькі авоська, – цікава было б даведацца, дзе, чым ці з кім яна цяпер жыве. Упэўненая, што ейнае жыццё, у адрозненне ад майго, такое ж шалёнае, як і дагэтуль. А вось мне, калі б не ўчарашні выбух, не было б чаго распавесці пра сябе: садок, школа, універ, размеркаванне, вяртанне, зноў школа, рэпетытарства, некалькі несур’ёзных спробаў сур’ёзных адносінаў, некалькі сямейных і асабістых трагедыяў, пераезд у новую кватэру, некалькі паездак за мяжу на вакацыях, што яшчэ? Як сказала б гераіня якога таннага раману: з якой такой ласкі, уласна, нейкая сіла (у якую я не веру – можа, таму я й не гераіня) аддала перавагу майму жыццю перад жыццём незнаёмай цёзкі? Бачыце, дзеля таго, каб я задумалася пра штосьці настолькі мне неўласцівае, мусілі ажно ўмяшацца мас-медыі. Што ж, хоць за нешта ім можна падзякаваць.

Амаль не баючыся сустрэць некага знаёмага па дарозе на вакзал, я (папярэдне катэгарычна адмовіўшыся ад лаўраў Ганны Карэнінай) набыла квіток і яшчэ ўвечары села ў цягнік ва ўсходнім кірунку з цвёрдым намерам здзівіць сваімі неабвешчанымі адведкамі адну сваю прыяцельку – калісьці мы разам ляжалі ў псіхіятрычнай лякарні на рэабілітацыі й за два месяцы паспелі, так бы мовіць, пасябраваць. Два гады таму яна з’ехала ў Маскву і з таго часу рэгулярна запрашала да сябе пагасцяваць тыдзень-другі. Мы, у прынцыпе, генерацыя дэзерціраў, проста хтосьці стаў на шлях здрады раней, а хтосьці гадамі, як я, чакаў зручнага моманту. Сапраўды, чым я рызыкую? У найгоршым выпадку гэта будзе азначаць толькі звальненне з школы за “самаволку”, але я і так даўно збіралася звольніцца, яшчэ перад выбарамі. Можаце думаць, што я, спалохаўшыся тэрарыстаў, пастанавіла зрабіць крок ім насустрач, каб у наступны раз палегчыць іхнюю місію. На Усход, на Усход, на ўсенародны Усход!

Я ўзяла з сабою толькі мінімум рэчаў, каб не ствараць уражання наўмысных уцёкаў, ключы ад кватэры (раптам я ўсё-ткі захачу вярнуцца), пашпарт – хаця цяпер, калі мяне дэ факта не існавала, у ім ужо не было ніякай неабходнасці, дый памежнага кантролю з суседзямі ў нас няма – карацей, усё тое, што разам са мною павінна было згарэць у полымі выбуху, – апрача хіба што непатрэбных болей падручнікаў і сшыткаў з сачыненнямі, але ж рукапісы ўсё адно не гараць, так што хай застаюцца там, дзе ім месца – у прыбіральні. Шкада толькі, што я не змагу папрысутнічаць на сваіх хаўтурах – мала таго, што дзяржава вывучыла мяне за свой кошт, цяпер ёй давядзецца яшчэ й хаваць мяне за грошы падаткаплатнікаў. Але сумняюся, што за маёй труною да Усходніх могілак будзе ісці нескончальная людская плынь. Магчыма, аднойчы мне пашчасціць прыехаць і з дапільнаваннем належных фармальнасцяў наведаць сваю магілу, пакласці на яе кветкі й задуменна памаўчаць, спрабуючы на хвіліну перанесціся ў край вечнай цішыні й пустэчы; зрэшты, калі б гэта была насамрэч мая магіла, я палічыла б за найлепшае на яе плюнуць.

*2011– 2012*

Валерыя Кустава



...вымалёўваеш
сваімі грудзьмі
на ягонай спіне
відарыс Радзімы...

# Ад яго – да сябе

* * *

Чакаеш гэтае дурное
цудоўнае лета
паўжыцця.
А яно прыходзіць –
і ўсё не такое,
няправільнае.
Адно ратуе –
калі
ў парыве па-
чуцця,
нехта ён
кажа:
– Хачу пабачыць
зноў
твае мокрыя валасы
раніцай.

*Варшава, ліпень 2014*

* * *

...Яна прасіла –
стану мяккай,
як вераснёўскі яблык,
каб мог увайсці
ў мяне ты
іклямі.
Толькі пасля
не забудзься
падзьмуць
на раны,
каб ад майго болю
не зніклі мы.

*Верасень 2014*

* * *

Вымалёўваеш
сваімі грудзьмі
на ягонай спіне
відарыс Радзімы.
Выцалоўваеш –
іх няшмат –
радзімкі,
каб запомніць
рэльефы цела.

Так паэткі найчасцей
учыняюць
са сваімі
адзінымі.
Так як яны –
кахаюць адзінкі.
Так як яны –
ты б кахаць не хацела.

Перагортваеш
яго дакрананні
сваімі вершамі.
Да цалункаў глыбокіх
прывучаеш вуснамі.
Занатоўваеш
жывыя пачуцці
ў раманы вусныя.

Найчасцей
давяраюцца так
са сваімі
з першымі...

*2014*

* * *

Ты так прыгожа сумуеш
пад лёгкае шарданэ
ў кавярні з карцінай Манэ
ў завулку між вузкіх вуліц.

Табе б даляцець да Парыжа
і расчароўвацца там –
гасподай чароўных дам,
аблокамі ад гашышу.

Й нарэшце спыніць такога,
які табой даўна сніць,
які табе не баліць,
з якім спакайней трывога.

Каб разам цадзіць – о Божа! –
жыццё й недзявочы віскі.
О, вочы яго – д'яблiскі.
А як ён цалуецца гожа...

*Травень 2014*

* * *

"Ох, гэтыя мужчыны,
што носяць акуляры...
Заўжды ведаеш,
калі збіраюцца
цябе пацалаваць... –
закідваюць іх над ілбом
нібыта няўзнак
ці здымаюць
таксама нібыта няўзнак
і па тваім твары блукаюць
паглядам.
А тыя, што з добрым зрокам,
пільна ўзіраюцца
ў вусны,
нібыта іх страціць баяцца –
вусны твае,
не вочы,
дзіўна..." –
падумала яна
і адсунулася –
ад яго да сябе.

*Кастрычнік, 2013*

* * *

Пляж як крама з музычнымі інструментамі:

Жанчыны-скрыпкі.
Жанчыны-домры.
Жанчыны-віяланчэлі.

Мужчыны-трамбоны.
Мужчыны-фаготы.
Мужчыны-бубны.

*Латвія, 2012*

* * *

У Доме творчасці ў Вентспілсе
выбіла пробкі ад перагрэву натхнення:
паэты ўвесь дзень правялі на моры
і атрымалі перагрэў энергіямі,
ад таго ўвечары
спакойваліся (ціхутка па пакоях)
бальзамам на душу –
пераважна рыжскім.

На раніцу
гаспадыня ў роспачы забегла на кухню,
дзе сядзела паважаная кампанія:
“Калі ласка, спадарства,
хто можа ўкруціць лямпачку?..”
Усе маўчалі.
Мужчын няма,
пісьменнікі не лічацца...

*Латвія, 2012*

* * *

...Ідзе дождж.
Ляжаць мёртвыя.
Сядзяць жывыя.
Толькі б пагаварыць
з мамай.
Хмара
насоўваецца,
слязіцца
дажджамі,
вые,
рассыпаецца
самалётамі

з абвугленай
маннай...

*Ліпень 2014*

* * *

Толькі здаецца,
што я –
маладая і пекная,
нібы свежая –
зранку –
ралля,
рэха звонкага
водгулля,
што гукае дзіця
здаля.

Я самотны
сівы стары, –
з голубам
на сагнутай руцэ, –
што плыве
чоўнам па рацэ,
як плыве
сляза па шчацэ,
як плыве далягляд
да зары
ды бярозавы сок
па кары.

Толькі здаецца,
што я
маладая і пекная.
я – артэрыя,
сэрца каля
рана
рваная
й колатая,
разыходзіцца,
што ўтрая
балючэй
за любоў.
Не твая,
я мелодыя
прышлая.

*Кастрычнік 2014*

* * *

...Хвароба блукае па целе,
шукае прытулку і –
трапляе
на разуменне:
кашаль,
як і боль,
часам
трэба дзяліць:
аддаваць
мужчынам
праз пацалункі
разам з сабой.

*2012*

* * *

Лета – час шчаслівых.
Восень – час паэтаў.
І з усмешкай кплівай
адыходзіць лета.

Лета патанала
ў радасці й спякоце.
Гэта ўжо нямала.
Лета адыходзіць.

*Берлін, 2010*

## *КАРОЎКІ НОЯ*

Небасхілы гор,
паўпрыкрытыя
прасцінамі ранішняга святла.
Лагчынкі, западзінкі
сакавітых рэльефаў,
нібы маляваныя.
Тут усяго стае.
І перадусім – цяпла.
Горы ў неба забраныя.

Дзівавокія кароўкі (й цяляты)
скубуць зеленавалосыя схілы.
Тут мог быць зямны рай.
Зямны рай.

Цячэ жыццё, нібы малако –
густое і белае –
з вымя добрых каровак,
што пасуцца недзе
між Люблянай і Венаю.
Між Венай і Люблянаю.
Я ведаю,
Ной тут выбіраў
сваю пару капытную:
яго звалі Майсеем –
ён быў упартым бычком,
а яна – з зорачкай на ілбе –
і яе звалі Янаю.

Ці то была іншая пара:
яго звалі Гашпер,
а яе – Барбара.

*Вена, 2010*

* * *

Ты кажаш,
што кахаеш
мяне
больш за жыццё.
Але з ёю
заводзіш
агульныя
магніцікі
на лядоўню.

*2012*

* * *

Доўга няшчасным
быць цяжка.
Адмучыўся –
ну й адпусціла.
Гэткая душы расцяжка:
спачатку баліць,
страчваеш сілы,
сэрца цісне
на рэбры...
А калі
цяглiцы прывыклі –
то і прыемна,
і нават міла.

Затое
наступны раз
змесціцца
большы боль,
чым папярэдні.

*Чэрвень 2014*

* * *

Мастак Канстанцін Каровін
малюе пялёсткамі
стэпавых ружаў
сады Гурзуфа
ды бульвары Парыжа.

Пялёсткі роўненька
злятаюць
з Траццякоўкі Старой –
спыняюцца
ў залатых охрах
П’ера Банара
і фантазійных,
карычнева-рыжых,
дрэвах Поля Сіньяка –
у музеі імя
Аляксандра Сяргеевіча
прызямляецца рой.

Сонечныя козы
Тархава
з травы
разбягаюцца –
па сценах
Старой Траццякоўкі,
па дахах
хатаў
Бялыніцкага-Бірулі.
Пад сані
баярыні Марозавай
кідаюцца –
маладыя зусім казляняты.
Козы на сонцы
з карціны
ўцякаюць.
Лавіце іх,
шаноўныя супрацоўніцы!
Хапайце іх
за загрыўкі,

прывязвайце мо
за бародкі
ды хвосцікі.

А пялёсткі,
якімі малюе Каровін,
зграбіце,
спарадкуйце
па кулёчках
просценькіх
ды прадавайце
ў крамцы прымузейнай
залётнікам з дамамі
турыстычнымі –
і я загадаю
й набуду наступным разам,
як заеду да Масквы
тыя пялёсткі,
як лек для душы,
бы сардэчнае зелле,
набуду – на радасці! –
з казлянятамі афарыстычнымі.

*Масква-Менск, сакавіка 2015*

* * *

Масква.
Самы гарачы дзень –
за сто год! –
лета.
Фантаны высокія,
вышэй
за сінагогі,
цэрквы
ды мінарэты.
Фантаны таньчаць
і вабяць,
што фантазійныя аазісы,
фантаны,
як кажуць мясцовыя,
фантануюць фантазіямі,
й казычуць пырскамі
масквічоў
чарнаскурых,
з вачыма вялікімі,
жоўтаскурых – з Сярэдняй Азіі,
прасветлых – з славянскімі лікамі.
А мы, здаволеныя, як вамбаты,
радыя

па цяньку,
з салодкім лёдам,
бадзяцца.
Дамоў вяртацца
праз “Маякоўскага” –
любімую Піменам Панчанкам,
амаль беларускую,
метрастанцыю.
Вяр-та-а-ацца...

Пакіну гэтыя кадры на мантажы
апошняга фільму,
які вазьму з паліцы ўспамінаў
і буду пракручваць
перад пачаткам канца.
Скажы,
мусіць, файна,
каб наш чыставік не загінуў,
калі будзе шмат гэткіх фарбаў –
вясёлых, цёплых, кахальных –
на палёх з “Выбранага” жыцця.
Раней туравала:
“верш, а не ты!”,
“сыдзі прэч з маёй волі!”
Цяпер –
вершаняты
мае
ў абдымках тваіх
спатолю.

Каханне – бонусная свабода:
усё тое
самае,
толькі з наступствам шчасця.
Употай.
Проста запомні
найлепшае з нас –
і пастаў на пракрутку
й паўторы.
Каб у Вечным Вяртанні
да манітора
ўспамінаў
прыпасці –
і ўглядацца,
і ўслухвацца
ў здзейсненых мараў
гарачыя
зоры.

Леанід Дранько-Майсюк



…Тутэйшых лётнішчаў спазнаць сакрэт
Я мушу, каб *сваё* рабіць на ўзроўні,
І сметанаўскі выканаць дэкрэт:
Пабудаваць аэрапорт у Коўні!..

# У Вільні і больш нідзе

## Клаўдзі Дуж-Душэўскі ў Берліне. 1938 год

*Працяг. Пачатак у №4 (41) за 2009 год, №4 (47) за 2010 год, №3 (52) за 2011 год і №1 (62) за 2013, №2 (81) за 2016 год.*

Адкуль жа ты пакора забрыла
На нашыя балотныя палеткі?
Спаліла кроў адважную датла;
Атрутай страху напаіла кветкі.

З якой такой далёкай даўніны,
З якіх там уній згодліва-славутых
Мы, пераможаныя без вайны,
Шукаем і знаходзім самі путы?!

Ды каб жа ад таго які прыбыт?
Аднак нічога... Так, адны капейкі...
Увесь нацыянальны дабрабыт
Выказваецца гукамі жалейкі.

Што мы за людзі? Наша кроў – пясок!
Ён сыплецца па жылах адубелых
На кожны голас наш і галасок,
І на штандар наш бел-чырвона-белы...

У глыбіню кашэчую двароў
Зашыліся. Пад сонныя аўчыны
Схаваліся – нашчадкі ваяроў! –
Ад ценю беларускае айчыны...

І сапраўды застаўся толькі цень
Ад волі нашае і нашай долі...
Патушаны суседзямі агмень
Ці выб’ецца агнём з такой юдолі?!

Сляпыя йдуць, не знаючы куды,
І топчуць краскі родныя – сляпыя!
І праз усе шалёныя гады
Не можа дачакацца іх Расія!

І Польшча тое ж... (Хай ім Бог дае!
Суседзі нашыя і ў дні малення
За ўсе за акупацыі свае
Ніколі ў нас не просяць прабачэння!)

Еўропа – іншая. Відушчая заўжды;
Цаніць умее крок рацыянальны;
Глыток віна з пустым глытком вады
Не зблытае і ў одуме астральным;

Над словам лічбу ўзвысіла яна
І вымерала банкаўскай лінейкай
Душу ад фарбы верхняе да дна –
Не пранялася нашаю жалейкай!

Машына лічбаў!.. Здольная вучыць
Як жыць без плачу... Толькі з той вучобы
Не давядзецца ж у спакоі жыць,
Таму баяцца трэба і Еўропы!

Яна сваёй не ведае мяжы,
Паблісквае крыштальнымі нажамі,
На самалётах выбіла крыжы
І лётнішчы аздобіла крыжамі...

Тутэйшых лётнішчаў спазнаць сакрэт
Я мушу, каб *сваё* рабіць на ўзроўні,
І сметанаўскі выканаць дэкрэт:
Пабудаваць аэрапорт у Коўні!

*3 лістапада 2011. Чацвер. Менск. 13 г. 21 хв.*



*Клаўдзі ДУЖ-ДУШЭЎСКІ.*

Польскі даследчык Томаш Блашчак назваў Клаўдзі Дуж-Душэўскага ковенскім архітэктарам[1].

І гэта праўда.

Дзяржаўны сакратар Беларускай Народнай Рэспублікі К. Дуж-Душэўскі – архітэктар менавіта ковенскі, і ягоны шлях у архітэктуру пачаўся з 1921 года, калі ён эміграваў у Літву.

У 1921 годзе за сувязь з камуністам Эдмундам Русецкім палякі арыштавалі яго і тры тыдні (па іншых звестках – два тыдні) трымалі ў віленскай турме на Лукішках...

З Э. Русецкім ён пазнаёміўся ў 1912 годзе ў Вільні – тады Э. Русецкі быў выпускніком агранамічнай школы, а ён скончыў якраз віленскую рэальную школу і паступіў у Пецярбургскі горны інстытут.

Новая сустрэча адбылася ў Петраградзе ў 1916 годзе, калі Э. Русецкі служыў у царскім войску, а К. Дуж-Душэўскі ўзначальваў беларускі рух – быў старшынёй саюза студэнтаў, кіраваў касай узаемнай дапамогі, арганізоўваў хор і нават пакланяўся Мельпамене – удзельнічаў у першай пастаноўцы “Паўлінкі” (выконваў ролю засцянковага шляхціца Сцяпана Крыніцкага).

Дарэчы, у 1916 годзе памёр ягоны бацька – Сцяпан Лаўрэнавіч Душэўскі, які ўсё жыццё працаваў сталяром, а таксама ж меў у Глыбокім некалькі гектараў зямлі.

Маці спадара Клаўдзія Ева Іванаўна перажыла свайго мужа на пятнаццаць гадоў; паходзіла яна з сям’і дваран Высоцкіх...

Пасля лютаўскай рэвалюцыі Э. Русецкі далучыўся да бальшавікоў, а К. Дуж-Душэўскі завяршаў вучобу.

У студзені 1919 года адвучыўся і праз два месяцы 12 сакавіка быў прызначаны ў Менску на пасаду губернскага геолага, і – што цікава! – у нашай сталіцы яго прывецціў зноў жа Э. Русецкі (на той час – намеснік народнага камісара земляробства Беларусі)!

Працаваць у Менску давялося нядоўга, усяго паўтара месяца – 15 красавіка К. Дуж-Душэўскага камандзіравалі ў Вільню...

Што гэта была за камандзіроўка, можна даведацца з пратакола допыту ад 28 студзеня 1947 года[2] – спадара Клаўдзія дапытваў начальнік 4 аддзялення следчага аддзела міністэрства дзяржбяспекі Літоўскай ССР старшы лейтэнант Данільчаў.

Арыштаваны паказаў, што яго жонка, маці і сёстры жылі ў Вільні, і ён з дазволу Э. Русецкага паехаў туды сустрэць разам з сям’ёй Вялікдзень і закупіць для лабараторыі апаратуру...

Дык вось, 20 красавіка 1919 года ён прыбыў у Вільню, а ўжо назаўтра, 21-га, места Гедыміна было занята польскім войскам, і новая ўлада загадала ўсім, хто мае вялікія грошы, здаць іх.

Ён меў 15 000 рублёў, аднак жа не панёс іх у польскі скарб, а восенню 1920-га вярнуў камандзіровачную гатоўку ў менскую касу камісарыята земляробства.

Зрабіў гэтак (праз паўтара года!) з вяртаннем у Менск бальшавікоў, а пакуль што тут, у Вільні, пры паляках трэ было неяк уладкоўваць сваё жыццё, таму паступіў на работу ў фінансавую калегію саюза кааперацыі і працаваў там да снежня.

Аднак жа час вымагаў рашучых палітычных учынкаў.

У траўні ўсё таго ж 1919 года стаў чальцом Беларускага Нацыянальнага Камітэта (БНК) і быў абраны старшынёй Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны...



LIETUVOS RESPUBLIKA.
UŽSIENIŲ REIKALŲ MINISTERIJA.
RÉPUBLIQUE de LITHUANIE.
Ministère des Affaires Etrangères.
Nr. 8448

Kaunas, le 23. liepos 1921.

VIRBALIS 24-7 1921 Įvažiuojant

VIRBALIS 21 VIII. 1921 Įvažiuojant

LEIDIMAS.

Šiuo leidžiama p. Kliaudušui DUŽ – DUŠEUSKIUI, savininkui Gudų diplomatinio paso No. 474, išduoto Rygoje 1920 m. spalių mėn. 25 d. su savininko atvaizdu, važiuoti pro bet kurią sieną į Vokietiją ir atgal.

Leidimas galioja nuo 1921 m. liepos mėn. 24 d. iki 1921 m. rugpiučio mėn. 24 d.–

Užsienio Reikalų Ministerija

Rytų Departamento Direktoris.

*Дазвол К. Дуж-Душэўскаму на праезд у Нямеччыну праз любы памежны пункт.*

12 чэрвеня згаданая палітычная ўстанова даручыла свайму старшыні правесці перамовы з польскім ўрадам; на парадак дня ставіліся два пытанні: 1. Арганізацыя Беларускай арміі; 2. Утварэнне адміністрацыйных органаў у беларускіх паветах, вольных ад нямецкай і расійскай акупацыі.

Адпаведны мандат К. Дуж-Душэўскі атрымаў, што адзначана ў кнізе выходных дакументаў Рады за нумарам 327 а 11[3]...

Так, ён становіцца значнай фігурай, шмат ездзіць і шмат думае пра неабходнасць нацыянальнай беларускай улады (і гэта ў першую чаргу яму паставілі ў віну сталіністы!), сустракаецца з Пілсудскім, нямецкім міністрам Эрцбергерам, кіраўніком місіі ЗША ў Польшчы сенатарам Маргентаў, прадстаўніком англійскай місіі ў Рызе палкоўнікам Талентам, савецкім пасланнікам Літвінавым, а таксама ж па даручэнні Антона Луцкевіча ў лістападзе 1919 года прадстаўляе нашу краіну на канферэнцыі прыбалтыйскіх дзяржаў у Тарту – дарэчы, па дарозе туды ў вагоне й сустрэўся з Літвінавым!

У Тарту ж меў гутарку з фінскімі і эстонскімі дыпламатамі, у выніку чаго Фінляндыя і Эстонія прызналі Беларускую Народную Рэспубліку...

Псеўдагісторыкі лічаць: БНР – гістарычны прывід, ніякай БНР не існавала, аднак жа "няісную" БНР, акрамя Фінляндыі і Эстоніі, прызналі яшчэ Турцыя, Балгарыя, Чэхаславакія, Літва, Латвія і Нямеччына...

Вось гартаю дыпламатычныя пашпарты К. Дуж-Душэўскага (законныя дакументы ў тагачасным свеце!), вывучаю візы – нямецкія, літоўскія, латвійскія, эстонскія, польскія...

Так і карціць спытацца ў псеўдагісторыкаў: гэтыя візы існуюць у паветры ці ў пашпарце грамадзяніна БНР – грамадзяніна вельмі шанаванага высокімі дзяржаўнымі ўстановамі, скажам, той жа Літвы?


LIETUVOS RESPUBLIKOS VARDU

Universiteto esančio Kaune Rektorius, Senatas ir Profesoriai šiuo pripažįsta, kad Valstybinės teisės katedros Ordinariniam Profesoriui MYKOLUI RÖMERIUI rektoriaujant, KAZIMIERUI VASILIAUSKUI, Statybos mechanikos katedros Ekstraordinariniam Profesoriui, esant Technikos Fakulteto Dekanu, DUŽ-DUŠAUSKAS KLAUDIJUS, kilęs iš Hlybokos miestelio, Vilniaus apskrities, išėjęs visus Technikos Fakulteto statybos skyriaus mokslus, gerai išlaikęs visus egzaminus ir gerai atlikęs ir apgynęs diplominį projektą „Daktaro Basanavičiaus vardo namai Vilniuje", įgijo visas diplomuoto inžinieriaus teises. Tai Universitetas liudija savo antspaudu, Rektoriaus ir Dekano parašais. 1927 m. gruodžio mėn. 5 dieną.

Rektorius /Pras./ Mykolas Römeris

*Дыплом аб сканчэнні К. Дуж-Душэўскім Ковенскага ўнiверсiтэта (ад 5 снежня 1927 г.)*

І прыкладам тут хай паслужаць хоць бы гэтыя два дакументы.

Першы:

*"Коўня, 6 снежня 1921 г.*

*Міністэрства Замежных Спраў*

*Літоўскай Рэспублікі.*

*№ 17150.*

*86 R.*

*Пасведчанне.*

*Міністэрства Замежных Спраў сведчыць, што сп.(адар) Клаўдзі Дуж-Душэўскі – Дзяржаўны Сакратар Беларускай Рэспублікі.*

*Сп.(адар) Дуж-Душэўскі, як Дзяржаўны Сакратар Беларускай Рэспублікі, асоба недатыкальная, недатыкальныя і яго рэчы, і па ўсіх пытаннях, звязаных з яго імем, трэба звяртацца ў Міністэрста Замежных Спраў.*

*Пасведчанне сапраўднае да 1 чэрвеня 1922 г.*

*Віцэ-міністр Міністэрства Замежных Спраў.*

*Подпіс, круглая пячатка міністэрства..."*[4]

І другі:

*"Коўня, 23 ліпеня 1921 г.*

*Міністэрства Замежных Спраў*

*Літоўскай Рэспублікі.*

*№ 8448.*

*Дазвол.*

*Гэтым дазваляецца сп.(адару) Клаўдзію Дуж-Душэўскаму, уладальніку беларускага дыпламатычнага пашпарта № 474, выдадзенага са здымкам уладальніка 25 кастрычніка 1920 г. у Рызе, ехаць праз любы памежны пункт у Нямеччыну і назад.*

*Дазвол сапраўдны з 24 ліпеня 1921 г. да 24 жніўня 1921 г.*

*Дырэктар Усходняга Дэпартамента.*

*Подпіс, круглая пячатка міністэрства..."*[5]

Дарэчы, на гэтым дакуменце пастаўлены два штампы, як сведчанне таго, што дазвол быў своечасова скарыстаны па прызначэнні; у прастакутным штампе можна прачытаць: "Выехаў праз Вірбаліс 24.07.1921 г."; адзнака ж у авальным штампе наступная: "Вярнуўся праз Вірбаліс 21.08.1921 г."

А мэта паездкі, да слова сказаць, была творчая – Дзяржаўны сакратар БНР вывучаў у Берліне бібліятэчную справу, аб чым гаворка яшчэ будзе...

Але вернемся да камуніста Эдмунда Русецкага – недзе ў канцы 1920 года пад чужым імем ён з'явіўся ў Вільні, а спадар Клаўдзі якраз вярнуўся з Рэвеля; яны сустрэліся, і Э. Русецкі нават некалькі дзён жыў у сям'і Клаўдзія...

Трэба думаць, што крыху раней, у траўні таго ж 1920-га, К. Дуж-Душэўскі наведаў Менск, які яшчэ знаходзіўся пад польскай уладай.

У кнізе выходных дакументаў Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны ёсць запіс: "29.04.1920 г. (№ 104) – Да пана Камісара м. Вільні

аб выданьні перапускі для п. К. Душэўскага да Менску...”[6]

На падставе гэтага запісу я й зрабіў дапушчэнне, што ў азначаны час ён прыязджаў у сталіцу Беларусі, але з кім там сустракаўся – невядома.

Але вось у Вільню з Менска, які ўжо адышоў да саветаў, таемна прыбыў Э. Русецкі; па яго знікненні – К. Дуж-Душэўскага пасадзілі пад варту.

Жандарская канцылярыя западозрыла, што – магчыма – Дзяржаўны сакратар БНР атрымаў з камуністычнага Менска нейкую шыфроўку.

Аднак жа даказаць таго не ўдалося і, мусіць жа, з той прычыны, што не паспелі арыштаваць Э. Русецкага, – 7 лютага 1921 года (сведчыць “karta zwolnienia” № 369/21, падпісаная следчым рэферэнтам[7]) К. Дуж-Душэўскага адпусцілі з правам выезду...


Кляўдуш Душэўскі
Claude Douchewski

Berlin 14. VIII 1921.

Дарагенькі Пане Антоне.

У мяне усе, ведаеце, сэрца баліць аб „Беларускай Цэнтральнай Бібліатэцы ці музэі Івана Луцкевіча". Я цяпер прымушаны працаваць над тым-сім у нямецкіх бібліатэках. Як у іх усе абстаулена!

А у нас...? Ды што і гаварыць.

Я ведаеце дужа рад што музеем заняліся іменна Вы. У Вас есьць цьвердая рука і інтэлігэнтнасьць. есьць і грамадзкая жылка.

А нам усім трэба усе сілы напрэчы каб Вам дапамагчы.

Каб як небудзь убедзіць Дземкевіча прыняць участие у збіраньні і калекцыянаваньні у Нашай бібліатэцы кніг. Ён мае такую колосальную у гэтым веду.

Каб задаволіць гонару кожнага ахвярадаўцы кніжкі варта было-бы на кожным цэтлічку пісаць: „ахвяраваў Такі-то"

*Ліст К. Дуж-Душэўскага, дасланы А. Луцкевічу з Берліна 14 жніўня 1921 г.*

Сувязь ковенскага архітэктара з Э. Русецкім непакоіла не толькі польскіх жандараў – бальшавіцкіх жандараў даймала таксама; яны, дарэчы, тройчы кідалі за краты спадара Клаўдзія – у чэрвені 1940-га, у снежні 1946-га і ў лютым 1952 года.

Э. Русецкага ўжо даўно не было на свеце[8], а 1 красавіка 1952-га пра яго, былога намесніка наркама земляробства Беларусі, загаварыў начальнік аддзялення следчай часці міністэрства дзяржбяспекі Літоўскай ССР маёр Каплан.

Ён пачаў свой чарговы допыт К. Дуж-Душэўскага ў 21 г. 30 хв. з пытання: “Калі вы ўпершыню пазнаёміліся з Русецкім?”

І атрымаў адказ: “У Вільні ў 1911 – 1912 гадах...”[9]

Завяршаючы допыт у 2 гадзіны ночы, ужо 2 красавіка, маёр Каплан зноў жа спытаўся: “Што вам апавядаў Русецкі аб сваёй сувязі з польскай выведкай?”

Адказ быў просты: “Пра гэта ён мне нічога не казаў!”[10]

На тым жа допыце раскрылася й такая цікавая акалічнасць: па выхадзе з польскай вязніцы ў 1921 годзе К. Дуж-Душэўскі сустрэўся з Э. Русецкім і пачуў, што, магчыма, ён быў арыштаваны праз яго, бо менавіта ж да яго, Русецкага, з Менска йшоў і не дайшоў сувязны – пры затрыманні жандары знайшлі ў сувязнога віленскі адрас Клаўдзія.

За такую сваю неабачлівасць Э. Русецкі папрасіў прабачэння і, мяркую, калі ўмеў прасіць прабачэння, то, мусіць жа, быў неблагім чалавекам...

Дык вось, 7 лютага 1921 года па выхадзе з Лукішак Дзяржаўнаму сакратару БНР стала ясна: у Вільні жыць не дадуць!

А да ўсяго яшчэ – палякам было вядома, што ў ліпені-верасні 1920-га, калі ў Вільню часова ўвайшла Чырвоная армія, ён быў чальцом рэвалюцыйнага



LIETUVOS RESPUBLIKA
V. R. M.
STATYBOS INSPEKCIJA
2471 Nr.

Kaunas, 1928 m. kovo mėn. 3 d.

LIUDIJIMAS.

Statybos Inspekcija liudija, jog pil. D U Ž-D U Š A U S K A S Klaudijus įregistruotas Statybos Inspekcijoje statybos inžinieriu einant Lietuvos Universiteto Technikos Fakulteto liudijimu Nr.362 iš 1927 m. gruodžio mėn. 16 d.

inž. A. Macijus
Vyriausias Statybos Inspektorius.

Statybos Inžinierius.

*Пасведчанне ад 16 снежня 1927 г. аб тым, што К. Дуж-Душэўскі зарэгістраваны ў Будаўнічай інспекцыі МУС Літвы інжынерам.*

камітэта, працаваў начальнікам галоўнага паліўнага ўпраўлення...

Паспрабую разабрацца ў блытанай карціне выезду з Вільні.

Адам Станкевіч на допыце 29 верасня 1949 года паведаміў капітану Чайлыгіну, што ў 1922 годзе К. Дуж-Душэўскі ў ліку 33-х беларусаў і літоўцаў быў высланы польскай уладай у Літву як непажаданы элемент[11].

Трэба аднак удакладніць: быў высланы ці выехаў сам?

І ці ў 1922 годзе?

Гартаю жыццяпіс ковенскага архітэктара; гэты дакумент з літоўскай на расійскую пераклаў у Вільні 17 снежня 1951 г. памочнік оперупаўнаважанага 3 аддзялення 2 аддзела міністэрства дзяржбяспекі Літоўскай ССР малодшы лейтэнант Андрушкявічус.

У дакуменце адзначана: "...20 верасня 1920 г. разам з апошнімі літоўскімі войскамі я паехаў у Літву, таму што не хацеў зноў заставацца на тэрыторыі, захопленай палякамі..."[12]

Як бачна, не ў 1922-м адбыўся выезд, а ў 1920 годзе, і нават акрэслены дзень – 20 верасня!

А паказанні спадара Клаўдзія старшаму лейтэнанту Данільчаву, за 28 студзеня 1947 года, дэталізуюць сказанае ў жыццяпісе: "...калі ў верасні 1920 г. палякі зноў авалодалі Вільняй, то габрэйскі гандляр Ютан прапанаваў мне месца на сваёй падводзе, і за некалькі дзён мы й даехалі ў Коўню..."[13]

І яшчэ сведчанне.

13 снежня 1946 года старшы следчы следчага аддзялення Ковенскага аддзела міністэрства дзяржбяспекі Літоўскай ССР лейтэнант Огнеў атрымаў ад спадара Клаўдзія такое прызнанне: "...20 верасня 1920 г. разам са сваім знаёмым па рабоце ў саюзе кааперацыі Ютанам я выехаў з Вільні ў Літву і з таго часу жыў у Коўні..."[14]

З таго часу – то-бок, з 20 верасня 1920 года!

Тады як жа быць з нелегальнай сустрэчай з Э. Русецкім, якая (нагадаю) адбылася ў недзе канцы гэтага ж 1920 года?

І не ў Коўні адбылася, а менавіта ў Вільні!

І як жа быць з арыштам у пачатку 1921-га зноў жа ў Вільні?!

Трэба думаць, К. Дуж-Душэўскі наведваўся ў Вільню да сям'і інкогніта, тады ж быў узяты пад варту, і 7 лютага 1921 года (ці на які дзень-другі пазней) ужо канчаткова пакінуў места Гедыміна разам з жонкай Аленай...

У Вільні засталася маці, а ён абраў сталае жыхарства ў эміграцыі, вядома ж, ні на хвіліну не забываючы, што эміграцыя – гэта перш за ўсё сацыяльная няпэўнасць.

Ён вывучыў літоўскую мову; ён не збіраўся жыць на чужы кошт, рыхтаваў сябе да таго, каб архітэктурнай працай пазбавіцца гэтай самай сацыяльнай няпэўнасці...

У 1927 годзе паспяхова скончыў ковенскі ўніверсітэт і абараніў дыпломны праект "Дом імя доктара Басановіча[15] ў Вільні" (кіраўніком праекта

з'яўляўся прафесар Міколас Сангайла).

У Менску (у архіўным касцёле Святога Язэпа!) захоўваецца копія гэтага дыплома[16]; яна заверана ковенскім натарыусам Іпалітасам Бараўскасам 28 студзеня 1929 года.

Натарыус адзначаў: у арыгінале папраўак няма, копія слова ў слова адпавядае арыгіналу /.../, адрас уладальніка дыплома: Коўня, вуліца Міцкевіча, д. 15...



Karta zwolnienia.

Dla ...
wyznania rzym. - Kat. lat 29 zamieszkałego
... po przeprowadzeniu śledztwa
został zwolniony z Wydziału Śledczego, dnia ... 1921 r. ... prawa
wyjazdu, z obowiązkiem meldowania się co ...
w tut. Referacie Śledczym.
W razie niezameldowania się, należy aresztować i odstawić do tut. Referatu Śledczego.
Referent Śledczy.

*Дакумент ад 7 лютага 1921 г. аб звальненні К. Дуж-Душэўскага з Лукішскай турмы.*

Іншы дакумент падказвае, што больш дакладная нумарацыя – 15/23, што значыла: дом знаходзіўся на рагу, а кватэра, у якой на той час жыў спадар Клаўдзі, мела 10-ты нумар.

З дапамогай Асты Раманюк у дыпломнай копіі я прачытаў:

"Ад Імя Літоўскай Рэспублікі

Ковенскі Універсітэт, Рэктар, Сенат і Прафесары гэтым сведчаць, што ў той час, калі Рэктарам быў Ардынарны Прафесар кафедры Дзяржаўнага права Міколас Рамерыс; калі Дэканам Тэхнічнага Факультэта быў Экстраардынарны Прафесар кафедры Будаўнічай механікі Казіміpас Васіляўскас, – Клаўдзі Дуж-Душэўскі, народжаны ў мястэчку Глыбокае Віленскай акругі, прайшоў усе навукі будаўнічага аддзялення Тэхнічнага Факультэта, добра вытрымаў усе іспыты, добра выканаў і абараніў дыпломны праект "Дом імя доктара Басанавічуса ў Вільні", атрымаў усе правы дыпламаванага інжынера. Гэта Універсітэт сведчыць сваёй пячаткай, подпісамі Рэктара і Дэкана. 5 снежня 1927 г. ..."

Спадар Клаўдзі абараніў дыплом у групе дзевяці выпускнікоў, і гэта значыла: у 1927 годзе Літоўская Рэспубліка пабагацела на дзевяць новых інжынераў; яны займелі права праектаваць і выконваць работы па сваёй спецыяльнасці.

Дэкан К. Васіляўскас адзначаў у газетнай нататцы: усе дыпламанты (сем літоўцаў, габрэй і беларус) добра ладзілі між сабою...

Атрымаўшы дыплом, К. Дуж-Душэўскі з палітычнага беларускага стваральніка ператварыўся, можна сказаць, у сацыяльнага літоўскага будаўніка!

У пасведчанні за нумарам 2471, якое выдадзена 3 сакавіка 1928 года будаўнічай інспекцыяй міністэрства ўнутраных спраў, сказана: "...Дуж-Душаўскас Клаўдыюс зарэгістраваны ў Будаўнічай Інспекцыі будаўнічым інжынерам з пасведчаннем Тэхнічнага Факультэта Універсітэта Літвы № 362 ад 16 снежня 1927 г. ..."[17]

Дык які ён – дыпломны праект "Дом імя доктара Басановіча ў Вільні"?

Мой віленскі сябар Сігітас Саладжынскас расказаў мне пра ўсе ягоныя мастацкія дэталі[18] – гэта меўся быць будынак на два паверхі ў стылі позняга рэнесансу, а што да асаблівасцей, то на атыку, паміж выявай слупоў Гедыміна і гербам "Пагоня", свяціўся надпіс: "Палац Басановіча".


Протокол допроса 127

обвиняемого Дуж-Душаускага
Клаудиюса сына Степо

от 1 апреля 1952 года

Допрос начат в 21 час 30 мин

Допрос ведется на русском языке, кото-
рым обвиняемый владеет.

К. Д.

Вопрос – Когда вы впервые позна-
комились с Русецким?

Ответ – С Русецким я познакомился
в 1911-1912 годах в гор. Вильнюсе, где он в

*Пратакол допыту К. Дуж-Душэўскага ад 1 красавіка 1952 г.*

Усё-ткі не дом (няхай сабе й з вялікай літары, як сказана ў дыпломе), а палац!

Крыху ніжэй ішлі словы: “Шчаслівыя вы, часы Адраджэння, і вы, таленавітыя дзеці Бацькаўшчыны!”, і стаяла дата: MCMXXVII (1927 г.)

Міжволі згадваецца атык Вострай Брамы – слупоў Гедыміна на ім няма, але ён таксама рэнесансны і таксама ж упрыгожаны “Пагоняй”!

Фасадная сцяна палаца выходзіла на поўдзень, шэсць калон падтрымлівалі атык і нагадвалі шасцікалонне ратушы й Катэдры.

На поўнач выступаў паўкруг – своеасаблівая апсіда, аздобленая дзесяццю калонамі.

Атык з “Пагоняй” і слупамі Гедыміна, але без надпісаў і даты, паўтараўся з усходу і заходу, абапіраючыся з кожнага боку на чатыры калоны...

У лік памяшканняў уваходзілі – бібліятэка, лекцыйня, чытальня, музей, выставачныя залы.

Бібліятэка, у фондах якой мелася быць 150 000 тамоў, складалася з адной залы ў падвале і дзвюх – на першым паверсе.

Лекцыйня на 400 душ мела форму амфітэатра.

Плошча музея раскінулася на 500 м$^2$, чытальня меркавалася на 150 чытачоў, а наогул жа ва ўсім будынку адначасова маглі знаходзіцца 800 чалавек...

Кубатура ж палаца складала 35 000 м$^3$.

З улікам таго, што на той час 1 м$^3$ каштаваў 75 літаў, агульны кошт будоўлі адпавядаў 2 625 000 літам...

Але галоўнае, мяркую, усё ж не гэта, а тое, што праект меў выяўную палітычную асаблівасць: дом Яна Басановіча задумваўся да ўзвядзення на пляцы Лукішкі ў Вільні!

Міжваенная Вільня, як вядома, належала Польшчы; паміж Літоўскай Рэспублікай і Польскай Рэспублікай адносіны з-за віленскага пытання былі вельмі складаныя, таму жаданне пабудаваць менавіта ў Вільні дом у гонар Яна Басановіча (бацькі літоўскага адраджэння!) было не проста палітычна смелае, а нават правакацыйнае...

Ці ведала польская ўлада пра творчы намер К. Дуж-Душэўскага?

Вядома ж, ведала.

Ковенскія газеты пісалі пра дыпломны праект нашага палітыка, і дэфензіва, безумоўна, гэтыя газеты чытала.

Аднак жа палякі вялікай праблемы з таго, здаецца, не рабілі – ва ўсякім разе аўтара праекта ў Вільню пускалі.

І ён бываў у Вільні (і ўжо не таемна, а легальна) – напрыклад, у 1929 годзе, калі захварэла маці, і ў 1930-м, калі маці памерла; праўда, на пахаванне спазніўся...

А тады, у 1929-м, газета “Наперад” паведамляла: “Госьць з Літвы. З прычыны цяжкае хваробы маткі сваей, якая жыве ў Вільні, прыехаў сюды на некалькі дзён грам. Кляўдыюш Душэўскі з Коўны, ведамы беларускі дзеяч /.../

Грам. Душэўскі належыць да тых нячысьленных беларусаў, якія яшчэ






*Дыпломны праект К. Дуж-Душэўскага "Дом імя Яна Насовіча" (LCVA F. 631, Ap. 19, B. 59).*

лічаць магчымым працаваць у Літве. На жаль, палітыка віленскіх літоўскіх дзеячоў у адносінах да беларусаў выклікае вялікі сумліў у магчымасьці шчырага беларуска-літоўскага супрацоўніцтва, хаця патрэба такога супрацоўніцтва дыктуецца як гісторыяй беларуска-літоўскага дзяржаўнага сужыцьця ў мінулым, так і – практычнымі заданьнямі палітыкі абодвух народаў на сягоньня й на заўтрашні дзень"[19].

Нататка без подпісу, але вядома, што напісаў яе Антон Луцкевіч.

У Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архіве (LCVA) захоўваецца рукапіс[20] гэтай нататкі (рукапіс А. Луцкевіча!) з наступнымі закрэсленымі радкамі, якія йшлі пасля слоў "...ведамы беларускі дзеяч...": "...з партыі эсэраў, найбліжэйшы супрацоўнік Ластоўскага на літоўскім грунце..."

Мусіць, А. Луцкевіч падумаў, што ў такім "эсэраўскім" кантэксце не варта згадваць ні К. Дуж-Душэўскага, ні свайго сябра-ворага Вацлава Ластоўскага, які ўжо знаходзіўся ў БССР, таму й выкрасліў гэтыя радкі...

Так, ковенскі архітэктар бываў у Вільні, але заўсёды коратка – то некалькі дзён, то некалькі тыдняў.

6 красавіка 1933 года аддзел бяспекі Віленскага ваяводскага кіраўніцтва за подпісам ваяводскага радцы В. Рэйса выдаў даведку[21], паводле якой грамадзяніну Літвы К. Душэўскаму давалася магчымасць перайсці літоўска-польскую мяжу ў пункце Завясы.

У даведцы значылася мэта пераходу – развязаць сямейна-маёмасныя справы, а таксама ж значыўся тэрмін – на тэрыторыі Польшчы дазвалялася знаходзіцца два тыдні.

За гербавы збор спадар Клаўдзі заплаціў пяць злотых...

Гасцюючы ў горадзе Гедыміна, К. Дуж-Душэўскі сустракаўся з А. Луцкевічам, абгаворваў з ім праблемы Беларускага музея і, трэба думаць, не раз і не два прыходзіў на Лукішскі пляц, зацікаўлена ўглядаўся ў бліжэйшыя будынкі, вывучаў іх, суадносіў маштаб сваёй незвычайнай задумы з навакольнай архітэктурай.

Вядома, дыпломная мара 1927 года не магла здзейсніцца – палякі нізашто не далі б у Вільні пабудаваць "дом Басановіча"!

Аднак жа мара ўшанаваць знанага дзеяча суседняй культуры заставалася і жыла, дарэчы, не толькі ў душы спадара Клаўдзія – у душах іншых беларусаў таксама!

Часам агалошваліся прапановы ўзвесці менавіта ў Вільні помнік вялікаму літоўцу яшчэ пры ягоным жыцці.

Так у 1926 годзе віленскія беларусы адзначалі 75-годдзе вучонага, і Адам Станкевіч, вядомы літвафіл, падаў думку: добра было б, каб у нашым месце Яну Басановічу быў пастаўлены помнік!

А. Луцкевіч палічыў заяву А. Станкевіча несамавітай, бо ў ёй чулася няхай сімвалічнае, але ўсё ж такі "дараванне" Вільні ковенскай Літве.

"...беларусы ў справе Вільні зацікаўлены напэўна не менш, чым літвіны!" – пісаў А. Луцкевіч.

Вядома, прычынай неспадзяванай спрэчкі тут з'яўляўся не сам доктар Басановіч, не ягоная асоба, а ўсё тая ж Вільня!

А да вялікага літоўца адносіны ў А. Луцкевіча былі самыя паважлівыя: у 1927 годзе ён прысвяціў яго памяці некралог, у якім назваў доктара Басановіча "...бацькам літоўскае Навукі..." і "...найвыдатнейшым з павадыроў адраджэнскага руху сярод літвінаў..."

Няма ніякага сумнення, што такія словы мог бы сказаць і сам К. Дуж-Душэўскі, бо невыпадкова ж філасофскую прастору Басановіча – Літву – іменаваў сваёй радзімай...

"...не пакідаючы беларускую работу, я застаюся беларусам, а таксама ж імкнуся быць і добрым грамадзянінам маёй радзімы Літвы... Да Літвы стаўлюся, як да сваёй радзімы і хачу быць карысным і добрым грамадзянінам, але ва ўнутраныя справы Літвы не ўмешваюся, бо хачу быць тактоўным да краіны, якая дала мне прытулак..." – так натаваў у жыццяпісе[22] і, пэўна ж, такія пачуцці дапамагалі яму будаўніча, архітэктурна аздабляць Літву.

На архітэктурнай ніве працаваў шмат і з вялікай асалодай; добра зарабляў (за пабудову пошты ў Коўні, напрыклад, атрымаў узнагароду ў 3 500 літаў) і шчодра дапамагаў беларускім установам...

На допыце ў Коўні 12 жніўня 1940 года спадар Клаўдзі паведаміў следчаму Антанасу Мільвідасу, што ён пасылаў штомесяц 400 літаў Віленскаму беларускаму музею імя Івана Луцкевіча[23].

Часопіс "Калосьсе" пісаў у 1938 годзе:

"...Музэй атрымаў ад /.../ Кляўдыюша Душэўскага паведамленьне, што з сваіх заробкаў ён пастанавіў выплачваць даволі значную суму штомесячна на дапамогу Музэю.

Як ведама, Музэй, пазбаўлены дзяржаўнае дапамогі ад чэрвеня 1938 году, утрымліваецца выключна за складкі сяброў і прыхільнікаў Музэю. Сума, здабываная штомесяц гэтым шляхам, пакрывала дагэтуль толькі выдаткі на аплату музэйнага памяшчэньня ў дзяржаўным гмаху і на неадкладныя бягучыя патрэбы. Дапамога /.../ Душэўскага дасьць магчымасьць хоць мінімальнае аплаты ахвярнае працы музэйных работнікаў.

Гожа адзначыць, што /.../ Душэўскі ўжо каля 20 гадоў жыве ў Коўне і сваёй фаховай працай здабыў для сябе паважныя матар'яльныя падставы быту, каторыя далі яму магчымасьць ня толькі пабудаваць для сябе **пекны дом у сталіцы Літвы**, але, як бачым, і дапамагчы із сваіх заработкаў беларускай культурнай установе..."[24]

"...пекны дом у сталіцы Літвы..." (то-бок, у Коўні) знаходзіўся (і

знаходзіцца) на вуліцы Аўшрос № 47 (цяпер № 59).

Сігітас Саладжынскас паказаў мне гэты дом – двухпавярховую камяніцу на пяць кватэр з цокальным нізам.

На кожным паверсе па чатыры акны; на жаль, у нашы дні дом сапсавалі няўклюднай надбудовай.




*Клаўдзі ДУЖ-ДУШЭЎСКІ, фота са следчай справы 1952 г.*

Спадар Клаўдзі з сям’ёй (жонкай Аленай, прыёмнай дачкой Марынай і сынамі Сцяпанам і Віктарам) жыў на першым паверсе ў трохпакаёвай кватэры № 4; дзве іншыя кватэры займалі яго сёстры Ганна і Марыя...

Ганна замужам не была, а Марыя мела мужа, Пічугіна Хведара Міхайлавіча, які працаваў у ковенскім оперным тэатры віяланчэлістам.

Спадар Клаўдзі меў яшчэ тры сястры – Ядвігу, Валерыю і Браніславу...

Ядвіга Рэйман жыла ў Таліне, муж яе ў 1930-я гады быў генералам эстонскай арміі.

Валерыя Дударава памерла ў 1918 годзе; муж яе – домаўласнік – скончыў жыццё самагубствам у Вільні недзе праз год ці два пасля смерці жонкі.

Самая малодшая сястра Браніслава Душэўская, як і Ганна, таксама не спазнала замужжа і, як і Валерыя, сканала ў Вільні, толькі на дваццаць гадоў пазней – у 1939-м...

Спадар Клаўдзі матэрыяльна дапамагаў сваім сёстрам і, здаецца, гэтак жа, з пачуццём сямейнай неабходнасці, дапамагаў Беларусі і Літве.

Для Беларусі распрацаваў малюнак нацыянальнага сцяга і асновы нацыянальнай дыпламатыі, рэдагаваў часопісы і газеты, ствараў падручнікі і слоўнікі, кіраваў грамадскімі арганізацыямі.

Лішнія сродкі аддаваў на беларускую справу, а сабе пакідаў толькі неабходныя грошы!

А для Літвы ён ствараў матэрыяльныя каштоўнасці – кінатэатры, радыёстанцыі, халадзільныя ўстаноўкі, беконныя фабрыкі і прыватныя асабнякі для ковенскіх дактароў, адвакатаў, інжынераў.

А найбольш – узводзіў двух- і трохпавярховыя паштовыя будынкі і дамы адпачынку для паштавікоў, як, напрыклад, летні дом у Нідзе.

А яшчэ праектаваў помнікі ў гонар 10-й гадавіны літоўскай незалежнасці – у сваёй працы пра “ковенскага архітэктара” Т. Блашчак згадвае ягоны помнік, усталяваны ў 1928 годзе ў мястэчку Акмяне[25].

У 1930-я гады К. Дуж-Душэўскі меў частыя замежныя камандзіроўкі ад міністэрства шляхоў зносін Літвы.

У Чэхаславакіі вывучаў апошнія мадэлі радыёстанцый, у Германіі знаёміўся з працаю самых дасканалых на той час аэрапортаў, а ў Латвіі закупляў для клайпедскай радыёстанцыі, якую ж сам і спраектаваў, неабходную апаратуру.

Дарэчы, у вёсцы Сіткунай пабудаваў радыёкомплекс, антэна якога мела вышыню 240 метраў.

У Рызе ж вёў перамовы з кіраўніцтвам "ВЭФ" (дзяржаўнай электратэхнічнай фабрыкі) і, вяртаючыся ў Літву, выконваў нават дыпламатычныя заданні.

Вось на гэты конт цікавы дакумент, у літоўскую мову якога ўчытацца дапамог мне Алесь Мікус:

"Пасведчанне дыпламатычнага кур'ера.

Гэтым сведчыцца, што спадар інжынер Клаўдзі Дуж-Душэўскі вязе з сабой два дыпламатычныя пакеты за нумарамі 63а і 63, якія замацаваны пячаткай Літоўскага Пасольства і адрасаваны Міністэрству Замежных Спраў.

Просім усе грамадзянскія і вайсковыя ўстановы дазволіць яму свабодны праезд і пры неабходнасці дапамагаць.

8 чэрвеня 1933 г., Рыга"[26]

Умеў і рызыкаваць.

Дзяржаўны сакратар БНР ведаў: абачлівасць – з'ява не заўсёды добрая, таму нават і тады, калі смяротная небяспека навісала над ім і яго сям'ёй, не страчваў разважлівасць, захоўваў спакой, заставаўся людскім і не баяўся, скажам, у 1943 годзе ў час нямецкай акупацыі ў сябе дома хаваць габрэяў...

Чалавек стратэгічнага нацыянальнага мыслення, але для яго ўсё ж не палітыка, а кніга (культура!) вызначала сутнасць існавання.

Вось што ён пісаў А. Луцкевічу з Берліна 14 жніўня 1921 года:

"Даражэнькі Пане Антоне!

У мяне ўсё, ведаеце, сэрца баліць аб "Беларускай Бібліатэцы пры Музэі Івана Луцкевіча". Я цяпер прымушаны працаваць над тым-сім у нямецкіх бібліатэках. Як у іх усё абстаўлена!

А ў нас...? Ды што і гаварыць!

Я, ведаеце, дужа рад, што музэям заняліся іменна Вы. У Вас ёсьць цьвёрдая рука і інтэлігэнтнасьць. Ёсьць і грамадзкая жылка.

А нам усім трэба ўсе сілы напрэгчы, каб Вам дапамагчы.

Каб як-небудзь убедзіць Земкевіча[27] прыняць учасьце ў збіраньні і калекцыянаваньні ў нашай бібліатэцы кніг. Ён мае такую колосальную ў гэтым веду.

Каб задаволіць гонару кожнага ахвярадаўцы кніжкі, варта было бы на кожным цэтліку напісаць: "Афяраваў Такі-то..."

Трэба было бы ўсім уцяміць, што музэй і бібліатэка – гэта найгалоўнейшая наша нацыянальная справа.

**Палітыка – гэта дзень, а кніжка – вечнасьць** (вылучана мною. – *Л.Д.-М.*)

Трэба было бы ўцяміць усім, што на грунці культуры німа ні партый, ні груп, ні ар'ентацый. Ёсьць адна вялікая, магутная і вечная "культура", перад якой усё на сьвеці пахіляе сваю галаву.

Над усім можна ўзяць перавагу, а над ёй ніхто і ніколі. Ена дыктуе правы і абавязкі. Ена заўсёды пабеждае. Той выходзіць пабедзіцелем, хто найбольш блізкі да культуры, бо ена і розум, і адзежа. Па ёй і спатыкаюць, і праводзюць.

Што дае хаваньне па кішэнях кніг чы музэальных рэчаў, апроч таннага і тандэтнага спадзеву выпадковых дыл(л)етантаў, якія выпадкова ўгледзяць у прыватнай кватэры "нешта!"?

Што сталася са зборамі Земкевіча, Ластоўскага і многіх другіх? Большасьць папрападала.

Ведаеце, ні пад якім відам не давайце да хаты кніг, нехай гневаюцца, але са сваіх рук не выпушчайце.

Абдумываю інструкцыю і арганізацыю бібліатэкі, прыдумываю спосабы фінансаваньня. Калі да чаго дадумаюся – напішу.

С Пашанай Ваш К. Душэўскі"[28].

"...Палітыка – гэта дзень, а кніжка – вечнасьць!"

Варта запомніць такія словы...

Нарадзіўшыся ў Глыбокім у 1891-м, Клаўдзі Дуж-Душэўскі памёр у Коўні ў 1959-м, і развітальнае слова прысвяціў яму Віктарас Ражайціс – дацэнт каўнаскага політэхнічнага інстытута, эксперт па будаўнічых канструкцыях[29].

В. Ражайціс гаварыў пра ковенскага архітэктара як пра майстра, які меў шырокі кругагляд, як пра асобу ўсебаковых ведаў і сапраўднай шляхетнасці.

*12 красавіка 2016 г., аўторак, 22 г. 05 хв.; Менск.*

---

[1] T. Błaszak "Klaudijus Duśauskas-Duż (1891 – 1959) – Kauno architekto biografijos apybraiża", 2011.

[2] Lietuvos Ypatingasis Archyvas (LYA). F. K-1. Ap. 58, B. 25116/3 P.P.B., L. 54.

[3] Lietuvos centrinis valstybės archyvas (LCVA) F. 281, Ap. 2, B. 37 (Кніга выбываючых папераў Цэнтральный Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны).

[4] БДАМЛМ фонд 3, вопіс 1, справа 240, с. 20.

[5] БДАМЛМ фонд 3, вопіс 1, справа 240, с. 22.

[6] LCVA F. 281, AP. 2, B. 37.

[7] БДАМЛМ фонд 3, вопіс 1, справа 240, с. 18.

[8] Арыштаваўшы ў жніўні 1937 г., сталіністы яго знішчылі ў сакавіку 1938 г.

[9] LYA F. K-1. Ap. 58. B. 25116/3 t.1. L. 127.

[10] LYA F. K-1. Ap. 58. B. 25116/3 t.1. L. 131.

[11] LYA F. K-1. Ap. 58. B. 25116/3. L. 245.

[12] LYA F. K-1. Ap. 58. B. 25116/3. L. 198.

[13] LYA F. K-1. Ap. 58. B. 25116/3 P.P.B. L. 55.

[14] LYA F. K-1. Ap. 58. B. 25116/3 P.P.B. L. 21/

[15] Ян Басановіч (1851 – 1927) – літоўскі гісторык, грамадскі дзеяч, патрыярх літоўскага нацыянальнага руху.

[16] БДАМЛМ фонд 3, вопіс 1, справа 240, с. 34.

[17] БДАМЛМ фонд 3, вопіс 1, справа 240, с. 36.

[18] LCVA фонд 631, вопіс 19, справа 59.

[19] "Наперад" № 4, 31 снежня 1929 г.; рубрыка "Хроніка".

[20] LCVA фонд 281, вопіс 2, справа 34, старонка 24.

[21] БДАМЛМ фонд 3, вопіс 1, справа 240, с. 38.

[22] LYA F. K-1. Ap. 58. B. 25116/3. L. 202.

[23] LYA F. K-1. Ap. 58. B. 25116/3 P.P.B. L. 185 ap.

[24] "Калосьсе" № 4 (17), 1938 г., с. 255; раздзел "Хроніка".

[25] T. Błaszak "Klaudijus Duśauskas-Duż (1891 – 1959) – Kauno architekto biografijos apybraiża", 2011., l. 35.

[26] БДАМЛМ фонд 3, вопіс 1, справа 240, с. 39.

[27] Рамуальд Зямкевіч (1881 – 1943/44) – беларускі бібліяфіл, бібліёграф, даследаваў беларускую бібліяграфію.

[28] LCVA фонд 281, вопіс 2, справа 32, с. 63.

[29] Звесткі пра дацэнта В. Ражайціса атару паведаміў Сігітас Саладжынскас.

Ірына Мацкевіч



...мы думалі:
такога не бывае...

# Запрасі мяне на каву...

* * *

Запрасі мяне на каву
ў гарадзенскую кавярню,
ці кавярню у Адэсе,
можна нават у Маскве.
Прылячу з лагодным ветрам,
каб ізноў цябе пабачыць,
у руках трымаць далоні,
смагу мрояў спаталіць.

* * *

Ці можна абысціся ў жыцці без слёз,
без募араў, без кахання, без трывогі,
бясконцай невядомай нам дарогі,
без шкадавання, што мінае маладосць?

***SMS***

Як ты змагаешся на працы, мой ваяр?
Жадаю дачакацца перамогі
і не сысці з абранае дарогі!
Смялей глядзі ў вочы злых пачвар!
(Каб дасягнуць імкліва перамогі,
не можна абысціся без ахвяр.)
Але сумленнем, дружа, не гандлюй,
не прадавай за трыццаць срэбнікаў душу.
Ў кішэню пакладзеш адвечны сум,
павольны бег жыцця тады парушыш.
А скончыш бой, вяртайся з перамогай.
Табе Каханне наша ў дапамогу!

* * *

А давай аб'яднаем раніцы:
хай твая і мая сустракаюцца
не раз-пораз, а да... бясконца.
І тады у жыцці будзе сонца!

* * *

Пахмурны дзень, аблокі за вакном,
але мне светла ад твайго Кахання.
Нядоўга адбывалася спатканне,
і ўсё ж яно палёгку прынясло.
Я адчуваю сілы марыць, жыць
і веру, што надыдзе час яднання.
Мы зразумелі Бога дараванне:
нам аднаму без аднаго не быць.

* * *

*Яўгену Вапу*

Калі лагоднасці шукаць,
то ўсё ж жыццё не так прыемна,
як мы хацелі б меркаваць.
Бывае, марым мы дарэмна.
Але хачу я уявіць:
раптоўна лёс змяніў кірунак
і так зрабіў, як мае быць,
падбіў няўмыснасцям рахунак

і вырашыў падараваць
бязмежнасць Шчасця назаўсёды,
што можна ў бездані сканаць
Кахання, Радасці, Свабоды.

* * *

Жывем у жорсткай мітусні
спаміж нястрыманай хлусні,
забыўшыся на смак жыцця,
на асалоду пачуцця
яднання з роднаю зямлёй
і шчасця быць самім сабой.

* * *

Адраджэнне вясновай прыроды...
Дай натхненне тутэйшаму роду
Жыць свядома на роднай зямлі,
Гонар, праўду і волю знайсці,
Выйсці разам на шлях да свабоды,
Падаруй лёс шчаслівы народу.

* * *

Ты нічога не возьмеш з сабой,
Нават вопыт і цяжар гадоў.
Будзе свечка, ікона, труна
і... любоў пасталелых сыноў.

* * *

Так склалася жыццё: між светаў двух
Абрыўкі фраз, мільганне твараў, рук.
Мы думалі: такога не бывае...
Хай толькі гэта нас і падзяляе.

дэбют

Ганна Комар



...ды ведаеш, мама,
зараз жа ўсё нежывое ў модзе...

# Балярына больш не танцуе

### *Я МАЎЧАЛА...*

Я маўчала, калі цябе выкідалі п'янога з аўтобуса:
у мяне была лялька – я клапацілася пра яе
і прыціскала да грудзей сваіх моцна.
Ты сяк-так падымаўся, і мы рухаліся далей

да аднаго з пад'ездаў дома нумар пятнаццаць,
дзе цябе чакала купка блазнаў і дурняў.
Яны думалі, гэта весела, і я мусіла ўсміхацца
(моўчкі): ты вучыў мяне быць культурнай.

Я маўчала, калі вострыя зубы відэльца
упіваліся ў мякаць тваёй рукі.
Я адчувала сябе тапельцам,
што ідзе на дно тваёй белай ракі.

Я маўчала, калі мы з матуляй грукаліся да суседзяў
перачакаць, пакуль перастане быць вострым нож.
Я б аддала моўчкі ўсе кніжкі на свеце,
каб даведацца, што нам дапаможа.

Я маўчала, пакуль ты ламаў зэдлікі, шафы, нашыя лёсы
і працягваў нас ва ўсім вінаваціць.
У тваіх вачах памерлі вясна, лета і восень.
Я чакала першага снега, я чакала, каб стаць дарослай
і тады больш не магчы маўчаць.

Я маўчала і вызначала па кроках настрой,
я маўчала, калі мяне не пыталі.
Я маўчала – я так хацела быць добрай дачкой.
Я маўчала, калі ты трапляў у шпіталі,
калі даваў абяцанні, калі парушаў іх,
маўчала, калі ты засынаў там, дзе падаў.

Пакуль мяне падымаў над зямлёй мой паветраны шарык,
наш дом заносіла снегападам.

## НЕ ПРАРАСТУ

*Кладбищенской земляники*
*спелее и слаще нет.*

М. Цвятаева

Мама сказала: “Былі на могілках – там прыбрана,
пасыпалі толькі нейкай дрэнню,
каб трава не расла”.
Я падумала: аднойчы мяне пахаваюць таксама,
рэшткі мае паспрабуюць прабіцца да свету праз цемру,
ды сустрэнуцца з чымсьці непрабіўным, нібы каменне.

Калі нашчадкі мае прыйдуць мяне наведаць
(калі ў мяне будуць нашчадкі, а ў іх будзе час прыйсці),
ні кроплі маёй крыві не будзе ў гэтай высахлай глебе,
ні косткі мае, ні вантробы, ні памяць мая
не здолеюць прарасці.

І той, хто праз сто год тут выпадкова пройдзе,
суніцаў не знойдзе і не пачуе траваў маіх уздых.
Ды ведаеш, мама, зараз жа ўсё нежывое ў модзе
і мёртвыя гучна скардзяцца на жывых.

## ІДЫЁТКА

мяне завуць Жазэфіна,
я – фонтрыераўская ідыётка.
я гуляюся ў свабоду
ад сацыяльных рамак.
я маладая, не бачыла шчэ жыцця,
але тут я сустрэла
гэтакіх жа ідыётаў, як я.
мяне завуць Жазэфіна,
я – фонтрыераўская ідыётка.
я назіраю за тым,
што адбываецца побач
вачыма вялікімі, поўнымі
захаплення і прадчування
непазбежнага game over.
мяне завуць Жазэфіна,
я – фонтрыераўская ідыётка.
госць камуны вар'ятаў,
што вераць, быццам
здольныя разбудзіць у сабе
тых адважных, што йдуць да канца,
тых сапраўдных, што здольныя быць сабой,
тых адчайных, якіх забаўляюць
вашыя палахлівыя позіркі.
мяне завуць Жазэфіна,
я – фонтрыераўская ідыётка.
я тут пакахала,
цяпер я ведаю, як
гэта балюча.
цяпер мне страшна,
цяпер я хачу дадому
і не хачу дадому.
мяне завуць Жазэфіна,
а гэта – мой бацька.
ён мае межы,
ён мае кайданы,
ён мае вярэды,
ён мая турма,
ён мае страхі,
ён мая пасрэднасць,
ён мая штучнасць,
маё неіснаванне.
мяне завуць... Ганна,
я – ідыётка...

## КАЛІ ГАННА СЫШЛА…

Калі Ганна сышла,
ад яе засталіся дзіцячыя страхі:
засталіся шматамі кашэчай поўсці ляжаць на падлозе,
засталіся чакаць на стале кнігай,
адкрытай на трэцяй старонцы,
засталіся на крэсле вісець сукенкаю хатняй.

Калі Ганна сышла,
ад яе засталіся дзіцячыя страхі,
бо яна перадала іх тым, хто калісьці быў побач:
спярша каханаму, потым сябрам, што сустрэліся на шляху,
выпадковым знаёмым, што трапілі пад руку,
цырульнікам, кандуктарам, прадавачкам у крамах –
усім, каго хоць аднойчы кранала Ганна.

Ганна перадавала дзіцячыя страхі
праз пацалункі ў вусны, ілбы і шчокі,
штурхаючы за плечы і паціскаючы рукі;
тулячыся ў абдымках глыбокіх,
Ганна змагла перадаць найболей страхаў.

Таму калі Ганна сышла, яны засталіся,
і запаўзаюць глыбей у закуточкі душаў.

Ганна таму і сышла, што немагчыма з імі
ні змагацца, ні жыць далей.

## ЗАМОВА

Перад тым, як ты
мяне пакінеш,
выканай адну маю просьбу:
напішы для мяне верш –
у ім узгадай падрабязна
усё, што запомніў.
У ім
раскажы, як я
заганяю голкі
сабе пад пазногці
і крычу ад болю,
бо не ўмею крычаць ад
асалоды.

Раскажы, як
праз высокі ціск
з носа майго
сочыцца мова
і пэцкае тваe белыя кашулі.
Раскажы, як я
кожным суботнім ранкам,
выграбаю з шафаў
шкілеты, паточаныя моллю,
але іх не меншае там.
Як я на кожнай рэчы,
што ёсць у кватэры,
надпісала нашы імёны,
бо забываюся, дзе тут – тваё,
а дзе – маё месца.
Раскажы, як я
мяняю ўспаміны
на грубы цукар,
як я, каб легчы ў ложак,
здымаю скуру,
а ты так баішся
аголенай плоці,
што ніколі са мной
не ночыш.
Напішы пра мяне верш
і крычы яго,
прачнуўшыся ад кашмараў,
глытай яго замест амфетаміну,
любі яго так, як зручна і як бяспечна.
Напішы – і мне не паказвай ніколі.
Будзь яму бацькам і
замяні яму маці.
Мне ж пакінь апошнія два радкі,
Якія
нічога,
Абсалютна нічога не значаць.

## *ВЕТРУ*

Вецер з мора,
праслізнуўшы скрозь цясніны гор,
даляцеў сюды і
спыніўся.

Спачатку спрабуе лізнуць мяне –
пакаштаваць на смак –
ці дастаткова салёная
для мужчыны з такім
характарам непакорлівым.

Кранае скуру маю –
наколькі тонкая,
ці бягуць мурашы
ад ягоных дотыкаў,
ці паскараецца пульс,
ці закіпае кроў пад ёй.

Удыхае ўсю мяне –
ці пахну горадам
з ягонымі клопатамі
шэра-зялёнымі,
чатырма чужымі краінамі,
іхнімі гарэхамі, слівамі,
віном ды аліўкамі,
альбо паху не маю зусім?

Я праходжу
усе выпрабаванні.
Вецер ахінае мяне
цёплымі хвалямі,
пахам солі і ёду,
і сярод гукаў, ледзь
чутных чалавечаму вуху,
я магу пачуць:
“Я хацеў бы спаткацца з табою зноў, Анна...”

## *ЦЯГНІК НЕ ПРЫБУДЗЕ НА КАНЦАВУЮ СТАНЦЫЮ*

Наш цягнік узлятае –
на канцавой станцыі
нас не чакае ніхто.
Заплюшчвайце вочы:
у вагонах – слезацечны газ,
пакорпайцеся ў торбах –
у кожнага там знойдзецца
нагода паплакаць.
Не хадзіце ў першы і
апошні вагоны –

трымайце ў сабе рэшткі
пераваранных эмоцый.
Сядзенняў не хопіць на ўсіх –
зрэшты, лёс усё адно напаткае
вас – сядзіце вы
ці стаіце ў праходзе.

Наш цягнік узлятае,
бо няма ніякае канцавое станцыі,
ні прыпынку, ні прытулку, ні дома –
толькі бясконцы шлях у нябёсах.

### *ЖАНЧЫНЕ З ПАТРОЙНЫМ ІМЕМ*

Гнуткая, як твае думкі,
пругкая, як твая скура, цемра...

Ноч, дотык за дотыкам,
раскрывае таямніцы твайго цела,

забірае голас – пакідае
пункціры і кропкі.

Ты – нібы карабель,
мною без бою захоплены.

Гойдаешся на хвалях, пакуль
я даследую, што

за скарбы ў трумах, і тут цябе
накрывае шторм.

На раніцу нас з табою на бераг вынесе лёс.
Напаўпрытомная, я дасылаю сігналы sos,
мінаючы радыёхвалі – папросту ў нябёсы.

### *НА НЯСПРАЎДЖАНУЮ ГАДАВІНУ*

Я пазбаўляюся ад рэчаў,
падораных ёю,
нібы ад пяску, што патрапіў
між пальцаў ног,
у сандалі, складкі бялізны,
сумку з адзеннем,
пупок, інтымныя часткі цела.

Нібы адмываюся ад
тоўстага слою бруду,
што нарос на мне,
пакуль у раёне
чатырнаццаць дзён
не было гарачай вады.

Кашуля, начная кашуля,
халат у гарошак,
свечка, паштоўка,
іконка – і ты
ад сваёй пазбаўся:
як бачыш, яны
не абараняюць.

Я думала, падарункаў
болей, але аказалася –
толькі гэта, плюс
пару ўсмешак, лічаныя
абдымкі і добрыя
словы на святы.
Болей праяваў
прыязні я не
ўзгадаю.

Грошы не лічацца,
грошы – адсоткі
за твой крэдыт.
Але лічацца ейныя словы,
якімі яна прывязвала
мяне да стала, дзе
разбіраюць тушы забітых
каханняў.
Іх я дашлю ёй
прыгожа запакаванымі
на гадавіну іхнай з
мужам сумеснай
смерці.

Без подпісу. Без зваротнай
адрэсы. Да
запатрабавання. Астатняе
раздам,
вынесу ў смецце, а лепей –

спалю, каб дакладна
пазбавіць
моцы
ейныя
праклёны.

### *БАЛЯРЫНА БОЛЬШ НЕ ТАНЦУЕ*

Ёсць людзі, якія... проста не твае.
Толькі водар іх можаш удыхнуць,
нахіліўшыся да твару,
нібыта не пачула апошнюю фразу,
не рукамі, не вуснамі – позіркам толькі
слізнуць па ўсмешцы.
Яны – высокая вежа, з якой бачныя
асветлены ліхтарамі дах Карлсана і
свет у вокнах Вілы Кавардакулы,
але брама ў вежу зачыненая, і
табе застаецца аглядаць начны горад
з акна бара, што
пасяліўся ў хмарачосе.
Ты для іх – усё адно што музычная
скрыня 19 стагоддзя для
прыхільнікаў сучаснага мастацтва.
Маленькая балярына
круціцца пад музыку,
калі скрыню адчыняюць –
бо больш нічога не ўмее.
Яны не азірнуцца, каб убачыць, што
шкатулка зламалася,
балярына больш не танцуе.
Цяпер яе такую не прымуць
нават у мясцовую
антыкварную краму.

Уільям Батлер Ейтс



...вялікі розум

знітаваны з вар'яцтвам...

# Словы на шыбіне

***П'еса***

*Памяці лэдзі Грэгары,*
*у чыім доме гэта было напісана.*

Дзейныя асобы:

ДОКТАР ТРЭНЧ
МІС МАКЕНА
ДЖОН КОРБЭТ
КАРНЭЛІЮС ПАТЭРСАН
АБРАГАМ ДЖОНСАН
МІСІС МЭЛІТ
МІСІС ГЕНДЭРСАН

Мэбляваны пакой, фатэль, перад ім – столік, з абодвух бакоў – крэслы. Камін і вакно. На канфорцы стаіць чайнік, а на буфеце раскладзеныя кубкі са сподкамі для гарбаты. Ззаду справа – дзверы. Праз дзверы відаць вітальню. Чуваць, як стукаюць дзвярным колцам. Міс Макена праходзіць у вітальню і адтуль вяртаецца ў залу разам з Джонам Корбэтам,

*Пераклад*
*з ангельскай мовы*
*Наталлі*
*ХАРЫТАНЮК.*

маладым чалавекам дваццаці двух –дваццаці трох гадоў, і доктарам Трэнчам, чалавекам між шасцюдзесяццю і сямюдзесяццю.

ДОКТАР ТРЭНЧ *(у вітальні)*. Дазвольце мне прадставіць Джона Корбэта, з баліманійскіх Корбэтаў, які цяпер навучаецца ў Кембрыджскім універсітэце. А гэта міс Макена, наш няўрымслівы сакратар.

Яны праходзяць у пакой, здымаюць паліто.

МІС МАКЕНА. Я падумала, што лепей сустрэну вас сама. У гэтай краіне ўсё яшчэ пануюць сярэднявечныя норавы, а таму не варта дазваляць злым языкам пускаць плёткі пра спірытызм. Дазвольце я аднясу вашыя паліто і капелюхі ў свой пакой. Ён акурат насупраць залы. Сядайце. Вашыя гадзіннікі, мусіць, спяшаюцца. Місіс Гендрыксан прылегла, як заўжды перад сеансам. Мы пачнем толькі праз хвілін дзесяць.

Яна выходзіць з капелюхамі і паліто.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Міс Макена робіць усю надзённую працу Дублінскай спірытычнай асацыяцыі. Яна сама вяла перапіску з місіс Гендрыксан, а таксама пераканала гаспадыню гэтага дому здаць ім залу і малы пакой наверсе. Бо ў нас тут бедная суполка, і мы наперад нічога гарантаваць не можам. Місіс Гендрыксан прыехала сюды з Лондана на свой страх. Яна нарадзілася ў Дубліне, і таму хоча, каб спірытызм прыжыўся і тут. Жыве яна вельмі ашчадна і на многае не разлічвае. Мы пасабляем, як можам. Бедная кабета са святой душой.

ДЖОН КОРБЭТ. Ужо шмат сеансаў адбылося?

ДОКТАР ТРЭНЧ. Пакуль толькі тры.

ДЖОН КОРБЭТ. Спадзяюся, мой скептыцызм ёй не будзе замінаць? Я зазірнуў у "Чалавечую асобу" Маерса і ў шалёную кнігу Конана Дойля, але мяне гэта не пераканала.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Кожны мусіць прыйсці да ісціны сваім шляхам. Лорд Данрэйвэн, у той час яшчэ Лорд Адар, прадставіў майго бацьку знакамітаму Дэвіду Хоўму. Бацька часта расказваў мне, што бачыў, як Дэвід Хоўм лунаў у паветры сярод божага дня, але я ні слову з тых гісторый не верыў. Я мусіў усё даследаваць сам, і мяне цяжка было пераканаць. Пераканала мяне толькі місіс Пайпер, амерыканская медыум, што ўпадае ў транс, шмат у чым падобная да місіс Гендэрсан.

ДЖОН КОРБЭТ. Яна таксама ўваходзіць у стан самнамбулізму і гаворыць галасамі нібыта памерлых людзей?

ДОКТАР ТРЭНЧ. Менавіта. Калі вы хочаце высветліць, з якім духам гаворыце, дык лепшага медыума вам не знайсці. Але не разлічвайце на многае гэтым разам. Сюды ўжо ўмяшаліся варожыя сілы.

ДЖОН КОРБЭТ. Вы маеце на ўвазе злога духа?

ДОКТАР ТРЭНЧ. Паэт Блэйк казаў, што няма такога кепскага чалавека, у якім не было б чаго-небудзь добрага. Я сказаў, варожыя сілы, сілы, якія сур'ёзна заміналі падчас папярэдняга сеансу. Не ведаю, што менавіта там здарылася, бо мне яшчэ не даводзілася бываць на сеансах місіс Гендэрсан. Мяне нічым не здзівіш на сеансах медыумаў, якія ўваходзяць у транс. Таму я і сказаў маладым людзям, якія прасілі мяне стаць прэзідэнтам, што мне больш даспадобы сядзець дома і чытаць Эмануэля Сведэнборга – бо ён узбагаціць мяне куды больш, чым любы сеанс. (*Чуваць стук.)* Мусіць, гэта стары Карнэліюс Патэрсан. Ён думае, што і на тым свеце ладзяцца

конныя скачкі і сабачыя гонкі, і яшчэ, як мне казалі, ён прагне даўмецца, ці правільна робіць, калі заўжды прыходзіць у час. Міс Макена затрымае яго на некалькі хвілін. Ён падказвае ёй, на каго ставіць на чарговых скачках у Гаральд Крос.

Міс Макена праходзіць праз пакой да вітальні і адчыняе дзверы Карнэліюсу Патэрсану. Яна праводзіць яго ў свой пакой, што месціцца з іншага боку ад залы.

ДЖОН КОРБЭТ *(увесь час азіраючыся)*. Цудоўнае памяшканне для мэбляваных пакояў.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Яшчэ гадоў пяцьдзясят таму гэта была прыватная ўласнасць. Да таго ж тады тут было перадмесце, і на заднім двары ўсё яшчэ захаваліся стайні. Тут жыло даволі шмат выбітных людзей. Наверсе нарадзіўся Гратан. Не, не Гратан, Куран, мабыць, тут я магу памыляцца, але я дакладна ведаю, што гэты дом на пачатку васямнаццатага стагоддзя належаў сябрам Джонатана Свіфта, не, здаецца, нават Стэлы. Свіфт кпіў з яе ў “Дзённіку для Стэлы” за грошы, праўда невялікія, якія яна прайгравала ў карты, магчыма, у гэтым самым пакоі. Ванэса з’явілася пазней. У тыя дні гэта быў загарадні маёнтак, з паркам і садамі. Нехта выдрапаў на вакне радкі з яе верша. Цалкам магчыма, яна сама... *(Стук.)* Вось і яны, але вы наўрад ці зможаце добра іх разгледзець пры такім асвятленні.

Яны стаяць каля вакна. Корбэт схіліўся, каб лепш разгледзець радкі. Заходзяць міс Макена і Абрагам Джонсан і спыняюцца ля дзвярэй.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. А дзе місіс Гендэрсан?

МІС МАКЕНА. Яна наверсе. Яна заўжды адпачывае перад сеансам.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Я мушу пагаварыць з ёй перад пачаткам. Я дакладна ведаю, што трэба зрабіць, каб пазбыцца гэтай варожай сілы.

МІС МАКЕНА. Калі вы падымецеся да яе цяпер, сеансу не будзе наогул. Яна кажа, небяспечна нават думаць, не тое што гаварыць пра гэта.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Тады я паразмаўляю з прэзідэнтам.

МІС МАКЕНА. Лепш абговорым усё спачатку ў маім пакоі. Місіс Гендэрсан кажа, што тут мусіць быць поўная гармонія.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Нешта ж трэба зрабіць, каб не было, як мінулы раз.

Чуваць стук у дзверы.

МІС МАКЕНА. Гэта мае быць місіс Мэліт. Яна вельмі дасведчаны спірыт. Пяройдзем у мой пакой. Там ужо нас чакаюць стары Патэрсан і іншыя.

Яна праводзіць яго ў іншы пакой і затым ідзе праз залу да вітальні, каб адчыніць місіс Мэліт.

ДЖОН КОРБЭТ. Я добра ведаю гэтыя радкі – яны з верша, які Стэла напісала на пяцьдзясят чацвёрты дзень народзінаў Свіфта. Захаваліся ўсяго тры яе вершы і некалькі радкоў, якія яна дапісала да верша Свіфта, але і гэтага дастаткова, каб зразумець, што яна больш значны паэт, чым Свіфт. Нават прачытаўшы тыя некалькі слоў на вакне, прыгадваеш паэтаў сямнаццатага стагоддзя – Дона ці, магчыма, Крэшоў. *(Чытае.)*

Ты мне казаў, што доўга юнай буду,
Калі змагу адрозніць праўду ад аблуды;
Вачам агонь вучыў вяртаць –
У сэрца іскры пазычаць.

Дзіўна, што вучонага чалавека, які свядома прытрымліваўся цэлібату, нават у пажылым узросце, усё яшчэ кахалі дзве такія кабеты! Ён сустрэў Ванэсу ў Лондане, калі яго палітычная кар'ера складалася асабліва паспяхова, і яна пераехала за ім у Дублін. Яна кахала яго дзевяць год, магчыма, і памерла ад кахання, але Стэла кахала яго ўсё жыццё.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Я паказваў гэтыя радкі розным людзям, але вы адзіны іх пазналі.

ДЖОН КОРБЭТ. Я пішу працу пра Свіфта і Стэлу для маёй доктарскай дысертацыі ў Кембрыджы. Спадзяюся давесці, што ў часы Свіфта інтэлектуалы дасягнулі найбольшага ўплыву, занялі самыя высокія грамадскія і дзяржаўныя пасады, і што ўсё вялікае ў Ірландыі і ў нашым характары, усё лепшае, што засталося ад нашай архітэктуры – усё гэта заклалася ў яго часы. І што мы лепш, чым ангельцы, захавалі гэтую спадчыну.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Трагічнае жыццё: Болінгбрук, Харлі, Армонд, усе тыя міністры, што былі яго сябрамі – апынуліся ў выгнанні, зламанымі і скаронымі.

ДЖОН КОРБЭТ. Думаю, немагчыма вытлумачыць яго трагедыю толькі гэтым – у яе былі глыбейшыя карані. Ідэалам дзяржаўнага парадку для яго быў рымскі Сенат, а ідэалам асобы – Брут і Катон. Такі парадак і такія людзі, здавалася, маглі зноў з'явіцца на гістарычнай арэне, але эпоха мінала і ён прадбачыў ужо блізкі заняпад. Дэмакратыя, Русо, Французская рэвалюцыя. Вось чаму ён узненавідзеў шараговых людзей. "Ненавіджу юрыстаў, ненавіджу дактароў, – казаў ён, – хаця люблю вось таго доктара і вось таго суддзю". Вось чаму ён напісаў Гулівера, вось чаму ён так вымогліва ставіўся да свайго мозгу, вось чаму ён адчуваў *saeva indignatio*, вось чаму над яго магілай – самая велічная ў свеце эпітафія. Памятаеце? Па-ангельску гэта гучыць нават лепш, чым на лаціне: "Ён сышоў туды, дзе раздрайная ятра больш не будзе крыіць яго сэрца".

Заходзіць Абрагам Джонсан, за ім – місіс Мэліт і Карнэліюс Патэрсан.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Мы мусім нешта зрабіць, доктар Трэнч, каб прагнаць тую сілу, што не дазволіла нам правесці апошнія сеансы. Мне няпроста прыязджаць сюды штотыдзень, гэта вымагае сур'ёзных выдаткаў. Я з Белфасту. Па прафесіі святар, і шмат працую з беднымі і непісьменнымі. Спевам і пропаведзямі я ўжо шмат чаго дамогся, але я ведаю, што здольны на большае. Я спадзяюся паразмаўляць з вялікім евангелістам Мудзі. Я хачу папрасіць яго пастаяць невідочна ў мяне за спіной, калі я буду казаць ці спяваць, і ўскласці рукі мне на галаву і перадаць мне частку сваёй сілы – так, каб і мая праца была благаславёная, як праца Мудзі і Сэнкі.

МІСІС МЭЛІТ. Містэр Джонсан кажа чыстую праўду пра варожую сілу. Апошнія два сеансы былі цалкам сапсаваныя. Мне б хацелася адкрыць краму гарбаты ў Фолкстаўне. Таму я і пераехала за місіс Гендэрсан у Дублін, каб пачуць параду ад свайго мужа, але два духі так разгаварыліся, што не дазволілі іншым духам уставіць ані слоўца.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Духі гаварылі адное і тое ж, як быццам перажываючы тую самую сцэну на абодвух сеансах?

МІСІС МЭЛІТ. Так, нібы яны персанажы нейкай жахлівай п'есы.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Гэтага я і баяўся.

МІСІС МЭЛІТ. Мой муж затануў у моры дзесяць год таму, але

пастаянна гаворыць са мной праз місіс Гендэрсан так, нібы ён усё яшчэ жывы. Ён дае мне парады на ўсе выпадкі жыцця, і я адчуваю сябе цалкам бездапаможнай, калі не магу з ім параіцца.

КАРНЭЛІЮС ПАТЭРСАН. Мне ніколі не падабаліся тыя Нябёсы, пра якія расказваюць у цэрквах, але калі мне сказалі, што муж місіс Мэліт есць, п'е і выгульвае любімага сабаку, я сказаў сабе: вось што патрэбна Корні Патэрсану. Я прыйшоў сюды, каб высветліць, ці праўда гэта, але, шчыра прызнаюся, ні слова пра гэта яшчэ не пачуў.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Я прашу вас, доктар Трэнч, як прэзідэнта Асацыяцыі спірытаў, дазволіць мне правесці рытуал экзарцызму, спецыяльна распрацаваны для такіх выпадкаў. Пасля апошняга сеансу я перапісаў словы гэтага рытуалу са старой кнігі ў бібліятэцы Белфасцкага ўніверсітэта. Яны ў мяне з сабой.

Дастае аркуш паперы з кішэні.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Духі – такія ж людзі, як мы з вамі, мы ставімся да іх як да сваіх гасцей і абараняем іх ад нятлівага абыходжання і гвалту, а ўсякі экзарцызм – гэта праклён ці пагроза праклёну. Мы не верым, што ёсць злыя духі. Некаторыя духі прывязаныя да зямлі – яны думаюць, што ўсё яшчэ жывыя, і зноў і зноў перажываюць нешта са свайго мінулага, гэтак жа, як мы часам перажываем зноў і зноў нейкую балючую згадку, розніца толькі ў тым, што яны сваё новае існаванне прымаюць за рэчаіснасць. Напрыклад, калі дух чалавека, памерлага гвалтоўнай смерцю, прыходзіць першы раз да медыума, ён зноў перажывае ўсе пакуты сваёй смерці.

МІСІС МЭЛІТ. Калі мой муж прыйшоў першы раз на сеанс, медыум задыхалася і білася ў канвульсіях, так, нібы гэта яна танула. Страшна было глядзець.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Часам дух перажывае не перадсмяротны боль, а нейкі страсны ці трагічны момант свайго жыцця. Гэта апісаў і патлумачыў Сведэнборг. Падобны эпізод ёсць у Адысеі, і шмат падобнага сустракаецца ў літаратуры Усходу. Забойца зноў забівае, рабаўнік – рабуе, закаханы – спявае сэрэнаду, жаўнер чуе кліч сурмы. Калі б я быў каталіком, я б сказаў, што гэта духі з Чысцца. Дарма мы пішам requiescat in pace на іх магіле, бо яны мусяць адпакутаваць, і мы, у сваю чаргу, мусім адпакутаваць, пакуль Бог не пашле нам супакой.

Такія духі не часта прыходзяць на сеансы, калі толькі гэтыя сеансы не праводзяцца ў іх доме ці ў тым месцы, дзе нешта важнае з імі здарылася. Дух, які прамаўляе няўцямныя словы і не адказвае, калі з ім загаворваюць, акурат належыць да такіх. Чым больш цярплівымі мы будзем, тым хутчэй ён перажыве сваю жарсць, якая не дае яму спакою, і суцішыцца.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Я ўсё яшчэ перакананы, што дух, які сарваў апошні сеанс, – варожы. Калі я не магу выгнаць яго, я памалюся, каб Бог абараніў нас.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Праваднік місіс Гендэрсан, Лулу, дастаткова дасведчаная, каб абараніць і медыума, і ўдзельнікаў сеансу. Вы можаце дапамагчы Лулу, калі памоліцеся аб тым, каб дух хутчэй знайшоў супакаенне.

Абрагам Джонсан сядае і моўчкі моліцца, варушачы толькі вуснамі. Заходзіць місіс Гендэрсан з міс Макенай і іншымі. Міс Макена зачыняе дзверы.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Місіс Гендэрсан, дазвольце прадстравіць вам містэра Корбэта, студэнта Кембрыджскага ўніверсітэта і скептыка, які спадзяецца, што вы яго пераканаеце.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Усе мы калісьці былі скептыкамі. Не варта чакаць надта шмат ад першага сеансу. Тут важна праявіць настойлівасць.

Яна сядае ў фатэль, іншыя таксама займаюць свае месцы. Міс Макена ідзе да Джона Корбэта, яны застаюцца стаяць.

МІС МАКЕНА. Я радая, што вы скептык.

ДЖОН КОРБЭТ. Я думаў, вы спірыт.

МІС МАКЕНА. Я ўжо пабачыла шмат сеансаў і часам думаю, што гэта ўсяго толькі супадзенне ці перадача думак на адлегласці. *(Яна гаворыць гэта сціішаным голасам.)* А часам я думаю гэтак жа, як і доктар Трэнч, і тады я пачуваюся, як Ева – памятаеце, як там напісана: І дух прайшоў нада мною; дыбам сталі валасы на мне...

МІСІС МЭЛІТ. Замкніце дзверы. Доктар Трэнч, мы не хочам, каб хтонебудзь па памылцы зайшоў сюды.

Доктар Трэнч замыкае дзверы.

Прайдзіце сядзьце сюды, міс Макена.

МІС МАКЕНА. Не, я сяду побач з Джонам Корбэтам.

Корбэт і міс Макена сядаюць.

ДЖОН КОРБЭТ. Сёння вы пачуваецеся як Ева?

МІС МАКЕНА. Я адчуваю – сёння нешта здарыцца, вось чаму я радая, што вы скептык.

ДЖОН КОРБЭТ. Так вам спакайней?

МІС МАКЕНА. Так, спакайней.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Я радая зноў бачыць усіх сваіх сяброў і прывітаць у нашых шэрагах містэра Корбэта. Паколькі ён першы раз на сеансе, я мушу патлумачыць, што мы не выклікаем духаў, мы ствараем адпаведную атмасферу – і яны прыходзяць самі. Я не ведаю, хто прыйдзе. Часам прыходзіць вельмі шмат духаў, і праваднікам даводзіцца выбіраць. Праваднікі намагаюцца перадаць пасланне для кожнага, але ў іх гэта не заўсёды атрымліваецца. Калі вы хочаце пагаварыць з дарагім вашаму сэрцу сябрам, які не прабіўся да нас гэтым разам, не разгубляйцеся. Калі ваш сябар не змог прыйсці гэтым разам, магчыма, ён прыйдзе наступным. Мой праваднік – мілая маленькая дзяўчынка, якую завуць Лулу. Яна памерла ў пяць ці шэсць год. Яна паведамляе, якія духі чакаюць сваёй чаргі, і называе таго духа, які хоча гаварыць. Міс Макена, будзьце ласкавыя, некалькі вершаў таго самага псалма, які мы спявалі мінулы раз, і давайце праспяваем яго ўсе разам.

Яны спяваюць наступныя радкі з Псалма 564, са Зборніка царкоўных вершаў Ірландскай Царквы.

Сонца душы маёй, Збаўца мой,
Я не баюся цемры, калі Ты са мной:
Хай хмарам на зямлі не здужаць
Схаваць Цябе ад Тваіх служак.

Місіс Гендэрсан засынае і адхінаецца на спінку крэсла.

МІС МАКЕНА *(Джону Корбэту)*. Яна заўжды так храпе, калі адключаецца.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Лулу вельмі радая бачыць сваіх сяброў.

МІСІС МЭЛІТ. І мы радыя, што ты прыйшла, Лулу.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Лулу радая бачыць новага сябра.

МІС МАКЕНА *(Джону Корбэту)*. Яна гаворыць з вамі.

ДЖОН КОРБЭТ. Дзякуй, Лулу.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Вы не павінны смяяцца з таго, як я размаўляю.

ДЖОН КОРБЭТ. Я не смяюся, Лулу.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Ніхто не мусіць смяяцца. Лулу вельмі стараецца, але не можа вымавіць вялікія доўгія словы. Лулу бачыць высокага чалавека побач, у яго шмат валос на твары. *(Місіс Гендэрсан праводзіць рукамі па шчаках і падбароддзі.)* І няшмат на макаўцы *(Місіс Гендэрсан праводзіць рукой па макаўцы)*, з чырвоным гальштукам на шыі і такой пацешнай шпількай.

МІСІС МЭЛІТ. Так... Так...

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Шпілька ў форме падковы.

МІСІС МЭЛІТ. Гэта мой муж.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Ён хоча нешта перадаць.

МІСІС МЭЛІТ. Так.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Лулу не чуе. Ён надта далёка. Ён падышоў бліжэй. Цяпер Лулу чуе. Ён кажа... Ён кажа: “Праганіце таго чалавека!” Ён паказвае на кагосьці ў кутку, у тым кутку. Ён кажа, што гэта той кепскі чалавек, які ўсё сапсаваў мінулы раз. Калі яго не прагоняць, Лулу закрычыць.

МІС МАКЕНА. Зноў той жахлівы дух.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Мінулы раз ён не даў нікому іншаму з духаў прабіцца да нас.

МІСІС МЭЛІТ. Ён адзін гаварыў і не даваў больш нікому ўставіць ні слова.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Яны прагналі таго кепскага чалавека. Лулу бачыць маладую жанчыну.

МІСІС МЭЛІТ. А майго мужа тут ужо няма?

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Мужчына з пацешнай шпількай сышоў. Тут маладая жанчына. Лулу думае, што гэтая кабета прыйшла з вечара-маскарада – такая пацешная вопратка, і яе валасы, усе ў локанах, яны рассыпаліся па падлозе перад тым старым мужчынам у акулярах.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Не, я яе не пазнаю.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(дзіцячым голасам)*. Той кепскі чалавек, той кепскі стары чалавек у куце, яны дазволілі яму вярнуцца. Лулу зараз заверашчыць. О... О... *(мужчынскім голасам)*. Як ты пасмела ёй пісаць? Як ты пасмела пытаць, ці мы вянчаліся? Як ты пасмела дапытваць яе?

ДОКТАР ТРЭНЧ. Душа ў агоніі – яна не бачыць і не чуе нас.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(выпрастаўшыся, у вялікім напружанні, толькі вусны варушацца, усё яшчэ мужчынскім голасам)*. Што ты там уціснула галаву ў плечы? Ты не чуеш, пра што я цябе пытаю? Як ты пасмела

дапытваць яе? Ты была непісьменнай неразумнай дзяўчынкай, калі я сустрэў цябе ўпершыню, і блізка нічога не ведала пра парыванні духу. Столькі разоў я ахвяраваў размовамі з вялікімі людзьмі, столькі разоў я не йшоў да лорда канцлера, столькі разоў забываў пра дзяржаўныя справы дзеля таго, каб мы разам маглі пачытаць Плутарха!

Абрагам Джонсан збіраецца падымацца. Доктар Трэнч махае яму рукой, каб ён заставаўся на месцы.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Цішэй!

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Але, доктар Трэнч...

ДОКТАР ТРЭНЧ. Цс-с-с. Мы нічога не можам зрабіць.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(усё тым жа мужчынскім голасам)*. Я вучыў цябе ва ўсіх сітуацыях думаць не так, як прызвычаілася думаць Эстэр Вэнхомрай, а як думалі Катон ці Брут, а ты паводзіш сябе, як самая звычайная прасталытка, якая падглядае ў замочную дзюрку.

ДЖОН КОРБЭТ *(да міс Макены)*. Гэта Свіфт, Джонатан Свіфт, размаўляе з жанчынай, якую ён называў Ванэсай. Яе хрысціянскае імя было Эстэр Вэнхомрай.

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(Голасам Ванэсы)*. Я спытала яе, Джонатан, бо кахаю цябе. А чаму ты дазваляў мне праводзіць столькі гадзін у тваёй кампаніі, калі не кахаў мяне? *(Голасам Свіфта.)* Калі я ўзводзіў Рым у тваёй галаве, мне здавалася, што я блукаю яго вулкамі. *(Голасам Ванэсы.)* І гэта ўсё, Джонатан? Я была ўсяго толькі мальбертам мастака? *(Голасам Свіфта.)* Божа мой, ты думаеш, гэта было проста? Я быў поўным жарсці, але паабяцаў ніколі не жаніцца. *(Голасам Ванэсы.)* Калі вы з ёй не жанатыя, чаму мы не можам ажаніцца, як звычайныя мужчына і жанчына? Я пакахала цябе з першага позірку – калі ты ўпершыню прыйшоў у дом маёй маці і пачаў мяне навучаць. Я думала, мне будзе дастаткова глядзець на цябе, гаварыць з табою, чуць, як ты гаворыш. Я паехала за табой у Ірландыю пяць год таму – але ўжо больш не магу трываць. Не дастаткова глядзець, гаварыць, чуць. Джонатан, Джонатан, я жанчына, і жанчыны, якіх кахалі Брут і Катон, былі такімі ж. *(Голасам Свіфта.)* Я не маю права перадаваць сваю кроў нашчадкам. У мяне пастаянныя прыступы галавакружэння. Я падманваю сам сябе, прыпісваючы гэта ўсё надмернаму спажыванню фруктаў у дзяцінстве. Галавакружэнні пачаліся ў Лондане... Там я пазнаёміўся з вялікім лекарам, доктарам Арбетнотам, і расказаў яму пра тыя прыступы галавакружэння, ды яшчэ пра нешта горшае. Ён мне ўсё і патлумачыў. У Драйдэна ёсць радок... *(Голасам Ванэсы.)* Так, я ведаю. “Вялікі розум знітаваны з вар’яцтвам”. Калі б у цябе былі дзеці, Джонатан, мая кроў зрабіла б іх здаровымі. Я вазьму тваю руку, пакладу сабе на сэрца, на кроў Вэнхомрай, якая ўжо шмат пакаленняў здаровая. *(Місіс Гендэрсан павольна падымае левую руку.)* Ты ўпершыню кранаешся майго цела, Джонатан. *(Місіс Гендэрсан падымаецца і стаіць нерухома. Гаворыць голасам Свіфта.)* Што мне да таго – здаровая яна ці не? Што мне да таго – ачысціць яна маю ці не? Хіба варта нараджаць у гэты свет яшчэ аднаго здаровага нягодніка і прайдзісвета? *(Голасам Ванэсы.)* Паглядзі на мяне, Джонатан. Твой пыхлівы розум разлучае нас. Дай мне свае рукі. Я пакладу іх сабе на грудзі. *(Місіс Гендэрсан падымае дзве рукі і затым прытуляе іх да грудзей.)* О, яны белыя – белыя, як кубікі для гульні, зробленыя са слановай косці. Падумай пра непрадвызначанасць. Магчыма, народзіцца вар’ят, магчыма, нягоднік, магчыма, злачынца, а магчыма і не,

Джонатан. Кроў генія – небяспечная, але мая – самая звычайная. *(Яна працягвае наперад рукі – так, нібы прыцягвае кагосьці да сябе.)* Маім рукам цябе не ўтрымаць. Мае рукі слабыя, яны б не здолелі вярнуць цябе, калі б ты не кахаў так, як кахаю я. Ты сказаў, што ў табе віруюць моцныя жарсці; гэта праўда, Джонатан, у Ірландыі няма больш жарснага мужчыны. Вось чаму я патрэбная табе, вось чаму табе патрэбныя дзеці – нікому яны так не патрэбныя, як табе. Ты старэеш. Стары чалавек без дзяцей вельмі самотны. Нават яго сябры, такія ж старыя, адварочваюцца ад яго, яны цягнуцца да маладых – да сваіх дзяцей, ці дзяцей сваіх дзяцей. Ім непрыемнае таварыства такога ж старога, як і яны самі. *(Місіс Гендэрсан адыходзіць пакрысе ад свайго фатэля, яе рухі становяцца больш рэзкімі.)* Ты пакуль не стары, і яшчэ можаш рызыкнуць, але ўжо праз некалькі год, калі ты адвернешся ад мяне, ты станеш шкадобным бяздзетным чалавекам. *(Голасам Свіфта.)* Божа, пачуй малітву Джонатана Свіфта, пакутніка, і зрабі так, каб адзінай яго спадчынай нашчадкам быў розум, якім яго дабраславілі Нябёсы. *(Голасам Ванэсы.)* Гэты розум дапаможа табе перажыць самоту, Джонатан? *(Місіс Гендэрсан падыходзіць да дзвярэй, бачыць, што яны зачыненыя.)* Косці, белыя слановыя косці. *(Голасам Свіфта.)* Божа, я застаўся сам-насам са сваім ворагам. Хто замкнуў дзверы, хто замкнуў мяне тут з маім ворагам? *(Місіс Гендэрсан грукае ў дзверы, спускаецца на падлогу і гаворыць голасам Лулу.)* Дрэнны стары. Не дазваляйце яму вяртацца. Дрэнны стары не ведае, што ён памёр. Лулу не можа адшукаць бацькоў, маці, сыноў з таго свету. Сілы амаль скончыліся *(Місіс Мэліт вядзе місіс Гендэрсан, змучаную ўшчэнт, назад да крэсла. Яна ўсё яшчэ спіць. І загаворвае голасам Лулу.)* Яшчэ некалькі вершаў з псалма. Спявайма разам. Гэта нам дапаможа.

Яны спяваюць.

Калі бадзяга бедны, Божы сын,
Пачуе голас з Неба, што гаворыць з ім,
Тады, мой Пан, здзяйсняй свой цуд –
Ратуй яго з усіх аблуд

Падчас выканання гімну місіс Гендэрсан мармытала “Стэла”, але спевы заглушылі яе словы. Прысутныя звяртаюць увагу адно аднаго на тое, што яна нешта гаворыць. Спевы перапыняюцца.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Мне здалося, што яна гаварыла.

МІСІС МЭЛІТ. Я бачыў, як варушыліся яе вусны.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Варта было б падкласці ёй падушку, але так мы можам яе пабудзіць.

МІСІС МЭЛІТ. Яе нічога не можа вывесці з такога трансу, пакуль яна сама не прачнецца. *(Яна прыносіць падушку і разам з доктарам Трэнчам уладкоўвае місіс Гендэрсан больш зручна.)*

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(голасам Свіфта)*. Стэла.

МІС МАКЕНА *(Джону Корбэту)*. Вы гэта чулі? Яна сказала “Стэла”.

ДЖОН КОРБЭТ. Ванэса ўжо знікла, яе месца заняла Стэла.

МІС МАКЕНА. Вы заўважылі перамену, якая адбылася, пакуль мы спявалі? У пакоі з’явілася новая сіла?

ДЖОН КОРБЭТ. Мне здаецца, што нешта такое я заўважыў, але, пэўна, гэта толькі маё ўяўленне.

МІСІС МЭЛІТ. Ц-с-с!

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(голасам Свіфта)*. Я абышоўся з табою несправядліва, каханая Стэла? Ты не шчаслівая? У цябе няма дзяцей, няма каханка, няма мужа. Твой сябар – злы стары мужчына – і больш нікога няма. Але пачакай – не адказвай, ты ўжо адказала мне вершам, які напісала на мой апошні дзень нараджэння. З якой пагардай ты гаворыш пра долю кабет, што маюць адзін пасаг – прывабны тварык.

Яшчэ няма і трыццаці, а ўжо яна –
Старая дзева ці нялюбая жана.

Гэта думка вялікага Залатавуста – у вядомым урыўку ён піша пра тое, што жанчына, якую кахаюць за яе душу, якую кахаюць так, як кахаюць анёлы, даўжэй захоўвае сваю прыгажосць. Яна шчаслівейшая за жанчыну, якую кахаюць за яе цела. Тая думка суцешыла мяне, але як гэта страшна – быць адказным за чужое шчасце. Часам я сумняваюся, думаю, што Хрызастом мог і памыляцца. Але цяпер, прачытаўшы твой верш, я магу адкінуць усе сумненні прэч. Ты звяртаешся да мяне такімі высакароднымі словамі:

Ты мне казаў, што доўга юнай буду,
Калі змагу адрозніць праўду ад аблуды;
Вачам агонь вучыў вяртаць –
У сэрца іскры пазычаць,

Казаў, што розум горды й гожы
Змагацца з сівізною можа,
Што у цнатлівае натуры
Знікаюць зморшчынкі на скуры.

ДЖОН КОРБЭТ. Гэта словы, напісаныя на вакне!

МІСІС ГЕНДЭРСАН *(голасам Свіфта)*. І далей, разумеючы, што я найбольш баюся самоты, баюся пераўжыць сваіх сяброў і сябе самога, ты суцяшаеш мяне, у апошняй страфе, ты занадта высокай думкі пра маю дабрадзейнасць, бо апранаеш яе ў багатую мантыю, але, Бог мой, як кранальна ты апісваеш сваё каханне:

Ў перадсмяротны час прыполам
Багатай мантыі накрый мой белы голаў,
Каб годна дзень пражыць, агорнуты журбой,
А досвіткам я рушу за табой.

Так, ты заплюшчыш мае вочы, Стэла. О, ты нашмат пераўжывеш мяне, дарагая Стэла, бо ты цяпер яшчэ маладая кабета, але калісьці ты заплюшчыш мае вочы. *(Місіс Гендэрсан зноў апускаецца ў фатэль і гаворыць голасам Лулу.)* Гэты кепскі стары сышоў. Уся сіла вышла на яго дашчэнту. Лулу больш нічога не можа зрабіць. Да пабачэння, сябры. *(Місіс Гендэрсан, гаворачы сваім голасам.)* Прэч адсюль, прэч адсюль! *(Яна абуджаецца.)* Я толькі што бачыла яго, ён зноў сапсаваў сеанс?

МІСІС МЭЛІТ. Так, місіс Гендэрсан, мой муж прыходзіў, але той мужчына яго выгнаў.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Місіс Гендэрсан вельмі стамілася. Мы мусім даць ёй адпачыць. *(Звяртаючыся да місіс Гендэрсан.)* Вы зрабілі ўсё, што маглі, ніхто не змог бы зрабіць гэта лепш. *(Ён дастае грошы)*.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Не... Не... Я не магу браць грошай, не пасля такога сеансу.

ДОКТАР ТРЭНЧ. Можаце, і нават мусіце, місіс Гендэрсан. *(Ён кладзе грошы на стол, і місіс Гендэрсан цішком кідае позірк на стол, каб прыкінуць, колькі там. Яна гэтак жа глядзіць на стол кожны раз, калі ўдзельнікі сеансу кладуць на яго свае грошы.)*

МІСІС МЭЛІТ. Няўдалы сеанс гэтак жа вынурвае вас, як і ўдалы, і вам за гэта трэба заплаціць.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Не... не... Калі ласка, нічога не плаціце. Гэта так няправільна – браць грошы за няўдалую спробу.

Місіс Мэліт кладзе свае грошы.

КАРНЭЛІЮС ПАТЭРСАН. Жакею плацяць, незалежна ад таго, перамог ён ці не. *(Кладзе грошы.)*

МІС МАКЕНА. Той дух моцна мяне расхваляваў *(Кладзе грошы.)*

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Калі вы настойваеце, я мушу ўзяць іх.

АБРАГАМ ДЖОНСАН. Я памалюся за вас сёння. Я папрашу Бога дабраславіць вас і вашыя сеансы. *(Ён кладзе грошы. Усе сыходзяць, акрамя Джона Корбэта і місіс Гендэрсан.)*

ДЖОН КОРБЭТ. Я ведаю, што вы стаміліся, місіс Гендэрсан, але мне трэба з вамі пагаварыць. Мяне моцна ўзрушыла тое, што я пачуў. І вось доказ таго, што я задаволены сеансам, цалкам задаволены.

Ён кладзе купюру на стол.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Фунт. Ніхто не дае мне больш за дзесяць шылінгаў. Ды і сеанс праваліўся.

ДЖОН КОРБЭТ *(сядаючы каля місіс Гендэрсан)*. Я кажу, што задаволены, але гэта не значыць, што вы пераканалі мяне ў існаванні духаў. Я, хутчэй, упэўніўся, што вы самі гэта ўсё прыдумалі і разыгралі – а гэта значыць, што вы дасканалая акторка і даследчыца. У доктарскай дысертацыі я разглядаю ўсе тлумачэнні цэлібату Свіфта, прапанаваныя яго біёграфамі, і даказваю, што тлумачэнне, выбранае вамі, – адзінае верагоднае. Але я мушу задаць вам адно пытанне. Свіфт быў самым выбітным інтэлектуалам сваёй эпохі, калі чалавечы ганарлівы розум нарэшце вызваліўся ад забабонаў. Але ён прадбачыў заняпад такога розуму. Ён прадбачыў дэмакратыю, і, пэўна, з жахам глядзеў у будучыню. Ён не хацеў мець дзяцей праз гэты жах? Ці Свіфт звар'яцеў? Ці гэта звязана з хваробай яго розуму?

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Пра каго вы гаворыце, сэр?

ДЖОН КОРБЭТ. Пра Свіфта, вядома.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Пра Свіфта? Але я не ведаю ніякага Свіфта.

ДЖОН КОРБЭТ. Пра Джонатана Свіфта, чый дух, здаецца, наведаў нас сёння.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Што? Той брудны стары?

ДЖОН КОРБЭТ. Ён не быў ні брудным, ні старым, калі Стэла і Ванэса кахалі яго.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Я выразна бачыла яго, калі прачыналася. На ім была брудная вопратка, яго твар быў пакрыты скуламі. Ад нейкай хваробы адно вока ў яго разбухла і вытыркалася з твару, як курынае яйка.

ДЖОН КОРБЭТ. Так ён выглядаў у позняй старасці. Стэла ўжо даўно памерла. Ён звар'яцеў, а сябры адвярнуліся ад яго. Чалавек, які мусіў даглядаць яго, збіваў яго, каб той цішэй сябе паводзіў.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Яны прыходзяць то старымі, то маладымі. Яны

ўмомант мяняюцца – следам за сваёй думкай. Часам гэта так жахліва – быць па-за сваім целам, Божа барані нас.

ДОКТАР ТРЭНЧ *(стоячы ў дзвярным прахоне)*. Хадзем, Корбэт, місіс Гендэрсан змучаная.

ДЖОН КОРБЭТ. Да пабачэння, місіс Гендэрсан.

Ён выходзіць разам з доктарам Трэнчам. Усе ўдзельнікі сеансу, акрамя міс Макены, якая вярнулася ў свой пакой, праходзяць па калідоры да ўваходных дзвярэй. Місіс Гендэрсан лічыць грошы, знаходзіць гаманец, які ляжыць у вазе на каміне, і кладзе ў яго грошы.

МІСІС ГЕНДЭРСАН. Як я стамілася! Мне б цяпер кубак гарбаты. *(Яна знаходзіць імбрык і ставіць на вагонь чайнік з вадой, затым сядае ля вагню, сядзіць сагнуўшыся, і раптам ускідвае рукі і лічыць пальцы, гаворачы голасам Свіфта.)* Пяць вялікіх міністраў, што былі маімі сябрамі, памерлі. Дзесяць вялікіх міністраў, што былі маімі сябрамі, памерлі. Мне не хопіць пальцаў, каб пералічыць усіх выбітных міністраў, што былі маімі сябрамі і ўжо памерлі. *(Яна абуджаецца, схамянуўшыся, і гаворыць ужо сваім голасам.)* Дзе я пакінула той імбрык? Ах, вось ён. І недзе тут мусіць быць кубак са сподкам. *(Яна знаходзіць сподак.)* Але дзе кубак*? (Яна тыкаецца ў розныя бакі сцэны і затым, калі падае і разбіваецца сподак, гаворыць голасам Свіфта.)* Хай прападзе той дзень, калі я нарадзіўся!

К А Н Е Ц

Баляслаў Лесьмян



...То не коні мчаць праз поле і не свішчуць пугі,
То Свідрыга і Мідрыга танчаць, два п'янюгі...

# Метамарфозы

### *БАЛАДА ПРА ПЫХЛІВАГА РЫЦАРА*

Рыцар, спаткаўшы вечную згубу,
Спіць у дамоўцы, зробленай з дубу.

Спіць у выгодзе, так, каб трывогі
Больш не краналі гэтай знямогі.

Прыйдзе з ружанцам плакаць паненка:
Выпала шмат ёй стогнаў і енкаў.

"Дух мой катуюць боль і бяссілле —
Як ты праводзіш ночы ў магіле?

Ты ж адабраны чорнай труною:
Я не з табою — ты не са мною!

*Пераклад з польскай мовы Ганны ЯНКУТЫ.*

Вусны і вочы згадваю ў скрусе —
Больш не кахаю іх, а баюся!

Страшна мне ў цемры шастаць спадніцай,
Страшна мне ў думках з мілым любіцца!..

Тройчы я чары ў думках лавіла,
Толькі ж змяніла твар твой магіла...

Мне ж і не легчы тут у зямліцы,
Мне ж і красою не падзяліцца.

Марна змушаю ўпартае цела,
Каб падабацца трупу хацела.

Досыць я мела гора ўдавою,
Сорамна сёння быць мне жывою!..”

Бачачы ў скарзе знакі правіны,
Рыцар прамовіў ёй з дамавіны:

“Хай мяне чэрві точаць кагалам,
Сёння не сорам быць мне сканалым!..

Хай я падземцам стаўся нікчэмным,
Сёння не сорам быць мне падземным!

Так мне шыкоўна ў пустцы хавацца,
Што перад Богам я — нібы ўладца!

Так вечарыць над збегам пуці́наў,
Што ўся зямля мне — месца спачыну!

Мне ж ані сонца, мне ж ані неба,
Ані кахання болей не трэба,

Ані ў зацішку гэтым адплаты —
Кроў тут змаўкае, стынуць булаты.

Ведай, што пыхі ў нас на пагосце
Маюць нямала трухлыя косці.

Ведай — нам грудзі ціша мацуе,
Ведай — ніхто тут скаргаў не чуе.

З вуснаў ссінелых, што пазгнівалі,
Не вылятаюць енкі і жалі.

Добрага побач маю суседа,
Прах яго хутка знікне без следу.

Трохі старэйшы ўзростам у смерці —
Змеямі зручна голаў падперці.

Ён не палегчыў стогнам пакуты —
Лямант не будзе светам пачуты!..

Часам у трупа сіла такая,
Што і ў магіле шмат ён трывае —

Богу хіба што прыгаршч папрокаў,
З мёртвых паўстаўшы, кіне звысоку!"

І замаўчаў ён — з пыхай і годна.
Так і застаўся спаць ён выгодна.

Сыдзе з ружанцам плакаць паненка:
Выпала шмат ёй стогнаў і енкаў.

## *МЕТАМАРФОЗЫ*

Юр і душнасць той ноччу зямлю ахінулі:
Васількі, што ад сполахаў навідавоку,
Нечакана прабраліся ў зрэнкі казулі,
Што збягала ў лясы ад чужога ёй зроку,
І казульна, замудрыўшы лоб ёй, імчалі,
Васількова і хціва ўглядаліся ў далі.

Мак, адкрыўшы сябе ў палявым безбярэжжы,
З лямантам, што для вуха — ні гукам, ні словам,
Пеўнем перакрываваўся ў яркай адзежы,
І затрос да крыві грабянцом пурпуровым,
І пяяў, раздзіраючы дзюбу, пра жахі,
Аж адпеліся знекуль сапраўдныя птахі.

А ячмень каласіўся ўзалочаным злюкам,
Асцюкі раздражнёныя супіў, шалёны —
І раззнішчыўся ў вожыка з хрустам і грукам,
І пабег, пакалоўшы прымежак зялёны,

І скуголіў, і з кветкамі дзіка важдаўся,
І ніхто не дазнаецца, кім сабе здаўся.

Я ж — якой крапівою пячэ ў сэрцы хворым,
Што імчу я крадком па мяжы праз палеткі?
І навошта за мной сочаць кветкі з дакорам?
Што не ведаю я — і што ведаюць кветкі?
Што рабіў я? Ад жаху заплюшчваю вочы.
Ночы болей няма — але чым быў я ўночы?

## *СВІДРЫГА І МІДРЫГА*

То не коні мчаць праз поле і не свішчуць пугі,
То Свідрыга і Мідрыга танчаць, два п'янюгі.

І не стогне так балесна сушня пад цапамі,
Як той луг, нагамі збіты горш, чым кулакамі.

Іх Палудніца пад сонцам зачапіла вокам,
Радая і двум танцорам, і вясёлым скокам.

Прагны позірк іх агледзеў, ласы на жывое.
"Хто мяне ператанцуе? Я адна, вас двое".

"Мне з ёй быць, — раве Свідрыга, — і кружыць да стомы!"
А Мідрыга пагражае: "Мне — альбо нікому!"

Кожны, за руку схапіўшы, цягам цягне: "Годзе ж!
Зараз, хіжая дзявуля, двух нас улагодзіш!"

Дыхае ім дзеўка ў вусны — ды няма і дыху,
Ім рагоча дзеўка ў вочы — ды няма і слыху.

Раптам рвецца напалову і дваіцца жвава:
Першая сястрыца злева, а другая — справа.

"Хопіць нам дваістай дзеўкі вытаптаць папасы —
Вырабляй жа з намі днямі, краля, выкрунтасы!

Па чатыры локці й ляжкі мае наша паня —
Хай, скаромная такая, з нас душу дастане!"

Рыхтаваліся да танцу, як да лютай сечы:
Ляск — у кветках, у палетках — гвалт нечалавечы.

Танцаваў Мідрыга з левай, а Свідрыга — з правай,
Першы пыл пускаў абцасам, а другі — халявай.

То з падскокам, то з прытопам, а пасля па коле,
Патапталі святаяннік, мяту і куколі.

“Згінь жыўцом!” — раве Свідрыга, а ў адказ: “Да ляду!”
Танчылі спярша да здыху, а пасля да ўпаду.

Ды адчулі, як танцорку тагасвецце кліча,
Спруцянелі ў адначассе два яе аблічча.

“Хай зусім не на самоце спіць яна спакойна,
За дваіх яна скакала, згінуўшы падвойна.

Пахаваем на пагосце, дзе за дрэвам — дрэва,
Правай прачытаем пацер і адразу ж — левай”.

Дзве труны памерлай дзеўкі дол прыняў адзіны —
Дол гудзе і труны танчаць, не прайшло й хвіліны!

Танчаць так, што ходзіць рэха, сытыя ад плоці,
І разяўленыя пашчы шчэраць у палёце.

Танчаць, скачуць і траскочуць, быццам б’юць у ладкі,
То па коле, то з падскокам, а пасля ўпрысядкі!

Аж зайшлася смерць у танцы радаснай жалобы,
Аж спалохана ў пагоста ўздрыгнулі вантробы!

Аж у тым заганным коле танец закруціла,
Аж вясёлай і шумлівай сталася магіла!

Аж Свідрыга і Мідрыга ўміг павар’яцелі,
Нібы ветракі на крылах іх глузды вярцелі!

У затлумленых галовах пуста і бязважка,
Дзе тут права, дзе тут лева — разабрацца цяжка!

Дзеўка злева, дзеўка справа — дзе між іх якая?
І каго якая пара ў вечнасці чакае?

Так мігціць перад вачыма ў танцы наваколле
Што Свідрыгу ад Мідрыгі не адрозніць болей.

Бачна толькі прорву смерці, чорную да млосці:
“Пачувайцеся як дома, дарагія госці!”

Для Свідрыгі і Мідрыгі труны скачуць скокам:
Тут нябыт міргае правым, там жа — левым вокам.

Вось укленчылі ля прорвы і ў віры жахлівым
Працягнулі на каленях танец над абрывам.

Танчылі і на карачках, танчылі і плазам,
Так, і гэтак, і ў дадатак — разам і не разам!

І, завіхраныя ў труны, дзве габлюшкі ў шале,
Разам дагары нагамі ў бездань смерці ўпалі.

### ПІЛА

Крочыць праз лясы пачвара, як піла — з аблічча,
І зубамі хлопцаў вабіць, і ў магілу кліча.

Вось прыгледзела хлапчыну ля суцішнай ляды:
“Прагну над табой улады — лады мае, лады!

Пацалункі для каханка ўзброю вострай сталлю,
Блісну выбліскам ад бляску і зубамі ўджалю!

Зачаруйся той паставай, што нідзе не зналі,
Высынайся тымі снамі, што не высыналі!

Голаў пакладзі на макі, мяту і півоні,
Пакахай мяне і ў спёцы, і ў лясной сутоні”.

“Буду я кахаць да змогі, каб не брала змога,
Буду цалаваць нястомна, як ніхто й нікога!

І забуду ўсіх дзяўчатак, што ішлі мне ў рукі,
Бо рыдаюць ад кахання, як ад горкай мукі.

Мару цела перайначыць пад тваёй пяшчотай,
Мару вусны разбарвовіць жарснаю ахвотай!

Для твае для асалоды мару кшталтавацца,
На зубах тваіх сталёвых сутаргай звівацца!”

Тут яна заскрыгатала, натачыла зубкі:
“Я ў любоў іду, нібыта калісь на парубкі!”

І лісты чырвоных вербаў дробна задрыжалі,
І юнак спазнаў абдоймы закаханай сталі!

Напалам расцалавала, выпесціўшы рану:
“Не адну для іншасвету я душу дастану!”

Шчыравала, каб пяшчотай на шматкі раздзерці:
“Хай вам, мілыя драбочкі, пашанцуе ў смерці!”

Параскідала паўсюдна парахні амецяў:
“Хай цяпер вас Бог мацуе, калі вас прыкмеціў!”

Рэшткі прагнулі сабрацца па былым узоры,
Ды ўзаемна адшукацца не змаглі ў прасторы.

Пачалося ўсё з міргання двух павек ля гаці.
Хто міргае — невядома. Чалавек? Наўрад ці...

Галава шукае карак і грыміць на мосце,
Бы гарбуз, які на рынку з рук упусціць хтосьці.

Скраўшы грудзі, яр задыхаў так, што сэрца стыне,
Ліпа слухае прыдбаным вухам на галіне.

Вочы тлеюць паасобку з цьмянаю тугою:
Б’ецца ў павуце адное, спіць на пні другое.

Першая нага на ўзлеску мільгаціць у скоках,
А другая на калене поўзае ў валоках.

А рука, што над дарогай у нішто ўзляцела,
Штосьці там перажагнала — што, незразумела!

## ***ЗАКЛЁН***

— Ты бываў за мяжою зямнога, кажане.
Што памерлыя робяць? — Ляжаць без дыхання.
— А яшчэ? — Нерухома ляжаць без надзеі,
Ім і сонца не свеціць, і вецер не вее!
Ім — не верыць, не плакаць, не бачыць адхлання,
А ляжаць без дыхання! Ляжаць без дыхання!

Хай дзяўчыну, што жарсці маёй адмаўляла,
Ноччу ў ложку захопіць такая навала!
Хай бяссільна, бяздумна, бязгучна, бязвока
Лютай грэшачы прагай, ляжыць адзінока!
Хай не верыць, не плача, не бачыць адхлання,
А ляжыць пад заклёнам маім без дыхання!

## *ПАННА АННА*

Зробіцца туманна
Вечароваю парой —
Возьме панна Анна
Свой найпрыгажэйшы строй.

І падыме вечка —
Ў пальцах чарадзейны спрыт —
Выме чалавечка,
Што ўзіраецца ў нябыт.

Гэта лялька з дрэва,
Мёртвы і дурны нядух —
Што ад дзіўных спеваў
Робіць першы крок і рух.

І яго на ложа
Гэты павядзе заклён...
Панна Анна можа
Вечнасць браць у свой палон.

Днём яго хавае,
Ноччу ж любіць шорсткі сук —
Постаць нежывая,
Нерухомасць мёртвых рук.

“Не хвалюе Бога,
Што ў самотным гіну сне!
Больш няма нікога,
А таму кахай мяне!”

Ён кахаў рахмана
І бяздушна — так і так,
А яна слухмяна
Млела цэлым сном, аднак.

Смешны і нязграбны,
Ён напружвае далонь,
Локан рве ядвабны,
Пальцамі крывавіць скронь.

Панна ўся збялела...
Толькі драпінам на злосць,
Тоне ў ласках цела,
Славячы і кроў, і млосць.

Ды ідзе праз цішу
Залаты дзівосны страх...
Смерць сябе калыша,
Смерць у росах, смерць у снах.

А пасля — маўчанне
Нібы хтось на гэты знак
Затаіў дыханне —
Існаваць бы так і так...

А як світ нахлыне,
Панна Анна парай рук
Зноў хавае ў скрыні
Даравальніка тых мук.

Ружай, што не вяне
Чорны аздабляе шаль,
Клавішаў гучанне
Абуджае дом і даль.

Здрадлівая тая
Песня льецца так і так...
Можа, хто ўгадае,
З кім была ўначы і як?

Алесь Наўроцкі



...Ты не мая! – крычыць душа мая.
І тыя крыкі чую толькі я...

# Клін жураўліны

***Выбраныя вершы***

Творчы ўзлёт Алеся Наўроцкага адбыўся ў 1960-я гг. Яго першая кніга “Неба ўсміхаецца маланкаю” сталася яркай, рэзананснай і нават скандальнай для таго часу літаратурнай з’явай, імгненна трапіўшы ў поле зроку чытачоў і крытыкаў. Творы паэта адразу звярнулі на сябе ўвагу нечаканымі асацыяцыямі, яркімі метафарамі, парадаксальнымі гіпербаламі, ironіяй, а часам і давядзеннем да абсурду.

Незвычайны для беларускай літаратуры быў і сам аўтар: належачы да так званага “філалагічнага пакалення” (як і Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Міхась Стральцоў), А. Наўроцкі быў па адукацыі медыкам, што ў далейшым адбілася на тэматыцы яго празаічных і паэтычных твораў, у вялікай ступені пабудаваных на аўтабіяграфічным матэрыяле.

Пазней, атрымаўшы таўро дысідэнта і ахвяры “псіхіятрычных Курапатаў”, ён на доўгі час адышоў ад актыўнага літаратурнага жыцця і пісаў пераважна ў шуфляду. Самастойныя ж спробы нешта надрукаваць заставаліся



*Алесь НАЎРОЦКІ ў маладосці.*

збольшага беспаспяховымі. Яго апошняя па часе кніга паэзіі “Пакаленні і папялішчы” выйшла яшчэ ў часе позняй перабудовы, у 1990 г., празаічная кніга “Валун” (раманная рускамоўная версія) – у 1994 г.

Пасля гэтага прайшло яшчэ шаснаццаць гадоў літаратурнага маўчання. Тое, што публікавалася часам на старонках газет і часопісаў, было перадрукамі ранейшых твораў, і магчыма, сам аўтар пра некаторыя з гэтых публікацый нават не ведаў...

Увосені 2010 г. А. Наўроцкі выйшаў са шматгадовага “падполля” і адчуў, можна сказаць, другую маладосць. Ён пачаў часцей заходзіць у рэдакцыі, цікавіцца лёсам, здавалася, безнадзейна забытых сваіх рукапісаў. Упершыню за жыццё ён даў некалькі інтэрв'ю, а на сайце “Радыё Свабода” і ў газетах “Новы час” і “Наша Ніва” выйшлі падборкі яго свежых вершаў. Гэта быў сапраўдны падарунак прыхільнікам творчасці паэта. Ад яго чакалі новых твораў і новых кніг. І працаваў ён, мяркуючы па датах на рукапісах, сапраўды плённа. Толькі за лістапад і снежань 2010 г. ён напісаў больш за 50 новых вершаў і паэм! Нават у хоспісе, куды трапіў увесну 2012 г., працягваў пісаць да самага апошняга дня. Спяшаўся, хоць і запознена, вярнуцца ў літаратуру. Але не паспеў: 24 красавіка 2012 г. Алесь Наўроцкі памёр.

У 2014 г. сястра пісьменніка Надзея Піліпаўна перадала ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва братавы рукапісы, акуратна раскладзеныя па шматлікіх папках і самім аўтарам, і яго сваякамі. Гэта пераважна творы, якія ніколі не публікаваліся: раманы “Прыпяць”, “Пакаленні і папялішчы”, аповесць “Дома”, рускамоўная эпапея “Белая Русь”, вершы, паэмы, п'есы, эсэ, дзённікава-мемуарныя запісы...

Знаёмячыся з вершамі А. Наўроцкага апошніх гадоў, можна заўважыць, што “другая маладосць” паэта была напоўнена балючай настальгіяй па той, першай маладосці, з усімі яе няспраўджанымі марамі пра асабістае шчасце. І гэтая настальгія была бадай асноўнай рухальнай сілай яго творчых памкненняў: пераважная большасць твораў апошняга перыяду працягвае распачаты ў кнізе “Пакаленні і папялішчы” цыкл вершаваных успамінаў пра юнацтва, маладосць, медінстытут, інтэрнат... Некаторым чытачам можа нават падацца, што творы гэтыя А. Наўроцкі напісаў у студэнцкія гады – настолькі непасрэдна і нібыта па-свежаму перададзены ў ёй пачуцці: боль расстання, горыч ад немагчымасці сустрэцца з каханай. Але, па-першае, даты, старанна расстаўленыя аўтарам пад вершамі, сведчаць пра іншае, а па-другое, у студэнцкія гады А. Наўроцкі трымаўся інакшай эстэтыкі з яе яркімі “рэчавымі” метафарамі, гратэскам, парадоксамі. Пра адвечны студэнцкі голад ён, напрыклад, пісаў: *“Ох, і есці ж хачу я. З'есці ўсё гатоў. / Ану, паднясі, прыгажуня Марына, / Поўную міску смажаных цвікоў / З адной малекулай маргарына”.* У творах апошніх гадоў падобная гратэскавасць знікла, але пэўная экспрэсія, напал пачуцця, драматызм развіцця лірычнага сюжэту засталіся. Некалькі з гэтых вершаў прапануем увазе чытачам “Дзеяслова”.

Хутка ў серыі “Беларускі кнігазбор” выйдзе аднатомавік Алеся Наўроцкага, куды ўвойдуць як апублікаваныя раней, так і зусім невядомыя творы, сярод якіх – аповесць “Дома” і раман “Прыпяць”.

**Віктар ЖЫБУЛЬ**

### *САБАКА*

Прадвеснем падалі
сняжынкі
на дрэвы, хаты
і на плечы.
Ды раптам...
Захліпнуўся енкам
сабака з лапаю
адсечанай.

На снег я босы
з хаты выскачыў.
. . . . . . .
Як факел – лапа,
як каліна.
На трох скакаў ЁН,
кавыляючы.
Цяк... ла
пун... кці... рам
ру... ча... і... на.

То спыніцца,
то зноў заскача,
скуголіць,
клянучы
свой лёс.
. . . . . . .
Гады сплылі...
Шкілет сабачы
даўно дзядоўнікам
парос.

З гадоў маленства
той сабака
у маю памяць
лезе, лезе...
. . . . . . .
І так вось
з лапай,
што як факел, –
бяжыць у памяці –
па снезе.

*17/IX – 2006*
*21/XII – 2006*
*5, 8/X – 1992*
*28/II – 2009 г.*

### *БЛЫХА*

Калі блыха дабярэцца да цела
і, галодная, смокча кроў,
дык чалавек, як ашалелы,
смяротных дае блысе плескачоў.

Калі ж блыха дабярэцца да трону
і вып'е кроў у мора людзей,
дык люд пазірае на яе, нібы на ікону,
і ўзводзіць ёй маўзалей.

*1-2/II – 2007*
*28/II – 2009 г.*

### *МАТЫЛЬ*

Я – матыль-
матылёк –
чатыры сантыметры.
Уверх – скок,
скок – у бок,
ныраю ў паветры.

Чараўнік,
жартаўнік,
я віль над лугавінай.
Лётаць звык
там, дзе зык
і дзе гуд пчаліны.

Ну й цяплынь!
А з вышынь –
– Эх-жа! – палыханне.
Знае сінь-
далячынь
маіх крыл мільганне.

Што мне пан –
пан Сцяпан
і яго Маруся!
Хоць будзь хан
Тамерлан, –
яго я не баюся!

Без турбот
мой палёт
там, дзе травы-зёлкі.

У гаі
салаўі
сыплюць мне вясёлкі.

Пада мной
з япруком
пасвіцца авечка.
Пада мной
малаком
забялела грэчка.

Тут і там
мноства плям
кідае свяціла.
Я імчу –
далячу
аж да небасхіла.

Што мне пан –
пан Іван,
Іванава Дуся!
Будзь хоць цар-
валадар, –
яго я не баюся!

Пада мной
паласой
бліскае канава.
Я над ёй
паўдугой
пралятаю жвава.

Вунь не бык
пусціў рык –
рык густы, надрыўны –
разварот
самалёт
робіць рэактыўны.

Без разваг
я зігзаг
зрабіў ля дарогі,
дзе адзін
селянін
кавыляў бязногі.

Я спытаў:
"Што з табой
было, чалавеча?"

Адказаў:
“Пад Масквой
мяне фрыц скалечыў.
Дзвесце грам
папалам
давай вып’ем разам?”

Я ураз
даў адказ:
“Я не п’ю заразы!”

І туды,
дзе гняды
конь скубе рамонкі,
я рвануў,
шугануў
ветру наўздагонкі.

Дзе мой пуць?
Куды пруць
мяне ветру грывы?
Круць і верць,
верць і круць –
самы я шчаслівы.

Я – матыль-
матылёк –
чатыры сантыметры.
Уверх – скок,
скок – у бок,
ныраю ў паветры.

*2010 г.*

### ПЛУГ

Пылае нябесна-вогненны круг.
“Хачу я жаніцца!” – паблісквае плуг.

Бель
груш.
Хмель
руж.

Збег
бык.
Б’е
рык.

З-за
дрэў
за-
роў.

Пылае нябесна-вогненны круг.
“Хачу я жаніцца!” – паблісквае плуг.

Паўз
вяз
поўз
воз.

Воз –
хрась!
Ясь,
злазь!

Пылае нябесна-вогненны круг.
“Хачу я жаніцца!” – паблісквае плуг.

Між
віл –
вуж
віль.

Клім,
стой!
Скінь
гной!

Пылае нябесна-вогненны круг.
“Хачу я жаніцца!” – паблісквае плуг.

Сок.
Высь.
Шпак
свісь.

Ляціць-мігаціць з адуванчыка пух.
“Дзе ж ты, мая жонка?” – пытаецца плуг.

Плуг-
друг,
еж –
рэж!

Хай жонкаю будзе тваёю зямля!
А першым тваім немаўлём баразна!

*2010 г.*

## *КЛІН ЖУРАЎЛІНЫ*

Ранак. Мне на заняткі.
Грэе холадам высь.
Па-над шэрым асфальтам
жоўты кружыцца ліст.

Вось і анатамічка,
дзе ляжаць на сталах
**яны** – з васковым аблiччам –
унушаючы страх.

Вось пінцэт узяла ты,
і ў **яго**, бы ў макет,
тыча шустра, заўзята
твой бліскучы пінцэт.

Вось тут мышцы пачатак,
вось тут нервіка ствол.
А у белых халатах
акружылі мы стол.

Атрымаем няхутка
урача мы дыплом.
На цябе я з пакутай
пазіраю маўчком.

Перапынак урока.
Ты жывая, бы ртуць.
Так і хочацца хлопцам
– Хоп! – цябе хапануць.

Ты ўсё пырскаеш смехам,
а цябе хоп ды хоп.
Мне ж такія пацехі –
стрэл бязгучны у лоб.

Як іду я дадому, –
шмат блішчыць павуцін.
Бачу ў небе суровым
па-над горадам клін –

клін плыве жураўліны.
І ляціць у цішы
разам з плачам птушыным
плач жалобны душы.

*11/XI – 2010 г.*

## ПАД ДУБАМ

Прайшоў паўз дуб высокі
Батый з ардой,
а дуб кранаў аблокі
цар-галавой.

На дуба глянуць люба:
высозны ён.
Прамчаўся міма дуба
Напалеон.

Тут фюрэр апантаны
расклаў касцёр.
Барвовым акіянам
плыў дым да зор.

Не збіла анікролькі
восень лісты.
Што дубу вецер золкі,
мароз круты!

Пад купалападобнай
кронай сеў я.
Прысела са мной побач
Мара мая.

Я ў абдымку з Марай.
На міг няма нуды.
Падаюць з-за хмары
жа...
...лу...
...ды.

*12/XI – 2010*

## У МАСЦЫ

Вецер асенні гоцаў.
Чытаў я канспект у пакоі.
І тут абвясціў я хлопцам,
што жывуць са мною:

– Гасцінца душа мая просіць,
ну, а даюць жа гасцінцы
тыя, хто весела носіць
на мочках сваіх завушніцы!

Сказалі: – Жадаем удачы!
Зрабіў я выгляд вясёлы
і – ў інтэрнат дзявочы,
дзе не спяць радыёлы.

Якраз радыёлы спалі.
Я пайшоў паўз вітрыну.
Ветру халодныя хвалі
мне наганялі ангіну.

Вядома ж, хаджу я ў масцы.
Хоць я ўжо даўно не юны,
я толькі хвалюся: гасцінцы,
моў, дарацць мне прыгажуні.

І вось я іду праз ліпы.
Нарэшце і Круглая плошча.
Дождж золкі сыпле і сыпле.
А вецер хвошча і хвошча.

*12/XI – 2010 г.*

## ВУЧУ ТЭРАПІЮ

За вакном вар'яцее зіма.
Расшугаўся белы агонь.
Цябе, галубка, у пакоі няма.
Што ж ты ложыш мне на плячо далонь?

Заўтра ў клініцы белы халат
я надзену. І хворы мой
мне раскажа: ён, быўшы салдат,
збіты хваляй быў узрыўной.

Тэрапіі гартаю том.
Як лячыць запалення агонь?
На нейкі міг ты са мной за сталом.
На плячо мне – твая далонь.

Праз нейкі міг цябе ўжо няма.
Кладзе далонь на плячо мне зіма.

*13/XI – 2010 г.*

## *СХАВАЎСЯ ЗА ТОЎСТЫ ВЯЗ*

Лісця чырвоныя птахі
злятаюць з галін наўскос.
Шматпавярховыя гмахі
ляцяць у купал нябёс.

Сябруюць з вятрамі дрэвы.
Пуста і глуха вакол.
Золата падае зверху,
кружыцца, легла на дол.

Няўжо ты ідзеш дарожкай?
Я зірк на цябе і – раз! –
жарам ахоплены, трошкі
схаваўся за тоўсты вяз.

З-за вяза зірнуў асцярожна –
ляцелі хмарай лісты,
бадай, нос мне высунуць можна, –
памылка: ішла... не ты.

Я выйшаў. За незнаёмкай
прыспешыў ціхі свой крок.
А незнаёмцы – няёмка.
Яна ад мяне – наўцёк.

Я павярнуўся. Паволі
іду дарожкай назад.
А ў сэрцы маім асколак –
такому жыццю я не рад.

Лісця чырвоныя птахі
зляталі з галін наўскос.
Шматпавярховыя гмахі
ляцелі ў купал нябёс.

*15/XI – 2010*

## *ВЕНЕРА*

Парк. Стаю ля калон.
А вунь там прабягаюць машыны.
Звон – чую ціхі звон,
адзінокі звон камарыны.

Вунь Венера. Рукой
не дастаць мне яе ніколі.
Год за годам – чаргой.
Яна ж трымае мяне ў няволі.

Там яна – угары.
Дастаю яе ў цемры вокам.
“Мяне рукою бяры, –
запрашае яна, – а не зрокам”.

Так гаворыць яна.
Так мяне запрашае Венера.
Яе словы – Вясна.
Яе словы – па шыі сякера.

Парк. Гляджу я ўверх.
Змрок гусцей і гусцей вечаровы.
Ля мяне чуцен смех.
Паўз мяне праплываюць размовы.

Вунь Венера. Рукой
не дастаць мне яе ніколі.
Год за годам – чаргой.
Яна ж трымае мяне ў няволі.

*25/XI – 2010 г.*

## *ЛЕС КАМЕННЫ…*

Лес каменны. У ім жыць неабходна.
У лесе гэтым пяе патэфон.
У гэтым лесе дубровы заводаў,
клён каменны, дзе Вечны Агонь.

Павуцінне чыгуначных рэек.
Сад, дзе яблыкаў россып, – агні.
Восень. Змрок. Халадочак грэе.
Яркі яблык – удалечыні.

Можа, я напаткаю Мару
(яе нашу і нашу ў душы)
тут, на сцежцы прамой тратуара,
у каменнай гэтай глушы?

Э, спаткання ў цябе не будзе!
Для яго не народжаны ты!
Вечны Сон твой Яна не разбудзіць
і не выведзе з цемнаты!

Вунь тралейбусныя мядзведзі
ідуць к бярозе – адзін за другім...
Лес з камення, машын і жалеза...
. . . . . . . . . . . .
Без надзеі я – у лесе тым.

*26/XI – 2010 г.*

## *БОЛЬ*

Боль засцілае чарнатой нябёсы
і з кожнаю хвілінаю расце.
Боль – гэта ўспышак яркія палосы
на чорнай, нібы дзёгаць, чарнаце.

Боль сыпле звон над працавітым плугам,
над рунню, над пахучаю лазой.
Боль расцвітае каляровым лугам.
Боль узлятае шустрай страказой.

Боль – гэта дружба хвой вечназялёных,
зязюлі, івалгі журботны спеў.
Боль ападае з жалудовай кроны
на інею начны густы пасеў.

Боль ападае снежным белым роем,
калі траву кусае злая золь...
. . . . . . . . . . . . . .
Заўсёды я шапчу адно і тое:
прыйдзі, здымі адвечны гэты боль.

Ці дасць мне Неба гэтай дабраты?
Ці прыйдзеш Ты?

*27/XI – 2010 г.*

## *ВАРОНЫ КРЫЧАЦЬ*

Уверх задраў я галаву –
злятала зверху лісцяў хмара
і – жаўцізною на траву.
Варона каркнула: – Пачва-р-р-р-а!

Чаго прыстала да мяне
старая, хітрая варона?
Мне й так нічога не наўме.
Не трэба мне твайго праклёну!

Іду па парку гарадскім.
Уздрыгнуў зноў, бы ад удару.
Варона голасам старым
сцябае зноў мяне: – Пачва-р-р-р-а!

Я знаю, што я не герой.
Чаго б хацеў я ў гэтым свеце?
Ў кіно прайсціся разам з ёй
і выпіць кавы ў буфеце.

Ёй каву – знаю – піць з другім,
хто смехам, жартамі славуты.
Я ж вечна буду нежывым,
і вечна піць мне... дум атруту.

Па парку гарадскім іду
сярод асенняга пажару.
Варон зноў бачу чараду.
Яны мне дружна ўслед: – Пачва-р-р-р-а!

*27/XI-2010*

## КЛЮЧЫ

Ззяе сонца зіхатліва,
абяцае ясны дзень.
Аддзяліўся ад свяціла
лёгкі сонечны прамень.

Ён упаў на снежны вожык,
што нясеш ты на плячы.
А ў тым вожыку – о Божа! –
майго шчасця ўсе ключы.

Ў гэтым свеце снежна-белым,
дзе падскоквае шчыгол, –
каб жа быў я трохі смелым,
збіў бы вожыка на дол.

Мы б на вожык іскрамётны
уранілі б звонкі смех.
І прыдумалі б мы потым...
Такое б выдумалі... Эх!

Ты ідзеш. З табою вожык
едзе на тваім плячы.
А ў тым вожыку – о Божа! –
майго шчасця ўсе ключы.

*27/XI – 2010 г.*

## ВЫПАДАК

Восень. Цемра і холад. Я з бібліятэкі
да вакзала іду праз агні.
Пачарнелыя дрогнуць не ліпы – калекі:
вецер з голля сарваў рызманы.

Запыніла мяне пажылая кабета:
– Завяду да дзяўчат маладых.
Дваццаць пяць я бяру за такую патрэбу. –
Я уздрыгнуў. Зацяла мне дых.

Нібы ляснула токам мяне прапанова.
Захапленне схапіла і жах.
Хварабянкі схапіць можна тут адмысловай,
што анучаю б’е па вачах.

У руках лаўкачоў яшчэ стану ахвярай.
Без стыпендыі жыць як тады?
Адхіліў я спакусу. Пад аблажнаю хмарай
два пуды пацягнуў я нуды.

На Таварнай крычалі гудкі паравозаў.
Хтось зваліўся ля гаража.
Чырванелі агні на вільготнай дарозе.
Дажджавая вісела імжа.

*29/XI – 2010 г.*

## УСПОМНІЦЬ ТОЛЬКІ…

Праз муць завейную і ашалелы змрок,
у снезе зыбкім прабіваючы дарогі,
машына хуткай медыцынскай дапамогі
к асфальту робіць свой рывок.

Па шклу б’е вецер кулаком сваім марозным.
Сталіца корчыцца у вогнішчы грыпозным.
Машына ўзяла ўпэўнена разгон.
Насустрач нам бяжыць абкатаны бетон,
бягуць снягоў палоскі.

Я ўспомніў інтэрнат, дзяўчат святочны рой.
Я толькі ў думках танцаваў тады з табой
пад вальса ўсплёскі.
Я і тады не меў ні атама надзеі.
. . . . . . . . . . . . . . . .
“Раф” прабіраецца праз вогнішча завеі.

*29/XI – 2010 г.*

## ПАДПОРА

Снег за акном. Урокі. Перапынак.
Цяплынь не уцякае з калідора.

Смех. Жарты. Зноў ты трапіла ў абдымак.
А я стаю... Хто ж я? Сцяны падпора.

Бэз за акном успыхнуў сінім дымам.
У калідоры шал жартоўнае вайны.
Ты, як заўсёды, – у абдымках і абдымках.
А я стаю... Падпора я сцяны.

Канікулы. Зноў матылькоў трымценне.
Ля хвоі я стаю у гушчы бору.
З табою зліўся я у летуценнях.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Хто ж я такі? Ат... нейкая падпора.

*30/XI – 2010 г.*

## ЦІЎ... ЦІЎ...

Чэрвень месяц. Поўдзень ясны.
Спевы жаўрукоў.
Задуменны сямікласнік
сцежкаю ішоў.

Пранізалі звонам пчолы
акіян святла.
Пад аховай частакола
бульба ўсцяж расла.

Квох-квох... Квохча ў бульбе маці
з роем куранят.
Жэўжыкам не разбягацца –
квохкае загад.

Маці павяла сямейку
праз лясы сцяблін.
Ад усіх адстаў маленькі
піскунок адзін.

На сцябліны, як на дрэвы,
натыкаўся ён.
Куды бегчы – ён не ведаў.
Смерць яго – ў палон.

Не дагледзела квактуха
дзіцяня свайго.
Разрывалася ад жаху
сэрцайка яго.

Пад аховай частакола –
бульбяны разлог.
Сямікласнік той маломý
памагчы не змог.

Пасівеў той сямікласнік –
гэта я ім быў.
Працінае мяне часам
галасок – ціў... ціў...

*30/XI – 2010 г.*

## КРЫКІ

### 1.

За кафедрай стаіць прафесар малады.
Студэнты слухаюць пра ток і правады.
І космас нам ужо не дзікі.
Снягі – за вокнамі. У зале цеплыня.
Часамі толькі кашлем дрогне цішыня.
І раптам – крыкі... крыкі... крыкі...

### 2.

Блакіт пылае над сталіцай залаты.
Вось плошча Круглая. Гарыць агонь святы.
Пылаюць макі і гваздзікі.
Легкавікоў шуршыць імкліва-роўны бег.
Рассыпаны вакол іскрыста-лёгкі смех.
І раптам – крыкі... крыкі... крыкі...

### 3.

Бягуць у паднябессе гонкіх хвой ствалы.
Раняюць жураўлі журботнае "курлы"
на асакі абсяг вялікі.
Тырчыць з пяску іржавы мінамётны ствол.
Дажджамі лісце апускаецца на дол.
І раптам – крыкі... крыкі... крыкі...

### 4.

Ты не мая! – крычыць душа мая.
І тыя крыкі чую толькі я.

*20/XII – 2010 г.*

## УЗЛЯЦЕЛА МАЯ МАРА...

Узляцела мая мара
караблём касмічным.

Карабель жа вакол шара
кружыць таямніча.

Ў караблі ты села смела
на мае калені.
Бачым мы зямное цела,
рэк даўжэзных вены.

Бачым зверху піраміды,
страусіны гоман.
А вунь нашы краявіды
і наш бацька Нёман.

“Нам не трэба акіяны,
дзе плыве акула.
Карабель наш на паляну
апускай!” – шапнула.

Карабель саджу на дрэва
і саджу на травы.
Асака шуміць налева,
буякі – направа.

Хвоі пахнуць бальзамічна,
скрыпяць іх суставы.
. . . . . . . . . . . .
Там, дзе карабель касмічны, –
нейкі пень трухлявы.

*20/XII – 2010 г.*

*Падрыхтаваў да друку Віктар ЖЫБУЛЬ.*

Вадзім Корань



...калі б мелася такая магчымасць,
хацелася б проста паціснуць яму руку і сказаць:
"Дзякуй, Паэт..."

# "Шлях мой самотны..."

***Да 70-годдзя з дня нараджэння паэта Васіля Гадулькі***

Паэтам нельга стаць. Паэтамі нараджаюцца. Толькі талент у кожнага паэта раскрываецца ў розны час: у кагосьці ў 16 гадоў, як у Арцюра Рэмбо, а ў кагосьці – пазней. Але для самой Паэзіі гэта няважна. Для яе важны вынік – вершы. Сапраўдныя. Пражытыя. Выпакутаваныя. І тады яна аддзячыць. Бывае, канечне, запозна, але...

Людзей заўсёды цікавіла не толькі творчасць, але і жыццё паэтаў, бо іх вершы і біяграфіі знітаваныя паміж сабой так цесна, што іх немагчыма развязаць. З цягам часу ў сусветнай літаратуры з'явілася, як дакладна азначыў П. Верлен, кагорта "выклятых паэтаў" – паэтаў, чыё жыццё было трагічна-безвыходным і ў чыёй творчасці гэтая трагедыйнасць праявілася занадта яскрава. Ф. Віён, Ш. Бадлер, П. Верлен, А. Рэмбо, С. Малармэ, Г. Апалінэр, Э.А. По... Да іх жа можна аднесці і беларускіх паэтаў Анатоля Сыса, Міколу Купрэева... Кожны з іх пакінуў за сабою свой непаўторны і ні з чым не параўнальны след. У гэтым шэрагу заняў сваё месца і Васіль Гадулька...

Паэт, у той ці іншай ступені, – прарок. Невядома якім чынам, але ён адчувае і прадчувае будучыню. Так, у свой час расійскі паэт М. Рубцоў напісаў:

Я умру в крещенские морозы,
Я умру, когда трещат березы...

Верш аказаўся сапраўды прарочым: аўтара не стала якраз на Вадохрышча – 19 студзеня 1971 г.



Васіль ГАДУЛЬКА

Васіль Гадулька, як сапраўдны паэт, таксама напрарочыў сабе свой лёс. Хаця, магчыма, ён проста адчуў яго сваёй трапяткою душою. Напрыканцы 1992 г., выконваючы просьбу супрацоўніц раённай бібліятэкі Жабінкі, ён уласнаручна напісаў аўтабіяграфію, у якой згадвае галоўныя, на яго думку, вехі свайго жыцця. Хацелася б прывесці яе цалкам: "*Гадулька Васіль Уладзіміравіч нарадзіўся ў 1946 годзе ў в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна ў беднай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў*[1]*, але на апошнім курсе, расчараваны ў прафесіі настаўніка, кінуў інстытут і працаваў доўгі час на будоўлі, потым – паляводам у мясцовым саўгасе. Вершы на расейскай мове пачаў пісаць яшчэ ў школе. Друкавацца не спрабаваў, лічачы гэтае сваё захапленне паэзіяй, як пазней замежнымі мовамі – нямецкай, англійскай, італьянскай, французскай і польскай – толькі асабістым сваім хобі. Прыкладна з 1985 года пачаў пісаць па-беларуску. Вершы друкаваліся ў раённай газеце "Сельская праўда", абласной – "Заря", двойчы ў зборніку "Дзень паэзіі" і ў штотыднёвіку "ЛіМ". Рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў: зімой 1992 года, у страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, незразуметы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр і пахаваны на могілках в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна*[2]". Як пазней згадваў сябра В. Гадулькі, берасцейскі паэт В. Сахарчук, падчас напісання гэтай карацэнькай аўтабіяграфіі аўтар не ведаў, як яе завяршыць і вырашыў пажартаваць. Але жарт напаверку аказаўся сумнай праўдай. Праўда, памыліўся Гадулька ў сваім прароцтве "ўсяго" на паўгода.

Пра жыццё і творчасць В. Гадулькі за апошнія дзесяць гадоў напісана шмат, у тым ліку людзьмі, што асабіста яго ведалі. Іх успаміны, хоць і сціслыя, але надзвычай цікавыя, бо дазваляюць па крупінках сабраць інфармацыю, якая дапамагае лепш зразумець В. Гадульку і як творцу, і як чалавека, прасачыць, наколькі магчыма, яго жыццёвы шлях. Так, неацэннымі з'яўляюцца ўспаміны М. Купрэева, які па-мастацку, з уласцівым яму талентам апісаў першую сустрэчу з Гадулькам: бедную, калі не жабрацкую, хату, хворага паэта:

"...І я кажу: "Васіль!"

Ён слаба ссоўвае з сябе футра, сядае на край ложка, ціха пытаецца: "Хто вы?"

Называюся.

Васіль заўсміхаўся, устаў з ложка, я падышоў да яго, мы абняліся...

...Амаль нічога не казаў. Глядзеў на мяне, цёпла ўсміхаўся. Але я бачыў: усмешка самотная..."[3].

Нават гэты, на першы погляд, звычайны, бытавы ўрывак гаворыць пра В. Гадульку вельмі шмат: шчыры, прыстойны, сарамлівы, інтэлігентны...

Пра паэта Васіля Гадульку мы даведаліся дзякуючы В. Сахарчуку, які даволі высока ставіў яго талент, называў "паэтам з Боскай ласкі" і надта рупіўся пра выданне яго вершаў. Менавіта Сахарчук і прымусіў сарамлівага Гадульку падрыхтаваць рукапіс вершаванага зборніка, які адаслаў (адмыслова ўкладзены,

ён называўся вельмі прыгожа – “Кропелька сонца”) у Мінск для выдання ў бібліятэцы часопіса “Маладосць”. Ён жа напісаў да яго выключную прадмову. На вялікі жаль, па невядомых прычынах зборнік не выйшаў кнігаю пры жыцці аўтара, а застаўся ляжаць ў шафе рэдакцыі часопіса. В. Сахарчук цяжка гэта перажываў і нават у вершы 1995 г. “На вакзале з Міколам Купрэевым” з сумам і роспаччу пісаў:

Дрогкая рука кладзе поруч
белыя аркушы,
ад якіх пахне
прэлым лісцем,
бацькоўскай хатай
і рукапісам нявыдадзенай кнігі
майго сябрука Васіля Гадулькі[4].

На жаль, В. Сахарчук не змог парадавацца выхаду і пагартаць шматпакутны зборнік вершаў свайго сябра – ён сышоў з жыцця на пачатку 2003 г. А ўжо ў наступным, 2004 г., праз 11 гадоў пасля таго, як рукапіс быў адасланы ў сталіцу, у РВУ “Літаратура і мастацтва” пабачыла свет кніга вершаў В. Гадулькі пад назваю “Голас”[5]. Кніга складаецца з дзвюх частак: у першай змешчаны ўспаміны пра паэта людзей, якія яго добра ведалі, – В. Сахарчука, А. Каско, А. Ганчука, М. Купрэева, – і прадмова ўкладальніка зборніка Л. Галубовіча, у якой ён распавядае гісторыю пра тое, як адшукаўся рукапіс нявыдадзенай Гадулькавай кнігі; у другой – вершы, паэма і вянок санетаў В. Гадулькі. Дзякуючы выданню гэтай кнігі, якая атрымалася своеасаблівым помнікам паэту, прыхільнікі прыгожага пісьменства змаглі ўбачыць на небасхіле беларускай паэзіі яшчэ адну яскравую зорку.

В. Гадулька быў выхаваны не толькі на беларускай і рускай, але і на класічнай еўрапейскай літаратуры, прычым не на перакладах, а на арыгіналах твораў. Вельмі часта (калі не заўсёды) мы, па вялікім рахунку, чытаем не аўтара, а перакладчыка, яго асэнсаванне твора, таму адзін і той жа твор у розных перакладах выглядае па-рознаму. Дзякуючы сваёй адукацыі, В. Гадулька не толькі чытаў у арыгінале нямецкую, англійскую, французскую паэзію і прозу, што, безумоўна, ўплывала на яго творчасць, але і пісаў вершы на замежных мовах. На жаль, мы не ведаем дакладна, якія менавіта кнігі чытаў паэт. Але цікавы факт: у сваіх успамінах пра сустрэчы з В. Гадулькам А. Ганчук згадвае, што той нават падчас вайсковых збораў чытаў “раман на французскай мове”. Што гэта быў за раман, аўтар успамінаў не ўдакладняе, але нават па гэтай непрыкметнай згадцы можна зрабіць выснову і пра кругагляд, і пра патэнцыял паэта.

В. Гадулька – паэт узорна-класічны. Ён не лічыў патрэбным пісаць “па-моднаму” белым вершам або верлібрам, а, працягваючы традыцыі М. Багдановіча, выкарыстоўваў, акрамя звыклых паэтычных формаў, і трыялет, і санет, і нават вянок санетаў, які, шчыра кажучы, зможа напісаць не кожны. У свой час А. Сыс у адным з інтэрвью даволі эпатажна, але з веданнем справы так адказаў на пытанне пра патрэбнасць складанасці ў паэзіі: “...як ні выпендрывайся, усё адно прыйдзеш да самага простага – чатырох вершаваных радкоў, якія толькі і ёсць у паэзіі”[6]. Падаецца, што В. Гадулька дакладна разумеў гэта ад самага пачатку свайго творчага шляху. Таму яго вершы маюць рытм сэрца, вытанчаную, парою нечаканую, рыфму і глыбокі сэнс. Яны самотныя, журботныя, але ў той жа час напоўненыя ціхім святлом, як летняя раніца, калі ўзыходзіць сонца і асвятляе родны кут: лес, поле, сад, вясковыя хаты і нават могілкі, дзе спачываюць продкі. Тады, пасля змроку кароткай, але цёмнай ночы ўсё бачыцца такім, як ёсць.

Стаіць, нібыта заварожаны,
лес у вячыстым характве.

На ўскрайку – стомлены, здарожаны –
спіць ветрык у сухой траве.

Плывуць хмурынкі ў золкай просіні.
Туман – як прывід над ракой.
Паўсюль прыкметы блізкай восені,
і ў сэрцы восеньскі спакой[7] (с. 20).

Творчасць В. Гадулькі цесна знітавана з ягонай біяграфіяй. Ён неверагодна шчыры ў сваіх вершах. У іх знаходзіла адбітак усё, што адбывалася ў жыцці паэта. Блізкай для В. Гадулькі была тэма смерці. А каго яна, шчыра кажучы, не хвалюе? Праўда, кожны асэнсоўвае яе па-свойму, у сілу свайго жыццёвага вопыту. У В. Гадулькі такога вопыту было больш чым дастаткова: на ягоных вачах брат трапіў пад колы трактара; ён клапаціўся пра хворую маці, смерць якой пакінула вялікі след у ягонай творчасці – гэтая сумная падзея адлюстравана ў вершах “30 верасня 1990 года”, “На магіле маці”, “На могілках”, “Пакінуты дом на вачах старэе”. Немагчыма без эмоцый і спачування чытаць напоўненыя болем радкі. Паэт вершамі выплакаў сваё гора:

Ты чуеш, маці? Сын з табой гаворыць...
...О, калі б ты магла ў хвіліну гэту
Паслаць мне суцяшэнне з таго свету... (с. 25).

Магчыма, паэзія дапамагла яму, спакутаванаму, пакінутаму і адзінокаму, перажыць, наколькі магчыма, балючую страту і пакласці свой – паэтычны – вянок на магілу блізкага чалавека.

Але ў сваіх зусім не пазітыўных роздумах пра чалавечае жыццё В. Гадулька, аднак, не губляе надзеі, без якой само існаванне ў гэтым свеце падаецца бессэнсоўным. Самому ж паэту патрэбна ўсяго яе кропелька:

Кроплю надзеі! Не трэба мне лішняга.
А без яе не магу
нават аб смерці маліць Усявышняга,
перад якім не ілгу (с. 50).

Рэлігійная тэматыка, а дакладней, спроба зразумець прысутнасць Бога ў жыцці, зрэдзьчасу з’яўлялася ў творчасці паэта. Ці верыў ён? У атэістычны савецкі час, калі ішло змаганне з рэлігіяй, закрываліся або знішчаліся храмы, касцёлы, манастыры, маладым людзям, якія выхоўваліся ў камсамольскіх традыцыях, дайсці да Бога было цяжка, але ўсё ж магчыма. Відаць, таму ў хаце В. Гадулькі нават у той час вісеў абраз Хрыста Збаўцы, што не магло быць выпадковасцю. У вершы “Вялікдзень”, які напоўнены светлай радасцю, бо “Хрыстос-пакутнік уваскрэс”, паэт звязвае свята Вялікадня з вясною, якая ажывіла зямлю пасля сцюдзёнага зімовага панавання. Таму менавіта ў вусны вясны, як сімвала адраджэння жыцця, укладаюцца праўдзівыя і аптымістычныя словы:

...Жывіце ў згодзе –
І там, дзе звіў гняздо адчай,

дзе блёкат хцівасці і злосці
труціў пачуццяў першацвет,
узыдуць кветкі прыгажосці,
якая выратуе свет... (с. 16).

Але адносіны В. Гадулькі з Богам зусім не простыя, як, дарэчы, і ў іншых паэтаў. У свой час М. Купрэеў у вершы “Кожны нясе свой крыж” скрушліва, не

спадзеючыся на адказ, пытаў: “Як мне крыж свой падняць, // на спіну палажыць? // Як Усявышняга збыцца праклёну?”. В. Гадулька ж не задае пытанняў, а проста канстатуе:

...там душы судзіць Боскі Суд людскія,
там праўда, да якой наш свет – глухі,
там я хоць ведаць буду, за якія
павінен я пакутаваць грахі (с. 68).

Гэтая канстатацыя з вуснаў паэта гучыць бескампрамісна і нават патрабавальна. Ён павінен ведаць прычыну сваіх пакутаў, якіх на ягоным жыццёвым шляху сустрэлася безліч, і шукае адказ там, дзе, на яго думку, ён павінен быць – ва Усявышняга. Калі надта цяжка, чалавек заўсёды звяртаецца да Бога, шукае ў Яго суцяшэння і надзеі. А для паэта, што жыве спадзяваннем на праўду і справядлівасць, Бог і ёсць Праўда. Перад Богам ён шчыры, таму і заўважае, што “перад Богам чаго мне саромецца // сэрцу нанесеных ран?” (с. 50).

Чалавечае жыццё складаецца з многіх важных частак, сярод якіх найгалоўным ёсць каханне. Многія класічныя вершы і паэмы пісаліся аўтарамі пад уплывам гэтага чароўнага пачуцця. Але каханне можа зрабіць жыццё яскравым і радасным, а можа ўкінуць у хвалі безнадзейнасці і самоты. Любоўная лірыка В. Гадулькі напоўнена шчымлівым болем ад няздзейсненых спадзяванняў. Ён кахаў, але не ўзаемна. Не атрымалася стварыць сям’ю з каханай – і ён жыў адзін, выліваючы сваю тугу ў вершах.

...я ў сваіх нашчадках не ўваскрэсну:
кожны з нас – апошні на Зямлі (с. 9), –

скрушліва пісаў паэт. Гэтак і сталася. Ён не пакінуў нашчадкаў, зрэшты, як і Янка Купала, М. Багдановіч, У. Караткевіч, А. Сыс... Хто ведае, магчыма, гэта плата такая за талент, а, быць можа, проста збег жыццёвых абставінаў. У кожнага свой лёс... Але нельга адмаўляць, што менавіта каханне, хоць яно і не было шчаслівым, натхніла паэта на напісанне самых шчырых, пранізлівых, але разам з тым напоўненых безвыходнасцю вершаў:

Не выдумляй, што для цябе я не памру –
што ў сэрцы буду жыць тваім бясконца:
жывы ў жыцця бясхмарную пару
пагляд свой цягне ўверх – туды, дзе сонца,
а не туды, дзе бездань цемры, дзе
ляжаць я буду ў цеснай дамавіне.
Але ў вялікім смутку ці ў бядзе,
калі апошні друг цябе пакіне,
калі адчай жыцця нам голаў долу гне
і цісне ўніз нясцерпных крыўд навала –
успомніш ты аднойчы пра мяне,
якога ты сама не ўратавала... (с. 60).

Тэма кахання ў творчасці В. Гадулькі цесна знітавана з тэмаю смерці, болю, растання, што выразна відаць у вершах “Усміхніся”, “Санет першы”, “Санет другі”, “Пры сустрэчы усміхнешся ты...”, “Рака”, “Свет адмовіў паэту ў каханні...”, “Развітанне”, “Спаткаў не ў пару. Закахаўся наўдачу...”, а таксама ў “Паэме без назвы”. Квінтэсенцыя Гадулькавага болю – радкі “*І горычна ў сэрцы, і ў думках – зайздросна. // І нельга памерці, і жыць невыносна*” (с. 58).

Асобныя даследчыкі мяркуюць, што “першае памкненне даследчыка – паспачуваць гаротнаму паэту. Сапраўдны даследчык не бывае бяздушным, але нельга абмяжоўвацца пачатковым крокам, каб не патрапіць у пастку ўсёпаглынальнага

і таму бяздумнага трагізму, куды нас міжволі запрашае Гадулькава лірыка"[8]. Трагізм жа ў паэзіі В. Гадулькі непарыўна звязаны з яго складаным, часта вельмі несправядлівым і зусім не радасным жыццём. Таму "ўсёпаглынальны трагізм" не "бяздумны", а пражыты, адчуты, выпакутаваны і ўсвядомлены. І такім чынам збудаваны Гадулькаў паэтычны свет поўны болю, расчаравання, стратаў, але ўсё ж не пазбаўлены надзеі...

У сваёй творчасці В. Гадулька выкарыстоўваў і вобразы даўно вядомыя, якія сталі пэўнымі архетыпамі. Так, у вершы "Вэртэр, Ева і Дон Жуан" ён зводзіць у адной мастацкай прасторы рамантыка Вэртэра, галоўнага героя рамана Ё.В. Гётэ, Еву і распусніка Дон Жуана. Мабыць, залішне будзе казаць, што ў трактоўцы В. Гадулькі –

Рагочуць, радуюцца ў пекле д'яблы:
зноў рогі Вэртэру наставіў Дон Жуан.
І не спатрэбіўся яму біблейскі яблык,
каб спакусіць яе на грэх і на падман[9].

Паэт у вершы разбіў адносіны на ролі, і ў гэтым, напісаным ім самім, сцэнары адвёў сабе ролю трагічнага рамантыка. У Вэртэры, пачуцці і вернасць якога былі высмеяны больш удалым і нахабным праціўнікам, аўтар выяўляе сябе, бо наўрад ці ў сілу свайго характару змог бы стаць Дон Жуанам. Менавіта ён – трэці лішні ў любоўным трохкутніку. Матыў "трэцяга лішняга" раз-пораз усплывае ў творчасці паэта.

Зноў ты з ім разам, а я – трэці, лішні.
Лішні, але ад цябе ні на крок
Не адыду... Сам сабе ненавісны... (с. 47).

Аднак жа надзея застаецца ў душы. У адным са сваіх апошніх вершаў "Развітанне", рукапіс якога паэт за тры дні да смерці перадаў В. Сахарчуку, ён выказвае спадзяванне, што ягонае каханне пераможа смерць і нарэшце стане ўзаемным:

...Сустрэнемся мы ў іншым тым жыцці,
дзе нас з табой нішто ўжо не разлучыць (с. 62).

Нешчаслівае, не ўзаемнае каханне балючае для любога чалавека, а найбольш – для паэта, які адчувае кожную фальшывую ноту ў сімфоніі гэтага грэшнага свету. Што было на сэрцы ў В. Гадулькі – мы можам толькі здагадвацца... Але нам засталіся ягоныя вершы – згустак тых перажыванняў, самотная песня душы, шчырая споведзь паэта.

В. Гадулька – паэт не публічны, не калектыўны. Нездарма заўважана, што ў гісторыі літаратуры, як і ў жыцці, ён трымаецца асобна ад іншых[10]. Ён – паэт пачуцця, эмоцыі, адчування і адзіноты. Але ён не змог абысці сваёй увагаю тагачасныя палітычныя і сацыяльныя змены ў грамадстве, якія адбыліся ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг. Ягоныя вершы, прысвечаныя тым падзеям ("Голас", "Наверсе "за" – і ён таксама "не супроць"), маюць, безумоўна, выкрывальніцкі настрой.

...прызнала ўсе свае памылкі партыя.
Прызнала, і сваім прызнаннем шчырым
зняла з сябе віну: такі быў час...[11]

Паэт не мог не адгукнуцца на актуальныя тагачасныя падзеі: ён паспрабаваў мастацкім словам выкрыць заганы, бо ўжо было вядома і пра тых, "хто шлях свой скончыў у Сібіры", і пра "Лубянку! Курапаты! Калыму!" Несумненна ведаў

В. Гадулька і пра лёсы М. Гарэцкага, В. Ластоўскага, У. Жылкі, У. Дубоўкі, які, хоць і вярнуўся з 27-гадовай высылкі і нават атрымаў Літаратурную прэмію імя Янкі Купалы ў 1962 г., але так, відаць, і не здолеў забыцца на цяжкія дзесяцігоддзі ўдалечыні ад Радзімы, і многіх іншых (не толькі пісьменнікаў і вучоных), рэабілітаваных (многія –пасмяротна) у другой палове 1950-х. Безумоўна, верш (які нездарма мае назву "Голас", бо ўкладзены ў вусны апалагета савецкага ладу) мае іранічны, калі не саркастычны, характар. "Такі быў час..." не можа быць апраўданнем шматлікіх ахвяр, бо кожная ахвяра – гэта чалавек са сваімі марамі, надзеямі, памкненнямі, а не проста звычайная статыстыка. А хто гэта адчуе лепш за паэта?

Сапраўды, паэзія В. Гадулькі сумная і трагічная: няпростае жыццё, як у люстэрку, адбілася ў ягоных вершах. Але лёс усё ж не здолеў зламаць паэта. Раз-пораз з-пад яго пяра выходзілі гумарыстычныя байкі, якія вылучаліся сваёй арыгінальнасцю, дасціпнасцю, цікавасцю, павучальнасцю[12].

Байкі звычайна выкарыстоўваюцца аўтарамі, каб з дапамогай алегорыі сатырычна або гумарыстычна выкрыць заганы грамадства. Гэты жанр у сваёй творчасці выкарыстоўвалі і Ф. Багушэвіч, і Янка Купала, і Якуб Колас, і М. Багдановіч, і, асабліва, К. Крапіва. В. Гадулька выдатна працягнуў традыцыі славутых папярэднікаў. Па-добраму пакепліваючы са сваіх герояў, ён узнімае сапраўды важныя праблемы: каханне, узаемаразуменне, роўнасць у адносінах паміж людзьмі. Так, напрыклад, у байцы "Упарты гаспадар" аўтарам выкрываецца прага чалавека да ўлады. Здаецца, людзі могуць дамовіцца адзін з адным, каб працаваць разам, але не заўсёды гэта атрымліваецца, бо нехта абавязкова хоча быць "з пугай":

Разумны ты ў мяне, –
той шчыра адказаў, –
і гэта мне надзвычай даспадобы.
Але каб я табой без пугі кіраваў?
Каб я з табой на роўных?
А хваробы! (с. 91).

Тэма нешчаслівага кахання, якая чырвонай ніткай праходзіла праз многія вершы В. Гадулькі, знайшла сваё адлюстраванне і ў ягоных байках. Так, у байцы "Недатыка" распавядаецца, як Матылёк пакахаў Валошку, саромеўся з ёю пазнаёміцца, але, набраўшыся смеласці, пацалаваў яе. Валошка ж, доўга чакаўшы прызнання, абразілася... А ў выніку, як часта бывае:

...суседская Свіння,
Валошку ўгледзеўшы ў траве, насупраць села.
"Якое хараство! Якая чысціня!" –
усклікнула і Недатыку з'ела (с. 96).

У байцы "Самакрытычная ліса" В. Гадулька творча перапрацоўвае знакаміты сюжэт пра лісу і варону: ён ставіць старых знаёмых ва ўмовы новай сустрэчы ў тых жа самых абставінах. І зноў ліса аказваецца разумнейшай і хітрэйшай за варону:

Ліса, вядома, – хітры звер.
Яна табе ў цяперашніх умовах
Хоць сто разоў пакаецца – на словах.
А ты, Варона, слухай, ды не вер (с. 93).

Байкі В. Гадулькі на дзіва актуальныя і сёння. А гэта – паказчык незвычайнай таленавітасці і майстэрства. Паэт не пазбягае вострасацыяльных тэмаў, а, наадварот, шчыра выказвае сваё стаўленне да іх. Так, байка "Мікітава хвароба" прысвечана важнаму пытанню – чысціні сумлення: калі чалавек займае адказную пасаду, то не можа не папсаваць сабе нервы, бо:

...бясконцыя праверкі, рэвізоры...
Праз іх я, у рэшце рэшт, такі зрабіўся хворы,
што ўжо не п'ю, не ем і трызню ў сне... (с. 92),

а калі пераходзіць на працу, звязаную з больш спакойнай дзейнасцю, то:

...ужо ніводная мяне праверка не чапае,
і маю добры апетыт, але цяпер
мне на харчы зарплаты не хапае (с. 92).

А ў байцы "Пенсійны ўзрост" аўтар разважае на тэму, вельмі блізкую многім людзям – справядлівая ацэнка працы. Сабака, усё жыццё прасядзеўшы на ланцугу, верна служыў гаспадару, пастарэў і вырашыў пайсці на пенсію. Кот, якому той "не даваў праходу", абурыўся, бо лічыў, што працаваў больш за сабаку.

Патроху кот так распусціў язык, як хвост,
і нават вырашыў унесці прапанову,
даволі смелую: "Пенсійны ўзрост
лічу магчымым павялічыць напалову!" (с. 98).

Аўтар, ведучы з чытачом адмысловую гутарку, выказвае думку: той, хто працаваў толькі лежачы на печы, нават не паспрабуе зразумець таго, хто паклаў на цяжкай працы сваё здароўе.

Дарма што мы з табой, чытач, на жаль,
без байкі часам відавочнага не бачым,
а мо знарок
адводзім вочы ўбок,
наўмысна ставячы ў адзін радок
кацінае жыццё з жыццём сабачым? (с. 98).

На жаль, колькасць вядомых на сёння баек, напісаных В. Гадулькам, невялікая – не больш за дзесяць. Але ў іх мы бачым паэта зусім іншым. Калі ў вершах ён сур'ёзны, разважлівы, самотны, то ў байках – нязвыкла вясёлы, усмешлівы, дасціпны.

У Гадулькавых байках, як жанрава і патрабуецца, заўсёды прысутнічае павучальны аспект. Але аўтар нават не спрабуе стаць маралізатарам, наадварот, ён імкнецца акрэсліць праблему, высмеяць яе і, наколькі магчыма, паспрабаваць выправіць тую заганнасць.

Паэт адзначае ў аўтабіяграфіі, што пачаў пісаць вершы яшчэ ў дзяцінстве, але па-расійску, і свядома перайшоў на беларускую мову толькі ў 1985 г. Такім чынам, усяго за 8 гадоў ён змог дасягнуць такога ўзроўню, пра які многія паэты толькі мараць. Але ў аўтабіяграфіі не ўказаны той факт, што ў 1986 г., будучы на нарадзе маладых пісьменнікаў у "Іслачы", ён разам яшчэ з 27-ю літаратарамі паставіў свой подпіс пад лістом у абарону беларускай мовы. Відаць, не мог не падпісацца... А. Федарэнка, адзін з удзельнікаў той нарады, у свой час пісаў: "Чытаючы цяпер пра Гадульку, дзіву даешся, колькі ўвагі адводзіцца менавіта таму, падпісанаму ім некалі, як на цяперашні час і розум – абсалютна бяскрыўднаму, наіўнаму лісту да Гарбачова. І не разумееш: як такая малюсенькая нязначная дэталька магла паўплываць на лёс чалавека, літаральна – на жыццё і смерць яго"[13]. Але паўплывала. Праз той подпіс В. Гадулька пазней меў шмат непрыемнасцяў і нават быў выкліканы для прафілактычнай гутаркі ў Брэсцкі абкам партыі. Колькі ж гэта каштавала нерваў і перажыванняў ранімаму паэту, асабліва, калі ведаць, што магчымая прычына, па якой ён не змог давучыцца ў інстытуце замежных моў – сустрэча з грамадзянінам усходняй Германіі ў рэстаране, куды той запрасіў яго на знак павагі за выдатнае валоданне нямецкай мовай...

Беларускіх пісьменнікаў заўсёды хваляваў лёс роднай мовы. У свой час яе апявалі ў вершах Янка Купала, Максім Танк, У. Дубоўка, Л. Геніюш, П. Панчанка, У. Караткевіч, Р. Барадулін, Н. Гілевіч і многія-многія іншыя. Не магло не хваляваць гэтае важнае пытанне і В. Гадульку. Пасля смерці паэта ў ягоным архіве быў знойдзены невялікі артыкул пад назвай "На якой мове мы размаўляем?" Напісаны неразборлівым почыркам на трох аркушах, вырваных са звычайнага вучнёўскага сшытка, ён уключаў у сябе мноства правак, зробленых аўтарам і толькі яму зразумелых. Магчыма, аўтар рыхтаваў публікацыю для аднаго з перыядычных выданняў Берасцейшчыны, толькі гэты артыкул так ніколі і не быў надрукаваны пры ягоным жыцці.

Пачынаючы ў артыкуле гутарку з дыялектаў, што вельмі істотна для Берасцейшчыны, дзе пануе палескі дыялект, які вельмі адрозніваецца ад беларускай мовы радыё і тэлебачання, В. Гадулька плаўна пераходзіць да літаратурнай мовы і балючай праблемы яе выкарыстання ў жыцці грамадства. Дасканала валодаючы нямецкай мовай, ён прыводзіць у прыклад Германію, дзе "*як вядома, існуе таксама некалькі дыялектаў, якія яшчэ ў большай ступені адрозніваюцца адзін ад другога, – а ці знойдзеце вы хоць аднаго немца, які б не ведаў нямецкай літаратурнай мовы або не мог ёй карыстацца? Упэўнены, што не знойдзеце*"[14]. Па-інтэлігенцку становячыся на абарону роднай мовы, В. Гадулька спрабуе словам пераканаць апанентаў, што веданне і выкарыстанне беларускай літаратурнай мовы ў жыцці – гэта "*не толькі прыкмета культуры чалавека або яго адукаванасці, але і надзённая неабходнасць*"[15].

Сёння (больш чым праз 20 гадоў пасля напісання артыкула) можна пачуць меркаванні, маўляў, навошта тая беларуская мова, дзецям цяжка яе вучыць, лепш хай яны вучаць англійскую... На гэта В. Гадулька, насуперак такім выказванням, дае даволі просты, але ў той жа час вельмі змястоўны адказ: "*Трэба верыць у разумовыя здольнасці дзетак...*"[16] І працягвае сваю думку, пацвярджаючы яе прыкладам з гісторыі: "*Калісь у дваранскіх сем'ях дзяцей вучылі з дзяцінства некалькім замежным мовам, – і потым большасць з іх усімі імі цудоўна валодала. Нам, дарослым, цяжэй, але ж і мы пры жаданні заўсёды зможам авалодаць – не замежнай, а ўсяго толькі мовай таго народа, да якога належым самі, на зямлі якога жывём, зямля якога – наша зямля і мы на ёй не бязродныя дзеці. Каб ніхто не зняважыў нас папрокам, быццам у нас нават мовы сапраўднай няма, што размаўляць мы можам толькі на чужой мове або на дыялекце – на якім не напішаш не тое што паэму, а нават і заяву свайму апрыкламу начальніку*"[17].

За некалькі месяцаў да сваёй смерці ў 1956 г. Якуб Колас напісаў знакаміты ліст у абарону беларускай мовы ў ЦК КПБ. У тым лісце класік беларускай літаратуры нават у той складаны час імкнуўся ўзняць моўнае пытанне на ўзровень ЦК. Не паспеў. Вядома, што цяжка параўнаць важкасць і ўплывовасць народнага паэта Беларусі, віцэ-прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Якуба Коласа і невядомага паэта з вёскі Федзькавічы В. Гадулькі. Але і першы, і другі, хоць і ў розны час, але рабілі агульную справу – яны імкнуліся звярнуць увагу на гаротны стан беларускай мовы і зрабіць яе для беларусаў сапраўды роднай. І рабілі гэта ў першую чаргу сваёй творчасцю.

Гэты прысвечаны мове артыкул, пэўна, адзіны ў публіцыстычнай спадчыне В. Гадулькі. Ён не мае датоўкі, але настолькі актуальны, ажно не верыцца, што напісаны яшчэ ў мінулым стагоддзі. З цяжкасцю (здаецца, аўтар і сам не спадзяваўся, што калі-небудзь ён будзе надрукаваны), але ён дайшоў да чытача і з'яўляецца сталым дадаткам да творчай біяграфіі паэта.

Апошнія дні В. Гадулькі назаўсёды застануцца загадкай: пра што ён думаў? што адчуваў? што было ў яго на сэрцы ў той сонечны чэрвеньскі дзень? Але ўсё ж такі, дзякуючы сведчанням людзей, якія яго ведалі, мы можам убачыць адно

кароткае імгненне з апошняга дня паэта: “Сонца нізка схілілася да гарызонту, калі рэдакцыйныя “Жыгулі” спяшаліся ў гараж. Траса была роўная, і аўтамабіль бег лёгка. У Федзькавічах, на Гадулькавым двары, я ўбачыў Васіля: ён стаяў ля клёна і пільна ўглядаўся ў крону дрэва, якую ледзь пазалаціла сонца.

Карцела запыніцца, спытаць, што ён хоча ўбачыць у зялёнай лістоце, ды часу было ў абрэз. Не запыніліся, не спыталі, а зранку дайшла вестка: ноччу Гадулькі не стала”[18].

На думку адразу прыходзіць верш паэта, прасякнуты адзінотай, сумам, і ў той жа час напоўнены летуценнай надзеяй:

Ранкам клён зялёны на маім падворку
дзіўную з лагодным ветрам меў гаворку:
“Дружа мой крылаты! Ветру хутканогі!
Бачыш: там на ўскрайку лесу, бліз дарогі,
расцвіла чаромха ў вэлюме вясельным?
Прыляціш – напоіць гаркавата-хмельным
водарам пялёсткаў, белых – як сняжынкі,
што ўсыпаюць пухам сцежкі і сцяжынкі...
Ты з ёй прывітайся, ты з ёй пазнаёмся.
Скаргу майго сэрца раскажы чаромсе.
Соладка ў палоне мар і летуценняў
дзён чакаць пагодных, а ў пару цвіцення
я ўдвая самотны. Крыўдна мне і горка
пазіраць удалеч са свайго пагорка
на яе ў святочным, сонечным убранні,
аб нязбытным з ёю марачы спатканні.
Бо хоць і даўно я да яе імкнуся,
ды такі ўжо лёс мой: з месца не скрануся...
Папрасі, скажы ёй, сціплай і нясмелай:
хай мне хоць хусцінкай памахае белай” (с. 45).

У вершы, відаць, вядзецца гутарка пра той самы клён, у лістоту якога гэтак пільна ўглядаўся паэт. Той клён на падворку быў сведкам нядоўгага жыцця В. Гадулькі: ён бачыў Васіля дзіцём, якое спяшаецца на заняткі ў школу, юнаком, які ў час вучобы ва ўніверсітэце прыехаў на канікулы да маці, сталым мужчынам, што ранкам выходзіў на працу, бачыў ягоныя радасці і нягоды... І вось у апошні надвячорак свайго зямнога жыцця паэт нібы развітваўся з клёнам – сваім даўнім сябрам...

Наколькі вядома, сваякі В. Гадулькі пасля ягонай смерці прадалі хату і цяпер там размяшчаецца крама хуткага харчавання. Цяпер туды заходзяць выпадковыя здарожаныя людзі, а “клён зялёны на падворку” жыве тымі ж даўнімі ўспамінамі пра свайго паэта...

Паэт, блізкі па таленту да ўзорных нацыянальных лірыкаў *чыстай красы*, не павінен быў знікнуць у невядомасці. І так сталася, што В. Гадулька заняў сваё пачэснае месца ў гісторыі літаратуры. На сённяшні дзень, акрамя розных часопісных публікацый[19] і публікацый у зборніках[20], свет пабачылі тры кнігі Васіля Гадулькі. У 2004 г. выйшаў зборнік “Голас”, пра які гаварылася вышэй і які цяпер ужо стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. У 2008 г. выдавецтва “Мастацкая літаратура” падрыхтавала калектыўны зборнік паэзіі “Незабыўныя галасы”[21], дзе, акрамя адмыслова ўкладзеных вершаў В. Гадулькі, якія можна лічыць паўнавартаснай кнігай, змешчаны выбраныя творы А. Сыса, В. Стрыжака, І. Рубіна і М. Купрэева. І, нарэшце, у 2016 г. ў Бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа” свет пабачыла найбольш поўнае на сёння выданне твораў В. Гадулькі “Па-над сцежкай лёсу”[22], прымеркаванае да яго 70-годдзя. Хочацца выказаць шчырую падзяку тым людзям, што прымалі ўдзел у падрыхтоўцы да выдання гэтых кніг,

якія сталіся сапраўдным помнікам таленавітаму паэту. Цяпер, калі шматпакутныя вершы дайшлі да ўдзячнага чытача, В. Гадульку можна назваць сапраўдным класікам беларускай літаратуры. Напачатку артыкула мы згадалі аўтабіяграфію паэта і прароцтва ў ёй. Хочацца прыгадаць апошнія, таксама прарочыя, радкі з санета “Свет адмовіў паэту ў каханні”:

...Неўзабаве ў прыгожым выданні
Яго шчырыя сэрца прызнанні
Цэлы свет з заміраннем чытаў.
Свет адмовіў паэту ў каханні,
А самога ўсё роўна прызнаў (с. 64).

Так, свет сапраўды прызнаў паэта – нават вуліца яго імя з’явілася ў Жабінцы. І нават не адно “прыгожае выданне” змясціла ў сабе ягоныя вершы. Але дужа шкада, што прызнаў занадта позна... Відаць, такі ўжо лёс паэта – быць зразуметым і прызнаным пасля смерці: многіх творцаў прызналі толькі пасля іх адыходу з жыцця, тых жа А. Рэмбо і Э.А. По, Ф. Кафку...

18 мая 2016 г. Васілю Гадульку магло б споўніцца 70 гадоў. Думаецца, што ж ён мог яшчэ зрабіць для беларускай паэзіі? Напэўна, шмат. Цудоўны паэт – тонкі лірык, які адчуваў і прыроду, і чалавека, – выдатны байкапісец, шчыры і прыстойны чалавек... Ён ведаў замежныя мовы, але мы, на вялікі жаль, не маем у ягоным перакладзе твораў сусветнай літаратуры. В. Сахарчук згадваў, што яны з В. Гадулькам па прынцыпе тандэма збіраліся перакладаць Э.А. По на беларускую мову. Калі б гэтай задуме было дадзена спраўдзіцца, мы б сёння мелі выдатныя пераклады твораў амерыканскага паэта. Што праўда, В. Сахарчук паспрабаваў ажыццявіць тую ідэю і нават пераклаў знакаміты верш По “Крук”, які быў апублікаваны ў ягонай пасмяротнай кнізе “Мой вечны бор” (Мінск, 2004 г.). Але, відаць, без удзелу такога выдатнага знаўцы моваў, як В. Гадулька, справа, на жаль, не займела працягу. Шмат твораў цікавых, таленавітых паэтаў (ды і празаікаў) маглі б чытаць беларусы на сваёй роднай мове ў Гадулькавым перакладзе. Але гэта так і застанецца нязбытным жаданнем.

Якім бы быў Васіль Гадулька цяпер? Ніхто гэтага не ведае. Але ёсць упэўненасць, што ён бы не здрадзіў ані свайму таленту, ані сваёй чалавечай годнасці...

Чамусьці, калі ў розных крыніцах сустракаюцца вершы В. Гадулькі (а яны апошнім часам, пераважна побач з цытатамі з аўтабіяграфіі, з’яўляюцца нават у Сеціве), адразу ўспамінаецца трыялет М. Багдановіча, які той прысвяціў С. Палуяну:

Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.
Хоць свет і людны, і шырокі, –
Ты быў, як месяц, адзінокі.
Красу, і светласць, і прастор
Шукаў – і, ад усіх далёкі,
Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр[23].

Падаецца, што лепш за класіка беларускай літаратуры пра жыццё В. Гадулькі, бадай, і не скажаш. Зрэшты, яго вершы кажуць за сябе самі...

Ці быў бы паэт Васіль Гадулька такім, якім мы яго цяпер ведаем, калі б у яго не было такога нешчаслівага пакручастага лёсу? Магчыма, што і не...

На ўсіх вядомых нешматлікіх фотаздымках ён вельмі сур’ёзны, засяроджаны, заглыблены ў сябе. Але ж так бы хацелася, згадваючы словы М. Купрэева, каб ён “*заўсміхаўся*”... Калі б мелася такая магчымасць, хацелася б проста паціснуць яму руку і сказаць: “Дзякуй, Паэт...” І, верагодна, на ягоных вуснах з’явілася б прыхаваная, але такая сціплая ўсмешка...

[1] Да 1993 года называўся Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, цяпер – Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт.

[2] Цытата па: Сахарчук, В. Паміж змрокам і святлом / В. Сахарчук // Гадулька, В. Голас / В. Гадулька; уклад. Л.М. Галубовіча. – Мінск : Литература и Искусство, 2004. – С. 10 – 11.

[3] Купрэеў, М. У хаце паэта (эсэ) / М. Купрэеў // Голас / В. Гадулька; уклад. Л.М. Галубовіча. – Мінск : Литаратура и Искусство, 2004. – С. 40 – 41.

[4] Сахарчук, В. Гады, як птушкі ў вырай адляцелі / В. Сахарчук // Калосьсе. – 2006. – №1(10). – С. 102 – 103.

[5] Гадулька, В. Голас / В. Гадулька; уклад. Л.М. Галубовіча. – Мінск : Литература и Искусство, 2004. – 128 с.

[6] Сыс, А. Лён : выбраныя творы / А. Сыс. – Мінск : Кнігазбор, 2006. – С. 412.

[7] Тут і далей творы В. Гадулькі, калі не паказана іншага, цытуюцца з указаннем у дужках старонкі паводле выдання: Гадулька, В. Па-над сцежкай лёсу / В. Гадулька; уклад. Л.М. Галубовіча. – Беласток : БЛА "Белавежа", 2016. – 195 с.

[8] Гарбачоў, А. Паэт Васіль Гадулька / А. Гарбачоў // Роднае слова. – 2011. – №2. – С. 30.

[9] Гадулька, В. Голас. С. 58.

[10] Гарбачоў, А. Паэт Васіль Гадулька. – С. 30.

[11] Гадулька, В. Голас. С. 102.

[12] Некалькі баек, якія не ўвайшлі ў "Голас", – "Разумная кабыла", "Недатыка", "Упарты гаспадар" – былі апублікаваны ў зборніку "Дзень паэзіі-2005", а ўсе вядомыя на сёння байкі – у пасмяротным зборніку "Па-над сцежкай лёсу" (Беласток, 2016).

[13] Федарэнка, А. Пра Васіля Гадульку / А. Федарэнка // Літаратура і мастацтва. – 2008. – 23 мая. – С. 14.

[14] Гадулька, В. На якой мове мы размаўляем? / В. Гадулька // Літаратура і мастацтва. – 2008. – 23 мая. – С. 14.

[15] Тамсама.

[16] Тамсама.

[17] Тамсама.

[18] Бензерук, Р. Сціплы паэтычны рупліўца / Р. Бензерук // Arche [Электронны рэсурс] – 2012. – Рэжым доступу: http://news.arche.by/by/page/works/uspaminy-tvory/9296 – Дата доступу: 23.01.2016.

[19] Гадулька, В. І нельга памерці, і жыць невыносна / В. Гадулька // Калосьсе. – 2006. – №1(10). – С. 93 – 97.

[20] Дзень паэзіі-2005 / Уклад В. Шніпа. – Мінск : Мастацкая літаратура, 2005. – С. 270 – 272.

[21] Гадулька, В. Клён зялёны на пустым падворку / В. Гадулька // Я хацеў вам сказаць... : вершы, паэмы. – Мінск : Мастацкая літаратура, 2008. – С. 181 – 220.

[22] Гадулька, В. Па-над сцежкай лёсу / В. Гадулька; уклад. Л.М. Галубовіча. – Беласток : БЛА "Белавежа", 2016. – 195 с.

[23] Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3-х тамах / М. Багдановіч. – Мінск, Навука і тэхніка, 1992. – Т. 1. – С. 260.

Вячаслаў Рагойша



...перакладчык прозы – раб,

перакладчык паэзіі – супернік...

# Пра Кандрата Крапіву, мастацкі пераклад, і не толькі...

Сёлета, у сакавіку, споўнілася 120 год з дня нараджэння класіка сучаснай беларускай літаратуры Кандрата Крапівы. У юбілейных матэрыялах, як, дарэчы, і ў "Беларускай энцыклапедыі", ён традыцыйна менаваўся "беларускім драматургам, паэтам, празаікам, мовазнаўцам, грамадскім дзеячам". Усё слушна. Але гэтак жа традыцыйна не згадаўся яшчэ адзін значны вектар яго творчай дзейнасці – мастацкі пераклад. Кажу – "традыцыйна", бо ні ў адным манаграфічным выданні пра творчасць Кандрата Крапівы (А. Семяновіча, Я. Казекі, Д. Бугаёва, С. Лаўшука) яго пераклады не разглядаюцца. Толькі А. Сабалеўскі пару старонак адвёў расповеду пра пераклады пісьменніка ў сваім нарысе жыцця і творчасці пісьменніка "Кандрат Крапіва" [9, с. 172–174]. Пра няўвагу да мастацкага перакладу сведчыць і поўная адсутнасць у перыядычным друку публікацый пра пераклады Кандрата Крапівы. Не верыце? Звярніцеся да адпаведнага тома і старонак у 6-томным біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі". Там не зафіксавана ніводнага

спецыяльнага артыкула ці рэцэнзіі, прысвечанага нават асобным даволі шматлікім выданням перакладаў Кандрата Крапівы [гл.: 1, с. 404–405, 408–415]. Іх проста не існуе. Праўда, А. Семяновіч (дзякуй яму!) у невялікай біяграме пісьменніка, змешчанай у тым жа біябібліяграфічным слоўніку, хоць паведаміў, што Кандрат Крапіва "перакладаў на беларускую мову працы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Леніна, мастацкія творы Д. Фанвізіна, І. Крылова, А. Пушкіна, М. Гогаля, А. Астроўскага, А. Чэхава, У. Маякоўскага, А. Твардоўскага, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, Я. Гашака, У. Шэкспіра і інш." [1, с. 398]. Мовазнаўцы таксама звычайна ігнаруюць перакладныя выданні, нават самыя лепшыя, не вывучаюць іх, не распісваюць іх мову на карткі, не ўводзяць у слоўнікі. Так, у прыватнасці, Т. Сцяшковіч у сваім манаграфічным даследаванні "З назіранняў над мовай К. Крапівы" [11], прыводзячы сотні прыкладаў асобных лексем і фразеалагізмаў з арыгінальных твораў пісьменніка, яго пераклады зусім не заўважае. Як быццам бы гэта не мова Кандрата Крапівы...

Самы апошні прыклад такой традыцыйнай няўвагі да мастацкага перакладу (і не толькі ў нас, але і ў нашых блізкіх суседзяў) знойдзем у дабротнай, салiднай, у 4-х тамах, 6-ці кнігах, "Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя", падрыхтаванай у НАН Беларусі. Паэзіі, прозе, драматургіі, нават крытыцы і літаратуразнаўству адведзена ў кожным томе значная плошча ў спецыяльных аглядных артыкулах. Толькі пра мастацкі пераклад такіх артыкулаў няма, як няма і манаграфічных раздзелаў пра лепшых беларускіх перакладчыкаў XX ст. (Юрку Гаўрука, Язэпа Семяжона, Васіля Сёмуху і інш.). Што да арыгінальных пісьменнікаў, якія вызначыліся таксама і ў галіне мастацкага перакладу (Янка Купала, Уладзімір Дубоўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Аляксей Зарыцкі, Анатоль Вялюгін, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і інш.), то ў лепшым выпадку знойдзем самыя агульныя заўвагі пра іх удзел ва ўзбагачэнні беларускай літаратуры і культуры скарбамі замежнага пісьменства. Скажам, у грунтоўным манаграфічным раздзеле "Кандрат Крапіва" адно ў самым канцы толькі некалькі сказаў адведзена пераліку перакладаў пісьменніка, якія "высока ацэнены спецыялістамі" [3, с. 328]. Але хто гэтыя "спецыялісты", дзе і як яны ацэньвалі крапівінскія пераклады – не сказана.

Улічваючы ўсё гэта, гаворку пра Кандрата Крапіву-перакладчыка варта пачаць з разваг пра мастацкі пераклад увогуле, у прыватнасці – пра яго месца і ролю ў грамадстве, у культуры грамадства. І пачаць у сувязі з пэўнай недаацэнкай перакладу як віду літаратурна-мастацкай дзейнасці, яго спецыфікі, значэння і здабыткаў. Асабліва гэта кідаецца ў вочы цяпер, напярэдадні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, бо тая ж першая наша кніжка, створаная Францыскам Скарынам і выдадзеная ў 1517 годзе, была якраз перакладной. А мастацкі пераклад, калі прыгледзецца да яго, мае шмат якасцей, выконвае шэраг функцый, якімі часам не валодае і арыгінальная літаратура. Сярод іх – *азнаямленчая* (інфармацыйная, пазнавальная), *эстэтычная* (стварэнне самадастатковага, эстэтычна паўнацэннага твора), *сацыякультурная* (грамадска-культурная), *літаратуратворчая* (развіццё літаратуры, у якую ўваходзіць перакладны твор), *моватворчая* (развіццё мовы, у стыхію якой уваходзіць перакладны твор), *генетычная* (уплыў перакладу на творчасць перакладчыка, на ўзнікненне нацыянальнай літаратуры ў цэлым), *ідэйна-палітычная* (прыўнясенне ў свядомасць грамадства пэўных палітычных ідэй), *інтэрнацыяналізуючая* (удзел перакладу ў станаўленні полікультурнасці нацыі), *культурааахоўная* (захаванне, развіццё роднай для перакладчыка культуры і яе сэрцавіны – нацыянальнай мовы), *эўрыстычная* (выяўленне своеасаблівага перакладчыцкага таленту літаратара), *пабуджальная* (пераклад нярэдка выклікае імкненне чытача пазнаёміцца з арыгіналам), *ілюстрацыйная* (пераклад урыўкаў з замежных твораў дзеля пацвярджэння пэўных думак), нават *утылітарная* (пераклад твораў "па знаёмству", дзеля заробку і г. д.) [гл. пра гэта больш падрабязна: 4, с. 17–32].

Пра вялікае значэнне мастацкага перакладу для духоўнага ўладкавання грамадства, развіцця нацыянальнай культуры, літаратуры, мовы, сведчыць і перакладчыцкая дзейнасць Кандрата Крапівы. Для яго мастацкі пераклад на працягу ўсяго жыцця з'яўляўся адным з галоўных відаў літаратурнай творчасці, раўназначны ўласнай творчасці паэта, празаіка, драматурга, літаратурнага крытыка і публіцыста, ішоў побач з працай вучонага-філолага, дапаўняючы і ўзбагачаючы яе. Першыя арыгінальныя вершы пісьменніка былі апублікаваны ў 1922 г., першыя яго беларускамоўныя пераклады – толькі на пяць год пазней, у 1927 г., апошнія – у 1980-я гг. Яны друкаваліся ў перыёдыцы (часопісы "Узвышша", "Полымя", газеты "ЛіМ", "Звязда" і інш.), у калектыўных зборніках ("Анталогія рускай савецкай паэзіі", 1936; "Руская савецкая паэзія", 1953), у "Творах" і "Выбраных творах" вядомых іншанацыянальных пісьменнікаў, выдадзеных на беларускай мове (Мікалая Гогаля, Івана Крылова, Аляксандра Твардоўскага, Тараса Шаўчэнкі, Уільяма Шэкспіра), выходзілі асобнымі кнігамі. Сярод такіх кніг – "Усмешкі" Астапа Вішні (1930), "Дзівакі-нябожчыкі" Антона Чэхава, (1930) і яго "Выбраныя творы" (1937), кніга апавяданняў Вячаслава Шышкова "Чалавек" (1930), другая частка рамана Яраслава Гашака "Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну" (1931), "П'есы" Аляксандра Астроўскага (1939), п'есы Мікалая Гогаля "Жаніцьба" (1937) і "Рэвізор" (1951), паэма Тараса Шаўчэнкі "Наймічка" (1940). На жаль, да гэтага часу такая значная і разнастайная перакладчыцкая спадчына знакамітага літаратара, як было ўжо сказана, не знайшла спецыяльнага разгляду ні ў нашым літаратуразнаўстве, ні ў мовазнаўстве У той жа час Кандрата Крапіву, несумненна, мы можам смела паставіць у адзін шэраг з самымі выдатнымі беларускімі перакладчыкамі XX стагоддзя. І не толькі па колькасці перакладзеных твораў, але і па іх якасці.

Кандрат Крапіва працаваў, за рэдкім выключэннем, у прасторы літаратур усходнеславянскай супольнасці, надзвычай блізкіх яму па гісторыі, культуры, мове. Выключэнне складаюць хіба што байкі палякаў Адама Міцкевіча і Юльяна Эйсманда, раман чэха Я. Гашака, трагедыя англічаніна У. Шэкспіра "Рамэо і Джульета", а таксама ўрывак з паэмы Шата Руставелі "Віцязь у тыгравай шкуры. XIII. Пасланне Тарыэля каханай" (1937), некаторыя творы Карла Маркса, Фрыдрыха Энгельса, Уладзіміра Леніна і вершаванае "Пісьмо працоўных Савецкай Грузіі правадыру народаў вялікаму Сталіну" (1936). Але ж і мовы, культуры польскага і чэшскага народаў перакладчыку былі далёка не чужыя. Што да Шэкспіра, то гэта быў адзін з творчых настаўнікаў Крапівы-драматурга. Пераклады ж з грузінскай мовы (праз падрадкоўнікі), класікаў марксізма-ленінізма (праз пасрэдніцтва рускай мовы) былі запатрабаваны вядомымі культурнымі і палітычнымі абставінамі, у прыватнасці, шырокім святкаваннем у канцы 1937 года 750-годдзя паэмы "Віцязь у тыгравай шкуры". У дадзеным выпадку мы можам казаць пра іх *сацыякультурнае* і *ідэйна-палітычнае* значэнне.

Звяртаўся перакладчык да тых відаў творчасці (паэзія, проза, драматургія) і да тых твораў, якія адпавядалі характару яго ўласнага літаратурнага таленту. У адным з інтэрв'ю пісьменнік сказаў: "Перакладаў я толькі тое, што адпавядала майму літаратурнаму густу і характару мае творчасці, творы пісьменнікаў і паэтаў, якіх я больш за ўсё люблю... Мне асабліва цікава было перакладаць творы, у якіх каларытная мова персанажаў вызначалася яркімі, характэрнымі асаблівасцямі. І калі ўдавалася справіцца з нялёгкай задачай, я адчуваў задавальненне, як і ад сваіх арыгінальных твораў" [6, с. 323–324]. З рускай паэзіі гэта творы Аляксандра Пушкіна ("Эпіграмы"), Івана Крылова (каля пяцідзесяці баек), вершы Мікалая Някрасава ("Забытая вёска"), Уладзіміра Маякоўскага ("Незвычайная прыгода, што адбылася з Уладзімірам Маякоўскім на дачы", "Мы не верым!", "Апавяданне пра Кузнецкбуд і людзей Кузнецка", "Левы марш"), Аляксандра Твардоўскага ("Маці і сын", "Як Даніла паміраў", "Сямейная спрэчка"), Ільі Сяльвінскага ("Прамова

начдзіва Боя"), Дзям'яна Беднага ("Галоўная вуліца", "Камсамолка-партызанка: Песня беларуская"), Сяргея Міхалкова і Гарольда Эль-Рэгістана ("Гімн СССР"), з украінскай – вершы і паэмы Тараса Шаўчэнкі ("Суботаў", "Наймічка", "І мёртвым, і жывым...", "Вялікі Лёх"), Сяргея Піліпенкі ("Грамафон"), з польскай – байкі Адама Міцкевіча ("Звон і звонікі", "Блыха і рабін", "Сябры") і Юльяна Эйсманда ("Балота", "Тапельніца каралеўна", "Байкапісец і пакрыўджаныя"). Проза ў творчасці Крапівы-перакладчыка прадстаўлена творамі Антона Чэхава (аповесці "Палата № 6", "Мужыкі", апавяданні ""Смерць чыноўніка", "Хамелеон", "Унтэр Прышыбееў" і інш.), апавяданнямі Вячаслава Шышкова, Максіма Горкага (апавяданне "На солі"), гумарэскамі Астапа Вішні, раманам Яраслава Гашака "Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну. Ч. 2. На фронце", драматургія – п'есамі Аляксандра Астроўскага ("Навальніца", "Беспасажніца", "Даходнае месца", "Ваўкі і авечкі"), Мікалая Гогаля ("Жаніцьба", "Рэвізор"), Дзмітрыя Фанвізіна ("Недарасль"), Уільяма Шэкспіра ("Рамэо і Джульета"). Хоць гэта і не "больш за 30 кніжак, каля 250 твораў", як піша А. Сабалеўскі, але, сапраўды, "не ўсім удаецца выканаць такі аб'ём працы, хто займаецца ў літаратуры выключна перакладчыцкай дзейнасцю" [9, с. 174].

Ужо з самога пераліку аўтараў і назваў іх твораў відно, што Кандрат Крапіва перакладаў найперш тыя творы і тых аўтараў, якія, апрача ўсяго, былі звычайна блізкія яму як сатырыку і гумарысту (творы М. Гогаля, Д. Фанвізіна, А. Астроўскага, І. Крылова, А. Вішні, Я. Гашака і інш.). Асобныя выключэнні абумоўлены экстралітаратурнымі фактарамі, якія ў кожным канкрэтным выпадку можна лёгка вытлумачыць некаторымі сацыякультурнымі, палітычнымі прычынамі. Аднак і ў такіх выпадках значэнне крапівоўскіх перакладаў не абмяжоўваецца толькі іх *пазнавальнай* ці *ідэйна-палітычнай* роллю. Яны адначасова маюць *літаратура-* і *моватворчае* значэнне, выяўляюць *эўрыстычныя* здольнасці перакладчыка і інш.

Варта падкрэсліць, што пераклад праз сваю *генетычную* функцыю паўплываў на з'яўленне ў беларускай літаратуры Крапівы-драматурга, якога чытачы напачатку ведалі толькі як паэта і празаіка. Вось як, па сведчанні самога пісьменніка, гэта адбылося. Адказваючы на пытанне С. Лаўшука, што́ прымусіла пісьменніка пасля адзінаццаці кніг баек, вершаў, апавяданняў, рамана "Мядзведзічы" ўзяцца ў 1934 г. за напісанне сваёй першай п'есы "Канец дружбы", Кандрат Крапіва адказаў: "Пачалося з таго, што мяне папрасілі перакласці на беларускую мову п'есу Д. Фанвізіна "Недарасль". І мне, натуральна, было цікава паглядзець, наколькі ўдалым атрымаўся пераклад. У вуснах акцёра, справядліва думаў я, фальш аўтарскага слова, у дадзеным выпадку майго, перакладнога, павінна асабліва адчувацца. І я зачасціў на рэпетыцыі. Вось тут і "зачапілі" мяне, прапанаваўшы самому паспрабаваць напісаць п'есу... Ну, а я аказаўся чалавекам згаворлівым, п'есу ўзяў і напісаў" [6, с. 325]. Вядома, спецыфічныя прыродныя здольнасці перакладчыка не раўназначныя здольнасцям арыгінальнага творцы. Далёка не ўсе перакладчыкі, нават выдатныя, калі нават і захочуць, паспяхова могуць выявіць сябе ў арыгінальнай творчасці, а часам і зусім не могуць. Як і наадварот: не ўсе выдатныя арыгінальныя творцы гэтак жа выдатна выяўляюць сябе ў мастацкім перакладзе, што яскрава сведчыць пра спецыфіку перакладу як арыгінальнага віду творчасці. Што да Кандрата Крапівы, то да перакладу "Недарасля" Д. Фанвізіна яны, перакладчыцкія здольнасці, кажучы ўмоўна, драмалі ў глыбінях яго літаратурнага таленту. Менавіта драмалі, бо з 1927 г. і ажно да 1933 г. за пераклад ён не браўся. Разам з тым каб не гэты пераклад, то ў пачатку 1930-х гадоў, а, магчыма, і ніколі не з'явіўся б у беларускай літаратуры не толькі выдатны перакладчык, але і славуты арыгінальны драматург.

Праўда, таму паспрыяла і яшчэ адна, не менш важкая акалічнасць. Характарам сваёй папярэдняй творчасці Крапіва-байкапісец быў пэўным чынам падрыхтаваны

да драматургіі. “Байка па сваёй будове падобна на драматургічны твор, – разважаў пісьменнік у 1984 г., – у ёй ёсць завязка, развіццё дзеяння, кульмінацыя, канцоўка, а часта і дыялог. Усё гэта мне прыдалося для працы над п’есай. Тым не менш працавалася нялёгка. Перайсці з аднаго жанру ў другі, асабліва ў такі, як драматургія, – справа складаная. Тут мне шмат у чым дапамагаў тэатр” [6, 334]. А “больш блізкае знаёмства з тэатрам адбылося, калі мяне папрасілі перакласці камедыю Д. Фанвізіна “Недарасль”, – прыгадаў драматург іншым разам. – У часе падрыхтоўкі спектакля я часам прысутнічаў на рэпетыцыях і меў магчымасць паглядзець, як драматычны твор ператвараецца ў сцэнічны, якія намаганні патрабуюцца для гэтага ад рэжысёра і акцёраў... Вынікам была п’еса “Канец дружбы”, з якой я нясмела пераступіў парог тэатра” [6, 122]. Так замкнуўся круг перакладной і арыгінальнай творчасці выдатнага пісьменніка.

Нагадаем: Кандрат Крапіва яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны пераклаў для беларускіх тэатраў (і надрукаваў) п’есы Дзмітрыя Фанвізіна “Недарасль”, Мікалая Гогаля “Жаніцьба”, Аляксандра Астроўскага “Навальніца”, “Беспасажніца”, “Даходнае месца”, “Ваўкі і авечкі”, пасля вайны – “Рэвізор” Мікалая Гогаля і “Рамэа і Джульета” Уільяма Шэкспіра. Тым самым яго пераклады, дзякуючы не столькі публікацыям, колькі тэатральным пастаноўкам, адыгралі (і адыгрываюць да гэтага часу) значную *соцыякультурную* і *культураахоўную* ролю. Разам з тым, нельга не згадзіцца з В. Івашыным, які аднойчы заўважыў, што “для ўзбагачэння пісьменніцкага вопыту Кандрата Крапівы вялікае значэнне мела і мае яго перакладчыцкая дзейнасць” [5, 25]. Уласны *эўрыстычны* “пісьменніцкі вопыт”, найперш вопыт сатырыка, камедыёграфа, дапамог Кандрату Крапіве ўзбагаціць занятак мастацкім перакладам. Вядома, творчыя ўплывы ажыццяўляюцца найчасцей праз знаёмства з арыгіналам – пры ўмове, калі ўспрымальнік твора ведае яго мову. Якраз такім шляхам, непасрэдна праз арыгінал, пазнаёміўся Кандрат Крапіва калісьці ў дзяцінстве і маладосці (у прыватнасці, падчас вучобы ў БДУ) з п’есамі названых драматургаў, байкамі Івана Крылова, творамі іншых пісьменнікаў. Але накшталт таго, як веданне розных тэарэтыка-матэматычных палажэнняў (тэарэм, аксіём, формул і г.д.) правяраецца ў часе рашэння канкрэтных задач, спасціжэнне тонкасцей літаратурнай творчасці іншанацыянальных пісьменнікаў адбываецца асабліва паспяхова падчас перакладу іх мастацкіх твораў. Прычым – як на мікраўзроўні арыгінала, на яго паэтыцы, так і на макраўзроўні, на яго пафасе, ідэйнай стратэгіі.

Не простая гэта задача, але ў прынцыпе можна даказаць (пакінем гэта на рукі маладых літаратуразнаўцаў), як Кандрат Крапіва, перакладаючы тых жа Фанвізіна, Гогаля, Астроўскага, Шэкспіра, свядома вучыўся “на драматурга”. Вучыўся майстэрству сюжэтабудавання, кампазіцыі і архітэктонікі п’есы, характарыстыцы персанажаў адно праз іх дзеянне і маўленне, вядзенне дыялогаў, маналогаў (у тым ліку ўнутраных) і інш. Як, перакладаючы камедыі і трагікамедыі названых драматургаў, а таксама аповесці і апавяданні Антона Чэхава, гумарэскі Астапа Вішні, сатырыка-гумарыстычны раман Яраслава Гашака, спасцігаў розныя формы і спосабы гумару і сатыры (гумар становішчаў, характараў, іронія, каламбур, гратэск, парадзіраванне...). Разам з тым і макраўзроўневая структура рускіх, чэшскага і ўкраінскага сатырыкаў (аб’ект і прадмет паказу, грамадска-палітычная значнасць канфліктаў, падбор і расстаноўка адмоўных і станоўчых персанажаў і інш.) дапамагла Кандрату Крапіве і ў падцэнзурным друку, ва ўмовах культу асобы, выказаць многае.

Звернем увагу на наступнае. У артыкуле “Непадкупная слава народная”, напісаным у сувязі з 200-годдзем Івана Крылова і надрукаваным у газеце “Літаратура і мастацтва” 11 лютага 1969 г., Кандрат Крапіва, гаворачы пра вялікага рускага байкапісца, пра “*цярністы шлях* паэта-сатырыка”, у нейкай меры і

самахарактарызаваўся. Ён пісаў пра “неўміручыя творы“ І. Крылова, якія *“служылі і нашаму беларускаму народу, дапамагаючы змагацца супраць крыўды і прыгнёту, за чалавечую годнасць, за права людзьмі звацца*” [6, 117]. Менавіта байка, згодна Крапівы, давала рускаму пісьменніку “магчымасць, *прыкрываючыся алегорыяй*, выкрываць гэтыя [не толькі маральныя, але, падкрэслім, і сацыяльныя. – *В. Р.]* заганы *з большай глыбінёй і з меншай рызыкай”* [6, 116; усюды падкрэслена мной. – *В. Р.*]. “З большай глыбінёй і з меншай рызыкай” для сябе, як аўтара, выкрываў і Кандрат Крапіва (а ён заўсёды знаходзіўся, кажучы яго словамі, “на вастрыі” грамадскага жыцця) некаторыя заганы савецкага ладу, які ў многім (па аўтарытарных, каманднa-бюракратычных метадах кіраўніцтва, прывілеяваным становішчы партыйнага чынавенства, “ідыятызму вясковага жыцця” і інш.) быў падобны на таталітарны лад царскай Расіі часоў Фанвізіна і Крылова, Гогаля і Шаўчэнкі. Выкрываў, падкрэслім, не сам лад, якому ён стараўся служыць верай і праўдай, а толькі некаторыя заганы яго. Прычым, выкрываў не адно ў байках, гэтых “маленькіх камедыйках” (В. Бялінскі), але – пазней – і ў саміх камедыях. “А ад байкі недалёка ўжо і да драматургіі, – прызнаваўся сам пісьменнік. – Бо і тут дабро і зло, чалавечыя вартасці і недахопы паўстаюць перад намі ў асобах, у жывым, актыўным узаемадзеянні персанажаў. Толькі справа тут больш складаная. Бо персанажы тут не алегарычныя, а жывыя людзі з іх складанымі характарамі і ўзаемаадносінамі” [3, 140]. І вось тут будучаму драматургу вельмі спатрэбіўся камедыяграфічны вопыт Фанвізіна, Гогаля і Астроўскага, якія таксама, не адмаўляючы ўсталяваны царскі лад, здолелі, аднак, выявіць асноўнае, на чым трымаецца любы таталітарны і аўтарытарны рэжым увогуле: страх. Страх ніжэйшых перад вышэйшымі, а ўсіх разам – перад “найяснейшай каронай” (В. Дунін-Марцінкевіч), перад пануючай ідэалогіяй, рэлігіяй. Хоць выявілі гэта хутчэй за ўсё падсвядома. Прыгадаем у гэтай сувязі баязліва-пакаяльныя словы Мікалая Гогаля з яго позняга “прасвятлення”: “Мною, как бревном, бьют в правительство!” Але выявілі! Як вядома, праблема страху і яго пераадолення ляжыць і ў аснове некаторых п’ес беларускага драматурга, у тым ліку, бадай, найлепшай яго камедыі – “Хто смяецца апошнім”...

Шырока вядомыя крылатыя словы Гаўрылы Дзяржавіна: “Перакладчык прозы – раб, перакладчык паэзіі – супернік”. Канечне, і перакладчык мастацкіх твораў, напісаных прозай, – не раб аўтара арыгінала, хоць ён мае значна менш магчымасцей выявіць сябе як творцу ў параўнанні з перакладчыкам мастацкіх вершаваных, г. зн. паэтычных, твораў. Кандрат Крапіва перакладаў, як мы бачылі, творы, напісаныя і прозай, і вершам. Перакладаў з аднолькавым поспехам, хоць, зразумела, з рознымі творчымі намаганнямі пры пераствараэнні першакрыніц, з розным характарам “суперніцтва” з аўтарамі арыгіналаў, з рознай ступенню ўласнай прысутнасці ў чужых тэкстах. У перакладах паэтычных першага, другога і трэцяга было, несумненна, больш, у празаічных – менш. Але для яго заўсёды асноўным было – захаванне ў перакладзе эстэтычнай вартасці арыгінала, арыентаванасць перакладнога твора на родную мову, літаратуру, культуру, на “сваіх” чытачоў і гледачоў (у перакладах п’есаў для тэатра). Калі гэта, па яго атэстацыі, “мудрыя, дасціпныя, па-народнаму простыя, напісаныя сакавітай мовай байкі Крылова” [6, 116], то такімі яны павінны заставацца і ў перакладзе, хоць тая мудрасць, дасціпнасць, прастата выяўляюцца сродкамі іншай моўнай стыхіі. Вось, для параўнання, заканчэнне (мараль) шырока вядомай байкі Івана Крылова “Свіння пад Дубам”. Спачатку – рускі арыгінал:

Невежда также в ослепленье
Винит науки и ученье,

И все ученые труды,
Не чувствуя, что он вкушает их плоды [7, с, 188].

А цяпер – гэтыя радкі ў перакладзе Кандрата Крапівы:

Ёсць невукі – чаго таіць?
Другі дык на чым свет стаіць
Навуку і вучоных лае,
Хоць сам іх працу спажывае [6, с.42].

Як бачым, сэнс маралі крылоўскай байкі, лапідарнасць і афарыстычнасць выказвання засталіся, хоць гэта ўжо і некалькі іншы твор. Гэта ж можна сказаць і пра пераклады некаторых іншых баек І. Крылова, дзе характар і выразнасць творчага “суперніцтва” беларускага перакладчыка з рускім аўтарам відавочныя. Праўда, вынікі гэтага “суперніцтва” яўна на карысць рускіх аўтэнтыкаў. Хоць перакладчыку таксама дастаюцца лаўры творцы.

Прывядзем, для пацвярджэння сказанага, некалькі новых прыкладаў, супаставім арыгіналы і пераклады:

| | |
|---|---|
| Я слышал – правда ль? – будто встарь<br>Судей таких видали,<br>Которые весьма умны бывали,<br>Пока у них был умный секретарь. | Яшчэ з даўнейшае пары<br>Пра суддзяў мне такіх апавядалі,<br>Якія вельмі мудрыя бывалі,<br>Пакуль разумныя былі сакратары. |

(“*Оракул*”; 7, с. 44–45 – “*Аракул*”; 6, с. 11)

| | |
|---|---|
| Мне хочется, невеждам не во гнев,<br>Весьма старинное напомнить мненье:<br>Что если голова пуста,<br>То голове ума не придадут места. | Я крыўдзіць невукаў намеру тут не меў,<br>Але карыснае скажу ім штосьці:<br>Калі ты ёлуп, крый вас божа,<br>Дык месца тут не дапаможа. |

(“*Парнас*»”; 7, с. 42 – «*Парнас*»; 6, с. 10)

| | |
|---|---|
| Примолвить к речи здесь годится,<br>Но ничьего не трогая лица:<br>Что делом, не сведя конца,<br>Не надобно хвалиться. | Нікога каб не крыўдзіць нам,<br>Я толькі пару слоў дадам:<br>Пакуль не зробіш справы,<br>Не распускай ты славы. |

(“*Синица*”; 7, с. 50 – “*Сініца*”; 6, с. 16)

| | |
|---|---|
| В природе и в чинах высокость хороша;<br>Но что в ней прибыли, когда низка душа? | Высокасць гэткая не варта ні граша,<br>Калі высокі чын, ды нізкая душа. |

(“*Осёл*”; 7, с. 51 – “*Асёл*”; 6, с. 17)

| | |
|---|---|
| Когда почтен быть хочешь у людей, –<br>С разбором заводи знакомства и людей! | Як хочаш мець пашану ад людзей,<br>Сяброўства выбіраць умей! |

(“*Крестьянин и Змея*”; 7, с. 186 – “*Селянін і Змяя*”; 6, с. 41)

| | |
|---|---|
| Как счастье многие находят<br>Лишь тем, что хорошо<br>на задних лапках ходят! | Так шчасце многія у тым знаходзяць,<br>Што ўсё жыццё<br>на задніх лапках ходзяць! |

(“*Две собаки*”; 7, с. 201 – “*Два сабакі*”; 6, с. 48)

Пра *эўрыстычныя* здольнасці Крапівы-перакладчыка, яго спецыфічны перакладчыцкі талент сведчаць не толькі беларускамоўныя ўзнаўленні твораў вершаваных, але і празаічных, хоць, зразумела, ступень “суперніцтва” з аўтарамі тут значна меншая. Вось як проста віртуозна перастварыў ён па-беларуску тое месца ў п’есе Д. Фанвізіна “Недарасль”, дзе Праўдзін і Старадум знаёмяцца з ведамі “недарасля” Мітрафана па граматыцы. Згадаем арыгінал:

П р а в д и н (*взяв книгу*). Это грамматика. Что ж вы в ней знаете?

М и т р о ф а н. Много. Существительна да прилагательна...

П р а в д и н. Дверь, например, какое имя: существительное или прилагательное?

М и т р о ф а н. Дверь? Котора дверь?

П р а в д и н. Котора дверь! Вот эта.

М и т р о ф а н. Эта? Прилагательна.

П р а в д и н. Почему же?

М и т р о ф а н. Потому что она приложена к своему месту. Вон у чулана шеста неделя дверь стоит еще не навешена: так та покамест существительна.

С т а р о д у м. Так поэтому у тебя слово дурак прилагательное, потому что оно прилагается к глупому человеку.

М и т р о ф а н. И ведомо [13, 81–82].

А вось гэта сцэна з п'есы ў творчай інтэрпрэтацыі Кандрата Крапівы:

П р а ў д з і н (*узяўшы кнігу*). Гэта граматыка. Што ў ёй вы ведаеце?

М і т р а ф а н. Шмат. Назоўнікі ды прыметнікі.

П р а ў д з і н. Дзверы, напрыклад, што гэта будзе: назоўнік ці прыметнік?

М і т р а ф а н. Дзверы? Каторыя дзверы?

П р а ў д з і н. Каторыя дзверы? Вось гэтыя.

М і т р а ф а н. Гэтыя? Прыметнікі.

П р а ў д з і н. Чаму ж?

М і т р а ф а н. Бо яны прыметныя: адразу відаць, што гэта дзверы як мае быць. Вунь у каморы дзверы, дык тыя толькі назоўнікі; адна назва, што дзверы, – ледзь ліпяць.

П р а ў д з і н. Дык таму ў цябе дурань будзе прыметнік, бо ён адразу прыметны паміж разумных?

М і т р а ф а н. Ну, вядома [5, 271–272].

Як бачым, у той час, як аўтар арыгінала Д. Фанвізін па-мастацку выдатна абыграў тэрміны граматыкі рускай (существительное, прилагательное), аўтар перакладу Кандрат Крапіва – беларускай (назоўнік, прыметнік). Прычым, улічана, што слова "дзверы" ў беларускай мове ўжываецца толькі ў множным ліку. Праўда, ёсць і адна заўвага да перакладчыка: апошняя рэпліка (пра слова"дурань") у арыгінале належыць Старадуму, а не Праўдзіну...

Як слушна падкрэсліў у свой час М. Бірыла, Кандрат Крапіва "з'яўляецца выдатным знаўцам глыбінь і тонкасцей народнай мовы, адным са стваральнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, нястомным вартавым яе чысціні і багацця" [2, с. 5]. Гэтыя якасці адлюстраваліся не толькі ў яго арыгінальнай творчасці, але і ў перакладной. Праўда, калі ва ўласнай творчасці пісьменнік, зыходзячы з тэматыкі і праблематыкі твора, сам выбірае патрэбныя лексічныя, сінтаксічныя і стылістычныя сродкі, то ў перакладзе ён цалкам залежыць ад моўнай стыхіі арыгінала. А яна бывае вельмі рознай, часам далёкай ад стыхіі мовы перакладу. Аднак жа гэтым самым перакладная літаратура садзейнічае развіццю роднай для перакладчыка мовы, пашырэнню яе лексічных і стылістычных магчымасцей, і нярэдка нават у большай ступені, чым літаратура арыгінальная. Пераклад, такім чынам, выяўляе сваю *моватворчую* функцыю.

Асноўныя персанажы твораў, якія перакладаў Кандрат Крапіва, – гэта людзі колішняга расійскага "вышэйшага кола": дваране, паны, чыноўнікі. Іх мова, асабліва калі яны размаўляюць з людзьмі таго самага ці вышэйшага рангу, насычана лексемамі і фразеалагізмамі ўзвышанага стылю: *сударь, сударыня, будьте любезны, благодарю покорно, любезный, предосудительно, не угодно ли будет, милостивейший, извольте,*

*помилуйте...* Калі ж яны звяртаюцца да ніжэйшага саслоўя (мяшчан, сялян, купцоў, сваіх слуг) то выказваюцца як звычайныя абывацелі: *эка бестия; чтоб он, каналья, околел; подлецы; выжил, глупый баран, из ума; черт побери (возьми); они, пентюхи; не могу духу перевести; поговорить с глазу на глаз...* Як вядома, узвышаны, тым больш – высакапарны стыль у беларускай літаратурнай мове, у выніку пэўных гістарычных прычын, не атрымаў пашырэння. Дзеля перадачы яго Кандрат Крапіва часам ідзе на запазычанне, асабліва ў ранніх перакладах. Так, у п'есе А. Астроўскага "Навальніца" Кулігін звяртаецца да суразмоўцы: «Что у вас, *сударь*, за дела с ним?» Пераклад: "Што ў вас за справы з ім, *судар*?" Пазней ва ўсіх перакладах (напрыклад, у "Рэвізоры" М. Гогаля) замест "сударь", "сударыня" скрозь з'яўляюцца "васпан", "васпані" : Х л е с т а к о ў. Які я шчаслівы, *васпані*, што маю ў сваім родзе асалоду вас бачыць"; "В о с і п. Я, *васпан*, адпраўлю яго з чалавекам тутэйшым...". Праўда, у некаторых выпадках русізмы ў перакладах усё ж неапраўдана засталіся: *шуба, блюда, хрусталь, шэрсць, лесць* і інш. Асобныя словы і выразы рускай мовы знайшлі ў перакладах Кандрата Крапівы – ў адпаведнасці з кантэкстам – па некалькі сінанімічных адпаведнікаў: Скажите, *ради бога* – Скажыце, *калі ласка*; *Ради бога*, господа – *Богам прашу*, панове; *Извольте, извольте* – *Калі ласка, калі ласка*; И на долгое время *изволите* ехать? – І на доўгі час *маеце ласку* ехаць?; *Право*, не знаю – *Ды проста* не ведаю; *Да право*, маменька – *Дапраўды ж*, маменька; *Право*, вперед не буду – *Дальбог*, больш не буду; *Не угодно ли будет* вам – *Ці не жадаеце*; *Как вам угодно* – *Як ваша ласка...*

Трэба прызнаць, што не ўсюды ўзвышаны стыль рускіх арыгіналаў знайшоў адэкватнае ўвасабленне ў крапівінскіх перакладах. І гэта, звычайна, не віна перакладчыка. Такая, як мы падкрэслівалі, асаблівасць стылістыкі беларускай літаратурнай мовы. У той жа час размоўна-бытавы стыль, народная фразеалогія бліскуча пераўвасоблены ім літаральна ва ўсіх творах, і не толькі ў драматургічных, але паэтычных і празаічных. І гэта не дзіўна. Лексікон Кандрата Крапівы як арыгінальнага пісьменніка, рэдактара шматлікіх тлумачальных і перакладных слоўнікаў быў агромністы, заслугі яго "ва ўзбагачэнні фразеалогіі літаратурнай мовы сваімі ўласнымі наватворамі і ў асваенні народных фразеалагізмаў вялікія і відавочныя" [8, с. 252]. Вось толькі некалькі прыкладаў, запазычаных перакладчыкам са скарбаў народнае мовы, узятых з "кішэні памяці" (Якуб Колас), прыдуманых самім: *лаяльнік (ругатель), прарэзлівы чалавек (пронзительный мужик), лынды біць (баклуши бить), ты ўсё не ўрымсцішся (тебе всё неймется)* – з "Навальніцы" А. Астроўскага; *адгады, паморак, наўзáхваткі, бегчы ўхапіўшы жару (бежать без оглядки), шабулдых у ваду, груганя (вороненок), гібенне, кемнасць, гамануць (ухватить)* – з баек І. Крылова; *цюхцяі, шэльмы (канальи), шальмоўства (канальство), без ніякага ўтрапення (без всякого помешательства), наўмысле (нарочно), з глузду з'ехаць (рехнуться, выжить из ума), каб цябе чорт узяў (черт тебя побери), чорт падаткнуў (черт угораздил), чорт звёў (черт попутал), вірутнік (вертопрах)* – з "Рэвізора" М. Гогаля і г.д. Такім чынам, моватворчая роля перакладаў Кандрата Крапівы сапраўды значная.

Калісьці Лeў Салавей, гаворачы "Аб паэтычным перакладзе і яго ідэйна-эстэтычных прынцыпах", слушна заўважыў, што пры перакладзе верша Аляксандра Твардоўскага "Як Даніла паміраў" Кандрату Крапіве "ўдалося давесці беларускі тэкст да такога мастацкага ўзроўню, які ні ў чым не ўступае арыгіналу" [11, с. 117]. Гэтак жа пераўвасобіў Кандрат Крапіва сродкамі роднай беларускай мовы не толькі гэты твор і асобныя байкі Івана Крылова (як мы ўжо бачылі), але і байкі Адама Міцкевіча, верш "Незвычайная прыгода, што адбылася з Уладзімірам Маякоўскім на дачы", пасланне Тараса Шаўчэнкі "І мёртвым, і жывым, і ненароджаным землякам маім на Украіне і не на Украіне маё сяброўскае пасланне", некаторыя іншыя паэтычныя творы. Перакладчык

аднолькава таленавіта пераўвасобіў вершаваныя тэксты, напісаныя ў розных сістэмах вершавання – сілабічнай, як у Міцкевіча, народна-танічнай, як у Шаўчэнкі, літаратурна-танічнай, як у Маякоўскага, сілаба-танічнай, як у Твардоўскага. Часам здаецца, што гэтыя творы і напісаны на беларускай мове – так арганічна гучаць яны па-беларуску.

Вось польская сілабіка А. Міцкевіча, перададзеная беларускай сілаба-тонікай (байка "Звон і Звонікі"; 6, с. 72):

Калісьці Звонікі з дзыліньганнем вясёлым
Да Звона, што ляжаў самотна пад касцёлам:
"Што з велічы твае, калі ляжыш ты немы?
Тым часам песенькі выспеўваем свае мы".
"О, галасістыя, падзякуйце плябану, –
Шапнуў ім Звон, – што я ў зямлю ўтаптаны".

Надзвычай арганічна па форме (акцэнтна-складовы верш) і актуальна па змесце (і не толькі для былых, але і для сённяшніх украінцаў, дый не толькі для іх!) гучыць славутае шаўчэнкаўскае – "І мёртвым, і жывым, і ненароджаным землякам маім на Украіне і не на Украіне маё сяброўскае пасланне". Вось яго заключныя радкі ў інтэрпрэтацыі Кандрата Крапівы (у дужках – выразы з украінскага арыгінала, ад якіх адрозніваецца беларускі тэкст):

Абніміце ж, браты мае,
Найменшага брата, –
Няхай маці слёзы вытра (*усміхнеться*),
Бо ліла багата (*Заплакана мати*).
Хай сыноў благаслаўляе (*Благословить дітей своїх*)
Дужымі (*Твердими*) рукамі
І дзетачак пацалуе
Вольнымі губамі.
І забудземся пра сорам (*І забудеться срамотня*)
Даўняе гадзіны,
І паўстане наша (*оживе добра*) слава,
Слава Украіны.
Промень ясны (*І світ ясний*), невячэрні
Ціха нам засвеціць (*засіяє*).
Абніміцеся ж, малю вас (*брати мої*),
Адной маткі дзеці! (*Молю вас, благаю!*) [6, с. 71 – 14, с. 293–294].

І гэтыя, як і папярэднія працытаваныя намі пераклады, не дакладныя копіі іншамоўных арыгіналаў, але і не цалкам новыя творы. Кажучы словамі вядомага ўкраінскага літаратуразнаўца А. Кундзіча, гэта "нешта трэцяе". Аднак калі яно, "нешта трэцяе", жыве сваім уласным жыццём як эстэтычнае цэлае, значыць – дзейства мастацкага перакладу адбылося. Кандрата Крапіву, як і любога таленавітага перакладчыка, з гэтым можна павіншаваць.

Літаратура:

1. Беларускія пісьменнікі: біябібліяграфічны слоўнік: У 6 т. – Мінск: БелЭн, 1994. – Т. 3: Івашын – Кучар.

2. Бірыла, М. В. Кандрат Крапіва – мовавед / М.В. Бірыла // Весці АН БССР. Серыя грам. навук. – 1971. – № 3. – С. 5–12.

3. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: У 4 т. – Мінск: Беларуская навука, 1999. – Т. 2: 1921–1941.

4. Івашын, В. Кандрат Крапіва / В. Івашын // Крапіва, К. Збор твораў: У 3 т. / Кандрат Крапіва. – Мінск: Дзяржвыд БССР, 1956. – Т. 1: Вершы, байкі, паэмы.

5. Крапіва, К. Збор твораў: У 6 т. / Кандрат Крапіва. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2004. – Т. 5: П'есы, пераклады.

6. Крапіва, К. Збор твораў: У 6 т. / Кандрат Крапіва. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2004. – Т. 6: Пераклад, пртыкулы, выступленні, інтэрв'ю, пісьмы, дадатак.
7. Крылов, И. А. Басни / И. А. Крылов. – М.: Изд. Дом Синергия, 2004.
8. Лепешаў, І. Помнікі таленту, дасціпнасці, натхненню: Фразеалагізмы Кандрата Крапівы / Іван Лепешаў. – Полымя. – 1975. – № 3. – С. 247–252.
9. Рагойша, В. П. Проблемы перевода с близкородственных языков: белорусско-русско-украинский поэтический взаимоперевод / В. П. Рагойша. – Минск: Изд-во БГУ, 1980.
10. Сабалеўскі, А Кандрат Крапіва: нарыс жыцця і творчасці / А. Сабалеўскі. – Мінск: Народная асвета, 1989.
11. Салавей, Л. Аб паэтычным перакладзе і яго ідэйна-эстэтычных прынцыпах / Леў Салавей. – Полымя. – 1955. – № 5. – С. 114–122.
12. Сцяшковіч, Т. Зназіранняў над мовай К. Крапівы. – Мінск, 1961.
13. Фонвизин, Д. И. Недоросль: комедия / Д. И. Фонвизин. – М.: Стрекоза-Пресс, 2002.
14. Шевченко, Т. Г. Кобзар / Тарас Шевченко; вступ. стаття. О. Гончара. – Київ: Дніпро, 1987.

дослед

Анатоль Трафімчык



...невядомы аўтар свядома выкарыстоўвае беларускую мову, дакладна ідэнтыфікуючыся на фоне суседзяў, ужо тады ўсведамляючы нацыянальную дыферэнцыяцыю ў мадэрных катэгорыях Новага часу...

# «Hodzi nam siadzieć u chaci»: беларуская этнатоеснасць у «Piesni biełaruskich žaunierou 1794 hoda»

***Да 260-годдзя Тадэвуша Касцюшкі***

У беларускай літаратуры практычна не існуе «касцюшкіяны», хаця напачатку такія тэндэнцыі назіраліся. Яшчэ пры жыцці героя ўзнікалі і працяглы час бытавалі ў народным асяродку песні, звязаныя з імем Тадэвуша Касцюшкі. Аднак насамрэч беларусы шанавалі памяць пра Тадэвуша Касцюшку. У легендах, паданнях, песнях, як сведчаць зборы Міхала Федароўскага (мал. 1), захоўвалі яны светлы ўспамін пра свайго земляка-заступніка.

Нягледзячы на вузкую сацыяльную базу ваенных канфліктаў часоў падзелу Рэчы Паспалітай, што не спрыяла ўдзелу ў іх шырокіх сялянскіх масаў, у іх асяродку тым не менш Касцюшка, дзякуючы асабістым якасцям, змог прабудзіць давер і гарачую сімпатыю да сябе, якія дарасталі


*L.* Kościuszko. Zabór kraju.

*Sk. Od Suchowoli, (Chodorówka, Poświętno).*

20. *a)* Kaściuszko był miły Bogu, bo nim poczoł wojować, sto dni pościł i ų kościela modlił sie. — *b)* Kaściùszko zawajewàųby świet cěły, żeb panỳ jehò słùchać chacièli, àle panỳ jäk panỳ: hulàli, bankietawàli, Kaściùszki nie słùchali, zatỳm i Pülszcza prapàła. — *c)* Kàżuć, co ų Kaściùszki to bỳų takì płaszcz, co kùli jehò niĕ prabiwàli: jèdnaho ràzu maskalì na jehò z niczèųka napàli, tak jün niĕ uśpièų tahò płàszcza złażỳć, tak jehò czỳsto pasièkli i zabràli. — *d)* Kaściùszko byų nàdto adwàżny i chràbry gienerał, müj tàtko śpiewàų ab jòm pièśniu jàkści:

— „Nasz Kaściùszko słàųny byų,
Maskàlikoų dòbro bių,
Jak Kaściùszku złapàli,
Kìjam bòki złatàli“ —

àle dàlej niè wièdaju, bo zabỳųsie. (Jan Dzieżko).

*W. Od Szydłowic, (Ozeranki małe).*

21. Jak Kaściùszka zławìli, to zàra(z) prywielì pieràd carà, da-j kazàli jemù, kab jün prysiahnùų Rasìi, tak jün skazàų: „Na czyjüj ziemlè stajù, tamù prysiahàju i za tahò hòłaų pałażù“! A jün upierüd nabràų ziemlì ų czòbaty, jak z Pülszczy wyjehdżàų i na tüj ziemlì prysiahàų; ot i tamù to jün ni źniewièryųsie. Ot kalì chìtry byų da razùmny [1]). (Benadỳk Czäbiołka).

*Мал 1. Паданні пра Касцюшку з кнігі Міхала Федароўскага (адбітак з першакрыніцы: [24, S.11.].*

да культу[1], увасобіўшыся ўрэшце ў фальклорныя і аўтарскія творы.

Беларускі касцюшкаўскі паэтычны цыкл канца XVIII – пачатку XIX ст. узбагачаны такім каларытным і загадкавым здабыткам, як «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года». Гэта – ананімны твор, які, паводле каментарыяў да «Анталогіі беларускай паэзіі» [1, с. 597-598], мае ўкраінскі і польскі аналагі, і ўрыўкамі з якога адкрываецца другое выданне хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX стагоддзя» [2, с. 8] (у абодвух публікацыях «Песня...» адаптавана да сучаснага правапісу). Гэты твор з'яўляецца працягам фарміравання культу і міфалагізацыі асобы Тадэвуша Касцюшкі на землях Рэчы Паспалітай, пачатак чаго ўзыходзіць да ваенных падзеяў 1792 г. [32, с. 156], таму гісторыя «Песні...» ўяўляецца вельмі важнай.

Складаны лёс «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года». «У верасні 1935 года, у сувязі з VI з'ездам польскіх гісторыкаў, бібліятэка Віленскага ўніверсітэта арганізавала выставу, прысвечаную мінуламу літоўска-беларускіх земляў. Адзін з арганізатараў выставы, вядомы калекцыянер Міхал Браншэйн, падрабязна апісаў экспанаты яе ў II томе "Дзённіка VI агульнага з'езду польскіх гісторыкаў у Вільні". У якасці аднаго з найбольш рэдкіх экспанатаў ён назваў рукапіс невядомай "Песні беларускіх жаўнераў" з 1794 года. Аднак сам тэкст твора ні тады, ні пазней апублікаваны не быў, а сляды яго згубіліся» [10, с. 37]. Адаму Мальдзісу з дапамогай Генадзя Кісялёва ўдалося патрапіць на след і адшукаць рукапіс у 21 фондзе (рук. 970, с. 1-4) аддзела рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР[2]. Гэта



*Мал. 2. "Песня беларускіх жаўнераў 1794 года" .*

[1] Гл., напрыклад: Копчевский Я. С. Тадеуш Костюшко. Варшава: издательство Интерпресс, 1972. С. 69; Stępnik K. Legenda Legionów. Lublin: Wydawnictwo Uniwersitetu Marii Curie-Skłodowskiej, 1995. S. 139-160; Kościuszko w kręgu mitologii narodowej / pod redakcją Aliny Barszczewskiej-Krupy. Łódź: Ibidem, 1995. 126 s.

[2] Выходныя дадзеныя за савецкім часам; цяпер установа называецца: Бібліятэка Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх, па-літоўску – Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka.

чатыры старонкі створанага лацінскай графікай рукапіснага тэксту, як вызначыў А. Мальдзіс, з яўнымі арфаграфічнымі прыкметамі XVIII ст. (мал. 2[1]).

Аднак ці не першым у мадэрновым часе на твор звярнуў увагу Антон Луцкевіч, напісаўшы ў адной са сваіх работ 1935 г. наступную анатацыю да «Песні...»: «Невядомы аўтар заклікае беларусаў, якія ў той час былі ўжо пад уладаю Расеі, каб яны – беручы прыклад з мазураў – білі маскалёў і прусакоў пад камандаю Касьцюшкі. Бо "ВОЛЬНАСЦЬ ДЛЯ НАС ПАНЫ ДАЮЦЬ І ЗА ЛЮДЗІ НАС ПРЫЗНАЮЦЬ". Са зьместу вершу і спосабу зьвяртаньня да беларускага люду становіцца ясным, што мы маем перад сабою твор інтэлігенцкі, праўдападобна, пісаны прадстаўніком мясцовага зямянства, які такім шляхам – шляхам прамаўленьня да беларусаў, якія раней служылі ў войску, у іх роднай мове – жадаў актывізаваць іх і прыцягнуць да збройнага змаганьня за вызваленьне Рэчы Паспалітай плячом да пляча з польскім грамадзянствам» [9, с. 210]. Гэтая думка пераклікаецца з меркаваннем даследчыка паўстанцкай паэзіі Юліуша Новака, што стварэнне песень-пабудак сялянскай гаворкай зразумелае, бо ішлося пра агітацыю сяляніна, і гаворка тая не належыць да пэўнага рэгіёна; прычым, як дадае яшчэ адзін польскі знаўца Анджэй Вальтаноўскі, большая частка паэзіі пра рацлавіцкія падзеі ўзнікла ў Кракаве, у асяродку гарадскім, інтэлігенцкім, а канкрэтней – акадэмічным [31, с. 16].

Наяўнасць украінскай і польскай версій «Песні...» патрабуе іх дэталёвага і шматаспектнага гісторыка-кампаратывісцкага вывучэння, што дазволіла б паглыбіць усебаковы аналіз усіх трох тэкстаў. Балазе польская песня сёння беспраблемна даступная: Dolnośląska Biblioteka Cyfrowa прадстаўляе адпаведнае выданне Ю. Харашкевіча «Echa minionych lat: (wiersze, pieśni z muzyką, marsze wojska polskiego z końca 18. i początku 19. wieku)», якое ўтрымлівае разглядаемы і шэраг іншых песенных твораў пра тагачасныя падзеі [22]. (У Інтэрнэце таксама знаходзіцца шмат варыянтаў (у тым ліку рымейкаў) гэтай песні – сутнасна тоесных [28], таму мы будзем арыентавацца на зборнік Ю. Харашкевіча.)

На думку польскіх даследчыкаў, «Śpiew włościan krakowiaków» таксама складзеная кімсьці з Касцюшкавага акружэння, каб праводзіць сярод мужыкоў прапаганду з заклікамі да ўдзелу ў паўстанні; яна стала ўлюбёнай песенькай аддзелаў кракаўскіх касінераў [30, с. 133-134]. Паміж ёю і «Песняй беларускіх жаўнераў 1794 года» можна правесці паралелі. Перадусім звяртае ўвагу тоеснасць у рытміцы: абедзве песні напісаны чатырохстопным харэем, прычым кожны радок заканчваецца жаночай клаўзулай (характэрнай для польскамоўнай паэзіі). Не дзіўна, што цалкам супадае і лейтматыў твораў. Відавочную зместавую пераклічку маюць многія радкі песень (што ўпершыню заўважана А. Мальдзісам [11, с. 290]). Супаставім больш падрабязна (гл. табл. 1 і мал. 3):

*Табл. 1. Супастаўляльныя радкі ў «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года» і «Śpiewie włościan krakowiaków 1794».*

| Песня беларускіх жаўнераў 1794 года | № радка | Śpiew włościan krakowiaków 1794 | № радка |
|---|---|---|---|
| Возьмем косы ды янчаркі... | 1 | Zućma cepy, biezma piki, Oj da, da, da.<br>Biezma kosy, biezma dzidy, Oj da, da, da | 8-9 |
| Ну жа, хлопцы! Ну жа жыва.<br>Цяпер маем для нас жніва. | 9-10 | Dalej chłopcy – dalej zywo, Oj da, da, da.<br>Otwiera sie dla nas zniwo, Oj da, da, da. | 1-2 |

[1] Адбітак з першакрыніцы каштоўнага рэлікта айчыннай культуры дасланы з Вільні шаноўнай Ліляй Плыгаўкай, за што Спадарыні нізкі паклон.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бійма Маскву і Прусакі. | 18 | Bijma wsyscy wraz Moskali, Oj da, da, da... | 11 |
| Да Касцюшкі ўсе прыстаем. | 52 | A psystajma do Kościuski! Oj da, da, da. | 40 (апошні) |

Як бачна, акрамя супадзенняў, якія маюць невыпадковы характар, а ўказваюць на цесную ўзаемасувязь паміж творамі, і постаць Тадэвуша Касцюшкі ў абедзвюх песнях мае аднолькавае значэнне – лідара ў змаганні супраць агрэсараў. У сувязі з вышэйсказаным лагічна будзе дапусціць, што «Śpiew włościan krakowiaków» і з'яўляецца тым, ужо згаданым аналагам беларускай «Песні...». Ці, відавочна, наадварот. Даказана, што «вытокі беларускіх песень гімнічнага складу ў большай частцы звязваліся з польскай рэвалюцыйнай традыцыяй. У прыватнасці, шмат якія беларускія гімнічныя формы бяруць свой пачатак у творчасці перыяду паўстання Тадэвуша Касцюшкі» [3, с. 223].




*Мал. 3. «Śpiew włościan krakowiaków 1794» і ноты да яго. Крыніца: [22, S.28; 23, S.12].*

Са свайго боку А. Мальдзіс адзначае, што «беларускі твор мае самастойны, больш абагульнены характар. У "Спеўцы кракаўскіх сялян" прыгадваюцца канкрэтныя факты і прозвішчы: бітва пры Сломніках (Рацлавіцах), яе герой Барташ Главацкі. Беларускаму селяніну гэтыя назвы і прозвішчы нічога не гаварылі б. Таму ў "Песні" месца канкрэтных рэалій занялі абагульненні» [11, с. 290]. Такое адрозненне, думаецца, якраз і з'яўляецца сведчаннем стварэння беларускага варыянта «Песні...» на аснове польскага. Тым болей што польскамоўных паўстанцкіх песень існаваў цэлы корпус. Яны даўно ўведзены ў навуковы зварот [гл., напрыклад: 27]. У той жа час адзначым даволі крэатыўны падыход да беларускамоўнага перастварэння першатэксту.

А. Мальдзіс, прызнаючы паходжанне такіх твораў з "адукаванага асяроддзя" ды іх мэтаскіраванасць на сялянства, адзначае, што "ў абодвух выпадках мы сустракаемся са свядомай стылізацыяй пад народную песню, увядзеннем дыялектных форм" [11, с. 289]. Адначасова даследчык лічыць дыялектныя рысы ў беларускім творы прыналежнымі Слонімшчыне [10, с. 38] (кракаўскія варыяцыі спецыялістаў не схілялі да пэўнай моўнай лакалізацыі – гл. вышэй). Зрэшты, гэта не з'яўляецца супярэчнасцю, бо аўтар "Песні..." стылізаваў твор пад знаёмую яму народную гаворку.

Ідэя перакладу "Песні..." ўзнікла па публікацыі яе польскага аналагу ў перыёдыку, які выдаваўся ў Вільні падчас інсурэкцыі і называўся "Gazeta Narodowa Wileńska". 23 мая 1794 г. у дадатку да №8 названай газеты была надрукавана "Śpiewka Włościan Krakowiakow" (мал. 4).

Як лічыць польскі даследчык Анджэй Вальтаноўскі, «"Śpiewka włościan krakowiaków" інспіравала ў Вільні ўзнікненне зусім новага твора. Бітва пад Рацлавіцамі,



Spiewka Włościan Krakowiakow
Daley Chłopcy daley zywo
Otwiera ſię dla nas zniwo,
Rzućwa pługi, rzućwa radło,
Trza wojować, kiey tak padło,
Niech kobieta goſpodarzy,
Niech pilnują roli ſtarzy,
My Parobcy Zagrodniki,
Rzućwa cepy bierzwa piki.
Bierzwa koſy bierzwa dzidy,
Otrząśniywa ſię z tey bidy.
Biywa wſzyſcy wraz Moſkali,
Bo nas ſię dość natyrali.
Naucwa i ſołdrę Pruſa,
Ze i w nas jeſt Polſka duſa.
Jeſce naſa chłopſka koſa,
Potrafi jem utrzeć noſa.
Wymłuciem ich jako ſnopy,
Cuz to? bośmy to nie Chłopy?
Juz ich ſtrzepali za katy,
Przy Słomnikach naſe braty.
Zſiekli, zkłuli, zmordowali,
Harmaciſka odebrali,
Odebrali konie bryki,
Dukaciſka i Rubliki.
A ci co byli zwawemi,
Pozoſtajali ſtarſzemi.
Głowacki co był Bartoſem,
Chodzi teraz jak Pan z trzoſem.
I Gwizdzickiemu nicego,
Niedulkus by i nam tego.
Nuyno chłopcy, pódźwa i wa,
Naſey ſię krzywdy pomściwa.
Jeſce i nam Bóg poſcęſci,
Niezaluywa na nich pięści.
Mawa ręce po pięć palców,
Biywa dobrze tych zuchwalcow.
Poprzedaywa woły z wozem,
Spieſwa wſzyſcy za obozem.
Poprzedaywa i poduſki.
A przyſtaywa do *Kościuski*.

*Мал. 4. «Śpiewka włościan krakowiaków». Віленскі варыянт (адбітак з першакрыніцы: [25]).*

а таксама паўстанне ў Варшаве ў літаратурных амбіцыях невядомага віленскага інтэлігента мела на мэце паслужыць уздыму паўстання і на Украіне. Так, у Друкарні Віленскай акадэміі выдадзена "Пісньукраінців-казаків"». Гэты твор А. Вальтаноўскі публікуе, захоўваючы арыгінальны правапіс [31, с. 17]. Прыводзім больш ранні друкаваны варыянт з нязначнымі адрозненнямі ад публікацыі А. Вальтаноўскага (мал. 5).

Што датычыцца ўкраінскага варыянта, то А. Мальдзіс схіляецца да меркавання, што «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года» паслужыла ўзорам для ўкраінскай «Пісні украінців-козаків», выдадзенай асобнай лістоўкай лацінскімі літарамі і знойдзенай ім у вроцлаўскай бібліятэцы «Асалінэум». Паводле вызначэння даследчыка, паміж беларускім і ўкраінскім творамі значна большая тэкстуальная залежнасць, чым паміж беларускім і польскім; часам узнікае ўражанне, што зроблены непасрэдны пераклад. Праўда, як дадае даследчык, у «Пісні украінців-козаків» «замест ксяндза з'яўляецца поп, упамінаюцца некаторыя ўкраінскія рэаліі» [11, с. 290] (між тым у гэтай фразе – «замест ксяндза з'яўляецца поп» – завуалявана меркаванне А. Мальдзіса, што беларускі варыянт паўстаў раней украінскага).

Правапіс "Песні беларускіх жаўнераў 1794 года" вельмі нагадвае напісанне польскамоўнай "Śpiewki Włościan Krakowiakow" у віленскім варыянце апошняй (што з'яўляецца важкім фактарам перастварэння твора з мовы польскай – а не з украінскай – на беларускую). Перш за ўсё кідаецца ў вочы непаслядоўнае ўжыванне літары "y": яна прымяняецца як у якасці перадачы гука [й], так і гука [ы], прычым гук [й] можа перадавацца і праз літару "j" – у віленскім варыянце "Śpiewki...»; аналагічна літара "y" фігуруе ў "Песні..." – г. зн. перадае і [й], і [ы], але ў той жа час гук [й] нярэдка перадаецца і праз літару "i", якая ў сваю чаргу служыць для змякчэння зычных і перадачы самога гука [і]. Параўнаем:

| Śpiewka włościan krakowiaków | Песня беларускіх жаўнераў 1794 года |
|---|---|
| Daley Chłopcy daley zywo<br>Otwiera się dla nas żniwo,<br>Rzućwa pługi, rzućwa radło,<br>Trza wojować, kiey tak padło... | Woźmiem kosy dy ianczarki<br>Poydziem hordyie hnuć karki.<br>Niechay Maskal ustupaie,<br>Niechay Biełarusou znaie. |

Твор на ўкраінскай мове (паводле публікацыі ў перыёдыку "Dziennik Poznański") сумяшчае ўсе пералічаныя абазначэнні гукаў [й] і [ы]. Гэта, па ўсёй верагоднасці, указвае на знаёмства версіфікатара ўкраінскамоўнага варыянта з польскамоўным і беларускамоўным аналагамі. Прынамсі А. Вальтаноўскі лічыць, што стварэнне

«Пісні украінців-козаків» спароджана менавіта веданнем абодвух – і польскага, і беларускага – варыянтаў [32, с. 151].

Ідэалагемы савецкага часу, тагачасная метадалогія абумовілі некаторыя моманты тэндэнцыйнасці пры аналізе такога паважанага даследчыка, якім, несумненна, з'яўляецца А. Мальдзіс. Ён, дарэчы, нават прозвішча наццэма А. Луцкевіча вымушаны быў не згадваць, хоць і скарыстаў некаторыя думкі апошняга[1]. Нягледзячы на сцвярджэнне аб патрыятычным і антыімперыялістычным характары песні, А. Мальдзіс, падвяргаючы крытыцы і недарэчным з пазіцый сённяшняга дня нараканням, указвае на шляхецкую абмежаванасць невядомага аўтара са Слонімшчыны (да гэтага рэгіёна меў непасрэдныя адносіны згаданы трохі вышэй М.К. Агінскі, што з'яўляецца яшчэ адным штрыхом да абгрунтавання яго аўтарства «Песні...»), які «яшчэ ўскладае вялікія спадзяванні на боскую дапамогу, на тое, што "вольнасць" беларусам дадуць паны», і «не зусім разумее розніцу паміж рускім народам і царызмам» [10, с. 38]. А. Мальдзіс, ведаючы, што «прыгонным, якія ўдзельнічалі ў паўстанні, Касцюшка абяцаў значныя палёгкі» [11, с. 218], у другой сваёй рабоце, тым не менш, не надае значэння таму, што Касцюшка, аўтарытэт якога быў бясспрэчны ў любых колах, у тым ліку сярод ворагаў, лічыў неабходным адмяніць прыгоннае права, стварыць грамадства вольных людзей [19, с. 220-221], што знайшло адлюстраванне і ў песні:

Вольнасць для нас паны даюць
І за людзей нас прызнаюць.

Гэта адпавядае пазіцыі будучага ачольніка паўстання: «Толькі за шляхту ваяваць не буду. Жадаю свабоды для ўсяго народа і толькі для яго гатовы ахвяраваць жыццё». І ўжо падчас абвяшчэння і разгортвання паўстання Касцюшка ўрачыста прысягнуў, што нададзеную яму ўладу ён выкарыстае для «абароны нашых межаў, для аднаўлення народнага самаўладдзя і ўмацавання ўсеагульнай свабоды»: «Хачу знішчыць непрыяцеля і выканаць справядлівую волю народа. Няхай ён установіць такі ўрад, які будзе яму падабацца» [цыт. паводле: 18, с. 14]. Больш таго, сама шляхта не была аднназначнай у сваіх адносінах да паўстання, бо многія лічылі Касцюшку ледзь не за рабаўніка, які прыйшоў пазбавіць іх шляхецкіх вольнасцей [18, с.15].



PISN UKRAINCIW KOZAKI

Berym spisy i ianczarki,
Chodim hordy hnuty karki,
Nechay Moskal ustupaje!
Nechay Ukrainciw znaje!

Już Mazury ich pobyły,
Porobyły z nych mohyły,
Chodim z nemi połuczmosia,
Moskwi, Nimciom nedaymosia.

Nute chłopci, nute żywo!
Teper maiem dla nas żnywo
Hospod Boh nam wpomoszcz stajet
Perwszu sławu powertajet.

Nute żywo, wy sotnyki,
Wy Mołodci Desiatnyki,
Daymo sobi ruki wzajem
A Batszczynu widzyskaiem.

Atamany i kozaki
Byimo Moskwu i Prusaki
Kohda ich wsiech wytołczemo
Tohda w seło powernemo.

Pamiataiem szczo robyły
Kak nas derły, kak nas były
Dokiż budemo mołczaty
Chodim z rużem chutsze z chaty.

Koni nam pozaiedyły
Szczo chotiły, to robyły,
Idmo żywo do Kastiuszki
Budem rubat Moskaluszki.

Naszczo zemlu nam zabrały?
Naszczo w puta pokowały?
Doczki, Zeny posromyły,
Chodim z nych poroty żyły.

Pohulaymo, pohukaymo
Kommendatiw swych piznaymo,
A Moskaliw, Nimciw roty,
Budem ryzat i kołoty.

Szczot to? czymy ne kozaki?
Hospodary ne burłaki,
Zaszczo maiem nużdu znaty
Kottu terpliat naszy braty?

Prodowaymy owci, woły
Pszenyciu z humna, stodoły,
Nechay Pip nas sochraszczajet,
Bo nam hospod pomahaiet.

Buwaj zdorowa Kułyno!
Parasko! krasna dziwczyno!
Od was teper odiżdżajem
A do Kastiuszki prystajem.

Koły nazad powernem sia,
Posla z wamy ustysnem sia,
Wilnost dla nas Pany daiut
Y za ludey nas uznaiut.

Archirey nasz już w Senati
A my jeszcze hryjem w chati
Berym spysy i iańczarki
Chodim hordy hnuty karki.

Nute chłopci, nute żywo
Pohulaty maiem żnywo
Pohulaymo! pohulaymo!
A Moskalam sia ne daymo!

*Мал. 5. "Пісні украінців-казакоў". Крыніца: [21].*

Сацыялагічныя меркі савецкіх даследчыкаў у дадзеным выпадку не зусім прымальныя. Акрамя згаданых радкоў, адзінае, за што яшчэ можна зачапіцца тымі падыходамі савецкага часу, з'яўляюцца словы «здрада ёсць ужо ў сенаце», што цалкам стасуюцца з рэакцыяй патрыётаў на дзеянні ўдзельнікаў Таргавіцкай канфедэрацыі (1792), калі многія магнаты, шляхцічы і сам кароль перайшлі на бок рэнегатаў-таргавічан. Дый падчас паўстання прадстаўнікі самай вярхушкі грамадства не перавышалі паловы ад агульнай колькасці ўдзельнікаў інсурэкцыі, а на беларускіх тэрыторыях і таго меней. Апрацаваныя архіўныя дакументы паведамляюць, што наогул ва ўзброеным выступленні было 50 % шляхты, 37 % – сялянаў, 10 % – мяшчанаў

[1] Аўтар удзячны за падказку гэтай інфармацыі вядомаму даследчыку жыцця і дзейнасці братоў Луцкевічаў Анатолю Сідарэвічу.

(3 % застаецца на іншыя катэгорыі грамадства), а з тэрыторыі сучаснай Беларусі – адпаведна 44 %, 36 %, 20 %, што складае 100 % [5, с. 4].

Як сведчыць поўны тэкст, без цэнзурных купюр [гл., напрыклад: 1, с. 133-134], прысутнасць у самой песні яскравейшых контраргументаў тэзе аб братэрстве беларускага і рускага народаў не дазволіла апублікаваць твор цалкам за савецкім часам, бо гэта дапамагло б аб'ектыўна расставіць акцэнты пры аналізе песні, а таксама, улічваючы высокую культурна-гістарычную вартасць твора з прычыны яго аператыўнасці і публіцыстычнай скіраванасці, паспрыяла б выяўленню настрояў значнай часткі насельніцтва інкарпараваных тэрыторый. Насамрэч яна мае перадусім выразны нацыянальна-патрыятычны беларускі пафас («Няхай Москаль уступае, / Няхай Беларусаў знае. <...> Дамо сабе рукі ўзаем, / Бацькаўшчыну адзыскаем») і з'яўляецца палымяным заклікам адстаяць незалежнасць Айчыны перад прускай і маскоўскай навалай («Атаманы і Казакі, / Біймa Маскву і Прусакі».). Прычым падкрэсліваецца антырасійскасць паўстання, ачоленага Касцюшкам («Пойдзем жыва да Касцюшкі, / Рубаць будзем Маскалюшкі»).

Аляксей Пяткевіч бачыць у «Песні...» пэўны момант знакавасці і паказальнасці для станаўлення нацыянальнай ідэі беларусаў у агульным кантэксце паўстання 1794 г., галоўнай мэтай якога, як даволі зладжана (на погляд названага даследчыка) сцвярджаюць гісторыкі, з'яўлялася адраджэнне Рэчы Паспалітай нібыта без якіх-кольвек сепаратысцкіх імкненняў. Сапраўды, выключэннямі глядзіцца пазіцыя, якую займае, да прыкладу, Анатоль Грыцкевіч. Ён лічыць, што «ідэя незалежнасці Беларусі была галоўнай падчас паўстання 1794 г.» [6, с. 22] «...Беларуская мова паўстанцкіх песень – вельмі важны паказчык таго, што нараджалася ў гэтым асяродку (шляхецкай інтэлегенцыі. – *А. Т.*) менавіта беларуская свядомасць. <...> [У "Песні..."] адлюстраваны, такім чынам, не дробныя, побытавага ўзроўню клопаты, а кардынальныя пытанні быцця беларускага народу. Ці ж не дзейнічае тут беларуская звышзадача аўтара? Пэўна, што так» [15, с. 133-134].

Мусім зрабіць адступленне і патлумачыць, што, паводле прынятай перыядызацыі, эпоха Новага часу падзяляецца на два прынцыпова адрозныя для нацыястанаўлення адрэзкі: раннемадэрны і мадэрны. Іх падзяляе часавая мяжа канца XVIII ст., якая, аднак, зачалася ў Францыі, прыходзячы да іншых народаў (палітычных, а не этнічных) пазней. Адным з важных паказчыкаў, індыкатараў для вызначэння той мяжы выступае мова. Менавіта пашырэнне сферы яе ўжывання азначала станаўленне на нацыянальнае крыло таго ці іншага этнасу. Але нават на мадэрным адрэзку, калі пачыналі выкрышталізоўвацца нацыі, мова, як даводзіць Т. Снайдэр на прыкладзе паўстання 1863 г. і ўдзелу ў ім узначаленых палякамі валынскіх паўстанцаў, яшчэ не служыла лініяй падзелу паміж нацыямі, паўстанні насілі характар хутчэй палітычны, чым этнічны [17, с. 164]. Тым не менш, на наш погляд, з кожным праяўленнем пэўнай мовы, якая да мадэрнага дыскурсу Новага часу не мела палітычнай рэпрэзентацыі (у нашым выпадку маецца на ўвазе літоўская, украінская і, безумоўна, беларуская мовы падчас існавання Рэчы Паспалітай і пасля яе падзелаў), можна казаць пра нацыятворчасць пэўнага этнасу, якому, аднак, магло быць яшчэ далёка не толькі да лагічнага выніку развіцця ў выглядзе нацыі, але і да ўсведамлення яго прадстаўнікамі сябе агульнай народнасцю як пераходнага этапу ад фармату палітычнага раннемадэрнага народа да нацыі ў сучасным разуменні, бо родная мова тут становіцца «душою народа» (Ф. Багушэвіч), а яе ўжыванне – сведчаннем той душы.

Хочацца дадаць, што паколькі «Песня...» мае ўкраінскую ды польскую версіі таксама, невядомы аўтар у дадзеным выпадку свядома выкарыстоўвае беларускую (NB не ліцвінскую і тым больш не літоўскую паводле сённяшняга катэгарыяльнага разумення) мову, дакладна ідэнтыфікуючыся на фоне суседзяў, ужо тады ўсведамляючы нацыянальную дыферэнцыяцыю ў мадэрных катэгорыях Новага часу (у адрозненне ад раннемадэрных), хоць станаўленне мадэрных польскай, украінскай і беларускай

нацый адбывалася не сінхронна. Беларусы ў сваім нацыянальным развіцці адставалі ад заходніх і паўднёвых суседзяў, таму так важна, што адзін з варыянтаў песні мае, кажучы словамі А. Пяткевіча, беларускую звышзадачу, – гэта паказчык мінімізацыі разрыву ў развіцці паміж суседнімі народамі, якія ў той гістарычны момант сталі пад сцягі паўстанцаў на чале з Касцюшкам – прадстаўніком народа, калі можна так сказаць, будучых беларусаў. Што варта падкрэсліць у сувязі з гэтым: аўтар, маючы паходжанне са Слонімшчыны, на якую да таго часу не распаўсюджвалася дамадэрнае паняцце «Беларусь», лакалізаванае датуль на ўсходняй частцы сучаснай беларускай краіны, вызначае беларускасць і стасоўна свайго рэгіёна, а таксама шырэй, дэманструючы менавіта мадэрнае, нацыянальнае разуменне беларускасці.

Аўтар «Песні...», скіраванай супраць знешняга агрэсара, выбарам беларускай мовы твора, з аднаго боку, імкнецца данесці ідэі нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Робіць гэта на зразумелай большасці мове! Як даводзіць вядомы польскі даследчык нацыятворчых працэсаў ва Усходняй Еўропе Рышард Радзік, на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай (чытай – Беларусі) «моўнай паланізацыі не саступіла частка сярэдняй, а асабліва дробнай шляхты», прычым, як можна зразумець, страта моўнай этнатоеснасці назіралася яшчэ большай у анямечаных тады Славеніі, Чэхіі, Маравіі [16, с. 67], а гэтыя рэгіёны рэанімавалі сваю нацыянальную самабытнасць ва ўмовах «вясны народаў». З іншага боку, аўтар такой песні бачыць (магчыма, толькі паўсвядома прадугадвае) далейшае развіццё этнічных працэсаў у гэтым рэгіёне, якія вялі да ўсведамлення сваёй беларускасці, дыферэнцаванай ад асветніцкай пальшчызны.

«Нацыя, на думку ідэолагаў эпохі Асветніцтва, павінна быць зуніфікавана згодна з нормай, прынятай ва ўсёй дзяржаве, пры поўнай інтэграцыі з ёю лакальных супольнасцяў, рэлігійных і моўных меншасцяў, груп, якія адрозніваюцца звычаямі – аднак не з пункту гледжання на нібыта вышэйшасць этнічна-культурнай сферы, якая яе ўтварае, а перадусім прымаючы пад увагу лепшае кіраванне такім грамадствам, большую магчымасць канцэнтравання на ажыццяўленні асветніцкіх лозунгаў»,– цытуем далей Р. Радзіка [16, с. 68-69]. Але ці ж не было на землях будучай Беларусі Асветніцтва? Адказ адмоўны. Было. Што ж тады магло азначаць стварэнне аўтарскай (нароўні з народнымі) песні на беларускай мове? Такі мастацкі твор ішоў жа ў разрэз «канцэнтраванню на ажыццяўленні асветніцкіх лозунгаў»! Паводле нашага меркавання, гэта азначала найперш тое, што эпоха Асветніцтва завяршала сваё існаванне, саступаючы месца новай – з лозунгамі «свабоды, роўнасці, братэрства» (у дадзеным кантэксце ў сувязі з падкрэсленымі словамі з цытаты польскага калегі акцэнтаваць увагу хацелася б менавіта на слове «роўнасць»).

Сам Касцюшка, паводле расійскага даследчыка гісторыі Беларусі Міколы Нікалаева, «лічыў патрэбнымі і неадкладнымі прымусовыя меры па паланізацыі беларускага сялянства» [14, с. 232]. Гэта мае абгрунтаванне ў выглядзе слоў самога славутага ліцвіна, які ў цытуемым выпадку казаў пра русінаў (май 1789 г.): «Трэба іх прывучыць да польскай мовы... З часам у іх увойдзе польскі дух» [паводле: 16, с. 72][1]. Таму наўрад ці Касцюшка пагадзіўся б з абеларушваннем сябе ў кантэксце мастацкіх твораў. Аднак таксама заўважана, што ліцвінскі патрыятызм не супярэчыў патрыятызму Рэчы Паспалітай і ў інтэнцыях Т. Касцюшкі стаяў паперадзе інтарэсаў супольнай дзяржавы двух народаў. Больш таго, паводле Алега Латышонка, «у асобе Касьцюшкі мы назіраем столькі праяваў беларускасьці, колькі іх магло быць у дадзеных гістарычных абставінах» [8, с. 393]. Атаясамленне ліцвінскасці і беларускасці знаходзіцца і ў работах сучаснага беларускага даследчыка Касцюшкавай дзейнасці Леаніда Несцерчука, які ў такім святле інтэрпрэтуе ўспаміны паплечніка па паўстанні М.К. Агінскага [13, с. 138].

---

[1] Гэтыя словы любяць прыводзіць у якасці аргумента неазаходнерусісты [гл., напрыклад: 12]. Гл. падрабязней пра нацыянальную ідэалогію Тадэвуша Касцюшкі: [4, с. 160-198].

Як ні парадаксальна, але меркаванні Міколы Нікалаева ды Ігара Марзалюка, падмацаваныя такімі важкімі аргументамі, як словы самога Т. Касцюшкі, зусім не супярэчаць пазіцыям таго ж А. Латышонка. Неабходна ўлічваць час, кантэкстам якога былі абумоўлены тыя словы героя. З гэтай нагоды дазволім сабе шырокае цытаванне выбітнай украінскай даследчыцы Наталлі Якавенкі: «Лише така держава, згідно з поглядами діячів Просвітництва, матиме гарантовану безпеку, торуватиме шлях поступові освіти, правопорядку, усуватиме архаїчні пережитки тощо. Варто нагадати, що власне в останній третині XVIII ст. німецька мова була оголошена обов'язковою в поліетнічній Австрії, а у Франції, охопленій полум'ям революції, збереження регіональних мовних відмінностей трактувалося як ознака контрреволюції, бо, як говорив у 1794 р. депутат Конвенту Бертран Барер де Вйозак [Barére de Vieuzac], мова вільного народу мусить бути одна й та сама для всіх. На схожі ідеї натрапляємо і в політичній думці Речі Посполитої. Наприклад, майбутній вождь повстанців Тадеуш Костюшко у 1789 р. писав, що розв'язання української проблеми неможливе без призвичаєння до польської мови, у тому числі – навіть завдяки впровадженню її у церковний обряд, бо тільки так з часом у них увійде польський дух. Мовна асиміляція українського простолюду сприймалася і як запорука його лояльності, оскільки, як підкреслював один з найвидатніших діячів доби реформ Гуго Коллонтай, бунти спалахували завжди тільки там, де низи не вміли говорити по-польському» [20]. (Гл. вышэй таксама цытаванне Р. Радзіка і нашы меркаванні ў сувязі з гэтым.) Таму пры ўсім сваім ліцвінскім патрыятызме Касцюшка не мог выступаць за роўнасць роднай мовы з польскай, якая да таго часу выйшла далёка за межы Польшчы, запаланіўшы і на Беларусі фактычна ўсе сацыяльныя нішы, акрамя размоўнай і фальклорнай (гэта даказваецца і на прыкладзе мастацкіх твораў канца XVIII–пачатку XIX ст.). Касцюшка імкнуўся за прагрэсам, а заступніцтва рэгіянальнай мовы, да ўзроўню якой «лакалізавалі» ліцвінскія правячыя колы мову продкаў, рабіла б Касцюшку рэакцыянерам (з тагачаснага гледзішча) або чалавекам, які значна апераджаў свой час (калі глядзець з XX і XXI стст.): фактычна толькі ў XX ст. стала канчаткова ясна, што «"новыя нацыі" Цэнтральнай і Усходняй Еўропы фармуюцца на этнічна-моўна-культурных падставах, а не на гістарычна палітычных» [4, с. 193]. Гэта ўвяло ў аблуду нават Фрыдрыха Энгельса (1820–1895), які такія этнасы адносіў да разраду «негістарычных». А ён жа жыў прынцыпова пазней за Т. Касцюшку! У розных светапоглядных эпохах. Таму нараджэнне падобных да вышэйразгледжаных мастацкіх твораў на беларускай мове азначае першыя сігналы ўзыходжання і мадэрнай беларускай нацыі – нягледзячы на ўсе існыя песімістычныя прагнозы (у тым ліку цытаванага А. Валіцкага) і дэструктыўныя акалічнасці. Дый Т. Касцюшка пры ўсім пры тым, што «выказваўся ў падтрымку добраахвотнай паланізацыі», па рэзюмуючых словах А. Валіцкага, «не прымаў нікчэмнага "нацыянальнага эгаізму", верыў у міжнароднае братэрства народаў» [4, с. 198].

Такім чынам, феномен «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года» дае магчымасць зрабіць пэўныя высновы і выказаць некаторыя меркаванні. Нягледзячы на тое, што паўстанне 1794 г. было агульным на тэрыторыі Польшчы і ВКЛ, інсургенты выразна бачылі сваю этнічную аўтэнтычнасць і праяўлялі нацыянальную самаідэнтыфікацыю, важна, што выдзялялася беларуская пасіянарная плынь, у якой бачыцца запачаткаванне сучаснага беларускага народа. Узровень той самаідэнтыфікацыі напэўна не быў высокім, аднак дастатковым, каб не ігнараваць яе высокапісьменнаму аўтару «Песні...»: яна не з'яўлялася літаратурна-музычным творам з разраду «kunst *für* kunst», а мела практычны характар, а значыць, была разлічана на зусім пэўную аўдыторыю. Паводле гэтага твора, мэты паўстання патрыятычныя: інсургенты выступаюць супраць захопнікаў іх радзімы, разам з тым пры агульнасці падзей на польскіх і беларускіх землях няма падладжвання пад агульны патрыятызм у святле польскай нацыянальнай ідэі таго часу. Кіраўнік паўстання ў «Песні беларускіх

жаўнераў 1794 года» – Тадэвуш Касцюшка – успрымаецца сваім, без намёку на адчужанасць ад беларускага этнасу.

Літаратура:

1. Анталогія беларускай паэзіі: у 3 т. / рэдкал.: Р. Барадулін [і інш.]; уклад. А. Мальдзіс і інш.; рэд. і аўтар прадм. Н. Гілевіч. – Мінск: Маст. літ., 1993. – Т. 1. – 622 с.

2. Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя / Склад. і аўт. камент. А. А. Лойка, В.П. Рагойша. 2-е выд., перапрац. і дап. – Мінск: Вышэйшая школа, 1988. – 488 с.

3. Беларусы. – Т. 11. Музыка / Т.Б. Варфалемеева [і інш.]; рэдкал.: М.Ф. Піліпенка [і інш.]; навук. рэд. А.І. Лакотка; Нац. акад. навук. Беларусі, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы. – Мінск: Беларус. навука, 2008. – 700 с.

4. Валіцкі, А. Нацыя, нацыяналізм, патрыятызм / уступ Анджэй Мэнцвэль; пер. з польск. мовы А. Ластоўскага; навук. рэд. Г. Сагановіч / А. Валіцкі. – Мінск: Медысонт, 2012. – 528 с.

5. Восстание и война 1794 года в литовской провинции / Укладанне, рэдакцыя і прадмова Я. Анішчанкі. – Мінск: Моладзевае навуковае таварыства, 2001. – 209 с.

6. Грыцкевіч, А. Ідэя незалежнасці Беларусі ў гістарычным аспекце / А. Грыцкевіч // Спадчына. – 1996. – № 5. – С. 16-30.

7. Копчевский, Я.С. Тадеуш Костюшко / Я.С. Копчевский. – Варшава: издательство “Интерпресс”, 1972. – 134 с..

8. Латышонак, А. Нацыянальнасьць – Беларус / А. Латышонак. – Беласток, 2009. – 558 с.

9. Луцкевіч, А. Да гісторыі беларускага руху / А. Луцкевіч. – Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства:, выданьне 2-е, дапоўненае і папраўленае, 2010. – 346 с.

10. Мальдзіс, А. З літаратуразнаўчых вандраванняў: Нарысы, эсэ, дзённікі / А. Мальдзіс. – Мінск: Маст. літ., 1987. – 215 с.

11. Мальдзіс, А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII – XVIII ст.) / А. Мальдзіс. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 352 с.

12. Марзалюк, І. Фальшывая гісторыя – маці фальшывай палітыкі [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://arche.by/by/28/30/2927. – Дата доступу: 13.01.2012.

13. Несцярчук, Л. Развагі Міхала Клеафаса пра ліцвінаў і палякаў / Л. Несцярчук // Маладосць, 2015, №1. С. 138-142.

14. Нікалаеў, М. Папялушкава выдавецтва «Беларусь». Яшчэ адзін крок да стварэння нацыянальнага пантэону / М. Нікалаеў // ARCHE-Пачатак. – 2006. – № 5. – С. 230-234.

15. Пяткевіч, А. Станаўленне беларускай нацыянальнай ідэі ў кантэксце культурнага руху XIX ст. / А. Пяткевіч // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 2005. – Z. 23. – S. 132-136.

16. Радзік, Р. Вытокі сучаснай беларускасці; беларусы на фоне нацыятворчых працэсаў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе XIX ст. / Р. Радзік / пер. з пол. мовы Наталлі Дзенісюк; навук. рэд. С. Рудовіч; С. Токць. – Мінск: Медысонт. – 376 с.

17. Снайдэр, Т. Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1959–1999 гг. / Т. Снайдэр / пер. з англ. мовы М. Раманоўскага і В. Калацкай; навук. рэд. Г. Сагановіч. – Мінск: Медысонт, 2010. – 421 с.

18. Чаропка, В. «Сябар прыгнечаных, вораг прыгнятальнікаў». Тадэвуш Касцюшка / В. Чаропка // Беларускі гістарычны часопіс. – 2004. – № 12. – С. 9-22.

19. Юхо, Я.А. Касцюшка Андрэй Тадэвуш Банавентура (30.11.1745 – 15.10.1817) / Я.А. Юхо // Асветнікі зямлі Беларускай: Энцыкл. даведнік. – Мінск: БелЭн, 2001. – С. 220-221.

20. Яковенко, Н. Нарис історії України. З найдавніших часів до кінця XVIII ст. Розділ VI. Україна XVIII ст. Між Річчю Посполітою і Російською Імперією / Н. Яковенко [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://history.franko.lviv.ua/yak_r6-1.htm. – Дата доступу: 13.01.2012.

21. Dziennik Poznański. – 1882. – 1 kwietnia. – S. 3.

22. Echa minionych lat: (wiersze, pieśni z muzyką, marsze wojska polskiego z końca 18. i początku 19. Wieku). Zeszyt I. Słowa / Zebrał, i wydał J. Horoszkiewicz. Kraków: Spółka Wydawnictwa Polskiego, 1889. [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://www.dbc.wroc.pl/dlibra/publication?id=10280&from=&dirids=1&tab=1&lp=1&QI=F02D6B3E541DFCBCC4BBB31FB31CFA04-5. – Дата доступу: 13.01.2012.

23. Echa minionych lat : (wiersze, pieśni z muzyką, marsze wojska polskiego z końca 18. i początku 19. Wieku). Zeszyt II. Nuty / Zebrał, i wydał J. Horoszkiewicz. Kraków: Spółka Wydawnictwa Polskiego, 1889. [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://www.dbc.wroc.pl/dlibra/pub

lication?id=10280&from=&dirids=1&tab=1&lp=1&QI=F02D6B3E541DFCBCC4BBB31FB31CFA04-5. – Дата доступу: 13.01.2012.
24. Federowski, M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materyały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877-1905 / M. Federowski . – T. 3, Baśnie, przypowieści i podania ludu z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki. – Cz. 2, Tradycye historyczno-miejscowe oraz powieści obyczajowo-moralne. Kraków, 1903. – 314 s.
25. Gazeta Narodowa Wileńska. – 1794. – 23 maja. – Dodatek do Gazety Narodowej Wileńskiej.
26. Kościuszko w kręgu mitologii narodowej / pod redakcją Aliny Barszczewskiej-Krupy. – Łódź: Ibidem, 1995. – 126 s.
27. Nowak-Dłużewski, J. Poezja powstania kościuszkowskiego / J. Nowak-Dłużewski. – Kielce, 1946. – 152 s.
28. Pobudka krakusów [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://bibliotekapiosenki.pl/Pobudka_krakusow. – Дата доступу: 13.01.2012.
29. Stępnik, K. Legenda Legionów / K. Stępnik. – Lublin: Wydawnictwo Uniwersitetu Marii Curie-Skłodowskiej, 1995. – S. 139-160.
30. Tadeusz Kościuszko w historii i tradycji. – Warszawa: Państwowe Zakład Wydawnictw Szkolnych, 1968. – 462 s.
31. Woltanowski, A. Legenda racławicka: echa i inspiracje poetyckie / A. Woltanowski // Gryfita: białostocki magazyn historyczny. – 1994. – № 5. – S. 16-18.
32. Woltanowski, A. Nieznana poezja litewska powstania kościuszkowskiego / A. Woltanowski // Studia Podlaskie. – Białystok. – 1996. – Tom VI. – S. 145-168.

Пятро Васючэнка



…катастрофа, яе прадчуванне
або перажыванне, сталася істотнай часткай
беларускага светаадчування…

# Утопія ці антыўтопія?

## *Жанравы рух беларускай літаратуры XX – XXI стагоддзяў*

Пераход у новае стагоддзе і тысячагоддзе мая сям'я сустрэла ў Любліне ў доме гасціннага гаспадара Сяргея Кавалёва, у той самай кваатэры, якую Сяржук Мінскевіч вымяраў квадратнымі бумбамлітамі. Што адчуў я новага напачатку новай, здавалася, эры, апроч воклічаў люблінцаў, якія не весяліліся так, напэўна, ад часоў падпісання Уніі з беларусамі ў 1569 годзе? Апроч бесперапыннага бухання петардаў, да якога слых менчука не быў такі звыклы? Тая Унія была падзеяй, якая, можа і адкрыла новую эру замірэнняў, калі бухалі не петарды, а гарматы. А што сёння? Пад салютаванне і віваты 31 снежня 1999 года Барыс Ельцын вымавіў сваё сакраментальнае "Я ухожу". А так нічога такога значнага як бы не адбылося. Засталося адчуванне некаторай святочнасці, эфемернай, бы пырскі шампанскага, снежнай еўрапейскай зімы, свежай, бы накрухмаленыя прасціны, змены датаў на календары.

І яшчэ думка пра тое, пра што маглі думаць нашыя продкі ў 666, 1000 годзе? Кажуць, што рыхтаваліся да канца свету.

Можа і рыхтаваліся, але з глыбіннай вераю ў тое, што нічога такога не адбудзецца, прыблізна так, як сустракалі канец свету паводле календара майя. Чалавецтва разумела, што пачатак новай эры даюць не юбілейныя даты, нават не магічныя лічбы, а экзістэнцыйна значныя падзеі. Так, прыкладам, у зусім не юбілейным 5508 годзе пасля стварэння свету пачалася новая хрысціянская эра, а час абнуліўся. Гэта ёсць падказкаю, што даты дыктуюцца падзеямі, а падзеі лёсава значнымі пераменамі. Так у жыцці, так і ў літаратуры.

У той жа час інвентарызацыя літаратуры, якую зрабіў я, працуючы над кнігай “Вялікія пісьменнікі ХХ стагоддзя” ды іншымі, паставіла мяне перад неабвержнымі фактамі заканамернай або выпадковай сінхранізацыі культурных падзей і летазлічэння. Шаснаццатае стагоддзе слушна лічыцца эпохай беларускага Рэнесансу, сямнаццатае паклала пачатак барока, васямнаццатае – Асветніцтву, дзевятнаццатае – панаванню п*а*ры ды электрычнасці, рамантызму і рэалізму, дваццатае – эры атаму, сусветных войнаў і мадэрнізму. Толькі ад якога моманту варта адлічваць пачатак той або іншай эпохі?

Ад падзеяў, якія сведчаць пра змену, як цвердзіць Ганна Кісліцына, культурнай парадыгмы. Так, беларускі Рэнесанс адлічвае сваю храналагічную прысутнасць ад 1517 года, калі ў Празе была выдадзена Францішкам Скарынам кніга “Псалтыр”. “Нашаніўскае” Адраджэнне – новая эра ў жыцці беларусаў – пачынаецца ў 1906 годзе, а разам з ім – пачынаецца новае для нас стагоддзе.

У літаратурнай храналогіі двойчы два далёка не чатыры, чаму шмат прыкладаў.

Як у старой славацкай казцы “Дванаццаць месяцаў”, перказанай Самуілам Маршаком, у літаратуры можа існаваць трыццаць другога снежня, трыццаць трэцяга снежня, трыццаць чацвертага снежня, і так доўга, ажно да той пары, пакуль не забухаюць гарматы або петарды новай яе гісторыі.

Жанры не прыходзяць і не знікаюць самі па сабе. Жанравы рух абумоўлены літаратурнымі з’явамі, падзеямі, зменамі.

Павароты жанравага руху беларускай літаратурнай гісторыі ХІХ стагоддзя здзіўляюць сваёй парадаксальнасцю. У той час, калі ў літаратурнай Еўропе запанаваў раман, беларусы тварылі паэзію! Чаму? Гэта істотнае пытанне для літаратуразнаўцаў, якія даследуюць новую беларускую літаратуру.

Сузіранне гісторыі сусветнай літаратуры мінулага стагоддзя прывяло мяне да высновы, што яно было бадай класічным у плане сінхранізацыі падзей, дат, культурных зменаў. Войны, рэвалюцыі, сацыяльныя забурэнні, эйнштэйнізм, фрэйдызм, мадэрнізм, экзістэнцыялізм, камунізм, фашызм, усё, што вызначае дух ХХ стагоддзя, выбухнула на ягоным пачатку. Я паспрабаваў быў вылучыць тып пісьменніка ХХ стагоддзя, надзеленага вопытам значных жыццёвых выпрабаванняў, удумлівага чытання, схільнага да анатаміравання дысгарманічных з’яваў жыцця, песімістычнага ў сацыяльных прагнозах. Перакананне ў існаванні крэатыўнай энергіі, уласцівай такому старадаўняму тыпу вербальнай творчасці, як літаратура, пераканала мяне ў тым, што пісьменніцкія прагнозы ёсць ні чым іншым, як праектамі, якія з цягам часу ажыццяўляюцца.

Прадказанні Герберта Уэлса, Карала Чапека, Вацлава Ластоўскага, Янкі Купалы, Францішка Кафкі, Джорджа Оруэла, Германа Гесэ мусілі спраўдзіцца, бо яны былі не прагнозамі, а праектамі. І вось маем не толькі ядзерную зброю, але і “ежу багоў” (сінтэтычныя прадукты), робатаў, штучны інтэлект, канцлагеры, таталітарныя сістэмы, інтэлектуальныя гульні, глабалізацыю.

Уладзімір Караткевіч у вершы “Дзяўчына пад дажджом” як бы прадказваў час, калі над Беларуссю пачнуць паўзці стронцыевыя хмары, і Аркадзь Куляшоў у паэме “Цунамі” пра тое ж папярэджваў. У тую эпоху цунамі і стронцыевыя хмары ўтвараліся ад выбухаў на далёкіх каралавых атолах, але ж мы ведаем, што для беларусаў благія прадказанні, як правіла, абарочваюцца сваім бокам...

Літаратары канструявалі не толькі лёсы цывілізацыі, але і свае ўласныя – праз тэксты.

Мне ўжо даводзілася не раз прыводзіць прыклады праектавання літаратурай жыцця, мушу прыгадаць некаторыя з іх і сёння.

У драме «Назад, да Мафусаіла» Бернард Шоу марыў пра даўгалецце будучых насельнікаў Зямлі. Ён лічыў, што чалавецтва дурное таму, што мала жыве і не паспявае набрацца мудрасці. Вось каб гадоў пяцьсот вучыцца жыць, а пасля жыць без памылак!.. Аўтар і сам паспрабаваў быў жыць паводле ўласнага літаратурнага праекту, вёў выключна здаровы лад жыцця і амаль дасягнуў мэты, дажыўшы да 94 гадоў.

Ягонае дасягненне паўтарыў Кандрат Крапіва, заклаўшы падваліны пад уласнае даўгалецце камедыяй “Брама неўміручасці”. Таксама ледзьве не дажыў да ста гадоў. Я памятаю ягонае пахаванне, азоранае светлым смуткам.

Францішак Аляхновіч – той адразу ведаў, што “Круці не круці – трэба памярці”, але гэтым сваім веданнем набліжаў уласную смерць, выпусціўшы яе з бочкі. Як і Максім Багдановіч сваімі вершамі, дзе эстэтызаваліся хвароба і смерць, набліжаў уласны зыход з жыцця.

Адпаведным чынам набліжалі ўласную смерць Эрнест Хэмінгуэй, Джэк Лондан, Сяргей Ясенін, Уладзімір Караткевіч.

Як жа настойліва скарачаў сваё жыццё Анатоль Сыс! “Не хадзіце за мной, не хадзіце...” – чэсна папярэджваў ён сваіх шчырых прыхільніцаў і прыхільнікаў, бо прадчуваў, як далёка могуць усе разам зайсці. Сыс не раз казаў пра сябе, што ён – сын Купалы і брат Багдановіча. Ён даўно ўжо паводле свайго сваяцтва павінен быў памерці. Цяпер ён сярод блізкіх.

Літаратура творыць жыццё вакол сябе, яна стварае і ўласнае жанравае асяроддзе. Таму эпоха кепскіх прагнозаў адрадзіла жанр антыўтопіі як вядучы ў мінулым стагоддзі. Жыццё гэтага жанру падлеглае закону эманацыі, які я як неаплатонік спавядаю. Спарадзіліся шматстайныя мадыфікацыі жанру антыўтопіі – экалагічная, сацыяльная, касмічная, фантастычная, эсхаталагічная, ядзерная. Літаратуразнаўца Алена Стацэнка ў кнізе “Экалагічная свядомасць у сучаснай амерыканскай літаратуры” такіх жанравых мадыфікацый налічвае дзясяткі.

Беларуская літаратура з яе тысячагадовым узростам хавае ў сабе сляды бурных гістарычных і этнічных катастроф. Здаецца, катастрофа, яе прадчуванне або перажыванне, сталася істотнай часткай беларускага светаадчування.

Пісьменнік і публіцыст Алесь Адамовіч лічыў, што, каб атамная бомба не разарвалася ў сапраўднасці, яе трэба разарваць у літаратуры. Гэткім чынам пісьменнік абгрунтоўваў права на існаванне літаратуры прагнастычнай, папераджальнай, апакаліптычнай, а таксама такой яе жанравай разнавіднасці, як антыўтопія.

Ён благаслаўляў на літаратурныя здзяйсненні сваю вучаніцу Святлану Алексіевіч, якая ў свой час, як я даведаўся з інтэрв’ю, прасіла ў яго благаславення на жанр. Пісьменнік благаславіў. “Вы асуджаныя на поспех”, – прарокаваў ён.

Чарнобыльская катастрофа тым або іншым чынам была спрагназаваная непасрэдна дачарнобыльскай літаратурай, у якой вылучыўся жанр экалагічнай антыўтопіі, узмацніліся прадчуванні глабальнай катастрофы.

“Маладнякоўцы” тварылі калектыўную паэтычную ўтопію, аптымізм якой тлумачыўся ўзростам творцаў, спадзяваннямі іх на рэвалюцыю, на беларускую дзяржаўнасць і ілюзіямі, якіх не пазбеглі ні маладыя, ні сталыя творцы.

Традыцыя тварэння ўтопій узмацнілася ў 1930-я гады, калі яна сталася часткаю сацыяльнага заказу, і ўтопіі нараджаліся ў адпаведнасці з канонамі сервільнай творчасці. Менавіта ў той раннесавецкі час Янка Купала пераўвасобіў ідэю раю зямнога (паэма “Яна і я”) у вобраз раю калгаснага (вершы “ляўкоўскага” цыклу). Нараджалася купалаўская ўтопія на лецішчы паэта, размешчаным поруч з пе-

радавым калгасам, адным з нешматлікіх у Беларусі, з ліку раскіданых па краіне “пацёмкінскіх вёсак”, куды прывозілі паэтаў і замежных карэспандэнтаў.

Цікава, што, падобна да Купалы, яго пераемнікі, “маладнякоўцы” ды “ўзвышэнцы”, маглі з аднолькавыі імпэтам ствараць мадэль літаратурнага раю і разбураць яго.

Мала чым прываблівае разбураны свет, паказаны Міхасём Чаротам у ягонай рэвалюцыйнай паэме “Босыя на вогнішчы” (1921). Свет пажараў, асушаных і спаленых балот, разбураных храмаў, раскіданых палацаў уяўляе сабой не рэвалюцыйны рай, а рэвалюцыйнае пекла.

Сатырык Андрэй Мрый у першых гумарэсках даволі аптымістычна глядзіць на перспектывы камуны і высмейвае тых, хто не падзяляе ягоны аптымізм. Але надыходзіць час – і ён стварае першую ў беларускай літаратуры паўнавартасную сацыяльную антыўтопію, раман “Запіскі Самсона Самасуя” (1929). Шапялёўка, населеная двухногімі монстрамі з жывёльнымі прозвішчамі, сярод якіх таварышы Сом, Лін, Самчык, Курапат, Беларыбка, Курыца, Зязюлькава, Крутарожка, Торба, Крэйна, Юрлік, Галавасцік, Смятана-Бурчайла, уяўляе сабой сапраўднае наменклатурнае пекла. Гратэск у А. Мрыя татальны, як гэта было ў Бранта, Рабле, Салтыкова-Шчадрына, ён не абмінае аніводнага аспекта савецкага жыцця. Злавесная постаць галоўнага героя кандэнсавала ў сабе ўсё ліха эпохі. Прагноз у аўтара самы несуцяшальны, бо ў творы паказваюцца калектыўныя судзілішчы, барацьба з рэлігіяй і раскулачванне – першыя прыкметы недалёкіх крывавых падзей. Настае час – і А. Мрыя арыштоўваюць за паклёп на Савецкую ўладу і карыкатуру на савецкае чынавенства, выпраўляюць у высылку ў Кандалакшу.

Прадбачыў будучыя рэпрэсіі і паэт-“узвышэнец” Язэп Пушча, чые вершы канца 1920-х гадоў былі споўненыя трагічнымі надрывамі і цяжкімі прадчуваннямі. Кепскі прагноз быў зроблены ў нізцы вершаў “Лісты да сабакі”, напісанай Я. Пушчам у Ленінградзе. Тут, удалечыні ад Радзімы, найбольш востра адчуваў паэт трывогу за лёс Беларусі, яе лепшых дзяцей, а таксама непрыязь да “заваёваў” Кастрычніка. Лісце, што ападае з кляновых галін, падаецца паэту кроўю, а наперадзе мроіцца лютая зіма рэпрэсіяў.

У другой палове XX стагоддзя жанр сацыяльнай антыўтопіі саступіў месца антыўтопіі экалагічнай. Тэму асушаных балот, парушэння балансу паміж чалавекам і прыродай адкрылі публіцысты. Да тэмы звярнуліся прадстаўнікі новай экалагічнай прозы. Увогуле, 1980-я гады – эпоха цяжкіх прадчуванняў, одуму і, адпаведна, рэнесанс антыўтопій. Іх стваралі прадстаўнікі розных пісьменніцкіх пакаленняў.

Алесь Адамовіч піша “Апошнюю пастараль” (1986), ядзерную антыўтопію, у якой здзяйсняе свой праект – узарваць ядзерную бомбу ў літаратуры раней, чым бы гэта адбылося ў рэальнасці. Свет, паказаны А. Адамовічам, гіне ў полымі Трэцяй сусветнай вайны. Дажываюць апошнія дні чалавечай цывілізацыі тры яе прадстаўнікі. Перад абліччам немінучае смерці Мужчына і Жанчына, да якіх пазней далучаецца амерыканскі лётчык, не могуць жыць інакш, чым раней: кахаюцца, ствараюць любоўны трохкутнік, мужчыны ўступаюць у бойку з-за жанчыны, у выніку гінуць усе.

Да жанру ядзернай антыўтопіі належыць апошняя п’еса Андрэя Макаёнка “Дыхайце ашчадна” (1982). У гэтым творы дамінуюць элементы ўмоўнасці, гратэску, фантасмагорыі. Канец свету ў лакальным маштабе прасачыў Алесь Петрашкевіч у драме “Соль” (1980). Гіганцкія тэрыконы адпрацаванай пароды, атручаныя вадазборы і грунтовыя воды, салёныя яблыкі і грушы ў вясковым садзе і пагроза прарыву дамбы, якая і спраўджваецца, – вось кошт дабрабыту, які спрабуе здабыць чалавек у бяздумным змаганні з прыродай.

Антыўтопіі ў беларускай літаратуры мелі, такім чынам, дастатковую жанравую разнастайнасць. Некаторыя жанравыя адгалінаванні ўзнікалі ўпершыню, іншыя працягвалі пэўную традыцыю.

Так, “Краіна хлудаў”, фантасмагарычная сацыяльная ўтопія, створаная Алегам Мінкіным, працягвае, на маю думку, тэму, распрацаваную Андрэем Мрыем у “Запісках Самсона Самасуя”. Племя хлудаў – фантастычнае псеўдаграмадства, надзеленае моцным суіцыдальным комплексам, які ў рэшце рэшт і прыводзіць яго да самазнішчэння.

Актуалізацыя беларускай экалагічнай прозы была выклікана аб’ектыўнымі прычынамі, у першую чаргу катастрофай на Чарнобыльскай АЭС 1986 г. Чарнобыльская тэма пранікла ў творы ўсіх жанраў: публіцыстыку, паэзію, прозу, драматургію. З’явіліся спецыфічныя жанры: чарнобыльскі верш, чарнобыльская п’еса, чарнобыльская казка. Тэма Чарнобылю асэнсавана як нацыянальная і сусветная трагедыя, як акт містычнай драмы чалавецтва, як папярэджанне пра верагоднасць сусветнай экалагічнай катастрофы. Пра гэта сведчаць творы А. Адамовіча, В. Быкава, І. Шамякіна, В. Адамчыка, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, М. Матукоўскага, В. Казько, С. Алексіевіч, А. Петрашкевіча, І. Пташнікава, А. Кудраўца, Я. Сіпакова, Т. Бондар, А. Дударава, С. Законнікава, У. Някляева, М. Башлакова, В. Гігевіча, У. Глушакова, А. Ждана, С. Кавалёва, І. Канановіча, А. Канапелькі, В. Карамазава, В. Куртаніч, Л. Левановіча, М. Мятліцкага, В. Ткачова, В. Якавенкі. Спіс аўтараў, што звярталіся да чарнобыльскай тэмы, можна доўжыць і доўжыць, а сама чарнобыльская тэма ў Беларусі і літаратурным замежжы заслугоўвае асобнага разгляду. Пакуль што адзначым, што беларускую літаратуру пра Чарнобыль можна параўнаць з японскай, прысвечанай трагедыі Хірасімы і Нагасакі. Але яна не абмяжоўваецца толькі тэмай катастрофы, а закранае і іншыя праблемы матэрыяльнага і духоўнага быцця, суіснавання чалавека і прыроды. У постчарнобыльскай прозе апошняга часу апроч апакаліптычных матываў з’яўляюцца і прыкметы стрыманага аптымізму, чаму сведчаннем проза Віктара Казько.

Творы В. Казько нават дачарнобыльскага часу насычаныя прадчуваннямі экалагічнай катастрофы. Пачынаў майстра з твораў, прысвечаных ваеннаму дзяцінству (першаадкрывальнікам тэмы быў Кузьма Чорны як аўтар рамана “Пошукі будучыні”). Аповесць “Суд у Слабадзе” (1978), найбольш выбітны з твораў, прысвечаных тэме дзяцінства, апаленага вайной, праз шматлікія біблейскія ды філасофскія алюзіі ўзыходзіць да матыву Страшнага суда, за якім неўзабаве канец старой зямлі і старога неба.

Раман “Неруш” (1981), у якім распавядаецца пра бяздумнае асушэнне Палесся, належыць да жанру экалагічнай антыўтопіі ўжо з тае простае прычыны, што гібель прыроднага палескага хранатопа аўтар разглядае як незваротнае разбурэнне раю зямнога. Тэрыторыя шчасця, Княжбор, дзе зямля і вада, людзі, расліны, жывёлы знаходзіліся ў поўнай гармоніі, бачылася аўтарам як палескі Эдэм. Яго асушэнне параўноўваецца з першародным грахом, у выніку якога Эдэм незваротна разбураны. Біблейскі матыў прачытваецца, такім чынам, не як гісторыя выгнання з раю, а як гісторыя яго разбурэння.

Матыў разбуранага Эдэма дамінуе і ў рамане “Хроніка дзетдомаўскага сада” (1986). Падзеі падаюцца апавядальнікам такім чынам, што праз іх праглядаецца рэальная і містычная гісторыя цывілізацыі. Лакальнае і ўніверсальнае звязваны паміж сабою сістэмай сімвалаў, падпарадкаваных каштоўнаснай іерархіі. Найбольш значныя ў гэтай сістэме – архетыпы Дома і Сада. Першы звязаны з дзейнасцю чалавека, другі – з ягоным прыродным атачэннем. Апакаліпсіс пачынаецца пасля таго, як Дом і Сад разбураюцца чалавечымі рукамі. Хроніка мае завяршэннем гэты самы рукатворны Апакалпсіс: знесены дзетдомаўскі будынак, высечаны сад, пасля чаго на людзей абрыньваюцца пакаранні ягіпецкія: ссыхаюць стогадовыя дубы, высыхае рачулка, знікаюць бабры, пачынаецца нашэсце на вёску мышэй і пацукоў, гінуць пчолы, на лес накідваюцца пажары. Ланцуговая рэакцыя запушчана. Раман пабачыў свет у той час, калі ўжо грымнуў Чарнобыль.

На чарнобыльскую катастрофу аўтар адгукаецца перадусім аповесцю “Выратуй і памілуй нас, чорны бусел”, у якой побыт разбуранага Эдэма паказваецца як жыццё пасля смерці, як пра нараджэнне кволай надзеі пасля таго, як усялякая надзея, здаецца, была незваротна страчаная.

В. Казько ў апошні час імкнецца абвергнуць устойлівую мастацкую формулу ранейшых твораў – разбуранага Эдэму, спакушанага Сусвету. У рамане “Бунт незапатрабаванага праху” апакаліптычнае кола прозы В. Казько зноў размыкаецца. У гэтым творы ажыццявіўся адзін з сталых творчых прынцыпаў пісьменніка: разгортванне і паказ чалавечай душы як Сусвету, з яго неабсяжнасцю і бясконцасцю ў часе. Германн (ён жа Юры, Георгі) Говар, як і герой аповесці “Прахожы”, вядзе падвойнае жыццё: рэальнага чалавека і фантастычнай, таямнічай істоты, здольнай да пераўвасабленняў, трансцэндэнтальных вандровак. Тэма непахаванага праху (відавочная рэмінісцэнцыя з праблемай Маўзалея і знаходжаннем цела правадыра ў ім) раскрываецца як роздум пра жыццё пасля смерці – смерці цывілізацыі, калі яна прайшла праз усе згубныя “пост”, крочыла ў новае тысячагоддзе. Магчымасць такога жыцця даводзіцца ў “Эпілогу” да рамана, у якім распавядаецца пра жыццё людзей, што наноў засялілі атручаныя Чарнобылем раёны. Пісьменнік вяртаецца да свайго ўлюбёнага матыву Саду, які трэба даглядаць нягледзячы ні на што. Відавочна, аднак, што і ў гэтым творы апошняя кропка ў роздуме над лёсам і перспектывай цывілізацыі пісьменнікам не пастаўлена. З’яўляецца новы, уганараваны прэміяй Ежы Гедройца твор “Час збіраць косці”, у якім яскрава прадстаўлена стратэгія выжывання чалавека і чалавецтва ў дэгуманізаваным грамадстве, праблема, над якою б’юцца выбітныя прадстаўнікі сусветнай экалагічнай прозы.

Чарнобыльская эпоха па часе супала са стратай беларускай літаратурай ўсялякай «магістральнай» схемы, набывае “веерны”, рознаскіраваны выгляд.

Сведчаннем таму з’яўляецца дзейнасць літаратурных згуртаванняў канца ХХ стагоддзя, у тым ліку літаратурнага руху “Бумбамліт”.

Бумбамліт – дзіця ХХ стагоддзя. Шмат якія з яго мастацкіх адкрыццяў з’яўляюцца вяртаннем у 1920-я гады, калі ў літаратуры, як у Грэцыі, было ўсё. У тым ліку літаратурны кубізм, графічная паэзія, гучныя перформансы, эпатажнасць, парадыйнасць і бурлескавасць у дачыненні да твораў старых (“Скокі на могілках”, “Сон на балоце” Міхася Чарота). Рацыю маюць даследчыкі, якіяназіраюць у эстэтыцы Бумбамліта сінтэз мадэрнізму і постмадэрнізму. Слушна выказваецца крытык Валянцін Акудовіч і пра антыіерархізм, які таксама праглядаецаа ў стратэгіі бумбамлітаўцаў, якія не займелі відавочнага лідара і не стварылі агульнага маніфеста.

Вельмі добра, што ББЛ не стаў літаратурнай суполкай па тыпе класічнага еўрапейскага, а дэкляраваў сябе як рух кшталту нашаніўства. Гэта дало яму магчымасць не памерці. Дваццаць гадоў таму, кажучы пра сімулякр ББЛ – знакаміты тазік – я параўноўваў яго з гняздом, дзе можа выгадавацца што хочаш. ББЛ не распаўся, не самараспусціўся. Ягоны сённяшні стан – эманацыя. Абалонка Тазіка адпачывае ў Музеі гісторыі літаратуры, а ягонае змесціва ўвайшло ў літаратурнае жыццё і абярнулася перформансамі, “Тэатрам псіхадэлічнай неўраўнаважанасці”, Шверцмеркам, “Галіяфамі”, слэмамі, абаронамі кандыдацкіх, міжнароднымі фэстамі, амбітнымі праектамі. Бубмбамлітаўцы сёння – паважныя літаратары, навукоўцы, выдаўцы, але яны не забываюцца, як усё пачыналася.

Бурны жанравы рух мінулага стагоддзя абярнуўся трыма эксперыментальнымі мадыфікацыямі, якія я вызначыў бы наступным чынам: новы раман, а дакладней, не-раман, не падобны на класічны раман, новы верш (верлібр), які не зусім верш, п’еса абсурду, якая не-п’еса. Гэта антыжанры.

Традыцыйны раман таксама падлягае працэсу эманацыі. З’яўляюцца новыя разнавіднасці рамана, прыкладам, міфалагічны, містычны, гатычны раманы,

раман-эсэ. Раманы разыходзяцца ў розныя бакі, бы манады Лейбніца. Аўтары сёння менш задавальняюцца аморфным вызначэннем "тэксты". Зміцер Вішнёў пазіцыянуе свае празаічныя творы – "Трап для сусліка", "Замак пабудаваны з крапівы" менавіта як раманы. Магчыма, гэта прадчуванне новай крышталізацыі жанраў, і некалі ў літаратуру вернуцца раман, трагедыя, камедыя ў іх класічнай форме, хаця да гэтага яшчэ далёка.

Набыткамі XX стагоддзя жывіцца сучасная міфалагізаваная проза, якую рухаюць А. Казлоў, А. Наварыч, Б. Пятровіч, А. Астапенка, В. Гапееў, В.Марціновіч ды іншыя. Аўтары працягваюць традыцыю, распачатую Э.Т.А. Гофманам, Ф. Кафкам, Я. Баршчэўскім, В. Ластоўскім, якія ўмелі арганічна спалучаць у творы яву і мрою, фантазію і рэальнасць. Раман В. Марцінкевіча "Сфагнум" успрымаецца як своеасаблівы міфалагізаваны працяг "Людзей на балоце" І. Мележа.

Адпаведная эманацыя адбылася і з антыўтопіяй.

Мне даводзілася выводзіць формулу літаратуры XX стагоддзя як "кветкі, якія прарастаюць праз бруд, аскепкі, бетон, друз, смецце, але гэта ўсё ж такі кветкі". Я спадзяваўся на з'яўленне ў XX стагоддзі літаратуры, вызваленай ад бруду і кепскіх прагнозаў. Чакаў, што кветкі закрасуюць у літаратуры там, дзе і павінны красаваць.

Галоўныя антыўтопіі ў беларускай літаратуры як бы ўжо створаныя. Іх пісалі Я. Купала, А. Мрый, І. Мележ, А. Адамовіч, В. Быкаў, А. Мінкін ды іншыя пералічаныя вышэй аўтары.

У свой час я зрабіў выснову: XXI стагоддзе – час вяртання ўтопій, іх рэабілітацыя. Бо аблічча Беларусі і цывілізацыі ў цэлым ў нашай літаратуры выглядае як сума пазітыўных і негатыўных прагнозаў, спадзяванняў і расчараванняў.

Зрабіце літаратурны праект ідэальнай Беларусі, які вас задаволіць.

Адзін з самых устойлівых архетыпаў беларускай культуры – ідэалагема Дому, культ жытла. Асаблівы беларускі хранатоп будучых утопій будзе нараджацца з утульнага інтэр'еру страдаўніх замкаў, магнацкіх палацаў, шляхецкіх гнёздаў, заможных сядзібаў, дагледжаных сялянскіх гаспадарак. У гэтых інтэр'ерах будзе разыгрывацца драма (або меладрама) беларускага жыцця.

Гераінямі такіх твораў могуць стацца літаратурныя вобразы паненак, дзяўчат, паннаў, якім уласцівыя зменлівасць, рух, развіццё, нязмушанасць, непасрэднасць, віталізм, выкшталцонасць, грацыя.

Герой-мужчына не павінен нагадваць амерыканізаваны тып джэнтльмена, які паказвае ўсмешку на трыццаць два зубы і гатовы пазбавіць зубоў кожнага свайго ворага. Беларускі тыпаж ведае, калі варта ўжыць фізічную моц, але ведае і спосабы пазбегнуць канфлікту. Ён інтравертны, рэфлектыўны, задуменны, самавіты, самаіранічны, цвёрды ў экзістэнцыйным выбары, прагматычны ў побыце, але кранальна бездапаможны ў нестандартных сітуацыях, чым прываблівае жанчын.

Такая гераіня, такі герой і такі хранатоп пакуль што створаны толькі ў рэчышчы класічнай беларускай літаратуры і мастацтва. Іх шлях у сучасную культуру можа пакласці пачатак станаўленню сучаснага беларускага міфу.

XXI стагоддзе – час аптымістычных прагнозаў, хэпі-эндаў, якія павінны вяртацца з літаратуры ў жыццё. Так я лічыў.

Але творы з нешчаслівымі прагнозамі ў новых тысячагоддзі працягваюць нараджацца, чаму сведчаннем, прыкладам, проза Ю. Станкевіча. Крытыкі І. Шаўлякова, М. Аммон вызначаюць гэтыя наватворы як экатопіі, што сведчыць пра эманацыйныя парацэсы і ў гэтым жанры. Па-ранейшаму даводзіцца вызначаць адчуванне катастрафізму і пераходнасці як дамінантны ў калектыўнай свядомасці літаратуры.

Хэпі-энды мы назіраем у адзіным жанры – фэнтэзі, дзе шчыруюць Р. Баравікова, А. Масла, М. Зізюк, Н. Ясмінска. Толькі жанр гэты ёсць таксама эманацыяй добрай старой літаратурнай казкі. Гэтаксама як пашыраная ў наш

час літаратурная плынь “нон-фікшн” бадай нічым не адрозніваецца ад добрай старой дакументалістыкі і публіцыстыкі. Дарма Антон Кулон, аўтар “Сіняй кнігі беларускага алкаголіка”, недаўмявае: “Дык што ж я напісаў?” Крытыкі кажуць: нон-фікшн, а іншыя – “фікшн”. Нонфікшн – гэта фікшн, адказваю я яму на гэта, бо літаратар не можа нешта не прылгнуць, хай сабе гэта Жан-Жак Русо або Леў Талстой, якія пішуць споведзі.

Але можа гэта і да лепшага, што ўтопія і шчаслівы фінал так і не замацаваліся як след у літаратуры? Бо і на дне твора са шчаслівым фіналам хаваецца горыч. Аднастайнае шчасце такое ж панылае, як і няшчасце. Буколікі, эклогі, пастаралі, ідыліі ўспыхвалі ў літаратуры як эфемерныя кванты аптымізму.

Мы ўсе палоннікі XX стагоддзя. Яно яшчэ не скончылася. Я не магу адшукаць у літаратуры XXI стагоддзя прынцыпова новай, дыскрэтнай з’явы, якая сведчыла б пра кардынальную змену культурнай сітуацыі. Хіба што татальная віртуалізацыя культурнага жыцця, якая таксама вынікла з XX стагоддзя.

Напэўна, новая літаратура ўжо зарадзілася ў нетрах стагоддзя, але пакуль гэта мала адчуваецца.

Можа і добра, што стагоддзе не скончылася. Яшчэ не позна напісаць раман стагоддзя. Якога? Пакуль што дваццатага. Ажыццявіць мару Кузьмы Чорнага. Дый смерць літаратуры па-ранейшаму адкладваецца.

*Коўна, 2-4 кастрычніка 2015 года*

Алена Масла



...На беларускую кнігу нібыта накладзены вырак – пра яе свае не дбаюць. А чужым – навошта?..

# Шклянка, поўная напалову,

## *або Спроба дыягностыкі працэсаў у беларускай дзіцячай літаратуры*

*Гэты псіхалагічны тэст добра вядомы: па тым, як бачаць шклянку, напалову запоўненую вадой, людзі, вызначаюць, кім яны ёсць – песімістамі ці аптымістамі. "Шклянка напалову поўная", – сцвярджае аптыміст. "Шклянка напалову пустая", – даводзіць песіміст, гледзячы на адзін і той жа прадмет.*

*Паспрабуем праз такую псіхалагічную прызму паўглядацца і ў тыя працэсы, якія сёння адбываюцца ў беларускай дзіцячай літаратуры і кнігавыданні.*

### "Мёртвы пацыент"

*"Сябры, што хто ведае пра дзіцячую літаратуру ў Беларусі? Ці ёсць там якія жывыя сучасныя аўтары? Ці выдаюцца для дзяцей кнігі? Пішу артыкул у Вікіпедыю, не ведаю, дзе што паглядзець!"* – пытае ў сацыяльнай сетцы дзяўчына з Украіны.

Такая пастаноўка пытання спачатку чапляе за жывое, бо “жывых сучасных” вось тут жа, побач, у кантактах – некалькі, і пачынаеш кідаць спасылкі на запыт – якія толькі ў стане адшукаць. На старонкі “жывых пісьменнікаў”, на абвесткі пра прэзентацыі кніг, на рэпартажы з гэтых прэзентацый. Урэшце, на сайт толькі-толькі заснаванай прэміі па дзіцячай літаратуры імя Цёткі...

І ў пік запалу раптоўна ахалоджвае думка: як усё сумна! У інфармацыі датычна дзіцячай літаратуры ў беларусаў сапраўднае падполле. Калі ты не ў тэме, не ведаеш явак і пароляў, знайсці што-кольвек упарадкаванае, сістэматызаванае не тое што надзвычай цяжка, а – не магчыма, бо няма! Працуюць выдавецтвы, ёсць аўтары, выходзяць кнігі – нібы насуперак лёсу быць ненароджанымі. Пра іх – можа, каб не сурочыць, – кажуць рэдка, нібыта хаваючы ад староннія вачэй. Вочы ж зацікаўленыя самі ўсё знойдуць: тыя, у каго ёсць патрэба ў беларускіх дзіцячых кнігах, адзін другога ў твар ведаюць і гэтымі яўкамі і паролямі між сабой дзеляцца.

Дарэчы, што істотна: кола зацікаўленых, якім яўкі і паролі патрэбныя, год ад году пашыраецца. Пры гэтым у агульнай масе колькасць людзей, якія валодаюць беларускай мовай, звужаецца катастрафічна. Нават у вясковых школах, у глыбінцы, ад настаўнікаў часта даводзіцца чуць – па-беларуску толькі на ўроках размаўляем. На перапынках дзеці пераходзяць на рускую: мову Сеціва, глянца, мову ТБ. Наклады беларускамоўных кніг невялікія – удача, калі 2000-3000 тысячы. А што гэта значыць? З такімі накладамі кнігі нават не ва ўсе публічныя бібліятэкі трапляюць і далёка не ва ўсе кнігарні. А трапіўшы, могуць стаяць схаванымі на дальніх паліцах – бо беларускае, не камерцыйнае!

Мультфільмаў і фільмаў паводле твораў беларускіх пісьменнікаў амаль не здымаюць; літаратурныя творы амаль не перакладаюцца на замежныя мовы... Песімістам усе карты ў рукі: калі нічога з пералічанага не існуе, то гэта сведчанне недалугасці твораў беларускіх дзіцячых пісьменнікаў.

Адным словам, шклянка напалову пустая, а сам пацыент – беларуская дзіцячая літаратура – хутчэй мёртвы, чым жывы.

Перакананне – вялікая справа. Калі чалавеку доўга казаць, што ён свіння – зарохкае. Калі перыядычна, з усё большай настойлівасцю паўтараць, што ў нас няма дзіцячай літаратуры – уверуе. Разнастайныя сустрэчы за дыскусійнымі сталамі рознай формы – асабліва там, дзе гасцямі замежныя дзіцячыя пісьменнікі – пачынаюцца з рэфрэна: “У Беларусі дзіцячай літаратуры няма!” Абагульненым вобразам беларускага дзіцячага пісьменніка-няздары, якога не хочуць чытаць ні малыя, ні дарослыя, пры жаданні можна ўжо паспяхова адпалохваць адусюль, дзе ёсць палічкі з беларускай літаратурай.

Што ж дае падставу “дактарам” беларускай дзіцячай літаратуры сцвярджаць, што “пацыент хутчэй мёртвы”? Не назіранне за яго станам і аналіз нюансаў самаадчування і праяваў жыцця, а прысутнасць поруч больш здаровых і відавочна жвавейшых. “Ах, шведская дзіцячая літаратура! Ах, нямецкая! Французская! Польская! Чэшская! Украінская!..” А пацыент слухае і думае: “Дайце мне столькі ўвагі і самай разнастайнай падтрымкі, колькі там маюць, і я ажыву!”

Падтрымка, найперш, праяўляецца ў выглядзе развітага кнігавыдавецкага рынку са здаровай канкурэнцыяй, спрыяннем дзяржавы – якое, увага! – палягае не толькі і не столькі ў выдаткаванні датацый асобным дзяржаўным выдавецтвам, а ў стварэнні роўных умоваў для ўсіх гульцоў на гэтым сегменце рынку: нізкімі падаткамі (а тое і іх адсутнасцю) на кнігавыданне! Калі гэтага не разумець, надзеі на рэанімацыю амаль бездыханнага “пацыента” не застаецца зусім! Яму – датацыі, а ён – ледзь дыхае! “А ў Швецыі датацый дзяржава не дае!” – задуменна канстатуюць госці – шведскія пісьменнікі, і нікому з удзельнікаў гутаркі, а пасля і шматлікім чытачам справаздачаў з круглых сталоў не прыходзіць у галаву, што нізкія падаткі на кнігавыданне – і ёсць спрыяльныя ўмовы для развіцця галіны,

створаныя дзяржавай! (Да прыкладу, у Швецыі на прамысловыя тавары падатак на дададзены кошт (так званае НДС) складае 25%, на прадукты харчавання – 12%, а на кнігавыданне – 6%. І згадка пра падаткі – толькі адзін аспект, хоць і вызначальны, развітага кнігавыдавецкага рынку!) Вольнае абыходжанне з фактамі, да якіх варта ставіцца ўзважана і строга, толькі ўзгадоўваюць міф пра няздатнасць беларускай дзіцячай літаратуры жыць і быць паўнавартаснай.

Чаму ж “дактары”, якія часта нагадваюць паталагаанатамаў, такія бязлітасныя? Нібыта чакаюць – не дачакаюцца, каб “пацыент” гэты і праўда сканаў.

Не будзем іх дэманізаваць. Будзем спадзявацца – прыдзіры і крытыканы яны ад любві і жадання паўнавартасных кантактаў з гэтым млявым “пацыентам”! На дварэ – 21 стагоддзе, новыя тэхналогіі, дзіцячыя пісьменнікі і кнігавыдаўцы ў блізкім і далёкім замежжы здзіўляюць і радуюць разнастайнасцю твораў і прадукцыі, вымагаюць да дыскусій, ствараюць модныя накірункі, нараджаюць новыя вобразы і папулярных герояў... А беларуская дзіцячая літаратура ледзь ліпіць і ўсё не можа вырашыць: жыць ёй ці паміраць.

Часу чакаць, пакуль “пацыент” дасць клёку – няма! Вось тут самая пара прыгадаць *кола зацікаўленых*, якому, у адрозненне ад усё большай *колькасці абыякавых* беларускамоўная кніга патрэбная! Дзеці растуць хутка, і бацькам не выпадае стаяць ля хворага і гадаць: “Сіголаў жыў, Сіголаў – не!” Тым больш, што даўгачаканыя беларускамоўныя кнігі сучасных аўтараў (што таксама натуральна ў агульным кнігавыдавецкім і літаратурным працэсе) – выходзяць рознага гатунку і не заўжды адпавядаюць патрабаванням і надзеям зацікаўленых чытачоў. Да таго ж, калі зусім побач жыццё віруе, стамляюць гэтыя гаданні: хочацца мець справу з жывым і жвавым.

Аднак і “дактары” не заўжды зласліўцы. Сярод іх ёсць і тэрапеўты: яны шукаюць лекаў.

Не ў стане чакаць, пакуль рак на гары свісне, маладыя бацькі самі ствараюць медыйныя пляцоўкі: з’яўляюцца сайты “Нашы дзеткі”, “Казкі беларускія”, “Казкі. by”... Бацькі-беларусы самі робяць падборкі літаратурных твораў па ўзросце, а часта – і самі пішуць тэксты. Робіцца і так: у дзіцячыя кніжкі, выдадзеныя на тоўстым кардоне, уклейваюцца беларускамоўныя пераклады: аналагічных кніг па-беларуску ў айчынных выдаўцоў да нядаўняй пары не было, і толькі зусім нядаўна адно дзяржаўнае выдавецтва пачало выпускаць серыю перакладных кніжак на тоўстым кардоне для самых маленькіх.

Яшчэ адно выйсце – выдаваць па-беларуску перакладную літаратуру. Хіба паспрачаешся – выдатна! Кнігі сусветна вядомых аўтараў – братоў Грым, Вільгельма Гаўфа, Астрыд Ліндгрэн, Тувэ Янсан, Карэла Чапэка, Януша Корчака, шэрагу папулярных сучасных шведскіх пісьменнікаў сталі даступныя беларускім дзецям цягам апошніх гадоў... Усё было б проста супер, каб не кантэкст, які непазбежна з’яўляецца спадарожнікам цудоўных перакладаў і выданняў: “а ў беларускай літаратуры такога няма...”

Канечне, няма. Адкуль яно возьмецца, калі не адно дзесяцігоддзе жыццё “пацыента” пушчанае на самацёк. Калі пераклады ў іншых краінах сваіх аўтараў вітаюцца, вылучаюцца гранты перакладчыкам, праводзяцца конкурсы перакладаў. Цэлыя інстытуты працуюць і ў Польшчы, і ў Германіі, і ў Швецыі (і г. д.) дзеля папулярызацыі сваіх культуры і літаратуры. Па выхадзе перакладных твораў ладзяцца яскравыя прэзентацыі, запрашаюцца аўтары на сустрэчы – ствараецца пазітыўны рух, які і жывіць урэшце (і ў тым ліку) літаратурныя працэсы.

Толькі на беларускую кнігу нібыта накладзены вырак – пра яе свае не дбаюць. А чужым – навошта?

Нават цудадзейныя лекі, калі імі злоўжываць альбо выкарыстоўваць не карэктна, не толькі не вылечваюць, але могуць забіць.

Падкрэслю: тут не вядзецца пра тое, што кожная кніжка беларускага аўтара, выдадзеная па-беларуску, вартая любові праз факт свайго з'яўлення на свет. Проста хочацца ў каторы раз звярнуць увагу на асаблівасці нашай сітуацыі. У нас яна такая, што кожная ўдалая кніга – гэта асобная падстава для радасці. Гэта як сведчанне на карысць таго, што "пацыент", не зважаючы ні на што, жывы!

Аднак жыццё паказвае адваротнае. Да гэтай пары пад тэрмінам "дзіцячая літаратура" ў нас уяўляецца маналіт, нейкі звыштвор, які павінен задаволіць усіх дзяцей ад 0 да 18! Праз гэта беларускім дзіцячым кнігам таксама дастаецца: ад кожнай чакаецца адпавядання патрабаванням вельмі розных аўдыторый. А як задаволіць густы кожнага, калі кніг выходзіць не так ужо і шмат? Калі кніга пра машынкі, зараз жа пачуеш, што дзяўчаткам хацелася б аб прынцэсах пачытаць, і наадварот! Адным патрэбны кнігі пра гарадскі транспарт, іншым – пра жывёл... Бацькі маленькіх бяруцца ім чытаць кнігі, прызначаныя для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту – а дзіця ад гэткага чытання пад стол хаваецца! Большыя ж ад такіх тэкстаў носам круцяць.

Нармальныя дзеці. Яны маюць права на кнігу, адпаведную іх узросту і светаўспрыманню. І тое, што такіх – катастрафічна не стае, бяда і параза не толькі праз пісьменнікаў-няздар. Чаму ж?

***

Вернемся да нашага "пацыента" і параўнаем стан сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры і кнігавыдання не з суседнімі краінамі, а з тым, што адбывалася тут гадоў дзесяць таму – і што адбываецца сёння.

У 2002 годзе, пасля ліквідацыі ўнікальнага выдавецтва "Юнацтва", функцыі па выданні дзіцячай літаратуры перайшлі выдавецтву "Мастацкая літаратура". Адбыўся адваротны працэс – "Юнацтва", якое ў 1982 годзе "вырасла" з "Мастацкай..." у асобнае выдавецтва, вярнулася ў яго склад рэдакцыяй дзіцячай літаратуры.

"Юнацтва" было асобнай установай з рознаўзроставымі літаратурнымі рэдакцыямі (дашкольнага, малодшага, сярэдняга і старэйшага школьнага, ўзростаў, а таксама замежнай літаратуры – дзе, у асноўным, перакладаліся на мовы свету беларускія народныя казкі), рэдакцыяй камуністычнага выхавання (!), уласнай рэдакцыяй мастацкага афармлення, вытворчым аддзелам і астатнімі службамі, неабходнымі для паўнавартаснай выдавецкай дзейнасці.

З пералічаных выгодаў перапрафілявання (альбо ліквідацыі) падчас пераменаў вымагала толькі рэдакцыя камуністычнага выхавання. Падзел жа на ўзроставыя рэдакцыі мусіў застацца! Камуністычнае выхаванне варта было б перапрафіліраваць, да прыкладу, у аддзел перакладной літаратуры (пераклады на беларускую мову твораў замежнай літаратуры) – і наноў наладжваць стасункі з замежнымі выдавецтвамі, якія да той пары ажыццяўляліся цэнтралізавана, праз Маскву, і парушыліся са знікненнем СССР.

Варта было, але зрабілася зусім па-іншаму.

З "Юнацтва", у якім напачатку працавала больш за 60 чалавек, а на момант закрыцця было за 40 прафесіяналаў; з "Юнацтва", якое мела адметны твар і высока ацэньвалася спецыялістамі, у 2002 годзе засталася рэдакцыя дзіцячай літаратуры з чатырох літаратурных рэдактараў у складзе "дарослага" выдавецтва. Адпаведна, у разы знізілася колькасць найменняў дзіцячых кніг. І гэта пры тым, што прыватных выдавецтваў, якія б актыўна выдавалі дзіцячыя кнігі, не нарасло, як грыбоў пасля дажджу, з банальнай прычыны: дзіцячая кніга ў вытворчасці – дарагі прадукт (і тут зноў варта згадаць – датацыі, якія падтрымліваюць такія выданні, выдаюцца дзяржаўным выдавецтвам).

Да таго ж зніжаецца цікавасць і да кніг па-беларуску наогул, бо мяняецца моўная палітыка. У пачатку дзевяностых, калі быў абраны курс на беларусізацыю, беларускамоўныя кнігі разыходзіліся вялікімі накладамі. Паводле згадак выдаўца Зміцера Коласа, які выдаў шэраг кніг казак замежных аўтараў па-беларуску, наклад кнігі ў 70 000 асобнікаў разыходзіўся цягам пары тыдняў. Яшчэ гэта быў час, калі папросту спаталялі "кніжны" голад – бо да той пары набыць добрую кнігу без падпіскі, без здачы макулатуры і рыззя, без блатаў-пераблатаў было вельмі цяжка.

Адным словам, былі некалі спрыяльныя ўмовы для развіцця нацыянальнага кніжнага рынку. Калі час гэты сышоў, яшчэ заставалася дзіцячае выдавецтва "Юнацтва" – але кніжныя паліцы былі ўжо завалены кнігамі расійскіх кнігавыдаўцоў. Сваім кнігам надышла пара зазнаць не лепшыя часы.

Зменшыўся асартымент і агульны тыраж беларускамоўных кніг для дзяцей. За год да закрыцця "Юнацтва", у 2001 годзе, было выдадзена 42 кнігі на беларускай мове агульным накладам 246 000. А ў 2002, калі "Юнацтва" не стала, паспелі выдаць 9 беларускамоўных дзіцячых кніжак агульным накладам 25 тысяч.

Пакрысе сітуацыя "выроўнівалася": у 2003 годзе выдаецца 36 беларускамоўных кніг агульным накладам 48 000; 2004 – 22/48 000 адпаведна; 2005 – 15/41 000; 2006 – 34/75 000; 2007 – 40/113 000; 2008 – 40/110 000; 2009 – 289 000; 2010 – 25/163 000; 2011 – 23/137 000; 2012 – 25/122 000; 2013 – 28/108 000; 2014 – 27/107 000; 2015 – 20/112 000 *(статыстыка па выдавецтве "Юнацтва" (2001-2002 гг.) і "Мастацкая літаратура" (2003-2015 гг.) узятая ў "Базе дадзеных" Нацыянальнай кніжнай палаты РБ (адрас сайта http://natbook.org.by/ru/main.php) у раздзеле "Літаратура для дзяцей і юнацтва" на беларускай мове)*.

Лічбы кажуць самі за сябе: сумарны наклад беларускамоўных кніг для дзяцей за год такі, як наклад адной беларускамоўнай (не самай тыражнай!) кнігі раней.

Як ілюстрацыю сказанаму прывяду прыклад некалькіх "ранейшых" кніг:

– Ладачкі-ладкі (укладанне і апрацоўка Васіля Віткі): Народныя калыханкі, пацешкі, гульні, лічылкі. – Мн.: "Мастацкая літаратура", 1977. – **110 000** (дарэчы, кніга выдавалася не толькі на беларускай мове, але і на некалькіх замежных. Што да паліграфічнага выканання, таксама былі два варыянты – на афсетнай і крэйдаванай паперах!).

– Даніэль Дэфо. Рабінзон Круза (пераказ на беларускую А. Васілевіч). – Мн.: "Мастацкая літаратура", 1976. – **115 000**.

– Алена Лось. Дзесяць дзён у Барку. – Мн.: "Юнацтва", 1984. – **20 000**.

Вось так было. Дарэчы, аналагічныя праблемы перажывалі шмат якія рэспублікі былога Савецкага Саюза: праз Сеціва зараз не складана дазнацца, што дзеялася ў той жа адрэзак часу, да прыкладу, у Казахстане, ці Малдове, ці Украіне... Засілле расейскай кніжнай прадукцыі, развагі пра адсутнасць уласнай літаратуры – усё як і ў нас. Каменем на нагах віселі і "ідэалагічна правільнае" мінулае: творы пра акцябрат, піянераў, камсамол, партыю, дзядулю Леніна – рэчаіснасць, якая ў імгненне вока стала дымам, хаця дагэтуль дзесяцігоддзямі сілкавалася дырэктывамі, пастановамі, дзяржаўнай падтрымкаю...

Ачухацца пасля такога накаўту было не лёгка, і сярод аргументаў на карысць "шклянкі, пустой напалову", такім чынам, былі:

– парушэнне кнігавыдавецкай схемы, страта ўнікальнага прафесійнага калектыву;

– аб'ектыўныя складанасці праз звужэнне сферы ўжытку беларускай мовы і, адпаведна, попыту на беларускамоўныя кнігі;

– страта практыкі перакладаў праз адсутнасць кантактавання наўпрост з замежнымі выдавецтвамі (альбо літагентамі) – за савецкім часам такое кантактаванне ладзілася цэнтралізавана, праз Маскву;

– парушылася і не з’явілася нічога ўзамен дзеля перакладаў, папулярызацыі і прасоўвання на замежны рынак уласна беларускіх кніг;

– сістэма так званых датацый захоўваецца толькі для дзяржвыдавецтваў, а падатак на дадатковы кошт на кнігавыданне застаецца высокім;

– атрымаўшы датацыю на кнігу адзін раз, выдавецтва асцерагаецца перавыдаваць яе, бо датацыі паўторна на такое ж выданне ўжо не дадуць. Лічыце, што праект паспяховы, камерцыйны – выдавайце за свой кошт. Але калі датацыя на кнігу пры першым выданні складае ад 30 да 70 %, прадаць яе за поўны кошт становіцца надзвычай цяжка. У гэтай асаблівасці – вялікая параза. Аднойчы створаны арыгінальны прадукт мае тыражавацца, запаўняючы айчынны рынак і пашыраючы геаграфію (звычайная сусветная практыка). Мы ж ствараем унікальныя кнігі, а раскруткай і прасоўваннем іх не займаемся;

– час ад часу падымаецца пытанне па зніжэнні падатку на дадатковы кошт у кнігавыдавецкай сферы (што было б сапраўды дзейсным крокам дзеля падтрымкі кнігавыдаўцоў наогул і дзіцячай літаратуры – у прыватнасці) – і ціхамірна затухае;

– праз затрымку выплаты ганарараў (вельмі не вялікіх) найлепшыя мастакі Беларусі паспяхова супрацоўнічаюць з замежнымі выдавецтвамі, дома ж – рэдкія “госці”...

Праз такія “асаблівасці развіцця” праходзіла выданне ў нас дзіцячай кнігі. Нехта са знаўцаў кнігавыдавецкага рынку штосьці дадасць да пералічанага, нехта – адыме. Бясспрэчным будзе адно: факт, што Беларусь, маючы калісьці цудоўную паліграфічную базу і спецыялізаванае выдавецтва, якое мела свой адметны твар і славілася кніжнай прадукцыяй на постсавецкай прасторы, а таксама на замежных кніжных кірмашах (у межах геаграфіі краін сацлагеру) – апынулася нібы на пачатку шляху: важна разумець гэта, каб быць аб’ектыўнымі ў сваіх ацэнках.

Аднак, на згадках пра “Юнацтва” час паставіць кропку – прынамсі, у межах дадзенай публікацыі. Што было – тое сплыло. Для справы важная не толькі веданне гісторыі, і тым больш не рэфлексія па страчаным, а дзеянні, якія прадпрымаліся дзеля яе захавання.

***

Асабіста мне падаюцца надзвычай важнымі некалькі праектаў “пост-юнацкай” пары:

– гістарычныя кнігі для дзяцей прыватнага выдавецтва “Кавалер Паблішэрз”, якое выдавала беларускія гістарычныя кнігі з ілюстрацыямі цудоўных беларускіх мастакоў-ілюстратараў;

– праект, здзейснены ў тую пару выдавецкай установай “Літаратура і Мастацтва” – выданне “Чырвонай кнігі Беларусі ў казках і вершах”. Ідэя мастацкага апісання насельнікаў Чырвонай кнігі Беларусі належыць Віктару Гардзею – ім вынайдзена форма падачы матэрыялу: канкрэтныя звесткі з Чырвонай кнігі аб прадстаўніках флоры і фаўны, а побач – верш. Творы Віктара Гардзея публікаваліся ў беларускіх СМІ з пачатку 90-х і далі ідэю для стварэння “Чырвонай кнігі Беларусі ў казках і вершах” (укладанне Р. Баравіковай, 2003 год).

Зборнікі зрэдзьчас называюць “брацкай магілай”. Але ў тую пару і ў той сітуацыі, у якой апынулася беларускае дзіцячае кнігавыданне на пачатку новага тысячагоддзя, зборнікі-праекты, якія гуртавалі вакол сябе мастакоў і літаратараў, сталіся надзвычай важнымі для развіцця (альбо выхаду са ступару) беларускага дзіцячага кнігавыдання. Праз асабісты досвед, як укладальнік шэрагу кніг серыі “Беларуская аўтарская казка” (першая кніга “Чароўныя пацеркі” выйшла ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” у 2006 годзе) ведаю, наколькі важнымі для творчых людзей былі гэтыя праекты.

“Беларуская аўтарская казка”, кнігі серыі якой адзначу сярод знакава важных для той пары, паводле задумы мусіла прэзентаваць свету казачную спадчыну класікаў – і казкі сучасных аўтараў. Дзеля таго, каб разабрацца, што ж дзеецца ў сучасным казачным свеце Беларусі, трэба было перагартаць не толькі літаратурныя часопісы, але наогул – беларускую перыёдыку для дзяцей. Выбіралася цікавейшае з надрукаванага на беларускай і рускай мовах.

Так, “Чароўныя пацеркі” – першая кніга з серыі “Беларуская аўтарская казка” пабачыла свет на дзвюх мовах. У наступных кнігах з розных нагодаў было вырашана пакінуць толькі беларускамоўныя творы (створаныя па-беларуску ці перакладзеныя на беларускую). Сёння можна спрачацца пра мэтазгоднасць дзвюхмоўнага варыянта кнігі, але ў тую пару гэты праект стаўся надзвычай важным. Ён узрушыў творцаў, арганізаваў, актывізаваў... А праз тое, што кнігі серыі “Беларускай аўтарскай казкі” афармляліся не адным мастаком, з’явілася рэальная магчымасць прадэманстраваць мастацкі почырк графікаў-сучаснікаў.

Яшчэ раз падкрэслю: на той час такі фармат выданняў стаўся надзвычай важным. У пару татальнага дэфіцыту на беларускую дзіцячую кнігу стварэнне выдавецкага праекта гуртом (калектыўны зборнік, аформлены калектывам мастакоў) дазваляла мінімалізаваць час у падрыхтоўцы кнігі. Адначасова была мажлівасць вылучаць з плыні прапанаваных матэрыялаў таленавітых аўтараў і творы – і рэанімаваць працэс выдання беларускіх дзіцячых кніг;

– пачалі выходзіць новыя кнігі – сталі адгукацца СМІ, ладзіцца круглыя сталы па пытаннях дзіцячай літаратуры;

– СБП у 2009 годзе аднаўляе конкурс твораў для дзяцей імя Янкі Маўра. І калі той год журы гублялася ў роздумах, каго падтрымаць і як абраць найлепшае сярод нешматлікіх твораў прыблізна аднаго ўзроўню, то ўжо ў 2013 годзе гублялася з адваротнай нагоды: у конкурсе “Экслібрыс” імя Янкі Маўра ўзялі ўдзел 117 творцаў (пісьменнікі і перакладчыкі). Сярод твораў, пададзеных на конкурс, былі і коміксы, і пераклады, і цэлыя праекты кніг. Што істотна – кнігі-пераможцы (“Сумны суп” Вольгі Гапеевай, 1-е месца, і “Баваўняная дзяўчынка” Дар’і Вашкевіч, 2-е месца), таксама як і дыпламант “Экслібрыса–2013” “Віта Белая Крэска” Сары Лундберг у перакладзе Надзеі Кандрусевіч былі выдадзеныя, бо ў бібліятэчцы СБП з’явілася падсерыя “Каляровы ровар”;

– СБП разам з амбасадай Швецыі ладзіць шэраг цікавых семінараў, сустрэч, майстар-класаў з удзелам шведскіх пісьменнікаў. У Беларусь прыязджаюць Эва Суса, Юя Віслhistoryандэр, Ульф Старк, Нільс Ульф, Сара Лундберг, крытык дзіцячай літаратуры Яніна Арлоў...

– пачынае працаваць Школа маладога пісьменніка пры СБП, дзе праводзяцца майстар-класы ў тым ліку і па дзіцячай літаратуры;

– у 2015 годзе заснавана прэмія па дзіцячай літаратуры імя Цёткі, – адным словам, жыццё вакол дзіцячай кнігі пакрысе актывізуецца – і гэта залічым у актывы “шклянкі, напалову поўнай”.

***

Да актываў варта аднесці і працу на працягу ўсяго перыяду, што разглядаецца ў межах гэтай публікацыі, беларускамоўных літаратурных часопісаў для дзяцей “Вясёлка” і “Бярозка”, “Лесавік” (1995-2009 гг.), а таксама створаны ў 2009 годзе “Верасень” – часопіс творчай моладзі, які таксама друкуе і тэксты для дзяцей. Таксама адзначу і часопісы “Качели” і “Рюкзачок”, у якіх сустракаюцца цікавыя літаратурныя публікацыі рускамоўных аўтараў, або пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў на рускую мову.

Абмінем дыскусіі пра тое, якім мае быць дзіцячы літаратурны часопіс; не будзем

згадваць асабліва цяжкія моманты росту "Бярозкі", калі яе перапрафілявалі, мянялі заснавальніка і фармат, друкавалі пад адной вокладкай з "Маладосцю"; не будзем зараз спрачацца пра рускамоўных беларускіх аўтараў – проста прызнаем як факт, што існаванне літаратурных часопісаў падтрымлівае і жывіць літаратурны працэс.

Выдатна, што ў спісе беларускіх літаратурных часопісаў у 2013 годзе з'явіўся часопіс для дашкольнікаў "Буся" (заснавальнік – часопіс "Вясёлка"), а ў 2015 годзе – альманах СБП "Гарбузік": гэта несумненны крок наперад.

***

*"Нядаўна Барыс Пятровіч прынёс аж шэсць новых кніжачак. З бальшынёю іх аўтараў я не знаёмы. Што выходзіць велічэзная колькасць кніжак маладых, мяне вельмі цешыць. Не важна, што яны ўсе не на тым узроўні, на якім хацелася б бачыць. Так было ва ўсе часы. Ёсць таленавітыя, ёсць вельмі таленавітыя, ёсць, дай Божа, геніі. І ёсць слабейшыя, але не безнадзейныя. Нешта карыснае могуць рабіць — хай робяць! Калі трапляецца зусім пустое графаманства — што ж з таго, гэтак і сто гадоў таму было. Ну, добра, вось шэсць, дзесяць, сто кніжак. Але нават калі палавіна будзе вартая ўвагі — і тое дзякуй Богу. Так што памажы Божа",* – словы Ніла Гілевіча з інтэрв'ю «Будзем аптымістамі, іншага не дадзена» для "Новага часу", якое ён даў незадоўга перад сыходам ад нас.

Менавіта іх захацелася згадаць, завяршаючы невялікі тэзісны агляд таго, што адбывалася цягам апошніх 15 гадоў у беларускай дзіцячай літаратуры.

Беларуская дзіцячая літаратура і людзі, якія яе ствараюць – не з іншай планеты. Яны нават не з іншай краіны. Яны жывуць у тут, у Беларусі. Што мяне асабіста дзівіць (і гэта праўда!) – да гэтай пары не тое што не паўміралі, а рухаюцца і нешта яшчэ ствараюць. Прэтэнзій жа і патрабаванняў да іх – нібыта яны ў рай пры жыцці перабраліся, а выгодамі райскага жыцця дзяліцца ні з кім не хочуць.

Патрабаванні – рэч неабходная: трымай адказ за створанае, трывай крытыку, любоў і не-любоў чытачоў, удасканальвайся, шукай.

А што да прэтэнзій...

Скажу пра свой асабісты досвед. Я часта бываю ў дзіцячых бібліятэках і школах на сустрэчах з дзецьмі. Усюды імкнуся знайсці агульную мову са сваімі слухачамі і, будзем спадзявацца, чытачамі. Год ад году гэта складаней рабіць! Ледзь не кожнае слова прамоўленае трэба перакласці, або ў працэсе гульні зрабіць так, каб дзеці здагадаліся, што гэта за слова. Мусіш быць за аніматара, калі хочаш, каб цябе зразумелі! Часта мне ўжо нават здаецца, што не за гарамі той дзень, калі беларускім пісьменнікам ва ўласнай краіне давядзецца хадзіць на сустрэчы так, як мы водзім замежных пісьменнікаў: з перакладчыкам.

Бывае, рукі апускаюцца – для каго пісаць? Апошнім часам часта вяртаешся з выступаў, нібыта поле на табе аралі: стомлены, ледзь жывенькі: праз няведанне мовы дзецьмі. Так, суцяшаеш сябе сам, але ўрэшце ж паразумеўся з аўдыторыяй! І крумкалі як жабы, і рыкалі як каровы, і вучылі мову дыназаўраў... А пасля якое-небудзь дзіця скажа спавядальна, што не зразумела ні слоўца. Чаму ж смяялася разам з усімі? Дык бачна ж было, што весела!

У каго яшчэ так, як у нас? У шведскіх літаратараў, нямецкіх, польскіх?..

Добра быць аптымістам, калі ўсё ладзіцца і ўсё аптымізму спрыяе. Хораша быць творцам у краіне, якой творцы патрэбныя. А калі не ўсё так гладка? Як жыць і працаваць пад несціхальны рэфрэн: "У Беларусі няма дзіцячай літаратуры!.."

Мне падаецца – проста працаваць. Быць аптымістамі, бо іншага – не дадзена. І, каб бачыць шклянку напалову поўнай, а не пустой, усё ж разумець, што і беларуская дзіцячая літаратура стварaецца не на іншай планеце, а тут, ва ўмовах, якія маем. І нават знішчальную крытыку і татальную незадаволенасць звышпатрабавальных

чытачоў успрымаць як падставу для веры ў лепшае: нашмат горш было б, каб "пацыент" наш сканаў – і пакрытыкаваць яго ўжо не было б за што.

А так – тузаецца! За апошнія 15 год з'явіўся шэраг аўтараў і твораў, вартых увагі. Да прыкладу, згаданыя ўжо тут кнігі серыі "Беларуская аўтарская казка", а таксама "Казкі 21 стагоддзя", "Казачны свет", "Скарбы роднай прыроды", "Нашым дзеткам", "Журавінка"; экалагічна-мастацкія "Чырвоныя кнігі" Віктара Гардзея, цыкл экалагічна-мастацкіх зборнікаў – "Чырвоная...", "Блакітная...", "Лясная...", "Касмічная..." – кнігі ў вершах і казках беларускіх пісьменнікаў...

Раіса Баравікова, Валеры Гапееў, Вольга Гапеева, Вера Бурлак, Уладзімір Ліпскі, Серж Мінскевіч, Наталля Бучынская, Андрэй Хадановіч, Людміла Рублеўская, Генадзь Аўласенка, Пятро Васючэнка, Алесь Бадак, Алена Мальчэўская, Павел Ляхновіч, Таццяна Сівец, Аляксей Шэін, Уладзімір Ягоўдзік, Васіль Зуёнак, Васіль Жуковіч, Уладзімір Мацвеенка, Ніна Галіноўская, Расціслаў і Анатоль Бензерукі... Дадайце ў гэта пералічэнне свае ўпадабанні (або расчараванні!), дапоўніце пісьменніцкі спіс – і вы пабачыце: гаварыць і спрачацца ёсць пра што! Вось што важна на сёння.

І таму я – за "шклянку, поўную напалову"!

Якой яна будзе бачыцца свету і ці напоўніцца калісьці ўкрай – залежыць ад канструктыўнай крытыкі, аб'ектыўнага разумення рэчаіснасці, супольнай працы і жадання рухацца наперад у кожнага з нас.

Ніна Календчыкава



...надзею на лепшае нельга забіць
у народнай душы...

# Песня аб райскім жыцці

***Да 120-гадовага юбілею мастачкі Алены Кіш***

Алена Кіш... Сёння гэтае імя – брэндавы знак нацыі. Пра яе пішуць артыкулы пад грыфам “Лепшыя творы беларускага жывапісу ХХ стагоддзя” ў серыі “Залатая палітра”. І ведаюць далёка за межамі Беларусі.

Гэтая таленавітая жанчына, прозвішча яе, хоць і запозненa, увайшло ў энцыклапедыю чалавечай памяці. Яе дывановыя кампазіцыі “Рай”, “Дзеўчына на водах”, “Ліст да каханага” змешчаны ў “Сусветнай энцыклапедыі народнага мастацтва”, выдадзенай у Югаславіі ў 1985 годзе. Кніга прысвечаная 100-годдзю знакамітага французскага мастака-самавука Анры Русо. У энцыклапедыі 800 імёнаў мастакоў з 50 краін свету. Тут прадстаўнікі ўсіх кантынентаў: Афрыкі, Азіі, Еўропы, Аўстраліі і Амерыкі. Ад Беларусі ў энцыклапедыю ўключана Алена Кіш – сціплая беларуская сялянка.

Алена Андрэеўна Кіш (1896(?)-1949) – мастачка-самародак і самавучка з непаўторным бачаннем навакольнага свету. Такіх называюць наіўнымі мастакамі, прымітывістамі, інсітнымі творцамі.



*Алена КІШ. Рай.*

Яе мастацтва стала вядома ў канцы 1970-х гг., калі работы творцы ўпершыню пабачыла шырокая публіка. Сёння ў фондах гісторыка-культурнага музея-запаведніка “Заслаўе” калекцыя маляванак налічвае каля 250 адзінак. Калекцыя Алены Кіш прадстаўлена 11 дыванамі.

Майстрыха стварала свае дываны, бадай, у ці не самы цяжкі для нашай дзяржавы час – 1930-1940-я гады. Няпростыя даваенныя і пасляваенныя гады. Нягледзячы на цяжкі і галодны час, беларускі вясковы люд імкнуўся да хараства. У гэты час асаблівага росквіту дасягнула мастацтва маляваных дываноў, якія размяшчаліся над ложкам у хаце і выконвалі эстэтычна-дэкаратыўную функцыю ў інтэр’еры пакоя.

Яркія, сакавітыя, блізкія народнаму разуменню прыгажосці, маляваныя дываны стваралі ў інтэр’еры мажорны настрой. Яны зберагаліся і цаніліся ў першую чаргу ў тых вяскоўцаў, якія самі мелі мастацкую душу: дзе шылі, ткалі, вышывалі...

Якой жа адметнасцю вызначаецца творчасць Алены Кіш?

Як мы ведаем, на пачатку ХХ стагоддзя ішло сцвярджэнне сацыяльнага, калектыўнага, грамадскага. Новы чалавек быў пазбаўлены індывідуальнасці. Алена Кіш процістаяла гэтаму сваёй асаблівасцю, незалежнасцю, сваёй свабодай і асабістым бачаннем свету.

Такія асобы ў той час былі крайне не запатрабаваны. Народ арыентавалі толькі на сацыяльнае, але ж яно не вычэрпвае змест чалавечага жыцця...

Алена Кіш загаварыла аб духоўным, асабістым, трапяткім-цнатлівым. Яна сярод развалу і нішчымніцы заглядала сваімі карцінамі ў чалавечую душу, вяртала чалавеку поўнае пачуццё жыцця, прывівала новы тып самаўсведамлення – любоў і павагу да Асобы!

Жыццёва-творчая гісторыя А. Кіш ніяк не звязана з “вялікай гісторыяй”



*Алена КІШ. Дзеўчына на водах.*

савецкага часу. Яна нарадзілася ў вёсцы Раманава (Леніна) Слуцкага раёна ў шматдзетнай сям'і, замуж не выйшла, хадзіла ад вёскі да вёскі і прапаноўвала намаляваць "коўрык" на заказ.

У яе работах не былі прадстаўлены сцэны натхнёнай працы, характэрныя для мастацтва сацыялістычнага рэалізму, дзе ўслаўляўся народ-працаўнік, народ-стаханавец, народ-пераможца... Беражліва, асцярожна, як бінт ад раны, адляпіла яна сябе ад калгасных сацспаборніцтваў і паказала, што ў жыцці ёсць і другія каштоўнасці.

Работы А. Кіш адрозніваюцца ад таго канона, які дамінаваў у тую эпоху. Іх можна характарызаваць і як "акно ў прыватнае жыццё беларускай сялянкі" і як "савецкае Залюстроўе" (А. Усманава).

Усе свае надзеі на лепшае (не калектыўна-калгаснае, а дзявоча-жаночае!), жаданае, мройнае, спадзявана-ўзнёслае – майстрыха ўвасобіла ў сваёй творчасці, таму што надзею на лепшае нельга забіць у народнай душы.

Яе дываны – пратэст супраць шэрага будзённага жыцця, супраць жабрацкага быту абяздоленай беларускай вёскі. Багатая фантазія А. Кіш нараджала сюжэты рамантычныя, узнёслыя, светлыя, з казачна-экзатычнымі матывамі.

Людзі ўгледзелі і пачулі на гэтых карцінах сваю душу. Знаўцы народнага мастацтва адзначаюць, што і кампазіцыйная смеласць, і яркая дэкаратыўнасць, і багацце фантазіі аўтара, канечне ж, ад беларускага фальклору, народнага меласу – мае меладычны, песенны пачатак.



*Алена КІШ. Ліст да каханага.*

Вось карціна “Ля возера”. Карціна-мроя. Усё возера заткана лілеямі, лебедзі як знак шчасця, маладая жанчына ідзе па вадзе. Над ёю ў чароце спяваюць птушкі. Рытмічныя паўторы карціны нагадваюць мелодыку народных песень, якія так любіла спяваць майстрыха.

Безумоўна, што на карцінах А. Кіш, як і ў паўторах песень, згарманізаваны думкі, надзеі і малітвы беларусаў.

Яўген Кулік так напісаў: “Гэта былі яе маляваныя песні, і пела яна іх на поўны голас. І ў простых сялянскіх хатах зіхацелі ясныя і чыстыя колеры, ярка свяціла сонца, перапляталіся ў гірлянды кветкі, гаманілі бярозавыя гаі, цыбаты бусел крочыў па лузе, а на зялёных пагорках узнікалі раптам, як у мроях, задуменна-лагодныя львы...

Так уяўляла мастачка гарманічнасць і суладдзе ўсяго жывога ў прыродзе, так яе неўтаймаваная фантазія спалучала ў адзіны свет роднае, сваё, з маленства блізкае з дзівосным казачна-фантастычным, “райскім”. “Рай” – так назвала мастачка адзін з найбольш любімых сваіх сюжэтаў...”

Дываны Алены Кіш выдатна ілюструюць народнае ўяўленне пра райскую ідылію. На яе дыванах, маляваных на нефарбаваным, шэрым, натуральным тле даматканага палатна (такі фон характэрны, дарэчы, для дываноў са Случчыны), мы бачым драпежнікаў з добрымі вачыма, чароўных птушак, якія служаць чалавеку і аберагаюць яго ад усяго нядобрага.

І, сапраўды, чалавеку хочацца адчуць гэтую райскую ідылію на зямлі.

Успомніце, як многа Італіі і ўсяго італьянскага было ў творчасці рускіх мастакоў першай паловы XIX стагоддзя. Усе мастакі XIX стагоддзя імкнуліся патрапіць ў Італію (“рай земного бытия, где жизнь беспечна и свободна” – А. Бенуа), патрапіць у гэты зямны рай, пажыць там і папрацаваць.



*Алена КІШ. Рай.*

І многім гэта ўдавалася. Вялікі залаты медаль Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў даваў магчымасць пабыць стыпендыятам у італьянскім раі за дзяржаўны кошт.

Малады Карл Брулоў скончыў Акадэмію з залатым медалём і паехаў у Рым, адкуль прывёз свой сусветна вядомы “Апошні дзень Пампеі...” Права пенсіянерства ў Італіі атрымлівалі ў свой час такія вядомыя мастакі, як Пяроў, Урубель, Шышкін, Айвазоўскі, Кіпрэнскі, Іваноў...

У Алены Кіш не было ні вучобы, ні залатога медаля, ні Італіі, – не было магчымасці за кошт дзяржавы апынуцца ў зямным раі. І яна гэты рай выдумала сама і стварыла ў сваёй творчасці!

На яе карцінах нябесны рай сышоў на беларускую зямлю. У цёмнай хаце нараджалася вялікае мастацтва. Гэта быў рай, у якім няма трагічнага “антуражу” – разрухі, нішчымніцы, голаду, сіроцтва...

Гэта быў той мройна-казачны рай, якога жадала-хацела яе трапяткая душа. Рай на карцінах А. Кіш як падарунак светлых, спакойных сноў. Па рацэ ў лодцы плыве пара шчаслівых людзей. Усё прасякнута спакоем, раўнавагай – гэта тое, што можна назваць шчасцем ці раем...

Пасля вайны А. Кіш перабралася да сваёй малодшай сястры ў вёску Грозава Капыльскага раёна. Там яна і загінула. Малюючы свае дываны, Алена хацела пазбыцца той бязрадаснасці, а часам і роспачы, што спадарожнічалі ёй у штодзённым жыцці, а яе называлі гультайкай, нахлебніцай...

Я думаю, што прычынай яе смерці стала яшчэ і тое, што ў канцы 40-х і пачатку 50-х гг. з’явілася мноства падробшчыкаў – маляванак-набіванак па трафарэце. За гадзіну можна было цэлы пасаг дзеўцы наляпаць-адтрафарэціць.

А Алена Кіш стварала... Іншы раз па некалькі дзён працавала над адным дываном...

Жыццёвы і творчы шлях мастачкі ўяўляецца мне самотнай песняй, з адчаю кінутай у райскія парыванні, якія завяршыліся трагічна...

Табой, асуджанай красою,
Трагічны пішацца сюжэт...

...Той рай на дыванах Алены Кіш
Не ўсцерагуць і львы жывыя.
Той свет халоднай хваляй змые,
Як сон, які ў маленстве сніш.

*Л. Тарасюк. «Алена Кіш».*

У. Басалыга ў артыкуле “Не пагарджаць святым сваім мінулым” піша: “Загінула жанчына, якая не ведала, што ў яе душы жыве вялікі мастак. Не ведалі гэтага і навакольныя людзі...” Ну як тут не ўспомніць радкі нашага славутага класіка, бо яны на ўсе вякі-стагоддзі, на ўсё чалавечае існаванне:

Эх, чаго нам ні прыйшлося,
Брацце мілыя, ужыць!
Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць.
Невядомых, непрызнаных,
Не аплаканых нікім,
Толькі ў полі адспяваных
Ветру посвістам пустым!

*Я. Колас. «Сымон-музыка».*

Дзякуй Богу, Алена Кіш “аплакана і адспявана” не толькі “ветру посвістам пустым”. Сёння трэба нізка пакланіцца ўсім, хто адшукаў і рэстаўраваў, ацаніў і вывеў у свет гэты талент – даў яго народу. І ў першую чаргу мастаку Уладзіміру Басалыгу, дзякуючы намаганням якога вернута з небыцця 11 твораў Алены Кіш і слаўнае імя мастачкі.

Алену Кіш з поўным правам можна аднесці да нацыянальнай эліты. Яна пайшла на ахвяру, адрынуўшы сябе ад калгаснага жыцця, і сама стала ахвярай...

Такія творцы, як Алена Кіш, – гэта залаты фонд нацыянальнай культуры, гэта самыя смелыя, мужныя, таленавітыя людзі, гэта верхні, “чарназёмны” слой народа, які выяўляе самае лепшае ў ім.

Тады, у 1930-40-я гг., дываны майстрыхі былі як “лекавы напой для ўзмацнення стомленай, амаль страчанай Веры чалавека ў лепшае жыццё” (Ю. Малаш).

Калі я згадваю А. Кіш, то думаю пра тое, што немагчыма заглушыць душу народа, наіў гэтай душы. Ва ўмовах савецкай ментальнасці, нашай калектыўнай свядомасці, яе мастакоўскія высновы прагучалі вельмі ярка, шчыра і ўзнёсла.

Літаратура:

Багданава Г. Дыван-мара. // Пралеска. – 1999. – № 2.
Багданава Г. Кожны ставарае свой рай. // Раніца. – 27 ліпеня 2000 г.
Беларуская энцыклапедыя. – Т. 8. Канто-Кум. Рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш. – Мінск, 1999. – с. 314.
Беларускія маляваныя дываны. Альбом-каталог з фондаў гісторыка-культурнага музея-запаведніка “Заслаўе”. Аўтары 1995. – Арцем’ева І.; Малаш Ю., Рак А. 1995. – Мінск, 2005.
Булыка Галіна. У райскім садзе Алены Кіш // Бел. Думка. – № 6. – 1999 г.
Відлога В. Белыя лілеі на сіняй вадзе (старонкі з трагічнага жыцця самадзейнай мастачкі А.Кіш) // Слуцкі край, 1992. – 28 сакавіка.
Володько Ф. Львы из моего детства. Белорусская нива. – 10 июля 1993.
Гісторыя беларускага мастацтва. У 6 т. Т. 4: 1917-1941 гг./ Рэдкал.: С.В. Марцэлеў (гал. рэд.) і інш.; Рэд. тома Л.М. Дробаў, В.Ф. Шматаў. – Мн.: Навука і тэхніка, 1990. – с. 280-282.
Дзядзюля С. Свет, сплецены з мараў. – Мінская праўда. – 21 кастрычніка 1993.
Дубінка В. Белая лябёдачка аб лёд крыльцамі б’ецца // Беларусь, № 6 – 1996 г.
Дываны маляваныя // Энцыкл. літ і мастацтва Беларусі. Мн.,1985. Т.2. – С. 385-386.

Дываны маляваныя // Мінск: Этнаграфія Беларусі, 1989. 1995. – С. 307-308.
Кіш Алена Андрэеўна // Энцыкл. літ. і мастацтва Беларусі. Мн., 1986. – Т. 3. – С. 61.
Кіш А.А. // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слуцкага раёна і г. Слуцка кн. 2. Мн., 2001. – с. 476.
Коўрык А. “Мужчынскі” і “жаночы” рай у беларускай маляванцы / Аксана Коўрык // Роднае слова. – 2008. – № 10.
Кулік Я. Памяці Алены Кіш – выдатнай народнай мастачкі. 1983. Акварэль, туш. Цыпкагр. каляр; 8х11 см. – Мастацтва, 1994. – № 1.
Кулік Я. Беларускія маляваныя дываны. Маладосць, 1979. – № 3.
Малаш Ю. Мастак з душою дзіцяці // Мастацтва, 2001, № 7.
Малаш Ю. Патаемнае наіўных мастакоў // Мастацтва, 2004, № 9.
Малаш Ю. Як убачыць “Райскі сад”? [Дываны А. Кіш у калекцыі музея “Заслаўе”] // Культура, 2005, № 9.
Малыш Ю. Сусвет душою беларуса альбо Мой шлях да Беларусі. // Дзеяслоў, 2006, № 3.
Малыш Ю. У райскім садзе Алены Кіш: слова пра ўнікальнае народнае мастацтва ХХ стагоддзя // Дзеяслоў, 2009, № 1.
Малаш Ю. Райскі сад у Беларусі (Унікальная калекцыя маляваных дываноў са сбору музея “Заслаўе”) // Краязнаўчая газета, 2005, № 14.
Малаш Ю. Патаемнае наіўных мастакоў Беларусі. – Мінск: Литаратура и Искусство, 2007.
Сахута Е. Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии. – Мн.: Полымя, 1982.
Сахута Я. Райскі сад // Мастацтва Беларусі, 1988. – № 3.
Сахута Я. Беларускае народнае мастацтва: Альбом / Фота В.Бараноўскага і інш. – Мн.: Беларусь, 1980.
Сахута Я. Фантазіі Алены Кіш // ЛіМ. – 10 чэрвеня 1977.
Сахута Я. Чароўны свет мастачкі // Мастацтва Беларусі, 1990, № 8.
Сахута Е. Звонкие краски Алены Киш // Нёман, 1980. – № 2.
Таямніцы народнай душы // Мастацтва. 1992. № 12. с. 47-52. Змест: Міронччык В., Стрыбольская Н. Кветкі на дыванах – жывыя кветкі. –С. 47. Раманюк М. Вяртаньне ў май. С. 47-48. Басалыга У. “Не пагарджаць сьвятым сваім мінулым...” – С. 48-50. Гаранская Т. Традыцыі разьвіваюцца. – С. 50-52.
Усманова А. О творчестве художницы-примитивистки по росписи ковров. А. Усманова // Женщины на краю Европы. – Мн., 2003. – с. 420-422.
Шаура Р. Маляваныя дываны на фоне часу // Мастацтва, 2004. – № 1.
Шаура Р. Туга па гармоніі // Мастацтва, 1998. – № 2.
Шаура Р. Развіццё народнага выяўленчага і дэкаратыўнага мастацтва Беларусі ў другой палове XIX – пач. XXI ст. Мн.: БДУ культуры і мастацтваў, 2006.
Шаранговіч Н. Дзева, што плыве па водах. // ЛіМ. – 1994. – № 41.
Шуракова В. Кветкі для каўрыхі. А.А. Кіш. / В.Шуракова // Слава працы. – 24 ліпеня 1996.
Шчамялёў Л. Суладдзе // Крыніца, 1990. – № 1.
Шэіна М. Дзіўны свет Алены Кіш / Марыя Шэіна // Слава працы. – 31 сакавіка 1999.
Гонар и слава Капыльшчыны. “Мастакі Капыльшчыны”, Капыль, 1999 г., с. 5-7 (з бібліяграфіяй).
Святлова Ж. Паміж двума сусветамі: Адраджэнне // Слава працы. – 4 кастрычніка 1995.
Пракарына І. Алена Кіш // Слава працы - 1995, № 73, с. 2.
Ягоўдзік У. Райскія сны Алены Кіш // Ягоўдзік У.І. Белыя росы на чорным полі. – Мн., 1995. – С. 179-199.
Ягоўдзік У. Хто такая Алена Кіш // Работніца і сялянка. 1992. № 5/6.
Ягоўдзік У. Дзівосны свет Алены Кіш // Беларусь. – 1986. – № 9.
Ягоўдзік У. Алена Кіш: Альбом. – Мн.: Беларусь, 1990. – [39] с.: іл.

Лявон Юрэвіч



...гістарычная алегорыя дапамагае як мага праўдзівей пераказаць уласнае светаадчуванне...

# Трэцяя крыніца й трэці складнік

## *рамана “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”*

Першая крыніца – відавочная: Евангелле. Аўтар сам у нядаўна апублікаваным дзённіку кажа: “*На стале [...] рукапіс “Хрыста” і Біблія*”[1].

Хоць справа тут зусім неадзначная. Чаму Караткевіч даў падназоў “Евангелле ад Іуды”? Рызыкоўная рэч, калі змагаешся з атэізмам, пра што нястомна пішуць даследчыкі. Але нельга не захапляцца прадбачлівасцю аўтара, бо толькі ў 70-я гады быў знойдзены пергамент “Евангелля Іуды” (без “ад”), і адно ў XXI стагоддзі быў надрукаваны ягоны пераклад, а для мастацкіх твораў, названых “Евангеллямі ад Іуды”, сёння пальцаў аднае рукі не хопіць.

Другая крыніца агучана ў эпіграфы да твора й шматкроць падкрэсленая даследнікамі: “*Як вядома, для напісання твора У. Караткевіча зыходным штуршком паслужылі радкі з канкрэтнага летапісу Мацея Стрыйкоўскага*”[2].

“Канкрэтны летапіс”, пра які згадваецца, у рамане называецца “Кроніка Белай Русі...”, тады як арыгінал мае назоў “Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi Maciejá Stryjkowskiego”. Дзіўным падаецца памылка аўтара – калі

гэта сапраўды памылка, але яшчэ больш дзіўным ёсць тое, што ніхто з даследчыкаў не зазірнуў у "Кроніку" і не спраўдзіў, ці насамрэч ёсць там прыведзены ўрывак, ці тое містыфікацыя Караткевіча. Так ці інакш, уплыў сярэднявечных хронік на раман відавочны.

Вазьму на сябе смеласць прапанаваць кандыдата на трэцюю крыніцу. Смеласць заключаецца ў тым, што, па-першае, няма ці, прынамсі, не выяўлена на гэты момант ведамых мне спасылак у пацверджанне гэтай ідэі, а, па-другое, крыніца тая ў пэўнай ступені супярэчыць прыгожаму, хоць і наўрад ці навуковаму сцверджанню: "*Для таго, каб абудзіць беларускі нацыянальны дух, У. Караткевіч у часы ваяўнічага атэізму смела скарыстоўваў і апрацоўваў у творах сюжэты і матывы з Біблії*"[3].

Твор, вылучаны мной на трэцюю крыніцу, быў выдадзены ў Савецкім Саюзе кнігаю ў 1963 годзе (на рукапісе "Хрыста...", нагадаю, стаяць 1965-66 гг.), але быў вядомы грамадзянам значна раней і шырэй – праз аднайменнае кіно. Кніга і стужка называліся "Свята Святога Йоргена".

Арыгінал меў крыху іншы назоў – "Фабрыка святых" – і належаў дацкаму пісьменніку Харальду Бергстэтду (Петэрсану) (1877-1965). Твор быў напісаны ў 1919 г., перакладзены на расейскую мову ў 1924-м, і адказныя за новае выданне хіба не ведалі, што аўтар у 1946 г. быў укратаваны на два гады за калабарацыянізм.

Не магу, натуральна, сцвярджаць, што Караткевіч бачыў стужку, але пры наяўнасці ў тыя часы толькі трох каналаў можна з верагоднасцю 99% дапусціць: пісьменнік ведаў яе, мусіў бачыць. Цікава тут вось што: кніга, у параўнанні са стужкаю, мае адрозненні. Ці гартаў ён яе?

Ва ўжо цытаванай кнізе пра беларускую літаратуру ХХ стагоддзя ў кантэксце навуковых даследванняў пішацца наступнае: *"[...] у творчасці У. Караткевіча выразна выяўляецца традыцыя, якая бярэ пачатак у фальклоры, дзе пануе жывая стыхія народнай свядомасці, а таксама ў творах, напісаных у стылі барока, такіх, як "Прамова Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча", травесці "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе". У гэтым імкненні выкарыстоўваць творчыя дасягненні народнай карнавальнай літаратуры пісьменнік падтрымлівае вопыт Ф. Рабле, Дж. Свіфта, М. Сервантэса, М. Гогаля, М. Твена, М. Булгакава*"[4].

Цалкам магчыма, што гэтыя творы ды імёны сапраўды можна падвесці пад адзін назоўнік (у лічыльніку, натуральна, мусіць быць імя М. Бахціна) ці пацікавіцца, чаму няма ў пераліку, прыкладам, Эразма Ратэрдамскага, М. Салтыкова-Шчадрына, О'Генры або М. Зошчанкі, але ўсё ж калі й шукаць якіх літаратурных сваякоў, то ў першую чаргу, напэўна, трэба назваць імя Шарля дэ Кастэра і ягоную "Легенду пра Уленшпігеля": раманы, чые тэмы (вобразы галоўных герояў) развіваюцца ад простанародных шванкаў і фастнахтшпіляў да трагічнай народнай сімфоніі, гучаць ва ўнісон.

Сваяк ім абодвум і герой аповесці Бергстэтда: "каронны злодзей" Мікаэль Коркіс. Тэкст "Евангелля ад Іуды", перакананы, у галовах чытачоў ці, як мінімум, – на паліцы ўлюбёных кнігаў, а таму няма патрэбы прыводзіць паралельныя (сугучныя) месцы з яго. Спынюся проста на переказе цікавых для нас урыўкаў з "Евангелля ад Йоргена" (хоць тое й не пазначана на тытуле, але словазлучэнне згадваецца ў творы). Цытаты прыводзяцца па электронным выданні кнігі[5], а таму падаюцца без пазначэння старонак.

Зрэшты, казаць пра асобныя цытаты – наўрад ці дакладна. Хутчэй ідзецца пра сціслы пераказ з большай увагаю да асобных момантаў.

Калі адбылося тое, дакладна невядома. У 1845 годзе ў пустой піўной бочцы знайшлі аркушы з напісанай на іх гісторыяй. Пергаментныя аркушы. А гэта патыхае сярэднявеччам.

Затое вядомае месца дзеяння: горад Йоргенстад.

Трыста год ад падзей, апісаных на тым пергаменце, жыў у ім святы Йорген, абаронца горада й галоты ад разбойнікаў. І ўзлавалі на яго багацеі гарадскія, што былі ў змове з ліхім людам і мелі ад таго добры прыбытак, і ў шлюбную ноч святога напалі на яго й хацелі забіць, але той збег – паабяцаўшы вярнуцца.

А ў час нашае гісторыі горад жыве й квітнее дзякуючы святу гэтага святога, бо паломнікі з усіх канцоў ідуць дакрануцца да ягонай плашчаніцы. І, натуральна, плацяць. Ergo, усім там кіруюць увацаркоўленыя асобы: гросмайстар, капелан, скарбнік.

Былі гэта, мушу сказаць, яшчэ тыя маральныя аўтарытэты. Капелан меў звычку падчас службаў выглядаць маладых ды гожых прыхаджанак, а праз нейкі час прыходзіў да іх дадому. І тады бацькі нябогаў моўчкі выходзілі з хаты і, утаропіўшыся ў вулічныя камяні, блукалі бязмэтна, а іхнія дочкі, зняўшы паясы, пакорліва чакалі ў ложку. Пасля аднаго з падобных візітаў, на завулак Ружаў, і нарадзіўся ва Урсулы сын Мікаэль. Узрастаў дзіўным, непадобным на астатніх, і аднойчы, нікім не заўважаны, пралез у палац капелана, уварваўся ў ягоны кабінет і сказаў: Ты – мой бацька!

За што адведаў на галоўнай плошчы бізуноў і быў выгнаны з роднага горада.

Ад гэтага моманту робіцца цікавей.

Спачатку Мікаэль трапіў у цыркавую трупу, з якой аб'ездзіў ці мала краінаў, быў канатным танцорам. Потым далучыўся да вандроўных актораў, ліцадзеяў і неўзабаве стаўся адным з самых натхнёных выканаўцаў шэкспіраўскіх роляў. На сцэне ён зліваўся з сваёй помстаю і будучай вялікасцю, а ягоная гордасць ніяк не адпавядала ролі сціплага скамароха.

Пазней Мікаэль стаў сапраўдным разбойнікам, каханкам прынцэсы Пармскай, і скраў для яе каронныя брыльянты. І ў час чарговага свята горада хаваўся ў лесе ад ландскнехтаў курфюрста. Было яму троху за трыццаць: "*Высокі хлапчына з цёмнай барадой і сумным тварам, простым і сціплым; такія твары заўсёды выклікаюць давер*". ("*Вельмі высокі й моцны, шыракаплечы, са смешным абліччам і густымі бровамі*"[6]). Ці такога хацеў сабе лёсу? Ён жа збіраўся вярнуцца ў каханы горад моцным, вялікім і адпомсціць царкоўнікам! У сваёй лісінай норцы ён чуе званы горада і раптам шалёная думка працінае яго: так! Ён вернецца туды, ён схаваецца сярод паломнікаў і ўвойдзе ў свой горад!

А горад рыхтаваўся, упрыгожваўся, мітусіўся, віраваў, піў і... Каб не расцягваць пераказ, скажу толькі: гэтае царкоўнае свята па сваёй жыццярадаснасці й празе любові моцна нагадвае нашае Купалле.

Не брала ўдзел у агульным тлуме толькі купка моладзі, дачок і сыноў першых увацаркоўленых асобаў горада, якія кпілі, жартавалі, здзекваліся: і з свята, і з святога, і з народа, і з уласных бацькоў. Іх варта было б назваць атэістамі – анахранізмам, што праўда: упершыню гэты тэрмін быў ужыты нібыта, як сведчыць Вікіпедыя, у *Hanmer Meredith. The auncient ecclesiasticall histories of the first six hundred years after Christ, written by Eusebius, Socrates, and Evagrius. London, 1577,* то бок трохі пазней за меркаваны час *пергаментных* падзеяў.

Пра анахранізмы ў творчасці Караткевіча згадвалася нямала. Вось што піша, прыкладам, лонданскі, але ўсё ж такі наш літаратуразнаўца Арнольд Макмілін – са спасылкаю на кнігу А. Вераб'я "Жывая повязь часоў: нарыс творчасці Уладзіміра Караткевіча" (1985): "*Можна нават сцвярджаць, што некаторыя анахранізмы кнігі, такія, як, напрыклад, з'яўленне езуітаў у Беларусі на пяцьдзесят гадоў раней таго, калі яны на самой справе прыйшлі, хутчэй за ўсё можна трактаваць як дапушчальную аўтарскую свабоду ў адносінах да перадачы рэальных падзей з мэтай прадставіць энцыклапедыю беларускага жыцця XVI ст.*"[7]

Думка больш як сумніўная; у ёй няма ні кананічнай навуковасці, ні апакрыфіч-

най прыгажосці. А з анахранізмамі даць рады вельмі проста, калі згадаць Ліёна Фейхтвангера, у прозе якога падобных прыкладаў процьма, і ягоны ведамы пагляд на гістарычны раман, у якім бачыў сродак адлюстравання балючых праблемаў свайго часу. Гістарычная алегорыя, казаў ён, дапамагае як мага праўдзівей пераказаць уласнае светаадчуванне, уласную эпоху. Працытую нямецкага раманіста: "*Я не магу сабе ўявіць, каб сур'ёзны раманіст, які працуе з гістарычным матэрыялам, мог бачыць у гістарычных фактах што-небудзь інакшае, як* ***сродак аддалення****, сімвал, сродак максімальна вернай перадачы ўласнага светапогляду, ягонага ўласнага адчування жыцця, ягонага часу*"[8].

Але ж вернемся да моладзі. Кіравала ўсімі прыўкрасная Алеандра, дачка грасмайстра. Яны не тое каб бунтавалі супраць Евангелля ад Йоргена і аталяючых яго духоўных скрэпаў – усіх гэтых плашчаніцаў, кубкаў; хутчэй проста над усім і з усяго кпілі, жартавалі, здзекваліся й пасмейваліся. Не апошняю тэмаю ў іх былі нявесты святога: хоць і шанаваныя народам і добра-такі ўладкаваныя ў жыцці, але старыя, бяззубыя, ці, як сфармулявалі Ільф з Пятровым, "*пакуль у св. Йоргена будуць такія нявесты, ён наўрад ці вернецца на зямлю*".

Мінакам падобнае стаўленне не магло падабацца, а галоўнае – не спрыяла царкоўнаму бізнесу. Таму гросмайстар напачатку спадзяваўся дамовіцца з дачкою, а як не атрымалася перацягнуць на свой бок – выдаць замуж. Гордая Алеандра толькі абсмяяла бацьку з кандыдатамі на жаніхоў – не горш як з вераю ў Йоргена. І тут яны раптам нечакана для саміх сябе паразумеліся і аб'ядналіся: Алеандра станецца наступнаю нявестаю святога! Для гросмайстра на тым закончацца ейныя пасядзелкі з маладой кампаніяй, а для яе – магчымасць заставацца вольнай і незалежнай. Далібог: і замужам, і ў хаце.

Моцна ўсцешыліся мінакі ад такой навіны: нарэшце нявеста будзе маладая й прыгожая; так, яна грашыла, затое цяпер будзе замольваць свае грахі. Не евангельская Марыя Магдалена і не караткевічава Марына Крывіц, але ўсё ж грэшніца.

А ў гэты самы момант у іншым канцы горада Мікаэль, які тоўкся сярод мінакоў, слухаў іхныя нараканні на ўвацаркоўленых, што нават за святым было лепей, як цяпер, думаў сабе: людзі застаюцца гэткімі ж наіўнымі, замест таго, каб мацаваць сваю волю ў барацьбе з прыгнятальнікамі, яны толькі плачуць, скуголяць, наракаюць ды мянташаць розную лухту. Думкі былі перараваныя нейкім п'янтосам, што, загарнуўшыся ў белыя анучы, зароў: я святы Йорген! І Мікаэль зразумеў, кім ён вернецца ў горад...

Мяркую, зразумелі й знаёмыя з тэкстам пра гарадзенскага "Хрыстоса...". Тактак, Мікаэль "вярнуўся" святым. Ён нават стварыў цуд, давёўшы да шалу натоўп вернікаў і да інфаркту бацькоў горада, і адпомсціў роднаму бацьку, прымусіўшы цалаваць сваю руку перад усімі, і правёў ноч з сваёй нявестаю. Зрэшты, гэта ўжо другаснае.

На наступны дзень гросмайстар з скарбнікам і капеланам (ды й Алеандра) дазналіся, хто такі гэты Йорген, але – што было рабіць? Пасля ўсіх пашанаў, выказаных яму перад натоўпам? Ды іх проста растопчуць, калі сказаць праўду!

І тады паразумеліся яны на такім гешэфце: "святы" "ўзносіцца" на неба, а яму даюць за тое дзве бочачкі золата, кілбасаў, сыру, карэту і... часткаю гэтай здзелкі захацела зрабіцца і Алеандра... Але зноў жа, гэта іншая гісторыя.

Мікаэлю сталася лёгка й вольна. Ён адпомсціў за маці, за сябе. Ён здзейсніў мару свайго жыцця! І – раптам адчуў сябе спустошаным, быццам жыццё страціла ўсякі сэнс. "*Ён глядзеў на мора вернікаў, што ўглядалася з нейкай саплівай бездапаможнасцю, і тупым спалохам, быццам першабытныя жывёліны, і ў сваёй амаль ідыёцкай рэлігійнасці не жадалі нічога болей, як утульна спалучыцца з натоўпам такіх самых фанатыкаў, падпарадкоўваючыся іхняму стыхійнаму ціску... гледзячы на іх Мікаэль раптам зразумеў, што гэтыя незлічоныя натоўпы багамольцаў самі*

*шукаюць святыя храмы, каб глядзець на іх знізу ўверх, як жывёліна глядзіць на сонца, шукаюць цудатворныя плашчаніцы й лятуць да іх з усіх бакоў, пускаючы ад захаплення ў порткі, і ні ў кога з гэтых прыдуркаватых пахілых істотаў не з'явіцца ніводнай святой думкі...*"

Мікаэль кажа сам сабе словы, якія ўголас прамовіў Максім Багдановіч: "*Народ, Беларускі Народ! Ты – цёмны, сляпы, быццам крот*". Але для Караткевіча гэтага было замала – простая канстатацыя. Ён са сваім Хрыстосам пайшоў далей, той зрабіў сапраўдны цуд, пра які згадваецца і на самым пачатку твора – "*У яго, у Юрася Братчыка, цудаў было больш. І галоўнае цуда – мёртвыя ўсталі, калі прыйшоў ён*"[9], і напрыканцы: "*Вецер варушыў валасы Хрыста. Ён глядзеў, ён бачыў аблічча. Тысячы абліччаў. Бачыў жывых і забітых. І гэта было тое, неўміручае, імя чаму – Народ*"[10]. Такі народатворчы рандэль.

Вось бадай і ўсё пра кандыдата на трэцюю крыніцу й трэці складнік рамана "Хрыстос прызямліўся ў Гародні".

Мабыць, варта яшчэ толькі зазначыць у абарону Харальда Бергстэтда, што хоць той і не знайшоў іншага шляху для свайго героя, як з'ехаць і жыць далей шчасліва, з жонкай і дзецьмі, у эпілогу, аднак, згадваецца адзін з нашчадкаў святога, кіраўнік народнага паўстання Конрад фон Фалькенберг. Хто ведае, мо дацкі пісьменнік ведаў пра Каліноўскага і думаў пра свае "Каласы пад сярпом"?

---

[1] Караткевіч Ул. ...Трэба церабіць сваю сцежку. Дзённік 1965-66 гадоў//Дзеяслоў, №5 (78), верасень-кастрычнік 2015. – С. 198.

[2] Шынкарэнка В. К. Нястомных пошукаў дарога. Праблемы паэтыкі сучаснай беларускай гістарычнай прозы. Мінск, Беларуская Навука, 2002. – С. 50.

[3] Банцэвіч П. К., Казлоўскі Р. К. Праз прызму часу: беларуская літаратура ХХ стагоддзя ў кантэксце навуковых даследванняў. Манаграфія. Гродна, 2012. – С. 228. Беларускі нацыянальны дух – і Біблія!? Зрэшты, для маладых навукоўцаў характэрна смела агучваць думкі й памкненні пісьменнікаў.

[4] Банцэвіч П. К., Казлоўскі Р. К. Праз прызму часу... – С. 240.

[5] Гаральд Бергстед. Праздник святого Йоргена. Москва, Государственное издательство художественной литературы, 1963. – 176 с.

[6] Караткевіч Ул. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 2. Мінск, 1980. – С. 46.

[7] Арнольд Макмілін. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады ХХ стагоддзя. Мінск, 2001. – С. 281.

[8] http://7iskusstv.com/2013/Nomer4/Motovilov1.php

[9] Караткевіч Ул. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 2. Мінск, 1980. – С. 6.

[10] Караткевіч Ул. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 2. Мінск, 1980. – С. 392.

Сяргей Пятровіч



…ва ўяўленні суседа-габрэя,
«братка-беларус» быў не «пан сахі і касы»…

# Абразы ці кампліменты?

## *Беларускія прозвішчы праз прызму старажытнагабрэйскай мовы*

Госпад стварыў сусвет, стварыў чалавека і даў яму мову. Але ж у выніку грэхападзення першага чалавека грэх увайшоў у свет. Ён сказіў прыроду чалавека, сказіў ягоную мову. І, як вынік справы нячыстага, мы можам бачыць, як некаторыя словы, словы са старажытнагабрэйскай мовы, мовы Святога Пісання, набылі негатыўную афарбоўку, змянілі сваё значэнне, зрабіліся сапраўдным жаргонам. Гэтак, напрыклад, *юнак* (*па-ст. габр.* רוּחָבּ bāḥûr) ператварыўся ў *‘бахура’*; *супольнасць, таварыства* (*па-ст. габр.* חֶבְרָה ḥeḇrā) ператварылася ў *‘хеўру’*; *мудрасць* (*па-ст. габр.* חָכְמָה ḥoḵmā) ператварылася ў *‘хохму’*; *выкуп* (за жонку) (*па-ст. габр.* מֹהַר mōhar) ператварыўся ў *‘магарыч’*; *малако* (*па-ст. габр.* חָלָב ḥālāḇ), якое раздавалася бедным габрэям задарма, ператварылася ў *‘халяву’* [11]...

І вось, у дадзенай працы я хацеў бы распавесці пра некаторыя, даволі вядомыя на Беларусі абразлівыя словы,

у аснове якіх ляжыць старажытнагабрэйскі назоўнік לַעַב ba‘al *‘гаспадар;* адсюль *муж* або (перан.) *уладар’* [11], значэнне якіх у ранейшыя часы было абсалютна іншым.

Хто з нас у дзяцінстве не чытаў вядомы твор А. С. Пушкіна *“Сказка о попе и его работнике Балде”*? Чамусьці, чытаючы гэтую казку, складваецца ўражанне, што тут нешта не так. Мы прывыклі да таго, што слова *балда* азначае *дурань* (“Руска-беларускі слоўнік” перакладае слова *балда* гэтакімі беларускімі адпаведнікамі, як *доўбня (пра чалавека), ёлуп, ёлупень* [7]). Але ж назваць дурнем галоўнага героя гэтага твора аніяк нельга. Наадварот, ён разумны, кемлівы, працавіты. Здаецца, Балда зусім не адпавядае свайму імені. Але ж ці так гэта? А ці не меў назоў *балда* ў тыя даўнія часы зусім іншае, цалкам адваротнае значэнне? Каб адказаць на гэтыя пытанні, мне спатрэбілася зрабіць пэўную працу. Аб’ектам маіх даследаванняў сталі сучасныя расейскія і беларускія прозвішчы. Бо менавіта нашыя прозвішчы, якія ўтвараліся як ад уласных імёнаў, гэтак і ад апелятываў, дапамаглі праліць святло на гэтыя пытанні.

“Словарь современных русских фамилий” прыводзіць некаторыя прозвішчы, у аснове якіх, на думку аўтара, ляжыць слова *балда*. Гэта:

“Ба́лдин, Балду́ев, Балдынов, Болдако́в, Бо́лденко́в, Бо́лдин, Бо́лдов, Бо́лдышев

Фамилии восходят к прозвищам, связанными с нарицательными *балда, болда* — эти слова в разных говорах имеют значения «долговязый и неуклюжий, дурень», «бестолковый, малоумный», «сплетник, баламут».

Отдельные именования документированы в XVI – XVII вв.: Кондрат Балда, крестьянин, Олонец, 1564; Григорий Болдин, короченец, сын боярский, 1679; Яков Антюфеев сын Болдин, волуйский станичный атаман, 1681; Ивашко Болдин, орловский пушкарь, 1673” [3].

Звесткі, якія мы маем, вельмі скупыя, але ж і яны дазваляюць меркаваць, што гэтыя людзі не мелі асаблівых праблем з інтэлектам. Значыць, *балда*, у адрозненне ад нашага часу, у XVI – XVII стст. было не такое ўжо і дрэннае слова. Але што ж яно азначала? Адкуль яно пайшло?

Адказаць на гэтыя пытанні мне дапамаглі беларускія прозвішчы, сабраныя ў кнізе М.В. Бірылы *“Беларуская антрапанімія. 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мінск, “Навука і тэхніка”, 1969. 508 с. (АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа)”*. Гэтая кніга складаецца з вялікай колькасці паасобных слоўнікавых артыкулаў (скароч. — СА), у якіх на аснове адзінай методыкі вызначаецца лексічная і семантычная база прозвішчаўтвараючых асноў. Слоўнікавыя артыкулы маюць агульную структуру: 1) загалоўнае слова, 2) семантычная частка, 3) сучасныя беларускія прозвішчы, утвораныя на базе загалоўнага слова, 4) антрапанімічныя паралелі: а) імёны-мянушкі, зафіксаваныя ў пісьмовых помніках, б) лексічна суадносныя сучасныя рускія, украінскія, літоўскія і цюркскія прозвішчы.

І вось, праглядаючы гэтую кнігу, я звярнуў увагу на прозвішча *Бяльдзе́йка* (СА: *БЯЛЬДА, памянш. БЯЛЬДЗЕЙКА. — *Бяльдзе́йка* [2]), аснова якога нагадвае назоўнік *балда*. Паходжанне асновы гэтага прозвішча лічыцца невядомым. Але ж, нягледзячы на гэта, я паспрабаваў дакапацца да ягоных каранёў.

У беларускай антрапаніміі існуе шмат прозвішчаў з канчаткамі *− е́й (− эй), − е́йка (− эйка)*... Пэўная частка гэтых прозвішч уяўляюць сабою біблійныя імёны, а таксама назоўнікі мовы ідыш з апошняй літарай ע (аін(аен)), якая ў гэтай мове перадае гук, адпаведны беларускаму [э]. Гэты неўласцівы для беларускай мовы канчатак мог набыць форму *− е́й (− эй), − е́йка (− эйка)*... Гэта асобная, даволі вялікая тэма, цалкам раскрыць якую ў дадзенай працы проста немагчыма. Таму прозвішча

*Бяльдзе́йка*, як паказалі далейшыя пошукі, магло ўтварыцца ад спалучэння двух старажытнагабрэйскіх назоўнікаў, якое існуе і ў мове ідыш: **bal-déje** *m, pl.* -s/bale-déjes (iber) [*s.* (בעלי־דעות) בעל־דעה → bedeje, deje] *кіраўнік, галава; уплывовы чалавек, які можа вырашаць, чыё меркаванне мае вагу, хто мае апошняе, вырашальнае слова* [10].

У кнізе *"Беларуская антрапанімія. Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы" (Мінск, 1966)* я звярнуў увагу на прозвішча *Баль*, якое М.В. Бірыла выводзіць ад уласнага імені БАЛТАЗАР [1]. Але ж, на маю думку, прозвішча *Баль* паходзіць ад узгаданага вышэй старажытнагабрэйскага назоўніка בַעַל baʻal *'гаспадар; адсюль муж* або (перан.) *уладар'*. І на тое ў мяне ёсць наступныя падставы.

Па-першае: прозвішча *Баль* магло ўтварыцца ад назоўніка בַעַל baʻal у выніку зліцця двух аднолькавых галосных гукаў, што стаяць побач. Асабліва, калі ўлічыць той факт, што націск у назоўніку בַעַל baʻal падае на першы склад.

Па-другое: утвораная ад гэтага назоўніка часціна **bal**-, якая служыць для азначэння мужчынскай асобы, якая валодае нейкай характэрнай рысай, з'яўляецца адной з самых распаўсюджаных лексем мовы ідыш, і ўваходзіць у склад шматлікіх устойлівых словаспалучэнняў гэтай мовы, у тым ліку і спалучэння **bal-déje** *m*.

Што датычыцца другой часткі словаспалучэння, яна ўяўляе сабою назоўнік דֵעָה dēʻā *'веды'* або דֵעַ dē[a]ʻ *'веды, разуменне справы'* [11]. У другім варыянце націскным з'яўляецца гук [э], як і ў прозвішчы *Бяльдзе́йка*. Што датычыцца першага варыянта, тут націскным у пэўных вымаўленнях з'яўляецца гук [а]. Дык ці не ад спалучэння назоўніка בַעַל baʻal з назоўнікам דֵעָה dēʻā утварылася слова *балда*? Хутчэй за ўсё, так. Нават таму, што словаспалучэнне בַעַל־דֵעָה baʻal-dēʻā літаральна перакладаецца як *гаспадар ведаў* — выраз, якім смела можна назваць галоўнага персанажа ўзгаданага вышэй твора А.С. Пушкіна.

І вось на гэтым я хачу спыніцца больш падрабязна, а таксама – выказаць меркаванне, што гукам, якія перадае літара ע (аін(аен)), у беларускай мове, апрача [э], маглі адпавядаць і гукі [а], [у] і [о], што бачна на наступных прыкладах, прыведзеных у *"Беларускай антрапаніміі. 2"*.

Аснова БАЛДА (СА: БАЛДА прастамоўн. зневаж. 'дурань'. — *Балдзі́н, Балдзе́нка, Балдэнка; Бо́лдзін, Бо́лдзенка; Балдоўскі*. СРП *Балдин, Болдов, Болденков, Болдин, Болдов* [2]) магла ўтварыцца ад гэтага словаспалучэння, прачытанага ў адаптаваным да беларускай мовы вымаўленні.

Тое, што аснова БАЛДА ўтварылася ад спалучэння мовы ідыш בעל־דעה (**bal-déje** *m*) пацвярджаецца наступным: форма множнага ліку гэтага словаспалучэння выглядае наступным чынам: בעלי־דעות (**bale-déjes**) [10]. Дык ці не ад яе ўтварылася аснова БАЛДЗЕС (СА: БАЛДЗЕС. — *Балдзе́саў, Балдэсаў; Бо́лдзесаў*. Параўн. БАЛДА [2]), а таксама аснова БАЛДЫШ (СА: БАЛДЫШ. — *Ба́лдышаў, Балдышо́нак; Бо́лдышаў*. Чув. УІ *Балдыш* (Магн.). Бел. у XVIII ст. *Болдыш* (БА, І, 199). СРП *Болдышев*. Параўн. БАЛДА[2]). (Аб тым, што гукам, якія перадае літара ת (таў), у беларускай мове можа адпавядаць як гук [с], гэтак і гук [ш], больш падрабязна будзе сказана ніжэй.)

Але ж у *"Беларускай антрапаніміі. 2"* ёсць і аснова БАЛДУЙ (СА: БАЛДУЙ рэг. зневаж. 'дурань' (Дзярж. — М. Б.) — *Балду́еў*. Чув. УІ *Балдуй* (Магн.). СРП *Балдуев*. Параўн. БАЛДА [2]), якая таксама магла ўтварыцца ад гэтага словаспалучэння, а таксама прозвішча *Булда́* (СА: БУЛДА параўн. тат. *булды* 'досыць, даволі', 'гатова, усё зроблена' (ТРС). — *Булда́, Булдзі́н* [2]).

Апрача асновы БАЛДА ў *"Беларускай антрапаніміі. 2"* прысутнічае таксама аснова БОЛДА (СА: БОЛДА гл. БАЛДА [2]), ад якой маглі ўтварыцца прыведзеныя вышэй прозвішчы *Бо́лдзін* і *Бо́лдзенка*. Сюды трэба дадаць прозвішча *Бо́ўда* (СА: *БОЎДА параўн. *боўдзіла* 'балда, дурань' (БРС). — *Бо́ўда* [2]), якое магло ўтварыцца ад формы БОЛДА, а таксама прозвішча *Баўдзе́й* (СА: *БАЎДЗЕЙ. — *Баўдзе́й.*

Параўн. БОЎДА [2]), якое магло ўтварыцца ад прозвішча *Бо́ўда* ў выніку пераносу націску і набыцця канчаткам спалучэння בעל־דעה (**bal-déje** *m*) больш уласцівай для беларускай мовы формы — *éй*, (як і прозвішча *Бяльдзе́йка*).

Тут таксама я хачу адзначыць асновы БОЛДЗЕС (СА: БОЛДЗЕС гл. БАЛДЗЕС [2]) і БОЛДЫШ (СА: БОЛДЗЕС гл. БАЛДЗЕС [2]).

Тое, што гукам, якія перадае літара ע (аін(аен)), у беларускай мове, апрача [э], маглі адпавядаць таксама гукі [а], [у] і [о], я хачу пацвердзіць яшчэ наступным прыкладам: Прозвішчы *Балдзі́н*, *Бо́лдзін* і *Булдзі́н* (гл. вышэй) маглі ўтварыцца не ад спалучэння **bal-déje** *m*, а ад словаспалучэння мовы ідыш בעל־דין (**bal-dín** *m*) [10], другой часткай якога з'яўляецца старажытнагабрэйскі назоўнік דִּין dîn *'суд'* [11], і якое мае значэнні*: пазоўнік, ісцец; адказнік (у судзе)* [10].

Назоўнік בַּעַל ba'al мог паслужыць першай часткай асновы БУЛДЫГА (СА: БУЛДЫГА рус. 'забулдыга, п'яніца' (Даль, Дабр., СРНГ, 3), 'масол, костка' (Даль, СРНГ, 3), 'дубіна, булава' (Там жа). — *Булдыгін* [2]), якая магла ўтварыцца ад словаспалучэння мовы ідыш: **bal-dájge** *m*, якое азначае *клапатлівы, дбайны, руплівы чалавек* [10], другой часткай якога з'яўляецца старажытнагабрэйскі назоўнік דְּאָגָה də'āgā *'неспакой, асцярога'* [11].

*Балда, Балдзін, Булдыга.* У нашым уяўленні гэтыя словы з'яўляюцца абразамі. Але ж, на самой справе, адно з іх азначае *гаспадар ведаў*, другое — *гаспадар суда*, трэцяе — *гаспадар клопату*. Але ж гаспадаром чаго чалавек бывае часцей за ўсё? Адказ адназначны: канечне ж, гаспадаром хаты.

Хата. Старажытнагабрэйскі назоўнік בַּיִת bayiṯ *'жытло, памяшканне, дом* (у шырокім сэнсе; *сям'я, племя...* )*'* [11], які ў мове ідыш набыў форму **bais/bajis** *m* або **bejs-** [10]. (Літара ת (таў) у беларускім ашкеназскім вымаўленні чытаецца як [с]). І калі б мы паспрабавалі сказаць на ідыш словаспалучэнне *гаспадар хаты*, у нас атрымалася б адно, даволі вядомае абразлівае слова, якое яўна ўтрымлівае ў сабе часціну **bal**-, — *балбес*. Назоўнік *балбес*, як *балда* і *булдыга*, таксама мог быць звычайным словам, а не абразай. А.Ф. Рогалевым адзначаны гэтакія прозвішчы, як **Балбысенков** і **Болбисёнок**, у аснове якіх ляжыць фанетычная мадэфікацыя слова *балбес* — *Балбыс* [4].

Але ж у мове ідыш гэтае спалучэнне ператварылася ў двухкарэнны назоўнік **bal(e)bós** *m*, які мае наступныя значэнні: *1. балабос, гаспадар, уласнік, кіраўнік; 2. чалец кагалу; 3. гараджанін, абывацель, жыхар, мінак, тубылец, мешчанін* [10]. І зноў, як і ў выпадку з *балда*, мы бачым, што значэнне гэтага словаспалучэння аніяк не супадае з тым, што мы прывыклі разумець пад словам *балбес*.

Як ужо было сказана, словаспалучэнне בַּעַל־דֵּעָה ba'al-dē'ā *(гаспадар ведаў)* пакінула вялікі след у беларускай антрапаніміі. Гэта прозвішчы: *Балдзе́нка, Балдэнка, Балдоўскі, Балду́еў, Баўдзе́й, Бо́лдзенка, Бо́ўда, Булда́, Бяльдзе́йка*; *Балдзе́саў, Балдэсаў, Бо́лдзесаў*; *Ба́лдышаў, Балдышо́нак, Бо́лдышаў*. Ці не занадта шмат беларускіх прозвішчаў утварылася ад «абразы»?

Назоўнік **bal(e)bós** *m* у розных формах таксама даволі шырока адлюстраваны ў беларускай антрапаніміі.

Гэта і прозвішча *Бале́бус* (СА: *БАЛЕБУС. — *Бале́бус* [2]), якое ўяўляе сабой, як адзначыў прафесар Віленкін Л., паўднёваўкраінскую форму гэтага назоўніка — **bal(e)bús** *m* [6].

Ад паўднёваўкраінскай формы маглі ўтварыцца і аснова БОЛБУЗЬ (СА: *БОЛБУЗЬ. — *Бо́лбузеў* [2]), і прозвішчы *Бала́бушка, Бала́бышка, Балабушэвіч* (СА: БАЛАБА, памянш. БАЛАБКА, БАЛАБУША, БАЛАБУШКА, БАЛАБЫШКА, відаць, з тым жа агульным значэннем, што і БАЛАБАН (гл.), 'балбатун, пустазвон', 'бразготка'. — *Бала́ба, Бала́бін, Бо́лабаў; Бала́бкін; Балабушэвіч; Бала́бушка;*

*Бала́бышка*. СРП *Балабин* [2]), у якіх гук [с], які ідзе ад літары ת (таў), ператварыўся ў [ш]. (Звычайная справа ў розных гаворках мовы ідыш.)

Гэта і адзначанае А. Ф. Рогалевым прозвішча **Балбос** [4], якое ўяўляе сабою назоўнік **bal(e)bós** *m* у варыянце больш адаптаваным да беларускага маўлення.

(І вось тут я хачу адзначыць імя **Балбош** (**Балбош**, луцкий землянин, зап. 1552. Арх. VII, 1, 175 [5]), якое, на маю думку, мае тую ж крыніцу паходжання, што і прозвішча **Балбос**.)

Гэта і прозвішчы *Бо́лбас* і *Бо́лбат* (СА: БОЛБАС рэг. 'балбатун' (Дзярж. — М. Б.). — *Бо́лбас, Бо́лбасаў*; БОЛБАТ рэг. 'балбатун' (Дзярж. — М. Б.). — *Бо́лбат, Балбато́віч; Балбато́ўскі* [2]), паходжанне якіх М. В. Бірыла выводзіць ад назоўніка *балбатун*, але ж на прыкладзе якіх добра бачныя асаблівасці чытання літары ת (таў).

Гэта і прозвішча *Бо́лбач* (СА: БОЛБАЧ рэг. 'балбатун' (Дзярж. — М. Б.). — *Бо́лбач* [2]), якое, хутчэй за ўсё, з'яўляецца варыянтам прозвішча *Бо́лбат*.

Гэта і аснова БУЛАБЯС (СА: *БУЛАБЯС. — *Булабясаў* [2]), у якой першы корань назоўніка **bal(e)bós** *m* набыў форму БУЛА-.

Гэта і аснова БУЛЬБАЧ (СА: *БУЛЬБАЧ. — *Бульбачо́ў* [2]), у якой першы корань набыў форму БУЛЬ-.

Як бачна, у прозвішчах *Бале́бус, Бо́лбас, Булабясаў* літара ת (таў) чытаецца як [с]. (Сюды можна аднесці і прозвішча *Бо́лбузеў*.) Але ж, гледзячы на асновы БАЛДЗЕС і БАЛДЫШ, прозвішчы *Бала́бушка* і *Бала́бышка*, можна выказаць меркаванне, што вымаўленню літары ת (таў) у беларускай мове маглі адпавядаць як гук [с], гэтак і гук [ш]. У якасці дадатковага прыкладу я хачу прывесці прастамоўнае слова **шаба́ш**: ША́БАШ *в знач. сказ. прост.* **шаба́ш, ба́ста, кане́ц** [8]. Слова **шаба́ш** паходзіць ад вядомага габрэйскага назоўніка שַׁבָּת šabbāṯ *'перапынак, супакой, бяздзейнасць*, таксама (прыватн.) *субота, свята'* [11], які ў мове ідыш набыў форму **šabes** *m* [10].

І вось тут я хачу засяродзіць увагу на наступным: Як ужо было адзначана, узгаданы вышэй старажытнагабрэйскі назоўнік בַּיִת bayiṯ, апрача формы **bejs-**, мае яшчэ форму: **bais/bajis** *m*. Значыць, узгаданае вышэй словаспалучэнне *гаспадар хаты* магло вымаўляцца не толькі як *балбес*, але і як *балбас*, што вельмі нагадвае прыведзенае вышэй прозвішча *Бо́лбас*, а таксама назву былога вайсковага гарадка ў Аршанскім раёне — **Балбасава**. Прыклады асноў БАЛДЗЕС і БАЛДЫШ, прозвішч *Бале́бус* і *Бала́бушка*, прозвішча **Балбос** і імя **Балбош**, назоўніка мовы ідыш **šabes** *m* і беларускага прастамоўнага слова **шаба́ш** гавораць, што габрэйскі назоўнік בַּיִת bayiṯ на Беларусі мог вымаўляцца як *баш*, а словаспалучэньне *гаспадар хаты* — як *балбаш*. У той жа час першы корань назоўніка **bal(e)bós** *m* у пэўных гаворках мог вымаўляцца як *бул* (прыклады прозвішчаў *Булда́* і *Булдзі́н*, асноваў БУЛДЫГА, БУЛАБЯС і БУЛЬБАЧ), а словаспалучэнне *гаспадар хаты* — як *булбас*, што вельмі нагадвае прыведзеную вышэй аснову БУЛАБЯС, або *булбаш*, што вельмі нагадвае нашу нацыянальную мянушку — бульбаш.

І вось, абапіраючыся на ўвесь прыведзены вышэй матэрыял, я хачу выказаць меркаванне, што нашая нацыянальная мянушка бульбаш паходзіць не ад назоўніка *бульба*, а ад назоўніка мовы ідыш **bal(e)bós** *m*, які ўзнік у выніку спалучэння двух старажытнагабрэйскіх назоўнікаў בַּעַל baʻal і בַּיִת bayiṯ, і перакладаецца з габрэйскай мовы як *гаспадар хаты*.

Тое, што часціна **bal-** пакінула ў беларускай антрапаніміі значны след, пацвярджаецца яшчэ наступнымі прыкладамі.

Прозвішча *Балбе́ка* (СА: *БАЛБЕКА. — *Балбе́ка*. СРП *Балбеков* [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **balbéxi** *m* — *плакса, плаксун, румза, ныцік, кныхала, віскун; кантар, які моліцца падвываючы* [10], другім коранем якога з'яўляецца старажытнагабрэйскі назоўнік בְּכִי bəḵî *'плач; кроплі'* або בֶּכֶה beḵe *'плач'* [11].

Прозвішча *Бальш* (СА: БАЛЫШ кірг. *балыш* ’баліш, падушка ў выглядзе валіка’ (КРС). — *Балыш, Ба́лышаў*. Параўн. чув. УІ *Балыч* (Магн.) [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **baljíeš** *m — чалавек у роспачы/адчаі* [10]. Другі корань гэтага назоўніка таксама прысутнічае ў тэкстах Танаха: дзеяслоў שׁאַיָ yā’aš *‘устрымлівацца, сцерагчыся,* таксама (перан.) *падаць духам, адчайвацца’* [11].

Апрача прозвішчаў, у якасці дадатковага прыкладу я хачу прывесці назоўнік **Балагол** *м.* [9], які ўяўляе сабой скарочаную форму назоўніка мовы ідыш: **balególe** *m*, -s – *рамізнік, фурман, (з)возчык, вознік, вазак, вазніца, балагула* [10], другім коранем якога з’яўляецца старажытнагабрэйскі назоўнік הלָגָעֲ ‘ăḡālā ‘тое, што *круціцца,* г. зн. *фурманка* з коламі’ [11].

Дый не толькі ад назоўніка לעַבַּ ba‘al, але і ад іншых габрэйскіх лексем утварылася вялікая колькасць беларускіх прозвішч. Гэта:

Прозвішча *Бе́за* (СА: *БЕЗА. — *Бе́за* [2]) магло ўтварыцца ад першай часткі выразу мовы ідыш: **bezé-halóšn** — *“такой мовай”; adv. у наступных/такіх словах, паводле гэтых словаў, такім чынам*, які мае значэнне: *жорстка, аднасэнсова выказвацца* [10].

Прозвішча *Бе́кіс* (СА: *БЕКІС. — *Бе́кіс*. СЛП *Бекіс* [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **b(e)kies** *n*, -n (in) — *веды, веданне, знаёмства, уменне, спрыт, спрактыкаванасць, дасведчанасць, адукаванасць, эрудыцыя* [10].

Прозвішча *Бітэль* (СА: БІТЭЛЬ, БІЦЭЛЬ літ. *bitele* ’пчолка’ (Фрэнк.). — *Бітэль, Біцэ́ль,* відаць, у выніку асваення ЛП *Бітеліс*. СРП *Бітелёв* [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **bitl** *m — пагарда, пагардлівасць, грэблівасць, грэбаванне, недаацэнка; ануляванне, (с)касаванне* [10].

Прозвішча *Бо́дак* (СА: *БОДАК гл. БАДАК; БАДАК, БОДАК рэг. ’асот’, ’вазонсталетнік’ (Стэц.), ст. рус. *бодак* ’лодка, барка’ (Дзюверн.). — *Бада́к, Бо́дак*. Бел. у XVII ст. *Бодак* (БА, І, 199) [2]) магло ўтварыцца ад першай часткі выразу мовы ідыш: **bodek-umenúse** — *сцвярджальна, доказна, выпрабавана* [10].

Прозвішча *Бо́кі* (СА: *БОКІ. — *Бо́кі*. Бел. у XVI ст., укр. у XVI — XVII стст. *Бокий* (Туп.). СРП *Бокий* [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **boke/boki** 1. *m*, *pl*. b(e)kiim (in) *знаўца, герц, адэпт, эрудыт, спецыяліст, дасведчаны чалавек; 2. (in) дасведчаны, спрактыкаваны, умелы* [10].

Прозвішча *Во́рла* (СА: *ВОРЛА. — *Во́рла* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: הלָרְעָ ‘orlā *‘крайняя плоць’*, які ў мове ідыш мае наступныя значэнні: 1. *крайняя плоць на мужчынскім чэлесе; 2. tnx. плод на дрэве ў першыя тры гады пасля пасадкі; 3. tlmd. назоў 10-га трактату 1-га раздзелу (запаветы аб забароне ўжывання пладоў з дрэваў у першыя тры гады пасля пасадкі)* [10].

Прозвішчы *Гала́х* і *Ге́лах* (СА: *ГАЛАХ, памянш. ГАЛАШКА параўн. укр. *галахура,* насмешлівае аб асобах духоўнага звання і аб членах іх сям’і (Грынч.). — *Гала́х; Гала́шка; Галашэўскі*. СРП *Галах, Галахов, Галашин*; *ГЕЛАХ, ГЕЛАШ. — *Ге́лах, Ге́лаш* [2]) маглі ўтварыцца адпаведна ад наступных габрэйскіх назоўнікаў: **galex** *m — поп, ксёндз, хрысціянскі святар*; **goluex=geluex** *m – безбародзька (голены жыд без барады насуперак запавету Майсея)* [10].

Прозвішча *Гой* (СА: ГОЙ, памянш. ГОЙКА, ГОЙЧЫК рэг. ’высокі, рослы, храбрэц, герой’ (Нас.), укр. з яўр. ’неяўрэй, хрысціянін’ (Грынч.), польск. *goj* ’усякі неяўрэй’, ’высокі, няскладны чалавек, нязграба’ (Карл.). — *Гой, Го́еў; Го́йка; Го́йчык*. СРП *Гоев, ?Гойкин* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: יוֹג gôy *‘племя, народ,* асабліва іншаземны; адсюль *паганец’*, які ў мове ідыш мае наступныя значэнні: *гой, негабрэй; габрэй, які не выконвае рэлігійныя запаветы* [10].

Прозвішча *Го́йла* (СА: *ГОЙЛА, памянш. ГОЙЛІК. — *Го́йла; Го́йлік*. СРП *Гойлов* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: הלָוֹג gôlā *‘выгнанне;* зборн. *выгнаннікі’*, які ў мове ідыш мае значэнне: *выгнаннік, выгнанец, выгнаны са сваёй краіны чалавек* [10].

Прозвішча *Го́ляс* (СА: *ГОЛЯС. — *Го́ляс* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: גָּלוּת galû<u>t</u>, які ў мове ідыш мае значэнне: *часовае пражыванне габрэяў у...; пражыванне/знаходжанне далёка ад дому* [10].

Прозвішча *Дзе́рах* (СА: *ДЗЕРАХ. — *Дзе́рах* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: דֶּרֶךְ dere<u>k</u>, які ў мове ідыш мае значэнне: *шлях, дарога; спосаб, метад, метода, лад, манера, чын* [10].

Прозвішчы *Капу́р, Капу́ра, Кяпу́ра* (СА: *КАПУР. — *Капу́р, Капу́раў*. Бел. у XVIII ст. *Капур* (БА, I, 218); КАПУРА 'капун, маруда'? — *Капу́ра*; *КЯПУРА параўн. рэг. *кепіць* 'падсмейвацца з каго' (Дзярж. — М. Б.). — *Кяпу́ра* [2]) маглі ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: **kapore** *f*, -s — *"выкуп"; кара, адплата; ахвяра, свойская птушка (курка або пеўнік), прызначаная для ахвяравання напярэдадні Ём-Кіпуру; бязвінная ахвяра (чалавек, пакараны замест іншага)* [10].

Прозвішча *Ківер* (СА: *КІВЕР. — *Ківер, Ківераў* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: **kier** *m*, -s — *умывальнік у сынагозе альбо на габрэйскіх могілках* [10].

Прозвішча *Кікар* (СА: *КІКАР параўн. ст. рус. *кикати* 'крычаць' (Ср.), бел. рэг. *кікаць* 'стрымліваючыся паціху смяяцца, хіхікаць' (Нас.). — *Кікар* [2]) магло ўтварыцца ад першай часткі словазлучэння мовы ідыш: **kiker-léxem** *m* — *бохан хлеба* [10].

Прозвішча *Клыпа* (СА: КЛЫПА, параўн. *клыпаць*. — *Клыпа*. СРП *Клыпин, Клыпкин* [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **klipe** *f*, -s — *злы дух, нячыстая сіла, нячысцік, чорт, д'ябал, дэман* [10].

Прозвішча *Ко́йра* (СА: *КОЙРА параўн. тат. *койрык* 'хвост' (ТРС). — *Ко́йра*, хутчэй у выніку асваення ЛП *Коіра, Коіріс* [2]) магло ўтварыцца ад першай часткі словазлучэння мовы ідыш: **kojre-níxbed** *m* — *выдатны, паважаны* [10].

Прозвішча *Ку́ндас* (СА: *КУНДАС. — *Ку́ндас* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: **kundes** *m* — *гарэза, свавольнік, шыбеннік, шалапут, балаўнік, дураслівец, шаляніца; жартаўнік, жартоўнік* [10].

Прозвішча *Ма́йса* (СА: *МАЙСА. — *Ма́йса; Майсюк*, магчыма, ад УІ *Майсей* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: מַעֲשֶׂה ma'ăśe *'дзеянне (добрае або дрэннае); справа; праца, дзейнасць; выраб, твор* (у прыватнасці *верш) або ўласнасць'* [11], які ў мове ідыш набыў форму **majse** *f*, -s і наступныя значэнні: *1. казка, байка, прыпавесць, фрашка, (неверагодная/фантастычная) гісторыя, апавяданне, аповяд, расказ; 2. здарэнне, прыгода, справа, падзея; 3. euph. "штучка", "сорам", палавы ворган* [10].

Прозвішча *Майта́к* (СА: *МАЙТАК. — *Майта́к, Майтако́ў*. Параўн. МАЙТА [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: **majtek** *m* — *перапісчык; пераклад(аль)нік, тлумач* [10].

Прозвішча *Маске́ль* (СА: *МАСКЕЛЬ. — *Маске́ль* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: מַשְׂכִּיל maśkîl *'той, хто навучае, настаўляе'* [11], які ў мове ідыш набыў форму **maskl** *m* і наступныя значэнні: *дасведчаны, асвечаны, адукаваны чалавек, (габрэйскі) асветнік; прыхільнік асветніцкага руху "haskole"* [10].

Прозвішча *Машке́й* (СА: *МАШКЕЙ. — *Машке́й* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: מַשְׁקֶה mašqe *'той, хто падае піць; (сам) напой* [11].

Прозвішчы *Місу́на* і *Місу́н* (СА: *МІСУН, *МІСУНА. — *Місу́н, Місу́наў, Місу́на* [2]) маглі ўтварыцца ад словазлучэння мовы ідыш: **mise-mešúne** *f*, — *злая, гвалтоўная смерць* [10], якое ўжывалася ў якасці праклёна.

Прозвішча *Мо́сяр* (СА: *МОСЯР. — *Мо́сяр* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: **moser** *m* — *даносчык, даказчык, паклёпнік, пляткар, каверзнік, намоўнік, жыгун, мантач, скаржнік, стукач, сексот; шантажыст* [10].

Прозвішча *Пігу́ль* (СА: *ПІГУЛЬ. — *Пігу́ль*. Параўн. ПІГУЛА [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: פִּגּוּל piggûl *'смурод;* пераан. *нечысціня, апаганенне (цырыманіяльнае)'* [11].

Прозвішча *Ра́ге́ль* (СА: *РАГЕЛЬ. — *Ра́ге́ль* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага

назоўніка: רֶגֶל reg̅el *‘нага; крок, ход, шэсце, падзвіжніцтва, спадарожніцтва’* [11], які, дарэчы, адносіцца да г. зв. «сегалатных» назоўнікаў і таму мае яшчэ адну форму напісання — רָגֶל rāg̅el.

Прозвішча *Се́галь* (СА: *СЕГАЛЬ. — *Се́галь*. СРП *Сегаль, Сегал* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: **segál** *abr*. **sgan-levíe** — *старэйшы з роду Левія* [10].

Прозвішча *Су́дас* (СА: *СУДАС. — *Су́дас* [2]) магло ўтварыцца ад формы *смі-хут* (звязанае спалучэнне) габрэйскага назоўніка **sude** *f*, -s — *банкет, (святочная) бяседа, баль*, якая ўжываецца ў шматлікіх выразах, як, напрыклад: **sudes-havróe** *f — абед, які прыносіць добры сябра габрэю, які толькі што вярнуўся з хаўтураў (паводле звычаяў першы абед пасля хаўтураў павінен быць з чужой ежы);* **sudes-mícve** *f — урачыстая бяседа з нагоды вяселля, абразання, канфірмацыі юнака і некаторых іншых святаў;* **sudes-púrim** *f — урачыстая бяседа напрыканцы дня святкавання Пурыму* [10].

Прозвішча *Тырха* (СА: *ТЫРХА. — *Тырха* [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **tirxe** *f*, -s — *праца, напру(д)жанне, натуга, фатыга, турбаванне, клопат; работа* [10].

Прозвішча *Хае́т* (СА: *ХАЕТ. — *Хае́т* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: **xajet** *m — кравец* [10].

Прозвішча *Хаза́н* (СА: *ХАЗАН. — *Хаза́н, Хаза́наў, Хазано́віч*. СРП *Хазан, Хазанов* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: **xazn** *m — хазан, сінагальны кантар* [10].

Прозвішча *Ханяк* (СА: *ХАНЯК. — *Ханяк* [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **xenek** *m — задушэнне (адна з чатырох караў за цяжкае злачынства)* [10].

Прозвішча *Хе́йдзер* (СА: *ХЕЙДЗЕР. — *Хе́йдзер* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: חֶדֶר ḥed̲er *‘унутранасць, пакой’*, які ў мове ідыш набыў форму **xejder** *m/n* і наступныя значэнні: *1. пакой; 2. хедар (габрэйская першапачатковая рэлігійная школа); 3. fig. мастацкая альбо рэлігійная школа палітычнага або духоўнага напрамку* [10].

Прозвішча *Хо́хам* (СА: *ХОХАМ. — *Хо́хам* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка, які прысутнічае ў тэкстах Танаха (як прыметнік) у форме חָכָם ḥāk̲ām і мае значэнне *‘мудры’* [11], які ў мове ідыш набыў форму **xoxem** *m* і наступныя значэнні: *мудрэц, разумны чалавек; вучоны* [10].

Прозвішча *Шаке́ль* (СА: *ШАКЕЛЬ. — *Шаке́ль*. Параўн. ШАКАЛЬ [2]) магло ўтварыцца ад першага слова *дабраславення, якім адзначаюць ўжыванне спіртных напояў*: **šakl=šehakl** *m*, -en [10].

Прозвішча *Шац* (СА: *ШАЦ. — *Шац; ?Ша́цкі*. СРП *Шацков, Шацкий* [2]) магло ўтварыцца ад назоўніка мовы ідыш: **šac** *m abr*. **šelíex-ciber** *m — прадстаўнік кагалу; чалавек, які моліцца на падмостках; хазан, сінагальны кантар* [10].

Прозвішча *Шмурэй* (СА: *ШМУРЭЙ. — *Шмурэй* [2]) магло ўтварыцца ад першай часткі выразу мовы ідыш: **šmúre(-mace)** *f — “захаваная маца” (маца робіцца з мукі, якая спецыяльным чынам захоўваецца ад вільгаці)* [10].

Прозвішча *Шыкер* (СА: *ШЫКЕР, *ШЫКІР. — *Шыкер, Шыкір, Шыкіраў* [2]) магло ўтварыцца ад габрэйскага назоўніка: שִׁכּוֹר šikkôr *‘п’янства: п’яны* як стан або *п’яніца’* [11], які ў мове ідыш набыў форму **šiker** *m* і наступныя значэнні: *п’яніца, п’янюга, выпівоха* [10].

Вялікая частка гэтых прозвішчаў ужо былі адзначаныя мною ў дакладах, прачытаных на Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Романовские чтения”. І вось што сказаў наконт іх мой добры знаёмец, рабін Ігаэл Ільвовіч Йегудзі:

*Паміж двума народамі існавалі шчыльныя стасункі на працягу стагоддзяў. Стасункі існавалі, па-першае, у працы, у розных галінах гаспадарчай дзейнасці: ці то*

*«мужык-беларус» дапамагаў габрэйскай сямейцы па гаспадарцы; ці то саматужнік «пан лапсердацкі» рабіў сваю кравецкую, шавецкую і г. д. справу па вёсках і мястэчках у беларусаў, альбо «абслугоўваў насельніцтва» ў карчме. Таксама завітваліся суседзі адзін да аднога на святы, вяселлі, пагулянкі. Сустракаліся ў лазні ды на кірмашы. Разам маглі «апракінуць шклянку» з такой ці іншай нагоды ў карчме, ці ў хаце, ці ля школы. Габрэйскі народ — дасціпны і гумарны, як мы бачым яшчэ ў шматлікіх іранічных выразах у кнігах Прарокаў і Пісанняў, пагатоў — у Талмудзе. Магчыма, гэтыя ж самыя якасці ў беларускім народзе таксама ў пэўнай меры стварыліся ад шчыльных спрадвечных стасункаў з габрэямі. Вядома, што розныя лаянкі, кепікі, праклёны – гэта менавіта тая частка мовы, на якую звяртаюць асаблівую ўвагу іншамоўныя суседзі і з ахвотай «бяруць на ўзбраенне», г. зн. пачынаюць ужываць у сваім уласным асяроддзі. Часцяком менавіта ў гэтым аспекце і трэба разглядаць магчымасць таго, як габрэйскае слова рабілася мянушкай, а потым — імёнамі, прозвішчамі беларусаў. Абсалютна адпаведна таму, як у габрэяў спрадвеку існуюць славянскія прозвішчы (таксама і імёны), гэтак і ў беларусаў:*

*«Машке, шегакейл, шыкер» — словы, звязаныя са злоўжываннем, ці проста ўжываннем “горкай кроплі”, пераходзілі з вуснаў у вусны па корчмах і кірмашах.*

*«Орлэ, гой, гойла» — «кампліменты» недарэчным іншаверцам пераходзілі ў жартоўны «арсенал» лаянак іх саміх, таксама, як і габрэі ўжывалі слоўцы «а пархатэр», «а жідлак»...*

*«Бітл, кліпэ, пігул, тырхе, хенек, місэ-мешунэ» — “кампліменты” гультаю ці «нячыстаму на руку».*

*«Бокі, бекіэс, хохем, маскіл» — маглі быць і сапраўднымі кампліментамі добраму работніку альбо гаспадару, а маглі быць жартоўнымі, альбо ператварыцца ў жартоўныя мянушкі ўжо сярод «сваіх».*

*«Гойлех, голес, дерех» – доля бедных падарожнікаў, спачуванне і жарты ад гэтакіх самых, але тых, што сядзяць на месцы, беднякоў.*

*«Хазн, сегал, хает, майтек, хейдер, шац» — імёны альбо пасады тых, у каго рабіў беларус, ператвараліся і ў ягоную ўласную мянушку.*

*«Рэгел, мосер, майсэ, койрэ, капорэ, кундэс» — усялякія ўласцівасці, фізічныя і маральныя, работнікаў альбо гаспадароў-беларусаў, атрымлівалі сваю іранічную “дэфініцыю” ў габрэя, часцяком менавіта на «святой мове», нібыта невядомай іншаверцам, якія, аднак жа, таксама добра ведалі альбо адчувалі сэнс распаўсюджаных старажытных габрэйскіх словаў...*

*«Бойдэк, шмурэ, кійер, кікер, судэ, безэ-галошн» — улюбёныя «слоўцы» габрэя-гаспадара альбо работніка пераходзілі ў гутарку гумарных беларусаў, і таксама рабіліся мянушкамі, якія давалі адзін аднаму.*

Дадаючы да сказанага І.І. Йегудзі, хачу адзначыць, што слова «хата» ў разгляданым кантэксце магло мець куды больш шырокае значэнне, чым тое, да якога мы прывыклі цяпер, фактычна з’яўляючыся сінонімам слову *гаспадарка*. «Хата» разам з будынкам для пражывання магла ўключаць у сябе і кавалак зямлі з палеткамі, садам і агародам, і хлявы, і пуню, і іншыя гаспадарчыя пабудовы, і лазню..., адным словам, усё тое, чым валодаў селянін-беларус і чаго амаль цалкам быў пазбаўлены жыхар горада або мястэчка – габрэй, які вымушаны быў зарабляць сабе на жыццё рамяством або працай на прадпрыемстве. Значыць, ва ўяўленні суседа-габрэя, «братка-беларус» быў не «пан сахі і касы», большую частку харчовага рацыёну якога складала раслінная ежа з высокім утрыманнем крухмалу, а сапраўдны «гаспадар хаты», па-габрэйску — «балебос», «балбос», «балбош», «болбас», «болбат», «болбач», «булабяс», «бульбач» і, нарэшце, «бульбаш».

Літаратура:

1. Бірыла М.В. Беларуская антрапанімія. Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966.

2. Бірыла М.В. Беларуская антрапанімія. 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 508 с. (АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа).

3. Ганжина И.М. Словарь современных русских фамилий. — М.: ООО «Издательство Астрель»: ООО «Фирма «Издательство АСТ», 2001. — 672 с.

4. Рогалев, А.Ф. Историческая антропонимия Гомеля и окрестностей/А.Ф. Рогалев. — Гомель: Барк, 2009. — 152 с.

5. Тупиков, Н.М. (1869 − 1900), Словарь древнерусских личных собственных имён/Н.М. Тупиков. — Москва: Русский путь, 2004. — IV, 890.

6. Віленкін, Л. Яўрэйскі лінгвістычны атлас Савецкага Саюза/Бел. Акад. навук, Яўр. сектар. — Мн., 1931. — XVI, 59 с., [75] л. карт.

7. Русско-белорусский словарь: В 3 т.: Около 110000 слов. Т. 1. А – Л/АН Беларуси, Ин-т языкознания им. Я. Коласа; 6-е изд., испр. — Мн.: БелЭн, 1995. — 735 с.

8. Русско-белорусский словарь: В 3 т.: Около 110000 слов. Т. 3. А — Л/АН Беларуси, Ин-т языкознания им. Я. Коласа; 6-е изд., испр. — Мн.: БелЭн, 1995. – 800 с.

9. М. Байкоў і С. Некрашэвіч. Беларуска-расійскій слоўнік. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. – Менск, 1925.

10. Астравух А. Ідыш-беларускі слоўнік. – Мінск: Медисонт, 2008.

11. Еврейско-русский и греческо-русский словарь-указатель на канонические книги Священного Писания (с комментариями на основе словарей Джеймса Стронга). БИБЛИЯ ДЛЯ ВСЕХ. – Санкт-Петербург, 2005.

кнігапіс

Леанід Галубовіч



...няма сумневу ў тым, што перамога будзе за здаровай дэмакратычнай Украінай...

# Быць пачутым

***Рэцэнзія на кнігу Уладзіміра Даніленкі***

***Уладзімір Даніленка. Клетка для івалгі. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 72). – 360 с.***

Цяперашнія літаратурныя сувязі з Украінай не параўнальныя з гадамі перабудовы і пачаткам суверэнізацыі, але, бадай, параўнальныя з савецкім часам, калі няхай і бюракратычна-афіцыёзна-планавыя повязі мелі даволі шырокую і аб'ёмную праграму (калі ўспомніць адны толькі ўзаемаабменныя дні літаратуры абедзвюх рэспублік), даволі частыя пераклады кніг і паасобных твораў, ну і немалую чытацкую аўдыторыю адпаведна...

Сам я добра памятаю асабістыя звязкі з украінскай літаратурай на самым пачатку 1980-х гадоў. Усё завязалася з ліставання з М. Пшанічным, М. Тымчуком і М. Львовіч... І гэта было не толькі ліставанне і абмен кнігамі, але і прыватныя сустрэчы, да прыкладу, да мяне, у глухую лясную вёску на Клеччыне, завірушнай зімовай ноччу нейкім чынам дабіраўся Пшанічны... Неўзабаве ў маёй хатняй бібліятэчцы, апроч




вершаваных зборнікаў упомненых вышэй аўтараў, пачалі з'яўляцца кніжкі В. Сыманенкі, В. Стуса, Л. Кастэнкі, П. Гірныка, С. Майданскай (іх паасобныя вершы я перакладаў, хоць і ніколі не выносіў на публіку), пасля ўжо блізка сутыкаўся з паэзіяй і прозай А. Ірванца, А. Андруховіча, А. Забужкі, С. Жадана ды іншых сучасных літаратараў...

Адным словам з творчым (найперш літаратурным) украінскім дысідэнцтвам я пазнаёміўся трыццаць гадоў таму. Сёння мы бачым, што тыя парасткі затоенага духоўнага супрацiву далі штуршок агульнанароднаму рэвалюцыйнаму нацыянальнаму ўздыму і мужнавалявому наступу на ўкаранелыя савецка-бальшавіцкія ідэалагічныя фарпосты ў суседняй і братняй нам краіне. Безумоўна, барацьба з расейскім імперскім шавінізмам яшчэ далёка не скончаная, але няма сумневу ў тым, што перамога будзе за здаровай дэмакратычнай Украінай.

Нядаўна давялося займець кніжку прозы вядомага пісьменніка Уладзіміра Даніленкі "Клетка для івалгі" ў перакладзе на беларускую мову. Прачытанне яе выклікала жаданне бліжэйшага знаёмства з жыццёвай і творчай біяграфіяй аўтара. Выявілася, што пісьменнік нарадзіўся на Жытоміршчыне напрыканцы 1950-х у сяле Туравец. Меў, як ён сам кажа, з дзяцінства здольнасці апавядальніка розных гісторый і ўжо з маладосці быў пэўны, што стане літаратарам. Сям'я, вёска, яе насельнікі ды акаляючая прырода і сталі правобразамі пераважнай большасці яго твораў. Пісьменнік змяняў імёны, твары, учынкі блізкіх і знаёмых людзей – рамантызаваў ці метафарызаваў іх у стылі барока альбо ствараў для іх экзістэнцыяльныя варункі і сітуацыі – аднак для чытача пакідаў памятлівыя душэўныя і духоўныя праявы іх характараў і натуральную адпрыродную сутнасць. Па вялікім рахунку яго творы пэўным чынам з'яўляюцца міфалагізаваным мастацкім летапісам свайго роду і рэгіянальнай гісторыяй ад мінуўшчыны да сённяшніх дзён.

Як ні дзіўна, але актыўна выдавацца У. Даніленка пачаў даволі позна, толькі ў 1997 годзе выйшла яго першая кніжка, праўда, ужо наўслед ёй у хуткім часе пабачылі свет з дзясятак ягоных выданняў, якія былі прыхільна ўспрынятыя і чытачамі і крытыкай, а паасобныя з твораў перакладаліся на нямецкую, італьянскую, японскую, славацкую, польскую, рускую і, неаднаразова, беларускую мовы, а сам пісьменнік быў уганараваны шмат якімі прэміямі...

Безумоўна, пішучы пра гэтую яго кнігу, выдадзеную ў Беларусі, найперш трэба прыпыніцца і прааналізаваць аднайменны раман "Клетка для івалгі". Гэты па-мастацку яркі і вылучны на фоне іншых твор варты асобнай гаворкі. Пачатак яго як бы нічога захапляльнага не прадвяшчае. Падлетак прыязджае ў Жытомір са свайго прыгараднага сяла, каб з'есці марозіва, суправаджаючы маці ў паходах па крамах і базарах. Зрэшты, ён і патрэбны толькі як сведка таго, чым маці займалася ў горадзе. А яна ў яго арыгінальная і, маючы талент спявачкі, бы паднебная птушка, пачынае спяваць, як толькі адчуе прыліў натхнення. Вось і ў Жытоміры яна раптам заспявала, ідучы па вуліцы, ды так, што яе дзіўны голас пачуў праз адчыненае вакно стары дысідэнт Мікалай Хамічэўскі, вядомы перакладчык Гамера і антычнай літаратуры. Ён кліча маці з падлеткам у хату і пачынае даводзіць і ўпэўніваць бібліятэкарку з Тураўца Аліну Іванюк, што яна мае неардынарны голас і вялікі грэх не даць яму праявіцца... Такая сюжэтная раманная закрутка. Просценькая як бы, аднак і яна ўжо інтрыгуе чытача, бо ён губляецца ў здагадках: ці то такія людзі былі насамрэч ці то ўсё-ткі гэта героі, прыдуманыя аўтарам. Скажу адразу, што такое адчуванне будзе суправаджаць

чытача цягам усяго рамана. Пісьменнік вельмі адмыслова закручвае сюжэт і так жыва падае чалавечыя характары, што яны набываюць рэчаісную сапраўднасць і разам з тым не страчваюць сваёй патаемнай аўтарскай вобразнасці...

Вось як сам аўтар напрыканцы рамана выспавядае ўласную задуму твора: *“Мой аповед – гэта ўспаміны пяцідзесяцігадовага мужчыны пра падзеі, якія адбыліся трыццаць пяць гадоў таму, у якіх шмат дробных дэталяў забылася, а тое, што захавалася ў памяці, успрымаецца ўжо не як драма, а як біяграфіі блізкіх мне людзей, якіх ужо няма на гэтым свеце. Усе нашыя ўзлёты і падзенні – гэта частка нас саміх. З часам мяняецца нашае стаўленне да няўдач і страчаных шанцаў. Калі б мы трымалі ў сабе горыч кожнай паразы, то даўно атруціліся б жыццём, але памяць мае здольнасць сціраць усё, што нас абцяжарвае і траўмуе. І гэтая ахоўная ўласцівасць памяці дапамагае скінуць пачварны горб няшчаснага мінулага, каб не цягнуць яго ў будучыню, таму што кожны чалавек усё ж заслугоўвае лепшых імгненняў”.*

Вяртаючыся да мастацкай карціны рамана, нельга не адзначыць, як пісьменнік па-майстэрску ўмела і трапна ўводзіць у кантэкст твора новых герояў і як, не баючыся творчай паразы, смела і жарстліва вымалёўвае ён іх вобразы і ўжо прызабытую панараму позняга савецкага часу. Хамічэўскі, захапіўшыся дарам вясковай спявачкі, жадае ёй дапамагчы выйсці на вялікую сцэну. Аднак для гэтага патрэбны рэпетытары і новыя знаёмствы. І вядома, што ў старога дысідэнта знаёмцы і таварышы таксама ў большасці сваёй іншадумцы. Так гераіня рамана патрапляе ў асяроддзе тагачаснай інтэлектуальнай житомірскай нацдэмаўшчыны... Усе яны, ад такіх трагічных арыгіналаў, як Гэнё Бакалец і Яўген Канцэвіч да паэта-сексота Аксена Вахабы, выпісаны адметна і запамінальна ва ўсіх сваіх характэрных праявах. Некаторыя героі (прадстаўнікі культуры і літаратуры ды людзі з запатрабаваным інтэлектам) маюць сваіх прататыпаў, сапраўдныя імёны, даты жыцця і смерці якіх падаюцца аўтарам у зносках... Аднак, як вядома, дысідэнцкае жыццё, нават будучы на волі, заўжды было пад прыглядам органаў. Хоць самі гэбісты паказаны даволі іранічна, а часам камічна і ў пераважнасці людзьмі недалёкімі і абмежаванымі. Што не перашкаджае ім па-іезуіцку знішчаць, прыкрываючыся тым ці іншымі збегам абставін, апанентаў бальшавіцкай дагніваючай улады. Сама Аліна Іванюк жыве з мужам-вайскоўцам, які служыць механікам у авіяцыйным палку. Ён па сваёй натуры чалавек тэхнічны і вынаходлівы, але так захоплены сваёй справай, што не звяртае асаблівай увагі ні на адоранасць жонкі, ні на выхаванне дзяцей. Ён не толькі служыць у вайсковай частцы, дзе абслугоўвае самалёты, але і рамантуе тэхніку ўсяму каманднаму складу гарнізона – даводзіць да спраўнасці тэлевізары, кухонныя камбайны, аўтамашыны...

Ён абыякава ставіцца да жончыных фанабэрый, як успамінае Уладзік: *“У стройных шэрагах бацькавай логікі круціліся шківы і рытмічна стукалі цыліндры, рухалі трансмісіі яго тэхнічных ідэй, але там не заставалася месца для мамчыных фантазій і яе голасу”.*

Жыццё ў ваенным гарадку інтэрнацыянальнае. Спакойнае, міралюбнае, таварысцкае, шмат частых гасцяванняў і сумесных гулянак... Ды ўсё тое канчаецца вельмі раптоўна – як толькі гэбэшнікі засвечваюць Аліну ў стане дысідэнтаў, ворагаў улады, і даюць своеасаблівую каманду “фас”. І тады імгненна рассыпаецца таварыства, сяброўства, давер і інтэрнацыянальная спаянасць. Адразу рэзка пераменьваецца і праяўляецца імперскі характар рускіх людзей... хіба апроч аднаго чалавека, лётчыка Максіма Корсака, які выратоўвае Аліну ад бандыцкага гвалту паблізу танцавальнай пляцоўкі ў житомірскім парку. Тэма кахання Аліны і адзінага адшчапенца з усёй гарнізоннай кампаніі зведзена да мінімалізму, але па-над драматызмам іх неафішаваных адносін у творы пастаянна гучыць тонкая знітаванасць чалавечай прыроды з усім акаляючым яе Боскім Тварэннем. Корсак неўзабаве здзяйсняе адчайны грамадзянскі акт, пераляцеўшы на ваенным самалёце ў Еўропу, атрымлівае

там палітычны прытулак і пераязджае на пастаяннае жыхарства ў ЗША. Але і там яго дастаюць служкі карных савецкіх органаў. Ён гіне ў адмыслова падробленай аўтакатастрофе... Аліна ўнутрана і на псіхалагічным узроўні адчуўшы яго гібель, таксама страчвае сваю асобасць – голас, а разам з ім і прагу да жыцця...

Але ж які быў яе шлях да вялікай сцэны? Ды не сказаць, каб надта цярністым, бо талент, як кажуць, сам гаварыў за сябе. Голас яе, як дух (бо дар жа быў Божы), лунаў па-над усім створаным у рамане: *"Мне падалося, што яна ў гэты часператварылася ў звар'яцелага салаўя, які так азартна спявае, што не можа спыніцца. Яе голас выцёхкваў, пераліваўся, узлятаў угору, падаў, і, як у клетцы, біўся ў сталінцы Адэліны Цыбульскай, напаўняў кожны закутак, выпырхнуў на Тэатральную і растварыўся ў нябеснай вышыні, а потым сарваўся з нябёсаў, упаў на зямлю, цёхнуў і замоўк"*. Пісьменнік не баіцца гіпербалізацыі, празмерных эпітэтаў і напышлівай метафорыкі. Ён пяе прыўласненым мастацкім словам разам са сваёй гераіняй – дзівіць, зачароўвае і захоплівае сваёй паліфоніяй чытача. Ёсць месцы ў рамане, дзе чытач патрапляе пад гіпноз аўтарскай лінгвістыкі і яму нічога іншага не застаецца, як застыць і рабалепна слухаць слоўны салаўіны спеў аўтарскага краснага пісьменства: *"Усё поле, уся прастора былі тваёй сцэнай, а голас ветру – галасамі скрыпак, віяланчэляў, басэтляў, а голас грому – літаўрамі, бубнамі, званамі, барабанамі, ксілафонамі, кастаньетамі, тамтамамі, а шум дажджу – трамбітамі, флейтамі, кларнетамі, фаготамі, габоямі, валторнамі, трамбонамі, альтамі, тубамі, кларнетамі, трубамі, а кроплі дажджу аб дажджавік старога Аўрама – чэлестамі, арфамі, раялямі, а Гасподзь быў дырыжорам. Ты так спявала, так палка ты спявала, аж стары Аўрам Першка схаваўся, як курапатка ў траве, і баяўся, каб ты яго не ўбачыла, бо думаў, што з цябе вырвецца маланка і спаліць яго на галавешку. (...) Ты стаяла пасярод прытоенага поля, здзіўленага пранізлівай цішынёй, што была красамоўнейшай за выбух авацый у Ла Скала або Метрапалітэн-оперы"*.

Бадай, трохі дзіўна, фантастычна, а месцамі нават міфічна выглядаюць тыя карціны рамана, найперш рамантычныя і драматычныя, дзе адбываюцца неверагодныя дзеі, апісаныя непамыснымі фарбамі і выяўленыя ў фантасмагарычных ды інтрыгоўных вобразах, як, скажам, у "Паядынку сірэн", калі непераўзыдзеная латышская оперная прыма Аніта Азоліня і па сутнасці народная спявачка з жытоміршчыны Аліна Іванюк спаборнічаюць непераўзыдзенымі галасамі на досвітку ў саборы Святога Пятра ў Рызе...

Зрэшты, як кажа сама Іванюк Гэню Бакальцу: *"Калі чалавеку дадзена спяваць, маляваць або пісаць, то ён павінен рабіць гэта, каб не звар'яцець і памерці. Закладзены ад прыроды творчы інстынкт прымушае чалавека яго развіваць, каб быць у гармоніі з сабой і светам. У жывёлаў гэтага інстынкту няма. Птушкі спяваюць у шлюбны перыяд ці каб вызначыць спевам сваю тэрыторыю або падаць сігнал трывогі. Чалавек спявае, каб вярнуць свету гармонію, якая была калісьці ім страчаная"*.

Аднак жа пасля выклікаў у органы дзяржбяспекі, пасля дзіўнай гібелі некаторых дысідэнтаў, пасля імперскасці і адчужэння з былым гарнізонным інтэрнацыяналам, пафігізмам мужа і крытычных стаўленняў дачкі, яна ўсё ж пачынае плысці па волі лёсу (Бога) – вяртаецца да сваёй Прыроды і на сваю туравецкую прыроду, дзе яна можа па-сапраўднаму выпусціць свой голас на волю, каб яго мог пачуць той, каму ён патрэбны, каго ён цешыць і суцяшае ў гэтым неадназначным драматычным зямным жыцці...

Стары дысідэнт і перакладчык Гамера так тлумачыць хаду гістарычных дзей падлетку Уладзіку, сыну Аліны: *"Войны за мінулае і будучыню ніколі не спыняцца. Ты яшчэ заспееш час, калі ў нас будзе свая краіна, але ніколі не спыняцца войны за людскія галовы і сэрцы. Іх будуць развязваць нашчадкі тых, хто схаваў мяне за краты і забіў Гэню.*

*– Але чаму, чаму так адбываецца? – зазірнуў я ў яго маршчыністы твар, падобны на твар рымскага сенатара.*

*– Імперыі заўсёды трымаліся на хлусні і жорсткасці. А кожная нацыянальная гісторыя цесна пераплецена з прыватнымі гісторыямі. Бацьку Валянціна Маланчука забілі хлопцы з УПА, і ў Маскве лічылі, што, прызначаючы яго сакратаром па ідэалогіі, яны будуць мець ва Украіне свайго новага Ярэму Вішнявецкага. Магчыма, калі б ідэолагам у Кіеве быў не Маланчук, Гэнё сядзеў бы з намі за адным сталом, а твая маці ў гэтым годзе паехала б у кансерваторыю".*

Падвышаюць градус неаслабнай чытацкай увагі і роздуму і тыя, можна сказаць, самастойныя раздзелы рамана, якія маглі б быць і паасобнымі творамі, дзе аўтар звяртаецца да рэтраспекцыі і вяртае нас успамінамі Хамічэўскага, які адбываў лагерны тэрмін, да трагічных падзей сталінскіх трыццатых гадоў. Рэч пра цынізм і антычалавечнасць НКУСаўцаў нават у пытаннях інтымнага парадку. Скажам, раздзел "Муштук Ягоды". Сталінскі міністр НКУС хоча стварыць сістэму канцлагероў і прыцягнуць да гэтага вядомага псіхолага Камарніцкага, якому, намагаючыся пераканаць таго ў сваіх езуіцкіх ідэях, кажа: *"Уявіце мільёны палітычных і крымінальных катаржнікаў, якія ловяць рыбу, здабываюць руду, нарыхтоўваюць лес, будуюць жалезныя дарогі, каналы. Чаму большасць насельніцтва павінна жыць у еўрапейскай частцы краіны? Мы арыштуем дваццаць, трыццаць, пяцьдзесят, семдзесят мільёнаў чалавек, сарвём з наседжаных месцаў, пасадзім у эшалоны і – у Сібір. Кожная новабудоўля будзе новым канцлагерам, у якім вязні – будаўнікі, а начальнік лагера – прараб. Пра гэта не мог нават уявіць ні адзін фантаст, а мы зробім гэта з дапамогай сістэмы канцлагераў, якой не мае ніводная краіна свету. Што вы на гэта скажаце?*

*– Катаржная праца – малаэфектыўная, – асцярожна паставіў шклянку на стол прафесар.*

*– Чаму вы так лічыце? – падняўся з-за стала Ягода.*

*– Гэта даказаны гістарычны факт, – адказаў прафесар. – Рымская імперыя развалілася праз крызіс рабства.*

*Ягода падышоў да стала, спыніўся над прафесарам Камарніцкім і ўважліва разглядаў яго зверху ўніз, нібы ён быў лічынкай молі".*

Пасля чаго прафесар неўзабаве быў адпраўлены па этапу. Паказваючы сваю жывёльную сутнасць, Ягода загадвае з косткі рукі забітай ім літоўскай дзяўчыны, якую так і не змусіў стаць палюбоўніцай, вырабіць муштук...

Устаўлены ў раман і расповед пра закаханасць начальніка лагера Ларыёна Пугаўкіна да Ганны Тэмей, жарстлівыя любоўныя лісты да якой ён змушае пісаць зняволенага Пятруся Хаджыя, з разлікам, што дзяўчына з украінскага месца Ворзель прыедзе на Калыму. Яна і напраўду прыехала, спакусіўшыся такімі адмыслова напісанымі лістамі... і там жа знайшла смерць разам з Хаджыям, у якім распазнала аўтара лістоў...

Падобным чынам забівалі амаль усіх творчых таленавітых людзей, якія не пагаджаліся з ідэямі бальшавізма і не хвалілі сваіх поглядаў. Аднак нельга казаць, што выбітны і майстравіты пісьменнік пакідае свайго чытача ў такім адчайным расчараванні. *"У гісторыі не бывае дробязяў. Кожны амаральны ўчынак можа стаць некалі фатальным для вёскі, горада ці краіны. Гэтая краіна рухаецца ў прорву, калі знішчае такіх, як вы, Аліна. Кожнае зламанае чалавечае жыццё, знішчаны талент точыць непахісныя сцены турмы, пакуль яны не разваляцца"*, – кажа Яўген Канцэвіч. А Мікалай Хамічэўскі дадае, звяртаючыся ўжо да яе сына-падлетка: *"Вось нашая параза, Уладзік, апраўдае сябе, калі ты пра гэта калі-небудзь напішаш. Ёсць розныя паразы: параза для трыумфу моцнага над слабым, таленавітага над бесталанным, больш падрыхтаванага над менш падрыхтаваным, параза для рэваншу, калі чалавека зневажаюць, каб гэтае прыніжэнне дало яму сілу для перамогі. І ёсць параза для*

*чалавека, які дасягнуў недасягальнага ўзроўню майстэрства, і яму ўжо няма з кім у гэтым свеце спаборнічаць. Тады яго неба забірае да сябе або вяртае да прыроды, каб гэты чалавек зноў стаў голасам ветру або крыкам чаек".*

Яшчэ ў кніжцы "Клетка для івалгі" змешчана аповесць і пяць выбітных арыгінальных апавяданняў Уладзіміра Даніленкі. Чытэльную і завабную аповесць "Цені ў маёнтку Тарноўскіх", на першы погляд, прымітыўна-праставатую, як самі чалавечыя інстынкты, але і прыцягальную ўнутранай загадкавай метафарычнай жарсцю, за якой, бы начная жаночая бялізна, зазыўна мільгаецца код нацыянальнага і фізічнага выраку чалавека. Тэкст з сексуальнай і эратычнай падкладкай і нетрадыцыйнымі метадамі псіхатэрапіі, як кажуць, для вельмі шырокай публікі. Трохі аўтарскага тэксту дзеля рэкламы: *"– Каханне – гэта і ёсць самая разбуральная катастрофа, пасля якой людзі губляюць працу, канчаюць жыццё самагубствам ці трапляюць у вар'ятню, – паправіў зморшчыны халата Мендэль. – Вы блытаеце каханне з любоўю і не выкарыстоўваеце перавагі, якія дае вам ваша мова. Бо не ўсе мовы гэта адрозніваюць. У рускай мове "любіць сям'ю", "любіць жанчыну" і "любіць гарэлку" пазначана адным словам. Ужо польскую мову адрознівае "miłość" як любоў у яе глыбокім сэнсе і "kohanne" як палавы юр. Украінскае слова "каханка" больш адпавядае свайму значэнню, чым рускае – "любовница". Каханне праходзіць, як алкагольнае ап'яненне, а любоў – гэта тое, што застаецца. Каханне немагчыма без ап'янення, таму ў старажытных грэкаў яно было звязана з дыянісійскім культам. А калі пасля ап'янення прыходзіць цвярозасць і застаеццца нешта, і гэтае нешта набывае іншыя формы, то гэта ўжо любоў".*

Апавяданні Уладзіміра Даніленкі вылучаюцца нечаканай фактурай і жывым сюжэтным дзействам. Тут сутнасная зямная прырода – жывая і неадушаўлёная – прагне гармоніі з чалавекам. Духоўнае жыццё імкнецца да раўнацэннасці з жыццём фізічным... На жаль, як і паўсюль, не толькі ў гэтай кнізе, але і наяве, такая мастацкая і творчая пажада церпіць паразу. Праўда, не канчатковую, а тую, што пакідае чалавецтву спадзеў на новыя вымогі да абсалютнага ідэалу і боскай дасканаласці... Асабліва займаюць чытацкае ўспрыманне такія тэксты, як "Заяц" і "Грыб", напісаныя, кажучы словамі М. Гумілёва, "шостым пачуццём"... Падводзячы рысу пад вышэй напісаным, скажу, што ўкраінскі пісьменнік Уладзімір Даніленка дужа таленавіты і выбітны майстра мастацкага слова. Хацелася б прывесці некалькі яго выказванняў на актуальныя сёння не толькі для ўкраінскіх чытачоў праблемы, якія ён выказаў у адным з нядаўніх сваіх інтэрв'ю на радзіме:

*"Пісьменнік павінен быць духоўнікам, псіхааналітыкам, інтэлектуалам, эстэтам, але не палітыкам. Пісьменнік ідзе ў палітыку, калі яму ўжо няма што казаць у літаратуры".* І ў той жа час па-грамадзянску смела і адкрыта ён выказваецца пра сваё бачанне нацыянальнай будучы сваёй Бацькаўшчыны: *"Я скептычна стаўлюся да сённяшняга трэнду "Єдина країна – Единая страна". Загульванне з рускай моваю ва Украіне не супыніць сепаратызму і заалагічнай украінафобіі. Для чаго цягнуць у сучаснасць маларасейства і каланіяльныя комплексы? Каб Пуцін і яго пераемнікі ратавалі расейскамоўных украінцаў наступнымі акупацыямі? Украінская мова – гарант беспаваротнасці да каланіяльнага мінулага. Сама яна стане мяжою, што аддаліць украінскі свет ад дэспатычнага, прыніжальнага, крывавага мінулага".*

Безумоўна, што пісьменнік Уладзімір Даніленка – творца нацыянальна заангажаваны, філалагічна глыбокі і псіхалагічна тонкі як лірык, з выпукла-адметным інтэлектам, з набытай праз немалы жыццёвы вопыт высокай духоўнай культурай... ну і, вядома, у гэтым канкрэтным выпадку, з прыкупам адчувальнага майстэрства беларускіх перакладчыкаў (Б. Пятровіча і В. Стралко), бо перанесці такія высокамастацкія каларытныя гамы ўкраінскага літаратурнага голасу на беларускую партытуру – праца, вартая чытацкай павагі і ўдзячнасці.

дзеяпіс

# Пра тое, што люблю

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Гарбузік. Цуды свету: літаратурна-забаўляльны дзіцячы альманах. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»). – 30 с.**

Пабачыў свет другі выпуск дзіцячага альманаха «Гарбузік». Першы выпуск альманаха выйшаў летась і стаўся папулярным, сярод іншага, дзякуючы кардоннаму замку, які можна было склеіць уласнаручна. Сёлета “фішкай” нумару сталася гульня-“хадзілка”, гэтак распаўсюджаная сёння ў дзіцячых часопісах і аднак не дужа папулярная ў беларускіх выданнях для дзяцей. Тэма “хадзілкі”, намаляванай Дзмітрыем Шылам, адпавядае агульнай задуме выпуску – “цудам свету”. Але рэдакцыя альманаха на агульнавядомых спісах цудаў не спынілася: ёсць жа і ў Беларусі свае дзівосы!

Хіба Крыж Еўфрасінні Полацкай для беларусаў менш важны за піраміду Хеопса? Ды і архітэктурай адной рэдкалегія таксама задаволіцца не магла. Гэткімі ж цікавымі для чытачоў тэмамі ёсць, напрыклад, звяры і птушкі, міфалагічныя істоты. Яны ж для ўсяго свету агульныя: дзе ёсць дамавік, там знойдзецца месца і для гномаў з іх застольнай песняй аўтарства Джона Толкіна (і ў перакладзе Андрэя Хадановіча). Дзе маюцца Асілкі і Жар-птушкі, там з’явіцца і зусім нястрашная Лахнэска (створаная пісьменніцай Аленай Масла і мастачкай Вольгай Раманюк).

Як гэта й павялося, альманах выйшаў разнапланавы паводле жанраў, рубрык, характару афармлення. Для выпуску было задзейнічана некалькі дзясяткаў творцаў, у тым ліку і малых чытачоў і чытачак з іх уласнымі літаратурнымі творамі і малюнкамі.




**Альжбета Кеда. Пра тое, што люблю. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 74). – 296 с.**

Кніга Альжбеты Кеды “Пра тое, што люблю” — гэта такі пышны букет (параўнанне якраз у духу кнігі і яе аўтаркі), у якім і прыгожыя ружы, і бойкія настуркі, і крохкія архідэі, і ўчэпісты пырнік паўсядзённасці. Шматтэмнасць, карагод імёнаў, лічбаў, падзей, зменлівасць самога апавядальніка (аўтарка паўстае ў розных узростах — ад дзяўчынкі да сталай жанчыны) — такая стракатасць у змесце магла б кепска адбіцца на кнізе, рассыпаць яе на часткі, між сабой не звязаныя. Пазбегнуць гэтага дапамагае якраз матыў любові, заяўлены ад пачатку. Піша Альжбета Кеда пра найдаражэйшае, што ўкладаецца ў класічны трохкутнік: сям’я — справа жыцця — радзіма.

**Сяргей Рублеўскі. Мамін шэпт пад абразамі. – Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2016. – 240 с.**




Аўтар вызначыў сваё новае выданне як кнігу-паклон. Большасць твораў, сабраных пад яе вокладкай, асветленыя імем маці, напісаны з удзячнасцю за дабрыню і ласку, незабыўныя ўрокі жыцця. І асабліва, як адзначаецца ў прадмове, – «за адкрыццё спеўнага вытоку роднай мовы». У адным з раздзелаў кнігі – вытрымкі з лістоў маці, напісаных на сумежжы мінулага і цяперашняга стагоддзяў. Гэта своеасаблівы дзённік пары ўзрушальных сацыяльных перамен, занатаваны простай вясковай жанчынай. Пісьменнік перакананы, што «ўсе маці ў сваіх светлых, азораных любоўю памкненнях падобныя адна на адну, і кожная – трошкі на Божую Маці. Сваімі малітвамі аб дзетках яны зацята імкнуцца надтачыць Яе атуляльны ад прыкрасцяў свету покрыў».

**Барыс Сачанка. Пад сузор'ем сярпа і молата. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 77). – 548 с.**




Кніга змяшчае тэксты, напісаныя Барысам Сачанкам у апошнія гады жыцця. Адкрывае зборнік аўтабіяграфічная аповесць "Засталіся толькі ўспаміны..." – пра ваеннае дзяцінства ў вёсцы Вялікі Бор, паўсядзённае жыццё на акупаванай тэрыторыі, а пасля спаленне вёскі і высылку насельніцтва на працы ў Германію. Гэта, зрэшты, і адзіны дастаткова аб'ёмны тэкст у зборніку. Асноўная частка кнігі – мемуарныя нататкі і літаратурныя запісы з часоў працы Барыса Сачанкі ў рэдакцыі часопіса "Полымя" (1960-1976), узгадкі пра выдатных пісьменнікаў і цяжкі ход рэбілітацыі рэпрэсаваных, які распачаўся пасля XX з'езду КПСС і выкрыцця культу асобы Сталіна.

Артыкулы, эсэ, дзённікавыя запісы, мініяцюры Барыса Сачанкі, сабраныя ў кнізе, друкаваліся ў часопісах "Крыніца", "Полымя", штотыднёвіку "ЛіМ". На той бурлівы час пачатку 1990-х яны былі надзвычай прыкметныя, бо змяшчалі невядомыя факты з беларускай гісторыі, у тым ліку і перш за ўсё – гісторыі беларускай літаратуры. З упэўненасцю можна сказаць, што гэтыя факты і цяпер недастаткова засвоеныя і ўсім даступныя. Архівы сталінскага тэрору зноў надоўга зачыніліся, эміграцыйная літаратура па-ранейшаму не выдаецца дзяржавай, а таму чытанне апошняй, насычанай фактамі, кнігі Барыса Сачанкі прынясе немалую асалоду і даследчыку-літаратуразнаўцу, і гісторыку, і ўрэшце кожнаму хто цікавіцца літаратурай.

**Людка Сільнова. Горад Мілаград. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 71). – 312 с.**




Вершы з новай кнігі Людкі Сільновай прысвечаны ўзаемаадносінам чалавека і цывілізацыі, з аднаго боку, і чалавека і прыроды, з іншага. Свет трансфармуецца. Ці застаецца ў ім досыць вольнага месца для шчырасці, кахання, сяброўства, чалавечай годнасці і пачуцця бяспекі? Разам з героямі, якія паўстаюць часам нават з сівой даўніны і легенд, аўтарка даследуе ролю асобнага чалавека ў жыцці сучаснага вялікага горада і інфармацыйнага грамадства. На дапамогу ёй прыходзяць здабыткі сучаснай навукі, музыка і ўласная "тэхніка дэтэктыўнага пісьма". Кніга прызначана сучаснаму, найперш гарадскому, чытачу з добрай адукацыяй і жаданнем прыстасавацца да хуткаплыннага жыцця ў мега-гарадах будучыні.

# Нашыя аўтары

**Бабкоў Ігар** — паэт, празаік, філосаф. Аўтар кніг «Solus Rex», «Герой вайны за празрыстасьць», «Адам Клакоцкі і ягоныя цені», «Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб», «Хвілінка» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій «Гліняны Вялес» (1993), імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Васючэнка Пятро** – празаік, драматург, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг «Драматургія і час», «Белы мурашнік», «Прыгоды аднаго губашлёпа», «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі», «Драматургічная спадчына Янкі Купалы: Вопыт сучаснага прачытання», «Піраміда Ліннея» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2003) Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Галавіна Ганна** – паэтка. Працуе перакладчыкам і спецыялістам па маркетынгу. Друкавалася ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», газеце «Знамя юности» і інш. Нарадзілася ў 1981 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Голуб Юрка** — паэт, журналіст. Аўтар кніг паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра сябе» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горны на Зэльвеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1993). Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубавец Сяргей** — празаік, крытык, публіцыст, выдавец. Аўтар кніг «Практыкаванні», «Дзённік прыватнага чалавека», «Русская книга», «Вострая Брама», «Вершы», «Як?», «Сіні карабель у блакітным моры плыве» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мазыры. Жыве ў Мінску.

**Ейтс Уільям Батлер** (1865-1939) – ірландскі паэт, драматург, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1923 года. Спалучыў паэтыку еўрапейскага мадэрнізму з ірландскай традыцыяй. У позніх п'есах адчуваюцца моцныя ўплывы эзатэрычнай традыцыі: сярэднявечных хрысціянскіх містэрый, японскага тэатра Но і алхімічных практык.

**Каленчыкава (Русаковіч) Ніна** – крытык, літаратуразнаўца, эсэіст. Аўтарка кніг пра А. Пушкіна, С. Ясеніна, фальклорнаэтнаграфічны ансамбль «Неруш» пры БДУ. Лаўрэат Міжнароднай Пушкінскай прэміі (2004). Нарадзілася ў 1946 годзе ў вёсцы Жукі Капыльскага раёна Мінскай вобласці.

**Комар Ганна** – паэтка, перакладчыца. Выступала з вершамі і перакладамі на некалькіх паэтычных чытаннях, у тым ліку «Вершы на асфальце». Нарадзілася ў 1989 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

**Корань Вадзім** – філолаг. Скончыў факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка, аспірантуру пры Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Асноўная сфера інтарэсаў – літаратура Беларусі XVII – XVIII стст. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кустава Валерыя** – паэтка. Аўтарка кніг «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэат прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» (2009), пераможца літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Р.Барадуліна (2015). Стыпендыят міжнародных цэнтраў пісьменнікаў і перакладчыкаў у Швецыі, Нямеччыне, Латвіі, фіналіст літаратурнага фестывалю «Vilenica» ў Славеніі. Пераможца конкурсаў журналістыкі «Твой стыль» і «Вольнае слова». Нарадзілася ў Менску, дзе і жыве.

**Лесьмян Баляслаў** — польскі паэт. Сябра Польскай акадэміі літаратуры, аўтар зборнікаў вершаў «Луг», «Цяністы напой», «Лясная дзея» і інш. Сярод творчай спадчыны Лесьмяна ёсць і «Польскія паданні», і «Прыгоды Сіндбада Марахода», і эсэ, і літаратурныя нарысы. Але перш за ўсё ён – паэт, магчыма, самы любімы і шанаваны

палякамі паэт першай паловы XX ст. Нарадзіўся ў 1877 годзе ў Варшаве, дзе і памёр у 1937 годзе.

**Масла Алена** — празаік, крытык, журналіст. Аўтар кніг «Рождество у крестной», «Таямніца закінутай хаты», «Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала», «Пацучок Фэлік падарожнічае» і інш. Нарадзілася ў 1967 годзе ў вёсцы Мілашова на Мёршчыне. Жыве ў Мінску.

**Мацкевіч Ірына** – паэтка, матэматык, выкладчык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, навуковец у галіне методыкі выкладання матэматыкі. Аўтар 12 падручнікаў па матэматыцы і кнігі паэзіі «Чатыры стыхіі». Нарадзілася ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

**Наўроцкі Алесь** – паэт. Аўтар кніг вершаў «Неба ўсміхаецца маланкаю», «Гарачы снег», «Пакаленні і папялішчы», зборніка апавяданняў «Валун». У 1978 годзе, пратэстуючы супраць прымянення псіхіятрыі ў палітычных мэтах, выйшаў з Саюза пісьменнікаў. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Давыдаўка на Светлагоршчыне. Памёр у 2012 годзе.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Пятровіч Сяргей** – даследчык Бібліі і біблійнай анамастыкі. Працы на багаслоўскую тэму друкаваліся ў «Родным слове» і «Дзеяслове». Нарадзіўся ў Барысаве ў 1969 годзе, дзе і жыве.

**Рагойша Вячаслаў** — крытык, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша», «Пераклаў Якуб Колас...», «Карані дружбы», «Гутаркі пра верш», «Кантакты» і інш. Аўтар звыш 800 навуковых публікацый і даследаванняў па гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, вершазнаўстве, праблемах тэорыі і практыкі мастацкага перакладу, паэтыцы літаратурнага твора. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў Ракаве на Валожыншчыне. Жыве ў Мінску.

**Сцяпан Уладзімір** — празаік, паэт, мастак. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сыс Сяржук** — паэт, журналіст. Аўтар кніг вершаў «Стрэмка» і «Павук». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2008). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове», «1939 год і Беларусь: забытая вайна». Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Харытанюк Наталка** – празаік, перакладчыца. Аўтарка кніг «Трынаццаць гісторый пра мёртвага ката» і «Смерць лесбіянкі», лаўрэатка прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча (2011). Цяпер працуе над кнігай перакладаў позніх п'ес У.Б.Ейтса. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Берасці. Жыве ў Мінску.

**Шчур Макс** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Спадарыня Адзіноцтва», «Амфітэатар», «Ранні збор», «Амальгама», «Ліст, знойдзены на папялішчы» і інш. Перакладае з чэшскай, іспанскай і ангельскай моваў. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Берасці. Жыве ў Празе.

**Юрэвіч Лявон** – літаратуразнаўца, крытык, бібліёграф, архівіст. Працуе архівістам у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Аўтар кніг «Камэнтары», «Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускай моладзі», «Літаратурны рух на эміірацыі», «Шматгалосы эпісталярыюм» і інш. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Нью-Ёрку.

**Янкута Ганна** – перакладчыца. Лаўрэатка конкурсаў маладых літаратараў імя Карласа Шэрмана (2009), Чэслава Мілаша (2011), «Экслібрыс» (2012). Перакладае з ангельскай, польскай, афрыкаанс, нідэрландскай. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.